Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве

В. ЛАСТОЎСКІ

ПАДРУЧНЫ

# РАСІЙСКА-КРЫЎСКІ (БЕЛАРУСКІ)

# СЛОЎНІК

▼

КОЎНА 1924.

Друкарня А. Бака, Коўна, вул. Ожэшко 5. Тэл. 970.

# ПРАДМОВА.

Слова, гэта ня умоўны знак для выражэньня мысьлі, але мастацкі абраз, вызваны найжывейшымі пачуваньнямі, якія прырода і жыцьцё выклікалі ў первабытным чалавеку. Яно знаходзіца ў цесным зьвязку з народным бытам, яго сьветаглядам, гісторыяй, звычаямі і абычаямі, а дзеля гэтага мова ёсьць вялікай нацыянальнай легендай іскарбніцай, сьвятой спадчынай, каторая пераходзіць з пакаленьня ў пакаленьне, з дзядоў, на ўнукаў. Ўвесь сьветагляд і паэзія нашых прадзедаў замыкаліся ў мове. Кождае слова было легендай-пагудкай, мітам; было поўнае зьместу і паэзіі: бо міт асновываўся на легендзе, а легенда замыкалася ў слове. Слова ёсьць творчасьцю ўсяго народу; формы слова шліфаваліся многімі пакаленьнямі і сталецьцямі, пакуль сталіся тым, чым яны сягоньня ёсьць.

Гэтую цэльнасьць і гармонію народнага слова нарушыла чужая граматнасьць і чужыя панаваньні над народам. Прычым граматнасьць наагул ўжывае слова толькі як знадабьбя для перадачы мысьлі, злашча прыйшоўшая да нас хрысьціянская граматнасьць, якая сьвядома старалася зацерці зьмест народных слоў чужымі словамі, запазычанымі ад другіх народаў, для выражэньня новых хрысціянскіх паняцьцяў, або словамі, перакладзенымі з чужых моў, ўложаныя ў якія паняцьці ня мелі ўжо нічога супольнага з народным сьветаглядам.

Мовай хрысьціянскай царквы і граматнасьці сталася ў нас мова баўгарская. Гэта было выгодна

для духавенства, якое старалася зацерці ўсякую памяць ў народзе аб яго даўным да хрысьціянскім жыцьці, аб яго папярэднім „паганскім“, знача нячыстым, сьветаглядзе. А гэты „нячысты“ сьветагляд прабіваўся з кождага слова народнага, згэтуль той разьдзел паміж мовай народнай і кніжнай.

Дзяржаўная ўлада і цэрква з яе „сьвятой“ граматнасьцю ішлі рука ў руку, ўзаемна падпіраючыся.

Узгадаванае на візантыйскім дэспотызме хрысьціянства акружала пануючых блескам; пануючыя, наўзаем, акружалі духавенства дабрабытам. Чужая народу мова царквы сталася мовай і ўраду. І толькі, калі ў саміх пануючых клясах была ўтрачана зьвязь мовы са старымі „нячыстымі“ традыцыямі, пачынае народны элемэнт пранікаць ў кнігу, якая ў першых пачатках была толькі рэлігійнага зьместу. Вось чым тлумачыцца той страшэнны консэрватызм царквы і сьляпое трыманьнеся ею чужой мовы. Але ў даўныя часы гэты консэрватызм меў прынамні апраўданьне ў боязьні, што народ можа зьвярнуцца да старых паняцьцяў, цяперашні-ж, пад гэтым узглядам консэрватызм царквы, гаворыць толькі адно, што яна зьяўляецца слугой адзіна сільных гэтага сьвету.

Гэткім чынам мова граматнасьці, ў самых першых пачатках, сарвала ў нас лучнасьць з мовай народнай. Тысячалетняе панаваньне царкоўнай славяншчыны, вытваранай на грунце баўгарскай мовы і прасычанай візантыйскімі паняцьцямі, палажыла глыбокі сьлед. Яна, асобную мову крыўскага племя, зблізіла з мовамі іншых усходна-славянскіх плямён. Асымілятарскі тысячалетні ўплыў баўгаршчыны значна аддаліў нашу мову ад яе першапачатковых форм і занячысьціў нескладнымі, чужымі духу і традыціям нашага народу, словамі:

Другім, чародным, наслаеньнем у нашай мове ёсьць ўплывы гоцка-нямецкія, якія прыйшлі да нас яшчэ ў дахрысьціянскія часы, шляхам заваяваньняў славянскіх плямён Варагамі. Арганізаваная імі дзяржаўная гоцкая ўлада накінула народу шмат чаго з вайсковай і дзяржаўна-кіравецкай тэрміналёгіі (полк-folk, княз—könig і г. д.). У пазьнейшыя часы ішлі нямецкія словы да нас праз таргоўцаў —немцаў, якія вялі таргоўлю па Дзьвіне, Дняпру і Прыпяці. Праз Польшу ішлі словы чэскія, лацінскія, а пазьней француzкія. Праз Масковію пранікалі татарскія, фінскія і нова-нямецкія словы.

Наша гістарычная літэратурная мова, на якой пісаліся кнігі і дакуманты XV-XVII ст. ст., зьяўляючыся запраўды мовай тэй, якой гаварылі нашы вышэйшыя клясы, носіць на сабе азнакі ўсіх гэтых ўплываў, памяшаных з мовай народнай. Жыла яна датуль, пакуль істнавала ў нас свая інтэлігенцкая кляса, але калі наша баярства і арыстакрацыя сарвала, з народам, і, адкінуўшыся ад свайго народу, здэнацыялізавалася, то й мова іх занікла. У XIX ст. народ у нас гаварыў сваей, пракавечнай „простай“, не інтэлігенцкай мовай, а інтэлігенцыя разьбілася на два абозы: адны пайшлі на служэньне Маскве. другія—Варшаве.

Наша старая мова, вытвараная духавенствам і панруючымі клясамі, незразумела народу так сама, як незразумела народу мова расійская ці польская. Гэна старая мова ніколі ўжо не ўваскрэсьне, як не ўваскрэснуць тыя пакаленьні, якія традыціі яе будаваньня ўзялі з сабой ў магілы. Яна выяўляе цяпер толькі нязьмерна цікавы аб'ект для нашых моваведаў, якія могуць з яе яшчэ многае адкапаць, што ўтрачана народам, бо сьцісла бяручы, гэта ёсьць адна з нашых гутарак, ужо адумершая.

Трэба сказаць, што ў цяперашнія часы пагражае нам тая-ж небасьпека, як і ў гістарычнай мінуўшчыне: наша інтэлігенція, па прыкладу расійцаў і палякаў, а найболей расійцаў, ахвотна перапаўняе адраджаючуюся крыўскую літэратуру чужаземскімі словамі. Калі здарыцца ў нашай гісторыі такое-ж адарваньнеся інтэлігенціі ад народу, як то было, то гэта занячышчаная мова ізноў астанецца толькі цікавым помнікам гістарычнай мінуўшчыны, але нязможа стацца патужным праваднікам культуры, якім яна павінна быць. Мова перапоўненая чужаземскімі словамі зьяўляецца ізолятарам культуры ад народных масаў.

У старадаўныя часы нявольнікі народных масс так і думалі, што граматнасьць і культура не павінны быць удзелам народных нізоў. Яшчэ ў 1860-х гадах, ў Расіі, былі людзі, якія падтрымлівалі погляд што: „кнігі пішуцца не для мужыкоў“ (Головацкі).

Дык цяпер, калі адраджаецца сама народная масса, нельга павадыром гэтай массы паўтараць старыя памылкі. Адраджоная наша мова павінна стацца добрым прабадніком культуры, а гэткай яна зможа быць толькі тады, калі ў ей будзе найменш чужых слоў, калі кождае паняцьце будзе перакладзена згодна псыхіцы нашай мовы; калі формы слоў і будова сказаў будуць адпавядаць законам гармоніі, пераказаным нам ад нашых прапрашчураў.

Мова, гэта аблічча душы народу і гэтае аблічча народнай душы нельга брыдзіць прылепкамі і наклейкамі, а наадварот, чым яно будзе чысьцейшым, тым прыгажэйшым і здаравейшым. Мы не павінны ісьці сьледам палякаў, якіх аўторы (Навачынскі) могуць пісаць „старапольскія“ повесьці, ўжываючы на сто чужых слоў, адно польскае.

Маючы на ўвазе вышэйсказанае, я. ў гэтай малой сваей працы, стараўся даць, паводле сіл сваіх, тлумачэньне чужаземскіх слоў на родныя паняцьці. Але мова наша занячышчалася сотнямі гадоў, дык і праца, па ачыстцы яе, ня можа быць зроблена высілкамі адзіночнага чалавека: над гэтым павінны доўгія дзесяцілецьці працаваць вучоныя аб'яднаньні і ўстановы.

Наша мова тады толькі здолее разьвіцца, калі патрапіць выявыць сваю выразна зарысаваную індывідуальнасьць, а гэтым самым дакажа рацыю свайго істнаваньня і калі патрапіць абараніцца ад асымілюючага ўплыву суседніх грамадных народаў: Расійцаў, Палякаў, Украінцаў. Дзеля гэтага трэба памятаць, што кождае чужое слова занесенае ў мову, асымілюе, зьлівае мову з суседскай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высьцярагацца ўжываць сходныя з суседзкімі словамі, хоць-бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але істнуюць ў здаровай нашай народнай стыхіі.

На досьледы нашай мовы многімі вучонымі паложана шмат працы, але аднабока. Прычыны гэтаму дваякія; па першае, ў навуцы дагэтуль пануе рутына і боязьнь новай мысьлі, а такжа множства асьвячоных часам забабонаў, супроць якіх ніхто не важыцца падняць рукі; па другое, дасьледчыкамі нашай мовы дагэтуль былі людзі чужыя, або свае, пайшоўшыя на ўслугі чужым. Дзеля гэтага, немаль усе досьледы над нашай мовай маюць ў аснове сваей фальшывы выхад, што мова крыўская зьяўляецца нейкім злепкам, ня маючым сваей індывідуальнасьці, і, приступаючы з гэткай мысьлю да досьледаў яе, шукалі ў ей ня рысаў яе ўласнай асобнасьці, а наадварот, сходнасьці з вядомымі ім мовамі, найчасьцей расійскай ці польскай. Згэтуль фальшывы,

і што горш, сьвядома фальшывы, вывад, што мова крыўская (беларуская) зьяўляецца галінай толькі нейкага прототыпу. А затым, сьвядомы, ці не сьвадомы, даваўся аргумант у рукі палітыкі, ў рукі пануючых над намі націянальнасьцяў. Дык адраджонаму нашаму моваведу, які приступае да пазнаньня сваей мовы, трэба дужа крытычна прыймаць тыя вывады, якія падсовуюць ў сваіх працах вучоныя нашых суседзяў з Усходу і Захаду.

Значэньне асыміляваньня суседняй мовы даўно зразумелі Расійцы і Палякі, якія абаруч чэрпалі і дагэтуль чэрпаюць з нашай мовы лексычны матэрьял. Прыкладамі могуць служыць Słównik języka polskiego Ліндага і Расійскі акадэмічны словарь, ў які цалком унесен слоўнік Насовіча. Аднак народ наш захаваў яшчэ такое вялікае багацьце слоў, зваротаў і выславаў, цалком арыгінальных і ў дадатку нікім дагэтуль не заграбленых, што без вялікіх трудоў можна яшчэ мову нашу збагаціць тысячамі слоў, цалком самаістых, якія могуць лёгка заступіць накінутыя нам чужыя словы, або і нашы, ды ужо з'асыміляваныя чужынцамі. Патрэбны сілы, і то многія, ды свае ўласныя сілы, ня толькі да зьбіраньня моваведнага матэрьялу, але такжа да ўдзячнай працы над яе лексычным і граматычным развіцьцем, над пазнаньнем законаў гармоніі крыўскага (беларускага) слова.

У надзеі, што новыя сілы, з нашай моладзі якая вучыцца ў краю і заграніцай, зазначаць сябе працай над роднай мовай, я пастараўся замацаваць на паперы тое, што мне ўдалося сабраць за час маей працы на ніве нашага адраджэньня. Нажаль пададзены тут матэрьял я нямог даць з падробнымі вывадамі яго паходжаньня, як гэта вымагаецца навукай. Пры-

чына тая, што калі я пачаў запісываць „цікавыя" словы, я ня меў на мэце карыстацца гэнымі запісямі ў друку: запісываў іх для сябе самога, а мне асабіста цікава было слова само па сабе і дзеля гэтага я не адмячаў мейсца запісі (калі гэта было з народных вусн), ці кнігі, з якой узяў слова (калі слова узята было з друкаваных песень, казак і інш.). Ад 1902 году да сёлетняга ў мяне сабралася вялікая сколькасьць, запісаў, якіх я няздолеў яшчэ ўсіх выкарыстаць пішучы гэты слоўнік, таму, раз што ўсіх матэрьялаў гэтых ня меў цяпер пад рукамі, а падругое, што выкарыстаньне ўсяго матэрьялу вымагала бы апрацоўкі шмат большай кнігі, а на гэта не пазвалялі ні жыцьцёвыя, ні матэрьяльныя варункі.

Выпушчаючы ў сьвет гэты слоўнік я цікаваў галоўным чынам практычную мэту і даў „Расійска —Крыўскі слоўнік" дзеля таго, што, мне думаецца, карыстацца ім будуць больш тыя, якія добра ведаюць мову расійскую, але слаба сваю—крыўскую, бо кожды наш інтэлігент вучыўся расійскай мовы ў школах, а сваю найчасьцей знае толькі з наслыху.

Назваў я гэты слоўнік „Расійска-Крыўскім", бо як гісторыя сьведчыць, нашае запраўднае племяннное і нацыянальнае найменьне ёсьць Крывічы. Зьмены імён народаў цесна звязаны з гістарычнымі рэволюцыямі перажыванымі народамі. У нашым гістарычным жыцьці на працягу тысячалецьця было некалькі такіх рэволюцый, якія складаюць пэрыёды нашай гісторыі.

*На зарані гістарычных часаў наш народ выступае*, як сарганізаванае цэлае нацыянальнае і палі-

тычнае, пад найменьнем Крывічы. Але ўжо ў X стагодзьдзі адбываецца вялікага гістарычнага значэньня рэволюція: замена старой праславянскай веры, новай верай—хрысьціянскай. Хрысьціянства шырылі панаваўшыя, над падбітымі славянскімі плямёнамі, Варагі-Русь. І, вось, ў пэрыёд, ад прыняцьця хрысьціянства да запанаваньня новай, літоўскай дынастыі, наступае замяшаньне ў паняцьцях: народ Крывічы якім яго ўсе кругом называюць, хочучы адзначыць сваю прыналежнасьць да хрысьціянства ўсходняга абрадку, мянуе сябе,—па веры і па тыпу перайшоўшай да нас з Візанціі і Баўгарыі, праз Варагаў, культуры, — Русамі, Русьсю. Гэты пэрыёд ёсьць Крыўска-Рускі і трывае ён ад X да XIII ст.

Другі пэрыод наступае са зьменай старой крыўска-рускай дынастыі, якую замяшчае дынастыя літоўская, м. б. ў XIII ст. З упадкам дынастыі, пачынае зыходзіць найменьне Крывічы ў значэньні дзяржаўным: яго заступае найменьне Літва. Дзяржава Альгерда, як і Жыгімонта- Аўгуста была адналітнай Літвой, а толькі ў гэтай дзяржаве быў вельмі значны лік грамадзян, якія трымаліся веры зашчэпленай ім Русамі, і дзеля гэтага, яны па веры называлі сябе: Русь, русіны. Калі літоўская дынастыя прыняла каталіцтва, найменьне Русь злучае ўсіх вызнаўцоў грэцкага абрадку і абыймае ўсе землі, дзе жылі вызнаўцы гэтай веры, ад Карпат да Окі. У гэтым другім пэрыодзе, які трываў немаль да канца XVIII ст., мы фігуравалі пад найменьнем Літва-Русь. Дзяржаўна—Літва, па веравызнаньню—Русь. Па гэтай старой памяці ў палуднёвых і ўсходніх паветах,—дзе наш народ стыкаўся з такімiж права-

слаўнымі ці уніятамі як і ён сам,—дагэтуль народ наш называе сябе Літвінамі (прыкл. у Чарнігаўшчыне, ў усх. Могілеўшчыне і Смаленшчыне).

Трэцьці пэрыёд, які пачаўся ад уніі з Польшчай ў 1386 гаду і быў перарваны толькі падзелам. Польшчы, кіраваўся да ператварэньня нашага народу ў палякаў. На нашае шчасьце „народам" лічылася ў тыя часы толькі шляхта, дык і гэты гістарычны працэс меў ўплыў не на ўвесь народ, а толькі адзіна на шляхэцкі стан, які пераходзячы праз каталіцтва, прыймаў лаціна-польскую культуру. Гэты пэрыёд у гісторыі нашага баярства, — якое было добрымі патрыётамі Літоўскімі (ў значэньні дзяржаўным), а па культуры і веры мела сябе за палякаў,—адзначыўся разьдзелям народных мас з яго гістарычнымі вярхамі, і, слушна, можа быць званым Літоўска-Польскім.

Прыходзіць урэшце расійскае панаваньне, і наступае чацьверты пэрыёд расійска-беларускі. З прыходам расійскай ўлады, уціснанае пад Польшчай праваслаўнае духавенства, пагалоўна перакідаецца ў маскоўскі абоз, парываючы ўсякую зьвязь з народам; за духавенствам ідзе праваслаўная шляхта, якая яшчэ была застаўшыся ад разгрому пад Польшчай. Падае, працавіта створаная Польшчай, унія. І, ў выніку, ад народу адпадаюць рэшта грамадзкіх вярхоў, тонучы ў расійскай вялікадзяржаўнасьці і называючы сябе, без ўсякіх засьцярог, „рускими", праз два с. Гэты пэрыёд замацаваў яшчэ адно найменьне—Беларусы.

Гэтак вярхі нашага нацыянальнага дрэва, пэрыёд за пэрыёдам, засыхалі і адпадалі ад народнага пня.

Ці яны аджывуць і прырастуць нанова, трудна згадаць. Хутчэй за ўсё што не. Пераход іх прадзедаў у чужы абоз варункаваўся, пераважна, не ідэалістычнымі, а чыста матэрьяльнымі матывамі дык мала надзеі на тое каб унукі, выракліся з занятага іхнімі бацькамі і прадзедамі палажэньня сярод чужынцаў, і вярнуліся да свайго народу нясьці, разам з ім, ланцугі няволі і нядолі.

Цяперашняе націянальнае адраджэньне нашае пачалося не са старых абсохшых галін, а з каранёў народных.

Пачалося і будуецца не дынастыяй, не рэлігіяй, не шляхтай, а самім крыўскім народам.

І дзеля гэтага, шануючы пражытую гісторыю, не выракаючыся культурных здабыткаў, прыдбаных у нашу націянальную скарбніцу пад найменьнем „Русь“, „Літва“, ці іншым якім, мы, хочучы быць самаістым славянскім народам, выносім з гісторыі нашай і з нашага народу на сьвет прастарае племяннае і націянальнае сваё найменьне— Крывічы.

Мы Крывічы па крыві, па роду племені, але засяляем землі балотныя і лясістыя, дзеля гэтага, каторыя з нашага племя жылі на дрыгве-балоце, па гэтай азнацы звалі іх Дрыгвічамі, а каторыя жылі у лясах-дрэвах—зваліся Дрэўлянамі, каторыя жылі на горках—зваліся Гаранамі. Адна галіна Крывічоў, пад кірункам радавых старшын Радзіма і Вяткі, перасялілася з заходу на ўсход, з Ляшскага пагранічча ў парэчча Сожа і тут размножылася. Дзеля гэтага і Дрэўляне, і Дрыгвічы, і Гаране, і Радзімічы

і Вяцічы адно Крыўская племя, адзін, як даўней казалі, язык.

Мы Крывічы, а ня Русь Літоўская, Варажская ці Маскоўская, Белая ці Чорная; мы асобны славянскі народ, не провінціянальная чыясь адмена.

Мы Крывічы, славянскае асобнае племя, са сваей асобнай мовай, гісторыяй, народным характарам, звычаямі і абычаямі; племя, якое тысячу з лішнім лет засяляе сваю крывічанскую зямлю.

Мы Крывічы, гэта знача, што мы па доўгім, цяжкім сьне прабуджаемся вольнымі душой, як вольнымі пачувалі сябе нашы прашчуры на вечах старэтных.

Наша мінуўшчына, гэта блуканьнеся па раздарожах і муках, а мы цяпер ізноў пры крыніцах гаючае і жывучае вады, пры сваім народзе Крывічанскім, і, разам з ім, адбудовываемо вольную Крывію!

Калісь Манголы заваявалі Кітай і на той знак, што кітайцы сталіся рабамі, накінулі ім абавязак насіць косы. З тых часаў мінула немаль тры тысячы гадоў; кітайцы даўно ўжо высвабадзіліся з мангольскай нyволі, але косы, знак маногольскага рабства і сягоньня носяць. Ня будзем жа мы падобны кітайцам! Адкіньмо ад сябе з пагардай ўсякія патлы гістарычнай залежнасьці, асабліва калі гэта залежнасьць, як таўро ганьбы, кладзецца на нашае націянальнае імя.

Гэткія былі мае думкі калі я клаў агаловок „Крыўскі“ на гэту кніжыцу. Пытаньне гэта вялікай

гістарычнай вагі, якое, на маю думку, рашыць ці суджана нам быць націяй, ці не; яно ляжыць на сумленьні павадыроў нашага адраджэньня і імі павінна быць вырашана. Я, з горсткай аднадумцаў, зважыўшы ўсе данныя, паставілі гэтае пытаньне на кон, хай цяпер абмяркуюць ўсе тыя, хто арэ і скародзіць крыўскія адлогі.

Затым кнігу гэту дабрароднай зычлівасьці чытачоў паручаю.

*Аўтор.*

# А.

**АБАЖУР** *м. фр.* заслона на сьвятло, на сьвечку, лямпу; **засьня, застка,** ад „засень“ - цень; з а с ь - в а мейсца ,зацененае, з а с ь ц і с т ы даючый цень; н а ў з а с ь ц і знаходзячыйся ў цяню, ў заценку: з а ц ь м а, з а ц ь м е ж а, з а ц я м н е н ь н е.

**АББАТ** *м. фр.* ігумен каталіцкага манастыра— **апат.** *Со двома о п а т ы. сирѣчь игумены.. або архимандриты (Срезн.)*

**АБОРИГЕН** *м. лац.* першыя пасяленцы краю. першапачатковыя, пракавечныя жыхары: **пракаветнікі, первабытнікі, тутэйшыя.** *Мы людзі т у т э й ш ы я, п р а к а в е т н і к і, а не якая набрыдзь чужацкая. Ен н я т у т э й ш ы: бацька яго з мазуроў прыехаў і тут асеў.*

**АБЕРАЦІЯ** *ж. лац. фіз.* разсыпнасьць ламаных праменяў сьвятла **абэрацыя, злуда, улуда зроку.**

**АБОРДАЖ** *м. марск.* зчэпка двох вадаплаваў у бітве; прычэпка меншага да большага вадаплава; закіданьне крукоў на варажы вадаплаў — **абардаж, сусчэп.**

**АБОРТ** *м. лац.: мэд.* **спарон** плада, **спарожа** жывата; ад слова „апаражняць“; **спарожыць, наўспораж.** *Кроплі н а ў с п о р а ж живата.*

**АБРЕВІАЦІЯ** *ж. лац.* пісьмо пад цітламі, **скарот.** *Першыя друкі т. зв. інкунабулы друкаваліся са с к а р о т а м і.*

**АБРИКОС** *м.* плод і дрэва *Armenia vulgaris.* **марэля.**

**АБСОЛЮТНЫЙ** *лац.* **развязаны,** аб справах духоўных; аб рэчах— **бязмежны,** безумоўны. безадносны, незраўнаны, самаісты, аддзельны і поўны; **абсалютны, самапраудны.**

**АБСОЛЮТИЗМ—абсалютызм.**

**АБСТРАКТНЫЙ** *м. лац.* недапасаваны, незастасаваны, **адарваны,** супроцьлеглае: дапасаваны, датасаваны, канкрэтны: **абстрактны, абстракцыя.**

**АВАНГАРД** *ж. франц.* перадавая часьць войск, **авангард, наўпяродны, чалавы, научольны.**

**АВАНС** *м. тарг.* выдача часьці грошы наперад; **задатак, заўдавацца.** *Не заўдавайся з ім у грашовых справах. Заўдаўся ў куплях, а цяпер німа выхаду.*

**АВГУСТ**, восьмы месяц у годзе; **жнівень.**

**АВДІЕНЦІЯ, паслуханьне, прыймо.** *Былі ў яго на прыйме.*

**АВРОРА** *ж.* чырвоны пояс на кругазоры да ўсходу сонца, **золак, сьвітаньне; досьвітак.**

**АВТОБІОГРАФІЯ** *ж.* напісанае самым апісаньне свайго жыцьця; **аўтобіаграфія, самарыс.**

**АВТОКРАТІЯ** *ж. грэцк.* **самаўласьце, аўтакрація.**

**АВТОКРАТ, самаўладнік; аўтакрат.**

**АВТОНОМІЯ,** самаўрадаваньне, кіраваньне, самім сваімі справамі; **аўтаномія, самарадзтва.**

**АВТОР** *м. лац.* тварэц чаго, пісьменьнік; **аўтор, аўторства, аўторскі.**

**АВТОРИТЕТ** *м. лац.* выслоў або цьверджаньне вядомага чалавека прыйманае на веру без перасудаў; **аўтарытэт, павага.**

**АГЕНТ** *м. лац.* асоба, якой даручана справа ад асобы-ж, грамады, таварыства ці ўраду; ніжэйшая ступень поўнамочніка аднэй дзяржавы пры другой; **агент, даручнік.**

**АГИТАЦІЯ** *ж. лац.* намова, падбураньне, падбіваньне, каптаваньне; **агітація, агітатар, агітаваць.**

**АГНЕЦ** *м.* **ягнец, ж. ягніца,** с. **ягнё, ягмё, ягнячы; ягнятніца** водзячая ягнят авэчка, жанка даглядаючая ягнят. **Ягмак**, гадавалае ягнё.

**АГОНІЯ** *ж. грэцк.* змаганьне жыцьця са сьмерцю; **кананьне, непрытомнасьць** паміраючага. *Канае, а за зельле хапае. Каб табе такое кананьне, як гэта праўда. Перад кананьнем прызнаўся.*

**АГРАМАНТЫ** *м. мн. франц.* барвістыя пляцёнкі са шнуркоў да абшываньня жаночых шат; **крэплі**, (ад „крапаць“), **кутазіва, кутазьнік,** майстар робячый кутазіва.

**АГРАФА** *ж. франц.* **зашпілка, запінка, засьцібка, засьцібнуць; сушпілка, наўсушпіль.**

**АГРОНОМІЯ** *ж. грэцк.* навука земляробства, ратайства; **аграномія, поляведаньне.**

**АГРИКУЛЬТУРА, земляробства, ратайства.**

**АДАМОВО ЯБЛОКО,** цьвёрды выступ на горле чалавека; **коўцік. Каўтаць,** глытаць. Каўтач памаўзьлівы ў ядзе чалавек, пьяніца; каўтнуць, глынуць, выпіць на скорую руку.

**АДРЕС** *м. франц.* надпісь на лісьце, пасылцы; **адрэс, аселасьць, надпісь.**

**АД** *м. грэцк.* **пекла, пякельны;** пякеліць пекліць-рабіць закалот, нязгоду, сварку; пякельнік, грэшнік, жыхар пекла; пеклаводнік, сварлівец. Сызпеклый, з пекла паходзячый; наўзпекле, перадпекле; падыспадная, **скрозьдоная, апраметная, тхлань.**

**АДЬЮТОР** *м. лац.* **памочнік падручнік.**

**АДЬЮНКТ** *м. лац.* памочнік акадэміка, або прафэсара; **асыстэнт.**

**АДЬЮТАНТ** *м. лац.* вайсковы афіцэр для паручэньняў і перадачы загадаў, **ад'ютант, паручнік.**

**АЖІО** *ср. неск. тарг. італьян.* пераплата, наддача пры абмене аднэй манэты на другую; **лажа** лажніца, лажня, крама дзе мяняюць грошы; лажовае, плата за абмен грошы: лажнік, мяняльнік грошы: лажберка, купчаньне грашамі.

**АЖУР** *франц. нескл.* наскрозная работа рысункаў з нітак, матэрьялу і мэталю, прасьвечаючаяся наскрозь; **ажур, прозрасьць, празрысты.**

**АЗБУКА** *ж.* сабраньне ў парадку ўсіх літар; падручнік да навучаньня літар, **букар, букаўнік.**

**АЗАРТ** *м.* **газард; задор, задорысты.**

**АЙВА** *ж.* дрэва і плод *Cidonia vulgaris nigra* **гдуля.**

**АИСТ** *м.* пералётны птах з сямьі чапель; **бусел; буслай,** гультай; буслаіць, гультаіць, валондацца бяз працы.

**АКАР,** *Acarus*, моль: **тля**, тля мучная сырная.

**АКАЦІЯ** *ж*,названьне дрэва: *Acacia Robinia і Carzgana*. **гарошнік. гарошкавае дрэва, акацiя.**

**АКАѲИСТ** *м. грэцк.* царкоўная хвалебная песьня; акафіст; ў каталікоў—літанія; **хваласьпеў.**

**АКИ** *црк. і стар.;* **як бытцам.**

**АКЛИМАТИЗИРОВАТЬ** *што, каго, лац.* прысвaiваць, прывучаць да новых варункаў, клімату; **аклiматызаваць, прыжывечываць.**

**АКОМПАНИРОВАТЬ**, *муз. фр.*, **падыгрываць;** трымаць другі згодны голас, **акампанаваць, ўтараваць.**

**АКОРД** *м. франц. муз.* поўнагалосьсе, **сазгучча,** стройнасьць згукаў; поўны падбор **струн для** муз. інструманта; **акорд, лад, созгук.**

**АКРИДА** *црк.* **шаранча.**

**АКРОБАТ** *м. грэцк.* танцор на вяроўках; **акрабат, лазмак, лазмацтва.**

**АКРОСТИХ** *м. грэцк.* верш, дзе пачатковыя літары радкоў складаюць імя, слова, сказ; **акрасьціх, скрытаслоў.**

**АКСЕЛЬБАНТ** *м. ням.* пляцёнка са шнуркоў пошаная урадоўцамі на грудзёх; **стугры.** *Нашураднік стугры носіць на грудзёх. Паліцэйскаму стугра, што папу барада.*

**АКТИВНЫЙ** дзейны, жыцьцёвы, жывы не бязчынны, ня мёртвы; **актыўны, дзейны, чынны.**

**АКТЕР и АКТРЫСА,** тэатральны артыст, мастак, сцэнічны мастак, стар.: **глумец, скамарох.** *Актар,* **актэрка.**

**АКЦІЯ** *ж. фр.* часць, дзялянка ў гандлі, ў прамысловасьці, ў таварыстве; **акція, бонда.**

**АКЦЕНТ** *м. фр.* змоцнены націск голасу на галоснай літары, на цэлым слове або на цэлай пра-

мове; **нациск, нагалосак;** павышэньне і паніжэньне голасу, **вымова.**

**АЛАВАСТР** *м.* мяккі, белы і каляровы камень з якога выразаюць начыньня і фігуркі; серчана кіслая вапна; **алябастар.**

**АЛЕБАРДА** *ж. ням.* пяхотная зброя, сякера і дзіда на доўгім дрэўку; **галябарда.**

**АЛЛЕГОРІЯ** *м. грэцк.* выказ, абраз, рэзьба, у пераносным значэньні; **алягорыка, пераносьня.**

**АЛЛЕЯ** *ж. франц.* дарога абсаджаная дрэвамі; **прасада** (памылкова „прысада“, слова паходзіць ад „садзіць“, не ад „абсада“ ў значэньні аправы). *Ад гасьцінца да двара ідзе ліповая прасада. Сярод прасад—гасьцінец біты (Я. Купала).*

**АЛКАТЬ,** галадаць, быць галодным, марыцца голадам; хацець есьці; крэпка хацець, жадаць чаго; **лакнуць. Лачны,** галодны. Лачнець, рабіцца галодным, галадзець. **Узлакнуць,** захацёць ёсьці, зажаць чаго. Лачнасць, хцівасьць у простым і пераносным значэньні,

**АЛМАЗ** *м.* першы па цьвёрдасьці, па блеску і цэннасьці з дарагіх каменяў; **адамант;** а калі шліфаваны, яйцавіднай формы **дыямант.** Адамантназваньне агульнае; брыльянт той-жа адамант, больш каштоўны дзеля поўнай шліфоўкі. **Адамантшчык,** таргуючый гэтымі каменямі, юбілер.

**АЛТАР** *м.* **аўтар, ахвярнік,** падвышэньне рожнай формы, на якім народы, кожды па веры сваей, прыносяць Богу ахвяры; аўтарны яго датычачый, аўтарнік, слуга аўтара.

**АЛТЫН** *м. татар.* старасьвецкая сярэбраная манэта 6 грошы; **шастак.** *Шэсьць дзён малаціла шастак зарабіла.*

**АЛФАВИТ** **алфабат, букарнік, букарніца.**

**АЛЫЙ** *татар.* сьветла, ярка-чырвоны; **пунсовы; пунсавець,** станавіцца ярка чырвоным; пунсалікі чырвонааблічны, чырвонатвары. *Пучкі ружы ўжо пунсавеюць. Пунсавее дакуль маладзее Пунсалікі хлопчык.*

**АЛЬБИНОС** *м. лац.* чалавек з прычыны хваробы скуры маючый белыя валасы і скуру, прычым вочы бываюць чырвоныя; **альбінос белясымень, бялесасьць.**

**АЛЬМАНАХ** *м. арабск.* каляндар, штогоднік; **альманах.**

**АЛЬПАГА** *ж.* **саета, саетовы, саян** жаночае адзеньне шытае з саеты,

**АЛЮВІАЛЬНЫЙ** *геалог.:* прамыты вадой, **намыўны, наточны.**

**АЛЮМИНІЙ** *м. хім.* мэталь дабываны з гліны: аснова гліны, так сама як аснова жалеза іржа: **алюмін, глінец.**

**АЛЯПОВАТЫЙ, нехламяжы.**

**АМАЛЬГАМА** *ж. хім.* злучэньне, зьлітак другіх мэталяў з жывым серабром; залатую амальгаму робяць для пазалоты праз агонь; **сьліба.** Сьлібное золата. Сьлібмоўка, злучэньне мэталю з жывым серабром.

**АМБАР, АНБАР** *м.* будынак для пераховy збожжа, а часам і для другіх тавараў; **клець, сьвіран** (калі пры будынку маецца асьвер).

**АМВОН** *м. грэцк.* падвышэньне для прамоўцы; **амбона** царкоўная, **моўніца** сьвецкая.

**АМПУТАЦІЯ** *ж. лац.* адрэзаньне чэляса цела, **аднящьце.** *Руку аднялі.*

**АМУЛЕТ** *м. арабск.* **кудмень, кудменчык.**

**АМУРЫ** *м. мн. франц.* мілаваньнеся, мілосныя забегі; **залецанкі, аморы.**

**АНАХОРЕТ** *м. грэцк.* **пустэльнік.**

**АНАѲЕМА** *ж. грэцк.* царкоўнае пракляцьце, адлучэньне ад царквы; вылучэньне з грамады веручых; **праклён, анатэма.**

**АНГАЖИРОВАТЬ** *франц.* прасіць, **запрашаць, заручацца.**

**АНГЕЛ** *м. грэцк.* **анел, анельскі,** анёлападобны, аналодумны. *На людзях анёл, а*

*дома чорт. Наша анеліцца з чортам жэніцца. З добрагаучынку і анёлы цешацца. Анельская пакора. Дзіцячыя душкі анёльчыкамі Богу служаць.*

**АНГЛИЗИРОВАТЬ** каня, абрэзаць каню хвост па ангельску, падрэзаўшы сухія жылы спадысподу хваставіны; **куртаць.**

**АНЕКДОТ** *м: грэцк.* кароткае па зьместу і сьціслае ў выкладзе апавяданьне аб выдатным, або забаўным здарэньні; **анэгдот, показка.**

**АНЕМІЯ** *м. грэцк. мэд.* **недакровіца.**

**АНИС** *м.* расьціна з сямьі парасонікавых *Pimpinella Anisum,* **аныж. Аныжоука**—гарэлка на аныжу прыгатаваная, гатунак яблака.

**АНОМАЛІЯ** *ж. грэцк.* не падобнасьць да звычайнага, адступленьне ў якім небудзь явішчы прыроды; **анамалія,-збочаньне.**

**АНОНИМ** *м. грэцк.* - **няпознамка.**

**АНТИДОТ** *м. грэцк.* лек супроць атруты, **адатрута.**

**АНТИЛОПА** *ж.* **сарна.**

**АНТИК** *м. лац.* старасьвеччына, старасьвецкая рэч, **старавеціна, старавэтны, старавэтнік,** маючый заняцьце са старасьвеччынай; **старавэтня** - крама для прадажы старых рэчаў, кніг і інш.

**АНТИПАСХА** *ж.,* нядзеля па Вялікадні, тыдзень св. Өамы. **Радаўніца, Наускі Вялікдзень.**

**АНТИПАТІЯ** *ж. лац.* **нехаць, адраза.** *Я чую да гэтага чалавека нейкую ўнутраную нехаць. Адразы сваей скрываць не магу.*

**АНТОНОВ ОГОНЬ** *лек.* амярцьвеньне чэляса ці часьці цела, якое аддзяляецца і адпадае як нежывое; **чорная сьнедзь, гангрэна, вогнік.**

**АНТРАКТ** *м. франц.* **прыстанак, пярорва.**

**АНТРАША** *фр. нескл.* скок у танцы са шчоканьнем ботамі, або з пераменай нагі, **падскок, шчакаузень.**

**АНТРОПОЛОГІЯ** *ж. грэцк.,* навука аб чалавеку, **чалавекаведаньне.**

**АНТРОПОМОРФИЗМ** *м. грэц.*, прыдаваньне выдуманым істотам чалавечай падобнасьці, **чалавекападобленьне.**

**АНШЛАГ** *м. ням.*, **вывеска, наклейка.**

**АОРТА** *ж. грэцк.*, цар-жыла, пачатковая, першая і самая грубая баявая жыла ў целе, выходзячая проста з левай палавіны сэрца, **тутніца.** З яе выдзяляюцца ў галаву баявыя жылы (*с о н н ы я*) і ў рукі (*л у т н і ц ы*).

**АПАТІЯ** *ж. грэцк.*, **роунадушнасьць, безцікаунасьць.**

**АПЕЛЬ** *м.*, знак ці голас (сыгнал) трубой конніцы для збору; **збор, покліч.**

**АПЕЛЬСИН** *м. голяндзк.*, дрэва і плод *Citrus aurantiorum*; **аранжа, аранжык.** *Купи мне мама а р а н ж ы к а. Годзі табе з гнілым носам у а р а н ж ы лезьці. А р а н ж ы к і жыдоўка прадае.*

**АПЕТИТ** *м. лац.* позыў да ежы; **жадаедзь, апэтыт, смач.** *Пасьля хваробы ж а д а е д з ь у яе вялікая: ўсё просіць то тое, то сёе дай. Млосна, а ж а д а е д з і кіма. С м а ч да яды мае. На калач знойдзем с м а ч.*

**АПЛОДИРОВАТЬ** *каму, франц*, біць у ладкі, **паклясквць, поклякскі.** *Яму п о к л я с к людзкі не патрэбен. Выступ, прамову аго пакрылі густымі п о к л я с к а м і. К л я с н у ў ў далоні завучы слуг сваіх.*

**АПОКАЛИПСИС** *м. грэцк. царк.* віздежа св. Ап. Яна Багаслова; **выяуленьне, апакаліпса.**

**АПОПЛЕКСІЯ** *м. грэцк*, хвароба; **паляруш.**

**А ПО СЕМУ, адлі.** Адлі я і зрабіў так.

**АПРѢЛЬ,** чацьверты месяц у гаду; **красавік.**

**АПТЕКА** *ж. грэцк.* установа дзе прыгатоўваюць і прадаюць лекарствы; **зельня, зялейня, зялейнік,** -аптэкар, прадавец лекарстваў. *Зайдзі ў з я л е й н ю, купі зельля, лекарства. З я л е й н і к ня лечыць, а калечыць. З е л і ц ь, з а л і ц ь — рабіць выцяг з зёлак пры помачы настаіваньня: Трэба в ы з а л і ц ь у сьпірце карані дзевасілу і націрацца тым*

*золівам. Доктар даў нейкай золіўкі і казаў піць штодзень па лыжцы.*

**АРАВА** *ж.* **арава.** Бурлацкая арава цягнецца (Даль).. *Арава бурлакоў пьяных ўвалілася ў карчму.*

**АРАПНИК** *м.* доўгі раменны **біч, бізун; бізуншчык** хто арудуе бізуном; бізуніць, бізаваць біць бізуном.

**АРАП** *м.* ад прыроды чорнаскуры чалавек, ураджэнец гарачых краёў; асабліва Афрыкі; **мурын, мурынскі** да яго датычны. *Чорны, як мурын.*

**АРБА** *ср. нескл.* павозка на двох колах **бедка.**

**АРБУЗ** *м.* расьціна і ядомы плод *Curcubita Citrullus* **кавун.**

**АРЕНА** *ж. лац.* мейсца да барацьбы, бітвы, перагонаў, відовішч, **майдан, ток.**

**АРЕСТ** *м. франц.* задзяржаньне чалавека пад старожай, вартай, **увязьненьне; арышт.** Дамовы арышт. Арыштавалі тавар на рынку. Арыштант, *стар.* **вязень.** *Арыштанцкія харчы. Арыштанцкае жыцьцё, паступаньне.*

**АРИСТОКРАТІЯ** *ж. грэцк.*, дзяржаўны лад, дзе вышэйшая ўлада ў руках паноў, магутаў, вяльможаў, асобнага высшага стану, што перадае свае прывілеі ў патомнасьць, па роду. Грашавая **арыстакрацыя,** багачы, сьвежа збагацеўшыя купцы. Арыстакрацыя духовая, сабраньне людзей вучоных разумных, асьвечаных.

**АРИМАН** *м. пэрс. міт.* уасобленьне, злой цёмнай сілы — **Гармей** (Срезн.), супраціўная яму сіла дабра і сьвятла уасабляецца пэрсамі ў **Гормузе** (рас. Ормузд).

**АРИѲМЕТИКА** *ж. грэцк.* навука аб лічэньні; **арытмэтыка, арытмэтычны.**

**АРІЕРГАРД** *м. франц.* **пазадны, пазаднік.**

**АРКА** *ж. лац.* перакінутая праз адлегласьць дуга, столь, скляпеньне сьцяной: **аблук, выгба.** Рымская выгба круглая зьверху, усходняя — вастраватая,

готыцкая — стралістая; **арка. Аркада** цэлы рад выгбаў, аблукавін.

**АРКАН** *м. татар.* вяроўка пятлёй лавіць коней на пашы, зьвярыну на ўловах, а часам і ворага на вайне; **сілно, сіляць:** *Нашто засіляцца—лезьць у пятлю. Ажаніўся — што засіліўся. Сядзіць вудаль на ляду. падпер кіям бараду, сілявачку сіляе, на вяровачку нізае.* **Захлыска.** *На захлыску каня улавіў. Захлыскі разставіў на зайцаў.*

**АРКТИЧНЫЙ,** паўночны датычны паўночнае букті (полюса), або паўклуббя (полушарія) зямлі — **сіверны**; сіверны круг, сіверны паяс:

**АРМІЯ** *ж. франц.* дзяржаўнае сухапутнае войска, пяхота і конніца; **армія, армейны, армяец, армейшчына.**

**АРМЯК** *м. татар.*, тканіна з воўны і вярблюджага пуху, выробляная б. ч. татарамі; **кучбай**. Суконная вопратка зшытая з армячыны, кучбаю і нагул шырокая вопратка халатам, — чугай.

**АРОМАТ** *м. грэцк.* добрапахнасьць, пахнасьць, прыемны пах; **водар**. *Водар прыемны са сьвежага сена.* **Вохнасць.** *Вохнасьць тхне з кветніка. Прыемная вохнасьць ад кадзіва. Вохны гарошык пасеяла.*

**АРСЕНАЛ** *м. франц.* будынак дзе перахоўвуецца зброя і вайсковыя прыналежнасьці; **збройня.**

**АРТАЧИТЬСЯ**, **дыбіцца, ўздыбіцца,** на дыбы стануць, пайсьці. **Аськірзацца.** *Набяры вады ў губу, то і будзеш маўчаць, не станеш аськірзацца з мужам. (Сержпут.).*

**АРТЕЛЬ** *ж.*, слова таго-ж кораня, што і рота, але з перастаноўкай першых літар; таварыства, брацтва; **сябрына, сябраваць, сяброўшчына**. Сябраннае права апісана ў Статуце В. Кн. Літоўскага.

**АРТИКУЛ** *м. лац.* даўней значыла: аддзел, стацьця; **артыкул.**

**АРТИЛЛЕРІЯ** *ж. франц.* цяжкая агністрэльная зброя, не ручная: **гармата, гарматная служба, гарматнік, гарматніцкі.**

**АРТИСТ** *м. франц.* чалавек які займаецца прыгожым мастацтвам; больш ужываецца аб музыкантах, малярах, танцорах; **кудзейнік** *„скоморохове, кудейнице и глумце" (Архіў Тур.-Пінскай Архіепіскопіі).* **Мастак, мастацкі, мастачыць.**

**АРТИШОК** *м.* фрукт расьціны *Cinara Scolimus,* **карштук.**

**АРХІ** *грэцк. пачат.* само па сабе ня ўжываецца, а перад другімі словамі, калі трэба падняць іх у найвышэйшую ступеню; **архібіскуп, архімандрыт, архіпастыр, архісправядлівец.**

**АРХАНГЕЛ** *м. грэцк.* **арханел, арханельскі.**

**АРХИТЕКТУРА** *ж. грэцк.* буданічнае мастацтва; **архітэктура.** У нар. песьнях захавалася слова **дойлід** у значэньні будаўнічага. *А ў Турове, на мураве, тры дойліды цэркаўку стаўлялі.*

**АССОЦІАЦІЯ** *ж. франц.* **зграмаджаньне, сабраньне, таварыства, сувязь, змова** дзеля якоїі колечы агульнай мэты.

**АСПИД** *м. грэц.* ядавітая **зьмяя;** баечны зьмей, **цмок.**

**АСТМА** *ж. грэцк. мэд* хвароба разшырэньне лёгкіх, **удушша, удушлівы, удушлівец.**

**АСТРОНОМІЯ** *ж. грэцк.* навука аб небе, **зорніцтва, астраномія.**

**АСТРОЛЯБІЯ** *ж. грэцк.* землямерны прыбор, **вугламер,**

**АТАКОВАНІЕ** *франц.* **напад, наступленьне.**

**АТЕИЗМ** *м. грэцк.* бязвернасьць, нявера ў Бога, **бязбожнік, бамбіза.**

**АУДІЕНЦІЯ** *лац.* **паслуханьне, прыймо.**

**АФІША** *ж. франц.* апавестка на паперы аб якім колечы відовішчы, сабраньні, прадажы; **публікатка;** *стар. арх.* **аклічны ліст.**

**АФОРИЗМ** *м. грэцк.* кароткі і ясны выказ; **афарызм.**

**АФРОНТ** *м. франц.* асабістая **зьнявага, зьняважаньне** гонару.

# Б.

**БАБА** *ж.* замужная жанка, асабліва перад старасьцю (раней: **малодка, маладуха, маладзіца**) — **баба, бабка, бабуля, бабуся, бабця, бабно, бабарыха.** *Бабнік, бабадур, бабалюб, бабахот*, эпітэты-прозьвішчы даваныя мужчынам, якія маюць тыя або іншыя адносіны да баб. *Бабінец* сені ў церквах і касьцёлах, дзе зазвычай сідзяць жабруючыя бабы. *Бабіць* — прыймаць новародка, адрэзаць пуп новародку.

**БАБА-ЯГА** *міт. істота*, **Баба-Юга**, або **Юга-баба; Югася** (сьмерць).

**БАБОЧКА** *ж.* **мятлік, мятулёк,** зборнае — **мятуліца.**

**БАГЕТА** *ж. франц.* **рамніца.**

**БАГОР** *м.* жалезны крук на шасьце; **басог.**

**БАГРОВЫЙ,** самай яскравай і густой чырвонай барвы; **пурпуровы.**

**БАГРЕЦ** — **пурпура.** Даўней ужывалі дзеля абазначэньня пурпуровага колеру такжа слова — **кармазын;** кармазыновая шляхта — багатая, адзетая у кармазыны, чырвоны аксаміт.

**БАДЬЯ** *ж.* вялікі цэбар з тоўстых клепак; **бодня, чоп.**

**БАЗА** *ж.*, **БАЗИС** *м. лац.* **аснова, апора, спод, гастоя.**

**БАЗАР** *м. татар.* торг на адкрытым мейсцы, **торжыча,** самае мейсца, дзе бывае торг — **майдан рынак,** дзень тыдня ў які адбываецца торг; **кірмаш** — зьезд у тарговыя дні, ў азначанае мейсца.

**БАЙКА** *ж. англ.* мяккая, тоўстая, вельмі варсістая тканіна, **кучбай,** *стар.* **кодыр.**

**БАКАЛЕЯ** *тавар.* сушаныя фрукты: разынкі, сьлівы, дактылі. (фінікі), арэхі, канфітуры, мёд і інш.; **сушаніны.**

**БАКЕНБАРДЫ** *м. ням.* часьць барады на шчанэ да вушэй; **бакі.**

**БАКЛАГА** *ж.* дрэўлянае абручное, або даўблёнае начыньне розн. формы; **карчага, карчажка.** *Прынясі карчагу з дзёгцям. Купіў карчажку да вады.*

**БАКЛУШИ,** мэталічныя талеркі якімі выбіваюць такт ў аркестры, або да танцу; **бразгачы,** ў бразгачы біць.

**БАКЧА, БАХЧА** *м. татар.* гарод у полі, не пры доме, на падмятым плугам цічырцу (цѣлинѣ) **баштан.**

**БАЛАБОЛКА** *ж, татар.* закрыты званочак да конскай упражы; **шумёлка, бома.** *Бомы вясёла шумяць (М. Багдановіч).*

**БАЛАГАН** *м. татар.* часовая з досак, або іншага матэрьялу будова да таргаваньня, прадстаўленьня, рукомесла; кірмашовая будка, **лубмень лубнянка** *стар.* **клетка.** *На кірмашы прадавалі абаранкі з вазоў, сталоў і ў лубмянёх. Лубмянку заарэндаваў на рынку.*

**БАЛАГУРИТЬ** *татар.* ціха і супакойна размаўляць; **гукаць, дудукаць.** *Сыйшліся.* падудукалі *з кумой, дык. і ад душы адлягло. Сойдуцца старыкі пагукаюць (Рам.) Мы пагукалі аб нашым горы. Схадзі, пагукай са старастаю. Дудукаюць сабе маладыя, як галубкі у гнязьдзечку.*

**БАЛАЛАЙКА** *ж. татар.* музычнае снадзіва ладамі і двумя або трымя струнамі; **бандурка, бандура, бандурыста,** граючый на бандуры; **балабайка, балабайшчык, балабаіць** іграць на балабайцы, а такжа ў значэньні гультаваць, лындаць без працы.

**БАЛАНДА** *ж. татар.* сьцюдзёная страва з квасу і гардавіны (зелени); **халадзец.**

**БАЛАНС** *м. франц.* быцьце ў роўнавазе; роўнавага, **віхт, асьвер.** Віхт, віхцік стрэлка ў шальках, паказуючая одклон або роўнавагу; **віхтацца,** адкланяцца ад роўнавагі. Вага віхтаецца сюды і туды. *Пад віхт разквітаўся з ім летась, а сёлета ізноў ён у даўгу. ізноў новы віхтунак. Калі гляну, аж дзяцё ужо пераасьверылася праз вакно галоўкай у ніз. ледзь за ножкі ўха-*

*піла. Вага пераасьверылася на мой бок. Трэ, паставіць асьвер пры студні.*

**БАЛАСТ** *м. франц.* пясок, каменьня, жвір насыпаныя ў кодаб карабля дзеля астоістасьці аго; **цяжво, цяжыва.**

**БАЛАХОН** *м. татар.* верхняя летняя сялянская вопратка, найчасьцей з палатна; **насоў.**

**БАЛБЕС** *м. аболтус. Вун які аболтус выйшаў з яго. Лупі яго аболтуса гэтага.*

**БАЛДА** *ж.* дрэўляная даўбешка, рознай формы; **даўбешка**, якую ужываюць сталяры, бондары. Дравасекі да шчапаньня дроў ўжываюць **пабойню, даўбню, цяльпагу.** Да разьбіваньня камоў зямлі ўжываецца **кука** і ад ея паходзяць словачыны— кокаць, кокнуць, ударыць. Целяпей, цяльпух, чалавек няўдалы, нязручны. Пабойня, чалавек тупы: што ўбіў, то ўехаў. Даўбня, говорыцца аб згрызлівым, надаедлівым чалавеку.

**БАЛДАХИН** *м. італьян.* запона над ложам, седзішчам, пасадам; пераносны ўжываецца дзеля урочыстых працэсьій; **бальдахім; полаг** бывае над ложам.

**БАЛКА** *ж. ням.* **бэлька, бярно, маціца.**

**БАЛКА** *татар.* **лог, разлог, сухадол, яр.**

**БАЛКОН** *м.* вісячы ганак з балясамі, або выступ на зьне дому; стар.: **гаўбец, галубец; балькон, паладок.**

**БАЛОВАТЬ дурэць, кудашыцца;** псаваць што дурэючы, **цацкацца, зцацкаць.** Даваць патачку, патакаць; **песьціць, пястун; разбязурываць.** *Разбязураных рабяту хатыль бярэ (Нікіфоровск). Разбязурыліся, што ратунку няма. Разкудашыліся і супыну німа. Будзеш кудашыцца ты датуль, пакуль пугай ня зрэжу. Мамчын сынок-пястунок. Як разпешчаны, то і разбэшчаны.*

**БАЛЛ** *м.* азначаньне поступаў у навуцы ў працы; **ведамка.**

**БАЛЛОТИРОВАТЬ, галасаваць.**

**БАЛ** *м. франц.* вячорнае сабраньне мужчын жанок на танцы; **баль, балёвы, балявацъ,**

**БАЛЬЗАМ, бальзам, бальзамічны, бальзамавацъ.**

**БАНДА** *ж. франц.* **аргада, арганак, арганачыць.** *Разбойніцкая аргада напала (Дрыс. і Вяліж. п.) Па дарогах ды с пад мастоў нападаў, аргамачыў;* **банда.**

**БАНДЕРОЛЬ,** папяровая; тасемка да аклейкі тавараў, пасьля аплаты падатку **апаяска.**

**БАНКА** *ж.* шклянае або ганчарнае начыньне з шырокім горлам; **слой, слоік;** кровапускальныя **банькі;** калі зроблена з бляхі — **бляшанка.**

**БАНКЕТ** *м. франц.* **званы стол, стол; бясёда.**

**БАНК** *м. італьян.* урадовая або прыватная пазычковая установа; **банк, банкар, банкарыць.**

**БАНТ** *м. ням.* глухі вузял з вушамі; **кукарда, кукардка; стужатка, стуга, стужка.**

**БАНЯ** *ж.* будынак дзе мыюцца і паруцца; **лазьня, прылазьнік** — прыбудўка да лазьні; **л а з ь н і к** — чалавек, які мые ў лазьні. У Магілёўшчыне называюць яшчэ **мыйня, мыльня** і **прымыльнік,** але зважаючы; што ў іншых аколіцах мыйняй называюць прачкарню, я лічу за лепшае слова „мыйня" замацаваць ў значэньні прачкарні.

**БАРАБАН** *м.* вайскова-музычная прылада з двумя днамі са скуры; **бубен, бубеншчык** — музыка на бубні іграючый; **бубеніць** у значэньні біць па бубне і сварыцца, пукчэць, квактаць.

**БАРАК** *м. франц.* часовая лёгкая будоўля для войска, работнікаў, хворых; **шалаш, летавень.** Пры латышскай граніцы называюць ад лат. слова „майка" хата: — **майгач,**

**БАРАХЛО** *ср.* **хломазд.**

**БАРАНКИ,** абвараны піражок кружком; **абаранак, абаранкі, абараншчык** той, хто прадае іх.

**БАРАХАТАТЬСЯ,** біцца рукамі і нагамі, зваліўшыся на зямлю, або ў ваду; **балохтацца, чабохтацца; ходацца, тузацца** з кім небудзь.

**БАРДА** *ж.* гушча, астаткі ад перагонкі гарэлкі; **брага.**

**БАРЖА** *ж*, вялікая веславая **лага; барка.** На Дзьвіне завуць **лайба,** на Дняпрэ—**струг.**

**БАРИКАДА** *ж. франц.* загарода на скорую руку на вуліцах; **завал.**

**БАРИН** *м.* пан (гл. господин).

**БАРЫНЯ, паня, панюхна, панячка.**

**БАРЫШНЯ** *ж.* **панна, паненка,** слова вельмі даўно ўжываное як у дакумантах, так паўсямесна на Беларусі ў жывой мове і ў народных песьнях.

*Я-ж тых турак агнём выпалю,*
*А сваю п а н н у між дзевак вазьму.*
*(Ром. Бых. пав.)*

*За стол за твой сяду паваю,*
*У ложу тваю лягу п а н н а ю.*
*(Р. Т. 8-9. 135)*

*Яж-не каралеўна, яж-не царэўна,*
*Гнатава дачка, сьлічна п а н н а ч к а.*
*(Шэйн)*

**БАРИЧЬ** **паніч.**

*Саколе ясны, п а н і ч у красны.*
*(Валач. песьня гл. Шэйн. Безс.).*

**БАРХАТ** *м.* шаўковая тканіна з каротка стрыжанай, густой ворсай; **аксаміт, аксамітны, аксамітка** аксамітная стужка, **а к с а м і с т ы** падобны да аксаміту *(Гл. Плюш).*

**БАРЩИНА** **прыгон, паншчына.**

*На згон, на п р ы г о н,*
*На семера з хаты вон.*
*(Нікіфор.).*

*П а н ш ч ы н у адбывалі па шэсьць дзён ў тыдні.*

**БАРЫШ** *м.* зыск, заработак, карысць. Выпіўка пры мене і куплі-прадажы; **магарыч.**

**БАРЬЕР** *франц.* **застаўня, рагатка.**

**БАССЕЙН** *м.* **вадасток** ва ўсіх значэньнях.

**БАСНЬ, БАСНЯ** *ж.*, выдуманае здарэньне; вымысл, павучаючае апавяданьне; **б*а*ятка, б*а*йка, б*а*іць, б*а*йчыць.**

**БАСНОСЛОВНЫЙ, б*а*ятны, б*а*ечны.**

**БАТРАК** *м.* наемны работнік для сельска-гасп. работ; **п*а*рабак** (ад слова „рабіць“); **н*а*йміт** гаворыцца больш аб падзённым работніку; **кум*е*ць і баб*ы*ль** — работнік найчасьцей сямейны, які за сваю працу дастае кавалак зямлі і ардынарыю.

**БАУЛ** *м. італьян.* доўгая, круглая, абітая скурай дарожная **скр*ы*ня;** скрыня з круглаватым векам; **к*у*фар.**

**БАХВАЛ, хв*а*лько, хв*а*сько, хв*а*сьціцца.**

**БАХРОМА** *ж.*, **махр*а*, м*о*хры, махр*ы*сты, м*о*хрыцца.**

**БАШКА** *ж. татар.* **галав*а*.**

**БАШЛЫК** *м. татар.* **шлык, капт*у*р.**

**БАШМАКИ** *м. татар.* **чарав*і*кі, барл*ё*чы, боцікі, кам*а*шы.**

**БАШНЯ** *ж.* высокая, раўняючы да вышыні будоўлі надбудоўка; **вежа.**

*Ой у полі ў полі вежа стаяла*

*Мураваная, маляваная. (Крачк. 7 стр.).*

**БАЮКАТЬ, усыпл*я*ць, кук*о*біць.** Укукобіла дзіцятка, заснула ўжо.

**БДѢТЬ, ч*о*віць**, чоўкі, ч*о*ўны, чук*а*вы, які ня сьпіць, ня счыняе вачэй; ч*у*йнасьць, ч*о*ўкасьць — свомасьць чоўкага.

**БЕДРА** *ж.* верхняя палавіна ўсей нагі, часьць ад лагі (таза) да кал*е*на; **чэраслы, к*у*льшы, кумпяк*і*,**

**БЕДРОВАЯ КОСТЬ**, кульшавая косьць, кульша, **кіч*а*га.**

**БЕЗАЛАБЕРНЫЙ**, **бязл*а*дны, нехлям*я*жы.**

**БЕЗБОЖІЕ**, *ср.* **бязб*о*жнасьць, бязб*о*жніцкі, бязб*о*жыць, бязб*о*жнік.**

**БЕЗБОРОДЫЙ**, **безбар*о*дзька, галам*о*ўжа** (ад „музы“ вусны), **галам*у*зды, галам*у*з.**



2. Зак. 923

**БЕЗБОЯЗНЕННЫЙ**, **бязбоязкі, неўлякліvы, непалохлівы, сьмелы.**

**БЕЗБРАЧІЕ**, **бяжэнства.** *У бяжэнстве жыву ўжо дзясяты год. Бязжэннаму не жыцьцё, а мука.*

**БЕЗБѢДНЫЙ**, без бяды і беднасьці. *Жытка яго спакойная і бязбедная: дастатны гаспадар жабраваць ня пойдзе;* **бязбедны.**

**БЕЗВЕДРІЕ**, *ср.* **непагадзь, негадзь, плюта.**

**БЕЗВКУСІЕ**, *ср.* **несмач.**

**БЕЗВЛАЖНЫЙ**, **бязволагкі, няволагкі, няволгкі.**

**БЕЗВЛАСТІЕ**, *ср.* **безўладзтва, безваладзь.**

**БЕЗВОЗВРАТНЫЙ**, **безпаваротны**

**БЕЗВОЗДУШНЫЙ**, **безпаветраны.**

**БЕЗВОЗМЕЗДНЫЙ** -- **бязнаўдны, дарэмны.** („Наўда“ адпавядае слову „мзда“).

**БЕЗВОЗРАСТНЫЙ** **недаросны, недаростак.**

**БЕЗВРЕДНЫ**, **няшкодны.**

**БЕЗВРЕМЕННЫЙ**--**бязчасны, няўчасны.**

**БЕЗВРЕМЕНЬЕ** -**непагадзь, негадзь, безладзіца, кудаса.**

**БЕЗВѢРІЕ** *ср*, **бязверыца, бязвершчына.**

**БЕЗВѢСТІЕ**--**бязвемніца.**

**БЕЗГЛАВЫЙ** — **безгаловы, бегалоўе, безгаловіца**—стан без галовага.

**БЕЗГЛАСІЕ**, **безгалосасьць, бвзгалосьсе.**

**БЕЗГЛАЗЫЙ**, **бязвокі.**

**БЕЗГРАМОТНЫЙ** **няпісьменны, нягр аматны.**

**БЕЗГРАНИЧНЫЙ**, **бязмежны, нясканечны, нязьмерны.**

**БЕЗГРѢХОВНЫЙ**, **бязгрэшны, безграхоўны.**

**БЕЗДАРНЫЙ**, **няўдольны, няўдольнасьць.**

**БЕЗДЕНЕЖЬЕ**, **безграшоўе.**

**БЕЗДНА** *ж.* незьмяроная глыбіня; **бязодня, бяздоньніца, скорзьдоньне, тхлань.**

**БЕЗДОЖДІЕ**, **бяздожджыца, посуш, засха.**

**БЕЗДОКАЗАТЕЛЬНЫЙ, бездаводны, бездаводнасьць,** нястача довадаў.

**БЕЗДОЛЖНЫЙ, безпавінны.** *Безпавінная напасьць, кара.*

**БЕЗДУМНО, бязмысна.** *Бязмысна сказаў ты.*

**БЕЗДЫХАННЫЙ, бяздухі, няжывы.**

**БЕЗДѢЙСТВІЕ, бяздзейнасьць, нячыннасьць.**

**БЕЗДѢЛІЕ, бязчыннасьць.**

**БЕЗДѢЛУШКА, цацка.** *Цацак накупляў. Цацкі разстаўлены.*

**БЕЗЖИЗНЕННЫЙ, безжыцьцёвы, нежытны.**

**БЕЗЗАБОТЛИВОСТЬ, няруплівасьць, нестарэнлівасьць, бязклопатлівасьць, безтурботлівасьць.**

**БЕЗЗАВИДНОСТЬ, незаздросьлівасьць, нягалівасьць.**

**БЕЗЗАВѢТНОСТЬ, неспаведлівасьць, беззапаветнасьць.**

**БЕЗЗАКОНІЕ, бязпраўе.** Даўней у нас разрожнівалі: *„права“* і *„закон“*, апошняе слова ўжывалі ў значэньні рэлігіі: закону рымскага, грэчаскага.

**БЕЗЗАСТѢНЧИВОСТЬ, бязстыднасьць, безсаромлівасьць.**

**БЕЗЗВУЧІЕ, бяззычлівасьць, бязголсьлівасьць, бязгучлівасьць.**

**БЕЗЗЛОБІЕ, нязлосьлівасьць, безасердлівасьць.**

**БЕЗЫЗВѢСТІЕ, бязвесьлівасьць, бязведлівасьць, безведасць, безведзь.** *Безведзь дзе дзеўся. Безведзь сколькі іх было там.*

**БЕЗКАЧЕСТВЕННЫЙ, без'яказны.**

**БЕЗИМУЩЕСТВЕННЫЙ, безмаетны.** *Безмаетны народ: ні кала, ні двара.*

**БЕЗКОВАРНЫЙ, няклюдны** (ад **„клюдзіць“** — крывіць, блудзіць), **некрывадушны; шчыры, чыстасэрды, просты, безаблыжны.** *Ен чалавек шчыры, няклюдны. Кінь клюдзіць, праўду кажы.*

*Клюдзіць дзеўка, праўды не кажа.*

**БЕЗКОНЕЧНОСТЬ**, несканечнасьць, бязмежнасьць. *У несканечнасьць векавечную модлы закупіў.*

**БЕЗКОРЫСТІЕ** *ср.* безінтэрасоўнасьць, безкарыснасьць.

**БЕЗКРОВНЫЙ**, бязкроўны; бязкроуная жыла. *Абязкровілі чалавека.*

**БЕЗЛИЧНЫЙ**, безаблічны, несамавіты, безхарактарны.

**БЕЗЛУКАВНО**, безаблудна, безаблыжна, няклюдна.

**БЕЗЛУНІЕ** *ср.* бязмесячнасьць. *Ночкай цёмнай, бязмесячнай. Бязмесячныя восенскія ночы.*

**БЕЗМАЛА**, немаль, амаль.

**БЕЗМЕЗДІЕ** *ср.* безнаўднасьць, безплатнасьць, дарэмнасьць. *Безнаўдна працаваў цэлы тыдзень.*

**БЕЗМЕН** *м.* бязмен, кантар.

**БЕЗМОЛВІЕ** *ср.* бязмоўнасьць. *Бязмоўнасьцю сваей пацьвярджае закіды.*

**БЕЗМѢРНЫЙ**, нязмерны.

**БЕЗМѢСТНЫЙ**, бязмейсцы, бязслужны, безпасадны.

**БЕЗМЯТЕЖНЫЙ**, бязбурны, ціхі, супакойны, несумятлівы.

**БЕЗНАДЕЖНЫЙ**, безнадзейны, | безнадзея, безнадзейлівасьць.

**БЕЗНАКАЗАННОСТЬ**, безкарнасьць, безкарны.

**БЕЗНАМѢРЕННЫЙ**, безумысны.

**БЕЗНАСЛѢДЬЕ**, безспадковасьць, безспадчына.

**БЕЗНАЧАЛІЕ**, бяззьверхнасьць, бяззьверхніцкі.

**БЕЗНАЧАЛЬНЫЙ**, безпачатны, непачатны.

**БЕЗНРАВСТВЕННОСТЬ**, немаральнасьць, распуста.

**БЕЗНУЖНЫЙ**, безпатрэбны.

**БЕЗОБИДНЫЙ**, някрыўдны, бязкрыўдны.

**БЕЗОБЛАЧНЫЙ**, бязхм*а*рны, бязхм*а*рлівы, пагодны.

**БЕЗОБРАЗІЕ**, безпрыст*о*йнасьць, непрыст*о*йнасьць, бр*ы*дасьць.

**БЕЗОБРАТНЫЙ**, безпавар*о*тны.

**БЕЗОБРОЧНЫЙ**, безчынш*о*вы.

**БЕЗОГОВОРОЧНЫЙ**, безум*о*ўны, беззасьцяр*о*жлівы.

**БЕЗОПАСНЫЙ**, басьц*е*чны.

**БЕЗОРУЖНОСТЬ**, бяззбр*о*йнасьць.

**БЕЗОСТАНОВОЧНЫЙ** няўп*ы*ны, нясп*ы*ны, няўст*а*ны.

**БЕЗОТВѢТНЫЙ**, безадпав*е*дны, безадк*а*зны, неадк*а*зны.

**БЕЗОТВЯЗНЫЙ**, неадчэпны, неадкар*а*сьлівы.

**БЕЗОТГОВОРОЧНО**, неадм*о*ўна.

**БЕЗОТЕЦКІЙ**, безб*а*цькаўскі, безб*а*цькавіцкі.

**БЕЗОТЛАГАТЕЛЬНЫЙ**, неадл*о*жны, недвал*о*чны, безб*а*рны.

**БЕЗОТЛУЧНЫЙ**, неадст*у*пны.

**БЕЗОТНОСИТЕЛЬНЫЙ**, безум*о*ўны, сама*і*сты, незал*е*жны.

**БЕЗОТРАДНЫЙ**, безпат*о*льны, безусьц*е*шны.

**БЕЗОТЧЕТНЫЙ**, безу*я*уны, безсправаздатны. *Безуяўная туга. Безсправаздатнае гаспадараньне.*

**БЕЗОТ'ЕМЛЕМЫЙ**, неадн*я*тны.

**БЕЗОЧЕРЕДНЫЙ**, безчарг*о*вы, неўчар*о*дны.

**БЕЗОШИБОЧНЫЙ**, непам*ы*льны, безпамылк*о*вы, бязьх*і*бны, нях*і*бны.

**БЕЗПАМЯТНОСТЬ**, з*а*памкі, забыцьц*ё*, непрыт*о*мнасьць, н*е*памкі, няп*о*мнасьць.

**БЕЗПАМЯТНЫЙ**, незаб*ы*тны, няп*о*мны, непрытомны. *Незабытная і сьвятая памяць яго. Быў непрытомны перад скананьнем.*

**БЕЗПАРДОННЫЙ**, непашч*а*дны, безагл*я*дны.

**БЕЗПАЖИТНЫЙ**, **безпасьцьвежны**, **безпашны, ня маючый пашы.**

**БЕЗПЕРЕМЕЖНЫЙ**, **безпераменны**, **неўпераменны.**

**БЕЗПЕРЕМѢННЫЙ, нязьменны.**

**БЕЗПЕРСТЫЙ, бязпальцы.**

**БЕЗПЕЧАЛЬНЫЙ, безжурлівы, безжурботлівы, бязклопатны.**

**БЕЗПЕЧНОСТЬ, нядбайнасьць, нярупнасьць, нестарэннасьць,**

**БЕЗПЛОДНЫЙ**, які не дае плоду, **няплодны, бязплодны, нераджайны, ялы.** *Бязплодная маці. Нераджайная ніва. Ялая (ня меўшая плоду) карова, называецца ялаўка. Ялая зямля, размова.*

**БЕЗПЛОТНЫЙ**, **безцялесны**, ня маючый, цела.

**БЕЗПОДОБНЫЙ,** чаму або каму німа падобнага, роўнага: **бязроўны**, **незраўнаны,**

**БЕЗПОЗВОНОЧНЫЙ**, **безхрыбетны.**

**БЕЗПОКОЙСТВО, непакой, турбота, амбарас.**

**БЕЗПОКОЙНЫЙ, неўгамонны, неспакойны, клумлівы, рымслівы.**

**БЕЗПОКРОВИТЕЛЬСТВЕННЫЙ, беззаступны, безапякоўны**

**БЕЗПОЛЕЗНЫЙ, безкарысны, безужытны, няўжытэчны.**

**БЕЗПОМОЩНЫЙ**, **безпомачны, бязрадны.**

**БЕЗПОРОЧНЫЙ, бездаганны, бязсказны, бязганны** (ад „сказа“ і „гана“ — бракоўнасьць), **цны, цнотлівы.**

**БЕЗПОРЯДОК, безлад,** **змутня**, **сумяціца.** *Безлад у хаце. Змутня і замяшаньне паміж людзей. А чорныя людзі пад той час ўчынілі сумяціцу ў Смаленску.*

**БЕЗПОСРЕДСТВЕННЫЙ, безпасярэдны.**

**БЕЗПОЧВЕНЫЙ, бязгрунтоўны, безпадстаўны.**

**БЕЗПОЩАДНЫЙ, непашчадны, нелітасьцівы, безаглядны.**

**БЕЗПРАВІЕ,** **бязпр*а*ўе, няпр*а*ўства.**

**БЕЗПРЕДѢЛЬНЫЙ,** **бязкр*э*сны, бязм*е*жны.**

**БЕЗПРЕДМЕТНЫЙ,** **безаб'*е*ктны, безн*а*дбейны, безпадст*а*ўны.** *Безаб'ектная (безнадбейная) спрэчка.*

**БЕЗПРЕКОСЛОВНЫЙ,** **безадм*о*ўны, безпяр*э*чліві, безадгав*о*рны.**

**БЕЗПРЕМѢННЫЙ,** **неадз*о*ўны, кан*е*чны, нязьм*е*нны.**

**БЕЗПРЕПОННЫЙ,** **безпер*а*понны, безперашк*о*дны.** *Маеш безперапонны ўступ у маю пашу.*

**БЕЗПРЕРЫВНЫЙ,** **безперар*ы*ўны, безуст*а*нны, безуп*ы*нны.** *У іх у хаце безперарыўны гоман ды сваркі.*

**БЕЗПРИБЫЛЬНЫЙ,** **беззыск*о*ўны.** *Беззыскоўная праца.*

**БЕЗПРИДАННИЦА,** **безпас*а*жніца.** *Дзеўка — безпасажніца.*

**БЕЗПРИЗОРНЫЙ,** **бездагл*я*дны.** *Сірата бездаглядны.*

**БЕЗПРИМѢРНЫЙ,** **безпрыкл*а*дны.**

**БЕЗПРИНЦИПНЫЙ,** **беззас*а*дны.**

**БЕЗПРИСТРАСТНОСТЬ** *ж.* **безстар*о*ннасьць.**

**БЕЗПРИТЯЗАТЕЛЬНЫЙ,** **бязпр*ы*тасны.** *Па ім дзейся што хочаш; ужо такая бязпрытасная натура (Слонім. п.);*

**БЕЗПРИЧАСТНЫЙ,** **непрыч*ы*нны, недат*ы*чны; астар*о*нны.**

**БЕЗПРИЧИННЫЙ,** **безпрыч*ы*нны, безпадстаўны.**

**БЕЗПРІЮТНЫЙ,** **безпрыт*у*льны;** *Безпрытульная сірата.*

**БЕЗПРОГЛЯДНЫЙ,** **безпрасьв*е*тны.** *Безпрасьевтная цемра.*

**БЕЗПУТІЕ,** *ср.* **бездар*о*жжа.**

**БЕЗПУТНОСТЬ,** **ляд*а*часьць.** *Лядачы чалавек, калі пьяніца.*

**БЕЗРАЗБОРЧИВЫЙ**, неразборысты, не пераборчывы.

**БЕЗРАЗЛИЧІЕ**, безразрожлівасьць, безразрожліва.

**БЕЗРАЗСУДНОСТЬ**, бязглуздзіца, неразважнасьць, безгалоўе.

**БЕЗРОПОТНЫИ**, ненароклівы, пакорны.

**БЕЗСВЯЗНЫИ**, нязьвязлы, бяззьвязлы. *Бяззьвязлая гутарка. Зьвязласьці німа у яго мысьлях.*

**БЕЗСИЛІЕ**, *ср.* зьнясільнасць, зьнясільле, няўзмога, зьнямога, няўздужжа, бязмоцтва, абязмочаньне, асалавеласьць.

**БЕЗСКОРБІЕ**, *ср.* нясмутлівасьць.

**БЕЗСЛАВІЕ**, *ср.* ганьба, зьняслава. *Ганьба бацькоў ляжэ на патомных. Зьняславілі мяне чорнаю няпраўдай.*

**БЕЗСЛОВЕСНЫЙ**, бязмоўны. *Скацежына бязмоўная.*

**БЕЗСМЕРТІЕ** *ср.* несьмяротлівасьць, несьмяротнасьць. *Сьвяты несьмяротны. Душа несьмяротная вечна істнаваць будзе.*

**БЕЗСМЫСЛІЕ** *ср.* бязсэнсовасьць, бясэнсіца; нісянеціца.

**БЕЗСМѢННЫЙ**, нязьменны.

**БЕЗСМѢТНЫЙ**, незлічоны.

**БЕЗСОВѢСТНОСТЬ**, несумленнасьць.

**БЕЗСОДЕРЖАТЕЛЬНЫЙ**, беззьмястоўны.

**БЕЗСОЗНАТЕЛЬНОСТЬ**, несьвядомасьць, непрытомнасьць, бязведнасьць. *Выказаў ён поўную сваю несьвядомасьць у гэтых справах. Перад сканаьнем, у непрытомнасьці прагаварыўся. Бязведамнае дзіцятка. Бязведамна, з прасоньня, ўдэрыў.*

**БЕЗСОМНИТЕЛЬНО**, бязвотпліўна. *Ен бязвотпліўна ўсё ведае. Я Табе кажу бязвотпліўную праўду (Ваукавыск. п.);* безсумнеўна.

**БЕЗСПОРНЫЙ**, безпярэчны.

**БЕЗСРАМІЕ** *ср.* **бязочлівасьць, безсаромлівасьць, бязстыднасьць.**

**БЕЗСРОЧНЫЙ, безтэрміновы.**

**БЕЗСТВОЛЬНЫЙ, бязкмельны** *Бязкмельная расьціна (напр. папаратнік) Жолуд выпусьціў сьпярша кмялёк з лісточкамі, а пасьля і галінкі (Рэчыцк. пав.)* Кмяліна, кмялень.

**БЕЗСТЕБЕЛЬНЫЙ, бязладыгі** ліст, зростна сідзячы на галіне.

**БЕЗСТРАСТІЕ** *ср.* **незапальчывасьць, безжарчытасьць, някрэўкасьць.**

**БЕЗСТРАШІЕ** *ср.* **неўстрашлівасьць бязбоязнасьць, нязлосьлівасьць, бязбоязлівасьць непалохлівасьць, няўпудлівасьць, нестрахотлівасьць.**

**БЕЗСТЫДЛИВОСТЬ** *ж.* **бязочлівасьць, бязстыдлівасьць, безсаромлівасьць.**

**БЕЗЧАСТІЕ** *ср.* **няшчасьце, бязчаснік-ца.**

**БЕЗСЧЕТНЫЙ, незьлічоны, несчысьлёны.**

**БЕЗТАЛАННЫЙ, бяздольны, бяздольнік-ца**

**БЕЗТОЛКОВЫЙ, бязглузды, бязладны.**

**БЕЗТОЛКОВОСТЬ** *ж* **бязглуздзіца.**

**БЕЗТРЕПЕТНЫЙ, бязтропатлівы, бязатропатны, бязтропаткі.**

**БЕЗТѢЛЕСНЫЙ, бязцелы.**

**БЕЗТАЛАННЫЙ** *франц.* без таленту, з абмежанымі здольнасьцямі; **няўдольны, бяздольны, бяздольнік-ца.**

**БЕЗУБЫТОЧНЫЙ, бязстратны, безуупадны.**

**БЕЗУДЕРЖНЫЙ, нястрымлівы, бязстрымлівы, бязутрымны.**

**БЕЗУКЛОННЫЙ, неадклонны, няўгібны.**

**БЕЗУКОРИЗНЕННЫЙ, бездаганны, бязганны.**

**БЕЗУМІЕ** *ср.* **шал, варьяція.**

**БЕЗУМОЛЧНЫЙ, безусьцішны, бязмоўчны.**

**БЕЗУПОКОЙНЫЙ, несупакойлівы.**

**БЕЗУПРЕЧНЫЙ, бездакорны, беззакідны.**

**БЕЗУПУСТИТЕЛЬНЫЙ**, **безпасл*а*бліва, п*і*льны.**

**БЕЗУРЯДИЦА, безл*а*дзіца.**

**БЕЗУСЛОВНЫЙ, безум*о*ўны.**

**БЕЗУСПѢШНЫЙ, безусьц*і*жны.**

**БЕЗУСТАЛЬ, устав*і*чна, няўст*а*нна.**

**БЕЗУСЫЙ, бязв*у*сы, галам*о*ўзы, галам*у*з.**

**БЕЗУХАННЫЙ, непав*о*хны, непахн*ю*чы, няп*а*хны.**

**БЕЗУХІЙ, бязв*у*хі, карнав*у*хі.**

**БЕЗУЧАСТІЕ** *ср.*, **роўнад*у*шнасьць, ап*а*тія, неспаг*а*длівасьць.**

**БЕЗХВОСТЫЙ, бязхв*о*сты, курт*а*ты.**

**БЕЗХИТРОСТНЫЙ, бязх*і*тры, пр*о*сты, шч*ы*ры.**

**БЕЗХЛОПОТНЫЙ, бязкл*о*патны, бязкл*о*патлівы.**

**БЕЗЦВѢТНЫЙ,** аб расьцінах не выпускаючых квету: **бязкв*е*тны.** *Папаратнік расьціна бязкветная (бязкрасая).*

**БЕЗЦВѢТНОСТЬ,** нястача колеру, барвы, масьці; **бязк*о*лерны, бязб*а*рвісты, безм*а*сьцісты, сьвяны.**

**БЕЗЦѢЛЬНЫЙ, бязмэтны.**

**БЕЗЧАДНЫЙ, бяздз*е*тны.**

**БЕЗЧЕРЕДНЫЙ, неўчар*о*дны, нечарг*о*вы.**

**БЕЗЧЕЛОВѢЧІЕ, нял*ю*дзкасьць.**

**БЕЗЧЕСТІЕ** *ср.* **г*а*ньба, зьняв*а*га.**

*Мы-ж цябе, пане, не зьневажаем,*
*З сьвятым Васільлем паздараўляем.*
*(Рам. VIII—IX. 110).*

*Зганьбілі дзяўчыну на чэсьці. Кожды зьняважаецца паступкамі сваімі. Лепей сьмерць чым ганьба.*

**БЕЗЧЕШУЙНЫЙ, бязл*у*згі.**

**БЕЗЧИНСТВО** *ср.* закалот парадку, прыстойнасьці, абычайлівасьці; **бу*я*нства, бяр*э*длівасьць, бяр*э*джаньне, непрыст*о*йнасьць, неабыч*а*йлівасьць.**

**БЕЗЧИСЛЕННЫЙ, незліч*о*ны, несчысьл*е*ны.**

**БЕЗЧЛЕННЫЙ** у каго німа часьці цела—**чэляса; бязчэлясны.**

**БЕЗЧУВСТВІЕ** *ср.* **безпачоўнасьць, безпачоўлівасьць, непрытомнасьць.** *Безпачоўная скацежына. Да бязпочаву напіўся. Пасьля сутаргаў упаў у непрытомнасьць.*

**БЕЗЫЗБАВНЫЙ, невызбаўны, безвызбаўны.**

**БЕЗЫЗБЫВНЫЙ, непазбыўны, немінучы.**

**БЕЗЫЗБѢЖНЫЙ, неўнікнёны.** *Неўнікнёна будзе, што будзе.*

**БЕЗЫЗВОДНЫЙ, невыпленны,** чаго нельга выпленіць.

**БЕЗЫЗВѢСТНЫЙ, бязведамны.**

**ЕЕЗЫЗГИБНЫЙ, невыгібны, невызгібісты.**

**БЕЗЫЗЖИВНОЕ, неспажытнае.** *Неспажытнае гора.*

**БЕЗЫЗМѢННЫЙ, несызменны.** *Несызменная варта.*

**БЕЗЫЗНОСНЫЙ, несызносны.** *Несызносная сьвіта.*

**БЕЗЫЗ'ЯТНОЕ, невызнятнае** (права).

**БЕЗЫМЕННЫЙ** (палец), **мезянік, мезяны.**

**БЕЗЫСКУСНЫЙ, няштучны, просты, натуральны.**

**БЕЗЫСХОДНЫЙ, бязвыходны**

**БЕЗ, бяз.** *А бяз скрыпкі бяз дуды, ходзяць ногі не туды.*

**БЕКЕША** *ж, адзежа,* **вэнгерка, казакін.**

**БЕКРЕНЬ** *ж.* **бакір, на бакір.**

**БЕЛЕНА** *ж. расьціна: Hyostiamus niger;* **блёкат.** *Чаўпе як блёкату абьеўшыся.*

**БЕЛЬМЕС** *м. татар.* **дурань, целяпей, пабойня** ў значэньні нічога неразумеючага.

**БЕРЕГ** *м.* ўзаемны рубеж зямлі і вады; сумежны з вадой край зямлі; кожды руб, край; **бераг.** *Рака беражыстая. Наўзьбярэжны ракі шумнацечнай (Купала),*

**БЕРЕДИТЬ, ятрыць;** Разьятрыў старыя раны.

**БЕРЕЖЛИВОСТЬ, ашчаднасьць.** *Ашчаднасьць дае багацьце.*

**БЕРЕЗА** *ж.* дрэва *Betula alba;* **бяроза, бярза, берка.** Бярозавы брус. *Берку пасадзіў пры хаце.* **Берка,** *такжа, бярозавы сок. Гора мужыкова ніколі не пад, есьць хлеба з беркай (Нікіфороўскі).*

**БЕРЕЗОВИК,** *грыб,* **масьлюк, лапшак.**

**БЕРЕМЕННОСТЬ, ціжарнасьць.** *Ціжарная кабета, пяты ўжо месяц ходзіць у цяжку.*

**БЕРЕЧЬ, шчадзіць.** *Шчадзі каня ў дарозе. Шчадзі капейку на чорну гадзіну. Ен ашчадна жыве.*

**БЕРЛОГА** *ж. ням.,* **мярлог, лагво.** *Мядзьведжае лагво (мярлог).*

**БЕРЦО** *ср.* часьць нагі паміж каленам і ступоіі, зложанная з двох костак ва ўсю даўжыню і мяккіх часьцей, **лытка;** косьці: большая—**пішчэль,** меншая—**гічэль.**

**БЕСѢДА** *ж.* ўзаемная размова, таварыская гутарка; **бясёда, бясёдаваць, субясёднік; гутарка, гутарыць.**

**БЕСѢДКА,** лёгкі будынак для адпачынку; **летамка, альтанка,**

**БЕЧЕВА, шнур, шнурок, лямка, бічак, вярчопка.** Цягнуць стругі на лямцы. Цэп прывязан да цэпавіла бічаком. Згортак зьвязуюць вярчопкай.

**БИБЛІОТЕКА** *ж.* мейсца дзеля перахову кніг; **кніжня, кніжніца**—зьменшанае ад кніжня; так сама як ад кніга зьменшанае—„кніжыца“.

**БИБЛІОТЕКАРЬ** *м.* **кніграр.**

**БИБЛІОГРАФІЯ, кнігапісь.**

**БИВАК** *м.* разпалажэньне войск або зборышча людзей часовае, пад адкрытым небам; **табар, стан.**

**БИНТ** *м. мэд. ням.* **повязь, павязка.**

**БИРЮЗА** *ж. татар.* непразрысты блакітны камень: **туркус.**

**БИРЮК** *м. татар.,* **воўк, сірамаха.**

**БИРЮЧЬ** *м. татар.*, чалавек апавешчаючый крыкам па вуліцах і пляцох пастановы ураду; **запаведнік, глашатай.**

**БИСЕР** *м.* дробныя шклянныя пронізні да дамскіх строяў; **пацеркі.**

**БИТЬ, біць, праць, лупцаваць, сечь, кокнуць, кокаць.** *За аднаго бітага семера нябітых даюць. Біток, разбіўны катлет. Біткі ў сьмятане; а так-жа крэпкае яйко. Бітка атыграная ўзятка* у гульне ў карты. Бітун, задзіра, буян. Біцік, выбітый, дастаўшый лупцоўку хлапец. *Перануў яго калом па галаве, а маскалі перацъ яго папліскаю (Сержп.) Лупцуй яго шэльму не шкадуючы. Наварачваючы з уніяцкай у рускую веру секлі розгамі, вадой адліваючы. Кокнуў кулаком па карку; чыста закокалі хлопца.*

**БИВЕНЬ** *м.*, **клык.**

**БИТЮК, БИТЮГ** *м.* сільны, цяжкі конь да перавозу цягараў—**аргамак.**

**БИЧЕВА** *ж.* ценкая вяровачка да зьвязваньня, прывязваньня чаго; вяроўка скручаная з разсучаных старых, прасмоленых, снасьцяў—**аборына, лейчына, вярчына, вярчопка.**

**БІЕНІЕ** *ср.* **біцежа, біцьцё.** Не біцьцё яго болесна, а зьнявага. *Біцежа сэрца. Прылажы вуха да грудзей, то пачуеш як сэрца* **тукае.**

**БІОГРАФІЯ** *ж. грэцк.* **жыцьцеапісаньне, жыцьцёпісь.**

**БЛАГІЙ, болагі, добры**

**БЛАГОТА** *ж.* **добрасьць, добраць болагасьць.**

**БЛАГОСТЫНЯ** *ж.* як прыналежнасьць чалавека: **ласкавасьць, дабрадзейнасьць, спогад;** аб рэчах: **дар, датак, гасьцінец.**

**БЛАГО** *црк.* **балазе.** *Балазе яны прышлі, а як бы не? (смл.). Балазе ён сказаў (смл.). Балазе багат, акткупішся.*

**БЛАГОВИДНОСТЬ** *ж.* **пристойнасьць.**

**БЛАГОВОЛЕНІЕ** *ср.* **прыяйнасьць, зычлівасьць.**

**БЛАГОВОЛЬНЫЙ**, **дабрав*о*льны.**

**БЛАГОВОННОСТЬ** *ж.* **в*о*хнасьць. в*о*хны, в*о*т-хнеўны.** Вохны пах дымоў цім'янных.

**БЛАГОВОСПИТАННОСТЬ** *ж.*, якасьць, свомасьць добра выхованага; **вых*о*ваньне.**

**БЛАГОВРЕМЕННОСТЬ**, **уч*а*снасьць, заўч*а*с-насьць.**

**БЛАГОВѢРІЕ** *ср.*, **правав*е*рнасьць, правав*і*т-насьць.**

**БЛАГОВѢСТІЕ** *ср.* апавешчаньне каму радасьці, радаснай навіны; апавяданьне праўдзівай веры; **даб-разьв*е*сьцьця, дабразв*е*сьлівасьць.**

**БЛАГОВѢЩЕНІЕ,** сьвята на ўспамін зьвеставань-ня Дзеве Марыі (25 кавіка); **Зьв*е*staваньне, Ба-гав*е*шчаньне.**

**БЛАГОВѢСТ**, звон у адзін, сярэдні, звон, — **пр*о*зьвесьць,**

**БЛАГОГЛАСНЫЙ**, **мілаг*у*чны.**

**БЛАГОГОВѢТ,** баяцца і карыцца; карыцца ў нік-чэмнасьці сваей перад высшым; выказываць каму безумоўную пакору і пашану; **багав*е*ць.**

**БЛАГОГОВѢНІЕ** *ср.* мешаніна страху і пакоры; **багав*е*йлівасьць.**

**БЛАГОДАРИТЬ** *каго* **дз*я*каваць.**

**БЛАГОДАРЕНІЕ,** *ср.* **падз*я*ка.**

**БЛАГОДАРНЫЙ**, **ўдз*я*чны.** *Ад ўдзячнага па-томства.*

**БЛАГОДАТЬ** *ж. црк.* дар Духа Сьвятога; помач сасланая звышшы, да выпаўненьня волі Божай; **пра-сьв*я*да.**

**БЛАГОДАТНЫЙ** напоўнены Духам Божым, во-ляй, сілай; даруючый шчасьце, дабро; **шч*а*сьл*і*вы; прасьв*я*дны.**

**БЛАГОДЕНСТВО** *ср.* **шч*а*снасьць, пам*ы*снасьць, дабраб*ы*т.**

**БЛАГОДЕНСТВОВАТЬ,** жыць **шчасьл*і*ва, зда-в*о*льна, ў дабраб*ы*це.**

**БЛАГОДУШІЕ** *ср*. **дабрад*у*шнасьць.**

**БЛАГОДѢЯТЬ**, **дабрач*ы*ніць.**

**БЛАГОДѢТЕЛЬНЫЙ**, **дабрач*ы*нны.**

**БЛАГОДѢТЕЛЬНОСТЬ**, **дабрач*ы*ннасьць.**

**БЛАГОДѢТЕЛЬ**, **дабрач*ы*нца.**

**БЛАГОЖЕЛАНІЕ** *ср*. **дабрах*о*тліваcьць.**

**БЛАГОЖЕЛАТЕЛЬ**, **дабрах*о*тлівец.**

**БЛАГОЗАКОНІЕ**, **дабрапр*а*ўства.**

**БЛАГОЗВУЧІЕ** *ср*. **дабраг*у*чнасьць**, **мілаг*у*ч-насьць,**

**БЛАГОЗНАМЕНАТЕЛЬНЫЙ**, **дабрав*е*сьлівы.**

**БЛАГОЗНАМЕНИТЫЙ**, **дабрасл*а*ўны.**

**БЛАГОЗРАЧНЫЙ**, **дабрав*і*дны**, **дабрав*і*сты.**

**БЛАГОИЗБРАНІЕ** *ср*. **дабрав*ы*бар.**

**БЛАГОИЗВОЛЯТЬ**, **прызвал*я*ць.**

**БЛАГОИЗВОЛЬНЫЙ**, **прызв*о*льны.**

**БЛАГОИЗВОЛЕНІЕ**, **прызвал*е*ньне.**

**БЛАГОИСКУСНЫЙ**, **дабраўм*е*йны.**

**БЛАГОЛИЧІЕ** *ср*. **прыст*о*йнасьць.**

**БЛАГОЛѢПІЕ** ср. **азд*о*бнасць**, **ур*о*чыстасьць**

**БЛАГОЛѢПНЫЙ**, **азд*о*бны**, **ур*о*чысты.**

**БЛАГОЛЮБІЕ** *ср*. **дабрал*ю*бнасьць.**

**БЛАГОЛЮБЕЦЪ**, **дабрал*ю*бъ.**

**БЛАГОМИЛОСТИВЫЙ**, **ласк*а*вы.**

**БЛАГОМОЩНЫЙ**, **дабрам*о*цны.**

**БЛАГОМУЖЕСТВЕННЫЙ**, **дабрам*у*жны.**

**БЛАГОМЫСЛІЕ**, **дабрад*у*мнасьць**, **дабрам*ы*с-насьць.**

**БЛАГОНАДЕЖНЫЙ**, **вераг*о*дны**, **дабрав*е*рны.**

**БЛАГОНАМѢРЕННЫЙ**. **дабраг*а*дны**, **дабра-х*о*тны.**

**БЛАГОНРАВІЕ**, **абыч*а*йліваcьць.**

**БЛАГОНРАВЛИВЫЙ**, **абыч*а*йлівы.**

**БЛАГООБРАЗІЕ**, **прыст*о*йнасьць.**

**БЛАГОПОДАТЕЛЬ**, **дабрад*а*вец.**

**БЛАГОПОЛУЧІЕ**, **дабрастотн*а*сьць, шчаснасьць.**

**БЛАГОПОЛУЧНО**, **дабраст*о*тна**, **шчасна**,

**БЛАГОПОСПѢШЕСТВОВАТЬ**, **спамаг*а*ць**, **спрыяць.**

**БЛАГОПРЕКЛОННЫЙ**, **прых*і*льны.**

**БЛАГОПРИВѢТСТВІЕ**, **дабрав*е*тласьць**, **дабрав*е*тлівасьць.**

**БЛАГОПРИЛИЧІЕ** *ср.* вышэйшая ступеня прыстойнасьці; гармонізаваньне ўсіх слоў і паступкаў з абычаямі і жыцёвымі рэгуламі; **абыч*а*йлівасьць.**

**БЛАГОПРІОБРѢТЕНІЕ** *ср.* **дабранаб*ы*тнасьць.**

**БЛАГОПРІЯТНЫЙ**, **даг*о*дны**, **спры*я*йны.**

**БЛАГОПРІЯТСТВО**, **спры*я*йнасьць.**

**БЛАГОПРІЯТСТВОВАТЬ**, спры*я*ць.

**БЛАГОПРІЯТЕЛЬ м.—НИЦА ж.**, **спры*я*йнік,—ніца.**

**БЛАГОРАЗСМОТРѢНІЕ** ср. **праваc*у*дзтва.**

**БЛАГОРАЗСУДСТВО**, **дабрам*ы*снасьць**, **дабрад*у*мнасьць.**

**БЛАГОРАЗУМІЕ** ср. **разв*а*га**, **м*у*драсьць.**

**БЛАГОРАЗУМНЫЙ**, **разв*а*жны**, **м*у*дры.**

**БЛАГОРАСПОЛОЖЕНІЕ** *ср.* **спаг*а*длівасьць.**

**БЛАГОРАСТВОРЯТЬ**, злучаць цякомыя, або паветравыя часткі ў карысны і прыемны уклад: **адабратл*я*ць**, **адабр*о*твіць**, **адабр*о*тленьне.**

**БЛАГОРОДІЕ** *ср.* дваранскае паходжаньне, даўней тытул дваран*і*на і кождага афіцэра: **крывічэснасьць**, **дабрар*о*днасьць.**

**БЛАГОРОДСТВО** *ср.* пачуцьцё праўдзівай чэсьці і маральнасьці: **крывічэсьлівасьць.** *Крывічэсьлівы паступак.* **Дабрар*о*длівасьць.**

**БЛАГОСКЛОННОСТЬ**, **прых*і*льнасьць.**

**БЛАГОСЛОВЕНІЕ** *ср.* **благасл*а*ўленьне**, **багасл*а*ўленьне.**

**БЛАГОСОСТОЯНІЕ** *ср.* **дабраб*ы*т.**

**БЛАГОСТРОЙНЫЙ**, **дабрал*а*дны.**

**БЛАГОТВОРЕНІЕ** *ср.* **дабрач*ы*ннасьць.**

**БЛАГОТВОРИТЕЛЬ, дабрач*ы*нец.**

**БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ, дабрач*ы*ннасьць.**

**БЛАГОУСМОТРѢНІЕ, ласк*а*васьць.**

**БЛАГОУХАТЬ, дабрав*о*хнуць, п*а*хнуць.**

**БЛАГОУХАТЕЛЬНЫЙ, дабрав*о*хны, пах*у*чы.**

**БЛАГОУХАНІЕ, дабрапав*о*хнасьць, пах, водар.**

**БЛАГОЧЕСТІЕ** *ср.* **багаб*о*йнасьць.**

**БЛАГОЧЕСТИВЫЙ, багаб*о*йны.**

**БЛАГОЧИНІЕ** *ср.* паслухмянасьць, парадак, спакой, **добрапар*а*днасьць.** Некολькі парохій пад загадам старшага сьвятара,—**дэкан*а*т.**

**БЛАЖЕННЫЙ, шчасьл*і*вы, шчасьл*і*вец.**

**БЛАЖЕНСТВО** *ср.* **шч*а*снасьць, р*о*скаш, пам*ы*снасьць.**

**БЛАЖИТИ, сл*а*віць, высл*а*ўляць.**

**БЛАЖНОЙ, недар*э*ка, памяш*а*ны.**

**БЛАНК** *м.,* чыстая папера, папера з подпісьсю бяз тэксту: **беляг.**

**БЛЕВАТЬ, р*ы*гаць, варац*а*ць, бякаць, вамітаваць.**

**БЛЕКНУТЬ,** пазбаўляцца сьвежасьці, жыцьцёвых сокаў: **сьвянуць, сьвяны, сьвянець.** *Пасьвялі краскі. Шчокі сьвянуць і валасы стрыгуцца.*

**БЛЕНДА** *ж. горн.* рудны блеск: **лышч*а*к.**

**БЛЕСТѢТЬ,** выдзяляць, або адбіваць яркае сьвятло; **блішчэць, лышчэць, палыскав*а*ць, ільсьн*е*ць, зігц*е*ць, сьвігц*е*ць, сьліб*е*ць.** *Ня ўсё тое золата што блішчыць. На сонцы і кал палыскуе. Начышчаныя ліхтары аж лышчаць. Раса аж ільсьніцца, сьлібіць. Золата не агонь, хоць блішчыць ды не зігціць. Аганёк сьвігнуў і згас. Але, ось, і пачаў Пярун палыскаць (Сержп. стр. 14).*

**БЛЕСК** *м.,* **бліск, бліск*у*часьць, п*о*лыск.**

**БЛЕСНУТЬ, бл*і*снуць, л*ы*снуць, зігн*у*ць, сьвігн*у*ць.**

**БЛЕСТКА**, бляшачка ўжываная у гафтарскіх работах: **бл*і*шчык**.

**БЛЕСНИТЬ**, абдаваць або разіць бліскучасьцю; **лышчэць**. *На гладкай паперы цяжка пісаць бо лышчыць. Палысьні люстэркам. Веснавы сьнег лышчыць, аж вачам болесна.* **Лышчэць, палыскаць**.

**БЛИЗЬ** *чаго*, **наўзбл*і*зь, каля**

**БЛИЖЕ**, **бліжэй**, **бліжчэй**.

**БЛИЖНІЙ**, кожды чалавек у стасунку да другога: **бл*і*жні, бл*і*жак, бліжанец**. *Усе людзі адзін аднаму бліжнія. Любі бліжака свайго, як самога сябе. Ня зыч бліжанцу свайму благога.*

**БЛИЗНЕЦ** *м.* **блізьняк, блізьнец, блізьняцкі· блізьняты.**

**БЛИЗОРУКІЙ**, у каго кароткі зрок, хто бачыць толькі зблізка: **пан*і*клівы**.

**БЛИЗОРУКОСТЬ, пан*і*клівасць, пан*і*кліваца**.

**БЛИК** *м. ням. маляр.*, яркае сьвятло, кладзенае на тыя мейсцы абраза, якія так асьвечаны, што блішчаць: **ясв*а*, ясьвін*а*, бліс*а***.

**БЛИН** *м.* **блін, блінец, аладак, налесьнік, грыбок, корж, сачэнь, цадавік**. Бліны бываюць пшанічныя, аржаныя, ячныя, гарохавыя, аўсяныя, бульбяныя, прэсныя і кіслыя. На ўсю скварaду печаны, калі ён тоўсты, носіць агульную назову—блін, калі тоўсты і сухі, з молатай мукі—корж; з пшанічнай мукі на яечнай пенцы і масьле—грыбок; са ўсякай мукі на макавым ці канапельным малаку—сачэнь; з аўсянога цэду—цэдав*і*к, цадав*е*нь; з пшанічнай мукі тонкі блін—**нал*е*сьнік**; дробныя блінцы кругленькія—ал*а*дкі.

**БЛОК** *м.* дзьве дрэўляныя лапы паміж якімі ўстаўлена на восі шпуля з пазам пасярэдзіне; **чакал*а*, шпульг*а*, пярасьвер**.

**БЛОХА** *ж.* чужапасны інсэкт: **блах*а*, скочка**.

**БЛУД** *м.* слова гэга, са ўсімі выводнымі, мае дваякі сэнс: а) адкланеньне ад простай дарогі ў простым і пераносным значэньні і б) царкоўны і кніжны—у значэньні цялеснага грэху і бязшлюбнага су-

жывецтва; ў першым значэньні: **блук*а*ць, блудз*і*ць**; **блудн*і*к**, мейсца дзе блудзяць, дзе блудныя дарогі. У другім значэньні: **бл*у*дзень**, **бл*у*дніца**, **блудадз*е*йства**.

**БЛѢДНЫЙ**, **бл*е*дны**, **бл*е*днуць**, **бледнал*і*кі**; **мярцьв*я*ністы**.

**БЛѢДНО-АЛЫЙ**, **чырв*о*ністы**.

**БЛѢДНО-ГОЛУБОЙ**, **блакіц*і*сты**.

**БЛѢДНО-ЗЕЛЕНЫЙ**, **зелен*я*вы**.

**БЛЮСТИ** *каго. што,* **сцерагч*ы***, **надзір*а*ць**, **зах*о*вываць**.

**БЛЮСТИТЕЛЬ** *м.* **надз*о*рнік**, **зах*о*ўнік**.

**БЛЮДО** *ср.* вялікая плосмая міса: **паўм*і*сак**, **тал*е*рка**, **гл*а*тка**, **цын*а*тка**, гэта апошняе названьне тасуюць калі талерка бывае цыновая.

**БЛЮДО** *ср.* ежа падаваная па стол: **стр*а*ва**. *Абед з трох страў.*

**БЛЮДЕЧКО**, падстаўка пад шклянку ці чашку: **сп*о*дак**, **сп*о*дачак**, **тайст*э*рка**.

**БЛЮДОЛИЗ** *м.* **місал*і*з**, **місал*і*зьнік**.

**БОБОВИДНЫЙ**, **бабч*а*сты**.

**БОГАДѢЛЬНЯ** *ж.* прытулак для старых і калек; **шпіт*а*ль**, **уб*о*жніца**.

**БОГАТСТВО** *ср.* **баг*а*цьце**, **баг*а*цтва**. Багацтва пушыць, а убожства сушыць. Конь бяз уздэчкі, а багацьця бяз розуму. Баг*а*та—многа, засобна. Баг*а*ч, эпітэт агня, Багат*ы*р, багаты чалавек. Баг*а*ты, багач*э*й засобны, ўсяго маючы. Багатка расьліна называная пе расійску—одуванчик.

**БОГАТЫРЬ** *м. татар.* баечны сілач, пабіваючый адным махам многа ворагаў і розныя дзіватворы: **в*о*лат**, **хар*о*бр**, **палян*е*ц**, **маг*у*т**.

**БОГ** *м.* **Бог**. **Б*о*жанька**, **Б*о*жухна**.

**БОГИНЯ** *ж.* **баг*і*ня**, **багавіца**, **б*о*гаўка**.

**БОГОБОЯЗНЕННОСТЬ**, **богаб*о*йнасьць**.

**БОГОБОЯЗЛИВЙ**, **богаб*о*йны**.

**БОГОВДОХНОВЕННЫЙ**, **натхн*е*нны**.

**БОГОМАТЕРЬ, Маці Божа.**

**БОГОМОЛ** *кузурка,* **струмель.**

**БОГОНЕНАВИСТНИК** *м.* **баглай, баглайнік.**

**БОГОСЛУЖЕНІЕ** *ср.* **набажэнства, адправа;** царкоўная адправа, адправа імшы сьвятой.

**БОГОТВОРИТЬ, багоміць.**

**БОГОУГОДНИК, справядлівец, багагоднік.**

**БОДАТЬ** *каго,* калоць, калоць рагамі; **басьці, бадзецца, бадун, бадлівы.** *Бадлівай карове Бог рог ня дае. Нaш вол бадлівы, заўсёды з другімі валамі бадзецца, дык мы яго бадуном завём. Толькі вол хацеў другога басьці, ажно той, як баднуў яго ў слабізну. Бадыль, будыль, калючка на расьцінах.. Бадавіла, бадавень. рагаціна з вострым канцом.*

**БОДРЫЙ,** бойкі, жвавы, **чапорны, чапоры, чоўны, крэзвы.**

**БОДРИТЬ, чапорыць, сьмеліць, чуняць, кразьвіць,**

**БОДРИТЬСЯ, чапорыцца, харахорыцца, крэзьвіцца.**

**БОДРСТВОВАТЬ,** ня спаць, не драмаць; **чуняць.**

**БОЕВОЙ, бойны, бітны.**

**БОЖЕСТВО, божышча.**

**БОЖИТЬСЯ, бажыцца, кляношыцца, прысягацца.**

**БОЙ, бітва.**

**БОЙНЯ** *ж.* мейсца дзе бьюць жывёлу на мяса: **рэзня. Разьнік,** той хто рэжа жывёлу на мяса. **Касапніца,** слова паходзіць ад названьня разьніцкага нажа „**сяпаг**“; сяпануць, ткнуць разьніцкім нажом, цяць нажом па целе; сяпажыць, займацца сяпацтвам; сяпач, разьнік, скурадзёр, кат, палач.

**БОКАЛ** *м. лац.* вялікі на высокай ножцы, **кубак, келіх.**

**БОК** *м.* старана рэчы; у кождай рэчы ёсьць верх і ніз, рэшта зьнесеніх плосмаў называюцца бакамі,

калі выключыць зад і перад, то будуць два бакі, правы і левы. *Таму казак і гладак, што пад'еў ды на бак. Ні ў бок ні ў старану. Калі скокам, а калі і бокам. Старана, край, бераг: Перавязі мяне на той* **бок** *Дзьвіны. У нашым баку гэтага яшчэ не чуваць.*

**БОКОВОЙ, субочны, наўзбочны.** *Зыйдзі ў субочную вулку. Ен яго атазваў* **насубачі** *нешта сказаў. Наўзбочная дарожка. Наўзбочнік панскі.*

**БОЛВАНКА** *ж.* калодка ў краўцоў да пегленьня (прасаваньня) швоў: **цяльпушок.**

**БОЛДА** *ж.* пабойня да шчапаньня дроў; **цяльпага пабойня.**

**БОЛОНЬ** *ж.* усё што адзявае, абцягае; плеўка, пузыр, грудна-брушная перапонка; маладыя, яшчэ не аць вярдзеўшыя слаі дрэва; шыба шкла ў раме: **балона, абалона.**

**БОЛОТО** *ср.* не перасыхаючая гразь. Балота бывае махавое—амшарына, калі яно зарошае мохам; алёсістае, алсье, зарошае балотнымі травамі творачымі торф або алёс; **дрыгва, крокаць**, калі рэдкая гразявая каша пакрыта зьверху зыбкай карой, руда, арша, **аршавіна** з комьямі жалезнай іржы.

**БОЛТАТЬ,** прывадзіць цечу ў рух: **баўтаць.** Баўтаць языком; **баўтаць, баўбатаць, бляврзгаць, блявурзіць.**

**БОЛТАТЬСЯ, баўтацца, цялёпкацца, путлацца.** *Боты баўтаюцца на нагах. Мы абаўталіся на сьвеце. Цялёпкаецца між небам і зямлёй, як казлова барада. Шабля пры баку цялёпкаецца. Путлаецца, як сьмятана ў бойцы. Надылбом пяро путлаецца.*

**БОЛТ** *м. англ.* жалезны тоўсты цьвек не вастраканечны, а з вушком і загваздкай; **шворан, знузень.**

**БОЛЬ** *ж.* самае пачуцьце цялеснай мукі, **боль.** Пачуцьце болю, мукі, нездароўя, духовая мука: **болесьць, болесны, болькасьць.** *Ніхто болькасьці матчынага сэрца ня вызьведаў.* **Болесьцівы,** *склонны к хваробе, хворы, збалелы, душой. Маці*

*болесьлівая. Боляўка, балячка, болька нарыў верад, прышчык.*

**БОЛЬНИЦА** *ж.* установа для лячэньня хворых, **лазарэт, лячомніца.**

**БОЛЬШОЙ, вялікі, вялічэзны, абшырны, аграмадны.** Бальшак-нка старшы-ая дружка пры маладой (Смал.).

**БОЛЬШИНСТВО, большасьць.**

**БОЛЀЗНЬ** *ж.* **хвароба, нядужжа, хворасьць.**

**БОЛЀЕ, больш, балей.**

**БОЛЯЧКА** *ж.* **болька, прышч, струп.**

**БОРДЮРЬ** *м. франц.* **шляк.**

**БОРЗОЙ** *а сабаках,* **хорт.**

**БОРМОТАТЬ,** гаварыць не выразна, скора і сабе пад нос; **марматаць, мамрыць.** Мармыль, той хто мармоча; надуты, нахмылены чалавек.

**БОРОВ,** *м.* кладзены кабан, кнур; **парсюк, вяпрук, вепр.**

**БОРОЗДА** *ж.* рэз жалабом зроблены сахой або плугам: **баразна, баразіць, баразнаваць; разора. Барозістая,** ральля.

**БОРОЗДИТЬ,** рэзаць ральлю бараной: **баранаваць, скародзіць.**

**БОРОНА** *ж.* **барана, скарада.**

**БОРОТЬ** *каго,* асіліваць, перамагаць, сходаць, здужаць боручыся або ў бойцы; **бароць, перамагаць.**

**БОРОТЬСЯ** з кім, **ходацца, барукацца, дужацца, змагацца, доляцца.**

**БОРЬБА** *ж.* **змаганьне, барацьба, дужаньнеся, доляньнеся.**

**БОРЕЦ** *м.* **змагар, змаганьне; барацьбіт, дужбіт.** Змагарна, пабедна, дасьцігаючы пабеду змаганьнем. *Наперад, змагарна наперад да волі цярэбячы троп.*

**БОРТ** *м. франц.* рабро, грэбень; у тканінах: **крайка, пруг.**

**БОСИКОМ**, **басанож**, **басаногі**, **басаножка**, **басанка**.

**БОСЯК** *м.* **басота**, **галцяй**, **галцяйства**.

**БОТВА** *ж.* пень і лісьця травяністых, асабліва караняплодавых: **батаўе**, **батузьзё**, **буцяўё**, **буцявіна**, Буцець, разбухаць як травяністы лісьць, таўсьцець; Бацьвіньня, ладыгі бурачанага ліста ўжываныя на ежу;названьне стравы з бацьвіньня. Нацьвіньне, націвa, зелень дробных траў, асабліва гародных; бруквы, морквы, пятрушкі, цыбулі. Батугі, пні травяністых. Батог, мяккі, плецены з рэмяня гарапнік. Бутуз, малы, пухлы хлапец. Буцець, таўсьцець, набухаць, сыцець, расьці.

**БОТИНКА** *ж. франц.* паўбоцікі з кароткімі поратымі халяўкамі на зашпілках, завязках або гумілястыцы: **камашы**, **чаравікі**.

**БОТФОРТЫ** *м. мн. франц.* боты са стаячымі халявамі вышэй кален: **штыльпы**.

**БОЧЕНОК** *м.*, **барылка**.

**БОЧЕНИТЬСЯ**, **бочыцца**.

**БОЯЗНЬ**, **боязнасьць**, **боязкасьць**, **боесьць**.

**БОЯЗЛИВЫЙ**, **боязкі**, **страхаморлівы**.

**БРАЗДЫ** *ж. мн.* каленісты жалезны прут, якім кілзаюць коней: **цуглі**, **сьцягры**, **склюгі**. Сьцягры сваеі моцы дасьць Пан з Сыону. (Петрашк. псальм.). *Аброць не уздэчка, ня мае цугляў. Засклюж каня (Быхаўск. п.).*

**БРАКОНЬЕР** *м. франц.* хто не па праву лавечыць у чужым лесе: **запагоншчык**.

**БРАК** *м.* праўная сувязь мужа і жаны: **сужэнства**. Таемства вянчаньня: **шлюб**, **жанідзьба**.

**БРАЧНЫЙ**, датычачы жанідзьбы, свадзьбы: **вясельны**, Вясельнік, учасьнік вясельля.

**БРАНЬ** *ж.* у значэньні нязгоды: **свара**, **сварка**. Называньне зьняважлівымі словамі: **лаянка**, **лайчывыя словы**. **Лайбоніць**, зьняважаць, злословіць. У значэньні бойкі, бітвы: **валька**, **вальчыць**. *Сталася валька каралю Ягайлу з немцы прускімі.* **Каўга**, **коўжыць**. *Дасварыліся да каўгі. Паміж*

*імі учора каўга была дык ходзяць падбітыя. За вечнай каўгой німа супакою ў хаце (Дрыс. Себежск. пав.). Каўгані яго ў патыліцу.*

**БРАСЛЕТ** *м.* мэталічная зашпілка на руку дзеля аздобы: **бранзалета**, **нарамак**.

**БРАТ**, кожды з сыноў адных бацькоў: **брат**, **братка**, **браток**, **брацітка**, **брахна**.

*Адзін брахна коніке сядлае,*
*Другі брахна яго навучае:*
*Да будзь, брахна, разумненькі,*
*Да паедзь, брахна, ў чужыя людзі.*
*(Ш. Т, І. ч. 2, стр. 80).*

Братаніч—(нка), зродны брат, (сястра)—сын бацькавага брата або сястры, а такжа матчынага брата або сястры (збрат дзеці). У стасунку да дзядзькоў яны будуць—пляменікамі і пляменіцамі, Братава, жонка брата.

**БРАТИНА** *ж.* начыньне ў якім разносяць напіткі; вялікі кубак які абходзіць у кругавую: **конаўка**, **понаўка**, **яндоўка**, **коўш.** Конаўка высокай формы з вечкам без падстаўкі; понаўка мае форму пукатага вядра; янцоўку робяць з гліны ў форме місы з аднэй ручкай; каўшы вырэзалі з дрэва, а такжа рабілі і з мэталю багатай формы з узорнай ручкай.

**БРАТЬ** *што*, **яць, няць, імаць, браць**. Бранец бранцы: нявольнік, нявольнікі. Выбранец, выбраны з паміж іншых. У Беларусі даўней было войска званае—выбранецкім, яго набіралі з паміж сялян.

**БРАШНО** *м. црк.*, **корм**, **ежа**, **страва**.

**БРАШПИЛЬ** *м. голяндз.* ляжачы навой да падніманьня цягараў: **навой**.

**БРЕВНО** *ср.* зсечанае вялікае дрэва бяз сучча і вярхавіны: **бервяно**, **бярно**, **бярво**. *Там цераз балотца паложаны бервы (сержп. 91). У чужым воку саломінку бачыць, а ў сваім бярна нябачыць. Бермішча, бермяно, галамень, тое што па-расійску ствол,*

**БРЕВЕНЧАТЫЙ, бярч*а*сты, бярв*е*нны.**

**БРЕДИТЬ**, відзіць што ў сьне, ў гарачцы: **ма*я*чыць, ма*я*чыцца; тр*ы*зніць, мітур*ы*ць, мітур*а*сы, вярзьці.** *Маячыцца, як у сьне. Згарачкі прымаячылася яму. Усю ноч трызьнілася нечысьць усякая. Яму ў вачах мітурыцца; прымітурылася нешта. Ляжыць ў мітурасах (Вітэбшч.). Вярзецца што ноч мне сон дзіўны.*

**БРЕД** *м.*, **маячн*я*, ма*я*чаньне; мітург*а*.**

**БРЕЗГАТЬ, БРЕЗГОВАТЬ, гр*э*бавацць, гр*е*блівы, гр*э*блівец.**

**БРЕЗЕНТ** *м. голяндзк.* самае тоўстае палатно на парусы, прасычанае дзёгцям: **дзегцяв*і*к, дзегцяв*а*нае палатно.**

**БРЕЗЖАТЬ, брынч*э*ць, бр*а*згаць, бразгат*а*ць, бр*а*згўка.**

**БРЕЗЖИТЬ** *безасаб. аб сьвятле*, пачатак раніцы: **дн*е*е сьвіт*а*е залач*э*е.** Перад прыходам раніцы ноч—сутуняе; сьвятло брызчыць.

**БРЕЛОК** *м. франц.* **бр*ы*жык, бр*ы*жыкі, дз*ы*ндзік.**

**БРЕМЯ, бяр*э*мя, б*е*рамя,**

**БРЕНІЕ** *ср. црк.* распушчаная гліна, гразь: **буз*а*, іл.**

**БРЕННЫЙ**, глінянны, ўзяты з зямлі, з бузы ілу; **кр*о*хкі, зьнік*о*мы.**

**БРЕНЧАТЬ, бр*ы*нкаць, брын*е*ць, бразадж*а*ць,** Ой зацьвіла макавачка, зачала брынеці. *У чыстым полі магіла брынела, а па даліне рэчанька брынела. Брынкае на струнах. Ляскае, бразгае, злосьць выказуе. Бразнуў ў бляшаны круг. Бразьне слова што хоць хавайся (рас.: ляпнет). Бразджотка, бразджанка, цацка бляшаная з камяшкамі ў сярэдзіне, а такжа гаварлівая кабета.*

**БРЕШЬ** *ж.*. **прал*о*м.**

**БРИЗЖЕТ, пр*ы*шче, п*ы*рскае.** Прысок, прадукт пырсканьня: гарачы з іскрамі попел,

**БРИЛІАНТ** *м.* дыямант, ці як даўней у нас называлі, адамант, рубавіднай шліфоўкі, вострай стараной у ніз: **брыльянт.**

**БРИТЬ** *каго*, зразаць брытвай валасы са скуры: **гал*і*ць.** Галяк—брытва. Галяр, той што займаецца галеньнем. Галярня, мейсца дзе голяць. У людзей і шыла голіць, а ў нас і нажы ня ймуць.

**БРОВЬ** *ж.* дужка з валасоў над вачавой лумкай: **брыв*о*, бр*о*вы.**

**БРОДИТЬ** *аб цечыве*, закісаць, перахадзіць у кіслую або вінную закісь: **брузьн*е*ць, буз*е*ць, бружэць.** Брузлы, бруглы, закісшы. Брошч, брошча, бругво хлебная або вінная закваска, званая па расійску „дрэжди". Брузло, заквашаная маса. *Малако збрызла. Брузлае стравы наліла ў місу. Сок не перабрузаваў яшчэ. Маладое брузло баіцца холаду. Брошчаў купі на пірагі (Навагрудзк. п.).*

**БРОЖЕНІЕ — брузав*а*ньне.** Бругуе, брузло; бружніца кадка дзе бругуе брузло.

**БРОДИТЬ, БРЕСТИ,** хадзіць ў рожных кірунках бяз мэты: **вал*о*ндацца, цяг*а*цца, шллы*ы*ндацца, сьцяняцца, бадзяцца, валачы*і*цца.** *Валондаецца, як старая курыца. Так слаб, што ледзь цягаецца. Шлындаецца бяз ніякае мэты. Па кутох сьцяняецца. Валачэцца ледзь нага нагу мінае. Рыбу валачылі трыгубіцай.*

**БРОД** *м.* пераход або пераезд праз мельстынь па вадзе: **брод.** У Лепэльшчыне ужываюць яшчэ слова—**газ**, але больш у значэньні мелкага мейсца на ўсю шырыню ракі ці возера. Такі „газ" бачыў я на Красенскім возеры (Дзіс. пав.)—гэта, як мне здаецца, штучная падводная дарога, якія будаваліся у дагістарычныя часы з стратэгічнымі мэтамі (гл. L. Krzywicki: „Pilkalnie litewskie").

**БРОДЕНЬ** *м.* невялічкі невадок, які людзі бродам цягнуць: **бр*о*дзень, в*о*лак.**

**БРОДЯГА** *м.* **валацуга, бадзяга, валандзей, галцяй.**

**БРОНЗА** *ж. франц.* стопленыя разам медзь, волава і цына: **мосяж, сьпіж.** Мосяж больш коўкі і

больш жоўты ідзе на рожныя вырабы: фігуркі, самавары, лыжкі і інш.; сьпіж крохкі і цёмны ідзе на званы і др. Бронза, агульнае названьне масяжовых бляшак да здобленьня упражы. *Бранзаваныя шлеі, хамут.*

**БРОНЯ** *ж.* адзеньне з мэталічных пластак, калец, сеткі: **броня.** Паасобныя назовы: **панцыр, кальчуга, куяк.**

**БРОСАТЬ, кідаць.** *Кідай шпуляк (мячь) у рукі. Кінь сюды кнігу. Хоць ты плюнь ды кінь. Кідаецца нават у вочы. Дай сюды адзін кідок зямлі. Гэта у яго звыклая надкідка да мёркі. Кідзісты ён чалавек. Накідчывы як жыд на рынку. Кідком кідай. Які з яго кідок. І кідомую рэч не тапчы. Кідма—кідаецца ў вочы. Наўскідзь панёс. Поскідкі зьбірае.*

**БРОШКА** *ж. франц.* **шпілька, сушпілка.**

**БРОШЮРА** *ж. франц.* кніжачка не ў аправе; невялікі лік зшытых друкаваных карцін: **кнігібка.**

**БРОШЮРОВАТЬ,** складаць аркушы паперы ў фармат кнігі, зшываць аркушы друку: **згібаць, зшываць.**

**БРУСНИКА,** *ягада,* **брусьніца;** брусьнец чырванець.

**БРУС,** доўгае шасьцістароннае цела, дрэва, камень, мэталь. З бярвяна робяць брус, здымаючы чатыры гарбылі: **брус.**

**БРУСОК,** брусок мыла, брусок да востраньня нажоў. Брусіць—вастрыць на бруску. Брусовец гатунак каменя годнага на брусы.

**БРУЯ,** струміна на вадзе **турэц, ручавіна, струміна.**

**БРЫЗГАТЬ,** пырскаць, асыпаць кроплямі вады; **пырскаць, прыскаць.** Брызгі—кроплі цечы, дробныя часткі камяня і др. цьвёрдых цел Брызчак—дробны дожджык.

**БРЮЗЖАТЬ,** журыць, сварыцца; **гдырыць, вурчэць, пукчэць.** *Круглы дзень гдырыць і гдырыць. Абы што то й вурчыць. Пукчыць і пукчыць стары на маладых.*

**БРЮЗГНУТЬ,** пухнуць, разбухацца; **з*ы*знуць, азыз*а*ць.** *Азыз ад гарэлкі. У яго вадзянка мусі, бо ўсё абліччa азызла. Азызласьць, стан азызлага.*

**БРЮКВА** *ж. расьц. Caulorapa,* **бр*у*ква, бр*у*чка.** У Дзісенскім павёце называюць **гр*ы*жына.** *Навары бульбы з грыжынай.* Грыжанінай называюць страву падобную да жыдоўскага цымасу.

**БРЮКИ** *ж. мн.* ніжняе мужское адзеньне: **шт*а*ны, п*о*рткі, нагав*і*цы, ганав*і*цы, гаштак*і*.**

**БРЯЗГАТЬ** *што, або чым,* кідаць што небудзь са звонам: **бр*а*згаць, зьв*я*каць.** *Што ты там зьвякаеш грашамі. Ходзізь шабляй пазьвяківае. Бразнуў дзьвярыма і вышаў з хаты. Бразнуў пану ў ногі.* Бразгаўка цацка для дзяцей з бляхі.

**БУБЕНЧИК,** бразготка пры конскай упражы: **званч*а*к, шум*ё*лка, б*о*ма, б*о*мка.**

**БУБНА,** масьць у картах: **зв*о*нка.**

**БУБЛИК** *м.* пшанічны кружок з запечанага цеста: **абар*а*нак.**

**БУГОР** *м.* кождае палогае узгорье: **паг*о*рак; гурб*е*нь, гурб*о*к, г*у*рба, гр*у*д, груд*о*к, гузд*ы*р.** *На пагорку стаіць палац. Панавявала гурбы сьнегу.. За гурбком, за лясом калода мокне (загадка).* Грудамі называюць, асабліва у парэччы Нёмана, горкі разпаложаныя пасярод балотнай раўніны, а такжа насыпныя горкі. Гуздырамі называюць падскурныя гурбкі на целе.

**БУГОРЧАТКА, гуздр*о*міца, гуздр*ы*ца, сух*о*ты.**

**БУДИЛЬНИК,** прылада прыпраўленая да гадзіньніка, якая будзіць: **б*у*дзік, буд*з*ель.** Будкасьць, свомасьць лёгка будзячагася. Будзежа, працэс буджэньня.

**БУДОРАЖИТЬ** *каго,* **палаш*ы*ць, трыв*о*жыць, непак*о*іць, муц*і*ць, калам*е*сіць.**

**БУДТО,** **н*і*бы, н*і*быто, б*ы*тцам, б*у*дзе.** Будзе любіш дык скажы. Гаворыць бытцам праўду. Нібы то яно так.

**БУДУЩЕЕ, б*у*дучына, пр*ы*шласьць.**

**БУЖАНИНА,** дымлёная і вараная сьвініна: **ванджонка, дымлян*і*на.**

**БУЗА** маладое піва або брага: **брузл*о*.** Асобная адмена пьянага квасу,—пьянае брузло.

**БУЗИНА** *ж.* дрэва *Syringa vulgaris:*—**бэз.**

**БУЙВОЛ** *м.* дзікі бык: **бав*о*л, тур.**

**БУЙСТВОВАТЬ, бу*я*ніць.** Буян-задзіра, забіяка, разбойнік. Буй, буёк, пусташ, пусты пляц, мейсца узвышнае.

**БУКАШКА, куз*у*рка.** Памылкова мяшаюць „казяўка“ з „кузурка“; першае азначае цьвёрдакрылага пругака (насѣкомое), другое „казяўка“ адносіцца выключна да водных стварэньняў пераважна саўсім бязкрылых.

**БУКВА** *м.* знак з якіх укладаюцца склады і словы ў пісьменнасьці: **б*у*ква, л*і*тара.**

**БУКВАЛЬНЫЙ, літар*а*льны, букв*а*льны,**

**БУКВАРЬ, бук*а*р.**

**БУКЕТ** *м. франц.* снапок, пук кветак: **бук*е*т.**

**БУКИНИСТ** *м. франц,* таргоўнік старымі кнігамі: **кнігапрад*а*ўнік, кнігапрад*а*ўня.**

**БУКЛЯ, ПУКЛЯ** *ж. франц.* закручанае, або ад прыроды курчавае пасмо валасоў: **сукр*о*, кугр*а*ч, п*у*кель.** *У сукры павіліся, пасучыліся валасы. (Дзіс. п.). Куграткі, куграчы ў яе павіліся на віскох (Рэчыцк. пав.).*

**БУКСИРОВАТЬ** *што,* цягнуць па вадзе плывучы цягар: **валач*ы*.**

**БУЧА** *ж.* навар па попелі да мыцьця бялізны: **жл*у*кта.** Жлукціць, вывaрываць, вымываць бялізну ў жлукце. Жлукт*а*рня, будынак дзе жлукцяць бялізну. Слова—буча ў беларускай мове азначае тое, што па-расійску „нагоняй“: зрабіць каму бучу.

**БУЛАВКА** *ж.* іголка з галоўкай: **шп*і*лька.**

*Цярэшка чаху—чаху,*
*А што у цябе ў мяху, ў мяху?*

*Ішпілячкі—іголачкі,*
*Залатыя пярсьцёначкі,*
*Чырвоны каралічкі,*
*Дла дзетак забавачкі.*

**БУЛДЫГА** *ж.* кругляк з цаўём у форме молата: **даўбешка, даўбня, пабойня цяльпага.**

**БУЛДЫРЬ** *м.* пузырная пухліна, шышка: **бумбель, будыр, вудыр, гуздыр.**

**БУЛКА** *ж.* пшанічны хлеб: **пірог,** каравай-жа цэлы пшанічнага ці жытняга хлеба завецца—**булка**. *Цэлую булку пірага далі на ўбогіх. Булка хлеба (разумеецца жытняга).*

*Чарка гарэлкі для голасу,*
*Пірог пшонны для коласу.*
*(Валач. песьня Ашм. Пав.)*

*Засьцілай сталы, кладзі пірагі,*
*Ды будзе к табе троя гасьцей.*
*(Рам. 8—9 стр. 110).*

**БУЛОЧНАЯ**, дзе пякуць хлеб і булкі: **пякарня;** дзе прадаюць пшанічны хлеб: **пірожня.**

**БУЛТЫХАТЬ**, кідаць што ў ваду, баўтаць цечыва: шабаўтаць, пялёхаць. *Шабоўсь у ваду. Разчабоўхаў цэлыя суды вады. Нешта такое чабоўхтаецца (Пялёхаецца) ў бутэльцы. ...і цялёх пану ў ногі (Сержп. 52).*

**БУЛЫГА, БУЛЫЖНИК**, круглаваты камень да машчэньня вуліц: **глыга, глыжак, глыжмень, глыжмак:**

**БУЛЬОН, БУЛІОН** *м. фран.* мясны навар. Сухі бульён, мясны навар выпараны да напоўсухой гушчыні: **бульен, навар, юшнік.**

**БУМАГА** *ж.* пух расьціны Gossypium: **вата.**

**БУМАГА**, да пісаньня з рызьзя і дрэва: **папера папяровы.** Папернік, што робіць, або прадае паперу. Паперня, фабрыка дзе робяць, паперу.

**БУМАЖНИК** *м.* скураны мяшэчак рожнай формы да нашэньня папераў ў кішані: **гамэтка, вайгак, папернік.** Гаманец, мяшэчак да нашэньня мэталіч-

ных грошы. Сялянскія г а м э т к і гэта падаўгаваты квадратовы кавалак скуры на 1--4, падзелы ў 1/2 аркуша паперы, складаны папалам, з мэталічнай зашпілкай або раменнымі завязкамі. В а й г а к тая-ж гамэтка з некалькімі аддзеламі ў сярэдзіне і часам, з мэталічнай рамай, даходзіць часам значнай вялічыні.

**БУМАЗЕЯ**, касматая тканіна з ваты: **мульт*а*н**, **барх*а*н**.

**БУНТ** *м. ням.* аб рэчах: вязанка чаго колечы: **к*і*тка**. *Цэлую кітку навязаў скурак. Кітка бобу.*

**БУНТ** аб людзях: змова дзеля выказаньня няслухмянасьці: **бу*н*т**. Б у н т а р, той хто бунтуецца. Б у н т э ж ы ц ь, падбіваць, намаўляць другіх да бунту.

**БУРАВ** *м.* сталёвая паўтрубка з шрубавым наском і папярэчнай калодачкай ў версе: **сьвярл*о***, **сьвярдз*ё*л**. С ь в я р л і ц ь, выкручваць сьвярдлом дзірку. С ь в я р с т а к, машына да выкручваньня дзірак.

**БУРАН** *м.* сьнежная замець пры сільным ветры: **шугав*е*я**.

**БУРГОМИСТР**, гарадзкі галава, **бурм*і*стр**.

**БУРЖУАЗІЯ** *ж. франц.* гараджане, мяшчанё, купецкая кляса, багачы.

**БУРЛИТЬ**, **клыгч*ы*ць**, **глюкч*ы*ць**, **кляк*о*ча**, **б*у*рыцца**. К л о к н ы, каторы бурна бурыцца. *Аж клыкчыць (глюкчыць, клякоча) вада ў гаршку, так варыцца. Маладое віно ніхай перабурыцца.*

**БУРЬЯН** *м.* былістая засьметлівая расьціна, куставая трава на развалінах і заплотках: **б*ы*льнік**.

**БУСЫ** *ж. мн.* агульнае названьне дутых шклянных, часам і шліфаваных пацяркаў: **п*а*церкі**, **кар*а*лі**

**БУТИТЬ**, заваліваць яму, канаву, або ваду камянямі і зямлёй: **г*а*ціць**, **заг*а*ціць**, **заг*а*та**.

**БУТЕРБРОД** *м. ням.* хлеб з маслам: **л*у*сьцік**, **лусьц*е*нь**.

**БУТОН** *м. франц.* кветны пучок: **н*а*квець**, *за*квець.

**БУТЫЛКА** *м. франц.* вускашыйнае шклянное начыньне: **бутэлька, пляшка.**

**БУФЕТ** *м. франц.* шафа або сьвятліца дзе хаваюць усе прыналежнасьці да стала і закускі: **буфэт.** Даўней у нас па дварох як сталовы буфэт, так і пакой буфэт звалі—**шафарня.**

**БУФЕРА** *м. мн.* жалезныя талеркі на пружынах да аслабленьня сілы удару: **шчоглы.**

**БУХНУТЬ**, ўздунацца, разшырацца ад мокрасьці: **бракнуць, набракаць.** *Вядро* **з а б р а к л а** *на дажджу. Дрэва ў вадзе* **н а б р а к л а.** *Гарох так* **р а з б р а к,** *што покаецца. Рука* **р а з б р а к л а,** *знач. разпухла. Нябошчык* **р а з б р а к** *у труне.*

**БУХТА** *ж. ням.* марскі зацішны і глыбокі заліў, **завань.**

**БУДУЩНОСТЬ** *ж.* **будучына.**

**БЮСТ** *м. франц.* выабражэньне чалавека да палавіны—з гіпсу, гліны, камяня, мэталю: **пагрудзьдзе.**

**БЫЛЬ** *ж.* **падзея, быцежа, станьне.**

**БЫТІЕ** *ср.* **стварэньне, істасьць.** *Усякая* **і с т а с ь ц ь.** *Бога хваліць.*

**БЫК** *м.* самец каровы. Ня кладзены—**бугай, бык,** кладзены—**вол.**

**БЫСТРЫЙ, борзды, борзкі, шпаркі, хіжы.**

**БЫСТРЯК** *м.* на рацэ, **турэц.**

**БѢГСТВО** *ср.* **уцекі, зьбегі.**

**БѢГСТВОВАТЬ, уцякаць, зьбягаць.**

**БѢГЛЕЦ, уцякач, зьбег.**

**БѢЖЕНСКІЙ, уцекачоўскі, зьбежніцкі.**

**БѢГАЛИЩЕ, майдан.**

**БѢДА** *ж. агульна слав. слова:* **бяда, бядаваць, бедны.**

**БѢДНЫЙ**, немаетны, недастатны: **бедны, бяднець, беднасьць.**

**БѢДСТВІЕ, няшчасьце, бяда.**

**БѢЛЫЙ** *агульн. слав.* **белы, бялец, бель белявы, бялёсы.**

**БѢЛКА**, **вав*е*рка**, **в*е*кша.**

**БѢЛЬЕ, бял*і*зна, нац*е*ліва, хусцьцё.**

**БѢЛИЛА**, **п*у*дра.**

**БѢЛОБРЫСЫЙ, бял*ё*сы.**

**БѢЛОК, бял*о*к.**

**БѢБКОВИНА**, **бялч*а*віна.**

**БѢЛОШВЕЯ,** **шв*а*чка.**

**БѢЛЕНА** *расьць.* Hyostiamus niger: **бл*ё*кат.**

**БѢС**, *агульн. слав.* **бес, чорт, нячысьцік, злы дух.**

**БѢСИТЬСЯ, шал*е*ць, шал*ё*ны, шал,**

## В.

**ВАДИТЬ** *каго чым,* **надзіць, пан*а*дзіўся, н*а*дны.** *Надзіць абцяцанкамі. Панадзілася лісіца ў курынец. Надны кавалак. Пакарай каб ня понадна было другому.*

**ВАЛЕК**, плосмая калодачка з ручкай да выбіваньня бялізны пры паласканьні: **пр*а*льнік** (ад „праць"—біць), **пр*а*нік.** Кіянка—пральнік з доўгай ручкай, каб можна было праць не згібаючыся; ужываецца пры бяленьні палоцен,

**ВАЛЕЖНИК** *м.* паваленыя ветрам дрэвы ў лесе: **пав*а*л, лесал*о*м, ветрал*о*м, выв*е*ртка.**

**ВАЛЕТ** *м. франц.* малодшая з фігур у картах: **ніжнік.**

**ВАЛИТЬ**, *агульн. слав.* **валіць**. Вальны стар. усеагульны, экстраны сход. *Вальны сойм, сход.*

**ВАЛЕНКА**, шапка зьбітая з воўны; **маг*е*рка.** Магерка даўней была націнальным беларускім галаўным надзеткам: рабілі пераважна магеркі з белай воўны з загнутымі ўверх краямі, ў форме капялюшнага брыля. Магерка названьне заноснае, праўдападобна паходзіць ад слова „вэнгер", сам-жа адзетк сягае дужа даўных часаў і мае сваю старую назову: кучомка, кучма.

**ВАЛИТЬ**, зьбіваць воўну: **лямчыць**; „валіць“ слова заноснае з Масковіі. Па беларуску будзе ня войлак, а—л я м е ц.

**ВАЛ** *м.* земляны накоп: **акоп, акопісты, акапываць.** (Цiліндрычны кругляны асяродак машыннага кола: ворот), **вал.** В*а*лак, прыбор да качаньня бялізны. Вал, валв*а*, вада паднятая ад ветру сьцяной.

*Ці ня быстрая рэчка в а л в о й бьець.*
*Матухна дачушку з вянца жджэць.*

**ВАЛОВОЙ**, у лічэньні, прадажы: **агульны, агульніцкі, агулам.** *А г у л ь н а г а даходу было столькі то. А г у л ь н і ц к а я крама, называецца — а г у л ь н я,-н і ц а. У раздроб не прадаюць, толькі а г у л а м.*

**ВАЛУН**, камень агладжаны і акруглены прыродай: **глыжак, глыжэнь, буглыга, буглыжнік, булак, буглавень.** Дробныя камяшкі адложаныя ракой, буйнейшыя за жір— гальчакі гальчак, гальчаўе.

**ВАЛЬДШНЕП,** птах *Skolarax rustikola:* **сломка.**

**ВАЛЬЯЖНЫЙ** літы, тоўсты, адліваны да поўна у форму: **масыўпы, адналітны.**

**ВАМПИР** *м.* баечная істота, якая па сьмерці; высысае у сьпячых людзей кроў з жыл, а часам і загрызае на сьмер: **упыр.**

**ВАП** *м.* **ВАПА** *ж.* натуральная выкапываная з зямлі фарба: **вохра.**

**ВАПИТЬ, вохрыць.**

**ВАРВАР** *м. лац.* чалавек не адукаваны, грубы, дзікі: **барбар.** Б а р б а р с к і, прыналежны барбару, дзікі.

**ВАРЕГА, ВАРЕЖКА** *ж.* аднапальцыя суконныя рукавіцы: **сподкі.**

**ВАРЕНИК** *ж.* варанае цеста надзяванае тварагом, твараговы блінчык запечаны на скварадзе: **сырнік.**

**ВАРЕНЬЕ,** вараныя ў цукры ягады: **канфітуры, сочыва.** *Ну не ядуць мусі хлеба, адны толькі к а н ф і т у р ы (Бурачок). Усякага с о ч ы в а, з*

*усялякіх ягад яны сабе за лета з цукрам навараць (Ельскі).*

**ВАРИТЬ,** *агульнаслав.;* даводзіць цечыва да кіпеньня на агне: **варыць, варыва, варыўня, варніца, вар.** *Што дзень варым featuring рознае варыва на ежу. Сёлета не ўрадзіла варыва: капусту чэрві паелі, буракі неўдаліся, грыжына (бручка) і морква падмокла. Наша варыўня сухая, але сцюдзёная, зімой падмярзае, ў ей варыва. Кажуць, даўней, былі ў Горадзеншчыне саляныя варніцы. Варам рукі абварыла сабе. Варна, горача, парна. Варыстая печ, печ у якой варацыь.*

**ВАР,** вараная смала; **шавецкая смала; пікта.**

**ВАСИЛЕК** *м. расьц. Centurea Cyanus:* **валошка, васілька,** Мяйсцамі у нас саму расьціну завуць валошка, а краску — васілька. (Слуцк. пав.). Краска валошкі служыць найбольш упадабаным матывам у беларускім здобніцтве, асабліва выдатнае мейсца яна займае у матывах слуцкіх паясоў.

**ВАСИЛИСК** *м.* баечны зьмей: **базылішак.**

**ВАСИЛЬЕВ ВЕЧЕР,** конадзень перад Новым годам: **шчадрэц, шчодрык, шчодры вачар.**

**ВАТАГА** *ж.* **банда, бандыр, бандавод.** За банду жабракоў аднаго багача ня вымяняеш. Бандэжыцца, біцца, змагацца, клапаціцца. Збандэжыць зьбіць з панталыку.

**ВАТЕРПАС** *м.* прыбор паказуючый роўню на паверхні: **грунтвага.**

**ВАТЕРКЛОЗЕТ** *м.* адходнае мейсца з напускной вадой: **сталец.**

**ВАТРУШКА** *ж.* круглы піражок з тварагом: тварожнік: **кныш, кнышок.** Кнышы пякуцца з тварагом, макам, канаплямі і канфітурамі.

**ВАХЛАК** *м.* нехлямяжы, неабычайлівы чалавек: **пабавень, растармаха, целяпень.**

**ВАХЛЯТЬ, пэцкаць, патроліць, кудлачыць.**

**ВАХТА** *ж.* чародная варта на вайсковым вадаплаве: **дазор.**

**ВАШ,** заімак 2 асобы: мой наш, твой, ваш. *Ваша воля, наша доля. Вашы пьюць, нашых бьюць. Вашэць,* Ваша—слова ўжыванае на Беларусі замест. рас. Вы, пәходзіць ад скорочанья Ваша Міласьць, Ваша Чэсьць. *Ты Ваша, я Ваша, а хто-ж хлеба напаша.*

**ВАЯТЬ** *што*, высякаць, выразаць ад рукі выпуклыя, або акруглыя падобьбя людзей, зьвераў, або аздоб: **рәзьбіць, рэзьбяр, рэзьба.** Архаічн., **кавер.**

**ВБИВАТЬ** *што у што,* **ўбіваць, ўганяць.** Убіў (угнаў) кол (цьвек).

**ВБИРАТЬ** *што у што,* **ўцягаць, ўсякаць, ўпіваць.**

**ВБЛИЗИ, поблізь наўпоблізь.**

**ВБОЛВАНИТЬ** *што ў каго.* **ўцямешыць, ўбіць.**

**ВБРАСЫВАТЬ** *што у што,* **ўкідаць, ўрынаць, ўлукаць, ўшпурляць, ўшыбаць.**

**ВБРОД,** ўброд, **бродзькі.** *Трэ было Янку перайсьці раку бродзькі. (Сержп. стр. 55).*

**ВБРЫЗГИВАТЬ** *што у што,* **ўстрыкаць, ўстрыкнуць.** *Устрыкнулі яму лякарства пад скуру.*

**ВБУРОВИТЬ** *што у што,* **ўсьвярліць, ўкруціць.**

**ВБУХАТЬ** *што у што,* **ўбухаць, ўпялёхнуць, ўчабохнуць.**

**ВБЫЛЬ ўзапраўдна, запраўды.**

**ВВАЖИВАТЬ** *каго куды, у што;* **ўнаджываць.**

**ВВАЛИВАТЬ** *каго куды, у што* **ўваляць, ўрынаць.** *Урынулі (ўвалілі) ў ваду.*

**ВВЕДЕНІЕ,** **ўступ,** *Уступ у абладаньне маемасьцю. Напісаў уступ у гісторыю.*

**ВВЕРГАТЬ** *што куды, або у што:* **ўрынаць.**

**ВВЕРТЫВАТЬ** *што у што;* **ўшрубоўваць, укручваць-цца, укруціць** самого сябе. *Шашаль укручваецца галоўкай у дрэва. Укручына,* валакністы круг, які трымае аглаблю пры палазе ў санях.

**ВВЕРХУ**, **ўв*е*рсе, ўгарэ, ўвыш*ы*.**

**ВВЕРХ**, **ўзв*ы*ш, ўзв*е*рх**, В е р х т а в і к-ў н я-ў к а, пакрышка, завяршэньня чаго.

**ВВИВАТЬ** *што у што;* **ўвів*а*ць, ўвін*а*ць, ўсук*а*ць.** У в і н у л і ў паперку лякарства. *Паміж парі товых ў с у к а е адну суконную нітку. У в і н у л- ў валасы істужку. Пражу сукае. С у к а ю ц ь сьвечкі.*

**ВВИВАТЬСЯ**, **ўсук*а*цца.**

**ВВИТОК**, **ўсукан*е*ц, ўвіт*о*к.**

**ВВИНЧИВАТЬ** *што у што*, **ўшрубоўваць, ўшрубоўка; ўкручваць.**

**ВВОДИТЬ** *каго у што*; **ўвадз*і*ць, ўвязваць.** *Генерал у в ё ў войска у горад. Суд ў в я з а ў яго у абладаньне зямлёй.*

**ВВОЗИТЬ** *што куды*; **ўваз*і*ць, ўв*о*зны, на ўвоз** У в о з н а е, плата за ў в о з.

**ВВОЛАКИВАТЬ** *што*, **ўвал*а*чваць, ўцяг*а*ць.**

**ВВОЛЮ** *чаго*, **ўв*о*лю, ўд*о*сыць, ўд*о*хаць.**

**ВВОРАЧИВАТЬ** *што куды, у што;* **ўвярт*а*ць, ўгарт*а*ць,**

**ВВОСЬМЕРА** *нар.* **ўв*о*сьмера, ўв*о*сем** радоў, згібаў, складак, пасём.

**ВВЫКАТЬ** *у што*, **ўвык*а*ць, аг*о*ўтацца, ўцягн*у*цца, ўлаж*ы*цца.**

**ВВЂРАТЬ** *што каму;* **здав*е*рыць**, **ўдав*е*рыць.** *З д а в е р н а я справа. Ен мне з д а в е р ы ў с я. Я даў адвакату свой з д а в е р ч ы ліст. Ен быў панскім з д а в е р н і к а м. З д а в е р н а й рэчы не прадавай нікому. Ен ў д а в е р ы ў мяне у сваей нявіннасьці. З д а в е р н і к а-н і ц у сваю, глядзі, не ашукай.*

**ВВЯЗАТЬ** *што у што*; **ўвяз*а*ць.** *У в я ж ы пажыткі сваей ў хусьцінку. Толькі добра ў в я ж ы рэчы, каб не пагубіць едучы. У в я з н ы мяшок атарваўся. У в я з а ў с я гэта ён у нашу справу (Рам.).*

**ВГИБАТЬ** *што,* **ўгінаць, ўгібаць.** *Каб дапасаваць, прышлося ўгібаць у шчалугу бляху. Трэба хлапца ўгібаць (ўгінаць) да навукі. На самым ўгібе пражавела* **конаўка.** *Угібістыя пірэгі. Наўзгіб зьвяжы да перавозкі бляху.*

**ВГЛУБЛЯТЬСЯ** *у што;* **ўглыбляцца.** *Не ныраӣ, ўглыб, утопішся. Углыбежы марской. Ён зглыбёжыў ўсю мудрасьць кніжную. Углыбежыўся ў думы свае. Наўзглыбныя процьмы спазнаў. Вызглыбежыў мінуўшчыну. Наўзглыбныя надзеі свае зысьціў.*

**ВГЛЯДЫВАТЬСЯ** *у што;* **ўзірацца, ўглядацца,** *Што ўзіраешся ў мяне, або-ж не спазнаеш. Страшан чорт, а ўглядзішся і нішто сабе. Узіраецца ў шэрую даль. Углядчывы гаспадар з яго, ўсюды зірне сваім вокам. Углядчывы хлопец, хутка такі навучыцца рукомесла ўсякага. Узорыўся ў адно мейсца і замер. Не ўзірайся на чужыя дастаткі. Наўзіркам пілнуе дачкі на вячорках.*

**ВГОНЯТЬ** *што у што,* **ўгняць.** *Не ўганяй бацькоў у пакрыўду. Не ўганяй цьвяка ўстальніцу, будзе нажы тупіць. Угончывы конь ніколі не адстане ад другога. Наўзгонкі ехалі. хто каго выперадзіць. Нам ўгону німа ў дворны лес.*

**ВГОРАЖИВАТЬ** *што у што;* **ўгараджываць.** *Ён хацеў ўгараджываць к сабе наш загончык. Ты, браце, ўгарадзіўся ў маю пожню,*

**ВГРЕБАТЬ** *што у што;* **ўграбаць.** *Бульбу ня трэба глыбока ўграбаць ў зямлю. Жук ўграбаецца ў зямлю.*

**ВГРЫЗАТЬ** *што,* **ўгрызаць, ўгладаць.** *Сабака ня можа ўгладаць костку. Мышы ўгрызаюцца ў хлеб Шашаль ўгрызся ў стол. Сабака ўгрызся ў ваўка. Заўгрызся ён у злосьці сваей. Заўгрыз конь цуглі.*

**ВГУСТѢ, ня рэдака, цвёрда; ўгусна.** *Есьць ён і смачна і ўгусна. Наўгусьць зварыла яйкі,*

*сьпякла яечню. Загустая была ў цябе страва.*

**ВДАВАТЬ** *црк.* **даручаць.**

**ВАДВАТЬСЯ**, **ўдавацца.** *Што табе ўдавацца у іхню сварку. Хлапец ўдаецца да дзеўкі. Удаўся да яго па раду.* **Удача**, *характар, натура: Такая яго ужо ўдача. Жывой ўдачы хлапец. Добрая ўдача, ды слава лядача.*

**ВДАВЛИВАТЬ** *што;* **ўкляскаць, ўціскаць.** *Сена трэба добра ўціскаць каб не разтрасалася. Ен любіць ўціскацца паясом. Што за ахвота ўціскацца ў чужую кампанію. Ня трэба ўкляскаць пальцы ў цеста, бо на бахонках астануцца ўкляслаcьці. Уклясы рысунак на кубку. Выпукла-ўкляслае шкло.*

**ВДАВНѢ, ўдаўнасьці, ўдаўне.** *Удаўне што ў сьне. Удаўнасьці лепей жылося.*

**ВДАЛБЛИВАТЬ** *што у што;* **ўдзяўбежыць, ўбіць, ўмяждэрыць.** *Не так легка ўмяждеждрыць яму што ў галаву.*

**ВДАЛИ, здалёк, водаль, сыздаль.** *Ен стаяў водаль хаты. Сыздаль чуєаць яго песьні. Здалёк я ўбачыў яго.*

**ВДВИГАТЬ** *што у што,* **усуваць.** *Ня трэба ўсуваць нос у чужыя справы. Усунь шупляду (ад „шупло"-дзюпло) ў стол. Усунься толькі да іх, то зараз пачнуць нараканьні свае. Усоўная даска да падоўжаньня стала.*

**ВДВОЕ, ў два разы, двойчы, ўдвурад, ўдубэльт, ўдзьвёх, удвоя.**

**ВДВОЙНѢ, падвойна, двурадна, ўдвая.**

**ВДВОЕМ, ўдвоя, у двaіх, ўдзьвех, самдруг.**

**ВДЕВЯТУЮ, удзевяцера.** *Удзевяцера ўкрадзе, дзесятае патаргуе.*

**ВДЕРГИВАТЬ** *што у што,* **ўдзяваць, ўцягаць, унізываць,** *Цяжка сьляпому ўдзяваць (уцягаць занізаць) нітку ў іголку.*

**ВДЕРНЯТЬ** *аб расыцінасьці;* **ўкараняць.** *Трава укаранілася на гародзе.*

**ВДЕСЯТЕРО,** у дзесяцера.

**ВДЛИНЬ, удоўж, удоўжкі, наўдоўж.** *Ты яму сьцялі ў д о ў ж, а ён келіць ў п о п е р а к. Бярно было ў д о ў ж звыж трох сажон.*

**ВДОВА** *ж.* незамужная кабета пасьля сьмерці свайго мужа: **ўдава, ўдавіца, ўдоўка.** *У д а в а ня дзеўка, а квас не гарэлка. Вадой плывучы, што ў д а в о й жывучы. У д а в о й ды сіратой—хоць воўкам вый. У ў д о в ы хлеб гатовы.*

**ВДОВЕЦ** *м.*, мужчына нежанаты па сьмерці жаны: **ўдавец.** *Ў д а в е ц дзяцям ня бацька, і сам круглы сірата. Ў д а в е ц т в а што сіроцтва. Ня дай Бог ні ў д а в е ц, ні гарэць*

**ВДОГАД, ўдогад.** *А мне і ня ў д о г а д тое было. Дзе-ж нам таго з д о г а д у набрацца. Д а г а д л і в ы хлапец. А ў д о г а д табе, што ён намякаў.*

**ВДОГОН, наўдагон, ўдагонку** *Едзь н а ў д а г о н за ім. Ў д а г о н к у п а г н а ў с я.*

**ВДОЛГѢ,** ня скора шмат, часу спусьціўшы: **ўдоўзе.**

**ВДОЛГ, у доўг, ў позычку, ўпавер.** *Ў д о ў г узяў. Ў д а ў г а х па вушы. На п а в е р мне далі ў краме. Ў п о з ы ч узяў грошы.*

**ВДОЛЬ, удоўжкі, ўздоўж чаго: наўздоўж, наўсьяж.** *Зьезьдзіў сьвет у з д о ў ж і ўпоперак. Дровы ня ўпоперак, а ў з д о ж к і шчапаюць. Н а ў з д о ў ж дарогі пабудаваліся. Наўсьцяж ракі ішлі. Сьцялі ей ў д о ў ж к і, а яна ляжа ўпоперак. У нас адна толькі н а ў с ь ц я ж н а я вуліца.*

**ВДОМЕК** ў дагад каму. хто дагадаўся, ськеміў: **ўдогадзь.** *А ці ў д о г а д з ь было табе, што ён казаў.*

**ВДОМНИК** зяць прыняты ў сямью, прызячаны: **пымак.** *Пайшоў да іх у п р ы м а к і. П р ы м а ц кі хлеб—сабацкі.*

**ВДОСТАЛЬ,** ўдохаць, ў канец, ўдосыць: **ўдостань, ўдакон.** *У д а к о н зрўнаваўся. У д а к о н пагарэлі. У д о с т а н ь ўсяго у іх ёсьць.*

**ВДОХНОВЕНІЕ**, **натхненьне**. *Німа ў яго натхненьня ў мове, ў пісаньні. Сьвяты, натхнёны чалавек. З свайго натхненьня нічога ня зробіць, ўсё скажы ды пакажы.*

**ВДРЕБЕЗГИ, ўдрызг.** *Ўдрызг разляцелася акно. Ўдрызг пьяны.*

**ВДРУГ, зразу, нараз, раптам, зьнечаку, зьнєнацна.**

**ВДРУГОРЯДЬ, ўдругарадзь, ўдвакрат, ўдубальт.**

**ВДУНУТЬ, ўтхнуць, ўдыхнуць, ўдзьмухнуць.** *Бог ўтхнуў ў чалавека безсьмяротную душу. Ўдыхнуць жыцьцё ў жылы. Ўдзьмухнуць зеліва ў вока.*

**ВДУМЫВАТЬСЯ** *у што*, **ўдумывацца, удумляцца.** *Заданьне ня мудрае, а ня ўдумаўшыся не разьвяжаш. Трэба удумляцца у кождае слова.*

**ВДЫХАТЬ** *што*, **ўдыхаць.** *Разам з паветрам мы ўдыхаем многа староных частак і ўсякай жокаці (испареній). Нябошчыку жыцьця не ўдыхнуць. Ўдыхаць добрыя мыслі ў каго.*

**ВДѢВАТЬ** *што у што*, устаўляць у вузкую агворыну і ўцягаць у яе: **ўнізаць.** *Пальца ў іголку ня ўніжаш. Нітка ў іголку сама унізалася. Нанізай пацеркі на нітку. Нізаньне пацеркаў, марудная работа.*

**ВДѢЛЫВАТЬ** *што у што*, умацовываць адну рэч у другую: **ўпраўляць, ўпушчаць, ўстаўляць.** *Управіць камень у пярсьцёнак, Ўпусьціць брус у сьцяну. Ўставіць сьпіцу у калясо.*

**ВЕДЕНІЕ** (ад „вадзіць“), **вядзежа, кіраўніцтва.** *Вядзежа спраў. Кіраўніцтва установай.*

**ВЕДРО, ВЕДРІЕ,** ясная, ціхая, сухая пагода: **погадзь, пагодлівасьць.**

**ВЕДРО,** дрэўлянае або бляшанае абручнае начыньне з вушамі і дужкай: **вядро.** Вядро ўжыванае да даеньня кароў—**даёнка, дайніца.** Вядро з вечкам насіць ў поле страву—**рага, ражка.** Вядро з днішчам зьверху, да дзёгцю—**карчага.**

**ВЕЗДѢ ўсюды, паўсюдна.** *Ўсюды так як у нас. Паўсюдна адно і тое-ж: гора, хваробы (Сержп.)*

**ВЕЗДѢСУЩІЙ ўсюдыісты.** *Бог ўсюдыісты.*

**ВЕЗЕНЫХ, вязомых, везеных, везных.**

**ВЕЗЕТ, шанцуе, ручыць, фэрціць, тахціць.** *Шанцуе балазе. Што не пачне, ўсё яму ручыць. Ручыць у карты, як вісельніку. Тахціць кождая справа яму. Фэрціць яму ў карты.*

**ВЕКША** лясны звярок: **вавёрка.**

**ВЕЛИКІЙ,** перавышаючый звычайную меру: **вялікі, велій.** *Вялікая рожніца паміж вялікім розумам і вялікай хітрасьцю. Велій Бог на на небе. (Вяліжск. п.).*

**ВЕЛИЧІЕ вялікасьць.** *Вялікасьць душы. Зразумейце ўсю вякікасьць гэтай ахвяры.*

**ВЕЛИКАН, волат, вяліканец.** *Валатоўка, капец, курган бронзавага веку. Вяліканцы (волаты) калісь жылі на сьвеце, а цяпер, людзі малеюць.*

**ВЕЛИЧАТЬ вялікоміць, ўзвышаць.**

**ВЕЛИЧИНА, вялічыня, веліч, вяліковіна.**

**ВЕЛИКОЛѢПІЕ, пяропых, веляпышлівасьць.**

**ВЕЛИЧАВЫЙ, наўзвялічны, наўзвельчы, вялікомны.**

**ВЕЛЬМОЖА, вяльможа, магут.** *От царя и от могутей. Предстояху могутіі і все боярство (Срезневск),*

**ВЕЛѢТЬ** *каму што;* **вялець, загадываць.** *Загаду твайго не паслухаю і вяленьня ня споўню,*

**ВЕНА** *ж. лац.* агульная назова чорнакроўных ўзваротных жыл: **вэна, жыла.** *Пусьціць жыльную кроў.*

**ВЕНЕРА** *ж.* паміж якой і Марсам зямля наша аварачваецца наўкол сонца: **вэнэра, заранка.**

**ВЕНЕРИЧНАЯ БОЛѢЗНЬ, францы, сыфіліс.**

**ВЕНЗЕЛЬ** *м, польск.* пачатковыя літары ўласных імён: **пяроплетак.**

**ВЕНТИЛЯТОР** *м. лац.* рожнай формы прыбор да ачысткі, асьвяжэньня паветра: **душнік.**

**ВЕПР** *м. агульн. слав.*, **вепр, вяпрук**; сьвінны самец: **кабан, кнур, кнораз.**

**ВЕРБЛЮД** *м.*, ючная (трочная) скацежына: **вярбюд, драмадэр,**

**ВЕРБОБАТЬ** *каго. ням.* намаўляць, набіраць самахотнікаў у войска: **набіраць, каптаваць.**

**ВЕРГАТЬ, ВЕРГНУТЬ** *што каго*, кідаць, зваліваць: **рынаць**. *Урынулі мяне ў бяду. Сызрынулі камень з гары. Рынуўся бегчы бараніць.*

**ВЕРЕВКА** *ж, агульн. славянская* пазова зьвітай у некалькі стволак тоўстай ніткі (ад аборыны ў гусінае пяро да гужа), кождая стволка каторай скручаецца сьпярша асобна з павясма на крук: **вяроўка.** Рожнавіднасьці па таўшчыне: **шнурок, вярчопка, абора, пастромак, лейчына, вяруга, вяроўку, снасьць,**

**ВЕРЕД** *м.* стрыжнявы нарыў: **скула, верад.** Падвярэдзіцца, падарвацца. Прывярэдлівы, капрысны, вычварны.

**ВЕРЕЗЖАТЬ,** выдаваць бразгучы рэзкі і прадоўжны голас: **верашчэць, зьвіржджэць, сквірчэць, сквіліць.** Цэлы дзень верашчыць са злосьці. Скваркі на скварадзе сьвіршчаць, сквіраць, верашчаць. **Верашчака,** названьне стравы злюбленай беларусамі: на скварадзу кладуць пакрояныя скваркі, каўбасу, шынку, скварацць і гарачай, сквірчачай падаюць на стол; ужываецца як макалка да бліноў. **Вераскліварец,** крыкун. **Разверашчацца,** разкрычацца.

**ВЕРЕНИЦА** *ж.* рэзпалажэньне чаго чародам, ў адзін парадак, кішкой: **плойма.** Пералётныя птахі лятуць плоймамі або ключом.

**ВЕРЕСК** *м. расьц.* Erica Galtana vulgaria, **верас. Верасень,** названьне дзявятага месяца ў годзе.

**ВЕРЕТЕНО** *ср. агульн. слав.* **верацяно,** дрэўляная тачоная палачка да прадзіва. Знай баба сваё крывое верацяно.. *На шыльца, на мыльца, на*

*крыва вераценца. Лоб кручком, нос сучком, бруха лубком, хвост верцяном.* **Вераціяно,** Взрацейніца, названьне адмены вужак.

**ВЕРЕТЕНО,** ў машынах і прыладах: **вось, цэўка,** па якой што небудзь авяртаецца,

**ВЕРЕТИЩЕ** *ср.* грубая каструбістая тканіна, з якой шыюць мяшкі: **зрэбьбя, пакульля.** *Ходзіць у зрэбьбі, ў пакульлі, Зрэбная, пакуьная кашуля.*

**ВЕРЗИЛА,** рослы сільны няскладны чалавек: **галабень, драба, даўгай, даўгайла.**

**ВЕРИГИ** *мн.* жалезныя аковы ношаныя збаўляючыміся на голым целе; **ратугі.** *Пастом і ратугамі каванымі цела марыў.*

**ВЕРСИФИКАЦІЯ** *лац.* пісаньне вершаў, вершаваны склад; **вершаваньне, вершафікація.**

**ВЕРСТАТЬ,** раўняць, зраўніваць, дзяліць: **шыхтаваць**: у друкарнях раздзяляць набор: **ламаць.**

**ВЕРСТАК** *м.* стол, лава асобнага устройства да ручнога рукомесла: **поставень, постаў, паставец.** Сталярны, млынарскі, слёсарскі постаў паставень.

**ВЕРТЕЛ** *м.* жалезны прут да пячэнья мяса; **ражон, вожаг.**

**ВЕРТЕП** *м.* пячэра, падземны прытулак, недаступны яр: **ямяга, пячэра, ламарня.** *Гэта ямяга разбойніцкая, а ня крама. Па пнеўях, карэньнях ды ямягах ўсю ноч вазіў, У ламарні жывуць, як злыдні.*

**ВЕРТИКАЛ** *м. лац.* дуга круга, простападнага да горызонту: **простапад.**

**ВЕРТОГРАД** *м. црк.* **вінаграднік, сад.**

**ВЕРТѢТЬ** *што,* прывадзіць у кругаваротны рух: **вярцець,** вярчоны, **вярцемы,вярцежны, вярценяць; круціць. Завертка,** прыбор чым закручваюць шрубы. **Вёрткі,** вяртлявы, вывёртлівы, спрытны.

**ВЕРТУГ,** канец восі ўстаўлены у гняздо: **пятнік.**

**ВЕРТУШКА** *ж.* пяровертка на восі да запіраньня: **круцелка.**

**ВЕРХ** *м. агульн. слав.* процілеглае нізу, часьць абернутая к небу, вышэйшая па раўні: **верх**. *Верх галавы, гары, дому.*

**ВЕРХ** *м.* **павалока, пакрыцьце**: *Барма (шуба) з суконным верхам,*

**ВЕРХОВАЯ ЂЗДА, конная язда.** *Прыехаў конна. Нейкі коннік праехаў полям.*

**ВЕРХОВНОСТЬ, зьверхнасьць, зьверхнік**, старшы чынам (начальнік). Назьверхні, які ляжыць на версе, процілеглы падысподняму.

**ВЕРШАТЬ** справу, даканчаць, пастанаўляць: **вяршыць, верхаводзіць, даканаць.** *Завяршылі хату, стог. Давяршай пачатае. Завяршылі справу. Доля даканалася. Ен там у іх верхаводзіць усім, сам ўсе спрявы вяршае.*

**ВЕРХОВЬЕ** *ср.* **верхвіна, вершадзь, вярхоўка, верхавіца, вяршня. Хамёлка**, самая верхавіна дрэва (маковка).

**ВЕРХОГЛЯД** *м.* **салапяка, салапяй.**

**ВЕРША** *ж.* рыбалоўская прылада: **хаботня, буч, жак.** Хаботняй называецца прылада з доўгіх вярбовых пруткоў клінам ўдоўж, без перагародак ў сярэдзіне, Буч, больш круглы за хаботню і мае ў сярэдзіне адну, або дзьве лейкаватыя з праходам перагародкі. Жак робіцца з сеткі на абручах, канструкціяй напамінае буч.

**ВЕСЕЛІЕ** *ср. агульн. слав.* **вяселасьць, весяліць, весяліцца, весялець. Вясёлка**—рожнабарвістая сьвятлавая дуга на небе.

**ВЕСЛО** *ср.* (зам. вязло) *агульн. слав.* лапата да грэбкі па вадзе: **вясло, веславы, веславаць.** Веслаўка, човен на пару, дзьве пары вёслаў.

**ВЕСНА** *ж. агулвн. слав.* **вясна, веснавы, веснаваць.** Вясьняк, цёплы, палуднёвы, вецяр. Вясьнянка, веснавая абрадовая песьня. Веснавіца, ярка, ярая пшаніца, жыта. Весень старакрыўская назова чацьвёртага месяца ў гаду.

**ВЕСНУШКИ** *ж.* дробныя прышчыкі на абліччы:

**ластавучына, рабацьцё. Строткі, стратаватая, страцізна.**

**ВЕСЬ, ВСЯ, ВСЕ** *мн.* **ВСѢ** *займак:* **ўвесь, уся, усё** *мн.* **усе; ўсеьнкі, усёханька.**

**ВЕСЬМА,** **вельмі.** *Вельмі добра. Вельмі многа. Вельмадобры чалавек.*

**ВЕТЛА** *ж. расьц.* **лаза.** Гбалі мы дугу вязовую, сагнём і лазовую.

**ВЕТХІЙ, стары, старадаўны, пракаветны, друзлы, стараветны.** *Стары закон. Стары чалавек. Друзлы старац, будынак; Друзлае адзеньне. Пракаветная праўда. Стараветная кніга. Стараветнік, антыквар.*

**ВЕТОШКА, старынка, старызна, дзярмо, дзярмядзіна, рызінка, ганучка, ганчарка, лахміна, лахмак, сьцірка.**

**ВЕТОШЬ, друхло, друхлядзь, хломазд.**

**ВЕТХОЗАВѢТНЫЙ, старазаконны.** *Старазаконныя кнігі.*

**ВЕТОШНИК** *м.* таргоўшчык старымі лахманамі: **рызнік**

**ВЕТШАТЬ** аб чалавеку — **старэць;** аб рэчах — **зношывацца.**

**ВЕТЧИНА** *ж.* высалены і прадымлёны сьвінны кумпяк: **дымляніна, кумпячына, вангліна.**

**ВЕХОТЬ** *ж. агульн. слав.* пук саломы да мыцьця начыньня, на высьцілку ў боце: **вехаць, вехцяваць.**

**ВЕЧЕРНІЙ, вячорны.** *Вячорны змрок. Вячорны адпачынак.*

**ВЕЧЕРИНКА, вечарынка, вечарніца, ігрышча.**

**ВЕЧЕРНЯ, вячэрня,** у каталікоў—**нешпар.**

**ВЕЩЬ** *ж.* асобная адзінка, кождая нежывая адзінка: **рэч.** *Злажы свае рэчы. Ўсякай рэчы дай сваё мейсца. І стол і іголка рэчы.*

**ВЕЩЕСТВО** *ср.* адарванае паняцьце ўсяго **сьветавога** і прыроднага: **матэрыя.** *Чалавек зложан з матэрыі і істасьці, з цела і душы. Сьвет уяў-*

*ляецца розуму, як матэрыя ў прасторы і як сіла ў часе*

**ВЕЩЕСТВЕННЫЙ, матэрьяльны.**

**ВЕЩИЧКА, трантка,** *Трантку паненька падаравала. Трантак наставіла між вокан на зіму заклеіваючы.*

**ВЖИМАТЬ** *што куды і ў што,* **ўціскаць, ўгнятаць, ўталачываць, ўкомсьціць.**

**ВЖИВЕ, жывучы пры жыцьці, за жыцьця, за дажывоцьця, ўжывобыці.**

**ВЗАБЫЛЬ ў няпамяць, ў забудзь.**

*У аднэй чары-сьлёзы гаручы,*

*У другой чары-забудзь гаюча.*

**ВЗАДИ,** спазадзь, чаго; **ззаду, наўзадзі.** *За табой ззаду стаіць крэсла. Ззаду за табой будуць усякія дзівы, але ты не азірайся наўзадзь сябе.*

**ВЗАД, назад, наўспяць, наўзадзь.**

**ВЗАЕМ, ВЗАЙМЫ—пазычкова, ўдоўг, напавер.**

**ВЗАИМНЫ,** адплатны, адзін аднаму адпаведны: **ўзаем, ўзаемства, ўзаеміны.** *Ўзаемная дружба, сварка, нянавісьць. Ўзаемна мы ўсе ручаемся, Хлапец на сваю любоў ўзаемства ня ма'. У іх ужо здаўна такія ўзяеміны.*

**ВЗАИМОДѢЙСТВІЕ, ўзаемнасць, наўзаеемства, наўзаемчыннасьць.**

**ВЗАЛКАТЬ, прагаладацца, ўзлакнуць.**

**ВЗАМѢН, наўзамен.** *Наўзамен за сала боты дастаў,*

**ВЗАПЕРТИ, наўзапры, пад замком.** *Наўзапры сядзіць, пад замком.*

**ВЗАПУСКИ, наўсузбежкі, наўдагонкі, павыперадкі, насугонкі.**

**ВЗАСОС, наўзацмачкі, наўзацмак.** *Наўзацмачкі цалуюцца.*

**ВЗАЧЕТ, у лік.** Гэта пашана ня ў лік. Працэнт ня ў лік доўгу.

**ВЗАШЕЙ, ўзакаршэль.** *Гані яго ўзакаршэль з хаты.*

**ВЗБАЛМОШЕННЫЙ, скаламучаны, склычаны, скалмачаны.**

**ВЗБАЛТЫВАТЬ, збаўтываць, збоўціны, збаўтуха, ўзбохаць.**

**ВЗБЕЛЕНИТЬ** *каго,* **разьятрыць.** *Сярдзітага лёгка раз'ятрыць.*

**ВЗБИВАТЬ, ВЗБИТЬ, ўсклычыць, ўспушыць, ўздыбіць.**

**ВЗБОРАЖИВАТЬ** *што,* **збаразіць, ўзраліць.**

**ВЗБРАСЫВАТЬ, ўскідаць.** *Ўскідай снапы на тарпу.*

**ВЗБРЫЗГИВАТЬ, спрыскаць,** *Спрысьні бялізну. Ці ўспрысьне кішка ваду на дах. Ўпырснулі яму лякарства ў жылы.*

**ВЗБУГРИТЬ, ўскучыць.** *Сьвіньні ўскучылі ўсё поле.*

**ВЗБУНТОВАТЬ, збунтаваць, ўзбурыць.**

**ВЗБУДОРАЖИТЬ, стрывожыць, страсьці, збантэжыць.**

**ВЗБУЧИТЬ, ўздуць.** *Ўздулі хлопца за няслухмянасьць.*

**ВЗБУЧКА, нахлабучка.** *Далі дома нахлабучку за гультайства.*

**ВЗБѢСИТЬ, ашалець, разшаліць,** *Разшалілі дурнога. Разшалілі шарсьнёў, восваў.*

**ВЗВАЛИВАТЬ** *што на што;* **узваляць, узваляцца, узвал.**

**ВЗВАРЬ** *м.* навар у якім распусьцілася часьць таго што варылі: **навар.**

**ВЗВЕСЕЛЯТЬ** *каго,* **ўзвесяляць, зьвесяляць.**

**ВЗВЕСТИ, успружыць.** *Успруж курок па стрэльбе.*

**ВЗИВАТЬСЯ, узбівацца, ўзлынаць.**

**ВЗВИЗГИВАТЬ, вішчэць, віжджэць, скавытаць, якатаць.**

**ВЗВОДИТЬ** *што* падымаць на вышыню, цягнуць ў гару: **ўсцягаць, ўздымаць, ўспружаць.**

**ВЗВОД**, часьць карабіннага замка: **ўспруг.**

**ВЗВОЛНОВАТЬ** *што*, **узвалваваць, валвавацца, валвавацъ, схваляваць.**

**ВЗВОЛЧИТЬСЯ**, **узвоўчыцца.** *Чаго ты ўзвоўчыўся на мяне.*

**ВЗВОПИТЬ**, **ўзгаласіць, загаласіць, закрычаць.**

**ВЗВѢШИВАТЬ** *што*, **ўзважаць.** *Трэб ўвесь лён узважыць.*

**ВЗВИНЧИВАТЬ**, **ўсшрубовываць.** *Ўсшрубавалі цэны.*

**ВЗГЛЯД** *м.* **погляд.** *Погляд з падлобьбя. Адзін погляд яго ўсё высказаў.*

**ВЗДВОИТЬ**, **здвоміць.** *Здвоміць трэба высілкі нашы.*

**ВЗГОРЬЕ** *ср.* невысокае ўзвышша на зямельнай паверхні: **пагорак, узгорак.**

**ВЗДЕРНУТЬ** *што*, торгаючы уздымаць: **ўстырнуць.**

**ВЗДЕРЖКА** *ж.* **паўстрымка.** *Ніякай паўстрымкі ў цебе німа.*

**ВЗДОР** *м.* **спрэчка, сварка, нязгода, перакора, нісянеціца**

**ВЗДОРИТЬ**, **спрачацца, супярэчны, наўсупрач няўсупярэч.**

**ВЗДОХ**, **устхненьне, уздыханьне,**

**ВЗДРАГИВАТЬ**, **здрыгацца.** *Усё цела ад болю здрыгаецца.*

**ВЗДРЕМНУТЬ**, **скурхнуць, скурнуць, прыкурхнуць.** А маскаль тым часам трохі прыкурхнуў— (Сержп. стр. 1).

**ВЗЕРЦАТЬСЯ** *црк.* **ўзірацца.**

**ВЗИМАТЬ**, **браць, пабіраць,**

**ВЗЯТКИ**, **паборы, кубаны, даткі.**

**ВЗИРАТЬ** *на што:* **ўзіраць, ўглядаць.**

**ВЗЛАГАТЬ**, *што на каго, на што;* ўскладáць.

**ВЗЛАМЫВАТЬ**, *што* ламаць, надламываць.

**ВЗЛОМ**, сызлом, палом. *Шкло на сызломе востраe.*

**ВЗЛЕЛЕИТЬ**, ўскукобіць, узняньчыць, ўскалыхаць.

**ВЗЛЕТАТЬ**, узлятаць, узлётны, ўзлёт, ўзлёты, ўзлётчывы.

**ВЗЛѢЗАТЬ**, узлазіць, ўсьпінацца.

**ВЗЛѢСОК**, узлёсак, узлесьсе, *Парасьнік расьце на ўзлесьсі.*

**ВЗМЕТНУТЬ** *што куды;* узшыбнуць, ўскінуць.

**ВЗМЕТЧИВЫЙ**, ўскідчывы. *Ускідчывы чалавек.*

**ВЗМОЛИТЬСЯ**, ўзмаліцца.

**ВЗМОРЬЕ** *ср.* наўзморье, наўзморнік.

**ВЗМЫВАТЬ** *аб птахах, асабліва лоўчых;* ўспалынуць. *Сокал успалынуў пад хмары.*

**ВЗМЫЛИТЬ** *каня,* ўсьпеніць: *Ўсьпеніў каня яздой.*

**ВЗНОС** *м. грошы куды;* ўплата, ўкладка.

**ВЗНУЗДАТЬ** *каго,* акелзаць, узусьціць.

**ВЗОР** *м.* зрок, спогляд. *Ен хоць стары а зрок мае добры. У яго благі спогляд: як спагляне— аж мурашкі па целе пяройдуць.*

**ВЗРАЧНЫЙ**, прыглядны, казісты, спазорны.

**ВЗРАЩАТЬ**, расьціць, гадаваць.

**ВЗРАСТАТЬ**, узрастаць, дарастаць,

**ВЗРОСЛЫЙ**, дарослы. *Дарослы дзяцюк, а робіць як малы,*

**ВОЗРАСТ**, дораст, узрост. *На дораст высокі хлапец,*

**ВЗРОСТОК**, дарастак, падростак.

**ВЗРЫВ**, выбух. *Выбух пораху, пары.*

**ВЗРЫД**, ўзрыгі, наўзрыд. *Наўзрыд плача. Ужо бяз сьлёз, толькі узрыгамі плача.*

**ВЗЬЕРОШИТЬ, узшэршыць.** *Узшэршыў сабе валасы. Нашэршаны як вожык.*

**ВЗЫГРАТЬСЯ, усьцешыцца.**

**ВЗЫСКАНІЕ** *ср.* **спозыск. спазысківаць, спазыстчык.**

**ВЗЫСКАТЕЛЬНЫЙ, спазыстчывы, вымогчывы.** *Вымогчывы чалавек у рабоце.*

**ВЗЯТКА** *ж.* **кубан, кубар, хабар, лепанец, рабохум.**

**ВИДЕТЬ** *што,* пазнаваць човам зроку: **бачыць.** Слова відзець у беларускай мове ужываецца ў значэньні рас.: „зрѣть“. *А ці відзеў, а ці бачыў куме ты дзіва? І відзець ня відзеў і бачыць ня бачыў.*

*Сільненька заплача.*
*Што дачушкі ня ўбача.*
*(Шэйн. Т. І ч. 2, стр. 72, Бар. п.).*

**ВИДИМЫЙ відомы, відочны.**

**ВИДНО, бачна.** *Бачна, так і трэба. Мне гэта ўсё бачна.*

**ВИДИМО ачавіста, відаць.** *Ачавіста, ён ужо ня прыдзе. Відаць што яны злавалі на нас.*

**ВИДИМОСТЬ, відомасьць, ачавістасьць,**

**ВИДЕНІЕ, відзежа.** *Меў пустэльнік відзежу. І сталася яму відзежа.*

**ВИД,** зьнешні выгляд, спаверхнасьць, часьць прыроды, акінутая вокам—**спазор.** *Добры на спазор чалавек. Прыгожы спазор на раку горад.*

**ВИДОИЗМѢНЕНІЕ** *ср.* **адмена. завод.** Парода сабачая, завод пудаль, адмена пудля:

**ВИЗГ** *м.* праразьлівы крык, працяглы, высокі: **піск, сковат, ёкат.**

**ВИЗИТ** *м, франц.* **адведзіны, пярозвы.**

**ВИЛКИ** *сталовыя* **грабкі, грабчыкі, грабок, вільцы.**

**ВИЛОК** *м.* зьвіўшыяся ў клубок лісьця расьцін; **качан, качаністы.** Качарэжка, пянёк пад капустным качаном. Зьвіўшыяся клубам вялокны у дрэве— **сьвіль.**

**ВИНА** *ж. агульн. слав,* правіннасьць, праступак, прагрэшнасьць: **віна, вінны, вінаваты,**

**ВИНИТЬ**, **вінаваціць, абвінавачваць, вініць.** *Вінуй сабе ў сваім няшчасьці.*

**ВИНОВНИК** *м.* **вінаватчык, вінаваец,**

**ВИНОВНОСТЬ**, **вінаватасьць, вінасьць.**

**ВИНО** *ср. агульн. арыйскае;* напітак з ягад вінаграду: **віно.** Вінніца, дзе робяць, перахоўвуюць ці прадаюць віно.

**ВИНОГРАД** *м. расьціна і плод* Vitis vinifera; **вінная лаза, вінагрозьдзя.** *Вінагрозьдзя купіў хвораму.*

**ВИННАЯ ЯГОДА** *ж.* плод смакаўніцы: **смочвы, фігі.**

**ВИНОКУР** *м.* майстар які гоніць з брагі гарэлку: **гарэльнік.**

**ВИНОКУРНЯ** *ж.* фабрыка гарэлкі: **гарэльня.**

**ВИНОДѢЛІЕ** *ср.* выраб віна з вінаграду: **вінарства, вінарня, вінарнік.**

**ВИНОЧЕРПІЙ** *м.*, урад пры знатнай асобе: **чашнік,**

**ВИНТ** *м.* цьвек нарэзаны шрубом: **шруб, шрубісты, шрубаваць, нашрубоўка.**

**ВИНТОРѢЗКА** *ж.* **рубаўніца, шрубарня.**

**ВИНТОВКА** *ж.* стрэльба з нарэзнай рурай: **карабін.**

**ВИНЬЕТКА** *ж. франц.* рысунак, застаўка у кнізе: **завіток, завітушка.**

**ВИСЛОУХІЙ** *м.* **клапавухі, аблавухі, вyславухі.**

**ВИСОКОСНЫЙ ГОД, пераступны.**

**ВИСОК** *м.* бакавая часьць галавы, паміж вухом і лбом: **скорня.**

**ВИСѢЛИЦА** *ж.* **шыбеніца.** Шыбельнік, годны шыбеніцы, шэльма.

**ВИТАТЬ**, быць дзе колечы заўсёды або часова: **бытаваць.**

**ВИТРИНА** *ж. франц.* скрынка пад шклом для выстаўкі рэчаў; магазыннае вакно: **вылажка.**

**ВИТІЯ, прамоўца, красамоўца.**

**ВИТІЙСТВО, красамоўства.**

**ВИТІЕВАТЫЙ,** гаворыцца больш дакорліва: **завілы.**

**ВИТЬ** *што, агульн. слав.,* скручываць стволкі у адну нітку ці вяроўку: **віць, віцьцё, віты, віток, вітушка, віцень, завіцень, повіцень.**

**ВИХАТЬ** *што, агульн. слав.,* хіляць у адну і другую старану, скранаць з мейсца ў аснове сваей: **вывіхаць, вывіхнуты, вывіх. Віхлец, купрык** (рас. копчик) закончаньне хрыбетнай косткі, **Віхт,** баланс; **віхтацца,** балансіравацца.

**ВИХОРЬ** *м. агульн. слав.,* мейсца на галаве дзе валасы твораць кругаварот, **віхор, віхрэц, віхрак, віхраціна.**

**ВИХОРЬ** *м.* заверць, стаўбавы вецер, **віхор,** чор тава вясельня: **ветраварот.** Віхрыць, віхраць: круціць, бунтаваць.

**ВИШЬ** *скароч. відіш:* **бач.** Бач ён які разумнік. Бач што ён прыдумаў. Які ён, бач, мудры.

**ВКАТЫВАТЬ** *што куды,* **ўкачываць, ўкачывацца,** ўкаціць, **ўкотны, ўкогам.**

**ВКЛАДЫВАТЬ** *што куды, у што, агульн. слав.;* **ўкладаць, ўкладчык-ца.**

**ВКЛАД** *м. сама рэч ўкладаная куды у што:* **ўклад, наданьне,** надаваць, надавец. *Гэта наданьне яшчэ крыўскімі князямі нададзена манастыру.*

**ВКЛЮЧАТЬ** *што у што;* **ўлучаць, ўлучна.** *З панядзелка да серады ўлучна. Трэба ўлучыць і працэнты ў ісцінку.*

**ВКРАДЫВАТЬСЯ,** увайсці скрытна, крадаком:

**украдацца, ўкраўся, ўкрадліва.** *Лісьлівасьцю ўкрадаецца ў сэрца. У кнігу ўкраліся памылкі. Ўкрадчывай прымільнасьцю ў сэрца лезе.*

**ВКОРЕНЯТЬ** *што*, умацовываць, урастаць каранямі: **ўкараняць, ўпляняць** (ад „плёнчык", каранёк).

**ВКОРЕНЬ ўплень.** *Ўплень вынішчыў народ.*

**ВКОСЬ, ВКОСУЮ, наўскась, насукась, ўскось.**

**ВКРАТЦЀ наўскаротна наўскароць.**

**ВКРАШИВАТЬ** *што ў што;* **ўкрышыць, ўкрышаць, укрышыцца.** *Ўкрышыць хлеб ў ваду. Буракі, моркву кружаюць.*

**ВКРЕСТЬ, наўкрыж.** *Наўкрыж злажыў рукі (пер.памер).*

**ВКРИВЬ, наскрыў, наўкрыў.** *Усё пайшло наўкрыў ды коса.*

**ВКРУГ** *нар.* **наўкол, наўкольна, наўкруг.** *Наўколіца, абшар распаложаны наўкол сялібы.*

**ВКРУТУЮ** *варыць яйкі:* **на цьвёрда.**

**ВКУС** *м. чоў смаку;* **смач, смак, смачны.**

**ВКУСОВОЕ, наўсмачнае.**

**ВКУШАТЬ, смакаваць, кушаць.** *Маскалі кушаюць але не ядуць. Пакушай, але ня еш.*

**ВКУТЫВАТЬ** *каго у што:* **ўгартаць, увіваць.**

**ВЛАГА** *ж.* **мокрадзь, макраватасьць, волага, валожыць, валожны, вогкасьць, волгкасьць.** *Бяз волагі і цяпла німа расьціннасьці, німа жыцьця наагул. Вагкаватае сена. Вогкае мейсца. Час мне закрапіці (гарэлкай працу, гаворыцца аб каравайніцы), адвaложаньку даці. (Крачк. стр. 44).*

**ВЛАГАТЬ** *што куды ці ў што:* **ўкладаць, хаваць.**

**ВЛАГАЛИЩЕ** *ср.* **похва, ўлогва.**

**ВЛАГАТЕЛЬ** *м.* **ўкладчык-ца, ўкладзіны, ўкладзіва.**

**ВЛАДѢТЬ** *чым,* **валад*а*ць, аблад*а*ць.**

**ВЛАДѢТЕЛЬНЫЙ, валад*а*рны.** *Валадарны князь.*

**ВЛАДѢТЕЛЬ** *м.* **валад*а*р.** *Валадар маетнасьці вялікай.*

**ВЛАДѢЛИЦА** *ж.* **валад*а*рка.**

**ВЛАДѢНІЕ, валад*а*ньне, ма*е*тнасьць, ма*е*масьць**

**ВЛАДЫЧЕСТВО, ўладнасьць.** *Ўладнасьць сваю на нас распасьцягае.*

**ВЛАДЫКА-ЧИЦА, ўлад*ы*ка, ўлад*ы*чыца, ўлад*ы*чна.**

**ВЛАСТЬ** *ж.* права сіла і воля над чым: **ўл*а*да ўл*а*днасьць.**

**ВЛАСТНО, ўл*а*дна.** *Пышна і ўладна паны у нас орудавалі.*

**ВЛАСТОЛЮБІЕ , ўладалюблівасьць.**

**ВЛАЧИТЬ, валач*ы*ць, см*ы*жыць, цягн*у*ць, маг*нуць.** *Гляджу, ажно смычэ воўк авечку. На паплавох скошанае сена сьпярша зграбаюць у кучкі, а пасьля кучкі „смыжаць“ на сухое мейсца; найчасьцей канём на санёх, або на дошках. Закахаўся хлапец, таму яго і магне ўсё у тую старану. Магне чорт, каб зграшыў чалавек. Валачыць марна жыцьцё сваё.*

**ВЛЕЧЬ** *каго што;* **цягн*у*ць, валач*ы*, м*а*гнуць.**

**ВВЕЧЬСЯ, цягн*у*цца, валач*ы*цца, валач*ы*ся.**

**ВЛЕЧЕНІЕ** *ср.* **поцяг, цягнасьць, м*а*гнасьць, см*а*гнасьць, тант*а*ція,** Такая ў яго магнасьць да грошы. *Янук мае тантацію да маей Анэткі.*

**ВЛІЯТЬ,** ўліваць ў пераносным значэньні; браць над кім маральную перавагу: **ўплыв*а*ць, ўпл*ы*ў, ўплыв*о*вы, ўплыв*о*васьць.**

**ВЛОЖЕНІЕ, ўклад.** *Даў уклад свой на цэркву.*

**ВМЕТАТЬ, ВМЕТЫВАТЬ** *што ў што:* **ўкід*а*ць, ўшыб*а*ць.**

**ВМѢНЯТЬ** *каму што,* **забавязываць, ўлучаць, пачытаць, намяняць.** *Кроў бязвінную н а м е н і ц ь вам Бог. (Срезн.)*

**ВМѢНЯЕМОСТЬ, прытомнасьць, пачытальнасьць.** *Н е п р ы т о м н а с ь ц ь (н е п а ч ы т а л ь н а с ь ц ь) паступкаў варьята безпярэчна.*

**ВМѢСТО** *прысл.* **замест, наўзьмест.**

**ВМЫСТѢ, разам, сумесна, супольна пасполь-на.**

**ВМѢСТИМОСТЬ, ВМѢЩЕНІЕ** *ср.* **патопўнасьць.**

**ВМѢСТИТЕЛЬНОСТЬ, патоўплівасьць, патоўплівы**

**ВМѢЩАТЬ, тоўпіць.** *Ўсяго тут не п а т о ў п і ш цесна.*

**ВМѢСТИЛИЩЕ** *ср.* **стоўплішча, стоўпішча.**

**ВМѢСТИМОСТЬ** *ж.* **стоўплівасьць.** *С т о ў п л і в а с ь ц ь, п а т о ў п л і в а с ь ц ь бочкі, чатыры вядры*

**ВМѢСТИТЕЛЬ-НИЦА, спатоўпнік-ніца**

**ВНАЧАЛѢ** *прысл.* **спачатку, значатку,** *Спачатку было Слова, а Слова было ў Бога.*

**ВНЕЗАПНО** *нар.* **знагла, зьнечаку, знеўспадзеў, раптам, зьнечвільна.**

**ВНИМАТЬ, ВНЯТЬ** *чаму:* **ўважаць.**

**ВНИМАНІЕ, увага.** *Да навукі патрэбны пільнасьць і у в а г а.*

**ВНИМАТЕЛЬНО, уважна.** *У в а ж н а слухай вучыцеля.*

**ВНОВЬ, ізноў, наўзноў, назноў.**

**ВНОС** *м.* тое што ўнесена (а грашах): **ўклад, сплатка, складка.**

**ВНУК—ЧКА,** сына або дачкі дзеці: **унук, унучка, унукі, унукаў.**

**ВНУТРИ** *чаго,* у сярэдзіне, ў чым небудзь: **ўнутры, вонутры.**

**ВНУТРЬ** *прысл.* **ўнутро, вонутры.** *Доктар даў зеліва вонутра піць.*

**ВНУТРЕННІЙ, унутрамны, нутрамны, вонутрны.** *Нутрамны клушч.*

**ВНУТРЕННОСТЬ, нутро, нутранасьць.**

**ВНУШАТЬ**, (во-ушать?) *каму што*, прымушаць думаць, хацець, пабуджаць да прыньцця перадаванага славамі ці іншым спосабам: **умушчаць.**

**ВНУШЕНІЕ** *ср.* **ўмуст, ўмусьціць, ўплыв**

**ВНУШИТЕЛЬНЫЙ, ўмусьлівы, ўплывовы,**

**ВНѢ** *чаго прысл.* **зьне, на зьне.**

**ВНѢШНІЙ, зьнешні, назьнешні.**

**ВНѢШНОСТЬ, зьнешнасьць.** *Унутраннае жыцьцё душы працістаўляецца зьнешнай дзейнасьці чалавека. Па зьнешнасьці нельга судзіць аб чалавеку,*

**ВНѢДРЯТЬ** *што ў каго,* **ўнетраць, ўкараняць.** *Хто ўнетрыў у тоўшчу зямлі і золата і жалеза? Унетранае благое пераконаньне цяжка выпленіць. Нятро, нутро, сярэдзіна, самая глыбіна нутра.* **Нетрава,** *асяродак цэнтр унутранага.*

**ВНЯТЬ, учуць.** *Учуй просьбы нашы!*

**ВНЯТНОСТЬ** *ж.* **выразьлівасьць.**

**ВНЯТНЫЙ, выразісты, выразістасьць, выразьлівасьць.**

**ВОВЛЕКАТЬ** *каго ў што, куды:* **ўцягаць, ўсмыгаць, ўтантовываць.** *Утантавалі (ўтантэчылі) ў чужую ды благую справу. Янук мае тантацію да маей Анэткі*

**ВОВРЕМЯ** *прысл.* **ўчас.** *Ня ўчасны госьць горш татарына.*

**ВОВСЕ** *прысл.* **саўсім, зусім, суздрам, ўдакон,** *Ўдакон пагарэлі. Суздрам ўсё прапала.*

**ВОВѢК, ВОВѢКИ** *прысл.* **навекі.** *Навекі вечныя ня буду і другому закажу. Стварыцель сьвет навекі угрунтаваў.*

**ВОГНУТЬ, угнуць, ўгібнуць, ўклясьціць.**

**ВОГНУТЫЙ, угнуты, ўкляслы.**

**ВОДВОРЯТЬ, ўсяляць, асяляць.**

**ВОДА** *ж. агульн. слав.:* **вада, вадзіца, вадзічка; вадавіца, вадавік, вадатоўпішча,** начыньне напоўненае вадой (рас.: водохранилище). Вадзянік міт. дух які жыве ў водах. Вадзянка (смал.), кадка ў якой трымаюць ваду. Вадзянасьць вадзянец, вадзяністы, насычаны вадой. Вадаварот, вір, круцень. Вадаземны, які жыве ў вадзе і на зямлі.

**ВОДОЕМ, вадавік, водабадзь.**

**ВОДОКАЧКА, вадацягніца, вадацяг.**

**ВОДОЛИВ, чарпло, чарпага.**

**ВОДОЛЕЙ, вадаліў, вадавік.**

**ВОДОБОЯЗНЬ, шал, шалёны.** *Вольнаму воля, шалёнаму поле.*

**ВОДОПАД, вадавал.** *Вадавал на рацэ утварыўся.*

**ВОДОРОСЛЬ, водарасьць.**

**ВОДОПОЛЬЕ, паводка, разтопіца, разьліў.**

**ВОДОСВЯТІЕ, Вадохрышча.**

**ВОДЕВИЛЬ** *м. франц.* сцэнічнае відовішча з песьнямі: **фацэція.**

**ВОДИТЬ** *каго, агульн. слав.;* **вадзіць, вадзіцца, вядзежа, вадня, вадарскі, вадарыць, паводзіць, павадыр,**

**ВОДКА** *ж.* пьяны напітак са сьпірту і вады; **гарэлка, гарэліца.**

**ВОДРУЖАТЬ** *што у што,* ўтыкаць, устаўляць, укапываць стоцьма: **ўстрамляць, ўстраміць, ўторнуць.**

**ВОЕДИНО** *црк.* **заадно.**

**ВОЖАК** *м.* **верхавод, вадзіла.**

**ВОЕННОСЛУЖАЩІЙ, вайсковец, вайсковаслужомны.**

**ВОЕННОПЛЁННЫЙ, палонны.**

**ВОЕННОУЧЕБНЫЙ, вайсковавучомны.**

**ВОЕННЫЙ, вайсковы, ваярскі.**

**ВОЖДЕЛЕНІЕ** *ср.* **бажаволеньне, бажахотлівасьць, пажадлівасьць,**

**ВОЖДЬ** *м.* **вадар, вадарскі, вадарства.**

**ВОЖЖА** *ж.* вяроўка прывязваная да уздэчкі запрэжанага каня: **лейчына, лейцы, лейцаваць.**

**ВОЗБРАНЯТЬ** *каму што,* **забараняць.**

**ВОЗБРАНИТЕЛЬ, забаронштчык.**

**ВОЗБРАНЕНІЕ, забарона,**

**ВОЗБУЖДАТЬ** *каго к чаму, што ў кім:* **пабуджаць.**

**ВОЗБУЖДЕНІЕ, пабудка, узбураньне.**

**ВОЗБУДИТЕЛЬНЫЙ, пабуджальны, ўзбурчівы.** *Ўзбурчывы характар.*

**ВОЗВЕСЕЛЯТЬ, зьвесяляць.** Зьвесялімся, брацьця, духам. Трэба чым колечы сэрца зьвесяліць. *Зьвесялемся не смуцемся, спасіцель ні че ляжыць на сене.*

**ВОЗВОДИТЬ, ўзвадзіць.**

**ВОЗВРАЩАТЬ** *што куды або каму:* **зьвяртаць, зьвяртацца, зварот.**

**ВОЗВРАТНЫЙ, заваротны.** *Зваротны тыфус.*

**ВОЗВРАТИМЫЙ, спаваротны.** *Спаваротны доўг.*

**ВОЗВЫШАТЬ** *каго, што,* **узвышаць, звышаць, ўзнасіць, ўзьнімаць.**

**ВОЗВЫШЕНІЕ, звышнасьць, ўзвышша.**

**ВОЗВЫШЕННОСТЬ** *ж.* **падвышэньне, пазвышша.** На пазвышшы, паміж возерам і ракой, ляжыць наша поля.

**ВОЗВѢЩАТЬ** *каму што аб чым;* **спавяшчаць, зьвяшчаць, запавядаць.**

**ВОЗВѢЩЕНІЕ, зьвесьце, спавестка, запаведзь.**

**ВОЗГЛАВІЕ** *ср.* **узгалоўе.**

**ВОЗГЛАГОЛАТЬ, загаманіць, прамовіць,**

**ВОЗГЛАШАТЬ** *што аб чым каму;* **аглашаць, аглашацца, аглашонік, апавяшчаць, спавяшчаць.**

**ВОЗГОРЯТЬ**, **загар*а*цца, узг*о*рчывы, запаляцца, зап*а*льчывы.**

**ВОЗГОРѢНІЕ** *ср.* **узг*а*р, заг*а*р, зап*а*л, ўспыхл*і*васьць.**

**ВОЗГРЕМѢТЬ**, **загрым*е*ць.**

**ВОЗГРЯ** *ж.* наздравая сьлізь: **соп*л*я, сапл*я*к, сапл*і*вец, сапл*і*вы, сапляв*і*ць.** *Саплівец гэты ўсё засморкае. Соплі цякуць па барадзе, а жаніцца хоча.*

**ВОЗДАВАТЬ, ВОЗДАТЬ** *каму, што;* **аддав*а*ць, аддз*я*чыць, адп*о*мніць.**

**ВОЗДАЯНІЕ** *ср.* **адд*а*так, адд*а*тнік,-ца, аддзяка.**

**ВОЗДАЯТЕЛЬНЫЙ**, **адд*а*тлівы, адз*я*члівы.**

**ВОЗДВИГАТЬ, ВОЗДВИЗАТЬ** *што;* **уздым*а*ць, уздым*а*цца.**

**ВОЗДВИЖЕНІЕ** *ср.* **узд*о*йм, узьв*і*жаньне.**

**ВОЗДВИЖНИК** *м.* **узд*о*ймнік,—ніца.**

**ВОЗДЕРЖИВАТЬ, ВОЗДЕРЖАТЬ** *каго ад чаго;* **паздзярж*а*ць, пастрым*а*ць, паўсьцяг*а*ць**

**ВОЗДЕРЖАНІЕ** *ср.* **паўздз*е*ржлівасьць, паўстр*ы*млівасьць, с*у*дзерж, сустрым*а*ньне, паўсьц*я*жлівасьць.**

**ВОЗДУХ** *м.* матэрыя акружаючая зямельны клуб, творачая атмосфэру яго: **пав*е*тра.**

**ВОЗДУШНОСТЬ**, **пав*е*трлівасьць.**

**ВОЗДУШНЫЙ**, **пав*е*травы, пав*е*траны, напав*е*траны.**

**ВОЗДУХОПЛАВАНІЕ** *ср.* **лётніцтва, лётчык.**

**ВОЗДЫХАТЬ**, **уздыхаць, уздых*а*ньне.**

**ВОЗДЫХАТЕЛЬ—НИЦА**, **уздых*а*ч,—ачка, уздых*а*льнік,—ніца.**

**ВОЗДѢВАТЬ, ВОЗДѢТЬ** *што,* **ўзьнім*а*ць, ўзьняць.**

**ВОЗДѢЙСТВОВАТЬ**, **падз*е*яць, ўпл*ы*нуць.**

**ВОЗДѢСТВІЕ** *ср.* **падз*е*йлівасьць, ўпл*ы*ў.**

**ВОЗДѢЛЫВАТЬ** *зямлю, поле:* **выраб*л*яць.**

**ВОЗДѢЛЫВАНІЕ** *ср.* **выраб, вырабка.**

**ВОЗДѢЛЫВАТЕЛЬ, парабнік, парабшчык.**

**ВОЗЖАЖДАТЬ**, захацець піць: **пожаднуць, зажаднуць, засмагнуць.**

**ВОЗЖЕЛАТЬ** *чаго* **пажадаць, узхацець, забажаць замагнуць.**

**ВОЗЖИВАТЬ, ажываць.**

**ВОЗЖИГАТЬ, запаляць, заагняць, загнячаць.**

**ВОЗЖИГАНІЕ** *ср.* **запаляньне, загнешчаньне, завогніўленьне.**

**ВОЗЗВАНІЕ, заклік, адозва.**

**ВОЗРѢНІЕ, погляд, спозірк.**

**ВОЗИТЬ** *што на чым, агульн. слав.;* **вазіць, вазіцца, вазяняцца, вазяніца, возка.**

**ВОЗЛАГАТЬ, пакладаць.** *Трєба на свае сілы надзею п а к л а д а ц ь.*

**ВОЗЛЕГАТЬ, ляжаць, наўзлеж.**

**ВОЗЛИВАТЬ, ВОЗЛІЯНІЕ, паліваць, паліваньне.**

**ВОЗЛѢ** *прысл.* **наўзьле, побач.**

**ВОЗЛѢЗАТЬ, узлязаць,**

**ВОЗЛЮБЛЯТЬ** *каго,* **пакахаць;** што: **палюбіць; умілаваць.**

**ВОЗЛЮБЛЕННЫЙ** *м.*—**АЯ** *ж.* **укаханец,—нка.**

**ВОЗЛЮБЛЕНІЕ** *ср.* **укаханьне, уміламаньне.**

**ВОЗМЕЗДІЕ** *ср.* **аддатак, адплата, адзяка.**

**ВОЗМНИТЬ, здумаць, задумаць, падумаць.**

**ВОЗМОЖНЫЙ, магчымы.** *М а г ч ы м ы  к а н е ц, вынік справы.*

**ВОЗМОЖНОСТЬ** *ж.* **магчымасьць, спрамога, змога, можнасьць.**

**ВОЗМУЖАТЬ,** дасьцігнуць мужскога, поўнага даросту: **змужнець, змужнелы, змужнасьць.**

**ВОЗМУЩАТЬ, змучаць, змушчаць, абурываць, каламуціць, узбурываць.** *З м у ц і ў, з м у с ь ц і ў ваду. Чорт з ь м у с ь ц і ў яго мысьлі. Сымон у з б у р ы ў усіх сваей прамовай.*

**ВОЗМУЩЕНІЕ** *ср.* **скаламут, абураньне, узбураньне.**

**ВОЗМѢЩАТЬ** *што чым,* **заступаць, папаўняць, замяняць, адплачаць.**

**ВОЗМѢСТНИК-НИЦА, заступнік-ніца, замесьнік-ніца.** *Вы спаганяйце даўгі ўжо пры маім замесьніку.*

**ВОЗНАГРАЖДАТЬ** *каго чым, за што;* **нагараджаць.**

**ВОЗНАГРАЖДЕНІЕ** *ср.* **нагарода, заплата.**

**ВОЗНАМѢРЫВАТЬСЯ, занамерыцца, загануць, замануць.**

**ВОЗНЕГОДОВАТЬ** *каму, на што:* **абурыцца.** *Як тут не абурыцца гледзячы на такое бязпраўства.*

**ВОЗНЕНАВИДѢТЬ** *каго, што,* **зьненавідзіць.**

**ВОЗНЕСЕНІЕ** *ср.* **падняцьце.** Сьвята: — **Узвіжаньне.**

**ВОЗНИКАТЬ узьнікаць, вынікаць.** *Збожжа выбіла градам, бадай ўжо ня ўзьнікне. Паміж людзей ўзнікаюць трывожныя чуткі*

**ВОЗНИЦА** *м.* **важатай, вазец, вазіла.**

**ВОЗНЯ, важганіна, саўганіна, таўпарня, цяганіна.** *Усю ночь чуваць было за сьцяной таўпарню нейкую. З гэтым судом важганіны не абярэшся.*

**ВОЗНОВЛЯТЬ** *што,* **абнаўляць, абнаўляцца, абноўнік, абноўшчык, аднаўляць.**

**ВОЗОБНОВЛЕНІЕ, абноўленьне, адноўленьне, аднова.**

**ВОЗОПИТЬ, загаласіць, заякатаць, закрычаць.**

**ВОЗПРОИЗВОДИТЬ, адтвараць, аднаўляць, асызнаўляць.**

**ВОЗРАДОВАТЬ** *каго,* **абрадаваць.**

**ВОЗРАЖАТЬ** *каму што, або на што;* **пярэчыць, спрачацца, супрэчыць.**

**ВОЗРАЖЕНІЕ** *ср.* **запярэчаньне, супрэчаньне.**

**ВОЗРОЖДАТЬ** *што, каго;* **адраджаць.**

**ВОЗРОЖДЕНІЕ** *ср.* **адраджэньне.** *Адраджэньне нацii.*

**ВОЗРОЖДАЕМОСТЬ, адражальнасьць.**

**ВОЗРАСТАТЬ, узрастаць.** *Узрастаюць у яго усялякія ягады.*

**ВОЗРОСТ, дораст, узрост.**

**ВОЗРОПТАТЬ** *на што, на каго;* **пачаць наракаць.**

**ВОЗРАЩАТЬ** *што,* **узрасчаць,** *каго:* **узгадовываць.**

**ВОЗСВИДѢТЕЛЬСТВОВАТЬ, засьведчыць.**

**ВОЗСВИРѢПѢТЬ, асьвірапець.**

**ВОЗСІЯТЬ, засіяць, зазіяць.**

**ВОЗСКОРБѢТЬ** *па чым,* **засмуціцца, зажурыцца, засумаваць.**

**ВОЗСКРЕЖЕТАТЬ, заскрыгатаць.**

**ВОЗСЛАВЛЯТЬ, услаўляць, услаўляцца, услаўленьне.**

**ВОЗСОЕДИНЯТЬ, злучаць, з'адначаць, з'адночаны, з'адночына, спалучаць.**

**ВОЗСОЕДИНЕНІЕ, з'адночаньне, злучэньне, спалучэньне.**

**ВОЗСОЗИДАТЬ** *што,* **узнаўляць, адбудовываць, спасызнаўляць.**

**ВОЗСТАВАТЬ, паўставаць, паўстаньне, паўстанец.**

**ВОЗСТАНОВЛЯТЬ, адбудовываць, ўзьнімаць.** (быць каму праціўнікам): **падыймаць, ўзбураць, падбураць.**

**ВОЗСТЕНАТЬ, застагнаць.**

**ВОЗСЫЛАТЬ, засылаць.** *Засылае паклоны ўсім.*

**ВОЗСѢДАТЬ, засядаць.** *Малады, як князь на пасадзе засядае.*

**ВОЗ'ИМѢТЬ, памец.** *Хворая памела ахвоту да яды. Памеваецца ў мяне жаданьне папрасіца дамоў.*

**ВОЗШЕСТВІЕ** *ср.* **узшэсьце.**

**ВОЙЛОК** *м.* **спехцень** з воўны або поўсьці: **лямец.**

**ВОЙЛОКОБОЙ, пяхтар, лямшчык.**

**ВОЙНА** *ж. агульн. слав,:* **вайна, ваяваць** (ад біц,—бойня, баяваць; як, праўдападобна, баярын і воевода).

**ВОИТЕЛЬ, ваяўнік, ваец, войнік, воім, ваяр, ваярын.**

**ВОИНСТВО, войска,**

**ВОИНСТВЕННОСТЬ, ваёўнасьць** арх. **валечнасьць.**

**ВОИСТИНУ** *прысл.* **запраўды.** *Запраўды кажу вам лягчэй вярблюду прайсьці праз вухо ігольнае, як багачу у царства нябеснае.*

**ВОКРУГ** *чаго* **наўкол, наўкруг.** *Зямля аварачваецца наўкруг (наўкол) сонца. Гэтай справы наўкол пальца не абвінеш.*

**ВОЛДЫР** *м.* шышка, пухліна на целе ад удару, нарыў, нарост: **пухір, будыр.** *Ѝздуўся як пухір дый лопнуў. Лопнуў як пухір па вадзе. Будыром* **баўдыром** *сеў на целе.*

**ВОЛК** *м.* хіжы зьвер сабачай пароды: **воўк, ваўчыца, воўчы, ваўчо, ваўчанё, ваўчура, ваўчонак.**

**ВОЛКОДАВ** *м.* завод сабак: **ваўкарэз.**

**ВОЛНА** *ж.* вадзяны грэбень, падняты ветрам: **вал, валва,** (Гродз.) **выльва** (Вязіжск.), **бурва** (Гомельск. п.)

*Вуліца бурыца, Карагод валіцца.*

(Ром. Т. 8—9, стр. 178).

*Быстрая рэчанька валвой бьець,*

*Матухна Настульку з вянца жджэць.*

(Лідзк. і Ашм. пав.).

**ВОЛНИСТЫЙ**, **валвісты**. **хвалісты**, *Валвісты вецер ваду бурыць.*

**ВОЛНОВАТЬ**, **валваваць**, **хваляваць**. *Ня трэ валваваць вады, каб не змуціць.*

**ВОЛНЕНІЕ** *ср.* **валвава́ньне**, **хвалява́ньне**. *Вялікае валваваньне было на моры.*

**ВОЛОКИТА**, **валачоміца**. *Нам хапае сваей валачоміцы па судох.*

**ВОЛОНТЕР** *м. франц.* **самахотнік**.

**ВОЛОСТЬ** *ж. агульн. слав.* **воласьць**, **валасны**, **валашчанін**.

**ВОЛОС** *м. агульн. слав.* **волас**, **валасы**, **валаскі**, **валасяны**, **валасаты**, **валасуха**, **валасатка**, **валасень**, **валасанкі**, **валасянка**. **Валасажары** мн., плеяды.

**ВОЛОЧИТЬ** *каго, што;* **валачыць**, **валакчы**, **тарабаніць**. *Валока, мера зямлі—20 дзесяцін. Валок, нізкі бераг ракі.*

**ВОЛХВ** *стар.* мудрэц, астраном, чарадзей, знахар; **варажбіт**, **вешчбіт**, **валшвец**.

**ВОЛХОВАНІЕ** *ср.* **вяшчба**, **валшва**.

**ВОЛЬТ** *м. італьян.* **аварот**.

**ВОЛЯ** *ж, агульн. слав,* **воля**, **воліць**, **валей**, **вольны**, **вольная**, **вольніца**, **вольнік**, **вольнасьць**, **вольна**.

**ВОЛЧЕК** *м.* цацка заложаная з кружка на пяньку (юла); **жэўжык**, **порплік** (Гродз.), **цыжык**.

**ВОЛШЕБНИК** *м*, **чараўнік**, **чараўніцтва**, **чараваць**.

**ВОЛШЕБНЫЙ**, **чароўны**, **кудзебны**.

**ВОНЗАТЬ**, **ВОНЗИТЬ** *што у што*: **ўтыкаць**, **ўнузаць**, **ўныраць**. **ўстрамляць**.

**ВОЛЫНКА** *ж.* музычны інструмант: **дуда**, **дудка**, **дудзець**, **дудзіла**, **дудар**, **дудзель**.

**ВОН**, **ВОНА**, паказ мейсца: **вун**, **вундзе**, **вундзека**.

**ВОНЬ** *ж.* няпрыемны пах: **смарад, смарадны, сьмярдзячы, смурод, затха.**

**ВООБРАЖАТЬ** *што,* **выабражаць, выабражэньне, выабразьлівы; уроіць.** *Я не магу выабразіць сабе як выглядае упыр. Ен мае лішнё добрае выабражэньне аб сваіх здольнасьцях. Нэрон уроіў сабе, што ён вялікі паэт.*

**ВООБРАЖЕНІЕ, выабржэньне, уроеньне.**

**ВООБРАЖАЕМЫЙ, выабражальны, уроены.**

**ВООБЩЕ** *прысл.* **наагул, агульна, уагуліць, уагульненьне.** *Наагул кажучы уагуліць можна ўсё, што падлягае уагульненьню*

**ВООДУШЕВЛЯТЬ** *каго чым,* **ажыўляць, натхнуць.** *Натхнуў войска мужствам. Натхнёна прамаўляў і ажывіў ўсіх сваімі словамі.*

**ВООРУЖАТЬ** *каго што:* **азброіваць, узброіваць.**

**ВООРУЖЕНІЕ, азброеньне, узброеньне, зброя.**

**ВООЧІЮ, назвочна, назвоч.** *Назвоч ілжэ дзяцюк дзеўцы.*

**ВО-ПЕРВЫХ** *прысл.* **наперш, перш-найперш, спярша, перш за ўсё.**

**ВОПІЯТЬ, ВОПИТЬ** *аб чым да каго, па кім;* **галасіць, лямантаваць, крычаць.**

**ВОПЛЬ лямант.** *Крык і лямант падняўся са страху.* ·

**ВОПЛОЩАТЬ, ВОПЛОТИТЬ** *каго, што;* **уцелаісьціць.**

**ВОПЛОЩЕНІЕ** *ср.* **уцелаішчаньне.** *Уцелаішчаны Бог: гэта уцелаішчаная ідэя. Хто ўцелаісьціў ва ўсе целы сілу прыцягальную.*

**ВОПРЕКИ** *прысл.* **насупрэч, наўспрэч, насупар, наўзадор.**

**ВОПРОШАТЬ** *каго або чым;* **пытаць,**

**ВОПРОС** *м.* **пытаньне.** *Якое ён табе даў пытаньне?*

**ВОПРОСИТЕЛЬНЫЙ, пытальны, пытальнік** (знак на пісьме).

**ВОРКОВАТЬ** *аб галубох;* **буркав*а*ць, брукав*а*ць, буркат*а*ць.**

**ВОРКЛИВЫЙ, буркл*і*вы, буркатл*і*вы, пукл*і*вы, марм*о*тлівы.**

**ВОРОБЕЙ** *м.* птушка. **вераб*е*й, вераб*е*йны, верабейнік; вярб*е*ль, вярб*е*лька** (росл, пав.).

**ВОРОВАТЬ** *што,* **кр*а*сьці, кр*а*сцца, крадз*е*жа, крадз*е*жыць, крадз*е*жны, крад*о*мы, крадз*е*жнік, крадк*о*м, нас*у*крадкі, укр*а*дкам.**

**ВОРОН** *м.* птах з пароды варон, чорны ўвесь з адлівам: **крук.** Лесавы крук: **крум*к*ач.**

**ВОРОНА** *ж.* **варона.**

**ВОРОНКА** *ж.* **лейка, сулейка, сул*е*я.**

**ВОРОТА** *ж.* **вар*о*ты, вар*о*тцы, вар*о*ціткі, вар*о*тны, бр*а*ма.** Пад брамай разумеюцца крытыя зьверху і са шчытнымі дзьвярыма вароты. У плоце ставяць вароты зьбітыя з 4—5 дасок, а пры ўходзе у дом маецца—брама.

**ВОРОТНИК** *м.* **каўн*е*р, каўн*е*рны, каўн*е*рык каўн*е*рчык.**

**ВОРОЧАТЬ,** *што або чым; агульн. слав.* **вар*о*чаць, вар*о*чацца, вар*о*чаньне, вар*о*тлівы, варачэнь, варач*ы*ла, вар*у*хаць, вар*у*шыць.**

**ВОРОХ** *м.* **куча, гр*у*да,** чаго сыпучага ці зваленага у рыхлую кучу,

**ВОРСА** *ж.* волас, пушок ці шэрстка на тканінах на сукне ці аксаміце: **кутр*о*, кут*ы*р, кугр*о*.**

**ВОРСОВАТЬ, кугр*а*ць, к*у*трыць.**

**ВОРСИСТЫЙ, кугр*ы*сты, кутр*ы*сты.**

**ВОРСЯНОЙ, кугр*а*вы, кутр*а*вы.**

**ВОРСИЛЬНЯ. кугр*а*льня, куграв*а*льня, кутр*а*льня.**

**ВОРСИНКИ кугр*а*ткі, кутр*ы*нкі.**

**ВОРСИЛЬЩИК** м,—**ЩИЦА, кугр*а*ч.-чка, кутэрнік, кутэрніца.**

**ВОРЧАК** *м.* пастромачны валак пры упражы **бар*о*к** (Смал.), **др*о*нцік** (Менск.), **в*о*рчык.**

**ВОРЧАЛИВЫЙ**, **буркл*і*вы, марм*ы*рлівы, пукл*і*вы, квакл*і*вы.** *Цешча квоча, абедаці хоча.*

**ВОР** *м,* **зл*о*дзей, зладз*е*іць, зладз*е*жны, зл*о*дзьлівы, зладз*е*жа.**

**ВОСЕМ** *ліч. агульн. слав.* **в*о*сем, в*о*сьмы, в*о*сьмера, васьм*е*рка, васьмярн*я*, васьм*і*ць, васьм*і*на, васьм*ак*, в*о*семдзесят, в*о*семсот, восемн*а*дцать.**

**ВОСКАТИТЬ, ВСКАТИТЬ, ўскац*і*ць.**

**ВОСКЛАДАТЬ** *што куды або на што;* **усклад*а*ць, ускл*ад*, ускл*а*дка, ускладаны, ускл*а*дзіны.**

**ВОСКЛИЦАТЬ, ВОСКЛИКНУТЬ** *што,* **усклік*а*ць, выклік*а*ць.**

**ВОСКЛИЦАНІЕ** *ср.* **выклік*а*ньне, выкл*і*чнік, в*ы*клік, выкл*і*чны, выкл*і*чная, н*а*ўскліч, в*ы*згук.**

**ВОСКЛОНЯТЬ, сукляня*ць*, сукланяцца, сукл*о*н, сукл*о*нчывы.**

**ВОСКОЛЕБАТЬ, ВСКОЛЕБАТЬ** *што,* **скалыб*а*ць, скалыбн*у*ць, скалыбн*у*цца, скалыб*а*, скалыб*а*ньне.**

**ВОСКОРМЛЯТЬ, ВСКОРМЛЯТЬ** *каго,* **ускарм*і*ць, узгадав*а*ць.** *Ня той бацька, што ўскарміў, а той што розуму наўчыў. Не ўспаіўшы, не ўскарміўшы ворага ня ўбачыш. Што ўзгадаваў тое і маеш.*

**ВОСКОРЫСТОВАТЬСЯ** *чым,* **скарыст*а*цца.** *Век свой працаваў, а скарыстацца не давялося.*

**ВОСКРЕШАТЬ, ВОСКРЕСИТЬ** *каго,* павяртаць да жыцьця мертвага: **ўскрас*а*ць, ускр*о*сны, скрас*а*ць, скр*о*сны, скр*о*с.** *Веснавое сонца зямлю ўскрасае. Ці-ж ты ўжо, матухна, ня ськрэсьнеш? (Вітаб). Яму акаяннаму скросу ня будзе. Скросным днём. Скросная малітва.*

**ВОСКРЕСЕНЬЕ,** апошні дзень тыдня: **нядз*е*ля, нядз*е*льны, нядз*е*льнік, нядз*е*ліць.**

**ВОСКРЫЛЯТЬ** *каго, што:* **акрыл*я*ць, акрыл*я*цца, акрыл*е*ньне, акрыяць.**

**ВОСКРЫЛІЕ, акр*ы*льле,** пала, край адзеньня.

**ВОСКРИЧАТЬ, закрычаць.**

**ВОСКУРИВАТЬ, ВОСКУРЯТЬ** *што.* **кадзіць, каджаньне, кадзіва.**

**ВОСК** *м.* матэрыя вырабляная пчоламі з расьцінных частак, *агульн. слав.:* **воск, васковы, васчаны, васчатка, васчанка, васкаваць, васчыць, васчына.** Воск у сотах: **вуза.**

**ВОСНЯХ** *прысл.* **спросну, спрасоньня.**

**ВОСПАЛЯТЬ** *што,* **запаляць запаліцца, запаленьне, запальнік, запальніца, запальны, запальчывы, запальнасьць; завагняць, завогніцца, завогнены, завогненасьць.**

**ВОСПАРЯТЬ, ўзлынаць, узлынацца, узлынчывасьць, узлынчывы, узлынаньне.**

**ВОСПИТЫВАТЬ** *каго,* **узгадовываць, выховываць,** першае адносіцца да фізычнай, другое да духовай стараны.

**ВОСПИТАТЬ, узгадаваць, выхаваць.**

**ВОСПИТАНІЕ** *ср.* **гадаваньне, выхованьне.**

**ВОСПИТАННИК** *м.* **-ЦА** *ж.* **гадунец, выхаванец, гадаванка, выхаванка.**

**ВОСПИТАТЕЛЬ** *м.* **гадаўнік, выхаваўнік.**

**ВОСПИТАТЕЛЬНЫЙ, выхаваўчы, гадоўны.**

**ВОСПЛАКАТЬ, ВСПЛАКАТЬ, заплакаць, заплакнулася, заплакалася.**

**ВОСПЛАМЕНЯТЬ** *каго, што,* **ўспалымляць.**

**ВОСПЛАМЕНЕНІЕ** *ср,* **ўспалымленьне, ўспалымчывасьць.**

**ВОСПОЛНЯТЬ, дапаўняць.**

**ВОСПОЛЬЗОВАТЬСЯ** *чым,* **скарыстацца.** *Вучань скарыстаўся з лекцыяй; апякун з чужой маетнасьці; злодзей з нябытнасьці дома гаспадара.*

**ВОСПОМИНАТЬ, ВСПОМЯНУТЬ, спамінаць, спомніцца, спамінаньне, спамін, спамінальны.**

**ВОСПОМОГАТЕЛЬНЫЙ, дапаможны, даўспаможны, ўспаможны.**

**ВОСПОМОЩЕСТВОВАНІЕ, дапамога, спамога.**

*Калі жыва буду спамагуся,*
*Табе адгаджуся. (Крачк. стр. 75).*

**ВОСПРЕПЯТСТВОВАТЬ** *чаму,* **перашкодзіць.**

**ВОСПРЕЩАТЬ, ВОСПРЕТИТЬ** *што, каму;* **забараняць забараніць, забарона, забараняцца, забаронны, забароншчык-шчыца.**

**ВОСПРЯТЬ, ачуняць ачуняцца, ачунлівы, ачунак.** *Німа ад пьянства ачунку. (Сержп. стр. 106).*

**ВОСПРИНИМАТЬ, ВОСПРІЯТЬ** *што, каго;* **успрымаць, успрымацца, успрыманьне, успрыемства, успрынятны, успрыемлівасьць.**

**ВОСПРОИЗВОДИТЬ** *што,* **сызнаўляць, атызновіць, сызноўны, адтвараць.**

**ВОСПРІЕМНИК** *м.* **успрыемнік; кум,** *м.* **кума** *ж.* **кумаваць, кумоўскі, кумоўства,** хросны бацька або матка.

**ВОСПЫЛАТЬ, успылаць, успыхнуць, успыхаць, успыхлівы, успышка.**

**ВОСПѢВАТЬ** *каго, што;* **апяваць, апевісты, апеўны, апяваньне.**

**ВОСТЕКАТЬ** *куды,* **усцякаць.**

**ВОСТОК,** старана сьвету адкуль усходзіць сонца: **усток, усточны, усточнік; усход, усходны, усходнік.**

**ВОСТОРГАТЬ, ВОСТОРГНУТЬ** *што,* **вытаргаць, вытаргацца, вытарганьне, вытаржыны, вытарга;** бязмерная радасьць, здаволеньне: **захват, захватвацца, захватлівы, захватлівасьць; захоплівасьць, захоплівацца, захопленнасьць, захоплівы.**

**ВОСТРЕБОВАТЬ,** *што,* **ўспатрэбіць, ўспатрэбіцца, ўспатрэбленьне, ўспатрэбны, да ўспатрэбы, ўспатрэбшчык, успатрэбаўнік,**

**ВОСТРЕПЕТАТЬ, ВОСТРЕПЕНУТСЯ, затрапатаць, затрапатацца; страпянуцца, стропатны, строплівы, стропатнасьць, стропнуцца.**

**ВОСТЯГАТЬ** *што,* **усьцягаць.**

**ВОСХВАЛЯТЬ,** *каго, што;* **выхваляць, выхваляцца, выхвалка, выхвальны, выхваляньне.**

**ВОСХИЩАТЬ** *каго,* **пахічаць, пахіціў, пахічаны, пахічаньне; захватваць, захватлівы, захват.**

**ВОСХОДИТЬ, усхадзіць, узыйсьці, усходжаньне, усходны, усходкі.**

**ВОСХОТѢТЬ, усхацець.**

**ВОТ** *прысл.* **от, вось, восьдзе, восьдзека, вотулькі, вотачкі, вотаські.**

**ВОТ-БЫ, вот-бы, вось-бы; аж-бы.** *А ж-б ы паглядзеў на гэта дзіва.*

**ВОТЧИНА,** дзедзічны валадар, дзедзічная маемасьць: **дзедзіна, дзедзічны.**

**ВОТЧИМ** *м* няродны бацька, другі муж маці: **войчым.**

**ВОТЩЕ** *прысл.* **дармо, дарма, дарэмна; марна; спрахам, тушчма.**

**ВОЧЕЛОВѢЧЕНІЕ, ачалавечаньне, ачалавечаны, ачалавечыцца,** стацца чалавекам.

**ВПАДАТЬ** *у што,* **ўпадаць, уваліваціа, ўпадзіна, падзь; западаць, западзіна; ўкляскаць, закляскаць, заклястка.**

**ВПАДЕНІЕ** *ракі,* **усьця, суток, сутока; ўліў, на ўліве; рыгва;** у значэньні заглыбленьня: **заклясласьць, ямка, ўпадзіна, углыбежына, лумка, лумінa, падзіна, западзь.**

**ВПЕРЕД** *прысл.* **наперад, напярод, напярэдны, нaперадзі, напярэднік.**

**ВПЕРЕМЕЖКУ, ў прамешку, наўпераменкі, ў мітускі.** *У м і т у с к і кідай берны адно-у-адзін, другое—у другі бок камлём.*

**ВПЕРЯТЬ,** *што у што;* **ўпіраць, ўпірацца, ўпіраньне, упорка, ўпінаць;** аб вачах: **ўтаропіць, уталопіць,** *У т а р о п і ў, у т а л о п і ў ў мяне вочы. У п ё р, у п х н у ў мне благую двузлотку.*

**ВПЕЧАТЛѢВАТЬ** *што у што, або на чым;* выціськаць, бытцам пячаткай; перадаваць чалавеку што колечы ўціскаючы ў памяць, волю: **ўражаць, ўражацца, ўражаньне, ўражлівы, ўражлівасьць.**

**ВПИСЫВАТЬ, ВПИСАТЬ** *што у што,* **упісываць, упісавацца, ўпісаньне, ўпісны, ўпіс, ўпіска, ўпісчык.**

**ВПИХИВАТЬ** *што куды, у што:* **ўпіхаць, ўпіхацца, ўпіханьне, ўпіхлівы, ўпіхлівасьць, ўпіхач, наўпіхам.** *Наўпіхам дапоўніў скрыню.*

**ВПИТЫВАТЬ** *што у што;* **ўсысаць, ўсысацца, ўсысаньне, усысчывы, усысчывасьць,** ўбіраць ў сябе, **ўбіраць, ўцягаць.**

**ВПЛАВЬ, наўплаў, наўплынь.**

**ВПОВАЛ** *што,* **наўпавал, напавал, ўсулеж, ўсулежкі.**

**ВПЛЕТАТЬ** *што у што,* **ўплятаць, ўплятацца, ўплётчывы, ўплятаньне, ўплетны, ўплетнік, ўплет.**

**ВПЛЮТЬ** *прысл.* бок з бокам стыкаючыся: **ўсутыч, наўстыч.**

**ВПОЛ — ВПОЛУ — ПОЛУ; напоў.** *Напоў дарогі стрэў яго. Наўпоўны зьмест. Напоў пальца шырыні.*

**ВПОЛНѢ** *прысл.* **саўсім, зусім.** *Ён зусім добры. Аддам зўсім што ёсьць. Саўсім праўдная задача.*

**ВПОЛООТКРЫТЫЙ** *прысл.* **напоўаткрыты.**

**ВПОЛПРЯМА** *прысл.* **напоўпрама.** *Напоўпрама вугла, на 45 градусаў.*

**ВПОЛПУТИ** *прысл.* **напоўдарогі.** *Напоўдарогі ён сртымаў мяне.*

**ВПОЛСЫТА** *прысл.* **напаўсытна.** *Еж напаўсытна, пій напаўпьяна, пражывеш да веку.*

**ВПОПАДЬ** *прысл.* **ўпапад, ўпатрап, патрапна.** *Не ўпатрап толькі што скажы, бывала, пану (Рам.). Патрапна стрэліў.*

**ВПОПЫХАХ** *прысл.* **спохвату, наўсьпеш, наўсьпешна, наўсьпяху.** *Спохвату ня ўскумеў што то родны бацька і выцяў па карку.*

**ВПОРУ** *прысл.* ўмеру, ўчас. *Гэты боты мне ўмеру. Учас ты прышоў да нас.*

**ВПОСЛѢДСТВІИ** *прысл.* ў астанку, ў выніку, на пасьледак.

**ВПОТЬМАХ** *прысл.* ўпоцемку, ўпоцемках, ўсуцемку.

**ВПРАХ** *прысл.* ўпыл, наўроспараш, ўроспыл, ўроспараш.

**ВПРЕДЬ** *прысл.* напярод, наўпярод, наўперадзь. *Наўперадзь ты сьцеражыся яго. Не давай наўперадзь грошы*

**ВПРЫТЬ** *прысл.* наўскач. *Наўскач пусьціў каня.*

**ВПРОДОЛЖЕНІИ**, ў процягу, наўпроцяж. *У процягу сваей службы спраўляўся добра. Наўпроцяж прошлых і будучых. часаў.*

**ВПРОК** *прысл.* наўсьціпра. *Багатаму ўсё ўнасьціпра ідзе. Рабі ўсё ўнаўсьціпра,* Узапас: *Хавай капейку ўзапаз.*

**ВПРОМѢСЬ** *прысл,* ўперамешку. *Малако ўперамешку з вадой.*

**ВПРОСАК** *трапіць*, ў цянёты. *Трапіць ў цянёты.*

**ВПРОСЬНЯХ** *прысл.* ўпрасонках.

**ВПРОЧЕМ** *прысл.* зрэшта; *Што чуў, тое і сказаў, а зрэшта—няведаю. Ен, зрэшта, чалавек добры. Гэта мая рада; зрэшта, як хочаце.*

**ВПРЫГИВАТЬ, ВПРЫГАТЬ**, ўскакаць, ускаківаць, ускаківаньне, ускочыны, ускочны.

**ВПРЫСКИВАТЬ,** *што у што:* ўстрыкаць, ўстрычына, ўстрыкнуць, ўстрычны, ўстрыкальны.

**ВПРЯГАТЬ** *каго у што:* упрагаць, упрагацца, упраганьне, упрэжыны, упрэжны, упражка.

**ВПРЯМ** *прысл.* насупрам, насупрамкі, супраміста; ўпрост.

**ВПУКЛЫЙ,** упуклы, укляслы, угіблы. *Упукла-ўклясла е шкло. Уклясла я ямінка за вухом.*

**ВПУСКАТЬ** *куды каго, у што;* **ўпушчаць, ўпушчацца, упушчаньне, ўпуск, ўпускны.**

**ВПУСТѢ** *прысл,* **пустапарожня, дармо, дарэмна.**

**ВПУТЫВАТЬ** *што у што;* **ўблутваць, ўблутаць, ўблутлівы, ўматываць, ўкескаць.** *І чаго ты ўкескаўся у гэту справу?*

**ВПУЧИВАТЬ** *што,* **ўпінаць.** *У разбітае акно упнуў падушку.*

**ВПЯЛИВАТЬ** *што у што;* **ўпінаць, ўпінацца, ўпяты.**

**ВПЯТЕРО** *ліч.* **ўпяцера, ўпяцех.**

**ВПЯЧИВАТЬ** *што у што;* ўпіхаць задам: **ўпіхаць.**

**ВРАВНѢ** *прысл.* **пароўна, ўровень.** *Вада пароўна берагоў стаіць. У траве лесавік, ўровень травы, Абодвы роўна вінны.*

**ВРАВНИВАТЬ** *што у што;* **раўняць, раўнаваць.**

**ВРАВНЕНІЕ** *ср.* **араўнежа.**

**ВРАГ** *м.* праціўнік, непрыяцель: **вораг, воражы, варагаваць.** *Калі хочаш ворага мець—пазыч грошы. Язык мой, вораг мой; перш розуму гавора. Яны між собку варагуюць.*

**ВРАЖДА** *ж.* **варажнеча, размірье.** *Ня будучы ў размірьі вайну ўчынілі.*

**ВРАЗБРОС** *прысл.* **ўроскідзь.** *Усе рэчы свае ўроскідзь кінўў. Сей ўроскідзь насеньня.*

**ВРАЗНОБѢЖКУ** *прысл.* **ўрознарадзь, ўмітускі.**

**ВРАЗУМЛЯТЬ** *каго чым;* **пераконываць, навучаць, усчуняць, напамінаць, ацямечываць.**

**ВРАЗУМЛЯТЬСЯ, ацяміцца, ацямечывацца, асчунацца.**

**ВРАЗУМИТЕЛЬНОСТЬ, уцямлівасьць, уметлівасьць, упамлівасьць.** *Упамлівы хлапец.*

**ВРАЛЬ** *м.* **лгун, манюка, манюшка, махляр.** *Ня вер яму, ён табе махлюе. Манюшка гэты ніколі праўды ня кажа—ўсё маніць.*

**ВРАКИ**, **ільжа, ільжысты, ільжывы, ілгун, ілгаць, мана.**

**ВРАСПЛОХ**, **ўроспудзь, ўроспалаш, зьнечаку, зьнянацна.** *Вораг зьнянацна напаў. Зьнечаку злодзей папаўся ў рукі.*

**ВРАСТЯЖКУ**, **ўросьцяж.**

**ВРАТА** *ср. агульн. слав.* **вароты, варотны, варотнік; брама, вярэі.** *Вароты на вуліцы, ў плоце, а брама бывае ў гарадзкой сьцяне, пры доме. Вярэямі называюць вароты зложаныя з двох палавіц, якія адкрываюцца—кождая ў сваю старану.*

**ВРАТЬ** *што*, **маніць, ілгаць, хлусіць.** *Ілгаць што лыкі лутаць—лыка за лыкам лупіцца. Хлусіць і не папярхнецца. Ня ўсё праўда, што бабы хлусяць. Ен маніць майстар. Мане кароткі век. Мана не знае дабра.*

**ВРАЧ** *м.* вучоны лекар: **лекар лекарскі лякарыць, лячомнік, лечнік, лякарня.**

**ВРАЩАТЬ** *каго што;* **аввяртаць, аввяртацца, аввяртаецца.** *Зямля аввяртаецца наўкруг сонца. Калясо можа аввяртацца каля сваей восі.*

**ВРАЩЕНІЕ** *ср.* **аварот.**

**ВРАЩИВАТЬ, ВРОЩАТЬ** *што куды:* **прырасчаць, прыросчаны, прыростак.** *Дзеля уфармаваньня утрачанага носу прырасчаюць часьць скуры з другога мейсца людзкога цела.*

**ВРЕДИТЬ** *што, або каму чым;* **шкодзіць, шкодзіцца, шкоджаньне, шкодны, шкоднасьць, шкадаваць, шкоднік-ца.** *Вычварныя стравы шкодзяць здароўю. Пашкодзіла на здароўя. Статак шкоды нарабіў у полі. Шкодна што я сказаў яму гэта.*

*Пуці, пуці курачка да дому;*
*Не рабі ты шкодачкі нікому.*
*(Р. Т. 8-9 стр. 160—Мог. губ).*

**ВРЕДОНОСНЫЙ**, **шкодны, згубны.**

**ВРЕМЯ** *ср.* **час, часаваць, часовы, часавітны, пара.** *Пара да дому ісьці. Гэткая пара цяпер. Час да работы. Трэба з гэтай справай счасаваць. Часовы гаспадар.*

**ВРЕМЕННОСТЬ** *ж.* **дачаснасьць, дачаснае, дачасны, дачасьнік.**

**ВРЕМЯСЧИСЛЕНІЕ** *ср.* **часалічэньне.**

**ВРЕМЯПРЕПРОВОЖДЕНІЕ** *ср.* **часатрацтва, разрыўка, бава, забава.**

**ВРОВЕНЬ,** *з чым;* **на раўне, наўзроўнь.** *Наўзроўнь дрэву высокаму (Лесавік).*

**ВРОЗЬ** *прысл.* **наўрозь, ўпоразь, ўроскідзь.**

**ВРЫВАТЬ, ВРЫТЬ** *што,* **ўкапываць, ўкапывацца, ўкопісты, ўкопы, ўкопны, ўкопчывы.**

**ВРЫВАТЬСЯ, ВОРВАТЬСЯ (РВАТЬ)** *куды у што;* **ўрывацца, ўрываньне, ўрыў, ўрыўчывы, урванец.**

**ВРѢЗАТЬ** *што у што,* **ўрэзаць, ўрэзацца, ўрэзісты, ўцінаць, ўцяць.**

**ВРЯД, ВРЯД-ЛИ, наўдачу.**

**ВСАЖДАТЬ** *у што,* **утыкаць, ўбіваць, ўганяць, ўстрамляць.**

**ВСАДНИК** *м.* **коннік.**

**ВСАСЫВАТЬ** *што,* **ўсочваць, ўсочвацца, ўсочлівы.**

**ВСЕ** *заім. безасаб.* **ўвесь ўся, ўсё,** *мн.* **ўсе; усенька, усёханька.** *Усё-б табе па ігрышчах бадзяцца. Усё яшчэ дожд ідзе. Дай Божа ўсё умець ды ня ўсё рабіць. Усе за аднаго і адзін за ўсіх. Усёханька ён мне расказаў. Усенькі крошачкі падабраў.*

**ВСЕВИДЯЩІЙ** *м.* **ўсёвідучы.**

**ВСЕВЛАСТНЫЙ** *м.* **ўсеўладны.**

**ВСЕВОЗМОЖНЫЙ усячысты, ўсемагчымы.**

**ВСЕВРЕМЕННЫЙ, ўсякчасны.**

**ВСЕГДА** *прысл.* **заўсёды, заўсёдны, ўсёды, ўсёдны, ўсёдаваць.** *Раз на заўсёды кажу табе.*

**ВСЕЛЕНАЯ** *ж.* ўся заселеная, празначаная да засяленьня, зямля, **ўсесьвет, ўсьсьветны.** Агул ўсіх сьветаў: **сусьвет, сусьветны.**

**ВСЕДНЕВНЫЙ, паўсёдны, паўсёдзень, ўсякдзенны, ўсякдзень, абыдзень.**

**ВСЕЛЯТЬ** *каго куды;* **ўсяляць, асяляць;** у пераносным знач.: **ўшчапляць, ўнедраць.** *Ен ўнедрыў ў душу яго маральныя асновы. Вучыцель ўшчапляе дзяцям навуку.*

**ВСЕМИЛОСТИВѢЙШІЙ** *м.* **ўсеміласэрнейшы.** *Ўсеміласэрнейшы Бог.*

**ВСЕМІРНЫЙ, ўсесьветны.**

**ВСЕМОГУЩІЙ, ўсемагутны.**

**ВСЕОБЩІЙ, ўсеагульны,** *арх.* **паспалиты.** *Усеагульнае навучаньне.*

**ВСЕЦѢЛО** *прысл.* **суздрам, саўсім.** *Суздрам град выбыў ярыну. Саўсім прапаў чалавек.*

**ВСЕЯДНЫЙ** *м.* **ўсёедчы.** *Сьвіньня ўсёедчая жывёла.*

**ВСКАРМЛИВАТЬ** *каго,* **узгадовываць, ускармліваць, кормнік, кормны.**

**ВСКАТЫВАТЬ** *што,* **ўскачываць ,ўскачывацца, ускачываньне, ускоцісты, ускот, ускотны.**

**ВСКАЧЬ** *прысл.* **наўскач, наўскачкі.**

**ВСКАКИВАТЬ** *куды у што, або на што;* **узскакаць, узскок.**

**ВСКИДЛИВОСТЬ, накідчывасьць.** *У яго характар накідчывы*

**ВСКВОЗЬ** *прысл.* **наскрозь, навылят, наўскрозь.**

**ВСКОЛЕБАТЬ** *што,* **скалыбаць, ззыбнуць, ззыбнуцца, скалынуць, звалваваць.**

> *А кладачка ззыбнулася*
> *Марыська зьлякнулася.*
> *(Р. Т. 8-9, стр. 173 Вяліж. п.)*

**ВСКОЛЬЗЬ** *прысл.* **ўскоўзь, ўскелзь.** *Аб гэтым ён толькі ўскелзь намякнуў.*

**ВСКОРѢ** *прысл.* **ўборзе.** *Ўборзе пасьля гэтага мы выехалі на ўловы.*

**ВСКРУЖАТЬ** *каго, або каму галаву:* **ускружаць, закручаць, закруціць, закрут галавы; ачмуціць.** *Вецяр. ў с к р у ж ы ў пыл. З а к р у ц і ў галаву дзеўцы, а ч м у ц і ў яе нанет.*

**ВСКРЫВАТЬ** *што*, **расчымляць, расчымляцца, расчымлены, росчымка** (Вітэбск.), **распазіць, распазіцца, распазка** (Чаўск. п.), **адамнуць, адомнуты, адчыніць, адчынены** (Дзіс. пав.). *А д м а н і кораб і пад вечкам ляжыць чаго шукаеш. А д а м а н у л а с я неба высокае. А д а м н і гамэтку. А д ч ы н і скрыню.*

**ВСКРЫТІЕ** (ракі), **крыгалом, крыгоміца.** *У самую к р ы г о м і ц у, ў сам к р ы г а л о м выяхаў на раку.*

**ВЗКРЫТІЕ** (трупа), **роспаласьць.** Між сьвінабоямі, той хто разпарывае кабана называецца — **распалтач**, а сама чыннасьць—**роспалаць.** *Я ўжо чатырох кабаноў р а с п а л т а ў, а яшчэ ёсьць два да р о с п а л а ц і, да р а с п а л т а н ь н я. Аб людзях: р а с п а л т а л і жываты; дактары труп на р о з п а л а ц ь узялі.*

**ВСЛАСТЬ** *прысл.* **наўсалодзь, наўсалодны, наўсалода.**

**ВСЛУШИВАТЬСЯ** *у што;* **ўслухацца, ўслушлівы.**

**ВСЛУХ** *прысл.* **наўслыш, наўсуслыш.** *Я кажу вам ўсім н а ў с л ы ш, чуйця! Н а ў с у с л ы ш сказаў ён.*

**ВСЛѢД** *прысл.* **ўтроп, ўнасач, насакам, ўсьлед.** *Ен за ім ў т р о п і д з е. Н а с а к а м за ім гнаўся (ад „сакмо"—сьлед).*

ВСЛѢДСТВІЕ *чаго*, **ўвыніку, зпрычыны.** *З п р ы ч ы н ы доўгіх дажджоў сталася разводзьдзе.*

**ВСМАТРИВАТЬСЯ** *у што*, **ўглядацца, ўзірацца.** *І ў акуляры трэба у г л е д з і ц ц а. Чаго ён на цябе так ў з і р а е ц ц а. На людзей п а ў г л я д а ц ц а і сябе паказаць.*

**ВСМЯТКУ** *аб яйку;* **наўзмяч, наўзьмятку; ўсьмятку**

**ВСОВЫВАТЬ** *што у што, або куды:* утык*а*ць, ўсув*а*ць. *Ня ўтыкай носу куды ня трэба. Усунь шупель у збожжа.*

**ВСПАХИВАТЬ** *зямлю,* уз*о*рываць, уз*о*рка, ар*а*ць, аральб*а*, ар*а*ньне.

**ВСПЛЕСНУТЬСЯ,** спаласн*у*цца. *Перад ўсходам сонца рыба любіць спаласнуцца ў вадзе. Плотка спаласнулася ў чароце. Нешта спаласнулася ў бутэльцы.*

**ВСПЛОШЬ, ВСПЛОШНУЮ** *прысл.* ўсуцэль, ўсьцяж. Усьцяж ўсё гафтаванае.

**ВСПОМОГАТЬ** *каго чым;* спамаг*а*ць, спамаг*а*цца, спамаг*а*ньне, спам*о*га, спам*о*жны.

**ВСПРЫГИВАТЬ**--узск*а*ківаць, узск*о*к, узск*о*чны.

**ВСПРЫСКИВАТЬ** *што,* сп*ы*рскаць, зб*ы*рзгаць.

**ВСПУГИВАТЬ,** *каго,* спуж*а*ць, спуж*а*цца, спужн*ы*, сп*у*жлівы; ўляк*а*ць, ўлякн*у*цца, ўлякл*і*вы, сп*у*дзіць, сп*у*длівы, спуд; палаш*ы*ць, палахл*і*вы, пал*о*хацца, спалох.

**ВСПУХАТЬ,** апух*а*ць, ап*у*хлы, ап*у*хласьць.

**ВСПУЧИВАТЬ** *што,* ўпўш*а*ць, ўспуш*а*цца, ўсп*у*шаны, ўсп*у*шаньне; ўздув*а*ць, ўзд*у*ты, уздув*а*цца, ўзд*у*тасьць.

**ВСПЫЖЫВАТЬ** *што, каго;* натап*о*ршчыць, натап*о*ршчаны, натап*о*ршчыцца; наст*о*ршчыцца, наст*о*ршаны, наст*о*ршыць. *Вожык, індык настоpшыўся.*

**ВСПЫЛИТЬ,** *у*сп*ы*рснуць, узшугн*у*ць.

**ВСПЫЛАТЬ,** узшугн*у*ць, успыхн*у*ць, запыл*а*ць.

**ВСПЫШКА,** п*о*шуг, п*о*шугамі, п*о*шугі.

**ВСПЯТЬ,** наўп*о*пяць, наўз*а*дзь,

**ВСТАВАТЬ,** устав*а*ць, уст*а*ньне, усав*а*ньне, ўзстаньне, узст*а*нак.

**ВСТАВЛЯТЬ** *што у што, або куды;* устаўл*я*ць, устаўл*я*цца, устаўляньне, устаўн*ы*, уст*а*ўка.

**ВСТАРЬ** *прысл.* даўн*е*й. даўн*е*йшы, д*а*ўнасьць.

**ВСТАСКИВАТЬ** *што,* усьцяг*а*ць, усьцяг*а*цца, усьцяг*а*ньне, усьц*я*гі, усьц*я*жка.

**ВСТРЕВОЖИТЬ** *каго,* **ўстрывожыць, устрывожыцца, устрывожаньне, ўстрывожлівасьць.**

**ВСТРЕПАТЬ** *што,* **ўскудлаць, скудлачыць, скудлачыцца, скудлачаны, скудлак, разкудлака.**

**ВСТРЕПНУТЬСЯ, стропнуцца.** *Рыбіна стропнулася ў карме. Ен стропнуўся. як на пажар.*

**ВСТѢЧАТЬ** *каго,* **сустрачаць, сустракаць, сустракацца, сустрэча, сустрэчны; спатыкаць, спатыкацца, спатканьне, спатканец, спотык; судашаць, судашацца, судосіць, судошаньне, судосіны, судашаліся,** слова ўжыванае ў зах. часьці Горадзеншчыны, здаецца ў аснову паложан карэнь „дасьцігаць", зап. у Бабробскага „Гродненская губернія".

**ВСТРАХИВАТЬ, страсаць, ўстрасаць страхомы, страхнуцца.**

**ВСТУПАТЬ** *у што, куды, на што;* **ўступаць;** ўступацца у што, ўмешывацца, выяўляць свае пратэнзыі.

**ВСТУПАТЬ** у знач. прыймаць на сябе абавязкі: **абняць урад.**

**ВСТУПИТЕЛЬНЫЙ, уступны.** *Уступнае слова сказаў.*

**ВСТУПЛЕНІЕ** *ср.* **ўступ.** *Ўступ напісаў да кнігі. Яму да нас ўступ забаронены.*

**ВСТЯЖАТЬ** *што,* **спагнаць.** *Спагнаць доўг, спагнаць злосьць.*

**ВСУЕ** *прысл.* **дарэмна.** *Не ўзывай імені Бога твайго дарэмна.*

**ВСУЧИТЬ** *што,* **ўбайдосіць, ўкруціць, ўвярцець, ўсучыць.** *Трэба шарсьціну ўсучыць у дратву. Да дзьвех белых ўсучы чырвоную нітку. Убайдосілі хлапцу дзеўку. Убайдосілі абузную справу. Увярцеўся, ўкруціўся ў кампанію,*

**ВСЮДУ** *прысл.* **усюды, усюдых, паўсюдна.**

**ВСЯКАТЬ** *аб цечыве,* **ўсякаць, ўсяканьне, усяклівы.**

**ВСЯКІЙ**, **усякі, усякая, усякае, усячына, усякава, усякчаста, ўсякчасны, ўсякдзенна, ўсякбытна, ўсякмерна; усялякі, ўсялячына, ўсялячна, усяляк.**

ВТАЙНѢ *прысл.* **вотай, вотайкам, вотайна; крыёма, крытна, крытком, скрытна, крадком.**

**ВТАЛКИВАТЬ** *што у што;* **ўталашываць, ўштаўхаць, ўпіхаць,** *Уталошыў адзежу ў мяшок, як з сабачага горла выглядае цяпер. Упіхні яго ў ваду. Шклянку саштоўхнуў са стала.*

**ВТАСКИВАТЬ** *што,* **ўцягаць, ўцягацца, ўцяганьне, ўцягі, ўцяжны.**

**ВТЕКАТЬ** *у што,* **ўцякаць, ўлівацца, ўплываць.**

**ВТЕРПЕЖ** *прысл.* **усуцерп.** *Ня ўсуцерп добраму малойцу. Ня ўсуцерп стала цярьпець болей.*

**ВТИРАТЬ** *што у што,* **ўціраць, ўмазываць, ўшмарываць.** *Ўшмарыць, ўмазаць мазь у цела. Уцерці каму што ў рукі, усучыць.*

**ВТИСКИВАТЬ** *што у што,* **ўціскаць, ўціскацца, ўціснуты, ўцісклы, уціск.**

**ВТИХОМОЛКУ**, **ціхамоўч, ціхамоўчкі, ціхамоўкам, ціхамоўчны, ціхамоўчасьць, ціхамоўчлівы, ціхамоўчлівасьць.** *А ён сабе есьць ціхамоўкам.*

**ВТОЛКАТЬ** *што куды,* **ўтаўхаць, ўштоўхнуцца, штаўчок; ўпіхаць.**

**ВТОЛКОВАТЬ** *што каму,* **ўтлумачыць, ўтлумачыцца, ўтлумачаньне, ўтлумачыць, ўтаўмачаны.**

**ВТОЛОЧЬ** *што у што,* **ўталошыць, ўбіць.** *Жвір ў дарогу трэба ўталошыць. Уталошыў цьвек у сьцяну, здарэньне ў памяць.*

**ВТОРАЧИВАТЬ** *што,* **ўтрочыць, ўтрочыцца, ўтрочаны.** *Ўтрочыць зайца у сядло. Ўтрочыцца ў чужую справу.*

**ВТОРГАТЬСЯ** *куды у што,* **ўрывацца, ўрываньне; ўтыркацца, ўтыркаць, ўторкнуты, ўтырнацца, ўторнуты.**

**ВТОРЖЕНІЕ** *ворага,* **напад, навала.**

**ВТОРОЙ,** *лічэбн.* **другі, ўторны; друіць** (ральлю), **друвічны,** (паўторны). **Друяк,** авёс другога пасеву, другой ачысткі; мёд другога спуску. Ральлю друяць і траяць. Карова друвічка, з другім цялём.

*Сорак коп маладых курэй яец,*
*Тры фаскі друвічных кароў масла.*
*(Крачк. стр. 41.)*

**ВТОРНИК** *м.* **аўторак, аўторкавы, аўторкаваць.**

**ВТОРОБРАЧІЕ** *ср.* **другажэнства, другажон.**

**ВТОРОПЯХ** *прысл.* **ўпосьпеху, спосьпеху, наўсьпеш, спохапу** *Наўсьпеш закусілі перад выездам. Спохапу забыўся ўзяць свае куплі.*

**ВТОРОСТЕПЕННЫЙ, другарадны.**

**ВТРАВЛИВАТЬ** *каго у што,* аб лоўчых жывёлах і птахах: **сковіць.** *Насковілі яго. Усковілі хлапца у бойку.*

**ВТРАВЛИВАТЬ** *аб рысунках:* **выпаляць.** *Гэты кветкі выпалены.*

**ВТРОЕ** *прысл.* **ўтроя, тройчы, трыкротна.**

**ВТУЛКА** *ж.* **затычка, затыкаць.**

**ВТУНѢ** *прысл.* **дарэмна, марна.**

**ВТѢСНЯТЬ** *што у што,* **ўціскаць, ўціскацца, ўцісні́уты, ўцісьненьне, ўціск.**

**ВТЯГИВАТЬ** *што куды,* **ўцягаць, ўцягацца, ўцяганьне, ўцяжына.**

**ВУАЛЬ** *ж. фр.* пакрыцьцё на аблічча з ценкай тканіны: **вэлён, шырынка.**

**ВУЛКАН** *м.* **вулькан, вульканічны.**

**ВУЛЬГАРНЫЙ** *м. лац,* **грубы, грубіянскі, прастацкі, брыдкі.**

**ВУЛЬГАТА** *ж. лац,* лацінскі пераклад Бібліі зацьверджаны Трыдэнцкім саборам: **вульгата.**

**ВХОДИТЬ** *куды у што;* ўхадзіць, ўходзіцца ўходжаньне, ўход, ўходны, ўходы.

**ВХОДЯЩАЯ БУМАГА**, паступаючая, супроцьзначн.— выбываючая.

**ВХОД** *м.* ўход, ўступ. *Ен мае ўступ да пана.*

**ВЦАРАПЫВАТЬ** *што у што,* ўдзіраць, ўдзірацца, удзіраньне, ўдзёр.

**ВЦѢПЛЯТЬ** *што у што,* ўчапляць, ўчаплицца, ўчэплены, ўчэпы, ўчэпкі.

**ВЧЕРА** *прысл.* учора, учорась, учарашні, учоркі.

**ВЧЕРЕД** *прысл.* учарод, ўчародны; ўрадоўку. *Прышлося стануць ўрадоўку і чакаць.*

**ВЧЕРНѢ** *прысл.* ўнарысе. *Ен здаў свой праект ў нарысе, не апрацаваны падробна.*

**ВЧЕРЧИВАТЬ** *што у што,* ўкрэсьляць. *Укрэсьліць шасьцікантнік у круг.*

**ВЧЕТВЕРО** *прысл.* ўчэцьвера, пачворна.

**ВЧИНЯТЬ, ВЧАТЬ** *што,* зачынаць, пачынаць, пачынацца, пачын; усчынаць.

**ВЧИНЯТЬ** *што у што,* ўмяшчаць, ўключаць; ўдзяваць. *Усяго гэтага ў каўбасу ня ўдзенеш.*

**ВЧИСЛЯТЬ** *што, каго куды, у што;* ўлічаць, ўлічацца, ўлічаны.

**ВШЕСТВІЕ** *ср.* уступленьне, узшэсьце.

**В'ИСПОДИ** *прысл.* спадысподу. *Спадысподу ляжыць гаманец у скрыні.*

**В'ѢДАТЬСЯ** *у што,* ўядацца, ўедлівы, ўедлівасьць.

**В'ѢЗЖАТЬ** *у што або куды,* ўязджаць, ўездны, ўезджы, ўездчае. Уездчая мыта.

**В'ЯВѢ, В'ЯВЬ** *прысл.* яўна, наяве. *Я гэта бачыў наяве, а ня ўсьне.*

**ВЫБРАСЫВАТЬ** *што куды;* выкідаць, выкідацца, выкіданьне, выкідка, выкідак, выкідыш, выкідзьдзя, выкідзень.

**ВЫБРИТЬ** *што,* **выгаліць, выгаліцца.**

**ВЫБУРАВИТЬ**, *што,* **высьверліць, высьверліцца, высьверстка.**

**ВЫБУТИТЬ** *што,* **вылугаваць, выжлукціць.** *Выжлукціць бялізну ў лугу.*

**ВЫВОДОК** *м. сямья птушак:* **гняздо, выседак.** *Целы выседак курапат спалошыў.*

**ВЫВОД** *м.* **выказ.** *Выказ спраў гродзкіх. Выказ рэчаў. Выказ судовы.*

**ВЫВОРАЧИВАТЬ** *што,* **вывяртаць, вывяртацца, выверт, вывёрткі, вываротлівы.**

**ВЫВѢВАТЬ** *што,* **вывяваць, вывевіны. вывеўны, вывеўкі.**

**ВЫВѢРЯТЬ** *што,* **спраўджаць, спраўджаны, спраўдка.**

**ВЫВѢСКА** *ж.* **повеска.** *Крамнік зрабіў новую повеску над крамай.* Повескамі называюць здаўна і наўсюдна у нас рэклямныя падабізны: акна, дзе шкляр; бляшанкі, дзе бляхар; галавы цукру над крамай, дзе прадаюць цукер і т. д.

**ВЫГОДА** *ж.* **карысьць, зыск, наўда.** *Якая мне карысьць з тваей работы. Ніякага зыску ня меў з гэтай куплі. Якая-ж мне наўда што ён у наймах. Ніякае наўды ня меў я харчуючы яго.*

**ВЫГОВОР** *м.* **вымова, вымоўка.** *Зьверхнік зрабіў вымоўку. Вымоўлена было дзесяць рублёў платы.*

**ВЫГРАВИРОВАТЬ** *што,* **вырыць.** *Вырыць рысунак на медзі,*

**ВЫДАВАТЬ**, **выдаваць, выдавацца. выданьне, выдача.**

**ВЫДАВЛИВАТЬ** *што,* **выціскаць, выціскацца выціск.**

**ВЫДАЛБЛИВАТЬ** *што;* **выдзёбываць, выдзебны, выдзебка.** *Выдзёбнае вязерца.*

**ВЫДВИГАТЬ** *што,* **высовываць, высовывацца, высуваньне, высаўка, высавень, высоўны, высовісты.**

**ВЫДЕРГИВАТЬ** *што*, выскуб*а*ць, выску́б*а*цца, выскуб*а*ньне, выск*у*біна, в*ы*скубень, высмык*а*ць, высмык*а*цца, высм*ы*чына, в*ы*смычка; выст*ар*г*а*ць, в*ы*старгнуць.

**ВЫДЕРЖКА** *ж.* вытрым*а*ласьць, вытр*ы*млівасьць, в*ы*трымка.

**ВЫДРА**, *зьвярок Lutra fluviatilis* выдра, юдра;

*Юдра каля рэчкі хадзіла,*

*Гарнастайку будзіла.*

*(Ром. 8—9 стр. 151. Быx. п.).*

**ВЫДУМЫВАЦЬ** *што*, выдумляць, выд*у*мчыва, выд*у*мшчык.

**ВЫДЫХАТЬ** *што*, вытых*а*ць. *В ы т х л ы пах. В ы т х л а як камфора.*

**ВЫДѢЛКА** *ж.* в*ы*раб, вырабл*я*ць, в*ы*рабны.

**ВЫДѢЛЯТЬ** *што. каго*; вылуч*а*ць, вылуч*а*цца, выл*у*чны, вылуч*а*ньне; аддзяляць, адд*зе*лены.

**ВЫЕМКА** *ж.* в*ы*рэз, в*ы*нятка. *Зрабі в ы р э з у кашулі. Мы сабе вымавілі в ы н я т к у, акром ардынарыі.*

**ВЫЖАРИВАТЬ** *што*, выпр*а*жываць, высмаж*а*ць, прап*а*ліваць. *Ты толькі добра в ы п р а ж гарох, Мяса трэба да косьці в ы п р а ж ы в а ц ь. В ы с м а ж бульбу ў сале. Трэба гаршчок п р а п а л і ц ь, зьнішчыць запах тхліны.*

**ВЫЖЕЛОБИТЬ** *што*, в*ы*жлубіць, в*ы*жлублены, выжал*у*бак, выжал*у*біна, выжал*у*бісты, выжал*у*блівы.

**ВЫЖЕЧЬ**, в*ы*паліць, в*ы*палены, в*ы*палкі, в*ы*пал, выпал*я*ньне, вып*а*льнік.

**ВЫЖИДАТЬ** *каго, што;* в*ы*чакаць. *Трэба в ы ч а к а ц ь тасоўную пару.*

**ВЫЖЫМАТЬ** *што адкуль;* выціск*а*ць. *В ы ц і с к а ц ь пот з людзей. В ы ц і с к а ц ь сьлёзы з вачей.*

**ВЫЖЫМКИ** *ж, мн.* выт*о*ўчыны, жмак*і*.

**ВЫЗОЛИТЬ** бялізну, палатно; в*ы*лугаваць, в*ы*лужыць, в*ы*жлукціць.

**ВЫЗРѢВАТЬ**, сьпець, дасьпеваць, сьпежа, дасьпеваньне, дасьпелы.

**ВЫЗРѢВАТЬ** *што каго*: вызіраць, вызіраньне, вызорны.

**ВЫЗУБРИТЬ** *што*, вышчэрбіць, вышчэрбіцца, шчарбаты, шчарбацік. *Каса пашчарбацілася аб камень. Сякеру вышчэрбіў трапіўшы на цьвек. Шчарбаты гаршчок.*

**ВЫЗЫВАТЬ** *каго*, выклікаць, выклікацца, выкліканьне, выклік, выклічны, выклічнік.

**ВЫИСКИВАТЬ** *што*, вышуківаць, вышуканьне вышуканы, вышукі.

**ВЫКАЛИВАТЬ, ВЫКАЛЯТЬ** *што*, выпаляць. *Гэтай вапны дрэны выпал. Вапну трэба выпаляць датуль, пакуль не пачне разсыпацца*

**ВЫКАЛЫВАТЬ** *што*, выкалываць, выбіваць, выклюваць. *Выкалываюць іголкай, ці вострым чым дзіркі. Вока выбіў сабе, выпырнуў. Вароны павыклювалі вочы падліне.*

**ВЫКАРМЛИВАТЬ**, выкармляць, выкармлены, выкарм, выкармак.

**ВЫКАЧИВАТЬ** *цечыва*, вычэрпываць, вычэрпны, вычэрпка.

**ВЫКИДЫШ** *м.* спарон, спараніць; ськідыш, скідаць; неданосак.

**ВЫКЛАДКА** *ж.* выпакоўка. *Выпакоўка тавару.*

**ВЫКЛЕВЫВАТЬ** *што*, выбіваць або выядаць дзюбай; выклюваць. *Крук круку вока няВЫКЛЮЕ.*

**ВЫКЛЕПЫВАТЬ** *што*, выковываць, халодным куцьцём: выклёпываць. *Выкляпаў касу. Выкляпаў конаўку з медзі.* Кляпнар, майстар, які выклёпуе з медзі катлы.

**ВЫКЛИНИВАТЬ**, выкліновываць.

**ВЫКЛЮЧАТЬ**, *што, каго;* вылучаць, выкідаць, выключаць.

**ВЫКЛЯНЧИВАТЬ** *што*, дакучліва выпрашываць; выканькаць, выкнягаць. *Цэлы дзень княгаў па-*

*куль выкнягаў грошы пазычыць. Канькала ўсё дзеўка каб ей купіць барлёчы, і, такі, выканькала.*

**ВЫКОБЕНИТЬСЯ**, **настабурчыцца, стабурчыцца.**

**ВЫКОВЫВАТЬ**, **выкуваць.**

**ВЫКОВЫРИВАТЬ**, *што, адкуль;* **выкалупываць.**

**ВЫКОЛАЧИВАТЬ** *што,* **выбіваць, спаганяць.** *Выбіваць пыл з адзеньня. Выбіваць клін з раскепу. Спаганяць падаткі.*

**ВЫКОНОПАЧИВАТЬ** *што,* **выпаклёвываць, пакляваць.**

**ВЫКОРЕНИТЬ**, **выпленіць, выкараніць, выскараняць.**

**ВЫКОРОБИТЬ** *што,* **скарабаціць, карабаціць.**

**ВЫКРАСКА**, **афарбоўка, амалёўка, малёўка.**

**ВЫКРОШИТЬ** *што,* **выкрышыць.**

**ВЫКРЕЩИВАТЬ** *каго,* **выхрэшчываць, выхраст; выксьціць, выкста, выкшчэнец.**

**ВЫКРИВЛЕНІЕ**, **вызгіб, сукал** ад „сучыць“— скручаць.

**ВЫКРИКИВАТЬ**, **выкрыкаць.**

**ВЫКРОПЛЕНІЕ**, **выкрапка.**

**ВЫКРУГЛЕНІЕ** *ср.,* **выкругленьне, круглянасьць.**

**ВЫКУВЫРНУТЬ** *каго,* **выкуліць.**

**ВЫКУШАТЬ** *што,* **спажыць.** *Спажыў лыжку стравы, чарку горэлкі.*

**ВЫЛАЗКА**, раптоўны напад з аблогі на аблягаючых; **выпад, вылаз.**

**ВЫЛОЩИТЬ** *што,* **выпаліраваць, выглянцаваць.**

**ВЫЛЕБЕЗИТЬ** *што,* **вылесьціць, выхлюсіць.**

**ВЫЛЕГЧАТЬ** *каго, аб жывёлах;* **вылягчыць, вылажыць, авалошыць, аскапіць** *аб птахах:* **акаплуніць.**

**ВЫЛЕЛЕЯТЬ** *каго што;* **выкукабіць** (смал.), **выпеставаць, выпесьціць.**

**ВЫЛИНЯТЬ**, пазбыцца поўсьці, валасоў, пёраў, пуху; **вылаўзьці**, **вылінявець**, **лінявець**, **лінявы**; утраціць, колер, барву, масьць: **сасьвянуць**, **паблекнуць**.

**ВЫЛИЦОВЫВАТЬ** *што,* выварачваць сподам наверх; **выніцоўваць**.

**ВЫЛУЖИВАТЬ** *што,* **пабяляць**. *Самавар трэба што году пабяляць добрай, белай цынай.*

**ВЫЛУПЛЯТЬ** *што,* вынімаць з шалупы, ачышчаць ад лузгі, шалупы; зьнімаць з чаго скурку і выбіраць зярно; **вылушчаць**, **вылушчаны**, **вылустак**.

**ВЫМАИВАТЬ** *што у каго*, **вымучыць**, **выканькаць**.

**ВЫМОЛВИТЬ**, **вымавіць**.

**ВЫМАНИВАТЬ** *каго адкуль*, **вынадзіць**; *што у каго*, **выдурыць**, **вымантачыць**, **вымантэжыць**, **выкруціць**.

**ВЫМАРАТЬ** *каго, што чым*; **выпэцкаць**.

**ВЫМОРОЧНЫЙ**, **адумершы**, **адумершчына**. *Адумершы род. Дзедаву адумершчыну цяпер толькі нам прызналі. Адумершы рой пшчол.*

**ВЫМАСЛИВАТЬ** *што,* **наалеіваць**, **праклушчаць**, **намазываць**; *Наалей, намаж рульку ад стрэльбы. Праклусьці паперу да вакна.*

**ВЫМЕТНУТЬ** *што адкуль*, **вылукнуць**, **выкінуць**, **вышыбнуць**. *Вылукнуў камень з прасткі; стралу з лука. Выкінуў нахрапліўца вон з хаты. Вышыбнуў арэлі, калыску ўровень стаўбоў.*

**ВЫМЕТКА** *ж.* штабноўка на рубу—**сьцібмоўка**; абкіданьне пятліц да гузікаў—**абкіданьне**.

**ВЫМЕТНУТЬ**, **вышвырнуць**.

**ВЫМѢЩАТЬ** *што каму*, **адмасьціць**. **адпомніць**.

**ВЫМИНАТЬ** *што,* **кумесіць**, **камшыць**, **выцірать**, **вымінаць**. *Кумесіць шапку ў руках. Камшыць паперу, Выцірае салому. Вымінае лён, сырамятную скуру.*

**ВЫМОГАТЕЛЬСТВО** *ср.* **в*ы*мус, вымуш*а*ньне, вым*у*сам, выняв*о*льства.** *Вымушаюць згоду супроць волі ці пераконаньня. Выняволеньням ды прымусамі зруйнавалі чалавека.*

**ВЫБОИНА** *ж.* **клухтав*і*на, р*ы*твіна.**

**ВЫМОРГАТЬ** *што,* **в*ы*міргаць.**

**ВЫМПЕЛЬ** *м. марск.* адмена флага з двумя косамі або хвосьцікамі, які падымаюць на самай вярхоўцы мачты: **бандэра.**

**ВЫМУРАВЛИВАТЬ** *начыньня,* **паліваць, пал*і*ва.**

**ВЫМУСЛИТЬ** *што,* **в*ы*сьлініць, асьлюн*я*віць.**

**ВЫМЫСЕЛ, в*ы*думка.**

**ВЫМУЧИТЬ,** змучыць, змарыць каго страхам, нудой, горам, дакукай; **в*ы*мучыць, в*ы*дра(у)чыць.**

**ВЫМѢЧАТЬ** *што,* **вызнач*а*ць, вып*і*сваць.**

**ВЫМЯ** малочныя жаўлакі з мяшкавістай паволокай; **в*ы*мя, в*ы*містая.**

**ВЫНОСЧИВОСТЬ, вын*о*сьліваcьць, вытр*ы*млівасьць.**

**ВЫНИЧТОЖИТЬ** *што,* **в*ы*нішчыць.**

**ВЫНУЖДАТЬ, вымуш*а*ць, выняв*о*ліваць, вынук*а*ць.** *Вымусовая няпраўда. Выняваліў вон з хаты. Вынукалі хлапца сказаць праўду.*

**ВЫНУТЬ, в*ы*няць, в*ы*нятны, в*ы*няткі.**

**ВЫПАДЫ, выбр*ы*кі.**

**ВЫПАЛЗЫВАТЬ, выпаўз*а*ць, выпоўзіны, выпоўзьлік.**

**ВЫПАЛЫВАТЬ** *што,* ачышчаць лехі ад непатрэбнага зеліва; **вып*а*лываць, пал*о*ць, в*ы*палаткі.**

**ВЫПОРХНУТЬ** *аб птушцы,* **в*ы*пырхнуць.**

**ВЫПАХИВАТЬ, вы*о*рываць.**

**ВЫПАХНУТЬ** *пыл за вакно, на вуліцу,* **змахн*у*ць.**

**ВЫПАЧКАТЬ** *што,* **в*ы*пэцкаць, в*ы*гвазраць, в*ы*брудзіць.**

**ВЫПЕЧАТЫВАТЬ** *што,* **выдрук*о*ўваць.**

**ВЫПИЛИВАТЬ** *што*, **выпілоўваць.**

**ВЫПИСКА**, **вы́піс, выпісовы, выпі́счык.**

**ВЫПЛАВЛЯТЬ** *што*, **вытапляць, вы́тапкі, вытопны.** *Вытапляць лой са скварак. Вытапляць серабро з нітак, жалеза з руды.* Вытапкі, рэшткі ад вытапліваньня. Вытопны, празначаны да вытапліваньня, які лёгка вытапляецца.

**ВЫПЛЕВЫВАТЬ**, выкідаць, як сьліну з губы; **выплюваць, выплюняць, плюнькі, плюнец.**

**ВЫПЛЕСКИВАТЬ** *што*, **выпялёхваць, выпялёхваньне, вы́пелях, выплёхтываць, вы́плехкі.**

**ВЫПОЛНЕНІЕ** *ср.*, **выконаньне, выконываць, выкана́льны.**

**ВЫПОЛЬЗОВАТЬ** *каго*, **вы́карыстаць.**

**ВЫПОТРОШИТЬ** *што*, **вы́трубушыць, разтрыбушыць.**

**ВЫПРАВЛЯТЬ** *што*, праставаць, раўняць, праладжваць; **прастаць, выпрастоўваць.** *Выпрастаць, крывую іголку, скарабачаны стол, скомшаную паперу.* **Выпраўляць**, *выпраўляць чалавека ў дарогу.*

**ВЫПРАВКА** *ж.* навык да выпаўненьня чыннасьцяў; **навы́тар,** (ад „тор", „торыць"—праціраць дарогу).

**ВЫПРАСТЫВАТЬ** *што*, **апаражняць, спаражняць.**

**ВЫПРОКИДЫВАТЬ** *што*, **выкідаць, вываpачваць, выкуляць.** *Выкінуўся, выкуліўся з саней. Вывярнуў вядро з вадой.*

**ВЫПРИГИВАТЬ**, **выскаківаць.** *Не выскаківай праз вакно ў гарод. Выскаківае гайдука, з галубцамі.* (Гайдук—назв. танца; „галубцы" выбіваюць запяткамі).

**ВЫПРЯМЛЯТЬ** *што*, **праставаць, спрастоўваць, спрастоўка, наўпростны,**

**ВЫПУКЛОВОГНУТЫЙ**, **скляславыглубісты,**

**ВЫПУКЛЫЙ**, **пукаты, пукацісты, выспучысты, выпуклы.**

**ВЫПУСКНОЙ**, *экзамен*, **выпустны**.

**ВЫПУСК, выпуст, выпусьцісты, выпушчаць.**

**ВЫПУТЫВАТЬ** *што каго*: **выблутваць, выблутываньне, выблутка, выблуцісты.**

**ВЫПУЧИВАТЬ** *што*, **выпінаць, выдуваць, вытарашчываць, выталупляць, тапоршчыць.** *Выпяў бруха. Выдуў шчокі. Вытарашчыў, выталупіў вочы. Натапоршчыў певень грыву, індык хвост.*

**ВЫПУШКА** *ж.* абшыўка па шву; **кант, аблямоўка, абрубка.**

**ВЫПЬ** *птах, Ardea stellaris;* **дзяргач, драч, бухач.**

**ВЫПЯЛИВАТЬ** *што*, **выпінаць, высалупляць,** *Высалупіў язык.*

**ВЫПЯТИТЬ** *што*, выстаўляць, высуваць задам на зьне; **выткнуць, выстырнуць, высалупіць.**

**ВЫРАБОТКА** *ж.* **вырабка, выраб, вырабляць; выпрацоўка, апрацоўка.**

**ВЫРАЖАТЬ** *што*, **выказываць, выражаць.**

**ВЫРАЖЕНІЕ** *ср.* **сказ, выслоў, выраз.** *У ягоным абліччы ёсьць нейкі выраз горычы. Сказ, горад і гарадзіць, вытварыліся ад аднаго паняцьця.*

**ВЫРАЖДАТЬ, ВЫРОЖДАТЬСЯ, выраджацца, выродзісты, выродны, выродак, вызрадак.**

**ВЫРАЗУМѢВАТЬ** *што*, **разьбірацца, разкумяняць, выздукрыць, выразумець, выглуздрыць, спасьцігаць.**

**ВЫРОНИТЬ** *што*, **выскінуць.**

**ВЫРАЩИВАТЬ** *што, каго;* **узгадоўываць, узрашчаць.** *Узрасьціў бараду, яблыню, але узгадаваў сына, дачку, жывёлу.*

**ВЫРДѢТЬ** *аб пладах*, **выжаўрэць, дасьпець.**

**ВЫРУБАТЬ** *што*, вычосываць сякерай; **высякаць, высек, высечны.**

**ВЫРУГАТЬ** *каго*, абазваць, лайчывымі славамі; **вылаяць.**

**ВЫРУЧАТЬ** *што, каго;* высвабаджаць якім колечы спосабам з бяды, гора, няволі; **вызваляць.** *Бывала людзей вызваляю, а цяпер сам прападаю. Вызваліў, выбраў гэтулькі-то грошы за лес.*

**ВЫРЫВАТЬ** *што,* **выкапываць, выкопны.** *У гэтым гаду прыдзецца выкапываць камяні на полі. Выкапалі яму.*

**ВЫРѢЗЫВАТЬ** *што,* **выразаць, выцінаць.** *Вырэзаў з паперы коніка. Вырэзаў кляновую касакеліну. Горад узят быў прыступам і выцята было многа людзей.* Тнецца з размаху „рубить“, рэжацца з надуму. *Цяў па галаве шабляй, нажом. Адцяў нітку. Вырэзаў рысунак на медзі.*

**ВЫРЯЖАТЬ** *каго,* апранаць у аздобную вопратку: **строіць, строіцца, выстраены.**

**ВЫСАСЫВАТЬ** *каго, што з чаго;* ссаць сок з чаго , выцягаць, волагу; **высмактываць, высысаць.**

**ВЫСВОБОЖДАТЬ** *каго,* з чужой залежнасьці; **вызваляць, вызваленьне, вызваленец.**

**ВЫСКАБЛИВАТЬ** *што,* **выскрабаць, выскрабкі.**

**ВЫСКАЗЫВАТЬ** *што,* гаварыць, апавядаць, што на душы, проста, адкрыта; **выслаўляць, выказываць.**

**ВЫСКАЛИВАТЬ** *зубы,* **вышчараць, выскірзацца.**

**ВЫСКАЛЬЗЫВАТЬ**, **выскаўзаць, высмыкаць, высьлізаць.** *Высьлізнулася, высмыкнулася, выскаўзнула шклянка з рук.*

**ВЫСКРЕБЫВАТЬ** *што,* **выскабліваць.**

**ВЫСЛУШИВАТЬ** *каго,* **выслухаць.** *Доктар выслухае хворага. Нашто мне выслухаць вашы нараканьні.*

**ВЫСЛѢЖИВАТЬ** *каго,* **высачываць;** зн.ісьці па сьлядох; „сакмо“, знак ад ступаньня, сіганьня нагамі.

**ВЫСМАТРИВАТЬ** *што,* **выглядаць.**

**ВЫСМОКТАТЬ** *што,* **выцмактаць.**

**ВЫСОВЫВАТЬ** *што,* вытыкаць вон, на зьне; **высуваць, высалупляць, выстырнаць.**

**ВЫСОТА** *ж.* **вышыня, высь, выскаць, высачня, высасьць.** *Высь паднябесная. Узьбіўся на выскаць, ледзь галавы не скруціў. (Сержп. 94). Высачня тэй гары незьмяроная (Рам.). Вялікая вышыня гэтай вежы. Якая можа быць яго высасьць, высокасьць. Ня так высока, як стройнага стану.*

**ВЫСОЧЕСТВО, велячэсьлівасьць.**

**ВЫСОКОБЛАГОРОДІЕ, крывічэсьлівасьць.**

**ВЫСПРЕННЫЙ, вызлёцісты.**

**ВЫСКОМѢРНЫЙ, фанабэрысты, чванлівы.**

**ВЫСОКОПАРНЫЙ, велягорны, велягорына.**

**ВЫСОКОУВАЖАЕМЫЙ, шаноўны.**

**ВЫСОКОПРЕВОСХОДИТЕЛЬСТВО, велеможнасьць.**

**ВЫСКОПРЕПОДОБІЕ, правялебнасьць.**

**ВЫСОКОПРОСВЯЩЕННЫЙ, велясьвятарны.**

**ВЫСОКОСЕРДНЫЙ, велясэрдны.**

**ВЫСОКОСЛАВНЫЙ, веляслаўны.**

**ВЫСОКОТОРЖЕСТВЕННЫЙ, веляўрочысты.**

**ВЫСОКОУМІЕ, велямудрлівасьць.**

**ВЫСПРАШИВАТЬ** *у каго, што;* **выпытываць, выведываць.**

**ВЫСТАВКА** *ж.* **выстаўка, спаказ.** *Спаказ прамысловасьці, ратайства, хатніх вырабаў.*

**ВЫСТЕГИВАТЬ** *коўдру вопратку,* **пікаваць.**

**ВЫСТИРАТЬ** *што,* **вымыць, выпраць.**

**ВЫСТРАГИВАТЬ** *што,* **выстругаць, выстружка, выстружны.** *Выстругаў ножыкам палку. Прыгожая выстружка (разьба) на вокнах.*

**ВЫСТРОИТЬ** *што,* **збудаваць, пабудаваць.** Збудаваў хату, млын. Пабудаваў не адзін будынак, хату.

**ВЫСТРАЧИВАТЬ** *што,* **штабнаваць.**

**ВЫСТРѢЛ** *м.* **стрэл, в*ы*страл.**

**ВЫСТУПЛЕНІЕ** *ср.* **в*ы*ступ.**

**ВЫСТЫВАТЬ, выстыг*а*ць.**

**ВЫСШІЙ** *м.* **вышэйшы, в*ы*шні.** *Ніхай вышні Бог яму адпамятае. Ен вышэйшы за яго.*

**ВЫТАЛКИВАТЬ** *каго, што:* **выпіх*а*ць, вынтаўх*а*ць.**

**ВЫТАПТЫВАТЬ** *што,* вытаўчы нагамі; **в*ы*дратаваць, в*ы*таўчы, в*ы*талачыць.**

**ВЫТАСКИВАТЬ** *што,* **выцяг*а*ць.**

**ВЫТАЩИТЬ, в*ы*цягнуць, в*ы*валачы.**

**ВЫТЕСЫВАТЬ** *што,* **вычэсываць, выц*е*сьліваць.** *Вычасаў, выцесьліў сякерай палозьзі з дубовых касапелін.*

**ВЫТВЕРДИТЬ** *што,* **вызубрыць.** *Трэба лекцію вызубрыць на памяць.*

**ВЫТРАВЛИВАТЬ,** выніш ч аць труцізнай: **вытруч*а*ць.** *Мышву, рыбу вытруцілі.* Рабіць рысункі пры помачы кісляцяў—**вып*а*ляць.**

**ВЫТРЕБОВАТЬ** *каго, што;* **выпатрабав*а*ць.**

**ВЫТРЕЗВЛЯТЬ** *каго,* **цьвяр*о*зіць, ацьвяр*о*зіць.**

**ВЫТЯГИВАТЬ, ВЫТЯГАТЬ** *што,* вывалаківаць вон, разпінаць туга: **выцяг*а*ць, напін*а*ць, напружаць.** *Выцягаць бродзень. Выцягаць скуру на капыле. У яго бацька выцягнуўся (памер). Выцягнуць з бяды, вядро са студні.*

**ВЫТЯЖКА, в*ы*спружка, наўв*ы*спруж.** *Наўвыспруж выцягнуўшыся стаіць. Выспружіліся як салдаты.*

**ВЫУТЮЖИТЬ** *што,* выгладзіць пеглям („утюгом"); **в*ы*пегліць,**

**ВЫУЧИВАТЬ** *што,* выцьв*е*рджываць на памяць, вывучыцца: **вывуч*а*ць, выв*у*члівы, выв*у*чнік-ца.**

**ВЫУЧКА, наўч*о*мка, наўч*о*мны.**

**ВЫХЛЕСТАТЬ** *што, каго;* **в*ы*сеч, в*ы*сьцябаць, в*ы*хлюснуць.** *Выхлюснуць памыі на вуліцу. Высьцябаць, высеч хлапца за няслухмянасьць.*

**ВЫХЛОПОТАТЬ** *што,* **выстарацца, выклапаціць.**

**ВЫХОЛАЖИВАТЬ** *што,* **выстуджаць.**

**ВЫХОЛАЩИВАТЬ, скапіць, выкладаць, лягчыць.**

**ВЫХОЛИВАТЬ** *каго,* **выпесьціць.**

**ВЫХОДКА** *ж.* **выбрык, выбег, выбегі.** *Ен мае дзіўныя выбрыкі у адносінах да людзей. Выбегамі рознымі, ды хітрасьцямі, уцёрся у ласку.*

**ВЫЦАРАПАТЬ** *што,* **выдзерці, выскрабаць. вышаркаць.** *Лепш перадзірайце вочы а Інфлянты (прамова Мялешкі). Яна гатова яму вочы выдзерці. Падзёр, пашаркаў рукі аб агрэсьнік. Выскрабаў нажом лаву, скуру.*

**ВЫЦВѢТАТЬ** *аб расьцінах,* пераходзіць пару поўнакветнасьці; **выквітаць, вычаўрэць.** *Аб масьці, барве, колеру;* **блекнуць, сьвянуць.**

**ВЫЧЕКАНИВАТЬ** *манэту,* **выбіваць.**

**ВЫЧЕРКИВАТЬ** *што,* **выкасовываць.** Выкасуй доўг з кнігі, гнеў з сэрца.

**ВЫЧЕРЧИВАТЬ** *што,* **выкрэсьляць.**

**ВЫЧЕСТЬ, вылічыць, адлічаць, вычатаць.** *Ці ты вычатаў, чотаваў, колькі трэба плаціць? Чы вы, жабракі, ды п е р е ч о т у е ц я. Хто мне арэхаў бочку п е р а ч о т у е (W. Weryha. Podania białoruskie стр. 33).*

**ВЫЧЕТ —вылічка.** *Акром вылічкі за прапушчаныя дні ён мне заплаціў.*

**ВЫЧИСЛЕНІЕ** *ср.* **чотаваньне.** *У яго сягоньня вялікае чотаваньне; трэба вычатаць колькі было аплат. Чотаваньне твaё да нічога, лепей у каляндар паглянь (Лідзк. пав.),* **вылічаньне.**

**ВЫЧЫТАНІЕ** *ср.* **адыйманьне.**

**ВЫШАТАТЬ** *што,* **выківаць, вывіхтаць.**

**ВЫШВЫРЯТЬ** *што,* **вышпургаць, вышпурнуў.**

**ВЫШИБАТЬ** *што,* **выбіваць, вышпуляць.** *Выбіў сабе зуб, вока. Вышпульнуў локцям балону ў вакне. Шпульні яго, каб касьцей не сабраў.*

**ВЫШИБ**, в*ы*віх.

**ВЫШИВКА** *ж.* в*ы*шыўка, г*а*фт.

**ВЫШКВАРКИ** *ж. мн.* скв*а*ркі, в*ы*скваркі. *Калі сала топяць—астаюцца скваркі; калі цыну ператапляюць—астаюцца выжаркі.*

**ВЫШКА** *ж.* гаўбец.

**ВЫШПАРИВАТЬ** *клапоў,* п*а*рыць, пр*у*дзіць.

**ВЫШУЧИВАТЬ** *каго,* выкпів*а*ць, высьмяв*а*ць, шкіл*і*ць.

**ВЫЩЕЛАЧИВАТЬ** *што,* выжлукч*а*ць, жлукц*і*ць, вылуг*о*вываць.

**ВЫЩИПЫВАТЬ** *пёры, валасы;* выскуб*а*ць, аскуб*а*ць, вырыв*а*ць.

**ВЫЮЛИТЬ** *што,* в*ы*жэўжыць.

**ВЫЯ** *ж.* шыя, а больш хрыбетныя і бочныя часьці яе; **карк, каркав*і*на, закаршэль.**

**ВЫЯСНЯТЬ** *што,* **высьвятл*я*ць, выясьн*я*ць.**

**ВЬЮК** *м.* конскае несіва і др. цяглай скацежы, кладзеная на дзьве роўныя палавіны; **тр*о*к.**

**ВЬЮЧНЫЙ**, тр*о*чны, тр*о*чыць.

**ВЬЮН** *рыба, Petromyson fluviatilis;* **піск*у*н.**

**ВЬЮШКА** *ж.* прылада да наматываньня нітак; **матав*і*ла.**

**ВѢДЬ** *злуч.* дык, *а*джа, адл*і*. *Аджа ты ведаеш. Адлі-ж гэта ён, а ня ты павінен плаціць. Дык я табе казаў наперад.*

**ВѢДЕНІЕ** *ср.* в*е*даньне. *Каб-жа ды тое веданьне, дзе павалішся.*

**ВѢДОМСТВО** *ср.* дыр*э*кція.

**ВѢДОМОСТЬ** аб рубрыках і лічбах, агаловак, найменны сьпіс чаго колечы; **р*э*естр.**

**ВѢДСТВО** *ср.* чараўніцтва; **вядзьм*а*цтва, в*е*дзьма, вядзьм*а*к.**

**ВѢЕР** *м.* паўкруг з пёраў, тонкіх касьцяных, рагавых ці іншых пластак да развяваньня паветра: **вахл*е*ц, в*а*хлік, вахл*а*р.** Да праўяваньня збожжа

ужываюць машыну — **вахлярню** (польск. — варфа, арфа).

**ВѢЖДЫ** *ж, ср.* **павекі, вечайкі.**

**ВѢЖЛИВЫЙ**, які пілнуецца сьвецкай, жыцьцёвай прыстойнасьці; **ветлы, абычайлівы.**

**ВѢНЕЦ** *м.* **вянец, каруна.**

**ВѢНЧИК** *зьменьш.* кружок, галоўка у машынах, прыладах: **пятка, галоўка**; верхняя часьць кветкі: **карунка.**

**ВѢНЧАТЬ** *каго*, ускладаць на каго шанабліва вянец—**карунаваць**. Сцьвярджаць жанідзьбу царкоўным абрадам-**вянчаць, шлюбаваць**. Гэтае апошняе слова ўжываецца каталікамі.

**ВѢНОК** *м.* сплецены з кветаў круг на галаву: **вен, вянец, вянок, венчык.**

**ВѢРА** *ж.* пэўнасьць, пераконаньне, цьвёрдая сьвядомасьць, знацьцё аб чым; навука прынятая народам, вызнаньне праўд аткрытых Богам; **вера, закон, веравызнаньне, рэлігія.**

**ВѢРНО**, **праўдна**. *Ад вернага чалавека праўдныя весьці. Праўдны вынік задачы.* Расійцы ужываюць слова „верно“ яшчэ ў значэньні—х і б а, м а б ы ц ь, з н а ц ь.

**ВѢРИТЕЛЬНЫЙ** *аб лісьце, дакуманце;* ліст які насведчае аб даручэньні каму якой справы; **верагодчы ліст, грамата.**

**ВѢРОИСПОВѢДАНІЕ** *ср.* **веравызнаньне.**

**ВѢРОЛОМСТВО, спранявера, спранявернік-ца.**

**ВѢРООТСТУПНИК, адшчапенец.**

**ВѢРОТЕРПИМОСТЬ, толерантнасьць.**

**ВѢРОЯТІЕ** *ср.* прыняцьце чаго за праўду; **праўдападобнасьць, праўдападобна.**

**ВѢСИТЬ** *што*, **важыць, вагомы.**

**ВѢСОК, ВѢСИЛО,** *мэталічная адзінка вагі* да важаньня: **важка, гірка.**Прастакут з гіркаю на ніткцы—**вагар.**

**ВѢСЫ** *м. мн.* **вагі.**

**ВѢСИТЬ, важыць.**

**ВѢСОВЩИК** *м.* **важнік.**

**ВѢСТОВОЙ** *м.* **нарок, нарочны.**

**ВѢТВЬ** *ж.* атожылак, летарасьць дрэва з сука; **галіна, галінка, голька, сук.**

**ВѢТВИСТЫЙ**, багаты вецьцям; **галінясты, расахаты, сукаваты.**

**ВѢТЕР** *м.* **вецер, ветранны, ветрыва, ветрыць.**

**ВЕТРИЛО** *ср.* **лаштыр, ластыр.** Даўней на Дзьвіне ўжывалі назоў ластыр, зам. цяп. „парус“. Ластыр рабілі кліном, шырокім канцом трыкутніка ўніз.

**ВѢТОШКА** *ж.* **старызна.**

**ВѢТХІЙ**, стары, друзлы, пракаветны; **вётхі.** (Дрыс пав.).

**ВѢХА** *ж.* **вяха, вяшыць.**

**ВѢШАЛКА** *ж.* пры вопратцы шнурок да вешаньня вопраткі—**гіцаль, пачапельчык;** прыбор да вешаньня вопраткі — **градніца, расаха, шортніца, шарагі.**

**ВѢЩІЙ** *м.* каму ўсё ведама і хто весьціць будучыну; **ветны, веціць,** *арх.* **вешчы.**

**ВѢЯТЬ** *агульн. слав.* **веяць, венуць.** *Павень ветру з далёкага краю* (нар. песьня); **вейны, павейны.**

**ВЯЗАТЬ,** *агульн. слав,* **вязаць, зьвязывацца, вязацца.**

**ВЯЗАТЬ,** рабіць кручком з нітак назуткі, рукавіцы і інш; **рубіць, румбаваць;** *Румбаваныя пяршчаткі, рукавіцы.*

**ВЯЗИГА,** сухія жылы з буйнай рыбы; **вязыга.**

**ВЯЗНУТЬ,** топнуць у гразі; **гразнуць, гразкі, пагразь.**

**ВЯЗ** *дрэва Ulmus Effusa*; **бераст.**

**ВЯЛИТЬ** *што*, сушыць на ветры што еміннае, мяса, рыбу; **чаўліць, чаўлянiна, чаўлы** — сухі; **сяўрыць, прасяўрыць**—высушыць на марозным ветры.

**ВЯЛЫЙ** *аб чалавеку*, нехлямяжы, непаваротлівы; **ленты-ая**. *Да работы ленты. Лентасьць нейкая ў яго з роду. Лента бярэцца да ежы, да работы, да справы.*

**ВЯЩІЙ**, большы, значнейшы—**вельшы**.

**ВУССОН** *м. арх.* дарагая тканіна, мабыць самы тонкі батыст.

## Г.

**ГАГА**, паўночная качка Anas (Somateria) mollisima, з якой дабываецца самы цэнны пух; **гагач, гагачы пух**.

**ГАВАНЬ** *ж. ням*, прыглубае прыморскае месца закрытае ад ветраў са ўходам для караблёў: **заваньо**.

**ГАДАТЬ**, дазнавацца невядомага варажбой; **варажба, варажыць, варажбіт**; угадываць, дазнаваць, штоколечы невядомае наабум: **ганаць, ганyць**. **выганаць**. Цыганачка **варожка** учыні мне волю: ці не стане дзяўчыненька да шлюбу, са мною (Брачк. 9).

**ГАДАТЕЛЬНО, здагадна, наўздагадна**.

**ГАДИТЬ** *што*, брудзіць, пэцкаць, паскудзіць; **гідзіць, гідкі, гідасьць**.

**ГАДИТЬСЯ, гідзіцца, гіда, гідкі, гідлівы**.

**ГАДЮКА** *полаз*, Vipera, **гадзіна, вужака, вужаўка**.

**ГАЕР** *м.* блазан у народных ідовішчах, які сьмяшыць людзей зьбітымі жартамі, крыўляньнемся; **кулдыяш, Антон кароткі**. Даўней, бывала, са скамарохамі хадзілі разам **і кулдышы**, якія перадзетыя, размаляваныя, з наклеенымі насамі, сьмяшылі людзей (з нар. апав Дзіс. пав.).

**ГАЗЕТА** *ж. італьян.* пэрыёдычнае выданьне, звычай ў аркушах; **часопісь**.

**ГАЗОН** *м. франц.* **кветнік**.

**ГАЗ** *м.* рэдкае цела; целы наагул бываюць: цьвёрдыя, плыўкія і лятучыя або газавыя; могуць быць яшчэ

эфірныя і невагомыя—**газ**, **жокаць**. Апошняе народнае слова па значэньню в. блізка да паняцьця выражанага словам газ. Кажуць: *Нарабіла жокаці пеглям у хаце. Не чадам, а жокацьцю пахне. Жокаць выходзіць з магілы і ў ціхі вечар прыбірае чалавечу постаць. Жокацьцю у паветры нясе, відаць недзе лясы гараць. Уся вада выпетрыла аж жокацьцю панясло з гаршчка (Вёска Буды, Дзіс пав.).*

**ГАЙКА** *ж.* мэталічны кружок, абадок з сускрознай дзіркай нарэзанай у сярэдзіне шрубам; **мутэрка**.

**ГАЛАНТЕРІЙНЫЙ** *тавар, фр.* тавар які служыць да строяў убораў, франтаўства; **скрасны**, **галянтэрыйны**. *Вэнгры разносяць скрасныя тавары: пярсьцёнкі, бранзалеты, стужкі, гузікі, мыла пахучае (Лідзкі пав. і Вяліжскі). Перад вясельлям паеду, накуплю усялякага скрасіва (Боркавічы, Дрыс. п.). Крама са скраснымі таварамі (Дзісна).*

**ГАЛДѢТЬ**, голасна, крыкліва, многімі галасамі разам гаварыць; **галакаць**.

**ГАЛИМАТЬЯ** *ж. фр.* **чаўпяжня**, **нісянеціца**.

**ГАЛКА** *ж. птах.* Corvus monadula; **каўка**.

**ГАЛО** *ср.* прылада да гбаньня дуг, абадоў; **гбала**.

**ГАЛОПОМ** *м. фр.* конскі бег скокам; **наўскач**, **навыскач**.

**ГАЛОША** *ж.* верхні абутак ад балота ці сьцюжы, роблены з гуміластыкі; **калёш**, **калёшы**.

**ГАЛСТУК** *м. ням.* павязка каля шыі, хустка на шыю, стужка на крахмалены каўнерык: **гальштук**, **гальтух**, **стужак**, **шалік**, **шальчык**.

**ГАЛУН** *м. фр.* залатая, сярэбраная тасемка; **шаўрон**, **шаўроны**.

**ГАЛЬКА** *ж.* дробны акруглены вадой камейчык; **буглёўнік**, **буглёк**.

**ГАЛЮЦИНАЦІЯ** *ж. лац.* абман чову: **амарока**.

**ГАМ**, крык многіх галасоў; **галакня**, **гоман**.

**ГЕНЕРАЛ**, высокі вайсковы чын; **генерал**.

**ГЕНЕРАЦІЯ** *ж. лац.* **род, пакаленьне**.

**ГЕНІЙ** *м. лац.* невідомы безцялесны дух, добры або злы; самаісты творчы дар у чалавеку; **геніюш, геніяльны, геніяльнасьць**.

**ГЕОГЕНІЯ** *ж. грэцк.* навука аб паходжаньні, аформленьні і тварэньнюся зямлі; **зямлеродвад, геогенія**.

**ГЕОГНОЗІЯ** *ж. грэцк.* навука якая дасьледуе напластоўку зямлі, склад і якасьць цьвёрдай зямельнай кары; **землясноў, геогнозія**.

**ГЕОГРАФІЯ** *ж, грэцк.* навука якая апісуе, дасьледуе зямлю; **зямлеапісаньне, географія**.

**ГЕОДЕЗІЯ** *ж. грэцк.* высшая землямерыя; практычная трыгономэтрыя; землямерная матэматыка; навука аб меўраньні і вылічаньні зямель; **землячотаваньне, землямерніцтва, каморніцтва, геодэзія**.

**ГЕОЛОГІЯ** *ж. грэцк.* злучэньне геогеніі і геогнозіі, навука аб пераменах, пераваротах і стане зямной кары; **земляведаньне, геологія**.

**ГЕОМЕТРІЯ** *ж. грэцк.* часьць метэматыкі; навука аб прадоўжнасьці, аб прасторы; навука аб лініях, аб плосменях, аб целах; гэты тры часьці называюцца: лініе(лонгі)мэтрыя, планімэтрыя, стэрэамэтрыя; **геомэтрыя**.

**ГЕОРГИНА** *ж. расьціна* Georgina Dahlia; **юргіня, юргінія**.

**ГЕРАЛЬДИКА** *ж. грэцк.* навука аб гэрбах; **гэрбаведаньне, гэральдыка**.

**ГЕРОЛЬДІЯ** *ж. грэцк.* установа якая кіруе радаводнымі справамі; **гэрольдія**.

**ГЕРОЛЬД** *м.* урочысты ганец, апавесьнік; **гэрольд**.

**ГЕРБАРІЙ** *м, лац.* сабраньне сухіх расьцін; **зельнік, траўнік, былінар**.

**ГЕРБ** *м.* рысунак з выабражэньнем на ім знакаў прысвомленых дзяржаве, гораду, дваранскаму роду; **гэрб, клейнад**.

**ГЕРКУЛЕС** *м, грэцк, міт.* магут, волат, асілак; **гэркул*е*с.**

**ГЕРМАНИЗМ** *м.* зварот, або выражэньне ласьцівае нямецкай мове; **гэрман*і*зм.**

**ГЕРМАФРОДИТ** *м. лац.* чалавек або жывёла патворнай формы, які злучае ў сабе, больш або менш, азнакі абодвых постацей, мужской і жаночай; **абам*у*д, сумуд.**

**ГЕРМЕНЕВТИКА** *ж. грэцк.* навука якая аб'ясьняе св. пісьмо; **гэрманэўтыка.**

**ГЕРМЕТИКА** *грэцк.* альхімія, фальшывая, тайная навука аб вытварэньні золата; **гэрмэтыка,**

**ГЕРМЕТИЧЕСКІЙ,** наглуха задушкаваны, недаступны паветру; **шч*ы*тны, наўшч*ы*тны.**

**ГЕРОЙ** *м.* **ГЕРОИНЯ** *ж.* харобры ваяр, магут, слаўны змагар у вайне і міры, самапасьвятны, самаахвярны змагар, галоўная асоба падзей; **герой.** Даўней у нас ужывалі дзеля абазначаньня гэтага паняцьця: *харобр, харобрасьць*, а такжа *магут, магучасьць* у значэньні удалага ваяўніка. Татарскае слова *багатыр* да XIV ст. было невядомым у нас; замест яго гаварылі: *палянец, волат.* Слова *палянец,* праўдападобна, паходзіць ад названьня качаўнічых плямён—*полаўцы.* Як з наймeньня народу *Обры* утварылася польскае *olbrzym,* з наймeньня народу *Спалаў,*—расійскае *исполин,* гэтак сама ў нас, з Полаўцаў, вытварыўся тэрмін *палянец.*

**ГЕРУНОК** *м.* названьне косага навугольніка у сталяроў; **касав*е*нь.**

**ГИБКІЙ,** х*і*лкі, **гн*у*чкі, х*і*бкі, хіб*а*ць.** *Хібкага стану кабета.*

**ГИБНУТЬ,** нікнуць, счазаць, прападаць; **г*і*нуць, заг*і*нуць, заг*у*ба, заг*і*бель, паг*і*бель. Гібель,** многа, бязмерна, бязлiку.

**ГИГАНТ** *м. грэцк.* вялікі узростам чалавек; **волат, гіг*а*н.**

**ГИГІЕНА** *ж* веда або знаньне як заховываць здароўе; **гігі*е*на, здар*о*ўнасьць.**

**ГИГРОМЕТРІЯ** *ж. грэцк.* навука аб памеры вогкасьці паветра; **гігромэтрыя.**

**ГИДРА** *ж, грэцк.* баечны, водны многаловы зьмей; зло супроць якога німа спосабаў; **гідра.**

**ГИДРОЛОГІЯ** *ж. грэцк.* навука аб складзе рожных вод; **гідролёгія, вадазнаўства.**

**ГИК** *м. марск.* рэдкая смала да смоленьня вадаплаваў; **дзёгаць, вар.**

**ГИЛЬДІЯ** *ж. ням.* стан, цэх, ступень у цэху пркл. купецкім; **гільдзія.**

**ГИЛЬЗА** *ж. ням.* папяровая, клееная, а часам бляшаная трубка да ракетаў і карабінных набояў; **понаўка, понавень.**

**ГИЛЬОТИНА** *ж. фр.* прыбор да караньня сьмерцьцю; **гільётына.**

**ГИМНАЗІЯ** *ж. грэцк.* вучомная установа сярэдняй ступені, паміж нізшымі і унівэрсытэтам; **гімназыя.**

**ГИМН** *м. грэцк.* хвалебная песьня; **гімн, хваласьпёў.**

**ГИНЕКОЛОГІЯ** *ж, грэцк.* навука аб здаровым і хворым стане жанчыны; асобнасьці жаночагага арганізму; **гінекалёгія.**

**ГИПЕРБОЛА** *ж. мат. грэцк.* крывая лінія якаябы азначалася на паверхні галавы цукру (конуса—кучменя), калі яе разсячы збоку, простападна ўдоўж; **вобля.**

**ГИПЕРБОЛОИД** *мат.* геомэтрычнае цела творанае аварачваньнем гіпэрбалы; **воблясьмень.**

**ГИПОЛОГІЯ, ГИППИКА** *ж. грэцк.* навука аб конях; **канёўства, гіполёгія.**

**ГИПОТЕЗА** *ж. грэцк.* дапушчэньне, дагадка, **домнеўка.**

**ГИПОТЕКА** *ж.* парука, заклад, парука закладаньнем маетнасьці; **гіпотэка.**

**ГИПОТЕНУЗА** *ж. грэцк. мат.* старана простакутніка, супроцьлеглая простаму куту; **наскосьніца, укосьніца.**

**ГИПОХОНДРІЯ** *ж. грэцк.* нізшая ступень мэляніхоліі, склоннасьць да задумлёнасьці і чорных мысьляў; **гіпохондрыя.**

**ГИПС** *м. выкопнае*, сярчана-кіслая вапна; перапаленая яна разсыпаецца і лачна ўпівае ваду, цьвярдзее і застыгае з вадой вельмі хутка; **гіпс, гіпсовы, гіпсаваць.**

**ГИРЛО** *ср.* (горла), рачное усьця на якія рака падзеляецца пры ўліваньніся ў мора; **рыга, рыгва.** Нашы плытнікі пры усьці Дзьвіны разрожнююць *лагво* ракі і *рыгі, рыгвы* яе (зраўняй слова *рыгаць* выкідаць вон праз горла страву, а также пацёкі вады — *рагі*).

**ГИРЛЯНДА** *ж. фр.* доўгі вянок; **суплёт, гірлянда.**

**ГИРЯ** *ж.* **вага.** *Фунтовая, пудовая,* **вага,** але і **гіра.**

**ГЛАВА** *ж. старсл.* **галава, галавіца, галоўка, галавешка, галаўня, галавізна**

**ГЛАВАРЬ, галавар, галаварскі, галаварства.**

**ГЛАВНЫЙ, галоўны, галоўнасьць, галоўнік.**

**ГЛАВНОКОМАНДУЮЩІЙ, галоўнакамандуючы, ваевода.**

**ГЛАВНОНАЧАЛЬСТВУЮЩІЙ, галоўназьверхні, дыктатар.**

**ГЛАГОЛ** *м. црксл. слова,* **мова.** *Грам.* часьць мовы, адзел слоў якія выражаюць чыннасьць, становішча, трываньне; **словачын, дзеяслоў.**

**ГЛАДИТЬ,** раўняць, выгладжываць матэрьял, тканіну пеглям (утюгом); **пегліць.** *Пегель,* гэта масыўны жалезны прадаўгаваты трыкутнік з ручкай, каб нагрэць яго ўкідалі ў добра напаленую печ; асобная адмена пегля „з душой", калі не сам пегель напалялі ў печы, а некалькі яго „душ", якія пачародна ўкладаліся ў сярэдзіну пегля.

**ГЛАДЬ** *ж.* асобны спосаб шыцьця, вышываньня, калі нітка кладзецца каля ніткі гладка і роўна; **лос, лосны шоў, вышываць пад лос.**

**ГЛАДЬ** *ж.* гладкасьць, чыстая роўнасьць: у *лесе*, **гал, прагал, прагаліна**; *на вадзе* гладкія паясы: **ласа**.

**ГЛАЗЕТ** *м. фр.* тканіна з шаўковай асновай і гладкім сярэбраным або залатым утокам—**грызэт.**

**ГЛАЗУРЬ** *ж. ням.* шклісты блеск наводжаны праз агонь на гліняныя вырабы; **паліва, глёк.**

**ГЛАЗ** *м.* орган зроку; **вока, вочы, вочкі, вочны; зікры, бакулы.**

**ГЛАЗОК** *м. у пярсьцёнку*, **жукавіна, жукавінка.**

**ГЛАЗѢТЬ**, талопіць вочы, **талопіцца, зерыць.**

**ГЛАС** *м* **голас, голасны, галасаваць**, крычаць голасна, крэпка.

**ГЛАСНОСТЬ** *ж.* разгалоснасьць публічная, прылюдная; **галоснасьць, яўнасьць.**

**ГЛАСИТЬ, цьвердзіць, павяшчаць.**

**ГЛАСНЫЙ** *м.* сябра гарадзкой управы, магістрату, **лаўнік**

**ГЛАШАТАЙ** *м.* **клікун, клікатар, спавестнік.**

**ГЛЕВ** *м.* сьлізь, якая пакрывае рыбу; **глёс, глюз.**

**ГЛЕТЧЕР** *м. ням.* горны лёд, **ляднік, ледавень.**

**ГЛИНА** *ж. агульн слав.* **гліна, глінка, гліняны, глінясты.**

**ГЛИСТА** *ж.* чарвякі, якія жывуць у кішкох чалавека; **гліста.**

**ГЛОБУС** *м. лац.* клуб які выабражае нашу зямлю (зямны глобус), нябесны круг з гвездамі (нябесны глобус), **глобус.**

**ГЛОДАТЬ** *што,* агрызаць, аб'ядаць або выядаць што з цьвёрдага; **глабаць, гладаць.** *Наехалі госьці, гладаць косьці, Голай косьці і сабака ня гложа, Бяззубы ня гложа, а толькі глабае косьць. Глабае стары сухія скарынкі.* **Глодыр** *м.* **глодырка** *ж.* сварлівы, кваклівы, прычэплівы чалавек.

**ГЛОТАТЬ** *што,* **глытаць, глынаць, каўтаць, лыкаць,** *Глытае сьлёзы свае ціхамоўкам. Ні*

*дыхнуць, ні глынуць. Вада паглынула дабытак. ...узяў прычасьце, але не пракаўтнуў яго (Сержп. 24 с.). Каўтае як гусак клёцкі, Лыкні крыху вады, Ен ужо ня лыкае, а локча гарэлку.*

**ГЛОТОК** *м.* **глынок, глыток, каўток, глыцень, лык.**

**ГЛОТКА** *ж.* **глотка, глытніца, глонаўка, ıланка, лыкніца, коўтніца.**

**ГЛУБИНА** *ж.* **глыбіня, глыбата, глыб, глыбежа, глыбей, глыбчэй, глыбокасьць, глыбіць, глыбавіна.** *Глыбокае мора, глыбокая рака. Што глыбей, то лепей. Глыбчэй апусьці кручок у вудзе. Там не далека ад берагу ёсьць глыбавіна. Глыбежа там незьмяроная.*

**ГЛУБОКОМЫСЛІЕ** *ср.* **глыбокадумліваcьць.**

**ГЛУПЫЙ** *а чалав.* неразумны, путавумны, абмежанага розуму; **глупы, глупенькі, глупец, глупасьць, глупаватасьць. глупень, глупыр, глупяндзей.**

**ГЛУХОЙ** *а чалав.* пазбаўлены здольнасьці чуць; **глухі, глухаваты, глохнуць, глухата. Глухая бяроза,** асобная адмена з касматымі лісьцямі. **Глухмень,** глухая пара дня ці году; закінутае, запушчаннае, дзікае мейсца.

**ГЛУХАРЬ** адмене цяцярука *Tetrao Urogallus,* **глушэц.**

**ГЛУХОНЪМОЙ—нямы.**

**ГЛЫБА** *ж.* аблом, ком цьвёрдай зямлі ці дзірвана на ральлі, **камага, глыба, ком.**

**ГЛЯДЪТЬ** *на што куды;* **глядзець, гледзіны, агледзіны, угледзіны.**

**ГЛЯДЬ, зір, зірк!** *Я толькі зір у хату. Зірк, вачыма на мяне.*

*Зірні на бачок, дзе стаіць мачок.*
*(Р 8-9. 103).*

**ГЛЯНЬ, зірні, гля, глянь.** *Ты-ж толькі глянь, зірні сюды, Людзі мае, гля, што ён роріць (Грод.).*

**ГНАТЬ**, **гнаць**, **жануць**. *Жані, гані яго вон.. Пажанулі, пагналі статак у поле.*

**ГНЕТЕНЬ**, **ГНЕТ**, прыбор да выціськаньня мокрасьці, клушчу з насеньня: **цісло**, **прытуг**, **ціскі**.

**ГНЕСТИ**, **цiснуць**, **уціскаць**, **прыгнятаць**, **прытужаць**. *Цісьнуць боты. Цісьне душу з цела. Уціскае нас. Уціскае парабкоў работай. Гняце гнётам душу. Прытуж парубень вяроўкай. Прытугу вялікую цярпелі мы за прыгону.*

**ГНИТЬ** *аб арганічн. целах;* **гніць**, **гнілы**, **гніль**, **гніеньне**, **гнільны**, **гніляк**, **гнілец**, **гнілавень**.

**ГНОЙ** *м.* прадукт гніцьця, цеча якая выдзяляецца з ран; **гной**, **матэрыя**, **глюз**. Кал дамовых жывёлаў вывожаны на поле **гной**, **навоз**.

**ГНОЕЦ** *м.* гнойны нарыў: **скула**, **верад**.

**ГНУСИТЬ**, гаварыць у нос; **гугнавіць**, **гугнавы**, **гугнавень**.

**ГНУСНЫЙ**, гідкі, абрыдлівы, паганы, подлы; **агідны**, **абрыдлівы**.

**ГНУТЬ** *што*, **гнуць**, **гібаць**. Каравай гіблюць на стале. (Крачк. стр. 40). *Гнулі мы дугі вязовыя, сягнем і лазовую. Пагбаў бляху вязучы. Добра гбаць гібкае.*

**ГНУШАТЬСЯ**, **гідзіцца**. **брыдзіцца**, **грэбаваць**.

**ГНѢВ** *м.* **гнеў**, **гнеўны**, **гневацца**, **гняўлівы**. **Гневаш**названьне старасьвецкага крыўскага танца.

**ГНѢДОЙ** *м. аб каню, туру, лосю;* цёмнарыжай масьці с чорнай грывай і хвастом; **гняды**, **сапоры**.

**ГДѢДО-СИВОВАТЫЙ**, **цісавы**.

**ГНѢЗДО** *ср.* **гняздо**, **гнездавіна**, **гняздзісты**.

**ГНѢЗДИЛО** *ср.* **гнязно**.

**ГОГОКАТЬ**, **гойкаць**. *А ці ня едуць ды ці ня гойкаюць (з вясельн. песьні).*

**ГОБИНА**, **ГОБЗИНА**, **ГОБЗА** *ж. стар.* **ураджай**, **дастатак**, **збожжа**.

**ГОВОРИТЬ** *што.* **Казаць**, **гаварыць**, **гаманіць**, **галакаць**, **галёкаць**, **гутарыць**, **размаў-**

**ляць, гукаць, дудукаць, зюкаць зяпаць**. Казаць, выражае паняцьце высказу не ўзаемнага, а ад першай, другой, ці трэцяй асобы. Я к а з а ў ім каб яны пагаварылі аб гэтым. Яны (ён, яна) прышлі і с к а з а л і мне. Ня буду к а з а ц ь вам аб тым, што людзі мне п е р а к а з ы в а л і. Г а в а р ы ц ь могуць паміж сабой двоя, ці многа людзей, прычым разумеецца, што мова іх мае спакойны характар. *Мы п а г а в а р ы л і і разышліся. Яны седзячы за сталом г а в а р ы л і аб усім* (але нельга—казалі аб усім). Г а м а н і ц ь, знача гаварыць голасна, паднятым голасам, сярдзіта, запальчіва, сварыцца крычаць. *Гаварылі, гаварылі і раптам загаманілі! Пагамані ты, бацька, на свайго хлопца. Гаманлівы быў сход;—крыклівы, сварлівы. Порах, порах па дарозе, што за гоман па дуброве (Безс. 43).* Г а л а к а ц ь—гаварыць крыкам, крычаць (польск. hałasować). *Чаго ты г а л а к а е ш як у крачме ці лесе. Як толькі зьбяруцца, зара ўсе разам і з а г а л а к а ю ц ь.* Г а л ё к а ц ь—крычаць на ўвесь голас. У лесе галёкаюць склікаючыся. Г у т а р ы ц ь, адпавядае расійскаму „бесѣдовать“, гаварыць спакойна, разважна. Гутарка—рас. „бесѣда“. Р а з м а ў л я ц ь—сярэдняе па значэньню паміж—гаварыць і гутарыць. Г у к а ц ь тое-ж што і дудукаць. *Ой я толькі, матулічка, ў галоўках стаяла, сардэчна гукала. Дзіс. п. (С. 8. 184).* Д у д у к а ц ь—вясьці размову прыніжаным голасам, прыязную, спакойную, безабьектную, а так аб усім, рас. „калякать“. *Старыя сойдуцца вечарам, пасядуць на прызьбе і д у д у к а ю ц ь сабе.* З ю к а ц ь—гаварыць голасным, сьвістучым шэптам. *Што вы там з ю к а ц е, з ю з ю к а е ц е па кутох! Маўчы, ані з ю к н і.* З а п а ц ь, бязсільна крычаць, крыкліва і бязсэнсу гаварыць (ад „зяпа“ разінутая пасьць, глотка). *Не з я п а й ты ўжо, ніхто цябе ня слухае. З я п а е, аж вушы тратчаць, а слухаць няма чаго.* Зяпайла—крыкун, беззьмястоўны прамоўца.

**ГОВѢТЬ, ГАВЛИВАТЬ** *стр.* жыць, быць; *цяпер*: пасьціць, прыгатоўвацца да споведзі. *Загавіны*

тое-ж што і запусты, пераход на посную страву. *Загавеў душой,* памер у пер. знач.

**ГОВЯДО** *ср. царк.* буйная рагатая скацежа, бык, вол, карова; у гэтым знач. у нас на Палесьсі слова **гавядо** і цяпер ужываеца.

**ГОВЯДИНА** *ж.* **валавіна, ялавічына.**

**ГОГОЛЬ** *м.* адмена дзікіх качак; **нырок, кракель, краквель.** *(Anas etangula).*

**ГОД** *м.* час за які зямля абыходзіць кругом сонца; **год.** Памылкова ужываюць некаторыя слова *рок,* якое у нас з найдаўнейшых часаў азначае *тэрмін,* рас. *„срок“. Рок завіты,* тэрмін аканчальны. *Рок судовы,* тэрмін суда.

**ГОДИЧНЫЙ, гадавы.** *Гадавы работнік, Гадавы час на заплату. Гадавая арэнда.*

**ГОДНЫЙ, здатны, прыдатны, надатны.** *Здатны, прыдатны, да навукі, да работы, да ўжытку.*

**ГОДОВЩИНА,** дзень, здарэньня ў протлым, або прошлых гадах; **гадавіна, угодкі.**

**ГОЛАВЛЬ** *рыба,* **галавель, галавень.**

**ГОЛЕНЬ** *ж.* часьць нагі ад калена да ступені: **лытка;** косьці дзьве:—*гічэля* і *цеціўка.*

**ГОЛЕНИЩЕ** *ср.* часьць бота вышэй прышвы, якая абыймае лытку; **халява.**

**ГОЛИК** *м.* абскробак веніка, **галень, дзяргач.**

**ГОЛОД** *м. агульн. слав.* **голад, галадаць; галадоўка, галодны, галадуха, галадушчы.**

**ГОЛОВА** *ж.* **галава, галавісты; галавач, галавізна.**

**ГОЛОС** *м. агульн. слав.* **голас, галасавы, галасны.**

**ГОЛОУСЫИ** *м,* **бяззусы, музтай, музгач, галамоўжа.**

**ГОЛОВОКРУЖЕНІЕ** *ср.* **заварот галавы, кручэньне галавы.**

**ГОЛУБОЙ,** сьветласіні; **блакітны.**

**ГОЛУБИКА** *ягада,* **чарніца, баравіца.**

**ГОЛЫИ** *агульн. слав.* **голы, галець, голь, галізна, галяк, галец, галыш, галасьцень.**

**ГОЛЫТЬБА, галота, галастра, галасьцьва, галацьва, галцяйства.**

**ГОЛЂМЫЙ** *црк.* **вялікі, слаўны.**

**ГОМЕОПАТІЯ** *ж, лац.* спосаб лячэньня, абаперты на пераконаньні, што кождае лякарства нішчыць тую хваробу, якую само выклікае, або ей падобную, тады як *алеопатія* або спосаб агульнапрыняты, паступае адваротна, кіруючыся змагацца з хваробай лякарствамі проціўуплываючымі. Акром таго гомэопація зазвычай дае лякарствы ў вельмі малых дозах; **гомэопація.**

**ГОМИЛЕТИКА** *ж. лац.* багаслоўская навука, якая тлумачыць тэорыю царкоўнага прапаведніцтва і гісторыю працаведніцкай літэратуры; **гомілетыка.**

**ГОНЕНІЕ, сьцігаваньне, сьцігомы, сыгар, сьцігач, прасьледываньне, прасьледаваны, прасьледаўнік; ганежа.**

**ГОНКИ** *мн.* **сугонкі, здагонкі, выперадкі, перагонкі.**

**ГОНОРАРІЙ** *м, лац.* адноразовая плата за інтэлігенцкую працу літэратару, доктару; **гонарар.** Добра адпавядае гэтаму паняцьцю слова **дзякло,** якое сустрачаецца ў нашай старой літэратуры ў знач. дагэтуль не акрэсьленага падатку, а ў народнай мове, пункт у пункт, у тым значэньні што і гонарар. *Я прынясла доктару дзякла за лячэньне—капу яечак (Барыс. пав.). А колькі-ж дзякла, войчанька, возьмеця за вянчаньне (Празарокі, Вілейск. пав.).* Каля Ільлі, Віл. пав. і каля Кабыльнік, Сьвянц. пав. ужываюць слова дзякло такжа і у значэньні дабравольнага датку, як бытцам ўзяткі. *Дай пісару дзякла рубель, то і прытчэй выдасьць паперы. Занясі вучыцелю дзякла—яечак, каўбас; то і вучыць лепш будзе (Сьвір, Сьвянц. пав.).*

**ГОНОРЕЯ** *ж. грэцк.* хваробліваe цячэньне з мачавых чэлясаў; **вурзпель.** *Вурзплівая баба. Вурз-*

*лёй заказіўся.* Вурзпель, вурзпляўка, хворы—рая на вурзплю.

**ГОНТ** *м.* шырокая лучынка да крыцьця страхі, калі шчапаная: **драніца, цёс, поцес;** калі пілаваная—**гонт.** У смаленшчыне называюць шчапаную драніцу **дор, дорніца.** *Дорам крытая хата.*

**ГОНОШИТЬ** *што,* спароміць, зьбіраць, шчадзіць; **кантопіць.** *Прыкантопіў капейку і добра. Скупіндзя гэта кантопіць грошы, а ў бядзе не паможа.*

**ГОНЧАРЬ** *м.* (ад горан), майстар які вырабляе з гліны начыньні; **ганчар, ганчарства;** *насьмешліва:* **гаршкаль**

**ГОРА** *ж. агульн. слав.* **гара, горка, горны, гаранскі.**

**ГОРЬКА** *ж.* **пагорак, узгорак, грудок.**

**ГОРЕЦ,** *жыхар. гор;* **гаранін, гаранка, гаране, гаранскі,**

**ГОРБУШКА** *ж.* адрэз ад караваю хлеба, зрэзак караваю, бохана, булкі хлеба; **акрайчык, капырок.**

**ГОРНИЦА** *ж.* чыстая палавіна сялянскай хаты; **сьвятліца, станція.**

**ГОРЕНКА** *ж.* сьвятлічка над хатай; **салька, сьвяцёлка, гоўбчык, гаўбец.**

**ГОРАЗДО** *прысл.* **шмат, горазна** *(Смал.),*

**ГОРБ** *м.* кождая выпукласьць на плосмені, *агульн. слав.* **горб, гарбы, гарбіна, гарбаціна гарбок, гар быль, гарбач,** чалавек гарбаты; **гарбісты, гарбаваты, горбкі, гарбасты, гарбець, горбіць, горбіцца, гарбацець, гарбаносы. гарбаплечы.** *Ты кладзі яго пласмом, а ён ляжа гарбом. Старэе, гарбее. Касавокі, крывы ды гарбаты, што чорт рагаты.*

**ГОРДЫЙ,** надуты, натапоршчаны, насторшаны, настабуршаны; **чванлівы, пышны, напышаны, гордзівы, думны.**

**ГОРДЫНЯ** *ж.* **чванства, пыха. дума.**

**ГОРДЕЦ** *м.* **чванлівец, пышлівец.** *Няма чаго чваніцца, чванства сваё паказываць і так усе цябе чванліўцам завуць. Пышліўца гэтага трэба асадзіць.*

**ГОРЕ** *ср.* бяда, няшчасьце, злыбяда, напасьць; **гора, гараваць.**

**ГОРЕМЫКА**, **гарапашнік.**

**ГОРЕСТЬ** *ж.* **жуда, нуда, жупота, смутак, бядаваньне, туга, гарота.** *Пажупіў Грышка з жонкаю (Сержп, стр. 7). Пабядавалі дзед з бабай, пабядавалі ды што рабіць. Жыцьцё наша цяжкое, гаротлівае. Жыцьцё жупатлівае.*

Тужыла, бядзіла салаўёва мамка,
Што-ж майго салавейка з палёту нет?
(Шэйн Т. І. ч. 2 с. 53, Арш. пав.).

**ГОРЕЧЬ** *ж.* **горыч, гарчыня, горкасьць, гарчыя.** Гавораць яшчэ ў знач. горкасьці,—**чэмяр.** *Чэмярна на душы, на сэрцы. Жыцьцё грудай пасьцелена, чэмярам пасеяна.*

**ГОРИЗОНТ** *м. грэцк.* акрай зямельнай паверхні наўкол глядача, дзе бытцам прытыкае неба да зямлі; **небасхіл, кругавід, кругазор.** Круг паняцьцяў чалавека, граніцы таго, што ён можа абняць вокам свайго розуму, паводле ступені свойго умысловага разьвіцьця; **кругазор.**

**ГОРИЗОНТАЛЬНЫЙ**, які ляжыць ў ровень зямлі, мора: на што свабодна спушчаны прастапад падае пад простым кутом; **паземы, паземны, падольны.**

**ГОРИСТЫЙ**, **гарысты, гаравісты, гаравіты.**

**ГОРЛО** *ср.* вузкі праход, трубка ў сярэдзіне шыі якая мае два праходы: *дыхніцу або* горла дыхавое, якога галоўка зьверху выстае і творыць —коўцік, рас. „кадык", і *горла,* ласьціва — *глонаўка,* праз якую праходзіць страва, яно ляжыць ззаду за дыхніцай, ўшчыць на хрыбетках; *глоткай, глонаўкай,* глытаюць, *дыхніцай*—дыхаюць; **горла, гарлавіна, гарляк, гарляны, гарлаты, гарласты.**

**ГОРЛИЦА** *ж.* адмена галубоў *Columba turtur;* **турок,** *стар.* **горліца, сінагорліца.**

**ГОРЛАНИТЬ, зяпаць, галёкаць, крычаць, крыкач, зяпель,** той, хто крычыць, зяпае.

**ГОРНИЦА, сьвятліца, пакой.**

**ГОРНИЧНАЯ** *ж.* **пакаёўка.**

**ГОРНОСТАЙ** *зьвярок Mustella erminea;* **гарнастай.**

**ГОРН, ГОРНИЛО** *ср.* **горан, гарно.**

**ГОРНІЙ, наўзгорны, наўгорны, нагорны.**

**ГОРОДИТЬ** *што,* абнасіць агародай, плотам, тынам, наагул—клецiць, будаваць; **гарадзіць, гарадзьба, агарода, гарод** агароджаны кавалак зямлі, **гародчык** малы гарод, кветнік.

**ГОРОД** *м.* **горад, гарадзкі, гараджанін.** Даўнёй у нас разрожнівалі г о р а д і м е с т а, цяпер часта горад і места прымаюць за адно і тое-ж і зьмешваюць; пад словам, *горад* разумелі часьць гораду абнесеную агародай замак, ням. *Burg, местам* называлі рэшта дамоў гораду. Зам. г о р а д, пішуць цяпер м е с т о пад уплывам польшчыны. *Не люблю я места, па расійску—горад, бо надта-ж там цяснота і вялікі смурад (Бурачок).* Калі ў XVI ст. уводзілі па гарадох у нас майборскае права, то адначасова істнавалі два суды па гарадох: *грозкі* г. зн. замковы, крэпасны і *местскі* г. зн. грамадзянскі, мяшчанскі.

**ГОРОСКОПІЯ** *ж.* варажба паводле гвёздаў **гараскопія.**

**ГОРОХ** *м. расьціна Pisum;* **гарох, гарохавы, гарошак, гарохавіны, гарохаўка, гарохавіна, гарошына.**

**ГОРСТЬ,** ямка далоні з пальцамі, мера чаго загорнутага аднэй далоньню і пальцамі; **жменя, горсьць;** загорнутае двумя горсьцямі—**прыгаршчы.**

**ГОРТАНЬ** *ж.* дыхавое горла з галоўкай або *коўцікам,* ад якога ідзе пакрываючы яго ў часе глытаньня язычок—*горцік;* **дыхніца.**

**ГОРСТАТЬ, гартаць, гарнуць, згарнаць.**

**ГОРШОК** *м.* глыбокае начыньне з гліны рожн. формы; найменьня: **гаршчок** з шырокім верхам і вузкім выгбіста спусчаючымся сподам; **гладыш** с шырокім верхам і вузейшым, роўна звужаючыміся бакамі дном; **стаўбун** амфоравідай формы; **гарлач** з перахвачаным верхам; **жбан** форма гарлача але з аднэй ручкай.

**ГОРЩЕЧНИК** *м,* майстар які вырабляе з гліны начыньне, гаршкі; **гаршкаль, ганчар.**

**ГОРЬКІЙ** горкі, **горкасьць, гарчыня, гарката гаркавы, гаркавата, горкнуць, гарчэць, гарчавець.**

**ГОРКЛЫЙ,** які мае няпрыемны прагорклы смак; **елкі, ялчэць, зьялчэць, праелклы.** *Елкае масла лой, сала. Елкі смак, пах.*

**ГОРѢТЬ, гарэць, гарэньне, гар, гаручы, гарэлы, гаркі, гарун, сугаркі; паліцца, паленьне, палкі, паліва, апал, упал.**

**ГОРѢНІЕ** *ср.* **горыва, палнасьць.**

**ГОРѢЛКИ,** гульня у якой становяцца парамі, а адзін, спераду „гарыць", ловіць; **сугаркі, вугалькі, гарыпні.**

**ГОРЯЧІЙ,** крэпка нагрэты, напалены; **гарачы, гарачлівы, гарачлівасьць, гарачэць,**

**ГОРЯЧНОСТЬ,** свомасьць або стан, гарачага, спыхлівага чалавека; **гарачнасьць, жарчыстасьць, ярасьць, запальчывасьць, палкасьць, ўспыхлівасьць, немарасьць.**

**ГОРЯЧИТЕЛЬНЫЙ** *напітак,* **гарачомлівы.**

**ГОРЯЧКА** *ж.* агульнае запаленьне крыві ў чалавеку; **гарачка, гаручка, агнявіца.**

**ГОСПИТАЛЬ** *м.* **шпіталь.**

**ГОСПОДЬ** *м.* даўней ужывалася ў знач. господін, цяпер як эпітэт Бога; **Госпад.**

**ГОСПОДИН** *м.* выслоў ветласьці да другой асобы, зам. стар. „господь", ў значэньні: **валадар, пан, гаспадар.** Слова „господ", „господин" аднаго і тагож парадку што і слова **гаспадар,** якое

цяпер у нас ужываецца ў знач. рас. „хозяин“, даўней ужывалася акром таго ў значэньні в а л а д а р і рас. „государь“, прыкл. вялікіх князёў літоўскіх і князёў малдавянскіх тытулавалі **гаспадарамі**, а „государство“ называлі „**гаспадарства**“. Господарство молдавянское, господарство літовское. Дзеля адрожненьня ад *гаспадар*, „хозяин“, ў княжым тытуле клалі націск на о *гасподар, гасподарскі, гасподараў*. У грамадзкім жыцяці ў XVI ст., сустрачаем яшчэ словы: **осподар** і **сподар** (падобна як з рас. „государь“ атрымалася скароч. „сударь“), але гэта слова было выціснута новым у тыя часы словам **пан,** прыйшоўшым да нас праз Польшчу. Слова п а н тагож парадку што нямецкае v o n, босьнійскае b a n; падобна як на захадзе, так і ў палякаў, яно служыла эпітэтам двараніна, шляхціца, ў гэтым значэньні яно да апошніх немаль часаў ужываецца і ў нас. Хоць з другой стараны слова пан здаўна увашло ў народную нашу песьню, прыкл.: *Ой сыну, сыну, п а н е Васілю (Р. 8-9 стр. 107), А ці дома, дома сам пан гаспадар? (Zienkiewicz, Pieśni Pinskie). Сядзіць пан Восіп за сваім сталом, за сталом сядзіць тры кубкі дзяржыць (Р. 8-9 стр, 113).* Не глядзя на гэта слова п а н у нас, у знач. ветлага эпітэту ніяк умацавацца дагэтуль няможа, галоўна дзякуючы соцыяльнаму змаганьню з памешчыкамі „панамі“, і беларускае адраджэньне ўвесь час стараецца знайсьці іншы эпітэт. У ліку гэтых іншых эпітэтаў перапробаваны былі, часьцю ў літэратуры, а больш у грамадзкім жыцьці, словы: **сам, сама, ваша, васпан, паспаня; грамадзянін,** і, ўрэшце ізноў **гаспадар.** С а м, с а м а словы народныя, ужываюцца ў тым-жа значэньні, як рас. ветлае: „Вы“, „Вас“. Больш інтэлігентныя селяне, нават муж з жонкай, не гавораць да сябе на ты, кажуць — с а м, с а м а; тое-ж самае і ў гутарцы са сваімі, роўнымі сабе, суседзямі, або калі хочуць падкрэсьліць да каго сваё уважлівае адношаньне. Падобна як с а м, с а м а. ў іншых ваколіцах кажуць в а ш а. Гэта апошняе слова больш пашырана чым першае. Утворана яно, праўдападобна, са скарочанага Ваша Міласьць; як шырока яно ўжывалася ў народзе мож-

на мяркаваць з таго што у XVIII ст. апрасьцеўшую, зьбяднеўшую шляхту паны называлі „шляхціц ад вашэці“, зн. пад селяніна, які ў абхожаньні выказуе вядомую таварыскую агладу. Цяпер слова в а ш а старыкі сяляне гавораць ў знач „Вы“. В а с п а н, в а с п а н я, в а с а н, па моему, хоць можа мыляюся, слова тагож парадку што г о с п а д, і г о с п о д і н ў якім пачатковае прыдыховае, **г.** перашло **ў в,** (зраўняй для прыкладу—г о с п а д, з формай осп о д. о с п о д н и); магчыма што і канцавыя **д і н** разьвіліся незалежна ад польскага ўплыву, а тады, і слова п а н, магло атрымацца самаістым шляхам ад нейкага праарыйскага караня: (гос|*вас*|**па**|*н*|д). Урэшце, апошнімі часамі маецца паварот да старога **гаспадар** (Нарцызаў „Важная фіга“) як да эпітэту ў знак ветласьці. Некаторыя ужываюць і слова **гаспадзін**, але гэта апошняе ёсьць найнавейшы ў нас уплыў русыфікацыі. Я прапанаваў бы ужываць у знач ветлага рас. „Вы“, слова **в*а*ша**; у знач. рас. господин, слова **пан.**

**ГОСТЬ** *м.* **г*о*сьць, г*о*сьця, гасьц*і*ць, гасьц*і*ннасьць, гасьц*і*нец** падарунак госьця, або з гасьціны, агульна падарунак; **гасьц*і*нніца** дом у якім госьцяць, астанаўліваюцца падарожныя.

**ГОСТИННАЯ**, сьвятліца, пакой дзе прыймаюць гасьцей; **сал*е*н, гасьц*і*нная.**

**ГОСУДАРЬ** *м.* валадар, вярхоўны валадар зямлі; **гасп*о*дар, гасп*о*дарскі, гасп*о*дарства; дзярж*а*ўца.** Гэтым апошнім тытулам маскоўскія цары часам тытулавалі каралёў польскіх у часе разьмірья каб зазначыць, што яны выбраныя не патомныя, як быццам ім, царом, не раўня.

**ГОТОВИТЬ** *што,* **прыгатаўл*я*ць, прыгат*о*ўлены, прыгат*о*вывацца.**

**ГОФРИРОВАТЬ** *франц.* **гафрав*а*ць,** дробна выгібаць, набіраць складкі.

**ГРАБИТЬ** *што, каго;* зграбаць граблямі у адну кучу; **гр*а*біць, грабц*ы*** тыя што **граб*у*ць, згр*а*баюць; гр*а*бленьне.** Забіраць сілай, гвалтам; **раба-**

**ваць, рабунак; лупіць, лупежа, лупежнік.** *Аблупілі па дарозе*, **грабіць, грабежнік, грабежа.**

**ГРАБЛИ** *ж. мн.* ручная прылада да зграбаньня; складаецца з *галоўкі* у якой ад 10 да 16 *зубоў* і з доўгай ручкі *грабавіла, грабаўя;* **граблі, грабельцы. Грабкі** сталовыя „вилки“, да браньня яды. **Грабзаць,** шарыць рукамі. *Грабзнуў рукой па плячах. Што ты грабзаешся па паліцы. Грабзаецца, лёзе на гару. Мядзьведзь грабзнуў лапай.*

**ГРАБ** *м.* дрэва, белы бук; **бераст.**

**ГРАВЕР** *м. ням.* майстар які выразае рысункі для аддрукаваньня іх, на дрэве, медзі і інш; **рытар, рыцец**—рытарскае далатцо; **рыць,** выразаць далатцом.

**ГРАВЮРА** *ж.* **рыціна.**

**ГРАВІЙ** *м. фр.* буйны пясок; **жвір, грант.**

**ГРАДУС** *м. лац.* ступень. Акружнасьць або круг дзеліцца на 360 градусаў; **градус.**

**ГРАДАЦІЯ** *ж,* разьбіўка, распадзел чаго на градусы, на ступені; **градація,**

**ГРАД** *м.* замерзшыя ў паветры дажджавыя кроплі: **град, градзіна,градны, градовы, градабой.**

**ГРАД** *м.* **горад.**

**ГРАДОНАЧАЛЬНИК** *м.* начальнік гораду; **гараднічы.**

**ГРАЖДАНИН** *м.* кожды чалавек які уходзіць у склад народу, зямлі, дзяржавы; **грамадзянін, грамадзянскі, грамадзянства, грамадзянскасьць.**

**ГРАМОТА** *ж.* уменьне чытаць і пісаць; **граматнасьць, граматны.**

**ГРАНАТА** *ж. ням.* гарматны разрыўны набой, пустая куля напоўненая порахам з устаўленым у *сьвішч запалам;* **граната.**

**ГРАНАТ** *м.* фрукт цёплых краёў Punica granatum **гранат.**

**ГРАНДІОЗНЫЙ** *франц.* **вялічэзны, аграмадны, урочысты.**

**ГРАНИТ** *м.* **граніт**, дзікі камень.

**ГРАНЬ** *ж.* **кант, руб, брыж, грань.**

**ГРАНИЦА** *ж.* **рубеж, мяжа, дукт.** Найраней у нашай літэратуры выступае слова рубеж, пазьней мяжа і граніца, і ўрэшце, дукт. Слова р у б е ж праўдападобна — аугульна-славянскае, прынамні многія славянскія, мовы ўжываюць яго ў тым-жа значэньні як і ў нас, дзеля абзначаньня граніцы. Паходзіць яно ад славянск. „рубить", сеч. Часта ў старой нашай літэратуры ўжывалася ў значэньні рас. „предѣл", польск. „kres". У народнай нашай мове цяпер не ўжываецца, хоць ведама ей слова р у б, ў значэньні рас. „грань. Г р а н і ц а, паяўляецца ў актовай мове не пазьней XVI ст., слова аднаго і таго-ж караня з: г р а н к а--кантовы скрыль пчалінай, вузы даўней--а ў некаторых беларускіх гарадах і дагэтуль,— зьвязка шрыфту набранага да друку; г р а н ь, востры выступ, вугол на чым колечы; г р а н і ц ь рабіць канты на рэчы не канцастай, а такжа, у ратайстве, ўзначэньні дзяліць поля на лехі. Цікава адмеціць, што ў некаторых мясцох, прыкл. каля Вяліжа, г р а н і ц а й называюць ляху, рас. „грядка". *Пасеяў граніцу калапень і 10 граніц капусты пасадзіў.* Паскольці ў старой літэратуры рубеж і граніца ўжываюццца дзеля абазначаньня лініі раздзяляючай зямлю, то м я ж а ня мае гэтага значэньня. Яна абазначае не заараную баразну зямлі, як разьдзел паміж ральлёй. У значэньні разьдзяляючай лініі слова мяжа пачало быць тасаваным толькі ў апошнія часы. Слова д у к т у значэньні граніцы, рубяжа, пачынае сустрачацца ў актах XVII ст. У жывой мове ўжываецца больш паміж інтэлігенціі, ў Лепэльскім павеце. Дукт слова лацінскае.

**ГРАФА** *ж.* рыса на паперы якая дзеліць яе на стаўбцы, клеткі і лініі; **рубрыка, стаўбец.**

**ГРАФИН** *м. франц.* шклянная бутля звыкла з добрага шкла да падаваньня на стол напіткаў; **букач, букатка**; калі з доўгай шыйкай **гусец, гусачок, гусак.**

**ГРАФИТЬ, лінав*а*ць, рубрыкав*а*ць, рубкав*а*ць; рубн*і*к,** чатырохкантовая лінейка.

**ГРАЦА** *ж. ням.* трызубы крук да ачысткі лех ад травы; **дзяргач, каст*ы*р.**

**ГРАЦІЯ** *ж. грэцк.* **стр*о*йнасьць** грацыя,

**ГРАЯТЬ, к*а*ркаць, гр*а*каць.**

**ГРАЙ, ГРАЙВОРОН** *птах* Corvus frugilegus; **гр*а*к, грак*і*; гр*а*каць,** крычаць як грак.

**ГРЕЗИТЬ Марыць, крозіць, мроіць.**Слова—марыць—у значэньні рас. „мечтать" зайшло да нас, і то вельмі нядаўна, пад ўплывам польскай мовы, ў якой маецца словы: marzyć marzenie. У беларускай мове пад словам мара разумеецца мітычная істота, якая ў часе сну кладзецца на челавека і душыць " (Федороўскі, Lud Biał. T. I.), якая паказуецца як чорны прывід начамі. Гэта хутчэй будзе „призрак", „кошмар", але ніякім спосабам ня можа быць „грёза" „мечта". Дзеля гэтага слова мара, ў значэньні рас. „мечта", „грёза", польскага--„marzenie" раз на заўсёды трэба адкінуць, як нязгоднае з нашай мовай. Крозіць, слова складзенае з: крозь, скрозь і зеціць—узірацца; па этымолёгічнаму свайму складу яно зусім адназначна з рас. „грезить", „грёзы". Лятуцець, лятунак, мне здаецца, слова не зусім выражае паняцьце „грёза" „мечта", яно мае нейкі іншы, няхўватны адценак гэтага паняцьця. Мроя мроіць, ужываецца—па Сожу ўверх да Мсціслаўля, і на захад да Бярэзіны—у народнай мове. Яно вельмі падобна да украінскага, „мрія", „мріять"; фіксуе паняцьце нечага здалёк сьвецячага, нечага ў памяці мільгаючага, што чуецца, але з трудом улаўліваецца- *Мроіцца мне ў памяці. Ледзь душа ў целе мроіць. Ей ўсё замужжа мроіцца. Умроіў сабе хлапец музыкантам стацца.* На захад ад Бяі рэзіны кажуць: роіцца, уроіў. *Роіцца нейк. нязьведаны край (Алесь Гарун).*

**ГРЕМѢТЬ, грым*е*ць, грым*о*ты,** грымн*у*ць, **гром.**

**ГРЕСТЬ, грабц*і*, грабн*у*ць, гр*а*баць, граблі, граб*о*к.**

**ГРЕБНОИ** *аб вадаплавах*; **веслав*ы*, в*ё*слаўка.**

**ГРЕБЕНЬ** прылада з зубьбямі да рожнага ужытку; да часаньня валасоў—**грэбень, грабянёк**; да часаньня лёну—**грабло, грэпель**; да часаньня коні **грэбліца, скрабніца**.

**ГРЕЧА, ГРЕЧИХА** *ж, збожавая расьціна Polygonит Fagopyrит*; **грэчка, грычаны, грычанік.**

**ГРЕМУШКА** *ж.* **клякотка.**

**ГРИБ** *м.* расьціна якая складаецца з *караня* або *стабура з плёнчыкамі*, і *шапкі;* падысподам шапкі наздрыстая валаскамі мяздра, завецца *струткамі;* згэтуль усе грыбы, якія маюць над нізом струткі,называюцца *струтчакамі*, а якія маюць пласткі або, пругі называюцца *пружакамі*; **грыб, грыбок грыбаўе.**

**ГРИВА** *ж.* доўгія валасы на шыі жывёлау; **грыва, грыўка, грывісты, грывач.**

**ГРИМАСА** *ж. франц.* перакрыўленая міна, крыўляне аблічча; **ухмылка, выкрыўляньне, крыгаваньнеся.** *Шнуруецца крыгуецца, да работы-ж лента. Не выкрыўляйся, не крыгуйся перад люстэркам.* **крывеліцца, вырыўляць міны, пахмыляцца.**

**ГРИФ** *м. ням.* ручка скрыпкі па якой пальцамі левай рукі перабіраюць струны; **цэўка, ладаўка.**

**ГРОБ** *м.* скрынка ў якой хаваюць труп чалавека; **труна, дамавіна, дамоўка, корст, карстага**—гроб калодай.

**ГРОБОКОП** *м.* той, што капае магілу; **магільшчык, грабар.**

**ГРОБНИЦА** *ж,* магіла з накопам або помнікам на ей: **нагробак.**

**ГРОГ** *м. англ.* ром з вадой; **грог**, у нас робяць сьпірт з вадой і цукрам, ці мёдам; **гарнак.**

**ГРОЗА** *ж.* дождж з громам і сьвігавіцамі; **навальніца, бура.**

**ГРОЗДІЕ** *ср.* аб ягадах калі цэлы камок іх на аднэй ветцы; **гроздзі**, аб арэхах **гронкі**; аб цыбулі—**лукно.** Гроздзі вінаграду называюць **вінагрозьдзі.**

**ГРОЗИТЬ** *каму, чым;* пужаць, страшыць, адгражацца; **гразіць, гразіцца, граза.** *Ніякай гразы няма, таму дзеці такія разбязураныя. Ен мне*

*пагразіў кулаком. Добра на таго гразіцца, хто пагроз баіцца. Часам гразой, часам лазой. Грозны—страшны, сярдзіты, неміласэрны.*

**ГРОМАДИНА** *ж.* **аграмадзіна.**

**ГРОМИТЬ, граміць, разграміць, разьбіць, разшматаць.**

**ГРОМ** *м.* **гром, грымот, грымець, громны, грамавы.**

**ГРОМКІЙ, голасны, гучны.**

**ГРОМОЗДИТЬ** *што,* **грамоздзіць, грамоздзіцца, грамазда, грамозкі,**

**ГРОХНУТЬ, грымнуць, грымнуцца, гракнуць.**

**ГРОХОТАТЬ, гракатаць, грокат, гракт аць, гракоча, гракаць, гракатаць, гракатня,**

**ГРУБЫЙ,** тоўсты, каструбісты і каляны; **грубы, грубасьць, грубіян, грубіць.**

**ГРУДЬ** *ж.* **грудзі, грудны.**

**ГРУЗИТЬ** *што,* напаўняць таварам, **пакаваць;** абцяжаць цягарам—**абцяжаць.**

**ГРУЗОВОЙ, цяжкавы.** Аб звозчыку: **панараднік.**

**ГРУЗИЛО,** цягар прывешаны да шнурка каб ацягаць яго на дно вады; **тунок, тунцы** глінянкі пры сетках.

**ГРИМ** *м, англ.* конны прыслужнік; **гайдук.**

**ГРУПА** *ж. ням.* **група, групаваць, групоўка.**

**ГРУСТЬ** *ж.* **сум, сумаваць; маркота, марко ціць, маркотны.** (гл. грезить).

**ГРУША** фруктовае дрэва і плод; **груша, груш кі.** Даўней у нас звалі **дуля, дулі.**

Пашла Юля па цыбулю,
Паламала ў садзе дулю. (Дзіс. пав.).

**ГРЫЖА** прарыў у канцы пах жывата; **кіла, папула.**

Мой дзедка папуць, папуць,
Вялікі пархуць, пархуць.
(Р. 8—9 стр. 124).

**ГРИЗТЬ** *што*, **грызці, грызун, грызок, агрызак; цяць, пацяты.** *Мышы пацялі лён.*

**ГРѢТЬ** *што*, **грэць, грэцца, грэньне, грэнка** грэты на сале хлеб.

**ГРѢХ** *м.* **грэх, грэшны, грэшнік, грашыць, ґрэшнасьць, грэхаводнік.**

**ГРЯДА** падоўжнае ўзвышаньне зямлі; **ляха, ляшыць; гранка, граніць;** рад гор—**горскі хрыбет.**

**ГРЯДУЩІЙ, прышлы, будучы.**

**ГРЯЗЬ** *ж.* размоклая зямля; **грязь, балота**; нячыстасьць—**бруд, брудзіць, брудны.**

**ГУБА** *ж.* наросты на дрэвах; **губа, гарун, бліца, трут, жагра.** Г у б к а, якая мае па над струткамі валакністую тканіну годную да выкрасаньня у яе агня; г а р у н, нарост на дрэве, які мае зярністае цьвёрдае мязіва, але в. надатнае да выкрасаньня у яго агня; б л і ц а, тонкія наросты на дрэвах грыбамі. Т р у т і ж а г а р або ж а г р а—адмены дрэўных губак.

**ГУБА** *ж.* марскі заліў; **затон, затока.**

**ГУБЫ** *ж, мн.* **вусны.**

Ажно мае ножанькі разуваны
І вусначкі цалаваны. (Ш. т. І. ч. ІІ. стр. 30).

**ГУВЕРНЕР** *м. франц.* даглядчык дзяцей; **выхоўнік.**

**ГУДѢТЬ, гусьці, гімець.** Калі многа камароў, мух разам гудуць, то кажуць: камары, мухі г і м я ц ь.

Дзеўку вязуць—скрыпкі гудуць,
Удаву вязуць—дзеўкі плачуць.
Вяс. п. Дзіс. п.

Ідуць-гудуць валачобнікі,
Сьпяваючы, гукаючы,
Слаўнага сяла пытаючы.
Вал. п. Ашм. п, (Р. 8 стр. 175).

**ГУЛЯТЬ** хадзіць, а часам і ездзіць дзеля разрыўкі; **шпацыраваць, прахаджацца, прахаджка.**

**ГУЛЯНІЕ** *ср*, **пагуляньне, ігрышча, забава, пагулка, гуляўнік, гуляўка, гуляўшнына.**

**ГУМАННЫЙ** *м. лац.* чалавекалюблівы, міласэрны; **людзкі, людзскасьць.** *Людзкі чалавек. Людзкае абходжаньне, адношаньне.*

**ГУРТ** *м. ням.* **стада, гурмо.**

**ГУСЕНИЦА** *ж.* недаразьвіты матыль у постаці чарвячка з ножкамі: **вусень, вусініца.**

**ГУСТОЙ** *м.* **густы, тусьнець, гуснак, густыш, гусьцець.**

**ГУСЬ, гуся** *ж.* **гусак,** *м.* **гусянё, гусіны, гусячы.**

**ГУТАПЕРЧА** *ж.* **гумілястыка.**

## Д.

**ДА** *прысл,* **так, але.** *Так яму і трэба. На праўду мала слоў: або так, або не. Паміж бабскім—так і не—не прапіхнеш іголкі. Але, праўду кажаш! Але, згаджаюся.*

**ДАБЫ, каб, абы.** *Каб тое веданьне наперад. Каб усё добра было. Каб не панская мудрасьць, жыдоўская хітрасьць, а наша сіла, то сьвет-бы ня ўстояў. Абы ўсё было добра. Абы толькі ў ладзе ды ў грамадзе.*

**ДАВАТЬ** *што каму, агульн. слав.* **давацъ, давай, давацца, даваньне, дацьцё, давец, датны.**

**ДАВЕЧА, аномадні, анадась, анэды, анагдась.**

**ДАВИТЬ** *што*, **душыць, цісънуць, гнясьці, прыгнятаць, клешчыць.** *Сабака д а в і ц ц а косьцю, але пятлёй з а д у ш ы ў сабаку,* У нас слова д а в і ц ь, д а в і ц ц а ужываецца толькі у значэньні затканьня горла: *Задушылі чалавека. Птушка задушылася ў пляніцы. В ы г н я ц і балячку. Гняце пан людзей. Калясом пагнятло руку. Прыгнятае душу. К л е ш ч ы ц ь жалям сэрца.*

**ДАВЛЕНІЕ** *ср.* **націск, уціск.**

**ДАВИЛО**, прыбор да прыцісканьня; да выцісканьня сыроў ужываюць: **націсь, цісло, ціскі**; да прыцісканьня лёну у сажалках ужываюць намокшых калод, якія называюць: **памак** адзін. л. **памакі**, мн. л. У пераносным зн. памак чалавёк непаваротлівы, няздарны, лежабок.

**ДАВКА** *ж.* **сьціск, цесната, таўпарня, талачня.**

**ДАВКОСТЬ** *прым.* аб фруктах, бульбе, сыпкіх, сухіх і душачых пры ежы; **сопкасьць, сопкі.** *Сопкая бульба, аж на муку рассыпаецца. Сопкія грушы.*

**ДАВНО** *прысл. агульн. слав*; **даўно, даўнenька, даўным-даўно, даўнасьць, даўны, даўнейшы даўніна, даўнюська, даўнюсенька.**

**ДАЖЕ** *злуч.* выражае руб скрайнасьць, да чаго, апошнюю, вышэйшую ступеню; **нават, навет, аж.** *Ен зазлаваў, навет хацеў выйсьці. Нават беднаму нічога ня ўзыча. Аж пад Шаркаўшчынай знашоў. Аж ускочыў з лавы пачуўшы гэта.*

**ДАКАПО** *прысл. муз. італьян,* **ізноў, пачынай ізноў.**

**ДАКАТЬ, патакаць, такаць, такайла, такала такель, патачнік.**

**ДАЛЕКІЙ** *агульн. слав.* **далёкі, далёкасьць, далёка, даль, далечыня, даліць; адлеглы, адлегласьць.**

**ДАЛЬНОВИДНОСТЬ, празорлівасьць.**

**ДАМА** *франц.* жанчына вышэйшай клясы; **паня.**

**ДАМА** *у картах;* **краля.**

**ДАМБА** *ж. ням,* насып валам ад вады, або праз балота; **грэбля, капаніца. гаць.** Грэблі робяць праз балота кладучы бэлькі і хвораст пад насыпку; капаніцы накапываюць з самой зямлі; гаць азначае тое-ж, што і рас. „запруда“.

**ДАНТИСТ** *м. фр.* **зубны лекар, зубасад,** жартаўліва: **зубадзёр.**

**ДАРИТЬ** *каму, што;* **дарыць, даравацъ, падаравацъ, дарунак.**

**ДАРОВАНІЕ, ДАРОВИТОСТЬ**, чалавек абдараваны здольнасьцямі; **здольнасьць, талент.**

**ДАРОВОЙ, дармовы, дарэмны.**

**ДАРСТВЕННАЯ**, замацаваньне падарку на паперы; **дарчая.**

**ДАРСТВЕННЫЙ, дарны.**

**ДАР, дар, дарунак, дарэньне.**

**ДАТЬ ТЯГУ, даць драла.**

**ДАХА** *ж. манг.* кажух які апранаюць поўсьцю наверх; **бармяк.**

**ДАЯНІЕ—датак, дадзежа.** *Усякі датак добра,*

**ДВА** *м.* **ДВѢ** *ж.* **два, двох, двом; дзьве, дзьвех, дзьвем,** дзьвём; **пара, цотка, цот; двое, двойчы; двойка, двач, дваяк, даваячыць, дваячыцца, двоміцца, дзьвечны, двочыць, двакрот, двадцаць, дваста.**

**ДВЕРЬ** *ж,* **дзьверы, дзьверны, дзьвернік-ніца; вярэі.** Вярэямі называюць дзьверы з двох палавін, створак.

**ДВИГАТЬ** *што,* **сунуць, рухаць, кратаць;** *Пасунь стоўчык да стала. Нешта рухаецца ў пяску.* **Рух, рухавы, рухавасьць, паруховы, паруховасьць, рухнуць.** *Кратае пальцамі. Ідзе, ледзь кратаецца. Не магу ні нагой, ні рукой крануць;* **кратацца, покрацьцю.**

**ДВИЖЕНІЕ** *ср.* **рух.**

**ДВИГАТЕЛЬ** *м.* **рුштуг, цягнік.**

**ДВИЖИМОСТЬ, рухомасьць, рухмацьцё, рухматло.**

**ДВОЕ** *лич.* **двоя, дваіх, дваім.**

**ДВОЕБРАЧІЕ, двужэнства.**

**ДВОЕДУШІЕ, двудушнасьць.**

**ДВОСМЫСЛЕННЫЙ, двузначны.**

**ДВОИТСЯ, двоміцца.**

**ДВОЙНОЙ, падвойны, двойчаты, дубэльтовы,**

**ДВОЙСТВЕННЫЙ, дваісты, дваістасьць.**

**ДВОР** *м,* мейсца пад жылым домам з прыналежнымі будоўлямі і агародай; **сялі́ба**. Д в о р у нашай мове азначае тое, што па расійску „усадьба“, „поместье“. **Дворышча** жылы дом для комунальнай, радавітай сямьі. Даўней у нас жылі пераважна дворышчамі, семьямі па 10—50 душ; для гэткіх сямей будавалі вялікія хаты. Цікава адзначыць архітэктонічную асобнасьць дворышч: жылы канец дворыча выяўляў вялікую сьвятліцу са стаўбом пасередзіне які называлі „князем“, „князьком“, „канём“, „турам“; на „каня“, „князя“ зыходзіліся ад чатырох сьцен *маціцы* і на яго сьпіраліся. Гэткія дворышчы вядомы толькі з архіўных дакумантаў.

**ДВОРЕЦ** *м.* **пала́ц, палацо́вы, палацо́вец**; *арх.* **хо́рам.**

**ДВОРНИК**, работнік і вартаўнік пры доме; **бра́мнік.**

**ДВОРНЯГА**, сабака, **ку́ндаль, ку́ндыс.**

**ДВОР**, агароджаны пляцок каля дому, заценены прыдомнымі будоўлямі; **панадво́рак, дзядзі́нец, дзяці́нец, надво́рак.**

**ДВОРЕЦКІЙ**, кіраўнік панскага дому; **дамаве́р, дамара́дзкі, дамара́д, дамара́днік.**

**ДВОРЯНИН** *м.* чалавек які прыналежыць да прывілейнага стану; **дварані́н, шля́хціц.**

**ДВОЮРОДНЫЙ**, збрат-дзеці; **зро́дны-ная.** Зродны брат, сын брата бацькі, або брата маці--дзядзькі, а такжа сястры бацькі, ці сястры маці—цёткі.

**ДВУПОЛЫЙ, двупло́сны,** ад „плосьць“ — рас. „пол.“.

**ДВУБОРТНЫЙ, дубальто́ўны.**

**ДВУСМЫСЛЕНЫЙ, двузна́чны.**

**ДВУХСТИШІЕ, дво́верш.**

**ДВУЦВѢТНЫЙ, двойбарвы, дво́йко́лерны.**

**ДВУЛИЧНЫЙ, двааблічны.**

**ДВѢНАДЦАТЬ, дванадцаць.**

**ДВѢСТИ, дзьве́сьце, два́ста.**

**ДЕБЕЛЫЙ, пу́хкі, то́ўсты, гла́дкі.**

**ДЕБЕТ** *тарг. лац.* левая, або даходная старана targовай кнігі; **дах*о*д**.

**ДЕБОШИРОВАТЬ** *франц.* **буяніць**.

**ДЕБРЬ** *ж.* густа заросшая лесам даліна; **г*а*шча, княя**.

**ДЕБЮТ** *м. франц.* першы выхад на сцэну; **выступ**.

**ДЕВЕРЬ** *м.* брат мужа; **дз*е*вер**.

**ДЕВИЗ** *м.* кароткі выслоў; **мян*о*кліч**.

**ДЕВЯТЬ** *ліч.* **дз*е*вяць, дзявяты, дзяв*я*цера, дзевяц*е*рны, дзяв*я*тка, дзяв*я*тнік, дзявятн*я*, дзяв*я*ціць**.

**ДЕВЯНОСТО, дзевяцьдзес*я*т**.

**ДЕГОТЬ** *м.* **дз*ё*гаць, дзягц*ё*вы, дзягц*і*ць, дзягцяв*а*ць, дзегц*я*рны, дзягц*я*р, дзягц*я*рніца**.

**ДЕЖУРИТЬ** *франц.* займаць чарод, адбываць падзённую чарадоўку; **чар*о*даваць, чар*о*днік, чарад*о*ўшчык**.

**ДЕЗЕРТИР** *м. франц.* **зьбег, зьб*е*жнік, зьб*е*жніцкі, зьб*е*гчык; уцяк*а*ч, уцякач*о*ўскі, уцяк*а*ць**,

**ДЕИЗМ** *м.* навука якая прызнае адзінага Бога; **дэ*і*зм, аднаб*о*жніцтва, аднаб*о*жнік**.

**ДЕКАБРЬ**, дванадцаты месяць году; **сьн*е*жань**.

**ДЕКАН** *м.* прафэсар, старшыня факультэту; **дзекан**.

**ДЕКЛАМИРОВАТЬ** *лац.* гаварыць або чытаць з вялікай выразнасьцю; **дэклямав*а*ць**.

**ДЕКЛАРАЦIЯ** *ж. лац.* павядомленьне, апавешчаньне чаго з аканчальным вывадам; **дэкляр*а*цiя**.

**ДЕКОКТ** *м, лац.* навар па якім колечы зельлі; **адв*а*р**.

**ДЕКОЛЬТЕ** *франц.* жаночая вопратка з аткрытай шыяй і часьцю грудзей; **в*ы*стрыг, растарм*а*ха**.

**ДЕКОРАЦIЯ** *ж. лац.* аздобы, акружаньне; *у тэатры* палотны размяляваныя ў дрэвы, краявіды і інш; **дэкор*а*цiя**.

**ДЕКРЕТ** *м, франц.* **пастанова, заг*а*д.**

**ДЕКА** *ж. ням.* у музычных інструмантах даска на якой нацягнуты струны; **пал*і*ца.**

**ДЕЛЕГАЦІЯ** *ж. франц.* выбарныя пасланцы; **дэлег*а*цiя.**

**ДЕЛИКАТНЫЙ** *франц.* кволы, крохкі, мяккі; **далік*а*тны.**

**ДЕЛЬТА** *ж. грэцк.* трыкутнік ракі пры сутоцы з морам; **дэльта.**

**ДЕМАГОГІЯ** *ж. грэцк.* дамаганьнеся ўлады народу; **нар*о*дніцтва**; спосаб вясьці спрэчку, палітыку не перабіраючы ў аргумантах, спосабах; **крут*а*цтва.**

**ДЕМАРКАЦІЯ** *ж. франц.* **размяж*о*ўка.**

**ДЕМАСКИРОВАТЬ** *франц.* **разкрыв*а*ць.**

**ДЕМОКРАТІЯ** *ж, грэцк.* **нар*о*дніцтва, народаўл*а*днасьць, народаўл*а*дзтва, дэмокр*а*цiя.**

**ДЕМОНСТРАЦІЯ** *ж. лац.* тлумачаньне чаго з наказам на абьект і яго часьці; *палітычн.* выступленьні з заявай нездаволеньня; **дэмонстр*а*цiя, спак*а*з.**

**ДЕМОН** *м. грэцк.* **дэман, бес.**

**ДЕНДИ** *м. англ.* модны франт; **франт.**

**ДЕНЕЖКА** *ж.* **гр*о*ш, шэляг.**

**ДЕНЬГИ** *ж. мн.* гатоўка, усякая хадзячая манэта; **гр*о*шы, грашав*ы*, грашав*і*к.**

**ДЕПАРТАМЕНТ** *м. франц.* часьць або аддзел міністэрства або сэнату; **дырэкт*о*рiя, дэпарт*а*мант.**

**ДЕПЕША** *ж. франц.* урадовае павядомленьне праз нарочнага пасланца пры другім двара; павядомленьне перасланае па тэлеграфу; **дэпэша, штафэта.**

**ДЕПЛОИРОВАТЬ** *войска* разкінуць густы шыхт у разцягнутыя рады; **разк*і*нуць, разс*ы*паць,**

**ДЕПО** *ср. нескл. франц.* мейсца да зьбіраньня, скаданьня і пераховy якіх колечы рэчаў; **склад, схоў.**

**ДЕПУТАТ** *м. фран.* выбраны, ад ураду або ад грамадзянства дзеля пілнаваньня ходу справы; **выбарны, выбарнік, выбарніцкі, дэпутат,**

**ДЕРБИТЬ, сьвярбець, кучыць, рымсьціць,**

**ДЕРГАТЬ, ДЕРГИВАТЬ,** пацягаць урыўкамі; **торгаць, турзаць, скубаць.** *Адзін штоўхае, другі торгае. Наскубі сена. Рыба скубе і паплавок торгае. Сабака турзае за полы. Турзануў за бараду.*

**ДЕРГОТА** *ж.* **сутаргі, торганьне, торгаўка, потарга,** хвароба пры якой, якую келечы часьць цела безупынна торгае.

**ДЕРГУНЧИК** *м. цацка,* папяровая лялька ў якой ўсе чэлясы пушчаюцца ў рух пры помачы пацяганьня ніткай; **гайдук.**

**ДЕРГАЛКА** *ж.* драўляны ці жалезны крук якім скубуць са стогу ці тарпы сена; **крук, скубель.**

**ДЕРЕВНЯ** *ж.* сялянская аселасьць зложаная з многіх сяліб, гаспадарак; **вёска, вясковец, вясковы, вяскоўшчына, веські.** *Мы людзі веськія (Новагр. п.).*

**ДЕРЕВО** *ср. агульн. слав.* **дрэва, дрэўляны, дрэўлясты, дрэўка, дравіна, драўляністы, дравянець, драўлянка, драўлянік,** зроблены з дрэва

**ДЕРЕВЯНОЕ МАСЛО, аліва.**

**ДЕРЕТЬ** *што,* **дзёрці, дзярматаць, дзёрсткі, дросткі.**

**ДЕРЖАТЬ** *што,* узяўшы не выпускаць, сьціскаць у руках, не выпускаць; **дзяржаць, дзяржыцца, дзяржаньне, дзержні, дзяржак; трымаць, трымацца, трыманьне.**

**ДЕРЗНУТЬ,** адважвацца, пасягаць, мець адвагу, мужства; **паўзяцца, паўзятны, паўзяцьце, зухнуць, зухвальства, зухваласьць.**

**ДЕРЗКІЙ, настырлівы. настырчыва, настырацца, настырчывасьць.** *Не настырайся, чаго настырыўся?! Настырыўся, як кот супроць сабакі.* **Нахраплівы, нахраплівасьць, нахрапам.** Нахрапам улез у хату. Нахраплівасьць яго меры ня мае

ні ў паступках, ні ў словах. **Нахрытны, нахрытнасьць, нахрыцьцю** (Вітабшч.); **зухвалы.**

**ДЕРЗНОВЕНІЕ** *ср.* **нахрыць, нахрапліваськць.**

**ДЕРЗОСЛОВІЕ** *ср.* **аскірзаньне, грубіянства.**

**ДЕРТЬ** *ж.* луска, астаткі ад абдзіраньня крупячных, аўсяных, грычаных; **ашакі.**

**ДЕРЮГА** *ж.* самая грубая тканіна з атрэпьля; **радно, раднін**a; **зрэбніна, зрэбішча, каструбіна, каструбьбё; рубаўё, рубьбё.** Каструбіну ткуць з атропкаў лёну; зрэбьбя з першых агрэбкаў на зрабло; радно тое-ж зрэбьбя але тканае рэдка; рубаўё, рубьбё кождая зрэбная або пакульная тканіна.

**ДЕРМО** *ср.* усялякіе адпадкі, непатрэбшчына; **друхло, друхлядзь.**

**ДЕРНУТЬ, скубнуць, торгнуць, турзнуць.**

**ДЕРН** *м.* верхні слой глебы густа паросшы; **дірван, дзірванец, дзірваны; дзярвець,** цьвярдзець чарсцьвець, станавіцца, падобным да дрэва.

**ДЕСАНТ** *м. фр. нескл.* войска прывезенае на вадаплавах і высеўшае на бераг; **высадка.**

**ДЕСЕРТ** *м. франц.* апошняя салодкая страва, якая падаецца пасьля абеду ці вячэры; **заедкі, заедак.**

**ДЕСКАТЬ, маўляў.**

**ДЕСМОЛОГІЯ** *м. грэцк,* часьць анатоміі, навука аб жылах і зьвязках суставаў цела; **жылаведаньне.**

**ДЕСНА** *ж.* мясістая павалока каля споду зубоў; **дзёслы, дзясло.**

**ДЕСНАЯ** *ж.* **правая, правіца.**

**ДЕСПОТИЗМ** *м. грэцк.* самаволя ўлады; **самаўладзтва, дэспотызм.**

**ДЕСТЬ** *ж.* мера або лік паперы, 24 аркушы; **лібра.**

**ДЕСЯТЬ** *ліч.* **дзесяць, дзесяціць, дзясяты, дзясятак, дзясяцера, дзясятая, дзясяціць, дзесяцькротна, дзясятны, дзясятка, дзясятчык, дзясятчына, дзясятуха, дзясятаваць.**

**ДЕТАЛЬ** *ж. франц.* часьці ці драбніцы пры мастацкай апрацоўцы цэлага: **драбн*і*ца.**

**ДЕФЕКЦІЯ** *ж. лац.* **пашк*о*джаньне, надпсав*а*ньне, пан*і*шчаньне.**

**ДЕФИЛИРОВАТЬ** *франц.* праходзіць цэрамані-яльным ходам; **дэфіляв*а*ць, кр*о*чыць.**

**ДЕФИНИЦІЯ** *франц.* **выясьн*е*ньне, тлумач*э*ньне.**

**ДЕШЕВЫЙ, т*а*нны, т*а*ннець, танн*і*нка, т*а*насьць; дз*е*шавы, дз*е*шава, дзешав*е*й, дзешав*і*зна, дзешав*і*ць, дзешав*і*на, дз*е*шаўка.**

**ДЕШИФРИРОВАТЬ** *фр. што* разьбіраць цыфровае пісьмо, або умоўнае; **разч*ы*тываць, адшыфр*о*вываць.**

**ДИВАН** *м. турэцк.* лаўка зазвычай абітая тканінай з прыслонам; **усл*о*н, тапч*а*н, кан*а*па.** Даўней тапчаны і услоны рабілі у нас шырокіе і абівалі тканінай ці скурай, поўсьцю наверх; к а н а п а мае з заду апорышча для плеч і поручы па канцох.

**ДИВЕРСІЯ** *ж. франц.* адвалока, адвод; адцяганьне воражых сіл фальшывай трывогай; **клюдзьг*а*** (ад „клюдзіць“ блутаць сьлед).

**ДИВЕРТИСМЕНТ** *м. франц.* паказ на сцэне з народнай гульбой; **ігр*ы*шча, п*а*гульба.**

**ДИВИДЕНТ** *м. лац.* часьць пры дзяленьні зыску; **дывідэнт.**

**ДИВО** *ср. агульн. слав.* **дз*і*ва, дз*і*ўны, дз*і*ўнасьць, дз*і*ўна, дзів*і*ць, дзів*і*цца, дзівав*а*цца, дзів*а*к, дзів*а*чыць, дзів*а*чка, дзів*е*ц, дзів*о*сы, дзів*о*сны.**

**ДИДАКТИКА** *ж. грэцк.* мастацтва вучыць, даваць навучаньне; **вуч*о*мніцтва, вуч*о*мецтва.**

**ДИДАСКАЛ**, прапаведнік або павучаючы пісьменьнік; **вучм*а*г, вучм*е*ц.**

**ДИКІЙ** *агульн. слав.* **дз*і*кі, дзіч*э*ць, дз*і*касьць, дзіч*ы*цца.**

**ДИКАРЬ** *м.* чалавек дзікі; **дзік*у*н, дзік*у*нства, дзік*у*нскі.**

**ДИЛЕМА** *ж. лац.* адмена сылёгізму, з двох і болей умоўных заключэньняў, *Прыкл.: Лгаць—Богу грашыць; праўду казаць—людзей угнявіць;* **дылема, двотрап.**

**ДИЛЕТАНТ** *ж. італьянск.* чалавек які займаецца навукай або мастацтвам не па прафэсыі а для забавы; **дылетант, верхахват, верхахвацтва.**

**ДИЛИЖАНС** *м. франц.* **балагола, балаголка.**

**ДИНАМИКА** *ж. грэцк.* навука аб руху цел, аб парушаючых сілах; **дынаміка, сілаведзтва.**

**ДИНАСТІЯ** *ж. грэцк.* род, пакаленьне з якога выйшла некалькі пачзродиз панyючых асоб; **дынастыя, род.**

**ДИПЛОМ** *м. грэцк.* дарчая грамата; грамата на дастойнасьць, маетнасьць; грамата або пасьведчаньне вышэйшай вучомнай установы на вучоную ступеню або на наіменьне: **дыплом, грамата.**

**ДИПЛОМАТІЯ** *ж. грэцк.* спачатку азначала навуку аб старадаўных граматах і дакумантах, цяпер азначае навуку аб ўзаемаадносінах дзяржаў; **дыплёмацiя, дыплёмат, дыплёматычны.**

**ДИРЕКТОР** *м. лац.* **кіраўнік, зьверхнік, ладар, дырэктар.**

**ДИРЕКЦІЯ** *ж. лац.* **кіраўніцтва, зьверхніцтва, ладарства, дырэкторыя.**

**ДИРИЖИРОВАТЬ** *гав. аб музыцы,* **дырагаваць, дырыгент, дырыгенцтва; кіраваць.**

**ДИСГАРМОНІЯ** *ж. грэцк.* **разгалосіца.**

**ДИСЕНТЕРІЯ** *ж. грэцк.* крывавая някса; **крываўка.**

**ДИСЕРТАЦІЯ** *ж. лац.* невялікая вучоная праца, якая мае на мэце апраўдаць адну або некалькі вучоных домневак; **досьлед, разважаньне.**

**ДИСИДЕНТ** *м. лац.* чалавек другой веры, які непрызнае пануючай веры; **чужавернік, чужавер, дысыдэнт.**

**ДИСКАНТ**, самы высокі с паміж пеўчых галасоў; **дышкант.**

**ДИСКОНТ** *м. тарг. італьян,* ўступка пры атрыманьні да тэрміну грошы па вэксалю; **дыскoнт, перасплат, перасплатны, даць ў перасплат.**

**ДИСКОС** *м. грэцк. царк.* талерачка на якую кладуць выняты з прасфары ягнец; **поднiца, патына.**

**ДИСЛОКАЦІЯ** *ж, франц.;* **перамешчаньне.**

**ДИСОНАНС** *м. франц.* **вызгалосіца, зяпень.** *Не пяе а зяпае: зяпěнь за зяпнём пушчае. Зяпні ў ноту пушчае.*

**ДИСПЕНСАЦІЯ** *лац.* адпушчэньне грахоў; **разграшэньне.**

**ДИСПОЗИЦІЯ** *ж. франц.* **разпарадак, дыспозыція.**

**ДИСПУТ** *м. лац.* вучоная спрэчка; **пяроспар, дыспут.**

**ДИСТАНЦІЯ** *ж. франц.* **адлегласьць, адрэзак** дорогі, ракі пад наглядам аднэй асобы

**ДИСТИЛИРОВКА** *лац.* перагонка праз дыстыляцыйны апарат; **перагонка, дыстыляція.**

**ДИСЦИПЛИНА** *ж. франц.* вайсковая паслухмянасьць; парадак падлегласьці; **граза, лад, парадак, карнасьць.**

**ДИТЯ** *агульн. слав.* **дзяцě, дзяцяці, дзяцінны, дзеці, дзяцінасьць, дзятва, дзяцінства, дзетны.**

**ДИФЕРЕНЦІАЛ** *м. мат. грэцк.* несканечна малая вялічыня; **крыхна, крыхны, крыхтаваць.**

**ДИЧЬ** *ж. агульн. слав.* **дзічына, дзічак, дзічка, дзічэць, дзічыцца, дзічлівы.**

**ДИФИРАМБ** *м. грэцк.* лірычны вěрш ў апьяненьні ад віна ці радасьці; няўмерная пахвала; **славасьпеў, дыфірамб.**

**ДІАВОЛ, ДЬЯВОЛ** *м.* **дзьябал, дзьябальскі, дзьябальшчына.** (гл. чорт).

**ДІАГНОСТИКА** *ж. грэцк.* установленьне азнак і ўзаемных рожніц вытвараў прыроды; распазнаваньне хвароб поводле азнак; **дыягностыка, разпознаўка, рапазнальны, разпазнатчык.**

**ДІАГОНАЛЬ** *ж. грэцк.* лінія якая злучае два куты, праведзеная з кута на кут; **касада, касодны.**

**ДІАГРАМА** *ж. грэцк.* рысунак да геомэтрычнага статыстычнага, ці іншага нагляднага тлумачэньня; **дыяграма, вырысоўка, вырысоўна.**

**ДІАДЕМА** *ж. грэцк.* аздоба на галаву ў форме кароны, вянка, апаскі; **дыядэма, авянечнік.**

**ДІАКОН** *м. грэцк.* нізшы духоўны стан, памочнік сьвятара; **дзяк, дзякоўскі, дзякоўства.**

**ДІАЛЕКТИКА** *ж. грэцк.* лёгіка ў практыцы, ў спрэчцы, навука праўднага разумаваньня; мастацтва пераконуючага пустаслоўства; **дыялектыка, гутарыстыка, гутарыста, гутарыстычны.** *О, ён такі гутарыста, што сваей гутарыстыкай хоць каго перsucceedанае. Гутарысты, як арганісты.*

**ДІАМЕТР** *м. грэцк.* **пярокруг, пярокружны.**

**ДІАФРАГМА** *ж. грэцк.* папярэчная перапонка якая аддзяляе грудную падьзь ад брушной; **плеўка, балона.**

**ДІАРЕЯ** *ж. грэцк.* **лякса, мытуха.**

**ДІЕТА,** *ж. лац.* парадак ужываньня страваў паводле гатунку, меры і часу; правілы паступаньня ськіраваныя да захаваньня здароўя; **дыета, абярога.**

**ДЛАНЬ** *ж.* **далонь, далонны.**

**ДЛИНА** *ж.* **даўжыня, даўжня, доўгі, доўгае, даўжэнь, даўжэль, даўгаватасьць, доўжыць доўжыцца, доўжліва, доўжлівасьць.**

**ДЛИТЕЛЬНЫЙ, доўжлівы, пряцяглы, барны.**

**ДЛЯ** *прыймя,* **для, дзеля.** Прыймя для выражае назначэньне чыну, дзеньня (каму, чаму): *Я прынёс для вас гасьцінца. Зрабіў пакупкі для дому, Ля* скарнчанае каля, падобна як замест глядзі! глянь! у Горадзеншчыне—гля! як замест--трэба, кажуць трээ, замест надта--наат і. г. п. *Ля вакна, ля ста ла ля хаты,* Дзеля--адпавядае стар. слав. „ради“ Гэта ўсё я рабіў дзеля цябе. Дзеля чаго гэта? Дзеля дзетак ўся праца наша.

**ДМИТРОВКА**, зьмітроўская памінковая субота, паміж 18 і 26 кастрычніка: **восенскія дзяды, дзяды.**

**ДНЕВНЫЙ, дзенны, днявацЬ, днёўка, днець, дніна.**

**ДНЕВАЛЬНЫЙ, паднёўны, паднёўнік, паднёвік.**

**ДНЕВНИК, штоднеўнік, штоднік, дзяннік.**

**ДНЕШНІЙ, сёдны, сёнешні, сягоняшні.**

**ДНО, дно, доньне, днішча, донца, дністы.**

**ДОБАВИТЬ** *што чым,* **дадаць, дадатак, дадатковы, дадаваць.**

**ДОБИРАТЬ** *што,* **дабіраць, дабірацца, дабор, даборны, даборшчык.**

**ДОБЛЕСТЬ** *ж.* вышэйшае духовае мужства, стойкасьць і дабароднасьць; **буйвасьць, буйвазьнь, вазьнь.** *Иже в делах его вазьнь сиръчь добромужство.* (Срезнеўск.).

**ДОБРАСЫВАТЬ** *што, куды;* **дакідаць, дакідзісты, докідзь, дакідак.**

**ДОБРО** *агульн. слав.* **дабро, добры, дабрэць, дабрата, добрасьць, дабротны, дабрак, дабруха.**

**ДОБРОВОЛЬНО, самахоць, самахотны, самахотнік; добравольна.**

**ДОБРОДѢТЕЛЬНЫЙ, дабрачынны.**

**ДОБРОЖЕЛАТЕЛЬ, дабрахот, дабрахотлівец—ніца.**

**ДОБРОКАЧЕСТВЕННЫЙ, дабраякі, дабраякасьць, дабротны.**

**ДОБРОСОВѢСТНОСТЬ, сумленнасьць.**

**ДОБРОСОВѢТЛИВЫЙ, дабрарадны.**

**ДОБРОТА, добраць, добрасьць.**

**ДОБЫВАТЬ** *што,* **дабываць, дабывацца, дабываньне, дабытак, добыч, дабычна, дабычлівы, дабытлівы, дабытнік.**

**ДОБЫЧА, здобыч.**

**ДОВЕРШАТЬ** *што,* **даканч*а*ць, даканч*а*льны.**

**ДОВЛѢТЬ** *каму,* **даволіць, ст*а*чыць.** *Стачыць кождаму доля яго. Даволіць дзень патрэбы свае.*

**ДОВОДИТЬ**, **давадз*і*ць; павядамляць.** *Давёў сляпога да хаты. П а в я д а м л а е мне мой сваяк.*

**ДОВОДЧИК**, **док*а*зчык.** *Доказаў пану на сваіх. Даказчык гэты усё даказуе куды трэба.*

**ДОВОЛЬНО** *прысл.* **годзі, д*о*сыць.**

Адзін кажа мала, другі кажа годзі!
(Ш. Т. I ч. 2 с. 88).

**ДОВОЛЬСТВІЕ**, **здав*о*леньне, даст*а*так.**

**ДОВОЛЬСТВОВАТЬ** *каго чым,* **дастач*а*ць, задавальняць.**

**ДОВОЛЬСТВОВАНІЕ** *ср.* **дастач*а*ньне.**

**ДОВѢРЯТЬ** *што каму;* **здав*е*рыць, здав*е*рыцца.**

**ДОВѢРЕННОСТЬ**, **здав*е*рнасьць.**

**ДОВѢРЕННЫЙ**, **паўнам*о*чнік, удав*е*раны.**

**ДОГАДКА** *ж,* **здаг*а*дка, зд*о*гадзь, здаг*а*длівасьць, здаг*а*дчык-чыца; д*о*ганка, даган*у*цца, ган*а*ць.**

**ДОГАДЛИВО**, **суг*а*дна, здаг*а*дна, даг*а*дліва.**

**ДОГМА** *ж. грэцк.* адна з асноў веры; **дагм*а*т, аснова.**

**ДОГОВОР** *м.* узаемная умова; **уг*о*да, ум*о*ва.**

**ДОГОНЯТЬ, ДОГОН; здагон, здаганяць; пагоня.**

**ДОДАТЬ**, **дад*а*ць, дад*а*так, дад*а*ча.**

**ДОДВИГАТЬ** *што.* **дасув*а*ць, дасув*а*цца, д*о*суўка.**

**ДОДЕКАДР** *м. грэцк.* **дванадцацігр*а*нцік.**

**ДОДНЕСЬ** *прысл.* **дацяп*е*р.**

**ДЕДѢЛЫВАТЬ** *што.* **дарабл*я*ць, даканч*а*ць.** *Рабіў ды не дакончыў, трэба за яго даканчаць.*

*Рабіў ды не дарабіў. Дарабіў цаўё да цапа, цапавіла.*

**ДОЖДЬ** *агульн. слав.* **дождж, дожджык, дожджысты, даждж лівы, дажджыць.**

**ДОЖИГАТЬ, дапаляць, дапал.**

**ДОЖИВАТЬ** *да чаго,* **дажываць, дажывацца, дажытак, дажывоцьце.**

**ДОЖИДАТЬ** *чаго, каго;* **чакаць, чаканьне; нажыдаць.**

**ДОЖИМАТЬ** *што,* **даціскаць, дагнятаць.**

**ДОЖИНАНЬЕ** *ср.* **дажынкі, дажынковы.**

**ДОЗВОЛЯТЬ** *што,* **пазваляць, пазваленьне, пазвольства, пазвольце, пазвольнік.**

**ДОЗИРАТЬ** *што,* **даглядаць, дагляд, дагляданьне, даглядчык, даглядна.**

**ДОЗНАНІЕ, допыт.** Допыт рожніцца ад сьледзьтва тым што робіцца дзеля упэўненьня ці ёсьць падстава да таго каб прыступіць да сьледзтва.

**ДОЗРЪВАТЬ** *аб фруктах,* **дасьпяваць, дасьпелы, даспяваньне.**

**ДОИМКА** *ж,* **дабор.**

**ДОЙНИК** *м.* начыньне да даеньня; **даёнка.**

**ДОИСКИВАТЬ** *што,* **дашуківаць, дашуківацца.**

**ДОИСХОДНЫЙ, датэрміновы.** *Датэрміновыя працэнты. Датэрміновая плата.*

**ДОЙНИК, даёнка.**

**ДОКА, праныра, разумнік, мастак.**

**ДОКАЗЫВАТЬ** *што,* **доводзіць, доводжаньне.**

**ДОКАЗАТЕЛЬСТВО** *ср.* **довад, даводны, даводна.** *Мне аб усім гэтым даводна ведама. Гэта галаслоўнае, бездаводнае абвінавачаньне.*

**ДОКЛАДЫВАТЬ** *што,* даканчыць класьці; прыкладаць што да чаго; **дакладаць.** Прасіць праз каго пазваленьня ўвайсьці; выкладаць што высшаму ад сябе, або сабраньнню—**азнаймляць, даваць азнаймо.**

**ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА, азнаймная запіска.**

**ДОКЛАДЧЫК** *м.* **азнаймец.**

**ДОКЛАД, азнаймо, азнаньне.**

**ДОКОЛЬ, ДОКУДА, дакуль.** *Дакуль даехаў. Чакай дакуль не прыйду. Дакуль яшчэ маніць будзе.*

**ДОКТОР** *м. лац.* хто атрымаў ад унівэрсытэту або акадэміі доктарства вышэйшую навуковую ступеню (1 студэнт, 2 кандыдат, 3 магістар, 4 доктар), **доктар**. Зазвычай пазываюць гэтак у нас толькі доктара мэдыцыны.

**ДОКТРИНЕР** *м.* праціўнік новых спосабаў дзяржаўнага кіраўніцтва; **дактрынер, старадум.**

**ДОКУМЕНТ** *м. лац.* кождая важная да спраў папера; **дакумант.**

**ДОКУПИТЬ** *што; чаго*: **дакупляць, дакупля, дакупка, дакупны.**

**ДОК** *м.* адмена каналу ў партох у які уводзяцца вадапдавы для паправак, пры гэтым док запіраецца ваду з яго выліваюць; **док.**

**ДОЛБИТЬ** *што*, прабіваць далатом дзіру; **дзяўбсьці, дзяўбці, дзяўбе, дзюбсьці, дзюбае даўбіць.**

**ДОЛБЕНЬ**, драўляны малаток з ручкай; **даўбешка, даўбня, даўбуха, цяльпага.**

**ДОЛГІЙ** *агульн. слав.* **доўгі, доўга, даўжыць, даўжэнь, даўгуля, даўгак, доўж, даўжыня, доўгасьць, доўга.**

**ДОЛГ**, пазыка, якую трэба вярнуць: **доўг, даўжнік, задаўжацца**; павіннасьць, што трэба споўніць: **павіннасьць, абавязак.**

**ДОЛЖНОСТЬ**, службовае мейсца; **абвязак, служба**; *арх.* **намесьце**, *Епіскопское наместье.* (Изб. 1073 г. Срезн,).

**ДОЛЖЕНСТВУЕТ, належыць.**

**ДОЛЖЕН, павінен.**

**ДОЛЖНО** *прысл.* **трэба, павінна.**

**ДОЛОЙ**, **дал*о*ў**, **дал*о*ўкі**, **дал*о*ўны**.

**ДОЛЯ**, часьць лёс; **доля**, **дзель**. *Свая доля і свая воля. Воля-няволя, такая наша доля. Добра таму жыць, чыя доля ня сьпіць. Наша дзель нам перададзена. Сваю дзель узяў ад брата. Дзель сваю ўлажыў у тавары.*

**ДОЛЯ** *ж. ботан.* палавіна насеннага ядра; **глуздзік**. *Зярно бобу разглуздзілася, распалася на два глуздкі.*

**ДОМ** *м.* належыць да інда-эўропэйскага засабу слоў: санскр. d a m a, грэцк. і лац. d o m o s; з гістарычнай літэратуры відаць, што у нас істнавалі назовы: **хорам, харомы** (з чаго паходзіць **храм**) для абазначаньня вялікай, пышнай будовы; **дом**, **х*а*та** для абазначаньня жыльля аднэй сямьі; **двор, дворышча**, так называлі у нас вялікія хаты для комунальных сямей; **гр*ы*ня**, **гр*ы*дня**, упамінае Гвагнін у Вітабшчыне ў XVI ст., сустрачаецца гэтае наймень-не і ў народных песьнях:

Кругом двара ўсё зялезны тын,
Сярод двара стаіць грыня.
(Ром. 8—9 стр. 174).

Першапачатковыя хаты славянскіх народаў будаваліся з бярвеньня зьбітага гваздамі на вуглох. С чатырох у квадрат сьцен атрымлівалася „і з б о и н а“ так сама, як ад слова „клеціць“, што знача—будаваць, атрымалася слова к л е ц ь, якое у нар. песьнях ужываецца часамі ў знач. асобнай каморы, ў сярэдзіне каморы бывалі халодныя і цёплыя; цёплыя называлі к о ў н а т а м і (ад „комін“, cominata) і і с т о п к а м і (ад „тапіць.“ што знача апаляць). Халодныя каморы вядомы пад назовамі: а д р ы н а (ад „одр“ пасьцель), якія служылі да спаньня, с е н і, якія будавалі на стаўбох, бяз сьцен; кл е ц і, гэта паасобныя каморы ў доме З прылягаючых да дому будоўляў вядомы з летапісяў: м я д у ш ы, дзе пераховывалі мяды; б р а т я н і ц ы (ад „брашно“—жыўнасьць), дзе пераховывалі еміннныя прыпасы, акром гэтага м ы й н і і л а з ь н і.

**ДОМОВОЙ** *м. міт.* дух які апякуецца домам і сямьёй; **Дамав*і*к**, **Дамавы**, эпітэты: *Дзедка, Гаспадар, Сам.* Жыве у кожным доме; мейсца яго аселасьці печ, запечак. Калі Дамавы здаволены—усё ручыць гаспадару, калі загневаны чаго—сыплюцца розныя няшчасьці і напасьці. Укведенага Дамавіка можна ўласкавіць зарэзаўшы пад гальнём чорнага пеўня і вымеўшы тым гальнём хату. Дамавік што год гуляе сваё вясельле, 30 сакавіка ад золаку да поўначы, тады ён можа з шалу вясёласьці нарабіць шкоды і дзеля гэтага, найлепш ставіць у гэты дзень „стол дамавіку“ (рабіць прыём); дзеля чаго варыцца куцьця з сытой, для ўсей сямьі гаспадара. Пераходзячы са старога ў новы дом пераводзяць і Дамавіка-Дзедку, гэткім чынам: калі ужо усё вынесена з дому, то ў старым доме астаецца толькі гаспадыня і певень. Гаспадыня выпаліўшы апошні раз у печы зграбае жар у гліняны гаршчок і сказаўшы: „Ласкава просім Дзедку да нас, на новую сялібу“, пакрывае абрусом з кавалкам хлеба гаршчок з жарам, і, ўзяўшы жар і пеўня, ідзе ў новую хату. Пеўня пушчае пад печ, а жар сыпле ў новую печ і распаляе яе; у чэсць Дзедкі Дамавіка „ставяць стол“, са страў вараных у новай печы. Выабражае народ Дамавіка ў постаці сівога барадатага дзеда бяз шапкі ў доўгай белай кашулі, падпаясанай паясом, з босымі нагамі і бліскучымі вачыма.

**ДОМОВЛАДѢЛЕЦ**, **домаўл*а*сьнік-ца**, **домаўл*а*сьніцкі**.

**ДОМОПРАВИТЕЛЬ**, **домар*а*днік**, **домав*е*р**.

**ДОМОСТРОИТЕЛЬСТВО**, **будаўн*і*цтва**.

**ДОМОХОЗЯИН**, **гаспад*а*р**.

**ДОМАЧАДЕЦ**, **чал*я*днік**, **чэлядзь**.

**ДОМЫШЛЯТСЯ** *чаго*, **дад*у*мывацца**, **дадумл*я*цца**.

**ДОНАЧАЛЬНЫЙ**, **дапач*а*тны**, **спаконв*е*чны**.

**ДОНЕСЕНІЕ** *ср.* **павядомленьне**.

**ДОНОСЧЫК-ЦА**, той хто дае ведама аб чужых праступках; **дак*а*зчык-ца**. *Даказчыку пер-*

*шы бізун, Соцкі у вёсцы першы даказчык вураднiку.*

**ДОНДЕЖЕ** *прысл. црк.* дакуль, пакуль.

**ДОНЕЛЬЗЯ** *прысл.* данемагу.

**ДОНЫНѢ** *прысл.* да цяпер, дасюль, дагэтуль.

**ДОПАЗИТЬ** *што,* дапасаваць.

**ДОППЕЛЬ** *нням.* дубальт, дубальтовы.

**ДОПЛАТА** *ж.* прыплата, прыплатны.

**ДОПОДЛИННЫЙ** *выпадак,* праўдзiвы, запраўдны.

**ДОПОЛНЕНІЕ** *чаго чым.* дапаўненьне.

**ДОПРАШИВАТЬ** *каго,* дапытываць, допыт, дапытны.

**ДОПРОСЧИК** *м.* дапытчык, дапытнiцкi, дапытлiвы.

**ДОПРЕЖЬ** *прысл.* наўперш, сьпярша.

**ДОПРЫЖКА,** даскок, даскочны.

**ДОПУЩЕНІЕ** *ср.* допуст, дапушчэньне.

**ДОРАЩИВАТЬ** *што,* дагадовываць.

**ДОРОГА** *ж. агульн. слав,* дарога, дарогi, дарожны, дарожысты, дарожнiк.

**ДОРОГОЙ** *агульн. слав.* дарагi, даражыня, дарагоўля, дарагоўшчына, даражэць, даражэньне, даражыцца, даражнеча.

**ДОРОДНЫЙ,** тоўсты, поўны, мясiсты; гладкi.

**ДОРТУАР** *м. франц.* агульная спальня ў вучомных установах, работнiцкiх дамох i iнш; спальня.

**ДОСАЖДАТЬ** *каму чым,* дадзеваць, дапiнаць, дакучаць, апрыкрацца.

**ДОСАДА,** пачуцьце непрыемнасьцi, нездаволеньня; дакука прыкрасьць.

**ДОСЕЛѢ** *прысл.* дасюль, дагэтуль, дагэтульны, дасюльны.

**ДОСКА** *ж. агульн. слав.* дашка, дашчаны, дашчыць.

**ДОСКАН** *м.* зьбiтая з дошчак скрыня да вады; скрыня, дашчанiк.

**ДОСМАТРИВАТЬ**, **даглдаць**, **дагляд**, **даглядчык**, **дагледжаны**, **дагляды**, **дагледзіны**.

**ДОСПѢХИ**, зброя, поўнае узброеньне вайскоўца; **панцыр**, **панцырны**, **панцырнік**.

**ДОСТАТОЧНО** *прысл.* **досыць**, **даволі** **ў** **достань**. *Досыць ужо гэтых жартаў. Было ўсяго даволі, а толькі прынукі не было. У достань піты і яды было.*

**ДОСТАВЛЯТЬ** *што, каму або куды;* **пастачаць**.

**ДОСТАВКА** *ж*, **дастава**, **пастача**, **пастачнік**. *Узяў падрад на пастачу дроў. Нам Лейба гарэлку пастачаў на вясельле (Полацк.пав.).*

**ДОСТИГАТЬ** *што або чаго*, **дасягаць**, **дасягнуць**, **дасяжны**, **даставаць**; **наганяць**, **даганяць** **каго** або дажываць да чаго: **дасьцігаць**. *Дасьціг поўных гадоў, старасьці. Дасьціг яго, пад лесам.* (гл. преслѣдовать—сьцігаваць).

**ДОСТИЖЕНІЕ** *ср.* **досьціг**. **дасягненьне**. *Досьцігі навукі, Нашы дасягненьні на полю веды нязначныя.*

**ДОСТОВѢРНЫЙ**, **істапраўдны**, **даводны**, **верагодны**.

**ДОСТОПАМЯТНЫЙ**, **істапомны**, **векапомны**.

**ДОСТОПОЧТЕННЫЙ**, **істапашаноўны**, **шанабліві**.

**ДОСТОПРИМѢЧАТЕЛЬНЫЙ**, **асаблівісты**, **асабліўны**.

**ДОСТОЙНОСТЬ** *ж.* **годнасьць**, **вартасьць**.

**ДОСТОЙНЫЙ** *чаго* **годны**. *Веры, пашаны годны. Годны чалавек, зн. шанаваны. Хто малым нездаволен, той вялікага ня годзен.*

**ДОСТОЯНІЕ** *ср.* **собіна**, **маемасьць**, **ўласнасьць**.

**ДОСУГ** *м.* вольны, не заняты час. **гуляшчы час**, **покваль**, **паквольля**, **пакволя**, **паквольны**. *Калі-ж то будзе тое паквольле? А як з хаты панясуць. Паквольным часам зраблю. (Дзіс. п.). У яе усё ад спаньня непакваль (Боркавічы Віт.).*

**ДОСУЖІЙ ЖАЯ**, **спраўны-ная, зваротлівы, сусьпешны**.

**ДОСЫГА** *прысл.* **ўволю, ўдосыць.**

**ДОСЮДА** *прысл.* **дагэтуль, дасюль.**

**ДОСЯГАТЬ**; даставаць да чаго чым; **даставаць.** На беларуску дасягаць тое, што на расійску „достігать".

**ДОТАСКИВАТЬ**, **дацягаць**.

**ДОТЛА** *прысл.* **ўдакон, ўшчэнт, скрэтэсам, ўплень, насправ.**

**ДОТОЛѢ** *прысл.* **датуль, патуль.** *Будзеш ты тут аскірзацца датуль, пакуль па карку ня зьеду.*

**ДОТРОНУТЬСЯ** *да чаго,* **даторкнуцца, дакрануцца, даткнуцца, датыканьне, дотык, датычны.**

**ДОХОД**, што даходзіць да рук, грашавая вызвалка, збор, агул прыходу; **даход, даходны, даходнасьць**; **вызвалка, прыбытак.**

**ДОЧИСЛЯТЬ** *что*, **далічаць, дачотаваць.**

**ДОЧЬ** *ж.* **дачка, дачушка, дачухна, донька.**

> Чаму-ж не гуляці пакуль ў сваей маці:
> І разуе і разьдзене кладоўсь, доня, спаці.

**ДОШАГАТЬ**, **дакрочыць, дажыргаць, датупеняць.**

**ДРАГУН** *м.* коннік, паводле зброі і навытаркі здольны да пяхотнай бітвы; **драгун.**

**ДРАГОЦѢННЫЙ**, **каштоўны, каштоўнасьць.**

**ДРАЗНИТЬ** *каго*, **дражніць, дражніцца.**

**ДРАКА** *ж.* **бойка, бітва.**

**ДРАКОН** *м.* баечны крылаты зьмей; **дракон, цмок.**

**ДРАПИРОВАТЬ** *што*, убіраць пакрываючы або завешываючы тканінай; **абвешываць, абвеска.**

**ДРАП** *м. франц.* **сукно** рожных адмен і вартасьці.

**ДРАСТИЧЕСКОЕ** *лякарства*, лякарства на ляксу.

**ДРАТЬ**, выдзіраць навіну ці шчырэц з пад лесу; раздзіраць цэлую тканіну; **драць, драцца, дзярэцца, дзірван,** або **выдзіркі, дранцё** абадраная вопратка. Але лыкі **лутаюць** скуру **лупяць**.

**ДРАЧУН** *м.* чалавек які любіць біцца; **задзіра, задзірлівы, абібок, буян.**

**ДРЕБЕДЕНЬ**, **чаўпарня, нісянеціца, мана, брынды.**

**ДРЕБЕЗЖАТЬ**, **браздж*а*ць, дрызджаць.**

**ДРЕБЕЗГИ** *м. мн.* **чарапкі, дрызгі.**

**ДРЕВЕСИНА** *ж.* **дрывоціна, дзярвіна, дзярвець, адзярвець кастрыга.** *Кара згніла, але дрывоціна здаровая. Які там пошыр з саломы: карова жве, жве—кастрыгі многа, а сыці ніякай (Дзіс. пав.).*

**ДРЕВКО** *ср.* **тронак, цаўё.**

**ДРЕВЛЕ** *прысл.* **даўней, калісь.** *Даўней людзі крапчэйшые былі. Калісь і ў нас была свая воля.*

**ДРЕВНІЙ**, **стары, старавeтны.**

**ДРЕВНОСТЬ**, **старавеціна, старавeтнасьць,**

**ДРЕЙФ** *м. марск,* адклаңеньне вадаплава ад простага шляху пад вецер; **адклон;**

**ДРЕЛЬ,** прыбор да сьвярленьня мэталяў; **корба.**

**ДРЕКОЛІЕ** *ср.* **друкі, дручок, калы, кольля, кол, калок.**

**ДРЕМОТА** *ж.* **драмота, дрэмка, драмаць, драманьне; сомжа, прымгнуць, самжыць вочы, мжыца, мжонка.**

**ДРЕМУЧІЙ** *лес.* **пагудасты.** *Пагудстая пушча.*

*Хто ў бару пагудастым,*
*Прыдзі камне нанач!*
*(Казка аб Ліповічку).*

**ДРЕНАЖ** *м. франц.* асушываньне балота пры помачы падземных труб; **дранаваньне.**

**ДРЕСВА** *ж.* зёрны камяня які разсыпаўся ад агня ці разьбіты молатам; **жарства**, **жасцьвяны**, **жарсцьвіць**, **жарствісты**, **жарсьвець**, **жорствы**, **жорсткі**.

**ДРЕСИРОВАТЬ** *франц.* вучыць, навучаць жывёлаў рожных штук; **трасаваць**, **вучыць**, **муштраваць**.

**ДРОБЬ** *ж.* зярно волава якое ужываюць да набіваньня стрэльбы; **шрот**, **шраціна**, **шротны**, **шротнік**.

**ДРОБИТЬ** *што*, **крышыць**, **крышыцца**, **крыха**, крышка.

**ДРОБНЂТЬ**, **драбнець**, **малець**. *Здрабнеў народ, змалёў сьвет.*

**ДРОБЬ** *ж.* часьць адзінкі або цэлага; **часьць**, **частка**.

**ДРОБИЛО**, пабавешка да разьбіваньня сухіх камоў на ральлі: **кука**.

**ДРОВА** *ср. мн.* **дровы**, **дроў**, **дравіна**, **дравяны**, **дрывотны**, **дрывотня** склад, дзе кладуць дровы; **дравасек**, чалавек які сячэ пілуе і шчапае дровы; **дравасечня**, мейсца дзе сякуць і шчапаюць дровы; **драванос** хто носіць дровы; **дравасушня**, дзе сушаць дровы.

**ДРОВНИ** *ж. мн.* **сані**, **санкі**, **шлягні**.

**ДРОГИ**, навозка з драбінамі па баках; **драбы**.

**ДРОГИСТ** *м. франц.* таргоўнік аптэчнымі таварамі; **зялейнік**.

**ДРОГНУТЬ**, **дрыгнуць**, **дрыгнуць**. *Ляжы і ня дрыгай! Дрыгнула зямля.*

**ДРОЖАТЬ**, **дрыжэць**, **дрыгнуць**, **дрыготка**, **дрыжлівы**, **дрыжмя дрыжэць**, **драгатаць**; **калаціцца**, **трасьціся**.

**ДРОЖЬ** *ж.* **дрыжака**, **трасавіца**, **подрыгі**.

Лаўкі дрыгаюць, вокны мігаюць,
Печка рагоча, караваю хоча. (Крачк. с. 40)

**ДРОЖДИ** *ср. мн.* іспод паддадзенага фэрмантацыі напітку, асабліва піва; **брошчы, брысьнець, брузлы.**

**ДРОЖКИ**, лягкавая **павозка.**

**ДРОТИК**, кароткая піка да кіданьня; **вошчап.**

**ДРУГОЙ** *лічэб.* **другі, другога, другак, друіць, другач**—тавар другой дабротнасьці.

**ДРУГ** *м.* такі-ж, роўны, другі я; **друг дружны, друхна, дружыць, дружны, дружнік-ца, дружына; прыяцель -лка, ніца, прыязнь, прыязны.** У Смаленшчыне і Вітабшчыне гавораць: **тайнік, тайка, таечка, тайкаваць, тайкуюць, тайкаўня, стайкавацца.** *З кім дружу, той мне друг, знача мой двайнік, другі я.* Прыяцель, ад слова „прыяць" жычыць дабра, спагадаць, знача чалавек які спагадае спрыяе мне. Тайнік, тайка, той перад кім німа сэкрату, нічога тайнага. Блізкае па значэньню і слова **таварыш,** якое выражае паняцьце раўні, роўнасьці. *Таварыш па нядолі, па службе, па працы. Гусак казлу, а воўк авечцы не таварыш. Конь каню, а сьвіньня калу таварыш (сьвіньня аб кол чухаецца).*

**ДРУЗА** *ж. горн.* густа зросшыя крышталы на адным камяню; **гранцы, гранец.**

**ДРЯБЛЫЙ** аб дрэве, фруктах і варыве; вялы, які утраціў крумянасьць, сьвежасьць, падгніўшы; **трухлы, трухлявы, трупехлы, струпехлы, трупяхля, трухля, трухляк** пер态трухлеўшае дрэва; **ахізлы, схізлы, хізнуць.** *Хізлая капуста, буракі. Асхізлі яблыкі лежучы ў цяпле.*

**ДРЯНЬ** *ж. зборн.* **дрэнь, блаж.** *Дрэнь справа жыць з дрэннымі людзьмі. Дрэні, блажы ўсякай назьбіралася повен закутак.*

**ДРЯХЛЫЙ**, які утраціў сілу крэпасьць ад старасьці; **друзлы, друзець, друз** абломкі развалін будоўлі—паўцагелкі, вапна, каменьні; **друхлы, друхнуць, друхло, друхлядзь** рожнае старьё, сьмяцьцё, **здрухнуць** разваліцца са старасьці, зператрухлеласьці.

**ДУАЛИЗМ** *м. лац.* навука аб падвойнасьці першапрычын, прыкл. пачатку дабра і зла, або духа і цела; **дуал*і*зм, два*і*сьтасьцъ.**

**ДУБЛЕТ** *м. франц.* дзьве саўсім роўныя рэчы, з якіх адна можа быць лішняй; гаворыцца аб кнігах аб рэчах музэальных; **дублет, двайч*а*к.**

**ДУБРАВА** *ж.* дубовы лес; **дубр*о*ва.**

**ДУБ** *дрэва* Quercus; **дуб, дуб*о*вы, дубав*а*ты, дубняк, дуб*о*вік** *арх.* перавознік; **дуб*е*ць.**

**ДУБИНА** *ж.* **палка, кол, др*у*к.**

**ДУБИТЬ** *а скурах*, **гарбав*а*ць, гарбав*а*ньне‘ гарб*а*р, гарб*а*рня.**

**ДУГА** *ж.* **дуг*а*, д*у*жка, дугав*ы*, дугав*а*ты, д*у*жнік, дугав*і*на дугав*е*рхі, дугаб*о*кі.**

**ДУДА** *ж.* **дуд*а*, д*у*дка, дуд*а*сты, дуд*а*р, дудз*е*ць, дудз*е*ль, дудок.** Эпітэты дуды: *гудуха, вясялуха.*

**ДУЛО** *ср.* атворына агнястрэльнай зброі: **р*у*ля, р*у*лька, руляв*а*ць** сьвярліць рулю, атворыну з тонкімі наўкол атворны сьценкамі.

**ДУМАТЬ** *што, аб чым;* **д*у*мацъ, д*у*маньне, д*у*ма, д*у*мка, д*у*мачка, д*у*мчывы, д*у*мчывасьцъ.**

**ДУНОВЕНІЕ** *ср.* **пав*е*ў, подзьмух, тхн*е*ньне.**

**ДУПЕЛЬ** *нямец. птах.* **бэкас.**

**ДУПЛО** *ср.* выгніўшая пустата ў дрэве; **дзюпл*о*, дзюплав*і*н*а*, дунл*я*нка, дзюпл*і*сты;** *але часьцей:* **шупло, шуплав*і*на, шупл*я*нка, шупл*і*сты;** *адгэтуль:* **шупляда і ш*а*па.** У курных хатах бываў пры печы стоўб „князь“, „конязь“, „тур“ а ў ім павысяканыя для складу дробных рэчаў—шуплянкі, а часьцей—*шупляды, шапы, шапліцы*, залежна ад формы і назначэньня. (*Буды і Ямна, Дзіс. пав.*).

**ДУРАК** *м.* **ДУРА** *ж.*, **дурань, дурная, дурань, дурн*е*ць, дурнав*а*ты.**

**ДУРАЧИТЬ** *каго*, **чмуц*і*ць. ачмуч*а*ць, ачм*а*ра.**

**ДУРАЧИТСЯ, блазнав*а*ць, блазнав*а*цца, куд*а*шыцца.**

**ДУРМАН,** *расьціна Datura stramonium;* **дурэц.**

**ДУРНОЙ**, ня добры; **благі**, **бдыдкі**, **нягодны**.

**ДУТЬ**, **дуць**, **дзьму**, **дую**, **дзьмухаць**; **веяць**.

**ДУТИК** *м.* шклянная або мэталічная пацерка; **бульчок**, **бульчатка**. *Бульчастыя пацеркі. Бульчатку разціснуў пальцамі.*

**ДУТЬСЯ**, выказываць сваё нездаволеньне **гмырыцца**, **супіцца**, **насупіцца**, **дзьмецца**. *Госьцю ня дзьміся, еш, што у місе.* **дуляцца**, **надулены**, **дуляецца**. *(Эйшышкі)*.

**ДУНОВЕНІЕ** *ср.* **тхненьне**, **подых**, **подзьмух**.

**ДУХ** *м. агульн. слав.* **дух**, **духі**, **духовы**, **духовасьць**.

**ДУХОВНАЯ**, пісаны дакумант аб распарадку маетнасьці на прыпадак сьмерці; **запавечная**, **запавечная грамата**, **запавечываць**, **запавечыў—чыла**,

**ДУШЕУБІЙСТВО, душабойства.**

**ДУШЕЦѢЛЕБНЫЙ, душагойны.**

**ДУШ** *м. франц.* абліваньне сьцюдзёнай вадой; **прыш, прышніца.**

**ДУЭЛЬ** *м. франц.* бой адзін на адзін; **двубой.**

**ДУЭТ** *м. франц.* **двосьпеў.**

**ДЩЕР, ДЩИ** *ж. црк.* **дачка, дачкі; донька, доня.**

**ДЫМ** *м. агульн. слав.* **дым, дыміць, дымна, дымаваты, дымакур; сопат, сомар, сомарна, сапорыць;** адгэтуль названьне сажы--**сапуха** і сосу якi зьбіраецца ў люльцы **сопар,** аб пагодзе кажуць: **засапорылася** зн. захмарылася; **сапоры,** цёмнага колеру, буры. Вэнозную кроў называюць *сапоркай* у адрожненьне ад артэрыяльнай--*жычкі. Артэрыі--жылы;* вэны---*сапоры. Сапорная кроў. Сапорная жыла, зн. вэна ў якой цёмная, задымлёная, кроў.*

**ДЫМОПРОХОД,** *м.* **дымаход, дымавалок.**

**ДЫНЯ** *ж.* Cucumis Melo **мэлён.**

**ДЫРЯ** *ж.* **дзіра, дзірка, дзіравіна. дзірыць, дзіравы, дзіраваты, дзірчасты, дзіраваты, дзіраўка, дзірыць. дзіравіць, дзірэць, дзіракрут, дзірабои, дзіракол, дзірасьцень, дзірасьцііць, дзірыць, дзірло.**

**ДЫШАТЬ, дыхаць, дыхнуць, дыхаецца, дыханьне, дыжі, дыхавы, дыхніца, дыхаўка,** аддыховае горла.

**ДЫШЛО** *ср. ням.* аглабля да парнай упражы, **дышаль, аглабень.**

**ДЬЯВОЛ** *м.* бес, **чорт, дьябал, нячысьцік. мерат.**

**ДЬЯК** *м.* **дзяк, дзякоўскі.**

**ДѢВА** *ж.,* **дзева, дзеўка, дзявіца, дзявоцтва, дзявоцкі, дзявуе, дзяўчына, дзеўчына, дзяўчаты, дзеўчыць; панна, паненка.**

**ДѢВСТВЕННИК--ЦА,** дзевы, **дзевая, дзевавацъ, дзявуль--ля; дзявічасьць, дзявічная.** *Хоць старая, а яшчэ дзевая, дзявуе да сьмерці.*

*Дявуля а такжа* **дзявуя** *гэтага не ажэніш ужо дзевым будзе да сьмерці.* **Панна;** *За стол за твой сяду паваю, ў ложа твае лягу паннаю.*

**ДѢВАТЬ, ДѢТЬ, дзявацъ, дзецъ, падзецъ; падзеў, западзецъ, западзеўся—цца.**

**ДѢД** *м.* бацька бацькі або маткі: **дзед, дзедка, дзядуля, дзядук, дзядуня, дзядусь, дзедухна, дзедавацъ, дзедаўскі, дзядоўшчына.** Слова дзяды гавораць яшчэ ў значэньні рас. „предки“. *Нашы дзяды гэтага не рабілі і мы рабіць ня будзем. Дзедаўская слава.*

**ДѢЙСТВОВАТЬ, дзеяцъ, дзейны, дзейнасьць, дзейства, дзеяч, дзеячы, дзея.**

**ДѢЙСТВИТЕЛЬНЫЙ,** праўдзівы, праўдны, акуратны; **істотны, іставісты, скутэчны, запраўдны.** *Аказаўся запраўдны недахват. Запраўдны сьведка. Запраўдны гаспадар. Скутэчны спосаб. Іставісты сын. Іставісты гаспадар знайшоўся. Істасьць сумная але праўдная. Істотныя прычыны.*

**ДѢЙСТВІЕ** *ср.* **дзейнасьць, чыннасьць, чын.**

**ДѢЙСТВИТЕЛЬНО, запраўды, істотна, наўзапраўдзь, іставетна, запраўдна.** *Спраўдная золата. Запраўды кажу вам. Запраўды так будзе. Істотная прычына. Іставетная служба. Іставетнае здарэньне, не байка.*

**ДѢЛАТЬ** *што,* **рабіць, работа, работнік -ца, чыніць, учынак, учыніць, учынца, дзеяць, спраўляць, спраўца.** *Справіў ты мне вялікую крыўду.*

Адапры акно, гляні на двор,
А ў тваім дварэ ды што дзеіцца?
(Ром. 8—9. 114.).

**ДѢЛИТЬ** *што,* разадзіняць на часьці; **дзяліць, дзеляная, дзель, дзеля, дзяленьне, дзяліцьба, дзяльба, дзялежа, дзялянка, дзелены, дзельны, дзялільшчык, дзяльбіт, дзяльніца, дзяльнік, дзельчае, дзельчык.**

**ДѢЛО** *прымета ад дзеяць;* **справа, спраўка, спраўца, спраўнік, спраўшчык. справіць, спраў-**

**ляцца.** *Не мая гэта справа. Гэта ўжо яго спраўка. Справа судовая. Ен спраўца ўсей гэтай справы.* Спраўнік, які вядзе справы ў канцалярыі—рэгістратар, „дѣловод“.

**ДѢТИ** *ср. агульн. слав.* **дзеці, дзяцёнак, дзяцё, дзіцянё, дзіцячы, дзетаваць, дзяцінства, дзяцюк, дзетніца** *анат.* тое што матка.

**ДѢТИНА** *м.* **дзяцюк, дзяцюкоўскі.**

**ДЮЖИНА** *ж. лац. ням.* дванадцаць або шэсьць пар; **тузін, тузіновы, тузінковы, тузінаваць; двошасьцень, двошасны, дваштак.** Даўней у нас лічылі не на дзясяткі і сотні, а на шастакі і копы. Зам. цяперашняга дзясатка лічэбнай адзінкай была *капа*, якая дзялілася на *паўкопкі*, паўкопак меў пяць *шасьнёў, шостак, шастакоў*; шастак дзяліўся на два *траякі.*

**ДЮЙМ** *м. ням. цаля, цалёўка, цаляваць.*

**ДЮНЫ** *ж. ням.* прыморскія сыпучыя пяскі; **качагоры.**

**ДЯДЯ,** *м. брат, бацькі,* **дзядьзка, дзядзенька;** жонка бацькавага брата **дзядзіна,** маткі сястра—*цётка.*

**ДЯТЕЛ** *м. птах. Picus,* **дзяцел.** *Дзяцел доўганосы. Хто-б аб дзятлу ведаў, каб не яго даўгі нос.*

## Е.

**ЕВА,** *хроснае імя;* **Еўга, Еўка, Еўця, Яўціся.**

**ЕВАНГЕЛІЕ,** навука Хрыста або Новы Закон; **Эвангельля.**

**ЕВНУХ** *м. тур.* скапец, старж у гарэме; **кастранец.**

**ЕВРЕЙ,** найме сэміцкай народнасьці; **габрай, габрайскі, габраі; юд, юдка, юдзька; жыд—оўка, жыдоўскі.** Габрай, габрайскі слова кніжнае; юд, юдка, вядомы з песень:

*Гэй, карчмарачка юдка, дай гарэлачкі хутка.* Абыдзённае і паўсюднае найме у нас: жыд, жыдоўскі, якое слова занесена з францііі (па французку: Guide).

**ЕВХАРИСТІЯ** *ж. грэцк.* таемства прычасьця; **прычасьця** *у правасл.;* **камунія**—у каталікаў.

**ЕГЕРЬ** *м. ням.* **лавец, стралец.** Егерскі.— *Стралецкі* полк.

**ЕГО** *займе,* **яго, ягоны, ейны,** *Гэта маё гэна твае, а тое яго, Ягоны хлеб ягона і честь. Ейная спраўка гэта.*

**ЕГОВА** *жыд.* **Бог.**

**ЕГОЗИТЬ, ёрзаць,** ёрзала, **ярзун** або **непаседа.**

**ЕДВА** *прысл.* **ледзь, ледзьве, чуць.** *Ледзь не зваліўся. Ледзь дацягнуўся да дому. Ледзьве дагнаў. Чуць не прагаварыўся. Чуць, чуць справіўся.*

**ЕДИНЕНІЕ яднаньне, задночаньне.**

**ЕДИНИЦА** *ж.* лічэбны знак 1; кождая рэч асобна, сама па сабе ўзятая: **адзінка, адзіны, адзінец, адзінства, адзінны, адзіннасьць, аднастайны, аднаякі, адзінокі, адзінота, адзініць, з'адзінець.**

**ЕДИНОБОРЕЦ** *м.* **аднаборац, аднаборнік.**

**ЕДИНОБОЖІЕ** *ср,* аднабожжа, **аднабожнік.**

**ЕДИНОБРАЧІЕ** *ср.* аднажэнства.

**ЕДИНОВИДНЫЙ** *м.* **аднастайны, аднастайнасьць.**

**ЕДИНОВЛАСТІЕ** *ср.* **аднаўладзтва.**

**ЕДИНОВОЗРАСТНЫЙ,** аднаростак.

**ЕДИНОВРЕМЕННЫЙ, адначасны.**

**ЕДИНОВѢРНЫЙ,** аднаверны.

**ЕДИНОГЛАСІЕ,** аднагалосьсе, **аднагалосны.**

**ЕДИНОДЕРЖАВІЕ,** самаўладзтва.

**ЕДИНОДУШНЫЙ,** аднадушны, **аднадумны.**

**ЕДИНОДѢЙСТВЕННЫЙ,** аднадзейны, **аднадзейчы.**

**ЕДИНОЖИТЕЛЬНЫЙ**, аднажытны,

**ЕДИНОЗВУЧІЕ** *ср.* адназгучча, адназгучны.

**ЕДИНОКЛЯТВЕННЫЙ**, аднашлюбны.

**ЕДИНОКРОВНЫЙ**, аднакроўны, аднакроўнік.

**ЕДИНОЛѢТНІЙ**, адналетны, адналетак.

**ЕДИНОМАТЕРНІЙ**, аднаматны, аднаматнік.

**ЕДИНОМОЩНЫЙ**, аднасільны.

**ЕДИНОМЫШЛЕННИК** *м.*—**ЦА** *ж.*, аднадумнік-ніца.

**ЕДИНОНАЧАЛІЕ** аднаўладзства. аднazьверхнасьць, аднazьверхнік.

**ЕДИНОНАЧАЛІЕ** *адзін пачатак*, адзінапачатнасьць,—пачатны.

**ЕДИНОРАВНЫЙ**, аднароўны, аднароўнік.

**ЕДИНООБРАЗІЕ**, аднастайнасьць, аднастайны.

**ЕДИНОПРАВНЫЙ**, аднапраўны.

**ЕДИНООКІЙ**, аднавокі,

**ЕДИНОПЛЕМЕННЫЙ**, аднаплемны, аднаплемнік.

**ЕДИНОПРЕДѢЛЬНЫЙ**, аднамежны.

**ЕДИНОПРЕСТОЛЬНЫЙ**. аднапасадны,

**ЕДИНОРОЖДЕННЫЙ**, аднародны, аднароджаны.

**ЕДИНОСЛОВНЫЙ**, аднаслоўны.

**ЕДИНОСОВѢТІЕ** *ср.* аднараднасьць.

**ЕДИНОТЕРПЕЦ**, *м.* аднагаротнік, аднацярплівец.

**ЕДИНОСУЩНЫЙ**, аднаісты, аднаістасьць, неразьдзельны.

**ЕДИНОУТРОБНЫЙ**, аднаматны, адналонны.

**ЕДИНОТРАПЕЗНИК** *м.* анастраўнік, аднастольнік.

**ЕДИНОЧАДНЫЙ**, аднадзетны, аднародны.

**ЕДИНОЧИСЛЕННЫЙ**, адналічэбны.

**ЕДИНОЯЗЫЧНЫЙ**, аднамоўны.

**ЕЖЕЛИ** *злуч.* калі, што, асьлі, ачкалі, ашці.

**ЕЖЕВЕШНІЙ**, штовесны, штовесьнік.

**ЕЖЕВРЕМЕННЫЙ**, шточа́сны.

**ЕЖЕГОДНЫЙ**, штогодны, штогоднік.

**ЕЖЕДНЕВНЫЙ**, штодзенны, штодзеннік, абыдзенны.

**ЕЖЕМѢСЯЧНЫЙ**, штомесячны, штомесячнік.

**ЕЖЕНЕДѢЛЬНЫЙ**, штонядзельны, штонядзельнік.

**ЕЖЕНОЧНЫЙ**, штоночны.

**ЕЖЕВИКА** *расц. Rubus fructicosus*; ажына, ажыннік, ажынаўка, гарэлька на ажыне.

**ЕЖ** *м. зьвярок. Erinaceus*; вожык, вожысты, важаваты.

**ЕЖИТЬСЯ**, вожыцца, навожаны; насторшыцца, насторшыўся, насторшаны.

**ЕЗ**, частакол, або пераплот пяпярок ракі, каб не даць рыбе ходу ў верх: яз, язіць, язовы, язы, язовішча.

**ЕКЛЕСІАРХ** *м. грэцк.* ключар, ключнік.

**ЕЛЕ** *прысл.* ледзь, ледзьве. *Ледзьве прышоў. Ледзь глянуў. Ледзь - ня ледзь дабрыў.*

**ЕЛЕЙ** *м. црк.* расьцінны, аліўкавы тлушч; аліва, алей. Разрожнююць алей і аліва: а л і в а й называюць аліўкавы тлушч; а л е я м, тлушч выціснаны з каланень, маку ці ільнянага семя.

**ЕЛИКІЙ** *црк.* сколькі, сколікі.

**ЕЛОП** *м.* дурань, балван, пабойня

**ЕЛЬ**, *іглястa дрэва Pinus abies*; ель, яловы, яльніна, елка, Ельня—абшар які парослы ельнікам

**ЕПАНЧА** *ж.* безрукавы плашч; апанча, бурка.

**ЕПАРХІЯ** *ж. грэцк.* паагул край, кругаколіца пад уладай **ЕПАРХА** *м.* кіраўніка; *цяпер*; край які

знаходзіцца ў стравах рэлігійных пад кіраўніцтвам архірэя ці біскупа; **эпархія**.

**ЕПИСКОП** *м. грэцк.* зьверхнік эпархіі: **біскуп, біскупія, біскупскі, біскупства**. У творах Кірылы тураўскага, ў граматах Полацка, Вітабска і Смаленска да XIII ст. і ў многіх рукапісах XIV—XVII ст., пісалася ў нас не *епіскоп*, а— *біскуп, біскупль, піскоп, піскопскі*. З гэтага відаць, што і цяпер нам німа патрэбы гэтага тэрміну зьмяняць на грэцка-боўгарскае напісаньне. Слова біскуп, сьведчыць, што крыўскія землі мелі даўней крэпкія зьвязі з заходам і пераймалі іх ўплывы. Лепш сваю старыну аднаўляць, як чужыя навіны ўводзіць.

**ЕРАЛАШ.** *м.* **бязсэнсіца, нісянеціца, безладзіца.**

**ЕРАНЬ** *ж. расьціна Geranium;* **юранія.**

**ЕРЕПЕНИТСЯ, стабурыцца, настабурыўся, настырацца.**

**ЕРЕСЬ** *ж.* разыходжаньне у поглядах на догматы веры; **гарэзія, гарэза, гарэзьнік; адшчапенец.**

**ЕРЗАТЬ, соўгацца, поўзаць, ёрзаць.**

**ЕРИК**, нізіна ў якую заліваецца вясной вада і астаецца рыба, **баер**.

**ЕРМОЛКА** *ж.* лёгкая шапачка, без аколка; **ярмолка, шаламейка, шаломка.**

**ЕРОШЫТЬ** *што*, комкаць, блутаць: **кудлаць.**

**ЕРОШЫТЬСЯ** *аб валасах*, падымацца дыбам: **сторшыцца, насторшаны; чапурыцца**. *Начапурыўся як калакут (індык). Насторшыўся як вожык. Калі сабака злы, то ў яго сторшыцца поўсьць на хрыбце.*

**ЕРШ** *рыба*, **ёрш, яршовы, яршысты;** *язьдзір* (Аўгуст. п.).

**ЕРЫГА, пьяніца, галцяй, буян.**

**ЕСАУЛ** *м.* памочнік вайсковага зьверхніка; **асавул, асыстэнт.**

**ЕСЛИ** *злуч.* **калі, асьлі, ачкалі**. Ачкалі не захачу, то што тады? Калі так, то так, а калі не? Асьлі прыедзе балазе, ачкалі не? (Орша).

**ЕСТЕСТВО** *ср.* усё што ёсьць, **і́стасьць**, **істо́тны, істо́тна, істо́тнасьць, істо́та.**

**ЕСТЕСТВОВѢДЕНІЕ** -**істотаве́даньне.**

**ЕСТЬ**, **е́сьць, е́сьціка, е́сьцьны.**

**ЕТО**, **гэта.**

**ЕФРЕЙТОР** *м. ням.* ніжны вайсковец, памочнік падафіцэра; **паво́дчык, паво́дны.** У дравасекаў паводчыкам называюць старшага ў справах работы работніка, які „водзіць".

**ЕХИДНА**, ядавітая вужака цёплых краёў; **эхідна.**

**ЕХИДНЫЙ**, хітры і злосны; **хітразло́сны, злоўмільны.**

**ЕЩЕ** *прысл.* **яшчэ.**

## Ж.

**ЖАБА** *ж.* полаз роду жаб; **рапу́ха.** *Жаба, па расійску—лягушка.*

**ЖАБРЫ**, бакавыя прарэхі каля пічэляпаў рыбы; **зя́бры.**

**ЖАВОРОНОК** *птушка* Alauda; **жаўру́к, жаўрэц.**

**ЖАЖДА** *ж.* позыў да піцьця; **спра́га, пра́гнасьць, пра́гнуць, прагне́ньне** (ад „пражыцца", рас. „жарится" ва ўласным соку); Смага, не пачуцьце́ хаценьня піць, а вынік хаценьня піць, засыханьне ў губе і асяданьне засохшай сьліны на вуснах і языку.

**ЖАДНОСТЬ, прагаві́тасьць, прагаві́ты, прагаце́сь.**

**ЖАЛИТЬ** *каго,* калоць, раніць тонкім вострывам; **жыга́ць, жыгну́ў, жыгу́н; джга́ць, джгну́ў, джыгу́н: стрыка́ць, стрыкну́ў.** *Вужака, пчала жыгнула, джыгнула, джганула ў нагу. Крапіва стрыкаецца; Пастрыкаў саебе рукі крапівай.* Дробная крапіва завецца **жыгучка.**

**ЖАЛО** *ср.* **жагло, жыгала, джагло.** *Пчала як укусіць, то і жагло сваё пакіне. Язык, як вужачае джагло, так і джыгае ў сэрца.*

**ЖАЛКІЙ,** годны жалю, літасьці; **жаласны.** *Жаласны выгляд. Гэта жаласная песьня. Ен жаласна апавядае.*

**ЖАЛЬ** *ж, агульн. слав.* **жаль, жалець, жаласны, жальнік,** магіла, магільнік (*Богіна, Дзісн. пав.*). Маецца каля Богіна, недалёка ад возера перадгістарычны магільнік, які называюць ж а л ь н і к, а ўсё урочышча Ж а л ь б о р. Праўдападобна ж а лейка, ад „жаль".

**ЖАЛОСТНЫЙ жаласьлівы.**

**ЖАЛОВАТЬ,** *каго,* любіць, мець у пашане і дарыць каму што; **абдарываць, абдаровываць; надаваць, наданьне.**

**ЖАЛОБА** *ж.* **абжаленьне, жаліцца.** *Жаліўся мне ўнук, што ты яго уквяліў. Абжаліў у суд. Напішы абжаленьне ў суд.*

**ЖАЛОВАНІЕ** *ср.* плата за працу; **пэнсія, дажа** *Сколькі дажы бярэш у месяц? (Празарокі, Вілейск. п.).*

**ЖАЛЮЗИ** *мн. нескл. франц.* акянніцы з дашчэчак, праз якія укосам праходзіць сьвятло; **рашатні, рашаценнь.**

**ЖАНДАРМ.** *м. франц.* вайсковая паліція; **жандар, жандарскі.**

**ЖАРГОН** *м. франц.* псаваная плўмеласьцю або чужымі словамі мова, **горгат;** мясцовая, правінцыяльная адмена мовы; **гамонка, дыялект.**

**ЖАР** *м.* высокая ступень, цяпла ад сонца, ці ад агня; **пал, пякота, сьпека, гарачыня, упал.** *Летам у нас пачынаюцца упалы. Ня так дакучае само жніво, як тая с ь п е к а, с ь п я к о т а. Гарачыня ад печы так і шугае.*

**ЖАР-ПТИЦА,** баечная птушка на якой пёры як жар гараць; **жар—птаха.** Жар-птаха, зьяўляецца сымвалам сонца; выбражае яе народная міфалогія як птушку з дзявочай галавой.

**ЖАРКОЕ** *ср.* печаная мяса; **пячэня, пражаніна**

**ЖАРИТЬ** *што*, **пражыць, пражыцца**. *Пражаны гарох; пражаная бульба, яечня. Пражыць пячэню.*

**ЖАРОТОК**, дробныя жаркіе вугалькі; **прысок**.

**ЖАРОВНЯ**, начыньне да трыманьня жару, гарачых вугалёў: **жарніца**.

**ЖАРКО**, **горача, палка, скварна**. *Небо от сквары Божества его вскурится (Срезн).*

**ЖАСМИН** *расьц.* Philadelphus coranarius; *язьмін.*

**ЖАТЬ** *што*, **цiснуць, гнясьці, гнобіць, шчаміць, муліць**. *Цiснуць, муляюць боты. Шчэміць сэрца маё жаль непазбытны. Гняце цяжар зьверху ў ніз. Гнобіць пан наймітаў, як калісь гнобіў падданых. Сашчаміў рукі, зубы.*

**ЖАТВА**. **жніво, жаць, жняя, жанцы**.

**ЖЕВАТЬ** *што*, перамалываць зубамі; **жваць, жве, жвакаць. жвякаць, жвакацца, жвакі, жваць жвякун, жвак, жвака, жвачка, жвала; жумрыць жамжурыць** скоранька жваць, перамалываць зубамі.

**ЖГУЧІЙ**, **палкі, палкасьць**. *Палкае сонца. Палкае каханьне. Палкасьць у грудзёх чую. Палкі погляд. Палкае сэрца.*

**ЖГУТ**, хустка ці ручнік зьвіты вяроўкай; **пытка**.

**ЖДАТЬ** *чаго*, **ждаць, жданьне, жданы, жданкі, ждальны, ждальнік; чакаць, чаканьне, чаканы, чаканьне, чакач**.

**ЖЕЗЛ** *м.* **посах, ляска**. *Ляска маршалкоўская, і біскупская.*

**ЖЕЛАТИНА** *ж. франц.* **жалятына; клейчык**.

**ЖЕЛАТЬ** *чаго*, **жадаць, жадзець**—крэпка хацець чаго **жаданьне**, хаценьне, **жадаба** тое што расійскае, „алчба", „жадность".

**ЖЕЛАННЫЙ** **жаданы, пажаданы**. *Пажаданы госьць.* **Пажаданьне**. *Найлепшые табе мае пажаданьні.*

**ЖЕЛВАК,** цьвёрдая, клубавістая пухліна на целе; **жаўлак, жаўлаты; валбук, валдыр, вулдыр, вудыр.**

**ЖЕЛЕ** *франц.* квашаніна, дрыжэль з фруктаў або ягад: **дрыжэль.**

**ЖЕЛЕЗА** *анат.* **залоза, залозны; ıручола, ручолы.**

**ЖЕЛКНУТЬ, жоўкнуць, жуцець, жутлы, жоўць, жоўты, жаўцець.** Ж у ц е ц ь, ж у т л ы запісана каля Ільлі *(Вілейск. пав.).*

**ЖЕЛНА, чорны дзяцел, жаўна.**

**ЖЕЛОБ** *м.* доўгая і вузкая ўклясласьць; **жолаб, жалубіць, жалабок. жалубісты, жалонка, жалубаўка,** вадасточны латок пры страсе да сьцяканьня вады, найчасьцей з бляхі.

**ЖЕЛТЫЙ** *ад колеру, барвы, масьці;* барвы сонца або золата, рожных адценкаў; **жоўты, жоўценькі, жаўтаваты, жоўтасьць, жаўціня, жаўцізна, жаўтуха, жаўцянка, жаўтушка, жоўтны, жутлы, жуцець, жаўцяк, жаўтух, жаўтыш, жаўціць, жаўцець.**

**ЖЕЛЧЬ** *ж. анат.* **жоўць, жаўцявы;** горыч і неспрыяйнасьць: **жоўць, жоўцьны, жоўцьнасьць.** *Не славамі ўжо, а жоўцю ў вочы брызгае. У яе гэтулькі набралася жоўцьнасьці на сэрцы. Ен чалавек жоўцьны, з ім трэба ветла.*

**ЖЕЛУДОК** *м. анат.* мясісты мяшок у версе брушной падзі ў якім ператраўляецца ежа; ён ляжыць ўсутыч пад груда-брушнай балонай („діафрагма“), становячы прадоўжаньне глытніцы, другім канцом, звужаючыся пераходзіць у кішку; **жалудак, жалудкавы, жалудны; пехцяр.**

**ЖЕЛУДЬ,** плод дрэва дуба; **жолуд, жалудны, жалуднік.**

**ЖЕЛЁЗО** *ср. коў,* **зялеза, зялезны, зялезца, зялезьнік, зялезісты, зялезіна, зялезіца, зелязняк, зелязянка.** У нашай новай літэратуры на перакор народнаму з я л е з а, пачалі пісаць, нет ведама чаму „ж а л е з а“, што зьяўляецца барбарызмам.

**ЖЕМАНИТЬСЯ, карэжыцца, карэжлівы; жамоніцца** (*Смален.*).

**ЖЕМЧУГ** *м.* самародныя клубікі, якія творацца ў чарупках асобнай адмены смаўжоў, цэненыя нараўне з дарагімі каменьнямі; **жанч*у*г, жанч*у*жына, жанч*у*жны, пэрла, пэрл*о*вы. пэрліцца.**

Да ўвівала пэрлоў венчык,
Да ўскладала на галоўку,
На галовку на буйную (Р. 8—9. 172).

**ЖЕНА** *ж.* замужняя жанчына; **жан*а*, ж*о*нка, ж*о*начка, жанав*а*ць, с*у*жанка; палав*і*ца, паплеч-ніца.**

**ЖЕНЩИНА** *ж.* наагул асоба жаночай постаці; **жанк*а*, жанч*ы*на, жан*о*чы, жанк*і*, жан*о*та, жан*о*тлівы, жан*о*цкі.** Часта ў мове нашай ужываюць замест ж а н к а, польскі барбарызм „кабета“. Слова кабета нават у палякаў яшчэ ў XVI ст. лічылася лаічывым (гл. „Słownik języka polskiego“ Linde.), бо яно паходзіць ад „kobič“--чараваць і азначае —чараўніца, ведзьма.

**ЖЕНИТЬСЯ** *аб мужчыне,* браць сабе жонку, вянчацца: **жан*і*цца, жан*і*ць, жаньб*а*, жан*і*цьба, жан*і*х, жан*а*ты.**

**ЖЕНОХОТСТВО, ЖЕНОБѢСІЕ, жанах*о*тлівасьць, жан*о*шальства.**

**ЖЕНООБРАЗНЫЙ, жанопаст*а*тны, баб*е*лісты, бабав*і*сты.**

**ЖЕНОУГОДЛИВЫЙ, жанопак*о*рлівы, бабат*у*л, бабат*у*лькі.**

**ЖЕНИРОВАТЬ** *каго, франц.* **амбарасав*а*ць, сар*о*міць.**

**ЖЕРДЬ** *ж.* адносна тонкі і доўгі шост; **жэрдзь, жэрдка, жэрдачка, жардз*і*сты, жардав*і*на,** жардавік, плот з жардззздзя; **жардз*і*ць,** гарадзіць плот; **жэрдня** будова з жардзей да сушэньня гароху, выкі, канюшыны ці мядзіліны; **жардаўн*я*, жардав*е*нь** аб тонкіх і высокіх людзях; **жардн*я*к,** лес, прыгодны на жэрдзі.

**ЖЕРЕБЕЦ** *м*, някладзены конскі самец; **жарабец, жарабок, жарабя, жаробчык, жаробная** аб кабыле якая носіць плод; **жарабіць, жарабятніца**.

**ЖЕРЛИЦА** *ж*. вуда на шчупакоў; **вудаўня**.

**ЖЕРЛО** *ср*. **горла, рыгво**.

**ЖЕРНОВ** *м*. млынскі камень; **жарнавень, жарнавы** *мн.;* **жарнаўні, жорны, жоранцы**; **жорнаклёў, жорасек**, майстар які высякае жорны; **жарнавік, жарновец**, камень надатны да вырабу жорнаў.

**ЖЕРТВА** *ж*, пажыранае, што гіне, прападае; што аддаю, чаго пазбываюся безпаваротна; хто пацярпеў ад якіх прычын; **ахвяра, ахвярнік, ахвяровываць**. *Арх*.: **жэртва**.

**ЖЕРТВЕННИК**, **аўтар, аўтарны**.

**ЖЕРТВОВАНІЕ** *ср*. **ахвяраваньне**.

**ЖЕРТВОВАТЕЛЬ** *м*. **ахвяроўнік—роўніца, ахвярнасьць**.

**ЖЕСТКІЙ, цьвёрды, каляны, жоскі, шорскі**. *Каляная скура, ледзь угнеш яе. Адзежа намокла спярша, пасьля замёрзла і зрабілася саўсім калянай, Акалянеў на холадзе.* **Каструбісты**. *Тканіна грубая, каструбістая. Цьвёрдая, жоская пасьцель. Жоскі чалавек. Шорская воўна, тканіна.*

**ЖЕСТОКІЙ**, жоскі, цьвёрды, у стасунку да другіх, чалавек без жаласьці, жаласьлівасьці; **жорскі** (ад „жарства"), **жорскасьць, жарсьцець**—станавіцца больш жоскім, неміласэрным. **Шорскі, шорсткі** ня ветлівы. *Ветла адказаў, але жорска паступіў, і, наадварот, жорска гаварыў, але людзка паступіў.*

**ЖЕСТ** *м. франц*. **спокіў, кіў, спокіўкі, спокіўкам**. *Спокіўкам рукі паклікаў яго. Кінь ты ўсе гэты сваеківы і покіўкі рукамі. З нямым трэба на ківы гаварыць. Ён толькі зрабіў моўчкі спокіў рукой на знак звае згоды.*

**ЖЕСТЬ** *ж*. жалеза ў аркушах; **бляха, бляшка, бляшаны, бляшанка**, начыньне з бляхі: **бляхар**,

майстар які робіць з бляхі рожныя вырабы; **бляхарня**, фабрыка дзе робяць бляху; **бляхаваць**, абіваць што бляхаю.

**ЖЕТОН** *м. франц.* адбітка на блясе рысунку ў форме мэдалю, пічыта і інш.: **пазнамок**.

**ЖЕЧЬ** *што*, **паліць, паленьне, палкі; палена, палкасьць.**

**ЖИВОЙ** *агульн. слав.* хто жыве, ў кім, або ў чым ёсьць жыцьцё; **жывы, жывенькі, жывіць, жывучасьць, жыць, жыўцом.**

**ЖИВИТЕЛЬНЫЙ, ажыўчы, ажыцяўляючы.** *Ажыўчая волага. Ажыўчая надзея. Ажыцяўляючая пабудка.*

**ЖИВОДЕР** *м.* хто займаецца зьніманьнем скур з дохлай жывёлы; **ракар, скуралуп, скуралупня, скуралупства.** Што датыча слова ракар, то яно больш тасуецца да таго, хто абдзірае людзкія трупы, прынамні мне прыходзілася чуць яго ў гэтым значэньні, як лаянку.

**ЖИВОНАЧАЛІЕ** *ср.* **жыцёпачатнасьць, жыцёпачатны.**

**ЖИВОНОСНЫЙ, жыцьцяносны, жыцьцяносбіт.**

**ЖИВОПИСЬ,** умецтва выабражаць рэчы пры помачы фарб; **малярства, малярскі, маляваць, малюнак.**

**ЖИВОПИСНЫЙ, малёўны, маляўнічасьць.** *Малёўныя абразы зн. намаляваныя фарбамі. Малёўныя ваколіцы; прыгожыя, вартыя быць намаляванымі.*

**ЖИВОПИТАТЕЛЬНЫЙ, насытны.** *У дзяжы падыходзісты, на стале насыцісты, людзям на здароўе (аб хлебе).*

**ЖИВОСѢЧЕНІЕ** *ср.* **роспаласьць.**

**ЖИВОРОСЛЬ** *ср.* напоў жывёла, напоў расьціна напр. паліп, караль; **жыварасьць.**

**ЖИВОРИБНЫЙ САДОК,** жыварыбны **саднік, саднічок.**

**ЖИВОТВОРИТЕЛЬНЫЙ, ажыцяўляючы, ажыцёўленьне, жывадзейлівы.**

**ЖИВОТВОРИТЕЛЬ ажыцеўнік, жыцьцятворнік, жывадзецель.**

**ЖИВОТРЕПЕЩУЩІЙ, жыватроплівы.**

**ЖИВОТ** *м.* брушная падзь ад грудзей да лагі; **жывот, жываты, жываток, жывоцік.**

**ЖИВОТНОЕ** *ср*, усё што жыве і дыхае; **жывёла, жывёліна, жывіна, жывінка, жывёлка, жывучы, жывучасьць, жывец.**

**ЖИВОТНОРАСТЕНІЕ** *ср.* **жывurasьць.**

**ЖИВОТОДАТЕЛЬ, жыцьцёдавец, жыцьцёдаўчы.**

**ЖИВОТОЛЮБЕЦ, жыцялюб.**

**ЖИДКІЙ**, нягусты, плаўкі, вадзяністы, процілеглае густому; **рэдкі, радзець, рэдкаваты.** *Рэдкая крупеня. Рэдкае палатно. Чым вышэй мы падымемся ўверх тым радзейшае будзе паветра.*

**ЖИДКОСТЬ** *ж.* своўасьць рэдкага; рэдкая матэрыя якая цячэ; **цякоміна, цеклаць, цякомы, цякомісты, цякомлівы.** Некаторыя замест цякоміна ўжываюць слова *жыжка*, якое ў народнай мове служыць тэрмінам для названьня сопару што выцякае з хлявоў, навозны сок. Праўда, мяйсцамі кажуць: *Густыш зьеў, а жыжку пакінуў.* Але такжа умеюць адказаць гаспадыні: *Пашукай жыжкі за хлявом, а ня ў місе.*

**ЖИЗНЬ** *ж. агульн. слав.*; **жыцьцё, жыцьцёвы, жыцьцёвасьць, жыць.** *Трэба жыць, як набяжыць. Жыцьцё наша гаротнае.* **Жытка, жытамка.** *От так уся іх горкая жытка прад ачу і стаіць (Сержп. стр. 3).*

**ЖИЗНЕНОСТЬ, жыцьцёвасьць, жывучасьць.** *Жыцьцёвая праўда так вучыць. Жывучы чалавек, жывёла. Гэта стварэньне жывучае.*

**ЖИЗНЕДАТЕЛЬ, жыцядаўнік, жыцьцедавец.**

**ЖИЗНЕОПИСАНІЕ, жыцёпіс, жыцьцепісец.**

**ЖИЗНЕРАДОСТНЫЙ, жыцёрадасны.**

**ЖИЗНЕСПОСОБНЫЙ, жыцьцёздатны.**

**ЖИЛА** *ж.* тоўстае валакно, ніткі, зьвязкі або трубачкі ў целе чалавека і жывёлы; **жылы, жыла, жыльны, жылаваты, жылкваты, жыліцца,** натужацца.

**ЖИЛЕТ** *м. фр.* безрукаўная кароткая вопратка да паясьніцы; **спанцэрка,** з польскага кажуць: **камізэлька.**

**ЖИЛЕЦ** *м.* **ЖИЛИЦА** *ж.* хто жывы, або каму яшчэ суджана жыць; **жыхар, жыхарка, жыхарскі.** Чалавек які часова пражывае у кватэры; **кватэранец, кватэранскі, кватэранцы, кватараваць.**

**ЖИЛИЩЕ** *ср.* дзе жывуць людзі; **жыльлё, жытло, пожыцьва, пожыцень, пожытнік, пожтны, пожытка, пожыць.** *Людзькія пожыцьвы называюць; хата, дом, харомы. Паеду да цёткі на пожытку. Наша жытло, займае цяпер пожыцень ці то, бач, кватэранец (Полацк),*

**ЖИМОЛОСТЬ** *дрэва кустовае,* Lonicera; **бружмель, бружмеліна.**

**ЖИРАНДОЛЬ** *м. фр,* вялікі падсьвечнік на многа сьвечак, стаячы або вісячы; **павук, сьвечнік, светаш.**

**ЖИР** *м.* **тук, клушч.** Сьвінны тук унутранны *сала,* вехні *саланіна;* авечы, барані, казліны і каровій *лой;* рыбі—*тук;* зайчы—*скром,* адгэтуль названьне зайца „скромчык“, „скрамчак“; птушачы—гусінны, курынны, качый *шмаляц;* мядзьведжы—*сала;* бабровы—*тусьцень;* тук выраблены з малака—*масла;* з калапень, маку, ільнянага семя—*алей,* дабываны з алівак—*аліва;* чорны рыбій тук да мазаньня скуры—*ворвань;* выганяны са смалістага дрэва *дзёгаць.* **Тук, тучна, тучыць, тучнець, тучнасьць, тучненькі, затаўка,** або **затука** заправа стравы з якога колечы туку, найчасьцей разцертага сала. **клушч, клусты, клусьцець, клусьтасьць, клускі, клускасьць, клусьціць.**

**ЖИРОВАЯ ТКАНЬ, клушчавая, тканка.**

**ЖИРОВАЯ КЛѢТКА, клушчавая клетка.**

**ЖИРОВОЕ ВЕЩЕСТВО, клушчавая матэрыя.**

**ЖИРНЫЙ СУП, клусты юшнік, клустая страва.**

**ЖИТЬ**, быць жывым, існаваць; **жыць, жыве, жыцца, жыцьцёвы.**

**ЖИТЕЛЬСТВО, асeласьць.**

**ЖИТЕЛЬСТВОВАТЬ**, жыць, **пражываць.**

**ЖИТЕЛЬ**, жыхар, **жыхарства.**

**ЖИТНИЦА** *ж.* **гумно.**

**ЖМУРИТЬ**, закрываць вочы павекамі; **сплюскаць, сплюснуць.** Сплюснуў вочы,—кажацца аб тым хто задрамаў і аб тых хто памер (Дзісна). **Самжыць.** *Ледь толькі самжыў павекі;* **мжыцца,** выдаецца мітурыцца; **мжонка,** тое што прымітурылася ў дрэмцы; **самжыў,** прысьніў (Зьдзітава). **Мітурыцца, зьмітнуць, міташь, мітурга, мітурасы.** *Чаго ты мітурышся („жмуришься“, „жмуриш глаза“). Зьмітнуў крыху,--ня спаў, а толькі здрамнуў. Чаго ты мітаеш вачамі? Толькі зьмітнуў павекі, ажны мне прымітурылася, што я дома. Калі я ішла каля магільніка прымітурылася мне, што нехта белы ківаецца, ажны была гэта бяроза (Полацак).* **Мітурасы,** бред у гарачцы (Нікіфор). **Мікрыць, мікрыцца.** *Вочы мікрацца, самі счыняюцца. Так спаць хочацца, што ў вачах мікрыцца (Орша).* **Мікраць**—„ильлюзія“, абман зроку. **Мікрынка** барвісты клубік, якія здаюцца чалавеку калі засыпае, згэтуль **мікры**-дробры, злудны. **Мікрыцца** ў вачу, знача як бытцам сыплюцца барвістыя клубікі.

**ЖМЫХИ,** *мн,* **ашакі.**

**ЖОКЕЙ** *м. англ.* конны слуга, які езьдзіць за панам; **гайдук.**

**ЖОМ** *м.* **цісло, гнёт.**

**ЖРАТЬ** *што,* **жорці, жарэ жарунок, жарун, жарво, жормя-жарэ, пожырам-жарэ, абжора, пражора, пожыр, пожырка.** *На такіх жаруноў пожыру не набярэшся. На пожырку прышоў.*

**Пожыр** або **пошыр,** корм для скацежы. *Лета мокрае, дык пошару, пожыру прыдзецца дакупляць (аб сене і саломе).*

**ЖРЕБІЙ** *м.* **кон. канаваць, наканована, канавацца.**

**ЖРЕЦ** *м.* паганскі сьвятар; духоўнік не хрысьціянскай веры, **аўтарнік, валхвец.**

**ЖУЖЖАТЬ.** выдаваць голас падобны да разцягнутага ж або **з,** надобна шчумялём, пчолам; **бзычэць бунець, брынець, дзунець, зыкань. зучэць, гімець.**

**ЖУИРОВАТЬ** *франц.* вясёла жыць, пацешыцца жыцьцём, праводзіць час на сьвецкіх забавах **гуляць, гуляка.**

**ЖУК** *м.* агульнае названьне каляна крылай жамяры; **жук, жучок, жучаўка. Жукавіна, жукавінка,** вочка, шчыток у пярсьцёнку. *Пярсьцёнак з адамантавай жукавінкай.*

**ЖУПЕЛ** *м.* гаручая смала, гарачыня і сморад; **сопар.**

**ЖУРАВЛЬ** *м.* вялікі птах заводу чапель; **жураў, журава, журавы, журавель. журавіха, жораў.**

**ЖУРНАЛ** *м. франц.* **дзеннік, штодзенная запісь.**

**ЖУРНАЛИСТ** *м. ф.* **выдавец, рэдактар** часопісі.

**ЖУРНАЛИСТИКА, часапісьменніцтва.**

**ЖУРЧАТЬ** выдаваць ціхі аднастайны голас, гаворыцца аб цякучай вадзе; **дзурчэць, дзунець. дунець.**

**ЖУЧИТЬ** *каго,* **жуціць** (ад „жуткі“ страшны), зн. **страшыць, прабіраць лаяць.**

# З.

**ЗАБВЕНІЕ** *ср.* **забыцьцё, забудзь, забудкі, запамкі, непрытомнасьць.** *Забудь гаюча, туга палюча. Сварка наша няхай ўзабудь пойдзе. На адзіноце ў забыцьці, жыцьцё правёў. У запамках мітурыцца ей нябошчык муж. У непрытомнасьці будучы прагаварылася.*

**ЗАБЕРЕМЕНѢТЬ, заступіць, зачэрыць.**

**ЗАБИВАТЬ** *што, куды, у што, чым;* **забівацъ, заганяць; забівацца, забіцьцё, забіўка, забойца,** хто забіў каго.

**ЗАБИРАТЬ** *што,* **забіраць, забіраньне, забор** доўг, крэдыт, павер; **забіркі** дробныя складачкі ў жаночай вопратцы для аздобнасьці; **забірчывасьць, заборчасьць,** забіраньне чужога; **забрацца** залязаць, узлязаць куды, **заборысты** крэпкі, пьяны.

**ЗАБЛАГОВРЕМЕННО,** *прысл.* **заўчасна, загадзя.**

**ЗАБЛАГОРАЗСУДИТЬ, забажаць.**

**ЗАБЛАГОРАЗСУДИЛОСЬ, забажалася.**

**ЗАБЛАЖИТЬ, забажаволіць.**

**ЗАБЛЕКЛЫЙ, зажохлы, засьвяўшы.**

**ЗАБЛУЖДАТЬ, блукаць, заблукаць** *Смаленск.* (Д. І, 569) **блушыць.**

**ЗАБЛУЖДАТЬСЯ, блукацца, памыляцца.**

**ЗАБЛУЖДЕНІЕ** *ср.* **заблудзь, памылковасьць.**

**ЗАБОЛОНЬ** *ж.* малады яшчэ неацьвярдзеўшы слой дрэва; **мязга, забалань.**

**ЗАБОЛѢТЬ, захварэць, захварэў.**

**ЗАБОРОЗДИТЬ, забаразнаваць.**

**ЗАБОРОНИТЬ, заскародзіць, забарнаваць.**

**ЗАБОТА** *ж.* **клопат, клопаты, клапатлівы, клапатлівец, клапацііцца, заклапацііцца, клопатны, клапоты.**

**ЗАБОТЛИВОСТЬ. клапатлівасьць, рупнасьць, дбайлівасьць, сгарэннасьць.**

**ЗАБРАКОВАТЬ**, **забракаваць**.

**ЗАБРАЛО** *ср.* **вастракол**: пярэдняя часьць шоламу, **прылбіца**.

**ЗАБРАСЫВАТЬ** *што, куды;* **закідаць**, **залукаць**, **зашпургаць**.

**ЗАБРОСОК** *м.* **закідзень**.

**ЗАБРЯКАТЬ** *чым.* **забразгаць**, **зазьвякаць**

**ЗАБУЛЬКОТАТЬ**, **забульбатаць**.

**ЗАБУХНУТЬ**, разшырыцца ад мокрасьці; **забракнуць**.

**ЗАБЫВАТЬ** *што*, **забываць**, **забывацца**, **забыцца**, **забудзь**, **забудкі**, **забыўное**.

**ЗАБЫВЧИВОСТЬ**, **забудчывасьць**, **запамкі**.

**ЗАВЕДЕНІЕ** *ср.* **установа**.

**ЗАВЕРБОВАТЬ** *каго*, **скаптаваць**.

**ЗАВЕРТКА**, кусочак дрэва ці зялеза які круціцца на цьвяку і служыць да запіраньня; **круцёлка**, **закрутка**.

**ЗАВЕРТЫВАТЬ** *што у што;* **завінаць**, **завіток**, **загартаць**, **згортак**.

**ЗАВИЗЖАТЬ**, **заскагатаць**.

**ЗАВЗДОРИТЬ**, **заспрэчацца**.

**ЗАВИДОВАТЬ** *каму*, *чаго;* **зайздросьціць**, **зайздросны**, **зайздросьнік—ца**; **завідаваць**, **завіднік—ца**, **завісьлівы**, **завісьць**. **завідушчы**, **завідучы**.

**ЗАВИНЧИВАТЬ** *што*, закручаць шрубом; **зашрубовываць**, **зашрубоўка**, **зашрубка** - тупое далатцо да закручваньня і адкручваньня шрубоў.

**ЗАВИСИМОСТЬ**, **залежнасьць**, **залежаць**.

**ЗАВЛАДѢТЬ** *чым.* **заваладаць**, **заўлада**, **заўладчык**, **заўладанец**.

**ЗАВЛЕКАТЬ**, **зацягаць**, **заманіваць**.

**ЗАВЛЕКАТЕЛЬНО**, **заманчыва**.

**ЗАВОД** *м.* сахарный—*цукроўня*, *цукраварня*; пивоваренный—*бровар*; крахмальный—*крахмальня* кожевенный—*гарбарня;* бумажный—*паперня;* кир-

пичный - *цэглярня;* водочный—*гарэльня, бровар;* плавильный—*гута;* жывотноводный—*расплоднік.*

**ЗАВОЕВАТЕЛЬ** *м.* заваёўнік.

**ЗАВОЛАКИВАТЬ** *што,* **зацягаць, засьневаць, забаланіваць.** *Зацягаў адзежу да немагчымасьці. Зацягні сані пад павець. Рана зацягаецца. Неба зацягнулася хмарамі. Яйкі пад курыцай ужо азасьціліся. Засьніла памяць.* **З а с ь н і т а к,** яйко якое зацямнела, ў якім пачало разьвівацца новае жыцьцё.

**ЗАВОПИТЬ, закрычаць, заякатаць.**

**ЗАВОРАЧИВАТЬ, завяртаць, заварот, закручаць, закрут, сукол, захіляць.**

**ЗАВСЕГДА** *прысл.* **заўсёды, заўсякчасна, заўсякдзенна, заўсякгодна, заўсёдна, заўсёднік.**

**ЗАВТРА** *прысл.* **заўтра, заўтрашні, заўтрае.**

**ЗАВТРАКАТЬ. сьнедаць, сьнеданьне, посьнедак.**

**ЗАВѢДЫВАТЬ** *што,* **загадываць, загадчык—дчыца.**

**ЗАВѢРЯТЬ** *каго што;* **запэўняць, запэўнены, запэўна, запэўнены; сцьвярджаць.** *Сьцьвердзіў сваім подпісам.*

**ЗАВѢСА** *ж.* **заслона, апона.**

**ЗАВѢТ,** пасьмертны наказ; **запавет, запаветны,** *Стары і Новы запавет. Бацькаўскі запавет.*

**ЗАВѢЩАНІЕ, запавет, запавечыць, запавечаньне, запавечаны, запавечнік, запавеча; адказаць** *каму, што;* **тэстамант, тэстатар, тэстамантальны** *(гл. Духовная),*

**ЗАВѢТНЫЙ, запаветны, запавечны.**

**ЗАВЯДАТЬ, вянуць, чануць.**

**ЗАГАДКА** *ж.* **загадка, заганка, загануць.**

**ЗАГАДОЧНЫЙ, загадковы, незразумелы.**

**ЗАҐИБНУТЬ, загінуць.**

**ЗАГЛАВІЕ** *ср.* першая страніца кнігі дзе дадзена названьне яе, а таксама названьне асобнага аддзелу кнігі; **агаловак, азагаловак.**

**ЗАГЛАЗНЫЙ,** зав*о*чны.

**ЗАГОВОР** *м.* чараўніцкае зашэптываньне хваробы; **замаўляньне, замовіць;** тайная змова многіх супроць ўлады; **змова, спрысяга.**

**ЗАГОТОВЛЯТЬ** *што*, **засобіць, засаб; загатоўваць, загатоўка, загатоўны.**

**ЗАГРАНИЧНЫЙ, заграні́чный, закардоны, замежны.**

**ЗАГРУЗИТЬ** *што,* **загаціць.**

**ЗАГУЛЯТЬ, загуляць, загульны, загулкі.**

**ЗАДАТАК, задатак, закупнае.**

**ЗАДВИГАТЬ** *што.* **засуваць, засовісты, засоўны.**

**ЗАДВИЖКА** *ж.* **засаўка, засоўнік.**

**ЗАДЕРНУТЬСЯ, засланіцца, закрыцца.**

**ЗАДЕРЖИВАТЬ** *што,* **затрымліваць, затрыманьне.** Аб крыві кажуць: **зацуркаваць,** калі кроў ц у р к о м цячэ.

**ЗАДЕРЖКА** *ж.* **затрымка, затрымліваць.**

**ЗАДЕРЖАНІЕ** *ср.* **затрыманьне.**

**ЗАДУМЧИВОСТЬ** *ж.* **задумлённасьць.**

**ЗАДУШЕВНЫЙ, задушны, закадычны.** *Задушны, закадычны прыяцель. Задушная тайна. Аддаў апошнюю сваю задушную капейку.*

**ЗАДОХНУТСЯ, затхнуцца, затыхаецца, затхлы, затха, затхласьць.**

**ЗАДНІЙ, пазадны, пазаднік, азадні.**

**ЗАД,** у чалавека і жывёлаў; **азадак, гузно гузло, гузлак, забедры, забедрыца, задаўка.**

**ЗАДОЛГО, аагадзя.**

**ЗАДОРИНА** *ж.* **закалубіна, сказа.**

**ЗАДѢВАТЬ** *каго чым,* **зачапаць, чапаць.**

**ЗАДѢЛЫВАТЬ** *што*, **закладаць, забіваць, заладжываць, запіхаць.** *Залажыў, заладзіў дзіру. Гэта акно трэба забіць дошкамі.*

**ЗАЕДИНО** *прысл.* **заадно.**

**ЗАЕМ** *м.* **позыч, пазычка, пазычаць, пазычаньне, пазычлівы, пазытчык, пазычковы, ўпозыч.** *Узяць ўпозыч; даць ў позыч. На пазычку памяць адна, на аддачу другая. Не пазычай, ня будзеш мець ворагаў.*

**ЗАЖАРИВАТЬ** *што*, **пражыць, прагчы.**

**ЗАЖАТЬ** *што*, **зашчаміць, зацiснуць,** *Зашчаміў, зацiснуў пальцы. Зашчаміла сэрца тугаю.*

**ЗАЖАВКАТЬ, зачвякаць.**

**ЗАЖЕЧЬ** *што*, **запаліць, запалячца, запальны, запальчывы.**

**ЗАЖИВЛЯТЬ**, зацяґаць рану; **гаіць, гойкі, гаючы, гаіцца, гаеньне.**

**ЗАЖИВО, за дажывоцьця, за жыцьця.**

**ЗАЖИТОЧНОСТЬ**, стан бязбеднасьці; **заможнасьць, заможлівасьць, заможна.** *Яны жывуць не багата і ня бедна, а так—заможна.*

**ЗАЖМУРИВАТЬ** *вочы*, **заплюскаць, самгнуць. сасьмірнуць, сазмікраць, сазмітраць.**

**ЗАЖОГА** *ж.* **запал.**

**ЗАЗДРАВНЫЙ, заздароўны, заздароўшчына, заздароўе.**

**ЗАЗОР** *м.*, **сорам, сорамна, сароміць, бязчэсьця, ганьба.**

**ЗАЗОРИТЬ** *каго.* **чарніць, чарненьне, ганьбіць,**

**ЗАЗЛОБА, зазласьць, назласьць.** *Па назласьці ён гэта робіць. У зазласьці сваей супроць мяне зацяўся.*

**ЗАЗНАМО, заведама, зазнайна.** *Заведамая няпраўда. Зазнайна не крадуць.*

**ЗАЗНОБЛЯТЬ, ЗАЗНОБИТЬ** *каго*, пратрымаць доўга на сьцюжы, прастудзіць; **зазябіць, зазяб-**

**леньне, зазяба:** улюбіць каго ў сябе; **заскаміць, заскамка, заскомачка, заскомінка.**

*Бель на рэчаньцы бяліла сабе сэрца заскаміла*
*Заскаміла малайцом, павянчана з удаўцом.*

*Ные і скаміць маё серца, знаць бяду чу'. Як пабачыла я сваё дзіцятка, заскамела душа, заныла сэрца (Полацак і Дзісна).* Заламаць нешта вострае, тонкае ў целе; **заскаміць, заскабіць, застраміць, закалоць.** *Заскаміла сабе палец шчэпкай. Па ім калі чорт пабяжыць і то нагу заскаміць (аб пушным сваім хлебе іронізуе вітабскі беларус). Застраміў будыль у палец. Закалоў нечым руку.* **Скаміць,** спэцифічнае пачуцьцё шчыплючага болю: *Заскамелі рукі палошчучы на марозе бялізну. Скаміць рана; скамяць старыя костачкі.*

**ЗАЗОЛЬНЫЙ, дакучлівы, апрыкроны.**

**ЗАЗОЛ** *м.* навар попелу; **луг, жлукто.**

**ЗАЗУБРИТЬ,** у чым зубрыны ёсьць, крывыя зубкі; **зазубіць, зубіцца, назубіў; закарбаваць, пашчарбіць.**

**ЗАЗЫВАТЬ** *каго,* **заклікаць, заклІканьне.**

**ЗАЗѢВАТЬСЯ засалупеніцца, засалупіцца, салапяка.**

**ЗАЙВЫЙ, збытны, лішні, не заняты.**

**ЗАИКАТЬ, заікаць, заікацца, заіклівы, заіклівец.**

**ЗАЙМАТЬ, пазычаць; занімаць.** *Пазычыў грошы, дабро, рэч. Агонь займае дровы. Вада заняла сенажаць. Ен заняў маё мейсца.*

**ЗАИМСТВОВАНІЕ запазычаньне, зепазычаць, запазычка.**

**ЗАИМОДАВЕЦ** *м.* **пазытчык, пазытчыцкі.**

**ЗАЙМОИМЕЦ** *м.* **пазычнік, пазычніцкі.**

**ЗАИНДЕВѢТЬ,** пакрыцца іглістым лёдам; **зашацьвець, заінець.** Ш а ц ь выступае пасьля крэпкіх

марозоў на дрэвах ў адлігу; і н е й асядае ў часе марозу ад пары.

**ЗАИНТЕРЕСОВАТЬ** *каго чым*, **зацік*а*віць, зацік*а*ўленьне, зацік*а*ўленасьць, зацік*а*ўскі.**

**ЗАИСКИВАТЬ** *у каго*, **забяг*а*ць, заб*е*гі; залашч*а*ць, залашч*а*цца, з*а*ластка, з*а*ласткі.** *Я заластак не люблю, проста ў вочы кажу. Ен залашчаецца перад старшынёю.*

**ЗАКАЗ,** рэч якую даручана каму зрабіць, або купіць; **зам*о*ўленьне, зам*о*ўлены замаўл*я*ць, зам*о*ўны, зам*о*віць.**

**ЗАКАЛЯТЬ,** надаваць сталі цьвёрдасьць раптоўным ахаладжаньнем; **гартав*а*ць, гарт*о*ўны, г*а*ртоўка, г*а*рт, загарт*о*ўка.**

**ЗАКАМЕНѢЛЫЙ, закам*е*лы, закам*е*ць.** *Закамелае сэрца, сумленьне. Закамеласьцю ў грахох сваіх да згубы ідзе. Хлеб ня толькі счарствеў але закамеў ужо.*

**ЗАКАТЫВАТЬ,** *што куды*, **зак*а*чываць.** *Закаці панарад у павець. Закаці бочку у падклецьце.*

**ЗАКАТЫВАТЬСЯ, зак*а*чызацца.**

**ЗАКАТ** *сонца*, **сут*о*н, сутун*я*ць, сукл*о*н.** *На суклоне сонца.*

**ЗАКАТИСТЫЙ, зак*о*цісты,** аб песьні: **заг*о*лская** (ад „галсчэць“ даваць працяжны гул).

**ЗАКВАСКА** *ж.* **з*а*кісь, з*а*квась, заքв*а*ска.**

**ЗАКЛЕЙМИТЬ** *што*, **заклейнав*а*ць, кляйно, кл*е*йнад (?).**

**ЗАКЛИНИТЬ** *што*, **заклінав*а*ць.**

**ЗАКЛОХТАТЬ** *аб вадзе*, **заклыкт*а*ць,** *аб курыцы*, **заквакт*а*ць, зак*о*хаць.**

**ЗАКЛЕПАТЬ** *што*, **зап*е*хціць, прып*е*хціць, пр*ы*петка; ніт, нітав*а*ць.**

**ЗАКЛЮЧАТЬ** *каго, што*; акружаць, абнімаць кругам; **заключ*а*ць, агарт*а*ць, абыйм*а*ць, завір*а*ць;** зачыняць, браць пад варту, **узяць пад за-**

пор, **вязьніць**; зяцьвярджаць, пастанаўляць, завяршаць, заканчаць.

**ЗАКЛЮЧЕНІЕ, вывад, дакончаньне.**

**ЗАКОБЕНИТЬ—СЯ, закарэжыцца.**

**ЗАКОВЫКА, закалубіна.**

**ЗАКОВЫРНУТЬ, закалубнуць, закалубіна, закалубка.**

**ЗАКОВЫРИСТЫЙ, закалубісты, закалубчывы.**

**ЗАКОЖНЫЙ, заскурны.**

**ЗАКОЖАВѢТЬ; заскажурыцца, скажурка; заскарупнуць, скарупка.**

**ЗАКОЛАЧИВАТЬ, забіваць.** *Трэба пазабіваць вокны, дзіры ў памосьце.*

**ЗАКОЛДОВАТЬ** *што, каго*; **зачараваць, зачараваны.**

**ЗАКОНОПАТИТЬ** *вадаплаў, сьцяну*; **запакляваць.**

**ЗАКОН** *м.* У старой нашай літэратуры сьцісла разрожнівалі **закон і права**: пад тэрмінам з а к о н разумелі аткрыцьце звышы, якое становіць істоту веры. *Закону рымскага; закону грэцкага.* Пад тэрмінам п р а в а—агранічэньні пастаўленыя свабодзе волі і дзейнасьці вышэйшай дзяржаўнай ўладай.

**ЗАКОННО, праўна.**

**ЗАКОНОВѢД, прававеда.**

**ЗАКОНОДАТЕЛЬ, правадатнік, правадаўства.**

**ЗАКОНОПОЛОЖНИК, праваасноўнік.**

**ЗАКОНОПОЛОЖЕНІЕ, праваасноваваньне.**

**ЗАКОНОПРЕСТУПНИК, праваправаступнік.**

**ЗАКОНОУЧЕНІЕ, прававуцтва, прававучыцель.**

**ЗАКОРЯЧИТЬСЯ, закарэжыцца.**

**ЗАКОРЕНѢТЬ, закараніцца, закаранець.**

**ЗАКОРТОЧКИ, кукярэчкі,** *Сідзяць каля вагня на кукярэчках. Скукярэчыўся ў куточку.*

**ЗАКОСТѢНЕНІЕ** *ср.* **закастыраньне, закастырыць, кастырнік.**

**ЗАКОУЛОК** *м.* **завулак.** Глухая вулка, якая ня мае ў другім канцы праходу.

**ЗАКОЧЕВРЯЖИТСЯ, закачарыжыцца.**

**ЗАКОЧЕНѢТЬ, засьцерпнуць, задзярвець, адзярвець; закрэпнуць, закалець.**

**ЗАКРОЙЩИК—ЦА,** хто займаецца кройкай, выкрайкай вопраткі; **закройчы, закройчыца.**

**ЗАКРИВЛЕНІЕ, закрыўленьне, закрывуліна.**

**ЗАКРОМ** *м.* загародка ў клеці да зсыпаньня збожжа; **аруд, засек, сусек.**

**ЗАКРЮЧИНИТЬСЯ, прыгарусьціцца.**

**ЗАКРЫВАТЬ** *што,* **закрываць, прыкрываць** нечым зверху; *аб дзьвярох,* **зачыняць.**

**ЗАКРѢПЛЯТЬ** *што,* **замацовываць.**

**ЗАКРѢПА** *ж.* **ніт, нітаваць.** *Зьнітаваў абруч.*

**ЗАКУПАТЬ** *што,* **закупляць, закупшчык, закуп.**

**ЗАКУПОРИВАТЬ** *бутэльку,* **закарковываць, каркаваць,**

**ЗАКУСКА** *ж.* **перакуска.** *Перакусілі на папасе.*

**ЗАКУТИТЬ, заматыжыць, заматыга, заматыжлівы** *(Смаленск).*

**ЗАКУТЫВАТЬ** *што чым у што,* **завіваць, спавіваць, загартаць, захутываць.** *Завіні дзіця ў кажух. Туга не спавівай дзіцяці ў полкі. Загарні куплі ў паперу.*

**ЗАЛА** *ж,* **ЗАЛ** *м.* абшырны пакой для прыйма гасьцей, сабраньняў, забаваў; **заля.** Здаецца гэтае чужаземнае слова можна заступіць старакрыўскім — *грыдня.*

**ЗАЛАВОК** *м.,* доўгі глухі стол у краме; **лаўнік, стойка.** *Смаленск.:* **залавень.**

**ЗАЛЕБЕЗИТЬ, заласчыцца, залашчывацца, залёсьціць.**

**ЗАЛЕЖ,** *м.* стан ляжачага; **залеж, адлог, папар, паклад.**

**ЗАЛЕДЕНИТЬ** *што,* **залядовіць, залядоўлены.**

**ЗАЛЕПЕТАТЬ, запальпатаць, залепяняць, залапатаць.**

**ЗАЛИВ** *м.* вада якая ўдалася ў сушу, заліла; **затока, затон.**

**ЗАЛИХВАТ** *м.* **хват, хвацкі.** *Хвацка пяе дзеўка. Хвацкі конь, язда.*

**ЗАЛИЦОВЫВАТЬ** *што,* паднаўляць старое, закрываць падфарбоўкай, падмалёўкай псаванае; **заліхтовываць, заліхтаваць, заліхтоўка.** *Заліхтоўваць дзіры ў скуры. Заліхтаваў, выліхтаваў старыя мэблі.*

**ЗАЛОГ** *м.* **зарука, заклад.** *Аддаў у заклад гадзіннік. Узяў ў заклад ад яго рэчы. Гэта будзе нам зарука сямейнага шчасьця. Зарука лепшай будучыны.*

**ЗАЛП** *м.* адначасовы выстрэл многіх гармат, стрэльбаў; **раптуг, раптугом.**

**ЗАЛУЖИТЬ** *ральлю,* даць ей **задзірванець; закінуць, запусьціць.**

**ЗАЛУПА** *анат,* **залупіна, чапец.**

**ЗАЛУЧИТЬ** *каго куды,* **застаць.** *Як бы мне яго застаць дома.*

**ЗАЛ** (гл.—„Зала").

**ЗАЛЬНУТЬ** *чым.,* **заліпнуць, загліпнуць, загліпень.** *Заліп нос. Загліплі вушы.*

**ЗАМАКУШИНА** *ж.* удар па запатылку; **запатыльня, запатыльнік.**

**ЗАМАЗКА** *ж.* цеста з крэйды і пакосту да залепліваньня вакон; **кіт, кітаваць, кітаваньне.**

**ЗАМАНИВАТЬ** *каго куды,* **заманіваць, прываблівaць, прынаджываць.**

**ЗАМАРЯТЬ,** *што,* **запэцкаць, загвазграць.** *Запэцкаў сабе кашулю. Загвазграў чарнілам пареру.*

**ЗАМАРЬЯЖИТЬСЯ** *жартл.* быць у сужывецтве бяз шлюбу; **адружыца, адружыніцца.**

**ЗАМАСКИРОВЫВАТЬ** *каго, што,* **замасковываць.**

**ЗАМАСЛИВАТЬ** *што,* **замазгрываць, замазграны.** *Замазгараў паперу рукавом. Ходзіць замазганы, забруджаны.*

**ЗАМАРЯХА** *ж.* **мурзацік, мурзы, замурзаны.**

**ЗАМАТЕРѢТЬ** *або* **ЗАМАТОРѢТЬ, застарэць, закастырыць.** *Закастырала дзеўка дзявуючы.*

**ЗАМЕДЛЯТЬ** *што або чым,* **спаволіваць, споволіць; прыбарываць, прыбарны; амаруджаваць, амарудлівы, замінаць, замінка.**

**ЗАМЕЛЬКАТЬ, замігцець,** *Замігцаў у начы аганёк.*

**ЗАМЕРЕЩИТЬСЯ** *што,* **замярэсьцііцца.**

**ЗАМЕРТВѢТЬ, замярцвець, задзярвець.**

**ЗАМЕРТВО** *прысл.* **замерцьва.**

**ЗАМОК** *м.* **замок, замыкаць, замчысты, замкнуць, замкнутасьць.**

**ЗАМОК** *м.* будынак умацаваны валам і байніцамі: **замак, замковы, замкі.**

**ЗАМОЛВЛЯТЬ** *слова за каго;* **замаўляць, замоўлены.**

**ЗАМОЛКАТЬ, замаўкаць, замоўклы, замоўкласьць.**

**ЗАМОЛЧИ, змоўні!** *Змоўкні ты дрдка, змоўкні галубка. Замоўкні, ты. сэрца маё!*

**ЗАМУХРИГА,** замурзай, замурзацік, **мурзацік.**

**ЗАМША** *ж.* скура мяккога аксамістага вырабу; **ірха, ірховы.** *Ірховыя рукавіцы, куртка, торба,*

**ЗАМѢСТИТЕЛЬ, заступнік, намесьнік.**

**ЗАМѢЧАТЬ** *што,* **заўважаць, заўвага.** *Вучыцель зрабіў заўвагу. Якжа я маю не заўважыць твайго шпількаваньня.*

**ЗАМѢЧАТЕЛЬНЫЙ знаменны, вызначлівы.**

**ЗАМѢТНЫЙ**, **вызначны, відочны**, *Вучань зрабіў вызначны поступ у навуках.*

**ЗАМѢШАТЕЛЬСТВО**, **замяшаньне, замешка.**

**ЗАМѢЩАТЬ** *што чым*, **заступаць.**

**ЗАНАВѢСКА** *ж.*, **запавеска.** *Белыя запавесачкі на вокнах.* **Атола, атолка,** запавеска над калыскай.

**ЗАНАВѢС** *м.* **запавеса.** *Запавесаю разьдзялілі хату на двое.*

**ЗАНАДОБИТЬСЯ**, **запатрэбіцца.**

**ЗАНОСЧИВОСТЬ**, **задорлівасьць, задорысты; заўзятасьць.**

**ЗАНОЗА** *ж.* **заскамка, заскабіць, застрамка, закол.** *Ад заколу палец разбрак. Заскамка ўлезла ў палец.*

**ЗАНОС** *сьнегавы*, **задзьма, завея.** *Зав яй гурбы сьнегу панавявала. Задзьма такая, што сьвету не відаць.*

**ЗАНУЗДАТЬ** *каня*, **забрытаць.**

**ЗАНЯТІЕ** *ср.* **занятак, заняцьце.** *Вез ніякага занятку лындае па вёсцы.*

**ЗАПАД** *м.* старана дзе заходзіць сонца; **захад, сутон.**

**ЗАПАЗДЫВАТЬ** *дзе*, **спазьняцца, позьніцца.** *Ты не спазьняйся дамоў.*

**ЗАПАЯТЬ** *што*, **злютаваць, залютаваць.** *Залютуй дзірку ў самавары.* Зялеза *зварываюць* пры помачы пяску або медзі, медзь-жа, цыну, бляху *лютуюць.*

**ЗАПАКОСТИТЬ** *што*, **закасьціць, запаскудзіць.**

**ЗАПАЛЗЫВАТЬ** *куды*, **запаўзаць, запоўзьлік, запаўзень.**

**ЗАПАЛЫЙ**, **запаўшы, западзіна, западзь, падзь.** *Губная падзь; падзь жывата. Западзь у зямлі зрабілася.*

**ЗАПАСАТЬ** *што*, **спароміць, шчадзіць, засобіць.** *Ен дбайлівы гаспадар, штодзень штоко-*

*лечы прыспароміць у хату. Зашчадзіў, з а а ш ч а д з і ў капейку. Засобны гаспадар, а глядзі як усё ў з а с а б кладзе, засобіць на чорную гадзіну.*

**ЗАПАСНОЙ**, заспаромлены, захаваны ў запасе; **запасовы, запасны**.

**ЗАПАСЛИВЫЙ, зпасьлівы, зашчадлівы, засоблівы.**

**ЗАПАХИВАТЬ**, пачынаць араць; **заворываць.**

**ЗАПАХИВАТЬ** *вопратку*, закінуць адну палу на другую; **захістаць, захутаць.** *Захісьні сьвітку ды падпяражыся. Захісьні запавескі на вакне. Вышоў не з а х і т н у ў ш ы кажуха на мароз.*

**ЗАПАХ** *м.* **пах, пахучы, пахне.** *(Гл. „аромат").*

**ЗАПАЧКАТЬ** *што,* **запэцкаць.** *Запэцкаў вопратку, рукі.*

**ЗАПАЯТЬ** *што*, **залютаваць.**

**ЗАПЕРЕТЬ** *што,* **зачыніць, зачынены, зачыняць.** *Зачыні скрыню, дзьверы, акно. Толькі зачыні, але не замыкай на замок. І зачынена і замкнута скрыня. З а в о р ы ўсе цэлы, а дзьверы расчынены. З а х у т а й дзьверы (Віт.).*

**ЗАПЕРТЬ**, прылада да счыняньня; **завор.** *Заворыстыя, на заворах дзьверы.*

**ЗАПЕЧАЛИТЬ** *каго,* **засмуціць, засмута, засмутлівы, засмутлівасьць.**

**ЗАПЕЧАТЛѢВАТЬ** *што,* запячатаць у пераносным значэньні, ўмацаваць, зацьвердзіць у памяці ў сэрцы; **заўражаць, заўражаны, заўражаньне.** *Вернасьць сваю ён заўразіў крывёй сваей. Заўразіў сабе ў памяці час вайны і руіны. Заўразіліся мне ў памяці словы яго.*

**ЗАПЕЧЬ** *што*, **засьмяжыць, засмажыць, засмага, асмага.** *Трэба засмажыць бульбу з салам. Смажучыся пячэня п р ы с м а г л а да катла. Засмаг гарох у печы. Засмаглі вусны. Ласунок гэты ўсё толькі засмажкі зьбірае.*

**ЗАПИРЯТЬ** *што,* **зачыняць.** *Зачыні Дзьверы, кубел, вакно.*

**ЗАПЛАМЕНѢТЬ, запалым*е*ць, запыл*а*ць.**

**ЗАПЛАТКА** *ж.* **л*а*пінка, л*а*пiць, л*а*плік,** палапленая вопратка; **пал*а*плены** закрыты, зашыты лапінамі.

**ЗАПЛЕВАТЬ,** закідаць плювоцінамі ці харкацьцём; **зах*а*ркаць, запляв*а*ць.**

**ЗАПЛЕСНУТЬ, запял*ё*хнуць, запаласн*у*ць, заплюхнуць.**

**ЗАПЛЕСНЕВѢТЬ,** абрасьці цьвільлю; **зацьвілець.** *Хлеб пакрыўся цьвільлю, зацьвілеў.*

**ЗАПЛЕТАТЬ** *што,* **заплят*а*ць, заплят*а*ньне, запл*ё*т, з*а*плетка.**

**ЗАПОВѢДЫВАТЬ** *што каму,* **запавяд*а*ць, запав*е*дчык.**

**ЗАПОВѢДНЫЙ, заг*а*дны, забар*о*ны, зар*о*чны.** *Зарочны лес; зарочныя грошы.*

**ЗАПОВѢДЬ** *ж.* **заг*а*д, забар*о*на.** Слова з а п а в е д з ь у народзе мае значэньне заўчаснага веданьня, апавешчаньня аб чым колечы, але не загаду. *Людзі запавядалі што настануць гады руіны. Запаведзь былаісьці усім у воласьць. Не, такой запаведзі не было. Зрабі запаведзь на рынку каб прыхадзілі купляць яблыкі.*

**ЗАПОДОЗРѢНІЕ** *ср.* западгледжаньне за кім чаго; **запад*о*зраньне, запад*о*зранны; запас*о*чаны, запас*о*чаньне.**

**ЗАПОЙНЫЙ, заг*а*рны, з*а*цмыжны.**

**ЗАПОЙ** *м.* хвароба пэрыёдычнага пьянства; **заг*а*р.** *Загарны пьяніца.Загарам пье (Карэлічы).* **З*а*цмага.** *Як надойдзе на яго зацмага, то пье тыдзень, два,—пасьля і мінецца: гэта ўжо зацмыжны пьяніца (Дрыса).*

**ЗАПОРОЧИТЬ** *каго,* **зьнясл*а*віць, зг*а*ньбіць.**

**ЗАПОЛУЧАТЬ** *што,* браць наперад; **атр*ы*мліваць.**

**ЗАПОР** *м.* затрыманьне жывата; **затрым*а*ньне, з*а*цьвердзь.**

**ЗАПОТЧИВАТЬ** *каго*, **зачаставаць.**

**ЗАПРАВСКІЙ, запраўдны, запраўдзкі.**

**ЗАПРАЗДНОВАТЬ, засьвяткаваць.**

**ЗАПРЕЖНІЙ** *парадак*, **папярэдні.**

**ЗАПРЕСТОЛЬНЫЙ** які за царкоўным аўтаром, **зааўтарны;** які за пасадам, **запасадны.**

**ЗАПРЕТ** *м.* **забарона, забаронны.**

**ЗАПРЕЧЬ, запрагчы, запрэжаны, запражка.**

**ЗАПРЕЩАТЬ** *што каму*, **забараняць, забаронны.**

**ЗАПРИМѢЧАТЬ** *што*, **заўважаць, заўважны.**

**ЗАПРИТЧИТЬСЯ, прычмарыцца, прымсьціцца.**

**ЗАПРОДАВАТЬ, запрадаваць, запраданьне.**

**ЗАПРОКИНУТЬ** *што*, адкідаючы назад нагібаць; **закідаць.** *Закінуў галаву. Закінь калёсы ў права.*

**ЗАПРУЖИВАТЬ, загачываць, затамовываць.**

**ЗАПРУДА** *ж.* **гаць, тама.** *Затамавалі ваду ў рэчцы, пабудаваўшы таму, або гаць.*

**ЗАПРИГНУТЬ, заскочыць, заскок.**

**ЗАПРЯГАТЬ, запрагаць, запрагацца, запражка, запражны.**

**ЗАПРЯТЫВАТЬ** *што*, **заховываць, захавацца, захаваньне, захоў, заховісты.**

**ЗАПУГИВАТЬ** *каго*, **запужываць, запужаны, запалашываць, запалошаны.**

**ЗАПУПЫРѢТЬ,** пакрыцца высыпкай; **запузырэць, запрышчэць.**

**ЗАПУСКИ** бег на перагонкі: **выперадкі.** *Пусьціліся бегчы на выперадкі.*

**ЗАПУТЫВАТЬ** *што*, **заблутываць, заблутлівы, заблутка.** *Заблутаў ніткі на матку. Заблутлівая справа.*

*Ці травіцай ублуталася,*
*Ці расіцай умачылася?*
*Ні травіцай я аблуталася,*
*Ні расіцай абмачылася:*

*Аблутала чужа старана,*
*Абмачылі дробны сьлёзанькі (Бых. пав.).*

**ЗАПУСТѢНІЕ** *ср.* **запусьценьне**, **запусьцеласьць**, **спусташэньне**.

**ЗАПЫРЯТЬ**, **заджгаць**, **заджгалі**.

**ЗАПЫХАТЬСЯ**, **задыхацца**, **засапсьціся**, **засопся**. *Задыхаўся, засопся пакуль дайшоў.*

**ЗАПѢВАЛО**, той хто запявае; **запеўшчык**, **пачынальнік**.

*Наша плата невялічка:*
*Пачынальніку капу яец,*
*Капу яец, коўш гарэліцы. (Рагач. пав.).*

**ЗАПѢВАТЬ**, пачынаць песьню; **запяваць**, **запеўка**, **запеўны**.

**ЗАПЯСТІЕ**, верхняя часьць рукі што злучае далонь (пясьць) з лакцявымі суставамі; **прыцэўка**. Прылада да зашпіляньня: **зашпілка**, **сушпілка**, **манэлька**.

**ЗАПЯТАЯ** *ж.* пісарскі знак ( , ); **закамка**. У граматыцы Тарашкевіча: **коска**.

**ЗАПЯТНАТЬ** *што*, **запляміць**, **заплямлены**, **заплямленьне**, **запляма**.

**ЗАПЯТОК** *м.* задняя часьць бота якая акружае пяту; **запятнік**.

**ЗАРАБАТЫВАТЬ** *што*, зарабляць, заработак, зарабіць, зарабляньне, заработкі.

**ЗАРАЖАТЬ** *каго чым*, **заражаць**, **заражаны**, **заразьлівы**, **заразлівасьць**. Мяйсцамі, ў заходніх часьцях кажуць: **закажаць**, **закажаны**, **заказлівасьць**, **заказа**.

**ЗАРАЩИВАТЬ** *што*, **зарашчаць**, **зарастаньне**, **зарост**; **зарасьнік**, маладая порасьць лесу; **заросьціны**, мейсца якое зарасло.

**ЗАРДѢТЬ**, пачаць чырванець сьпеючы; **зажаўрэць**. *Сады зажаўрэлі. Аж жаўрае ў лесе ад ягад. Жаўрае неба.* **Зарумяніца**, **зарумянены**. *Румяныя яблыкі. Румяны хлопец. Дзеўка румяніцца, сароміцца.*

**ЗАРЕВО** *ср.* агністы водблеск на небасхіле ад сонца ці агня; **полынь, паланіца, паланее, паланець, паланлівасьць**, *Неба кроўю паланее. Зара паланее. Паланіца загарэлася на небе. Паланіца палыхае.*

**ЗАРИТЬСЯ, галіцца, квапіцца, яліцца.** *Галіцца, пагаліўся (паквапіўся) на чужую капейку. Гацліцца на маё дабро.*

**ЗАРЖАВѢТЬ, зааржавець, зааржаўлены.**

**ЗАРОЖДАТЬ** *што,* **зараджаць, зароджаны, зародак.**

**ЗАРОДОК** *м.* зачатак таго, што будзе роджана; **засьнітак, зародак.**

**ЗАРОНИТЬ** *што,* **запарушыць.** *Запарушыў агонь, вока.*

**ЗАРУБЛИВАТЬ** *што,* **засякаць, закарбовываць.** *Закарбуй гэта сабе на носе.*

**ЗАРУБИНА** *ж.* **карба, засечка.**

**ЗАРУЧАТЬ** *што,* **заручаць, заручны, заручаньне, зарука; заручына.**

**ЗАРЫВАТЬ** *што,* **закапываць, закапываньне, закопны, закопісты, закопнік.**

**ЗАРЫДАТЬ, наўзрыд заплакаць, захліпаць.**

**ЗАРѢШАТЬ, заканчаць.** *Закончылі справу.*

**ЗАРНИЦА** *ж.* маланьня бяз грому; **зігавіца.**

**ЗАРЯ** ясны шляк на кругазоры перад усходам сонца; **золак, сьвітаньне.**

**ЗАРЯЖАТЬ** *што,* класьць ладунак у агністрэльную прыладу: **ладункаваць, ладункаваньне, ладунковы, ладункар.**

**ЗАРЯД** *м.* патрон, сколькасьць пораху і куля ці шрот на адзін выстрэл; **ладунак, набой.**

**ЗАСАДА** *ж.* дзе можна засесьць, скрыцца цікуючы зьвера або ворага; **залога, засака.** *Ярабкаў найлепш страляць з засакі: будкі з зялёнага хворасту.*

**ЗАСАПОЖНЫЙ** *нож,* **захаляўны, захаляўнік.**

**ЗАСАСЫВАТЬ** *што*, **засыс*а*ць, зацм*а*ктываць.**

**ЗАСАХАРИТЬ** *што*, **зацукрав*а*ць.**

**ЗАСВАТЫВАТЬ** *каго*, **заруч*а*ць.** *Сягоньня заручанькі Бог нам даў, заручылі Агатаньку.*

**ЗАСВЕРКАТЬ, засьвігц*е*ць, замігц*е*ць.**

**ЗАСВИДѢТЕЛЬСТВОВАТЬ** *што*, **засьв*е*дчыць.**

**ЗАСВѢЧИВАТЬ** *што*, **засьвятляць.** *Засьвятліў лучыну.*

**ЗАСЕКВЕСТРОВЫВАТЬ** *маемасьць*, **займ*а*ць, з*а*ймнае, займ*о*.**

**ЗАСЕЛЯТЬ** *што*, **засяляць, засял*е*ньне, засе̃лак, з*а*селкі.**

**ЗАСЕМЕНИТЬ** забегаць са страху, зьдзіўленьня, дробна перабіраючы нагамі; **задр*ы*паць, задрыпатаць.** Адгэтуль сказ: *„даць драпака."*

**ЗАСЕРДИТЬСЯ** *на каго*, **зазлав*а*ць.**

**ЗАСИЗѢТЬ, зашыз*е*ць, зашызьв*е*лы.**

**ЗАСПРѢТЬ, засірац*е*ць.**

**ЗАСКАЛИТЬ** *зубы*, **ашч*ы*рыць, в*ы*скалубіць.**

**ЗАСКВЕРНЯТЬ** *што*, **запаск*у*джаць, заг*а*джваць.**

**ЗАСКОЛЬЗИТЬ, засьлізіць, засьлізгаць.**

**ЗАСКОРБѢТЬ, засмуц*і*ць, засм*у*тлівы.**

**ЗАСКРЕЖЕТАТЬ, заскр*ы*гаць.**

**ЗАСКУДѢТЬ, заял*е*ць, заял*е*лы; заскарп*е*ць.**

**ЗАСКУЧАТЬ, замарк*о*ціцца.**

**ЗАСЛАЩИВАТЬ, засал*а*джываць,**

**ЗАСЛУГА** *ж.* тое што дабыта службай; **засл*у*га, заслуж*ы*ць, засл*у*жнік—ца, засл*у*жлівы.**

**ЗАСЛУДИТЬ** *што*, пакрыць тонкай плеўкай; **засплыць, з*а*сплынь,** прадукт наплываньня, нагнаеньня. *Засплыўшыя вочы. Ставок засплыў зеленьню. Вока засплывае, пакрываецца бяльмом, тускнай балонкай.*

**ЗАСЛУШИВАТЬ** *што*, слухаць або выслухаць чытаньне справы ў судзе, спавешчаньне ў афіцыяльнай установе; **заслух*а*ць, выслух*а*ць.**

**ЗАСМАТРИВАТЬ** *куды*, **заглядаць, заглядацца.**

**ЗАСМУРѢТЬ, захмарыцца, захаморыцца.**

**ЗАСНАЩИВАТЬ, аснаджаць, аснада.**

**ЗАСНОВЫВАТЬ** *што*, пачынаць снаваць, пакрываць асновай; **засновываць.** Класьці пачатак чаму; **закладаць, закладаньне, закладчык.**

**ЗАСОВЫВАТЬ** *што*, **засуваць, засунуць, засаўка, засавень, засоўны, засовісты, засоўнік.**

**ЗАСОВЕНЬ В ЗАМКѢ, сныч, снычок.**

**ЗАСОКА** *ж.* скос па рабру дашкі ад круглянасьці бярвена; **каспыль.** *Адна дашка чыстая, другая з каспылём, каспылінай.*

**ЗАСОЛАЖИВАТЬ** *што*, расьціць на солад; **засаладжываць, засалад.**

**ЗАСОРЕНІЕ** *ср.* **запарушаньне, запарушаць; засьмечаньне.**

**ЗАСОСАТЬ** *што*, **зацмактаць, зацмактываць.**

**ЗАСПИНКА** *ж.* плечкі крэсла, канапы, наагул усякага седзішча; **зплечніца, аплечча.**

**ЗАСПОКОЕНІЕ** *ж.* **супакоеньне, заспакоеньне.**

**ЗАСПОРИТЬ** *аб што*, **заспрэчацца.**

**ЗАСТАВАТЬ** *каго, што*; знаходзіць дзе, захапіць: **заставаць.** *Застаў я яго ў дома.*

**ЗАСТОЙ**, кождая доўгая або шкодная застаноўка; **застой.**

**ЗАСТАВЛЯТЬ** *што*, ставіць штоколечы перад чым; **застаўляць, застаўка.** Ставіць каго перад якой чыннасьцью, прымушаць да чыннасьці; **прымусіць, прымушаць.**

**ЗАСТАВА** *ж.* загарода на дарогах і ўездах; **рагатка, застава.**

**ЗАСТЕГИВАТЬ** *што*, **зашпіляць, запінаць, засьцібаць.**

**ЗАСТЕЖКА** *ж.* прылада да зашпіляньня; **зашпілка, сушпілка; засьцібка; спона, сьпінаць, запінка**

**ЗАСТЕКОЛИВАТЬ**, **зашклíць**, **зашклeньне**.

**ЗАСТЕНАТЬ**, **застагнaць**.

**ЗАСТЕРЕГАТЬ** *што*, **засцярагaць**, **варункaваць**.

**ЗАСТЕРЕЖЕНІЕ** *ср*. **засьцярoга**; **варyнак**.

**ЗАСТИГАТЬ** *каго дзе*; **заскoчыць**, **засьцíгнуць**.

**ЗАСТРАХОВЫВАТЬ** *што*, **забасьпечaць**. *Забасьпечаць пасылку на почце. Будынкі на прыпадак пажару, сябе на прыпадак сьмерці.*

**ЗАСТРАЩАТЬ** *каго, чым*; **запужaць**, **загразіць**. *Запужаў дзяцей. Загразіў судом.*

**ЗАСТРЯНУТЬ** *дзе, у чым;* **завязнуць**, **завязaць**, **завяз**. *Пайшоў дый завяз недзе. Сьвіньня завязла ў плоце.*

**ЗАСТУЖИВАТЬ** *што*, **застуджaць**, **застyда**, **застудзень**, рас. „студень“.

**ЗАСТУП** *м*. прылада да капаньня; **капaга**, **рыдаль**.

**ЗАСТУЧАТЬ** *чым*, **застyкаць**,

**ЗАСТЫЖАТЬ**, **засарoмліваць**, **застыджаць**.

**ЗАСТЫВАТЬ**, **застыгaць**.

**ЗАСТЫЖАТЬ**, **застыджaць**, **застыдлівы**.

**ЗАСУЖИВАТЬ** **засуджaть**, **засуд**, **засyдак**.

**ЗАСУРГУЧИВАТЬ** *што*, **заляковываць**.

**ЗАСУРЬМИТЬ** *бровы*, **зачарнíць**.

**ЗАСУСАЛИВАТЬ** *што*, пакрываць што штучным „сусальным“ золатам; **залацíць**.

**ЗАСУТОЛОЧИТЬ**, **затаўпeжыцца**, **засталoшыцца**, **засклoчыцца**.

**ЗАСУЧИВАТЬ** *рукавы*, **закaсываць**.

**ЗАСУШИВАТЬ** *што*, **засушaць**, **засyшка**, **засушаны**, **засyшына**.

**ЗАСУХА** *ж*. **посуш**, **засха**, **сухмeнь**.

**ЗАСЫРѢТЬ**, **завільжэць**.

**ЗАСѢВАТЬ**, **засяв*а*ць, засяв*а*ньне, з*а*сеў, засевак, засеўнік, зас*е*ўны.**

**ЗАСЕДАНІЕ**, **поседні, пас*е*джаньне.** *Паседжаньне камітэту. Абрыдлі мне вашы штодзенныя поседні ў карчме (Сталіца, Дзіс. п.).*

**ЗАСѢДАТЕЛЬ** *аб сябру местовага магістрату;* **ла*ў*нік.**

**ЗАСѢКАТЬ** *каго, што;* **засяк*а*ць, зацін*а*ць, заруб*а*ць.**

**ЗАСѢКА** *ж.* ссечаныя дрэвы якімі загараджаюць дарогу; **зав*а*л.**

**ЗАСѢНЯТЬ**, пакрываць ценям; **з*а*сьціць.**

**ЗАСѢЧКА,** *ж.* **зац*і*н, зар*у*ба, к*а*рба,**

**ЗАТАБАНИТЬ**, пачаць грабсьці вяслом назад **заплытуняць.** *Плытуняй човень да берагу. Плытуняй вясло м.*

**ЗАТАИВАТЬ** *што,* **зат*а*іваць, зат*а*йны, зата*і*цца. зат*а*йчывы.**

**ЗАТАЛКИВАТЬ, ЗАТОЛКАТЬ** *што,* куды; **затал*а*чываць, запіх*а*ць.**

**ЗАТАРАТОРИТЬ**, **затуркац*е*ць, загал*а*каць.**

**ЗАТАСКИВАТЬ** *што, куды;* **зацяг*а*ць, зацяг*а*цца.**

**ЗАТВЕРЖИВАТЬ** *або* **ЗАТВЕРЖДАТЬ** *што,* **замац*о*вываць, зацьвярдж*а*ць.**

**ЗАТВОРЯТЬ** *што,* **зачыняць, зачыняньне, зач*ы*нлівы, з*а*чынка, зачн*і*к; запір*а*ць, завір*а*ць.**

**ЗАТВОР** *м.* прылада пры карабіне; **зап*о*р.**

**ЗАТВОРНИК—НІЦА**, пустэльнік які зачыніўся ў манастыры; **з*а*чнік, з*а*чніца, з*а*чнае жыцьцё.** *Зачны мніх. У адзіноце ды ў зачніцтве гадавалася. Кот і ў зачніцтве скорамам карміўся.*

**ЗАТЕМНЯТЬ** *што,* **зацямняць, зац*е*мнены, зацемак, за цьма, з*а*цемкі, з*а*цемна.** *Чаго ты як злодзей па зацемках сланяешся. Вечны морак, вечныя зацёмкі. Золата і ў зацемку блішчыць.*

**ЗАТЕРЗАТЬ** *каго*, **затурзаць.** *Затурзалі хлапца.*

**ЗАТЕРЯТЬ,** *што*, **загубіць, загубіцца. загуба.**

**ЗАТЕСАТЬ,** *што*, **зачасаць, зацесьліць, зацесь.**

**ЗАТОЛКАТЬ, заштурхаць, запіхаць.**

**ЗАТОРМОЗИТЬ** *што*, **загальмаваць.**

**ЗАТОЧАТЬ** *каго куды*, **ссылаць, ссылка, ссыльны.**

**ЗАТОШНИТЬ, занудзіць.** *Занудзіла пад лыжачкай.*

**ЗАТОЩАТЬ, затушчэць.**

**ЗАТРАВЛИВАТЬ** *каго, што;* зьвера сабакамі: **зацкаваць, засковіць.** Мядзяную даску квасамі: **выпаляць.**

**ЗАТРАПЕЗНЫЙ, застольны.** *Застольная песьня,*

**ЗАТРАТА, выдатак.**

**ЗАТРЕЩИНА** *ж.* **поўха, аплявуха.** *Даў поўху, аплявуху.*

**ЗАТРОГИВАТЬ, закранаць, датыкаць, зачапаць.**

**ЗАТРУДНЕНІЕ, труднасьць, цягоба, мітрэнга, турботы.**

**ЗАТРУЖДАТЬ, турбаваць, мітрэнжыць.**

**ЗАТЫЛОК** *м.* задняя часьць галавы над самай шыяй, за цемям; **патыліца.** Ніжэй шыі--*карк, каршэнь*, над самай шыяй „загривок"—*кайпель.*

**ЗАТХЛОСТЬ, затхля, тхля.**

**ЗАТѢВАТЬ** *што*, **зачаваць, зачануць, зачанкі.** *Блага зачаваць, калі нечага жваць. Зачаваць ігрышча. Скоры па ўсякія зачанкі.*

**ЗАТѢМ** *прысл.* **затым, пасьля, ўрэшце.** *Перш я ўвыйшоў, а затым ўжо ён. Пасьля трэба гэта зрабіць. Урэшце сказаў.*

**ЗАТѢНЯТЬ**, засьціць, засьцяняць.

**ЗАТѢЯ**, зачанка.

**ЗАТЯВКАТЬ**, задзяўкаць, загаўкаць.

**ЗАТЯГИВАТЬ**, зацягаць, зацяжны, зацяжка.

**ЗАУГОЛЬНЫЙ**, завугольны, завуголак, завугольнік.

**ЗАУНЫВНЫЙ**, замаркотлівы. *Замаркотлівая нота ў песьні.*

**ЗАУПОКОЙНЫЙ**, задушны. *Задушны стол. Задушны малебен.*

**ЗАУПРЯМИТЬСЯ**, занаровіцца, зацяцца.

**ЗАУРАД** *прысл.* які знаходзіцца за радам, які ня ўходзіць у рад; падстаўны, заступаючы праўдзівага; заўрадны.

**ЗАУСЕНИЦА**, задзертая скурка вышэй ногця; заногціца, лушчатка, лушчавіна.

**ЗАУСКАТЬ** *каго,* засковіць, зацкаваць.

**ЗАУТРЕНЯ** *ж.* царкоўная адправа на раніцы; ютраня.

**ЗАУТРѢТЬ**, засьвітаць, абьютрэць.

> *Ісус—Хрыстос на нябёсі ўскрос,*
> *На набёсі ўскрос дый на ютрані.*
> *Р. Т. 8—9 стр. 172).*

**ЗАУТЮЖИТЬ**, запегліць.

**ЗАУЧИВАТЬ**, навучаць, навучка, навучлівы.

**ЗАФРАХТОВАТЬ** *нямецк.* наняць вадаплаў пад тавары, засначыць. *Засначыць лайбы ў Рыгу. Гэты стругі засначаны ўжо да перавозкі жыта.*

**ЗАФЫРКАТЬ**, запорскаць. *Коні бягучы порскаюць.*

**ЗАХАНДРИТЬ**, захаморыцца.

**ЗАХВАЛИВАТЬ** *што,* захваляць, захвал, захвалка, захвальчывы.

**ЗАХВАТЫВАТЬ**, захапляць, захопленьне, захопісты, захопленьне; запарываць, запарваць.

**ЗАХИРѢТЬ**, **зах*і*знуць, занядужаць, зачаўрэць, заныздзець.**

**ЗАХЛЕСТКА** *ж.* змычная пятля; **з*а*хлыска.**

**ЗАХЛЕСНУТЬСЯ**, **захлібнуцца, захлюснуцца, захлыснуцца.** *Захлібнуўся, захлыснуўся вадой.*

**ЗАХЛОПНУТЬ**, **захлыснуць.** *Захлыснуў дзьверы.*

**ЗАХОЗЯИНИЧАТЬ**, **загаспадараваць, загаспадарыць.**

**ЗАХОЛУСТЬЕ**, глуш, глухое мейсца; **застароньне, устароньне.**

**ЗАЦѢПЛЯТЬ**, **зачапаць, чапляць.** *Не зачапай яго. Пачапі кручок да вуды.*

**ЗАЧАЛО**, **пачатак.** *Пачатак кнігі.*

**ЗАЧАТІЕ**, **запачацьце.** *Ад запачацьця да нарадзін.*

**ЗАЧАХНУТЬ**, **занызьдзець, занызд'ўшы, занызлівасьць.**

**ЗАЧАСТИТЬ** *нагамі*, **затупеняць, затупацець;** *языком*, **залапатаць;** *у госьці*, **зачасьціць.**

**ЗАЧАСТУЮ** *прысл.* **зачаста, часта.**

**ЗАЧЕРКИВАТЬ** *што*, **закасовываць.**

**ЗАЧЕРТИТЬ** *што*, **закрэсьліць.**

**ЗАЧЕТ** *м.* **залічка, залічны, залічаць.**

**ЗАЧУЯТЬ** *што*, **зачуць.**

**ЗАЧѢМ** *прысл.* **пашто, нашто.**

**ЗАШАВКАТЬ**, **зачаўкаць, зашамкаць.**

**ЗАШЕЕК** *м.* задняя часьць шыі паміж лапатак і патыліцы; **карк, закаршэль.**

**ЗАШЕЛЕСТѢТЬ**, **зашашчэць, зашумрэць.** *Зашумрэлі лісьці. Нехта зашашчэў, зашумрэў у траве.*

**ЗАШЕЛЕЦ** *м.* **заходзень.**

**ЗАШЕЛОХАТЬСЯ**, **закалыбацца.**

**ЗАШЕЛУДИВѢТЬ** **запаршывець, запаршывелы.**

**ЗАШЕРОШИТЬ, застыршыць, застырка; зашчапіна.**

**ЗАШИПѢТЬ, засіпець.** *Зялеза засіпела ў вадзе. Вужака засіпела ў кусьце.*

**ЗАШПОНИТЬ** *сталярн.* **зашпунтаваць, запазаваць.**

**ЗАШТАТНЫЙ,** які ня ўходзіць у рахунак; **заўрадны.**

**ЗАШТОПАТЬ** *назутку, дзіру у назутцы;* **зацыраваць, зацыроўка.**

**ЗАШТУКАТУРИТЬ** *што,* **затынкаваць**

**ЗАШУМѢТЬ, загаманіць.**

**ЗАЩЕКОТАТЬ,** замучыць шчакоткай; **заказытаць,** (Гродзк.) **закуціняць** (Лідзк. пав.), **зашчакатаць.**

**ЗАЩЕЛКАТЬ, засчапаць, засчопны, засчаппнуць.**

**ЗАЩЕЛКА, клямка, зашчапка.**

**ЗАЩИЩАТЬ,** берагчы, бараніць, заступацца; **засланяць, асланяць, заскрываць.**

**ЗАЩИТА, аслона, абарона, заскрыць.**

**ЗАЩИТНИК** *м.* **абаронца, заступнік.**

**ЗАЭКОНОМИТЬ, зашчадзіць.**

**ЗАЮЛИТЬ, зажэўжыць.**

**ЗАЯВЛЕНІЕ** *ср.* **заява, заяўны, заяўнік—ца.**

**ЗВАТЕЛЬНЫЙ, клічны.**

**ЗВАТЬ, зваць, клікаць, гукаць.**

*На вуліцы дзеўкі гуляюць,*
*Мяне маладу гукаюць (Р. 8—9 стр. 138).*

**ЗВАНІЕ, назоў, назова, найменьне, клічыва.**

**ЗВОН** *м.* **звон, званок, звончык.** *Звон буніць.*

**ЗВУК** *м.* **згук, голск, зьвяк, зык,** З г у к, з г у ч н ы, г у ч ы ц ь, в ы з г у к, гэта слова выражае гук неакрэсьлены: гэта можа быць гук чалавечага голасу, ветру, вады, стральбы і інш. Г о л с к, г а л с ч э ц ь, г о л с к і выражае паняцьце голасу

паднятага (зраўняй „галакаць“ „галёкаць“), разгалоснага; ў некаторых формах яно зближаецца з паняцьцем „рэзонансу“: *Калі крыкнуць у таку, лесе то голас будзе г а л а с ч э ц ь. Голская скрыпка. Калі крыкнуць над студняй, то ў ей голсчыць.* З ь в я к, з ь в я к а ц ь этымолёгічна тое-ж слова што расійскае „звук“, у нас яно ўжываецца да абазначаньня згуку які выдае удар зялеза аб зялеза, зялеза аб камень ці другі які крушэц (зраўняй „зьвягаць“ брахаць). З ы к, з ы ч э ц ь, з ы ч н ы, згук высокага тону, польскае „dźwięk“.

**ЗВУКОВОЙ, згукав*ы*.**

**ЗВУЧНЫЙ, з*ы*чны, г*у*чны, г*о*лскі, рэсткі** (ад „рэха“).

**ЗВУКОПОДРАЖАНІЕ** *ср.* **згукапал*а*днасьць, згукапал*а*длівы, згукапал*а*днік.**

**ЗВѢЗДА** *ж.* **гвязд*а*, з*о*ра, з*о*рка.**

*Ходзіць-паходзіць месяц на небе,*
*Кліча-пакліча зоры з сабою*
*(Р. 8—9, стр. 113).*

**ЗВѢРЬ** *м. агульн. слав.* **зьвер, зьвяр*у*га, зьвяр*о*к, зьвяр*ы*на, зьвярь*е*, зьвяр*ы*цца, зьв*е*рскі, зьв*е*рства, зьвяр*ы*нец, зьверабо*й*, зьверал*о*ў, зьвера*е*д.**

**ЗГА** *ж.* **іскра, яска.** *Ані ясачкі не відаць.*

**ЗДАНІЕ** *ср.* **буд*ы*нак, буд*о*ўля.**

**ЗДОРОВЬЕ** *агульн. слав.* **здар*о*ўе, здар*о*васьць, здар*о*вы, здар*о*ўка, здар*о*ўны, здар*о*віцца.**

**ЗДОРОВАТЬСЯ, віт*а*цца, віт*а*ньне, віт*а*льня** сьвятліца да прыёму гасьцей.

**ЗЕГЗИЦА** *ж. стар.* **зязюля.**

**ЗЕЛЕНЬ, зелян*і*на, сьл*е*ціва, гардав*і*на.**

У гародзе гард*о*віца,
Цяжка дзяцюкам пятровіца:
Ідзіце, дзеткі, гарду рваці,
Лягчей будзе Пятра ждаці
(Крачк. стр. 139).

**ЗЕЛЕНЫЙ, зялёны, зелянець, зелянiна, зеляпух, зялёністы, зелянявы.**

**ЗЕЛЕНЩИК** *м.* таргоўнік зеленьню сьлецівам, гардавінай; **сьлетнік, гардаўшчык.**

**ЗЕМЛЯ, зямля, зямны, зямельны, зямляны, зямлець, зямлісты, земляваты.**

**ЗЕМЛЯК—ЧКА, крывец, крывічка, крыўцы.**

**ЗЕМЛЯК, пабратым, крывец.**

Наша сваццця па жыце хадзіла,
Цяцераў лавіла, пабратыма карміла.
*(Дрыс. пав. Вяс. песьня).*

**ЗЕМЛЯНИКИ** *ж.* ягады Fragaria vesca; **поземка, позянка, пазёміца, пазёмачнік** (гл. клубніка).

**ЗЕМЛЕВЛАДѢЛЕЦ** *м.* **зямляўласьнік—ца, зямляўласьніцкі.**

**ЗЕМЛЕДѢЛЕЦ** *м.* **земляроб, ратар, ратарскі, ратарства, ратайства.**

**ЗЕМЛЕМѢРІЕ,** навука і сама чыннасьць мераньня зямлі; **каморніцтва, каморнік; мерніцтва, мернік, мерчы.** Першае слова агульна народнае, другое-сустрачаецца ў актах і ужываецца вясковай інтэлігенціяй.

**ЗЕМЛЕОБИТАНІЕ** *ср.* **зямлеаселасьць, зямлеасельнік.**

**ЗЕМЛЕОБРАЩЕНІЕ** *ср.* **зямлеаварот.** *Кругаваротны рух зямлі наўкол сонца называецца зямлеаваротам.*

**ЗЕМЛЕОПИСАНІЕ** *ср.* **зямлеапісаньне.**

**ЗЕМНОЙ, земскі, зямельны.** *Земскае жыцьцё яго. Зямельны жук. Зямельны пах.*

**ЗЕМНОВОДНЫЙ, зямнаводны.**

**ЗЕНИТ** *м. грэцк.* мысьлёвы пункт на небе, прастападна над зямным пунктам; **зэніт, прыцінь.** *У сам прыцін, сонца.* Знача ў момант самага зэнітнага, найвышэйшага стаяньня сонца на небе, калі сонца займае самае „прытнас“ мейсца.

**ЗЕРКАЛО** *ср.* вельмі гладкая мэталічная ці шклянная даска, якая адбівае ў сабе акружаючае; **люстра,**

люстэрка, люстэрца, люстраны, люстранасьць, люстрысты, люстраваць—прагля даць, рэвізаваць.

**ЗЕРНО** *ср.* насеньне расьціны; зярно, зярніна, зярніца, зярняты, зярнятка, зярнё, зярністы, зернавік, зернявы, зернаед.

**ЗЕРЦАЛО** *ср. црк.* люстра; ужываецца ў пераносным значэньні; *Гэты чалавек люстра (зерцало) праўды.* У судовых расійскіх установах трохкантовы паставец з трымя загадамі Пятра І.

**ЗЕФИР** *м. тарг.* высшы гатунак часанай авечай воўны; лёгкая, празрыстая ваўняная тканіна; *грэцк. міт.* бажок лёгкіх ветраў: зэфір.

**ЗИГЗАГИ** *м. мн. ням.* зыгзакі, зыгзакаваты.

**ЗИЖДАТЬ** *што,* (ад „здать") ствараць, утвараць, будаваць.

**ЗИМА** *ж. агульн. слав.*; зіма, зімовы, зімаваць, зімка, зімна, зімець, зімоўка, зімавея, зімовішча.

**ЗИПУН** *м.* маскальскі армяк без каўняра; армяк.

**ЗЛАК** *м.* усякая травяністая расьціна ў якой сьцібло саломінай з каленцамі, а плод каласавы; каласьнік, каласны, каласьнічнік, каласьнічныя.

**ЗЛО**, *ср. агульн слав.*; зло, злы, злая, злоўка, злыга, зладыга, злодыр—ка. злодырнік—ніца.

**ЗЛОСТЬ** *ж. агульн слав.* злосьць, злосны, злаваць.

**ЗЛОВОНІЕ** *ср.* смарод.

**ЗЛОВРЕДНЫЙ**, злашкодлівы.

**ЗЛОВѢЩІЙ**, злавесьлівы, злавесны.

**ЗЛОДѢЙ**, злодзей, алодзейка, злодзьлівы зладзейскі.

**ЗЛОДѢЯНІЕ** *ср.* злачын, злачынны, злачынца.

**ЗЛОЖЕЛАНІЕ** *ср.* злазычлівасьць, злазычнасьць, злахотлівасьць.

**ЗЛОКАЧЕСТВЕННЫЙ**, злаякі, нядобры.

**ЗЛОКЛЮЧИВЫЙ, злапрыгодлівы, няшчасны.**

**ЗЛОНАМѢРЕННЫЙ, злаўмысны, злаўмысьнікца.**

**ЗЛОНРАВНЫЙ, злохарактарны.**

**ЗЛОПАМЯТНЫЙ, злоцямлівы, злопомлівы.**

**ЗЛОПОЛУЧІЕ, няшчасьце, нядоля, злоздарлівы.**

**ЗЛОРАДНЫЙ, злоцешны, злацешлівы, злацешлівец.**

**ЗЛОРѢЧІЕ** *ср.* **зламоўлівасьць, зламоўлівы, лаянка, абмова.**

**ЗЛОСЛОВИТЬ** *каго,* **абмаўляць, лаяць, зьневажаць.**

**ЗЛОСОВѢСТНЫЙ, нясумленны.**

**ЗЛОСОВѢТНЫЙ, злодарадлівы, злодарадлівец.**

**ЗЛОУМЫШЛЕННО, зладумна, зладум, зладумлівы, зладумлівец, зладумлівасьць.**

**ЗЛОУПОТРЕБЛЕНІЕ** *ср.* **злоўжыцьце, злоўжываць, злоўжытны.**

**ЗНАКОМЫЙ, знаёмы—ая, знаёмства, знаёмасьць.** *Шапковая знаёмасьць, зн. далёкая. Каб толькі харомцы—будуць, знаёмцы. На роднай старонцы і платы знаёмцы.*

**ЗНАМЕНАТЬ** *црк.* **ЗНАМЕНОВАТЬ** *што,* азначаць знакам, накладаць знак; прадвяшчаць; **значыць зазначаць, зазнака, зазначнік, зазначка; азазначыць, азазначыцца.** *Год 1812 азначыўся вялікімі ураджаямі, а 1923 голадам і паморам. Азазначылі сваю перамогу над французамі расійцы многімі помнікамі.*

**ЗНАМЕНІЕ** *ср.* знак, прымета; **накметнік, знатамка.** *Падпахай у яго, радзімая знатамка.*

**ЗНАМЕНАТЬ, накмячаць, накмечаны, знацьвіць, пазнацьвіць.**

**ЗНАМЯ** *ср.* палотнішча на дрэўку, ў войску як зборны знак, ў часе бітвы: **сьцяг, харугва.**

**ЗНАМЕНЩИК** *м. вайск.* **харужы.**

**ЗНАМЕНИТЫЙ**, слаўны, вельмі вядомы; **сла-вэтны.**

**ЗНАТЬ, ЗНАВАТЬ** *што, каго*; быць знаёмым, ведаць каго па яго фізычных азнаках: **знаць, знаю, знаёмы**. Беларуская мова строга разрожнівае— *знаць і ведаць*. Можна чалавека *знаць* па яго азнаках фізычных, але *няведаць* што ён такое ў сваей душы. *Я ня ведаю чаго ты хочаш. Я і знаць ня знаю і ведаць ня ведаю. Пазнаеш яго з учынкаў яго. Я ня знаю хто зрабіў, але ведаю што блага зрабіў. Знаць жабу па пліганьню, а сокала па палёту.* У гэтам значэньні дзеяслоў гэты пераходзіць у прысл,: *Знаць табе там добра. Знаць табе Настулька замуж хочаца што ў цябе сьлёзанькі ня коцяцца. Знаць па вясельлю, што не татачка аддаець, не мамачка благаслаўляець. Знаць дурня па чырвонай шапцы. Каб тое знацьцё, што ў кумы піцьцё і сам-бы пайшоў і дзетак павёў. Як хто знае, так сьпявае.*

**ЗНАНІЕ** *ср.* **веда, ведны**. *Навука веду дае. Без нявукі няма веды. Каб тое веданьне дзе спатыкнешся! Ведныя ў навуках людзі казалі.*

**ЗНАТНЫЙ**, відны, прыкметны, слаўны; **вызначны, выдатны, прыкметны, знаменны.**

**ЗНАТОК** *м.* практычны, умелы, які знае вартасьць чаго; **знавец, знаўство.**

**ЗНАЧЕНІЕ** *ср.* **значэньне.**

**ЗНАЧИТЕЛЬНЫЙ**, **значны**. *Значны лік людзей было.*

**ЗНОБИТЬ** *каго*, **зябіць, зябіцца, зябкі, зяблівы, зябкасьць**. *Зазяблі азяблі, рукі. Зябіць і трасе ўсяго, бо зязябіўся ў дарозе. Зябкі дзень. Зябкасьць чуецца ў паветры.*

**ЗНОЙ** *м.* гарачыня ад сонца; **прыпар, упал, сьпека**. *У сам поўдзень, ў сам прыпар жнуць. Ад самага Купальля пачаліся упалы, гарачыня. Сьпека, сьпякота парыць.*

**ЗОБ** *м.* ніжняя часьць стравапраходу ў птушак, мясісты мяшок, дзе страва набракае да пераходу ў жалудак; у людзей і жывёлаў пухліна на шыі; **валё.**

**ЗОВ. кліч, клічны, клікаць.**

**ЗОДІАК** *м. грэцк.* мысьлёвы пояс па ўсей акружнасьці гадавога авароту зямлі кругом сонца, разьдзелены на 12 часьцей, якім прысоблены знакі і назовы: *баран* (сакавік), *бык* (красавік), *блізьнякі* (травень) *рак*, *леў*, *дзева*, *вагі*, *скарпіён*, *стралец*, *казярог*, *вадавік*, *рыбы*; **зодзіяк** або **зьвярынец.**

**ЗОДЧЕСТВО** *ср.* навука і мастацтва будаваць будынкі; **будаўніцтва, архітэктура.**

**ЗОДЧІЙ** *м.* **будаўнічы, дойлід.** Слова *дойлід*, сустракаецца ў песьнях: *А ў Турове, на мураве, тры дойліды царкаўку стаўлялі;*—а такжа ў назовах топографічных (в. Дойліды каля Беластоку, уроч. Дойлідаўка у Дзіс. п., каля Гарманавіч і шм. інш.). Есьць прозьвішчы—Дайлюк, Дайлевіч. Пры апрацоўцы бярвяна на брус, зачэсываньне гарбыля бэлькі з аднаго боку, вазываецца *дайляваньнем*, *дайлёўкай*. Называюць такжа *дайлёўкай* або *дыляй*, *дылёўкай* палавіну бярна, ці адпілаваны ад бэлькі тоўсты гарбыль яе. Карскі залічае слова *дойлід* да слоў ўзятых з літоўскай мовы.

**ЗОЛА** *ж.* **попел, прысок.** *Попел*—астатак ад згараньня гаручых матэрый; *прысок*—попел у якім маюцца іскрынкі агня; гаворыцца такжа *прысок* аб разсыпаных ў парашок астанках нябошчыка.

**ЗОЛИТЬ** *бялізну*, парыць у вадзе наваранай на попеле; **лугаваць**, ад *луг*—вывар попелу; **жлукціць**, **жлукто**—вада з попелам, завараная напаленымі камянямі.

**ЗОЛОВА** *ж.* сястра мужа; **залоўка.**

**ЗОЛОТО** *агульн. слав.* **золата, залаты, залацець, залацісты.**

**ЗОЛОТИТЬ, пазлачаць.** *Стоўбікі тачоныя-пазлачоныя. Пазлачаны кубак.* **Пазалотнік**, майстар, які пазлачае.

**ЗОЛОТОДѢЛ** *м.* майстар які выбарляе з золата розныя рэчы; **залатар.**

**ЗОЛОТУХА** *ж.* адуродная хвароба якая выражаецца агульным недамаганьнем і падатлівасьцю да хвароб; **шкрофул, шкрофулічны; нежыць, нежытны.**

**ЗОЛОТОШВЕЙНЯ** *ж.* майстэрня, дзе вышываюць золатам; **гафтарня.**

**ЗОНА** *ж. грэцк.* пояс зямлі, ўздоўж роўнадзенніка (экватара), **зона.**

**ЗОНД** *м. лекар.* сталёвы пруток з галоўкай да дасьледаваньня ран; **шчупень, шчуп, шчупок.**

**ЗОНДИРОВАТЬ, шчупаць, вышчупываць.**

**ЗОНТ** *м. нямец.* **парасон, парасончык.**

**ЗООГРАФІЯ** *м. грэцк.* апісаньне зьвяроў; **заографія.**

**ЗООЛОГІЯ** *ж. грэцк.* гісторыя жывёлаў; **зоолёгія.**

**ЗООТОМІЯ** *ж. грэцк.* анатомія жывёлаў; **зоотомія.**

**ЗООФИТ** *м. грэцк.* напоў зьвярок, напоў расьціна; **жываед.**

**ЗРАЧОК** *м,* **зрэнка, зенка.**

**ЗРѢТЬ** *(зрѣю)* дасьпеваць; **сьпець, сьпелы, сьпеласьць.** *Сьпелыя яблакі, грушы, ягады. Нясьпелыя* плады называюць *зялёнымі,* але ніколі *сырымі.*

**ЗРѢТЬ** *(зрю),* **бачыць, відзець.**

**ЗРѢНІЕ** *ср.* спасобнасьць, орган бачаньня; **зрок, зрочны.**

**ЗРѢЛИЩЕ** *ср.* **відовішча.**

**ЗРИМЫЙ відомы, відзебны.**

**ЗРИТЕЛЬНЫЙ, відоўны, відоўня.**

**ЗРИТЕЛЬ відзень.**

**ЗРЯЧІИ, відушчы, відучы, вісны.**

**ЗУБРЬ** *зьвер,* Bos ursus; **жубр.**

**ЗУБ** *м. агульн. слав.* **зуб, зуб*о*к, зубн*ы*, зу-б*а*ты, зуб*а*сты, зуб*а*сьцік.**

**ЗУБРИТЬ**, выбіваць на мэталю (прыкладам на сярпе) зубкі; **зуб*і*ць.** *Серп пілу зубіць, назубіць.*

**ЗУБОСКАЛЬНИЧАТЬ, вышчыр*а*цца, ашчыр*а*цца.** *Чаго ашчыраешся? Вышчырака гэты заўсёды каля баб вышчыраецца.*

**ЗУБОЧИСТКА**, завостраная шчэпка, пяро да вычышчаньня зубоў; **калып*о*к.**

**ЗУДИТЬ, сьвярб*е*ць, сьвярц*е*ць.** *Вось яму ўсё ў носе сьвярціць каб наброіць. Рана ўжо не баліць, але да несьцерпу сьвярціць. Сьверць ў сярэдзіне не дае яму супакоіцца.*

**ЗЫБАТЬ, калыб*а*ць, калых*а*ць, з*ы*баць.**

**ЗЫБЬ—калыб*а*.**

**ЗѢЛО** *прысл. црк.*; **вельмі.**

**ЗЯТЬ** *м*, муж дачкі; **зяць, зяц*ё*к, зяцька.**

## И.

**ИБО,** *злуч*, **бо.** *Не пацьверджу, бо гэта ня так.*

**ИВА** *ж.* агульнае радавое найменьне дрэваў Salix; **в*е*рба.**

**ИВЕРЕНЬ** *м.* **аскр*о*мак, аск*е*пак, вотшчабень** *Аскромак каменя трапіў у вока. Аскепак, вотшчабень адляцеў ад палена.*

**ИГИР** *м. расьць*, Acorus Calamus; **аір.**

**ИГЛА** *ж. агульн. слав.*; **ігл*а*, іг*о*лка, ігл*і*ца, іг*о*льніца, ігляр, ігл*і*сты.** Іглы бываюць рожнай формы і велічіні і тасоўна да гэтага маюць навовы: швацкая—*іголка;* да цараваньня назутак; да шыцьця радніны ўжываюць—*шаршатку*; да сшываньня мяхоў і рагож ужываюць доўгую іглу з закрыўленым канцом—*швайку*; да вышываньня воўнай і да ператыканьня узору на тканінах бяруць—*вушат-*

*ку*; да рубнаваньня (вязанія) ужываюць *кручок, пруткі.*

**ИГО, ярмо, ярэмны, ярэміць.**

**ИГОТЬ** *ж.* ручная ступка, асабліва мэталічная і шклянная; **маждҗэрчык.** *У аптэках ужываюць шкляныя маждҗэрчыкі.*

**ИГРАТЬ,** забаўляцца, весяліцца; **гуляць.** *Дзяцё гуляе лялькай, кот мышой. Мы гулялі ў карты, ў вугалькі ў сьляпака (жмурки).* Але нельга: *ігралі у карты,* бо іграць можна толькі на якім музычным іструманце; гэтак сама нальга *„ігралі вясельле“*, а трэба *„гулялі вясельле“*. Наша слова *„ігрышча“* выводзіцца ад ігры на музыкальных інструмантах,—разумеецца ігра да танцаў; як і аднаслоўнае *„музыка“: Былі на музыцы (ігрышчы); хадзіце на музыку* (*ігрышча*). Выключэньне становіць сцэнічная гульня, аб якой гаворыцца *„ігра“*, але „гульня“ прыроды, выабражэньня.

**ИГРИВЫЙ, рэзвы, гульлівы.** *Гульлівы сьмяшок.*

**ИГРОК—гулец, гулецкі.** *Гэта не гулецкая гульня. Гулецкія карты (игральныя).*

**ИГРУШКА,** рэч зробленая для забавы; **цацка, забаўка.** *Дзіцячая цацка, забаўка. Гэта яму не работа а забаўка.*

**ИГУМЕН** *м.* **ИГУМЕНЬЯ** *ж. грэцк.* зьверхнік манастыра; **ігумен, ігуменьня.** *Ня кождаму старцу ігумемам быці. Ты дачка ігуменава, а я папоўскі сын (не ашукаеш мяне). Пападьдзя памрэ—поп у ігуменах, а поп памрэ, пападзьдзя—па гуменах.*

**ИДЕЯ** *ж. лац.* паняньце аб рэчы: умысловае выабражэньне рэчы; мысль, замысл; **ідэя, ідэал**—мысьлёвы прыклад дасканальнасьці; **ідэолёгія**—часьць мэтафізыкі або псыхолёгіі якая разважае аб мысьленьні і мысьлі; **ідэаліст**—хто захватваецца недасьціглымі мысьлёвымі выдумкамі; **ідэалізм**—*м.* філёзофія абапертая не на праявах матэрьяльнага сьвету, а духовага або умысловага.

**ИДИЛІЯ** *ж.* невялічкае апавяданьне, паэмат, з ідэальным выабражанем сельскага быту; **ідыльля.**

**ИДІОМА** *ж. грэцк.* мясцовая адмена мовы; **гутарка.**

**ИДІОТ** *грэцк.* недарэка ад нараджэньня, слабавумны, дурнаваты, дурань; **ідзіота.**

**ИДОЛ** *м.* фігура якая выабражае паганскага бога; **балван, стод, балвахвальнік,** зн. паганін.

**ИДТИ** *агульн. слав.* **іcьці, ідзецца, ідомы.**

**ИЖДИВЕНІЕ** *ср.* **кошт, выдатак, наклад.**

**ИЗАДНЫЙ** *ср.* **сызпеклы.**

**ИЗБА** *м.* сялянская хата; жытны драўляны дом; **істоба, істобка.** Слова паходзіць ад „тапіць", ацяпляць; так сама як ад „комін" паходзіць слова „комната", а ў нас **коўната,** лац. cominata. Вышэйпрыведзвныя словы кніжныя, народная мова знае для абазначаньня жытнага будынку словы—**хата** і **дом**; а для абазначаньня чыстай палавіны—**сьвятліца**. Даўней, знанае было слова **грыдня** у знач. рас. „изба" нашага цяперашняга „асець". Гэтак, чытаем у Гвагніна (XVI ст.): „Русь Белая з поля зносіць уселякае збожжа ў чорныя (курныя) ізбы, якія яны *грыднямі* пазываюць, і там сушаць". Грыдня, скарочанае градарня, або як называюць мясцамі асець—граднiца; паводле Вітабскай вомовы „грыдніца" бо ў вітабскім дыялекце **а** параходзіць ў **ы.** Магчыма што гэтым найменьням даўней абазначалі асобны род курных хат. У кождым разе цяпер *грыняй* называюць абшырную сьвятліцу („избу") надаючы адценак няўтульнасьці. *Гэткая грыня, ані яе запоўніць, ані яе ацепліць! Грыня, як адрыня, хоць па ей сабак ганяй.* Калі ў Друі прыехаў цырк і пабудаваў з дасок цырковы будынак на бульвары, то сяляне што былі па кірмашы, назвалі будынак „грыня": *Наехалі кулдышы (камэдыянты) і пабудавалі грыню ў якой бдуць свае штукі паказываць,*

**ИЗБАВЛЯТЬ** *каго. ад чаго;* **збаўляць, выбаўляць; збаўленьне, выбаўленьне, збаўчы, вы-**

б*а*ўчы, зб*а*ўчы, **выб*а*ўчы**, **зб*а*ўнік**, **збав*і*цель**, **выб*а*ўнік**, **выбав*і*цель**.

**ИЗБАЛОВЫВАТЬ** *каго, чым:* **разлядачыць**, **знар*о*ўліваць**, **знар*о*ўлены**, **разбэшчываць**, **разбэшчаны**; **распушч*а*ць**, **расп*у*шчаны**, **расп*е*шчываць**, **расп*е*шчаны**.

**ИЗБЕРЕГАТЬ**, зашчаджать. *Зашчадзь збажынку на вясну. Зашчадзь капейку ў запас.*

**ИЗБИВАТЬ** *каго, што;* **зьбів*а*ць**, **зьбіцц*ё***, **зьбіт*о*к**, **зьб*і*тка**, **зьб*і*ты**.

**ИЗБОИНА**, астаткі пасьля выцісканьня з расьціннага насеньня алею; **макух*і***, **жмак*і***.

**ИЗБОИСТЫЙ** *шлях*, **выбоісты**.

**ИЗБИРАТЬ** *што, каго*; **выбір*а*ць**, **в*ы*бары**, **в*ы*барны**, **в*ы*баршчык**, **выбр*а*нец—нка**.

**ИЗБОРОЗДИТЬ**, **збар*о*зіць**. *Час збарозіў чало.*

**ИЗБЫВАТЬ**, **збыв*а*ць**.

**ИЗБЫТОК**, **зб*ы*так**, **зыбтк*о*ўны**, **збыткав*а*ць**; **л*і*шніца**; **надпатрэбіца**.

**ИЗБЫТОЧНЫЙ**, **зб*ы*тны**, **лішні**, **непатрэбны**.

**ИЗБѢГАТЬ** *каго, чаго;* **унік*а*ць**. *Унікаць людзей і ухінацца ад людзей.*

**ИЗВАЖИВАТЬ**, **ИЗВАДИТЬ** прывучаць каго да чаго спакушаючы; **зн*а*джываць**. *У іх знаджаны дзеці равець. Знадзілі хлапца ігрышчамі.*

**ИЗВАРА** *ж.* **ИЗВАРКИ** *м.* гушча якая астаецца ад варэньця квасу, мёду, піва; **в*ы*варкі**, **бурд*а***.

**ИЗВАЯТЬ** *што*, высеч, выдаўбіць з камяня або дрэва постаць чалавека, зьвера; **в*ы*рэзаць**, **в*ы*даўбіць**.

**ИЗВАЯНІЕ** *ср.* **рэзьб*а***, **постаць**, **в*ы*даўбень**.

**ИЗВЕРГАТЬ** *што, каго;* **вызрын*а*ць**, **вызрыг*а*ць**; **выкід*а*ць**. *Мора вызрынула, вызрыгнула, выкінула карабель на бераг.*

**ИЗВЕРГ** *м.* **в*ы*зрымень**, **в*ы*кідзень**.

**ИЗВЕРТЫВАТЬСЯ**, **выкр*у*чывацца**.

**ИЗВЕРТЛИВЫЙ**. **крут*ы***, **выкр*у*тлівы**.

**ИЗВЕСТЬ** *ж. грэцк.* **вапна, вапністы, вапняк, вапенны.** *Вапенны камень і вапністая зямля.*

**ИЗВИВАТЬ, ИЗВИТЬ, зьвіваць, зьвіць, зьвівацца, зьвіток, зьвітны.**

**ИЗВИВЧИВЫЙ, зьвілкі.** *Зьвілкая дарожка.* Зьвілкая рэчка. Зьвілаватае пісьмо.

**ИЗВИНИТЬ, выбачыць, дараваць.** *Даруй выбачай, што нехаця абразіў.*

**ИЗВИНЕНІЕ, выбачаньне, дараваньне.**

**ИЗВИНИМОСТЬ, выбачліваськ.**

**ИЗВИХАТЬ, ИЗВИХНУТЬ** *што,* **зьвіхнуць.**

**ИЗВЛЕКАТЬ** *каго, што, адкуль з чаго;* **выцягаць, вывалаківаць, вытусаць.** *Выцягнулі, вытусілі грошы з кішаня. Выцягнуў, вытусіў з бяды. Вытуснуў зуб.* Слова *туснасьць,* ужываецца ў значэньні рас. „влеченіе“: *Німа ніякай туснасьці да ежы. Мае хлапец туснасьць, да навукі.* І наадварот *нетусны*—„непривлекательный“: *Нетусны дзеўка мае выгляд (Вяліжск. п.; Бешанкавічы).*

**ИЗВЛЕЧЕНІЕ** *ср.* **выцяг.** *Выцяг, выпіс з кніг гродзкіх.*

**ИЗВНУТРЬ** *прысл.* **сызнунра, зсярэдзіны.**

**ИЗВНѢ, на зьне.**

**ИЗВОДИТЬ** *што, каго;* **вывадзіць, траціць, выдаваць.** *Парай, як вывадзіць мышэй. Ен прывык ужо выдаваць, траціць на марна грошы.* А такжа: **губіць, марыць.** *Прусакоў мораць бурай.*

**ИЗВОД, ЗВОД** *м.* **згуба, загуба.**

**ИЗВОЗ** *м.* промысел возкай тавараў; **павозьніцтва.** *У павоз выехаў сын. Павозчыкі даўней шмат зараблялі павозам.*

**ИЗВОЗЧИК** *м.* **павозчык, вазец, вазіла.** Ламамовы павозьнік: **панараднік.**

*Сьвяты Юры за павозьнічка,*
*Сьвяты Мікола за паплечнічка.*
*(Вал п. Рог. пав. Ром. 8-9 172).*

... „*Малады акром свата і дружкі выбірае сабе яшчэ маршала, чэсніка, старасту,* ***в а з і л у,*** *ку-*

*бельніка, закосьнікаў і інш.“ (Крачк, стр. 26).*

**ИЗВОЛИТЬ** *на што;* дазволіць, хацець вымагаць; **жадаць.** *Пан гэтага не жадае.*

**ИЗВОЛЬ, ИЗВОЛЬТЕ** *прысл.* **рач, рачыць.** *Рачце за сталы цісовыя, абрусы бялёвыя (вясельнае запрошаньне гасьцей).*

**ИЗВОРАЧИВАТЬСЯ, выварачывацца, вывяртацца.**

**ИЗВОРОТЛИВОСТЬ, вываротлівасьць.**

**ИЗВОРОТ** *м.* **выкрут.** *Знайшоў такі выкрутку. Выкруткамі перабіваецца.*

**ИЗВОРОТИТЬ, вывярнуць.** *Вывярнуць (выкруціць) ката хвастом.*

**ИЗВРАТИТЬ, ИЗВРАЩАТЬ** *каго, што;* **перакручываць, вызварачываць, выпачаць.** *Перакруціў вызьвярнуў факты.*

**ИЗВРАЩЕНІЕ** *ср.* **выпачаньне,** *Выпачаны смак, характар, обычай.*

**ИЗВЫКАТЬ, прывыкаць.**

**ИЗВѢДЫВАТЬ** *што,* **дазнаваць.** *Не дазнаўшы броду ня суньзя ў воду. Цазнаны прыяцель.*

**ИЗВѢРИТЬСЯ, зьняверыцца.**

**ИЗВѢСТІЕ** *ср.* **ведамка, чутка, навіна, зьвестка.**

**ИЗВѢСТНЫЙ, ведамы, вядомы.**

**ИЗВѢЩЕНІЕ** *ср.* **павядомленьне, наказ.**

**ИЗВѢТ** *м.* **данос, вызвед.** *Вызведамі займаецца.*

**ИЗВѢЧНЫЙ, справечны.** *Справечны жыхар краю.*

**ИЗГАДИТЬ** *што,* **згідзіць, загідзіць.**

**ИЗГИБАТЬ, вызгібаць, вызгіб, вызгібісты.**

**ИЗГНАИВАТЬ, згнаіць.** *Згнаіў пяньку ў сажалцы.*

**ИЗГНАНІЕ** *ср.* **выгнаньне.** *На выгнаньні памер.*

**ИЗГОЛОВОК** *м.* **узгаловак, узгалоўе.**

**ИЗГОНЯТЬ** *каго,* **выганяць, выгнанец.**

**ИЗГОРАЖИВАТЬ, перагараджываць, разгараджываць.**

**ИЗГОРОДЬ** *ж.* **загарода, загародка; тын.**

*Цераз рэчку, цераз тын,*
*Палюбіў мяне Юстын.*
*Н. П, Дзіс. п.*

*Паламаў ён мой жалезны тын,*
*Патаптаў маю руту-мяту.*
*Ром. 8-9, 151. Бых. п.*

*Ой чый-то двор, што зялезны тын,*
*Зялезны тын медзяны вароты.*
*Залатыя клеткі, сярэбраны замкі?*
*Ром. 8-9 157. Гом. пав.*

**ИЗГОРБИТЬ** *каго, што;* **выгарбіць, выгарбак.**

**ИЗГОТОВЛЯТЬ, прыгатаўляць.**

**ИЗГРЕСТИ, выграбсьці.**

**ИЗГРОБНЫЙ** *голас,* **загробны, замагільны.**

**ИЗГРЕБКИ** *ср.* **згрэбьбя, згрэбны; выграбкі.**

**ИЗГРОХОТАТЬ** *што;* **здрузгатаць.**

**ИЗГРИЗОК** *м.* **агрызак.** Агрызак хлеба. Мышыны агрызак.

**ИЗГРЯЗНИТЬ** *што,* **збрудзіць, загразіць.**

**ИЗДАВАТЬ** *згук,* **выдаваць.** *Выдаваць кнігі. грошы.*

**ИЗДАНІЕ** *ср.* **выданьне, выдавецтва, выдавец.**

**ИЗДАВНА** *прысл.* **сыздаўна.** *У нас сыздаўна так вядзецца.*

**ИЗДАЛИ** *прысл.* **сыздалі.** *Сыздалі прыехалі. Гразіцца мыша на ката, ды сыздалі. Сыздальны чалавек.*

**ИЗДЕРГИВАТЬ, ИЗДЕРГАТЬ** *што,* **паскубаць, падзерці;** сутаргамі, хварабліва: **сторгаць, сторгай.** *Паскубі кужэліну на скубаніцу да ран. Сторгала яго сутарга.*

**ИЗДЕРЖИВАТЬ** *што,* **выдаваць, пражываць, траціць.**

**ИЗДЕРЖКИ**, выдаткі, пражытак, тратня, кошты.

**ИЗДОБА** *ж.* прыправа, закраса.

**ИЗДОВОЛИТЬ** *каго чым;* здаволіць.

**ИЗДОХНУТЬ**, здохнуць.

**ИЗДРЕВНІЙ** *абычай,* здаўны, спрадаўны.

**ИЗДРОБЛЯТЬ, ИЗДРОБИТЬ** *што,* скрышыць.

**ИЗДРОГНУТЬ**, прадрыгнуць. *Увесь прадрыг на холадзе.*

**ИЗДРАХЛѢТЬ**, здрухнуць. *Здрухлі ўжо сьцены.*

**ИЗДѢВАТЬСЯ** *над кім;* зьдзекавацца, здзекі. *Што з няўмекі строіць зьдзекі.*

**ИЗДѢЛІЕ** *ср.* выраб, вырабляць. *Вырабы хатняга рэмясла, ткацкіе, ганчарныя.*

**ИЗДѢЛЬНАЯ** *плата,* зробная.

**ИЗЖАЛИВАТЬ** *каго,* сажгаць, зжыгаць. *Зжыгалі, сажгалі пчолы каня.*

**ИЗЖАРИВАТЬ** *што,* спражыць, спятрашыць. *Выпетрыў чорт бы скурат (Сержп.).*

**ИЗЖИВАТЬ** *што,* зжываць. *Век зжыць ня мех сшыць..*

**ИЗЖОГА** *ж.* пякотка. *Пякотка пячэ ў горле.*

**ИЗ-ЗА** спа-за, з-за: *З-за вугла. За сваё дабро. Спа-за лесу.*

**ИЗЗАРАНЬЯ** *прысл.* спазараньня, спазаранку.

**ИСКЛЮЧЕНІЕ** *ср.* вынятак.

**ИЗЛОВЛЯТЬ** *каго,* лавіць, злавіць, злавіцца.

**ИЗЛАГАТЬ** *што,* выкладаць.

**ИЗЛОЖЕНІЕ** *ср.* выклад. *Выклад кароткі, ясны.*

**ИЗ-ЛЕЧЕНІЕ** *ср.* вылячэньне.

**ИЗЛИВАТЬ** *што з чаго;* выліваць.

**ИЗЛИТІЕ** *ср.* выліў. *Выліў ракі, жалю.*

**ИЗЛИНЯТЬ**, утраціць колер, барву, масьць; зблекнуць; зьмяняць поўсьц пёры; выліняць.

**ИЗЛИШНІИ, лішні, збытны.**

**ИЗЛИШЕК, лішкі, лішніца , збытак.**

**ИЗЛИШЕНСТВОВАТЬ, збыткаваць.**

**ИЗЛИЦЕВАТЬ** *што,* **зьніцаваць, пераніцаваць.**

**ИЗЛОМАТЬ** *што,* **зламаць, сызлом.**

**ИЗЛУЧИНА,** кругавы паварот або выгіб ракі; **закрут, выгіб;** зьвязь двох канцоў дугі; **разьвіліна.**

**ИЗЛУЧАТЬ** *час, пару;* **улучаць.**

**ИЗМАЯТЬ** *каго,* **змарыць, замучыць.**

**ИЗМЕЛИТЬ** *ваду,* **зьмяліць, мелкі;** зрабіць дробным; **спарушыць, здрабніць.**

**ИЗМЕТНУТЬ, вышпурнуць, выкінуць.**

**ИЗМИНАТЬ** *што,* **зьмязджаць.**

**ИЗМОРОЗЬ** *ж.* замерзшая ў паветры або на рэчах пара; **шаць, шэрань.**

**ИЗМОР** *м.* **сызмор.** *Узяць каго сызморам.*

**ИЗМОЧАЛИВАТЬ** *што,* разьбіць на валокны, **зьвехціць, размызгатаць, разгвазгаць.**

**ИЗМЫШЛЯТЬ, выдумляць, выдумка.**

**ИЗМѢНЯТЬ** *што,* даваць адну рэчь за другую, **замяняць, перамяняць.**

**ИЗМѢНА** *ж.* нявернасьць, перамена ў пачуцьцях ў мысьлях ў адваротную старану; **зрада, зраднік, зраджываць; зрада, зрадніцтва, зраджаць.**

**ИЗМѢНЧИВОСТЬ, зьменчывасьць.** *Зьменчывая пагода.*

**ИЗМѢРЯТЬ** *што,* **вымяраць, вымерываць, вымер.**

**ИЗМѢРЕНІЕ** *ср.* **вымер памер, спамер.**

**ИЗМЯТЬ** *што,* **скомкаць, скомшыць.**

**ИЗНАНКА** *ж.* **выварат, подшэўка, зьнічка, зьніцная, старана.**

**ИЗНАРУЖНЫЙ, сызнешны.** *Сызнешны выгляд.*

**ИЗНАСИЛИВАТЬ** *каго,* **спанясілаваць, згвалціць.**

**ИЗНАЧАЛА** *прысл.* **спачатку.**

**ИЗНЕМОГАТЬ**, **зьнемагацца, зьнясіліавацца.**

**ИЗНОЖЬЕ** *ср.* ніжні, узножны канец ложка; **узножжа.**

**ИЗНОРАВЛИВАТЬ** *каго,* **разбязурываць, знараўліваць.**

**ИЗНУРЯТЬ** *каго,* **марыць, марчыць.** *Змарыў каня. Марыць голадам. Марчыць сэрца сваё тугай.*

**ИЗНУТРЬ**, **сызнутра, сызнутраны.**

**ИЗНЫВАТЬ**, **спанываць, чаўрэць, сохнуць.**

**ИЗНЫРНУТЬ**, **вынырнуць, спанырнуць.**

**ИЗНѢДРЯТЬ** *што,* **спанатрыць.**

**ИЗНѢЖИВАТЬ** *каго,* **здалікачываць, здалікачаны; спакволіваць, спаквоны.**

**ИЗНЯТЬ** *што,* **вызняць, вызняткі.**

**ИЗОБИДѢТЬ** *каго,* **спакрыўдзіць, спакрыўджаны.**

**ИЗОБИЛІЕ** *ср.* **аквітасьць.** *Усяго аквіта было. Аквіты ураджай сёлета.* **Багацьце;** Багаты ураджай, багаты прыём. Усяго багата было.

**ИЗОБЛИЧАТЬ** *каго у чым;* **раскрываць, вінавацiць, высьвятляць.**

**ИЗОБРѢТАТЬ** *што,* **вынаходзіць, вынаходчывасьць, вынаходчык, вынахад.**

**ИЗОГРАФІЯ** *ж. грэцк.* навука аб маляваньні сьвятых на абразах; **ізографія.**

**ИЗОЛИРОВАТЬ** *што,* аддзяліць ад усяго акружаючага; **ізаляваць.**

**ИЗОСТРЯТЬ** *што,* **вастрыць, завастраць;** *аб умысловых рэчах гаворыцца;* „изощрять". *Выкруты дыялектыкі не завастраюць розум, а толькі ухітраюць яго крывадушнасьцю.*

**ИЗОТЕРМЫ** *ж. мн. грэцк.* пункты аднаго і таго-ж паўклубьбя зямлі; дзе сярэдняя цяплата аднастайная; **ізотэрмы, адноцеплі.**

**ИЗОТЧАЯТЬСЯ**, **зраспачыцца.**

**ИЗОЩРЯТЬСЯ**, **назастрацца, назостраны, назострыўства.**

**ИЗРОЖДЕНІЕ** *ср.* **вызродзьдзе, вызрадак.**

**ИЗРАЗЕЦ** *м.* глiняная плiта зьверху палiваная; **кахля, кахлёвы, кахляр.**

**ИЗРАНА** *прысл.* **спазараньня.**

**ИЗРАСХОДОВАТЬ** *што,* **выдаць, выдаткаваць.**

**ИЗРЕКАТЬ** *што,* **выскaзываць, выслаўляць.**

**ИЗРЕЧЕНІЕ** *ср.* **выслоў, выськаз.**

**ИЗРЕЧИМЫЙ, выслоўны, вымоўны.**

**ИЗРУБАТЬ** *што,* **зсякаць.**

**ИЗРУГАТЬ** *каго,* **злаяць.**

**ИЗРЫГАТЬ** *што,* **вырыгаць, адрыгаць.** *Карова адрыгае жвачку. Печ вырыгае агонь.*

**ИЗРЫТЬ** *што,* **скапаць.** *Скапаць зямлю.*

**ИЗРѢДЬ** *прысл,* **спорэзь, рады ў гады.**

**ИЗРѢЗ** *м.* **адрэз.** *На адрэзе папэцкана.*

**ИЗРѢЧЬ, вымавiць, выскaзаць.**

**ИЗРѢШЕТИТЬ, кадзiркаваць, пасiткаваць.**

**ИЗРЯДНЫЙ,** з раду вон добры, вельмi добры: **незраўнаны, сьветны.**

**ИЗСАЛИТЬ** *што,* **вытлусьцiць, затлусьцiць.**

**ИЗСКОБЛИТЬ** *што,* **саскаблiць.**

**ИЗСКУЧАТЬСЄЯ, знудзiцца, знуда.**

**ИЗСЛѢЖИВАТЬ** *зьвера,* **высьледжываць.**

**ИЗСЛѢДОВАНІЕ** *ср.* **досьлед, дасьледчык, дасьледаваньне; дацяканьне, дацякач, дацякаць.**

**ИЗСТАРИ** *прысл.* **сыздаўна, здаўна, з старадаўна.**

**ИЗСТЕГАТЬ** *каго,* **адсьцябаць, высьцябаць.**

**ИЗСТЕКЛИТЬСЯ, сашклiцца, сашклець.**

**ИЗСТОНАТЬ** *нуду сваю,* **выстагнаць.**

**ИЗСТРАДАТЬ** *што,* **вымучыць.**

**ИЗСТРАДАНІЕ** *ср.* **вымучаньне, змучаньне.**

**ИЗСТУПАТЬ** *с чаго,* **саступаць.**

**ИЗСТУПЛЕНІЕ**, выхадзіць з сябе; **разьюшаньне.**

**ИЗСЧИТЫВАТЬ** *што*, **сасчотаваць.**

**ИЗСѢКАТЬ** *што*, **высякаць, вырубаць.**

**ИЗСЯКАТЬ, ушчукаць, чануць, счануць.** *Ушчукла вада ў студні. Счанулі сьлёзы мае. Счанула міласердзе людзкое.*

**ИЗУВАТЬ** *каго*, **вызуваць.**

**ИЗУВЕРТКА** *ж.* **выкрутка**

**ИЗУВЕРСТВО** *ср.* **фанатызм, фанатык.**

**ИЗУВѢЧИВАТЬ** *каго*, **бязвечыць, абязвечыць; пакалечыць; бязьвечча, калецтва.**

**ИЗУГЛИВАТЬ** *што*, **звугаліваць, звугалены.**

**ИЗУКРАШИВАТЬ** *што*, **аздабляць.**

**ИЗУМЛЯТЬ** *каго чым*, зьдзіўляць, дзівіць даводзіць да найвышэйшага подзіву; **здумляць, здумеўся.**

**ИЗУМИТЕЛЬНО** *ср.* **здумеўна, зумеўна.** *Аж я зумеўся гэта пачуўшы. Зумеліся людзі гледзячы на гэта дзіва.*

**ИЗУМРУД** *м.* дарагі камень зялёнага колеру; **шмарагд.**

**ИЗУРОДОВАТЬ** *каго, што;* **калечыць.**

**ИЗУСТНЫЙ,** які выходзіць з вусн; **сызмоўны.** *Сызмоўная лекція. Сызмоўная пагудка. Сусказны. Суеказнае апавяданьне; сусказная навіна.*

**ИЗУЧАТЬ** *што*, **вывучаць, вывучацца, вывучаньне, вывучаны.** *Ен вывучае старыя мовы. Я хачу пачаць вывучацца прыроды.*

**ИЗЪИСКИВАТЬ, вышуківаць.**

**ИЗЪЯВЛЯТЬ** *што*, **выяўляць, выяўна, выяўленьне.**

**ИЗЪЯЗВЛЯТЬ** *што, каго;* **раніць, параніць.**

**ИЗЪЯН** *м.* **вада, вадлівы.** *Ніякай вады німа ў каня. Якая вада ў дзеўкі? Ніякой вады німа.*

**ИЗЪЯННЫЙ, вадлівы.** *Вадлівы конь.*

**ИЗЪЯСНЯТЬ** *што, каму;* **тлумачыць, выясьняць, выкладаць.**

**ИЗЪЯСНЕНІЕ** *ср.* **тлумачэньне, выклад, выясьненьне.**

**ИЗЪЯСЬНИМЫЙ,** які можа быць выясьненым.

**ИЗЪЯТІЕ** *ср.* **вызняцьце, вызняты.**

**ИЗЫСКИВАТЬ, вышуківаць, вынаходзіць, дацякаць,**

**ИЗЫСКАНІЕ** *ср.* **вышуканьне, вынахад, дацяканьне.**

**ИЗЫТОЖИТЬ** *грошы,* **счотаваць, сасчотаваць.**

**ИЗЮМ** *м. зборн.* сушаныя вінагрозьдзі: **разынкі, граздынкі.** Граздынкамі называюць разынкі ў грозьдзях.

**ИЗЯЩНЫЙ, дыстынктоўны, дыстынкцыя.**

**ИКОТА** *ж.* **ікаўка, гікаўка,**

**ИКОНА** *ж. грэцк.* **ікона, абраз.**

**ИКОСАЭДР** *ж. грэцк,* цела якое мае дванаддцаць роўнабочных трыкутнікаў. Гэта адзін з правільных многасьценаў твораных з клуба, зрэзаньнём адсекаў; **ікосаэдр.**

**ИКРА** *ж:* мясістая часьць падкаленьня; **ікры.**

**ИЛЕМ** *м.* **ИЛЬМА** *ж.* дрэва Ulmus campestris; **бераст.**

**ИЛИ** *злуч.* **або, ці;** *Ці тое бяры, ці другое. Швагер або жорчын брат.*

**ИЛ** *м.* **буза.** *Бузаватае дно ў возеры.*

**ИЛЮЗІЯ** *ж. франц.* абман зроку, чову, выабражэньня; **ілюзія, мікраць.** Мікрамі называюць іскрынкі і клубікі, якія здаюцца ў вачах перад сном.

**ИЛЮМИНОВАТЬ** *што, франц.* прыбіраць агнямі, кветкамі; размалёвываць фарбамі; **люмінаваць.**

**ИЛЮСТРОВАТЬ** *выданьне, кнігу, франц.* аздабляць рысункамі; **ілюстраваць.**

**ИМОВИТЫЙ, маетны.**

**ИМОВѢРНЫЙ, праўдападобны.**

**ИМОРТЕЛЬ**, расьціна і кветкі невянучыя, сухія з натуры; **несьмяротнік.**

**ИМПОНИРОВАТЬ** *франц.* **імпанаваць.**

**ИМПРОВИЗИРОВАТЬ** *што, італьян.* гаварыць вершамі, ўкладаючы вершы; гаварыць прамову не падгатовуючыся; гаварыць с памяці; **імправізаваць.**

**ИМУЩІЙ**, **маетны.** *Маетны стан, чалавек.*

**ИМѢТЬ** *што,* **мець.** *Лепей мець, як ня мець.*

**ИМѢНЬЕ** *ср.* **маетнасьць, маемасьць; собіна; дабытак.**

**ИМЯ** *ср. агульн. слав.;* **імя, іменны; мяно, мяняваць, мяноўна, мянушка.** *Я—ж не бязмяноўная авечка. Як твае імя? Іменны білет,* **Поракла,** *прозьвішча, другое, ня хроснае імя.*

**ИМЕННО** *прысл.* **мяноўна, мянаваць.**

**ИМЕНИТЫЙ**, **знатны, славэтны.**

**ИМЯРЕК,** слова гэта паказуе дзе трэба назваць імя.

**ЙНБИРЬ** *м.* Amomum Zingiber; **імбір.**

**ИНВАЛИД** *м. франц.* заслужаны ваяр няздольны ўжо да службы; **інвалід—дка.**

**ИНВЕНТАРЬ** *м. лац.* сьпісаньне маетнасьці, зямель, рэчаў; **інвэнтар.**

**ИНГРЕНДІЕНЦИИ** *мн. лац.* складныя часьці мяшаніцы, найчасьцей лекарскай; **інгрэндыенціі.**

**ИНДЕВѢТЬ,** пакрыцца замерзшай парай; **інецъ, заінецъ, зашацьвіць.**

**ИНДИВИД** *м. лац.* асоба, адзінка; **індывід, індывідуальнае.**

**ИНДИКТ** *м. лац.* пятнадцацілетні працяг часу; лічыцца ад 1 верасьня; **індыкт.**

**ИНДИФЕРЕНТИЗМ** *м. лац.* **безразрожлівасьць, роўнадушлівасьць.**

**ИНДУЛЬГЕНЦІЯ** *ж. лац.* дараваньне грахоў. Нашы уніяты называлі гэта **прошчай.**

**ИНДУСТРІЯ** *ж. франц.* працавітасьць, умецтва промыслаў; **прамысловасьць, індустрыя.**

**ИНДЮК** *м.* **індык, калакут.**

**ИНЕИ**, сырасьць у паветры, якая асядае на рэчы што больш сьцюдзёныя чым паветра і замярзае на іх пушком; **шаць.**

**ИНЕРЦІЯ** *ж. лац. фіз;* нячыннасьць цел бяз зьнешняй пабудкі; **інэрція, нядзейнасьць.**

**ИНЖИНЕР** *м.* вучоны будаўнік, але ня жытных дамоў (гэта архітэктар) а другіх будынкаў і рэчаў; **інжынер.**

**ИНЖИР** *м. тур.* **фігі, ягадніцы.**

**ИНИЦІАТИВА** *ж. лац.* **пачын, ініціятыва.**

**ИНКВИЗИЦІЯ** *ж. лац.* суд духоўны устаноўлены папежамі для розыску і суда над праступнікамі супроць веры: **інквызыція.**

**ИНКОГНИТО** *прысл. з лац.*; не пад сваім мяном, нё апавяшчаючы сваю годнасьць, названьне; **інкогніта.**

**ИНКОРПОРАЦІЯ** *лац.* злучыць, зьліць у адно, ўлучыць, аб'яднаць; **інкорпорація.** Німа ніякай патрэбы ўжываць гэтае някшталтнае слова ў нашай мове: яго саўсім заступае слова—**ўлучыць, ўлучэньне.**

**ИНКРУСТАЦІЯ**, *ж. франц.* нарэзка на дрэве ў якую ўстаўляецца другога колеру узорамі дрэва, мэталь, косьць; **інкрустація.**

**ИНОЙ**, ня гэты; **іншы, гэнакі, другі, інакі, іншый.**

**ИНОГДА, часам, іночасі, спачас калі, падчас; інкалі, анкалі, анкады.** *Анкады грош даражэй рубля. Ня ўсё лазой, анкалі і рэмянём. Іночасі госьць горш татарына.*

**ИНОВИДНЫЙ, інастатны, інадменны.** *Інадменны завод курэй.*

**ИНОВѢРІЕ** *ср.* **рознавернасьць, рознаверны, рознавер.**

**ИНОГОРОДНІЙ, іншагорадны, анагорадны.**

**ИНОЗЕМНЫЙ, чужаземны, аназемны.**

**ИНОК** *м.* **ИНОКИНЯ** *ж.* **законнік—ца; паслушнік—ца.**

**ИНОМЫСЛІЕ** *ср.* **інамыснасьць, інамысна.**

**ИНОПЛЕМЕННЫЙ**, **чужаплемны, чужаплемнік.**

**ИНОРОДНЫЙ**, **чужародны, чужароднік.**

**ИНОСКАЗАНІЕ** *ср.* **алягорыя, іносказ, інасказны.**

**ИНОСТРАННЫЙ**, **чужаземны, чужаземнік.**

**ИНОСУЩІЙ**, **рознародны, рознаісты.**

**ИНОЦВѢТНЫЙ**, **другабарвісты, другаколерны.**

**ИНОЯЗИЧНИК**, **чужамоўнік.**

**ИНСИНУАЦІЯ** *ж. лац.* тайная абмова, падбураньне; **інсынуацiя, брахня.**

**ИНСПЕКТОР** *м. лацін.* дастойнасьць надаваная даглядчыку, загадчыку над чым; **інспэктар, інспэкція.**

**ИНСТАНЦІЯ** *ж. лац.* ступень, у значэньні высшага, сярэдняга ці нізшага месца суда; **інстанція.**

**ИНСТИНКТ** *м. лац.* несьвядомая ўнутранная пабудка паводле якой паступаюць зьверы; **інстынкт пабудка.**

**ИНСТИТУТ** *м. франц.* выхаваўчая вучомная установа; **інстытут.**

**ИНСТРУКЦІЯ** *ж. лацінс*; **наказ, інструкція.**

**ИНСТРУМЕНТ** *м. лац.* усякая ручная прылада ці устройства для якой колечы работы, пачынаючы ад касаргі (рычага), нажа і сякеры, да компаса і тэлескопу **прылада, інструмант.**

**ИНСУРЕКЦІЯ** *ж. лац.* **бунт, паўстаньне.**

**ИНСУРГЕНТ** *м. лац.* **паўстанец, бунтар.**

**ИНТЕГРАЛ** *м. мат. лац* аканечная сызмерная вялічыня ў тасунку да нескачечна малой яе часьці *дыфэрэнціялу*; **інтэграл.**

**ИНТЕЛЕКТУАЛЬНЫЙ** *лац.* умысловы, духовы і разумны; **інтэлектуальны.**

**ИНТЕЛИГЕНЦІЯ**, разумная адукаваная часьць жыхарства; **інтэлігенція**

**ИНТЕНДАНТ** *м. франц.* хто кіруе емінныму і другімі засабамі войска; **шафар, інтэндант.**

**ИНТЕНСИВНЫЙ** *лац.* сільны і напорысты; **інтэнсыўны, напорысты.**

**ИНТЕРВАЛ** *м. франц.* пустая праміжлегласьць; **прагал, інтэрвал.**

**ИНТЕРЕС** *м. франц.* прыбытак, зыск; зацікаўленасьць; **карысьць, цікаўнасьць, справа.**

**ИНТЕРМЕДІЯ** *м. лац.* невялікі тэатральны твор, напісаны для прадстаўленьня паміж другіх двох відовішч, яно або служыць ўступам да другога, або датыча сьвяткаванай урачыстасьці; **інтэрмэдзія.**

**ИНТИМНЫЙ** *лац.* блізкі, паміжсобны, таёмны; **інтымны, паміжсобны.**

**ИНТОНАЦІЯ** *ж. лац.* асабліва сільны націск голасам на слове, **інтанація.**

**ИНТРИГА** *м. франц.* юджаньне, падкопы, нагаворы і чыны з мэтай каму пашкодзіць—**каверза, каверзь, каверзьнік-ца;** любоўная зьвязь—**баламутня, баламут, баламутка, баламуцтва;** завязка, апорны пункт камэдзіі або драмы, зазвычай каханьне з якога родзяцца падкопы, каверзы—**завязка; інтрыга.**

**ИНТРОДУКЦІЯ** *ж. муз. фр.* **ўступ.**

**ИНФАНТЕРІЯ** *ж. франц.* пяхотнае войска, **пяхота.** *Генерал от инфантеріи*—поўны генерал пяхоты.

**ИНФЛАМАЦІЯ** *ж. лекар.* **запаленьне.**

**ИНФЛЕКСІЯ** *праменьняў святла ж.* **наклон.**

**ИНФУЗОРІЯ** *ж. лац.* мікраскапічная жывулька, ва ўсіх цеклацях, асабліва ў кіснучых і загніваючых; **інфузорыя.** Адмены іх: *монада* або *пункцік, клубцік, вітушок, раскірзок.*

**ИПОКРИТ** *м. грэцк.* аблыжны і скрытны пакорлівец; **гіпакрыта, гіпакрыція.**

**ИРАЦІОНАЛЬНЫЙ** *лац.* бязсэнсоўны, не разумны, не карысны; **недамэтны.**

**ИРРЕГУЛЯРНЫЙ** *лац.* неакуратны, няроўны, няўладжаны; **няўладжаны.**

**ИРИГАЦІЯ** *ж. лац.* заліваньне вадой поля, паласканьне; **затопа.**

**ИРОНІЯ** *ж. грэцк.* насьмешлівая пахвала, пахвала якая выражае дакор, **іронія, хлусьва.**

**ИСКАЖАТЬ** *што,* перайначываць, выбражаць на выварат; **казіць.**

**ИСКАНІЕ** *ср.* **шуканьне.**

*Сталі чытаць, імя шукаць,*
*Імя шукаць, чым сына зваць.*
*(Рог. п. Ром. 8—9 с. 172).*

**ИСКАТЕЛЬ, шукач, шукаць, шуканы.**

**ИСКОПАЕМЫЙ, выкопны, выкопнае.** *Выкопнае вапна.*

**ИСКОПОК** *м.* **выкапень, выкапка, капанец.**

**ИСКЛЮЧАТЬ** *што,* выкідаць з ліку, адкідаць; **выключаць, выключна, выключнасьць; вызьнімаць.** *Гэта выключнае здарэньне. Я ем выключна жытні хлеб.*

**ИСКЛЮЧЕНІЕ, выключнасьць, вызнятак, вызьнятна.**

**ИСКОВОЙ, спазыстчы, спазыстчык, спозыск.**

**ИСКОВЫРЯТЬ** *што,* **скалыпаць.**

**ИСКОЛЕСИТЬ** *што,* **скалакружыць.** *Я скалакружыў ўсю аколіцу.*

**ИСКОЛОТИТЬ** *каго, што,* **зьбіць.** *Зьбіў яго на кіслае яблыка.*

**ИСКОМЫЙ, шуканы.**

**ИСКОНИ** *прысл.* **спракон, спраконна, спракавечна.** *Спракон так вядзецца, што жана мужу паддаецца.*

**ИСКОНОПАЧИВАТЬ** *што* **выпаклёвываць.**

**ИСКОРЕНЯТЬ** *што,* **выкараняць, выпленяць.** *Выпленіў асот ў гародзе. Выпленіў ды выкараніў Бог род іхні.*

**ИСКОРОБИТЬ** *што,* **скарабаціць, пакарабаціць, карабаціць.** *Дошкі паракабаціліся. Стол скарабаціўся.*

**ИСКОСА, зукоса.** *Зукоса на нас паглядае;* **наскас**—*Наскас поля дарогу правялі;* **зызам**—*Зызам на мяне глядзіць;* **касавурам**—*Усё касавурам зыркае. Чаго ты касавурышся на мяне? Я-ж табе нічога благога не зрабіў.*

**ИСКОСНЫЙ, сукосны, касавуры.**

**ИСКРА** *ж.* маленькая частачка распаленага, агністая крупінка; **іскра, яска, ясачны, іскрысты, іскравы, іскранік, іскрыць, іскрысты.**

**ИСКРЕННІЙ**, чыстасэрдэчны, не крывадушлівы; **шчыры, шчырасьць.** *Шчыры чалавек. Шчырая праўда.*

**ИСКРИВЛЯТЬ, выкрыўляць, выкрыўлены.**

**ИСКРОМЕТНЫЙ, іскрысты.**

**ИСКРОШИТЬ, скрышыць, паскрышыць, скружаць.** Буракі, моркву, наагул круглае—*кружаюць, цыбулю, бацьвіньне—крышаць.*

**ИСКУПАТЬ** *што,* **выкупляць, адкупляць.**

**ИСКУПИТЕЛЬ, адкупіцель-ніца.**

**ИСКУШАТЬ** *каго, чым;* **спакушаць, спакуса, спакусьнік-ніца, спакусьлівы; блазіць.** *Блазіць мяне нячысты,*

**ИСКУСНЫЙ**, выпрабаваны, які дайшоў да умень; ня вялікай практыкай; **умелы, умеласьць, умецтва, штучны.**

**ИСКУСТВО** *ср.* **умецтва, штука, мастацтва.**

**ИСКУС, пара, час,** тэрмін калі хто спакушаецца, дазнае справу чынам, навучаецца чаго; **проба, соблазь.**

**ИСКУШЕНІЕ** *ср.* **спакуса; блазь.** *Нячысты ўсякую блазь (спакусу) рабіў, а ткі не зблазіў.*

**ИСК** *м.* **спозыск.** *Спозыск доўгу.*

**ИСПАРЯТЬ** *што,* **выпарываць.**

**ИСПАРЕНІЕ** *ср.* **выпар, выпарына, выпары, параваньне.** *Ня толькі вада, але і лед паруе. Выпары цела называюцца потам.*

**ИСПАЧКАТЬ** *што,* **сьпэцкаць.**

**ИСПЕЧЬ** *што,* **сьпячы, сьпечаны.**

**ИСПЕЛЕНАТЬ** *дзяцё,* **сьпавіць.**

**ИСПЕПЕЛИТЬ** *што,* **спапяліць.**

**ИСПЕРВА** *прысл.* **сьпярша.** *Сьпярша ты, а пасьля ўжо я. Сьпярша работа, а пасьля спачынак.*

**ИСПЕСТРИТЬ** *што,* **спярэсьціць, зпстрыкаціць.** *Мухі спстрыкацілі акно.*

**ИСПИТОЙ**, недакроўны, аслабелы; **зьнебыткаваны.**

**ИСПОВѢДЫВАТЬ** *веру,* **вызнаваць.** *Вызнаю веру хрысьціянскую. Вызнаю грахі мае.*

**ИСПОВѢДАНІЕ** *ср.* **вызнаньне, вера, рэлігія.**

**ИСПОВѢДИМЫЙ**, які можа быць вызнаны, выказаны славамі; **выслоўны вымоўны.**

**ИСПОВѢДЬ** *ж.* **споведзь, спавядацца, спаведнік.**

**ИСПОДВОЛЬ** *прысл.* **спавольна, сполегка, злягка.** *Спавольна, сполегка і вольху сагбаеш.*

**ИСПОДНІЙ**, **падысподны.** *Падысподны жарнак.*

**ИСПОДНИЦА** *ж.* **спадніца.**

**ИСПОКОН** *прысл.* **спракон, спракон веку спраконны.**

**ИСПОЛА** *прысл.* **на палавіну, палавіньнік,** або **занашнік** які абрабляе зямлю за палавіну ураджаю

**ИСПОЛАТЬ** *выклік, з грэцк.* **слава.**

**ИСНОЛИН** *м.* нязвычайна вялікі: **волат, гігас.**

**ИСПОЛНЯТЬ** *што,* **выпаўняць, выпаўненьневыпаўніцель-ніца; выконываць, выкананьне вы канальнасьць.**

**ИСПОЛНА**, **поўнасьцью.** *Аддай доўг поўнасьцю.*

**ИСПОЛОСИТЬ** *што,* **спалосаваць.**

**ИСПОЛОСКАТЬ** *што,* **спаласкаць.**

**ИСПОЛОХ** *м.* **перапалох, спалох.**

**ИСПОЛЬЗОВАТЬ** *каго,* **выкарыстаць.**

**ИСПОРТИТЬ** *што,* **сапсаваць, сапсуты.**

**ИСПОРѢДЬ** *прысл.* **рэдка, калі-не калі, рады ў гады.**

**ИСПОТЧЫВАТЬ** *што,* **счаставаць**. *Счаставаў усю гарэлку.*

**ИСПОШЛЯТЬ** *каго, што;* **сплыжаць, плыгкі**. *Ен ўсё чыстае, прыгожае умее сплыжыць, зрабіць агідным плыгкім* (ад „плы(і)гаць" скакаць як жаба).

**ИСПРАВЛЯТЬ** *што, каго;* **папраўляць, паправа**.

**ИСПРАВНЫЙ, спраўны**. Аб чалавеку—акуратны сумленны ў павіннасьцях; аб рэчах: добры, годны да ўжытку, не папсаваны.

**ИСПРАВНОСТЬ, спраўнасьць**.

**ИСПРАВИМЫЙ**, які можа паправіцца, **спапраўнасьць; спапраўны**. *Спапраўнае зло. Спапраўная бяда, калі можна яе паправіць.*

**ИСПРАВИТЕЛЬНЫЙ,** да папраўы датычны; **папраўчы, спапраўчы**.

**ИСПРАВНИК** *м.* зьверхнік земскай паліцыі; **спраўнік**.

**ИСПРАЖЕНІЕ** *ср.* **спарожжа, спаражняць**.

**ИСПРАШИВАТЬ** *што ў каго;* дамагацца просьбай; прасіць пазваленьня зьверхнасьці; **прасіць, просьба, прошаны, просьбіт-тка**.

**ИСПРОБОВАТЬ** *што,* **выпрабаваць**.

**ИСПРОВЕРГАТЬ** *што,* **вывяртаць, вываротлівы**.

**ИСПРЯМЛЯТЬ** *што,* **спрастовываць**.

**ИСПУГАТЬ** *каго* **спужаць, спудзіць: ўлякнуць, спалашыць**.

**ИСПУГ** *м.* **спужа, упуд; злякнасьць, злякненьне; спалох.** *З упуду, са спужы, са злякненьня, са спалоху, хварэе.*

**ИСПУГАТЬСЯ, спужацца, злякнуцца, спудзіцца**.

**ИСПУПОК** *м.* пупавая папула, выпаданьне кішок у падскурны прарыў пупка; **грызь**.

**ИСПУСКАТЬ** *што, з чаго;* **выпускаць;** выдаваць з сябе крык; **выдаваць;** выпускаць („испускать") душу, **аддаць Богу душу**.

**ИСПЫТЫВАТЬ** *што, каго;* **выспрабовываць, выпрабовываць, выпрабоўка, выспраб; выспытываць, выспыт; дазнаваць.** *Выпрабовуй золата агнём, а дружбу грашамі. Выпрабуй на сабе. Ня выспытаўшы броду, ня суньса ў воду. Ён дазнаў многа гора ў жыцьці. На вясну будуць выспыты у школе.*

**ИСПЫТАННЫЙ, выпрабаваны, дазнаны, зьведаны.**

**ИСПЯТНАТЬ** *што,* **спаляміць, папляміць, парабаціць.**

**ИССОП** *м.* **гізоп.**

**ИСТОР** *м.* **страта.**

**ИСТАЧИВАТЬ** *што,* прышыць шавецкім спосабам; **прышыць.**

**ИСТАЧИВАТЬ, ИСТОЧАТЬ** *што,* вытачываць на такарным пастаўку; **вытачываць.**

**ИСТЕКАТЬ,** выцякаць, выбягаць струмінай; **выцякаць.**

**ИСТОК** *м.* **вытак.** *Вытак ракі, вытак крыві.*

**ИСТОПТАТЬ** *што,* **стаптаць, затаптаць; здратаваць.** *Затаптаць нагамі памост, забрудзіць гразёй. Коні выдратавалі авёс.*

**ИСТЕКШІЙ, мінулы, зошлы.** *Мінулага, зошлага месяца.*

**ИСТОЧНЫЙ, выточны, вытока.**

**ИСТОК, вытак, высьцек.**

**ИСТОЧНИК** *м.* **крыніца;** даўней **крынь:** Крыны же проливающе поток (Мінэя 1096 г.) Гортань твой яко крынь проливающи миро (Срезн.).

**ИСТЕЛЯТЬСЯ, ацяліцца, выцяліцца.**

**ИСТЕРЕБИТЬ** *што,* **выцерабіць.**

**ИСТЕРЗАТЬ** *каго,* **выстурзаць, стурзаць, стурзнуць, спатурзнік-рзніца.**

**ИСТЕРИКА** *ж.* жаночая нэрвовая хвароба; **гістэрыя, гістэрычка.**

**ИСТЕРЯТЬ** *што,* **вытраціць, выдаць.**

**ИСТЕЦ** *м.* **спазыстчык-чыца; сусцяжай.** А коли супор, а любо сутяжай речеть (Вісл. статут 1347).

**ИСТЕЧЕНІЕ** *тэрміну;* **зыход.**

**ИСТИНА** *ж.* ўсё што праўдзіва, справядліва; **праўда, праўдзіва, спраўдна; істасьць, істаўка, ісьціца.** *Ісьцівая праўда.*

**ИСТИННЫЙ,** праўдзівы, справядлівы, шчыры; **праўдзівы, ісьцівы.** *Ад Бога ісьцівага.*

**ИСТЛИТЬ** *што,* **сатліць, сатлець, вытлевак, вытлеў, вытлеўшы.**

**ИСТОВЫЙ,** акуратны, пункт ў пункты; **істы.** *Істы чорт.*

**ИСТОЛОЧИТЬ** *траву,* **сталошыць, здратаваць, стаўчы.**

**ИСТОЛКОВЫВАТЬ** *што, каму;* **тлумачыць.**

**ИСТОЛКОВАТЕЛЬ** *м.* **тлумач, тлумачаньне.**

**ИСТОЛСТА** *прысл.* **стоўсна, стоўсны, стоўсьць.**

**ИСТОМЛЯТЬ** *каго,* **знураць, знурыўся, знураньне; зьнемагаць, зняможаны, зьнямога.** *Зьнямогся ад працы.*

**ИСТОМА, сьмяга, амяга, смага.**

**ИСТОНИТЬ** *што,* **сцяніць, ценкі,**

**ИСТОРГАТЬ** *што,* браць, вырываць, сілай; **вытыргаць, вытыргнуць; вырываць.**

**ИСТОРЖЕНІЕ** *ср.* **вытырг.**

**ИСТОРІЯ** *ж. лац.* **гісторыя, гісторык, гістарычны.**

**ИСТОЧАТЬ** *што,* **вытачаць, разьліваць.** *Сьлёзак вытачыш крыніцы. Разьлівае ласкавасьць сваю.*

**ИСТОЩАТЬ** *што,* **атушчаць, пустошыць, вычэрпываць.** *Не хвароба вычарпала яго, а недаедкі. Ён вычарпаў маетнасьць сваю. Я, праўда, атушчаю, пустошу дастаткі свае, але на добрыя справы. Цярпеньне мае вычарпалася.*

**ИСТРАВИТЬ** *што,* **спасьвіць, спаша.**

**ИСТРАЧИВАТЬ, выдаткаваць, выдаваць, траціцца, патраціцца.**

**ИСТРЕБЛЯТЬ** *што*, **нішчыць, вынішчаць, выгубляць.**

**ИСТРЕБЛЕНІЕ, нішчаньне, вынішчаньне.**

**ИСТРЕБОВАТЬ** *што*, **зажадаць.** *Зажадаўшы тлумачэньня, разгледзь справу.*

**ИСТРЕПАТЬ** *што*, аб лёне і наагул валакне: **вытрапаць;** аб кнігах, вопратцы; **схлюндрыць, зьдерці, злахматаць.**

**ИСТРЕПОК** *м.* **атропак, хлюндыр, дзярмень, лахмат.**

**ИСТРЕСКАТЬСЯ, патрэскацца, палопацца.**

**ИСТУКАН** *м.* паганскі бажок круглай работы; **стод.**

**ИСТЯЗАТЬ, мучыць, тузаць. катаваць.**

**ИСХОД** *м.* **выхад, зыход, вынік.** *Чакаем выніку справы. Чакаем зыходу сонца. Выхад жыдоў з Егіпту.*

**ИСХОДНЫЙ, высходны,** Ад высхаду ракі да яе сутокаў.

**ИСХОДЯЩІЙ** *аб дакумантах,* **выбываючы,** адваротнае: *паступаючы.*

**ИСХОДАТАЙСТВОВАТЬ—выстарацца.**

**ИСХИЩАТЬ** *што*, **выхватаць, выхват.**

**ИСХЛОПОТАТЬ** *што*, **выклапаціць, выстарацца.**

**ИСХУДАТЬ, схудзець, схудзеўшы.**

**ИСЦАРАПАТЬ** *што*, **зьдзярстаць, падзёрстаць.** *Хто гэта падзёрстаў рысунак? Дзе ты падзярстаў сабе рукі.*

**ИСЦѢЛЯТЬ** *што*, **вызгаяць, вызгаяцца, вызгойнасьць, вызгаіць, вызгойшчык, вызгойлівы.** *Ня можна вызгаіць, то лепш адсеч. Вызгойлівая рана, але пакуль выгаіцца часу трэба.*

**ИСЧАДІЕ** *ср.* **вызродзьдзе, вырадак, выродны.**

**ИСЧАХНУТЬ, ссонуць, счануць.** *Чане дзеўка на вачах.*

**ИСЧЕЗАТЬ** прападаць бяз весьці, момантальна хавацца, рабіцца нявідомым; **зьнікаць, зьнікомы,**

**зьнеціцца**. *Зямная слава нікне як дым. Зьнікнуў з вачэй. Зьнеціўся бес у балоце.*

**ИСЧЕРЕДНЫЙ, знечародны.**

**ИСЧЕРКИВАТЬ** *што*, **скрэмзаць, скрэмзаны.**

**ИСЧЕРПЫВАТЬ** *што*, **вычэрпываць.**

**ИСЧЕРТИТЬ** *што*, **скрэсьліць, пакрэсьліць.**

**ИСЧИСЛЯТЬ** *што*, **вылічаць, чотаваць.** Чотаваць гаворуць у Лідчыне.

**ИСЧИСЛЕНІЕ** *ср.* **вылічэньне, вылічаньне.**

**ИСЩЕЛОЧИТЬ** *попел.* **вылужыць, выжлукціць.**

**ИТОГ** *м.* вывад кождага складаньня, сколькі чаго наагул; **сума, сумація; зьлічво.** Слова зьлічво выражае ня суму, а „счет"і дзеля гэтага ўжываньне яго ў першым значэньні памылковае.

**ИТОГО** *прысл.* **усяго.** Пішацца пад зьлічвом, супроць агульнай сумы.

**ИТОЖИТЬ, зьлічаць.**

**ИХТІОЛОГІЯ** *ж. грэцк,* навука аб рыбах; **іхтыолёгія.**

**ИХТИОЛИТ** *м. грэцк.* акамеўшая рыба; **іхтыоліт.**

**ИХТИОЗАВР** *м. грэцк.* дапатопнае выкопнае стварэньне, рыбаяшчар; **іхтыозаўр.**

**IX** заімак. **іх, іхні.** *Гэта іхні загон. Жывем іх ласкамі, іхнімі ласкамі.*

**ИЩЕЙКА** аб *сабаках,* **ганчак, гончы.**

## І.

**ІЕГОВА** *м.* жыдоўскае імя Бога; **Ягова.**

**ІЕРАРХ** *м. грэцк.* сьвятаразьверхнік: біскуп, архірэй, мітрапаліт; **герарх, герархія.**

**ІЕРЕЙ** *м. грэцк.* хрысьціянскі сьвятар; **сьвятар.**

**ІЕРОМОНАХ** *м. грэц.* манах-сьвятар; **ярамапах.**

**ІЕРЕМІАДА** *ж.* сьлёзнае, плаклівае зажаленьне; **ераміяда.**

**ІЕРОГЛИФ** *м.* пісьмо умоўнымі рысункамі замест літараў; **герогліф.** *Егіпецкіе герогліфы ведамы больш за іншыя.*

**ІЕРУСАЛИМ** *м.* горад, даўнейшая сталіца жыдоўскага царства; **Ерузалім.**

**ІОРДАН** *м.* прорубка для водасьвяцьця на Вадохрышча; **ярдан.**

**ІЮЛЬ** *м.* сёмы месяц у годзе; **ліпень.**

**ІЮНЬ** *м.* шосты месяц у годзе; **чэрвень.**

## К.

**КАБА** *ж.* нявысокі кол ўбіты ў зямлю да прывязаваньня чоўнаў, а такжа калода служачая да гэтай патрэбы; **астуг.** *Прывяжы човен да астуга. Лёд паламаў рыбацкія астугі.*

**КАБАК** *м.* дом дзе прадаюць і расьпіваюць пьяныя напіткі; **карчма, карчомны, карчмаваць, карчмар—рка.**

**КАБАЛА** *ж.* кождае пісанае забавязаньне; уськая няволя, залежнасьць; **запалон, азапаланіваць.**

**КАБАЛИСТКА** *ж.* жыдоўскае містычнае тлумачаньне Старага Закону (Бібліі), злучанае з чарадзейскімі забабонамі; **кабалістыка.**

**КАБАН** *м.* сьвінны самец *ня выкладаны;* **кілун, кнур, кнораз, керназ;** *выкладаны:* **парсюк, кабан, вяпрук, вепр.**

**КАБЕЛЬ** *м.* *марск.* вяроўка ад 6 да 12 цаляў таўшчыні; **снасьць.**

**КАБИНЕТ** *м.* сьвятліца да адасобленай інтэлігенцкай працы; **работня, працоўня, кабінэт.**

**КАБЛУК** *м.* набойка пры боце пад пятой; **запятак, абцас.** Слова „абцас" чужое ў нашай мове.

**КАБОЛКА** *ж.* простая пяньковая нітка, таўшчынёй як гусінае пяро, з якіх віюць снасьці; **павітка.**

*Ў тры павіткі віюць вяроўкі; гужы віюць ў 6—12 павітак.*

**КАБОТАЖ** *ж,* марское наўзьбярэжнае вадаплаўства; **наўзбярэжніцтва.**

**КАБРІОЛЕТ** *м. фр?* двуколая каляска; **двуколка, бедка.**

**КАБУШКА** *ж.* камок сыру; **гамолка, камолка.**

**КАБЫ** *злуч.* **каб.** *Каб ня наша сіла, ды жыдоўская хітрасьць—сьвет бы ня ўстояў. Каб ня быў дзедка, то была-б бабка.*

**КАВАЛЕР** *м. франц.* малады не жанаты мужчына, ў танцах—агульна мужчына, як процілеглае даме; **кавалер, кавалерства**—бязжэннасьць; **кавалерскасьць,** мужская ветласьць ў стасунку да дам.

**КАВАЛЕРІЯ** *ж.* коннае войска; **конніца, кавалерыя.**

**КАВАРДА, КАВАРДАК,** благая страва, баўтушка, **похлебка; чаўпарня,** плёткі, **каломеса, кавярза.**

**КАДЕНС** *м. франц.* памер, мера ў часе, роўнавага ў рухах ў стасунку да часу; **ступа, кадэнс.**

**КАДАСТР** *м.* ацэнка зямельнай маемасьці, паводле яе гатунку; **ацэна, ашацоўка.**

**КАДЕТ** *м. франц.* **падростак,** дваранскі сын, вучань кадэцкай школы.

**КАДИТЬ** *каго, што, чым;* **кадзіць, цьміць** (згэтуль названьне кадзіла „цімьян"). Падкаджываньне дымам пчол: *падкурываньне,* а ўжываны да гэтага скрутак порту, ці гнілога дрэва называюць *зубель.*

**КАДОВЬ** *ж.* дрэўляная судзіна: **кадка, кадушка, кадзь.** Ад *„кодаб"* камлявая часьць пня, выгніўшая ў сярэдзіне.

**КАДРА** або **КАДРЫ** *франц.* афіцэры, падафіцэры і наўскрайныя ў шыхце жаўнеры, якія становяць аснову палка ці іншай часьці войска; **кадры.**

**КАДЫК** *м.* галоўка дыхавога горла; **адамавы яблык, коўцік.**

**КАЖДЫЙ,** усякі, і той і другі; **кожды,**

**КАЗАН** *м. татар.* кацёл, асабліва вялікі, ўмазаны ў печ; **саган, кацёл.**

**КАЗАРМА** *ж.* будынак для войска; **жаўнерня, жанерня.**

**КАЗАТЬСЯ,** паказывацца, выказывацца; **здавацца.**

**КАЖЕТСЯ, здаецца**

**КАЖДЫЙ, кожды.**

**КАЗЕМАТ** *м.* жаўнерня ўнутры крэпасьці; **казамат.**

**КАЗНА** *ж.* гатоўка, гатовыя грошы; дзяржаўная гатоўка; **скарб, скарбовы, скарбнік,** той хто пераховуе і выдаткуе гатоўку; **скарбніца,** мейсца, будынак дзе складаюцца грошы ў гатоўцы; **скарбіць** зьбіраць цэннасьці матэрьяльныя ці маральныя.

**КАЗНИТЬ** *каго* (ад „казіць“—псаваць, калечыць), **караць, мучыць.**

**КАЗНЬ** *ж.* выпаўненьне сьмяротнага прысуду; **кара, кара сьмерцьцю;** у значэньні напасьці і мукі: **пляга; пляжыць,** біць нечым плоским, балючым. *Спляжыў рамянем*

**КАЗУС** *м. лац.* **здарэньне, выпадак;** нязвычайнае здарэньне, **казус.**

**КАЗУСНЫЙ, нязвычайны,** выдатны па незвычайнасьці.

**КАЗУИСТИКА,** навука рэлігійнай маральнасьці, пацпасоўка сумленьня да акружаючых варункаў; **казуістыка.**

**КАЙМА** *ж.,* **краймо, акрай, акрайка, руб, шляк.** *Краймо рукава абшыта чорнай стужкай. У тканінах для моцы ткуць густое краймо, акрай якога калі абразаюць, называецца* к р о м к а, а к р а й к а. Абрэз ўсякай тканіны каб ня сыпаліся ніткі — *рубяць, абрудляюць,* абрубленае краймо называюць *рубам. Шлякам* называюць пояс на тканіне, абвод. *Белыя шпалеры з маліна-*

*вым шлякам. Хмары акраіліся золатам. Акраіў рысунак кветным вянком. Абрубі хустку каб ня сыпалася.*

**КАК-РАЗ** *прысл.*, **якраз, акурат.**

**КАК** *прысл.*, **як**. *Як там было гэта? А як ты хочаш? Як-бы не было блага, а жыць трэба. Дурны як пень. Як пасьцелеш так і высьпішся Якія навіны?*

**КАК НИБУДЬ—як колечы.**

**КАК УГОДНО—як хоць.**

**КАЛАДАШКА** *м.* груба аброблены дрўляны цяльпушок на лыжку, апалонік, коўш і інш; **даўбурок, даўбыр, даўбурка.** *Начасаў даўбуркоў на лыжкі. На вялікія каўшы, да збожжа, бяруць ліповы даўбур. Слаўны даўбурок быў, ды пашчапаўся.*

**КАЛАМБУР** *м. франц,* ігра слоў, ігра двозначнымі славамі; **калямбур.**

**КАЛАНЧА** *ж.* **бакшта, башта, вежа**

**КАЛАЧ** *м. татар.* пшанічны хлеб з рэдкага цеста, печаны дужкай; **піро́г, калач.**

**КАЛГАН** *м.* карэнь пернага смаку, які ідзе на прыправу стравы; **галган, галганоўка**, гарэлка прыпраўленая галганам.

**КАЛИБЕР** *м.* велічыня, памер ў пярокругу, якасьць тавару паводле памеру; **памер, калібар.**

**КАЛИГРАФІЯ** *ж.* **красопісь, красапіссец, красапісны.**

**КАЛИНА** *ж. агульн. слав.* **каліна.**

**КАЛИТЬ** *што*, крэпка награваць, распаляць цьвёрдае цела ў агне; **напаляць, распаляць.** *Напаліў жыгала да чырвона, да бела.* Панураць распаленае зялеза ў ваду для наданьня яму цьвёрдасьці.; **гартаваць, гарт, гартоўны, гартны.**

**КАЛИТКА** *ж.* дзьверцы пры браме; **форта, фортка, прыбрамак, каворка** (Смал).

**КАЛІЙ** *м. лац.* мэталь які становіць аснову паташу, вельмі сходны з натрам (содай); расьцінны

жлукцень, ці жлуктовая соль; вуглякісісты калі, чысты паташ;—**калі**.

**КАЛОРИМЕТР** *м.* прылада для памеру цеплаты; **цепламер**.

**КАЛОША** *ж.* ніжняя часьць гасьцяў, штаноў ад кятуркі да ступы; **ногаўка, калоша**. *Абутак* паверх бота, чаравіка ад сьцюжы ці мокрасьці; **галёшы**.

**КАЛУГА** *ж.* **лужа, лужына**.

**КАЛЬЦІЙ** *м. лац.* мэталь, які становіць хімічную аснову вапны; **кальцій, вапнік**.

**КАЛЯКАТЬ** *с кім аб чым* (татар: калайдакать); **гукаць**.

**КАМАХА**, фарба і жывёлка якая выдае чырвоную фарбу; **чэрвень, кармазын**.

**КАМБАЛА** *ж.* плосмая морская рыба; **сухабочыца, палтус**.

**КАМЕДЬ** *ж.* расьцінны, дрэўны клей; **галбан**; *з польска:* **гума**.

**КАМЕЯ** *ж. грэцк.* камень з выпуклай разьбой; старавеtная, антычная рэзьба па камяню; **камэя**.

**КАМЕНЬ** *м. агульн. слав.* **камень, каменьня, камяністы, камянка, камянець, камець, камянаваць, камянар**.

**КАМЕРА** *ж. лац.* сьвятліца, пакой; **камора**. Камора мытная, камора судовая. У агнястрэльнай прыладзе пустаць ў пятавой часьці куды кладуць набой; **пустыль, пустля**.

**КАМЗОЛ** *м.* бязрукавая кароткая вопратка напрананая пад верхнюю вопратку; **камізэлька, куртка** (ад „куртаты", кароткі).

**КАМИЛАВКА** *ж.* нагалоўнік адмена шапкі, якую носяць мніхі пад клабуком; **падкапак, каміла ўка**.

**КАМИН** *м.* сярэдняя паміж загнетам („очагом") і печчу; печ з аткрытым усьцям і простым комінам; **груба, грубка**. Старасьвецкія грубы служылі у нас да ацяпляньня і асьвятляньня адначасова.

**КАМКА** *ж*, шаўковая тканіна; **адамашак**.

**КАМПАНІЯ** *ж. нямецк.* працяг вайсковых чыннасьцяў супроць ворага, час вайны, ці часьць часу вайны, прыняты за нешта цэлае; час, бытнасьць на моры на вайсковым вадаплаве ў часе вайны; **паход, кампанія.**

**КАМФОРА** *ж.* смолка канфорнага дрэва; **канфора.** *Зьнік як канфора.*

**КАМФОРКА** *ж.* ручная кухня, прылада да гатаваньня бяз печы ў пакою; **трыножка, сквадырка.**

**КАМЫШ** *ж.* балотная дуткавістая, каленістая расьціна Arundo; **чарот, чаротны, чаротнік.**

**КАНАВА** *ж.* не глыбокі і не шырокі капаны раўчак для стоку вады; **канава, проплыўка.**

**КАНАЛ** *м. фр.* доўгая шырокая і глыбокая капаная канава для зносін вадой; **канал, прорынь, пракоп.** Канал Агінскага акалічныя сяляне называюць—*прорыньню.*

**КАНАЛЬЯ** *лайчыв. фр.* **прахвост, нягоднік, галцяй, жулік.**

**КАНАТ** *м.* самая тоўстая вяроўка; **снасьць, гуж.**

**КАНВА** *м. франц.* клетная радзюга да вышываньня на ей па ліку клетак; **канва, рэдніца.**

**КАНДАЛЫ** *ж. мн.* жалезныя аковы, путы ў якія заковуюць праступнікаў; **'кайданы.**

**КАНДЕЛАБР** *м. фр.* вялікі, аздобны **сьвечнік.**

**КАНДИДАТ** *м. фр.* запасовы, які чакае чароду; **кандыдат, научароднік.**

**КАНДИТЕР**, майстар які робіць цукеркі, пернікі і іншыя соладзі; **цукернік.**

**КАНИКУЛЫ** *мн.* час летніх упалаў, правольная пара ў вучомн. установах. Слова паходзіць ад гвёзд ў знаку Пса (Canis: собака); **правольніца, правольнік, правольны.**

**КАНИТЕЛЬ** *ж, фр.* дроцік зьвіты трубачкай, служыць да гафтарства; **павілёк.** *Павільковыя ніткі, павільковы гафт.* Маруднасьць, блутаніна, цяганіна, правалока; **кавадня, каведнік, каводзіца.**

**КАНИФОЛЬ** *м. лац.* чыстая шклістая смала між іншым служыць да націраньня смычка; **каніфоля, смурга.**

**КАНОНАДА** *ж. франц.* стральба з гарматаў; **гарматны гром.**

**КАНОНЕР** *м. фр.* **гарматнік.**

**КАНОНЕРКА** *ж.* малы вадаплаў узброены двумя-трымя гарматамі; **гарматаўка.**

**КАНОНАРХ** *м. грэцк. царк.* манах які дырыгуе сьпевамі; **дырыгент, рэгент.** Аб благім сьпеве кажуць: **канархае.**

**КАНОН** *м. црк.* пастановы апосталаў, ўсесьветных і мясцовых сабораў аб веры і царкоўных абрадах; **канон, кананічны, канонік** кніга з царкоўнымі песьнямі; **канонік,** каталіцкі катэдральны сьвятар; **кананіст** ведны чалавек у царкоўным праве; **кананічны** датыкаючы царкоўнага права; **кананізаваць** *каго* прызнаваць сьвятым.

**КАНТА** *ж. црк.* пахвальная, хвалебная песьня, пахвала песьняй; **кант, кантычка** кніга ў якой сабраны духоўныя песьні. **Кантата,** лірычная паэма.

**КАНТОН** *м. фр.* **кругаколіца, краіна.**

**КАНТ, канцік,** абрамоўка па шве вопраткі; **абрамоўка, рамцік.** *Сіняя сукенка з чырвонымі рамцікамі.*

**КАНУН** *м.* дзень або вечар перад урочыстым сьвятам, перад здарэньнем; **конадзень; кануны** вечары ў якія вараць ахвяраваныя сьвяту, ці здарэньню стравы і напіткі; названьне ахвярных мядоў.

**КАНФОРКА** *гл.* „Камфорка“.

**КАНЦЛЕР** *м.* першы міністр (у Нямеччыне); дзяржаўны сэкратар; **канцлер.**

**КАОЛИН** *м.* фарфуровая гліна; разсыпісты налывы шпат; **гляйбец, глейбнік.**

**КАПЛЯ** *ж.* **кропля, кропка, кропелька, кропіць, крапка, крапаць.** *Загляди кропами сълъзъ написаніе зълы жизни (Супрасль. рук 290). Дождж пачаў крапаць;* **крапіла,** мяцёлка якой,

амакнуўшы ў ваду, брызгаюць кроплямі, **крапл*і*сты.** *Краплістым потам зьліўся.*

**КАПЕЛЛА** *ж.* (ням. Capelle), хор пеўчых або музыкантаў; **кап*э*лія, кап*э*льмайстар.** Дырыгент капэляй.

**КАПЕЛЛА** *ж. італьян.* **капл*і*ца.**

**КАПЕЛЯН** *м.* сьвятар пры дамовай капліцы **капэл*я*н.**

**КАПИТАЛ** *м.* грашавая маемасьць; багацьце ў грашах; гатовыя грошы; **гат*о*ўка, баг*а*цьце; капіт*а*л.**

**КАПИТЕЛЬ** *ж. лац. архіт.* агаловак стаўба з рознымі аздобамі; **агал*о*вак, капіт*э*ля.**

**КАПИТУЛА** *ж,* галоўны урад правінціі, кругаколіцы пэўнай спэціяльнасьці (ад лац. Capus—галава), **гал*о*ўны урад.** Беларусы сяляне вымаўляючы гэтае слова вечна зьбіваюцца, кажуць: *каплітула* і інш., відаць яно па сазгуччу для беларуса в. труднае.

**КАПИТУЛЯЦІЯ** *ж. вайск.* здача гораду ці крэпасьці на варунках; **капітул*я*цiя.**

**КАПИТАН** *м. вайск.* старшы афіцэр; **капіт*а*н.**

**КАПТЕНАРМУС** *м.* вайсковец ніжшай ступені, які пераховуе вайсковую маемасьць; **кл*ю*чнік.**

**КАПИШОН** *м. франц.* каўнер каптуром; **капт*у*р, нагал*о*ўнік, шл*ы*к.**

**КАПИЩЕ** *ср.* паганская сьвятыня; **бажн*і*ца, стад*о*ла** (ад „стод“ фігура божышча „идол“).

**КАПКАН** *м;* зьвералоўчая прылада зложаная з двох зялезных дуг на спружынах; **з*а*пастка, з*а*шчымка, кл*я*пцы.**

**КАПЛОУХІЙ,** у каго астрыжаны вушы; **карнав*у*хі.**

**КАПЛУН** *м* кладзены птушыны самец; **капл*у*н.**

**КАПРАЛ** *м.* **падафіцэр.**

**КАПРИЗ** *м. фр.* **прывяр*э*длівасьць, г*і*мар, гім*э*рны, х*о*мар, хам*о*ры, хам*о*рлівы.**

**КАПСОЛЬ** *м.* тонкая цэгла, лепшага вырабу і гліны да высьціланьня поду ў печах; **плінта.**

**КАПСУЛЯ** *ж. фр.* шапачка якая надзяецца на камінок стрэльбы для запалу; **пістон;** аптэчны аплатак для памяшчэньня лякарства; **капсулька, аплатка.**

**КАПТАЛКА** *ж. кнігашытн.* завінуты ў колёровую тканіну шнурочак, які наклеіваюць ў канцы гарбка кнігі, ўровень абрэзу; **пераплетка.**

**КАПУСТА** *ж.* ядомая расьціна Brassica oliracea; **капуста, капустка, капусьцянка, капусьнік,** варыва з капусты, **капусны, капусьцісты.**

**КАПУЦИН** *м.* каталіцкі мніх ордэну св. Францішa; **францішканін, капуцын.**

**КАРАВАН** *м.* поезд, абоз, сабраньне падарожнікаў асабліва ў пустынях; **караван.**

**КАРАГАЧ** *м.* дрэва Ulmus pamila; **бераст, ільма.**

**КАРАКАТИЦА** морскае сварэньне Sepia; **склізень.**

**КАРАКУЛЯ** *ж. татар.* **крывуля,** выкрыўленае дрэва, галіна; благое няўмелае пісьмо; **мазграніна, мазграй, мазграч, мазграць.** *Не мазграй дарэмна паперы. Ніхто тваей мазграніны не прачытае. Нейкі мазграч а ня пісар пісаў.*

**КАРАКУШКИ, кукярэчкі, на кукярэчках.**

**КАРАМЕЛЬ** *ж.* дробныя ледавістыя цукеркі; **лядунцы.**

**КАРАНДАШ** *м.* графіт (выкопнае, зложанае з вугляроду) устаўлены пруточкам у дрэва, як прылада да пісаньня; **алувок, алуўкі.**

**КАРАНТИН** *м. франц.* установа для затрыманьня на вядомы тэрмін тых, што прыязджаюць з пошастных мейсцаў; лекарская застава; час празначаны для затрымкі; **карантын.**

**КАРАПУЗ** *м.* (кароткі і „пуза“, бруха), **дундыш, дундзік; карапузік, карапуз.**

**КАРАСЬ** *м.* рыба Ciprinus carastus; **карась.**

**КАРАТЕЛЬНЫЙ, карны.** *Карная выправа.*

**КАРАТ** *м. усх.* адзінка вагі для дарагіх камянёў, між 3 і 4 гранаў; **карат**.

**КАРАУЛ** *м.* людзі пастаўленыя да пілнаваньня; будынак дзе памяшчаюцца пілнуючыя чаго людзі; **варта, вартаўнік, вартаваць**.

**КАРАЧИТЬ** *што, каго;* адпіхаць, адсуваць назад; наўзадзь пхацца; атступаць, не датрымліваць слова; паўзьці ракам, скукярэчыўшыся; **вакрачыць, вакрачыцца, вокрач, вокраччу, вокрачма**. *Вокрачмя ўпхнуўся, ўпоўз у хату. Чаго-ж ты вакрачышся калі гэткі сьмелы. Вокрач дамоў прыпоўз, зн. ракам.*

**КАРАЧУН** *м. міт.* мужское уасобленьне сьмерці (жаноче — Марва), цар цемры і падысподнай; зімовы паварот сонца 12 сьнежня; **мерат**.

**КАРГА** *ж.* **варона**.

**КАРДА** *ж.* драцяная шчотка з збубьбямі праткнутымі скрозь скураную капку, да часаньня воўны, а такжа да надзіраньня кутра (ворсы) на сукне; **грымпля,** грэбліцы, **гроблы**.

**КАРЕ** *ср. франц.* шыхт войска чатыракутнікам, абліччам на ўсе чатыры староны.

**КАРИКАТУРА** *м. фр.* рысунак які па зьместу выражае насьмешку; **карыкатура, карыкатурны**, сьмешны; **карыкатурнік**, хто рысуе карыкатуры.

**КАРІАТИДА** *ж. грэцк. будаўніч.* выабражэньне чалавека пастаўленае замест стаўба (калюмны); **карьятыда**.

**КАРІЙ** *масьць,* **чорны, кары.** *Кары конь, карыя вочы.*

**КАРКАС** *м. франц.* шкілет, кодаб чаго; драцяная форма дамскага капелюша; **суклёт**. *Навесь якую дзярміну, ці лахмат на суклёт, вось табе і будзе патароча, пужаць верабьёў з канаплёў (Борkавічы). Каб добра трымаўся стог трэба сьпярша паставіць суклёт і намасьціць падвалу ды ўмацаваць стажар (шост).*

**КАРКАТЬ**, крычаць падобна вароне; **каркаць**,

**гаргаць**, **гракаць**. *Гаргаюць вароны ў гайку (Дзісна).*

**КАРЛИК** *м.* **карштук**, **карштаты**, **карштаваць**; **карузьлік** (Смал), **курцік**.

**КАРЛУК** *м.* рыбі клей; **карук**.

**КАРМАН** *м.* мяшэчак прышыты да вопраткі; **кішень**, **кішанковы**, **кішэншчык**, кішанковы злодзей; **капсыль** *(Глыбокае)*.

**КАРНИЗ** *м.* аздоба на сьцяне, на мэблях выступам; **гзымс**, **рэмза**, **рэмзік**. *Шафа з чорнымі рэмзамі. Трэба набіць рэмзікі на акяніцы.*

**КАРПЕТКА** *ж.* **назутка**.

**КАРТА** *ж.* нарыс часьці зямлі, мора, неба; **карта**.

**КАРТЕЛЬ** *ж.* *фр.* вызаў на двубой (паядынак); **вызаў**.

**КАРТЕЧЬ** *ж.* *зборн.* набой зложаны з многіх куль; **картача**, **картачніца**, **картачны**.

**КАРТИНА** *ж.* маляванае выбражэньне ў фарбах; **малюнак**, **малёўны**.

**КАРТОН** *м.* тоўстая папера; **гартон**, **картон** *Гартонаўка твая размокла.*

**КАРТОФЕЛЬ** расьціна Solanum tuberosum; **бульба**, **бульбяны**, **бульбачка**. Першапачаткова азначала наагул каранёвыя жаўлакі, а цяпер немаль выключна ядомую расьціну—**бульбу**.

**КАРТУЗ** *м.* летняя шапка з казырком; **шапка**.

**КАРЦЕР** *м.* *лац.* вязьніца ў вучомных установах; **катух**.

**КАРЬЕР** *м.* **КАРЬЕРА** *ж.* *фр.* дарога, шлях, ход, жыцьцёвыя дасьціжэньні; язда ва ўвесь разгон; **карьера**.

**КАРЯГА** *ж.* судзіна с кары, лубу; **лубка**, **лубянка**.

**КАСА, КАССА** *ж.* склад на грошы; **каса**. *Пішацца з двумя с дзеля адрожненьня ад* **касы**.

**КАСАТКА** *ж.* **ластаўка—вонкаўка**

**КАСАТЬСЯ** *чым да чаго*, **прыкранацца**, **кра-**

наць, датыкаць. *Ты не датыкай не кранай гэтай справы.*

**КАСАТЕЛЬНО** датычна, датыкаць, даткнуць.

**КАСАТЕЛЬНАЯ** *лінія мат.*, простая датыкае крывой і не перасякаючы яе адыходзіць далей; датычная.

**КАСАТЕЛЬНОСТЬ**, датычнасьць.

**КАСИРОВАТЬ** *пастанову*, касаваць, касація, касацыйны.

**КАСКАД** *м. фр.* вадавал.

**КАСТОРОВОЕ МАСЛО**, Oleum ricini; рыцына.

**КАСТОР** *м.* адмена сукна; пуховае сукно, пуховы капялюш зьбіты бытцам з бабровага пуху.

**КАСТРЮЛЯ** *ж.* рондаль.

**КАТАВАСІЯ** *ж.* ірмосы, якімі пакрываюцца песьні канону; *ў штодзеншчыне:* сварка, таўпарня, склока.

**КАТАКОМБЫ** *ж. мн. лац.* падземныя ходы, мейсцы нахову; пячэры, пячэрскі.

**КАТАЛЕПСІЯ** *ж.* доўгае, падобнае да сьмерці амленьне; агульнае аняменьне ўсяго цела часам з захаваньнем сьвядомасьці; каталепсія, каталептык.

**КАТАЛОГ** *м.* рэестр, сьпіс.

**КАТАПЛАСМА** *ж. лек.* прыпарка.

**КАТАРАКТ** *м.* вадавал з вялікай вышыні; сьлепасьць ад патускненьня крышталіка; катаракта.

**КАТАТЬ** *што па чым,* качаць, качацца, каціцца, качаньне, качалка, качулка, каціць, коткі, коткасьць.

**КАТОК** *м.* да качаньня бялізны, качалкі, маглі; маленькае колка, якое прырабляюць пад мэблі, колкі; расчышчанае мейсца на лёдзе, каўзель, скоўзьніца; гарнітур, 2 пары колаў да калёс, скот.

**КАТАСТРОФА** *ж. грэцк.* пераварот, пералом гібель; катастрофа.

**КАТЕГОРІЯ** *ж. грэцк,* аддзел, парадак рэчаў; катэгорыя.

**КАТЕР** *м.* аднамачтавы вацаплаў; **стружок.**

**КАТЕХИЗИС** *м.* пачатковая, аснаўная навука хрысьціянскай веры; **катэхізм.**

**КАТОЛИК** *м*, **КАТОЛИЧКА** *ж.* хто вызнае рыма-каталіцкі абрадак; **каталік, каталічка, каталіцкі.**

**КАТУШКА** *ж.* круглячок да навіваньня нітак; **шпуля, шпулька; цэўка нацаўка.**

**КАУРЫЙ** *татар.* масьць каня; **буланы.** *Сіўка—бурка, вешчая буланка.*

**КАУЧУК** дрэва гарачых краёў, сок яго; **гумілястыка, гумілясны.**

**КАФЛЯ** *ж.* печная плінта узорамі ці гладкая, **найчасьцей паліваная; кахля.**

**КАФТАН** *м. татар.;* **жупан.**

*Хваліцца жупанам*
*Ды перад сваім панам;*
*Німа у пана*
*Такога жупана. (Ром.).*

**КАЧАЛКА** *ж.* **калыска, гойдаўка, калыбка.**

**КАЧАТЬ** *што,* **ківаць, калыхаць. калыбаць, гойдаць.** *Зубу мяне ківаецца. Дзяцей калышуць у калысцы ці гойдаўцы. Зямля скалыбнулася.*

**КАЧЕЛИ, калыска, арэлі.** Калыску вешаюць на вяроўках, а арэлі на аглаблёх і ў нізе іх маецца толькі адна напярэчка, на якой можна нагамі стаяць.

**КАЧЕСТВО, якасьць, якасны, якасьлівы.** *Мне патрэбен ня лік а якасьць. Якой якасьці твае тавары. Цана дарагая, але добрая якасьць.*

**КАЧКА** *на моры,* **гойдаўка, гойдае, загойдала.** *І дзень і ноч цябе вада гойдае аж на сэрцы млосна. Як гайданè гойдаўка ўверх, а пасьля ўніз.*

**КАЧНУТЬ** *што,* **гойднуць, хібнуць, калыхнуць.**

**КАША** *ж. агульн. слав.,* **каша, кашка, кашны, кашнік, кашавар, кашаед.**

**КАШЕЛЬ** *м.* празябная хвароба якая выражаецца сутаржным выдыханьнем; **к*а*шаль, к*а*шляць, кашлянуць, к*а*шляньне.** *Кашаль не хвароба, гарбуз не ягада.*

**КАШНЕ** *нескл. фр.* цёплая хуста на шыю; **ш*а*лік.**

**КАШТАН** *м.* дрэва Fagus castanea; **кашт*а*н.**

**КАЩЕЙ** *м. міт.* эпітэт мужскога уасобленьня сьмерці, цара цемры і падысподнай; таго-ж самага парадку эпітэт што і карачун. У нас вядомы дзенедзе пад найменьнем-эпітэтам—**м*е*рат** (па аналёгіі з жаночым уасобленьнем—*Марва, Мара)*. Слова *кашчэй, кашча* выводнае ад нашага „касьць“ бруд гідасьць і „косьць“, мярцьвец, труп, вымаўляюць: **касьц*е*й, каст*ы*м, каст*ы*ш** падобна як эпітэт сьмерці: *кастуся.*

**КАЮТА** *ж. фр?* пакойчык, каморка на вадаплаве; у падзьвіньні пакойчык-хатка на ганкох і на стругох называюць **м*а*йка.**

**КАЯТЬ** *каго, (хаяць)* ганіць, асуджаць; **кар*ы*ць.**

**КАЯТЬСЯ**, прызнаваць свой праступак; жалець таго што зрабіў; **к*а*яцца, к*а*яньне.**

**КАѲЕДРА** *ж. грэцк.* падвышэньне з якога гавораць казаньні ў сьвятынях; выкладаюць навукі ў школах, гавораць прамовы на сабраньнях; **к*а*тадра.**

**КВАДРАТ** *м.* роўнастаронны чатырабочнік; **квадр*а*т, чатыракутнік.**

**КВАКАЦЬ**, крычаць ква-ква, падобна качкам, жабам; **кв*а*каць, квакт*а*ць.** Аб жабах кажуць яшчэ **кр*а*хаюць, крэкчуць.**

**КВАРТА** *ж.* мера цеклацяў: адна восьмая часьць вядра нашай меры; **кв*а*рта.**

**КВАРТАЛ** *м. лац.* чвёрць, чатыракутнік гарадзкіх домоў абмежаны вуліцамі; **квартал, агран*е*ц.** *У другім агранцы за рынкам, зялёны дом (Байсагола).*

**КВАРТЕТ** *м. лац.* музыка на чатыры галасы або чатыры інструманты: **квартэт.**

**КВАРТИРА** *ж. (ад лац. qvarta--чатыры)*, патоўпішча да жыцьця людзей; некалькі пакояў становячых адно жыльлё ў доме, для аднэй сямьі; **гаспода.** У даўнай нашай актовай мове ужывалася заўсёды слова *гаспода*, гэтае слова мясцамі датрывала і дагэтуль сярод мяшчанства; мне прыходзілася яго чуць ад жыдоў у Вітабску.

**КВАРЦ** *м.* крамяністы камень, або дзікі крэмянь; **крэмянь, кварц.**

**КВАСІЯ** дрэва Quassia amara; **брузэлія.**

**КВАС** *м. агульн. слав.* **квас**, **квасы**, **квасны, квасіць, квашаніна, квасьнік, квасьніца, квасьна, квасаварня, квакасьць квасіцца, квасьнуць, квашніца**, накрыцьцё з палатна на дзяжу.

**КВАСЦЫ** *мн. м.* соль Alumen; **галун.**

**КВАШНЯ** *ж.* **дзяжа.**

**КВИНТА** *ж. італьян.* усякая пятая нота з ліку сямі; апошняя найцянейшая струна ў скрыпцы; *аб ноце* **квінта;** *аб струне* **рымка.**

**КЕГЛЯ** *ж. ням.* точаны стоўбік да гульні: іх ставяць дзевяць і зьбіваюць палкай—*біткам;* **краглі, чуркі.** *Гуляць у чуркі,у краглі.*

**КЕДР** *м.* хвойнае дрэва *Pinus cedrus*; **кедр.**

**КЕЛАРЬ** *м.* мніх які пераховуе манастырскае дабро або займаецца сьвецкімі справамі манастыра; **ключнік, канапар.**

**КЕЛІЯ** *ж. грэцк.* пакойчык для мніха у манастыры; **келятка, келяць, келятнік.** Келятка сьвятой Прузыны (Полацак).

**КЕЛЕЙНИК** *м.* манастырскі слуга; **келятнік, стопнік, слугар.** *Ён быў келятнікам у манастыры.*

**КЕПИ** *ср. фр.* суконная шапка; **кяпурка.**

**КЕРАСИН** *м.* адно з наймён ачышчанага выкопнага клушчу; **карасіна.** Мясцамі называюць карасіну, што ужываецца да лянпаў—**газа.** *Зьбегай у крамку купі газы. Як думаеш, солі купіць трэба, газы—трэба, зялеза—трэба, а з чаго?!..*

**КЕСАРЬ** *м.* тытул рымскіх імпэратараў; **цэсар.** *Аддай цэсарава цэсару, а богава Богу.*

**КИБИТКА** павозка з будкай на гнутых абручах—**балагола;** пераноснае жыльлё кіргізаў **кібітка.**

**КИВАТЬ** *агульн. слав.* **ківаць, кіўнуць, ківацца, кіў, ківок, ківун, ківач, ківайла, ківы, кімігі.** *Ён абы толькі на вуліцу ды на ігрышча, дзе кімігі ды скокі. Годзі ўжо гэтых спацішка кімігаў (ківаў і міганьня). Нямому толькі на ківы што скажаш.* Ківуном называюць паказчы палец: *пястук, ківун, даўгай, пярсьцец, мезяны (Кабыльнікі).*

**КИВЕР** *м.* вайсковая шапка з цьвёрдай скуры плосмаверхая; **ківар.**

**КИВОТ, КІОТ,** скрыначка да сьвятых ікон; гэбрайцы пераховывалі табліцы закону у кедравай скрыні убранай золатам; **скрынка, скрыня.** *Скрыня ўгоды.*

**КИДАТЬ** *агульн. слав.* **кідаць, кінуць, кідацца, кіданьне, кідок, кідзь, кідны, кідкі, кідчывы, кідкасьць.**

**КИЗИЛЬ** *м.* дрэва і плод *Cornus mascula* **дрон, драноўнік.**

**КИКАТЬ, КИЧЕТ** *(лебедзь),* **кігікаць, кігіча.** *Чайка кігіча, згінь ты куліча.*

**КИЛЬ** *м.*ісподны брус вадаплава які творыць сярэдзіну днішча, ён выдаецца сьпераду палазом; **стаяк, хрыбет;** рэбры з бакоў называюць—*апругамі.*

**КИМВАЛ** *м. або* **КИМВАЛЫ** *м. архаіч.* музыкальная прылада дзьве масяжовыя талеркі, якімі бьюць адну аб адну; **цымбалы.** Цяперашнія *цымбалы* называюцца тым-жа словам, але гэта іншы, струнны інструмант.

**КИНЖАЛ** *м.* востраканечны абастаронна востры нож; **корд, кордзік.**

**КИНОВАРЬ** *ж.* выкопнае ярка чырвонага колеру; **цынобра.** *Купіў цынобры малёваць сьцены.*

**КИПА** *(ад купа),* куча зьвязка, пук; **купа;** *аб паперы* **рэза.**

**КИПАРИС** *м.* дрэва Cupressus sempervirens **кіпрыс, кіпрысовы.** *Кіпрісовая ікона, рэзьба.*

**КИПЯТИТЬ** *што,* **кіпяціць, кіпіць, кіпянее, кіпянець, кіпкі, кіпок, кіпень, кіпеніца, кіпне, кіпнуць; варыць, вар, варатак, варыва, варыцца, варкі; гатаваць, гатуецца; прагціцца, прагаток.** *Кіпіць, варыцца, гатуецца, вада ў гаршчку аж клыгчыць. Каб разварылася добра мяса яго трэба доўга, гатаваць, варыць, кіпеніць. Прынясі нам вару, варатку, прагатку, кіпку. Ен згарача так кіпеніцца. Абпарыў руку варам вараткам кіпнём, прагатком.*

**КИРАС, КИРАСЫ** *фр.* нагрудная часьць панцыра, **панцыр.**

**КИРКА** *ж.* адмена матыгі, капагі; матыга сячэ абодвымі канцамі, а кірка зроблена крывой дзюбай ў адну старану; **кірка.**

**КИРПИЧ** *м.* паленая гліна на штучны камень які ўжываецца да будаваньня; **цэгла, цэгляны, цэгляр, цагельнік, цагельшчык, цагельня; пліта.** Плітай называюць плосмую агнястойкую цэглу, яе ўжываюць да высьціланьня поду ў печы.

**КИСЕЛЬ** *м.* кіслая мучністая квашаніна; **кісель, кісялёвы, кісалёўка** рагач да мяшаньня ў печы кісялю калі ён варыцца; **жур, журовы** *(Смаленск. Даль Т. I. 564).* Журам кісель называюць і ў Навагрудчыне.

**КИСЕТ** *м.* **капшук, кеса, кеска, кесьцік, кястух.** *Кеса і кішэнь* аднаго караня словы.

**КИСЕЯ** *ж.* ценкая рэдкая тканіна; **мусьлін, мусьліновы.**

**КИСЛЫЙ** *агульн. слав.* **кіслы, кісла, кісець, кіснуць, кісьля, кісладзь, кісласьць, кісьлісты кісьляк, кісьлянка, кісьліня, кісьліць.** *Кіслае малако, якое кісла, скісла. Цеста пачынае кісець ужо. Хлеб добрай кісьлі. Праразьліваяя кісьля гэтых ягад.* К і с ь л я, выражае смакавое

пачуцьцё. *Яблакі кісьлякі нейкія. Кіслага німа што кісьліць.* Кіслаць, кісладзь выражае тое-ж самае, што п° расійску „кислота“, „кислоты“. *Кіслацю выпаліў барадаўку.*

**КИСЛОРОД** *м.* **кіслатвор, кіслатворны.**

**КИСЛОСЛАДКІЙ, кісласоладкі.**

**КИСЛИЦА** *ж.* расьціна Oxalis acetosella; **зайча капуста, кішніца.**

**КИСТЬ** *рукі,* **пясьць; корсьць, (корх);** *малярская*—**пэнзаль, квач, квачык, квасьцік;** *ягад*—**грозьдзь, грозьдзі;** *шаблі*—**цаўё, цэўка;** *пры паясе* пучок нітак для аздобы—**кутас, кутасы, кутасік.** *Добрага пэнзаля абраз. Квачам беляць сьцены, малююць платы, але квачыкамі называюць і малярскія пэнзлі. Цэлымі грозьдзямі зьвісаюць парэчкі. Кутасы зьвісаюць з чырвоных шнуроў. Пояс без кутасаў, што сабака без хваста.*

**КИТЕЛЬ** *м. ням.* палатняны летні мужскі надзетак; **кулёк.**

**КИТ** *м. грэцк.* морскі млекасытны зьвер, бывае аграмаднага ўзросту; **кіт.**

**КИЧИТЬСЯ, пышацца, чваніца, курбечыцца.**

**КИШКА** *ж, агульн. слав.* **кішка, кішкаваты кішэчны, кішэчнік.** З жалудка кішкі пачынаюцца *дванадцаціпальцнай кішкой, шкаладой;* далей ідуць *тонкія кішкі або шлункі;* пераходзяць у *тоўстую кішку або кіндзюк* і канчаюцца *кезаўкай* або *выпарожнай кішкой.*

**КИШМИШ** *м.* гатунак дробнага вінагрозьдзя, у якім німа прыкметных костачак; **разынкі бяз костачак.**

**КІОСК** *м. турэцк,* лубянёк, лётамка для дробнай прадажы; **летамка.**

**КІОТ** *м.* **ківот.**

**КЛАВИШ** *м.* асьверчык з малаточкам пры фартапіяне—**клявіш, клявішы, клявятура:** пры гармоніцы—**клыпагі, клыпажок,** пры клярнэце—**затамкі, затамні.**

**КЛАДБИЩЕ, магілкі, магільнік. могільнік, могліцы; жальнік, гробішча.** Ж а л ь н і к, найменьне архаічнае, захавалася ў названьні урочышч дзе былі старыя магільнікі. Г р о б і ш ч а, эпітэт магільніка, так сама як у Магілеушчыне г а й г а ё к кажуць, каб нё вымаўляць „непатрэбнага“ слова, гэта таго-ж парадку „заімак“ як аб чорце кажуць „той“, „гэны“, „нячысьцік“.

**КЛАНЯТЬСЯ, кланяцца, шапкаваць.** *Вядуць пад рукі шапкуюць, услуговуюць (Сержп.).*

**КЛАПАН** *м. нямецк.*, **затамка.**

**КЛАРИФИКАЦІЯ** *ж.* ачышчаньне цечыва адстойкай ці працэдкай; **кляраваньне, кляраваць, кляроўны.**

**КЛАРНЕТ** *м.* духовы музычны інструмант; **клярнэт, клярнэціста.**

**КЛАСС, КЛАС** *м.* аддзел, падзел, рад, **парадак,** круг аднастайнага; **кляса, клясовы, клясаваць, класыфікаваць; парадак**

**КЛАСТЬ** *што,* класьць, класьці, **класцца, кладомы, кладка,** кладзісты, кладовіцца, **клядоўся.** *Ужо ў вёсцы кладовіліся людзі спаць. Кладоўсь. сыну, спаці! Кладомае не стаіць, вісомае не ляжыць.*

**КЛАДОВАЯ** *ж.* клетка якая служыць да складаньня рэчаў; **кладоўка, кладушка; клетаўка, сьпіжарня.** *Занясі хлеб у клетаўку.* Клець служыць да пераховy збожжа і будуецца асобна ад хаты, клетаўку робяць з другой палавіны сяней, да складаньня гаспадарскіх рэчаў. С ь п і ж а р н я, ужываецца ў заходняй часьці Беларусі, здаецца што гэта полёнізм.

**КЛАД** *м.* грошы і багацьце паложаныя ў зямлю, захаванае багацьце; **скарб.**

**КЛАДЬ,** тавар, цягар, што паложана на воз; **покладзь, цягар.**

**КЛЕВАТЬ** *што,* **дзюбаць, дзюбае, дзюбацца, дзюбаньне, дзяўбсьціся; зобаць, зобле.** *Куры*

*клюць ячмень. Курачка па зернятку дзюбае. Пеўні дзяўбуцца. Зоблюць пташкі калаплі.*

**КЛЕВЕР** *м. нямец.* агульнае названьне больш дзесяці адмен травы Trifolium; **дзяціліна.**

**КЛЕВЕТАТЬ** *на каго,* **абмаўляць, абмова; чарніць, ачарніць, лыгвоніць.** *Ачарнілі дзеўку, абмовілі. Ён на усіх лігвоніць, брехча.*

**КЛЕВОК** аб рыбе калі яе вудзяць; **скубе.** *Сягоньня добра скубе рыба: паплавок так і скача*

**КЛЕВРЕТ** *м.* (лац. collibertus) **таварыш, тайнік, паплечнік, падхалім.**

**КЛЕГТАТЬ,** крычаць як хіжные птахі; **клыгтаць, клыгатаць.** *Арол клыгоча, крыві хоча.*

**КЛЕЙ** *м.* **клей, клейкі, клеіць, клейкасьць, кляісты, клейкаваты, клейкавіна, клейніца.**

**КЛЕЕНКА** *ж.* тканіна прасычаня якой кляістай масай; **цырата, вашчанка.**

**КЛЕЙКІЙ, ліпкі, клейкі.**

**КЛЕЙМО** *ср.* знак накладаны на рэчы; **таўро, таўраваць; штэмпаль, штэмпляваць.**

**КЛЕКОТАТЬ, клыгтаць, клыгоча; клякатаць.**

**КЛЕН,** дрэва Acer; **клён. кляновы.**

**КЛЕЩИ** *м. мн.* адмена шчыпцаў з доўгімі ручкамі; **клюгі, уклюжыць, склюжыліся.**

**КЛЕШНЯ** *ж.* **клюшня.** *Ракава клюшня.*

**КЛИКУША** *м.* **апантаная, гістэрычка.**

**КЛИМАТ** *м.* стан пагоды ў данай мясцовасьці; **клімат.**

**КЛИНИКА** *ж.* лазарэт пры мэдычнай школе, лазарэт для навучаньня і досьледаў; **клініка.**

**КЛИНОК** *м. ням:* сталёвая часьць халоднай зброі, акром штыка; **лязо, клінга.** *Лязо шаблі, нажа, корда.*

**КЛИНЧАТЫЙ, клінаваты.**

**КЛИР** *м.* сабраньне сьвятароў і слуг царкоўных; ўся царкоўная служба; **клер.**

**КЛИСТИР** *м.* **анэма, промытка.**

**КЛОБУК**, накрыцьце галавы, мніха; **клабук, капіца, каптур**.

**КЛОК** *м.* вырваная часьць, пучок; **кудлак, кузлак, кузлач.** *Вырваў кудлак валасоў. Кузлак сена, саломы. Якое тут кузлаччо валяецца. Кузлач барады адарваў.*

**КЛОКОТАТЬ**, варыцца з глюгатам; **глюкчэць. клыкчэць, клёкча, шляхатаць, шляхоча, шлѐхат; клыктаць, глёкат, глякоча.**

**КЛОЧОК** *м.* **кузлачок, лапінка, шматок.** *Кузлачок, лапінка зямліцы.*

**КЛУБ** *м. англ.* сабраньне, круг асоб якія заўсёды зьбіраюцца ў адным мейсцы; **клюб, клюбовы.**

**КЛУБНИКА** *ж.* ягада Fragaria collina; **суніца.** Буйныя поземкі (зямляніка) часам такжа называюць суніцамі, але ніколі суніц не вазываюць поземкамі.

**КЛУМБА** *ж.* **кветкік, клёмб.**

**КЛУША** *ж.* курыца якая квокча, сядзіць на яйкох; **квочка, квока, квактуха.**

**КЛЪТЧАТЫЙ** *аб тканіне*; **крацясты.**

**КЛЮВ** *м.* птушыны нос; **дзюба, дзюбло, дзюбка; зоблік, забок, зобля; глюга.** Буцян мае *глюгу,* у курыцы *дзюба*, а ў сініцы *забок.*

**КЛЮЗ** *м.* круглая отворына на насу вадаплава ў які праходзяць гужы ад катвігі; **клюз.** У нас клюзом называюць унутраную атворыну калёснай трубкі.

**КЛЮКА** *ж.* крук, кручок, палка з простым загібам да мяшаньня стравы; ў печы **кісялёўка.** Палка да папіраньняся; **ляска.** Беларускае *„клюкаць"* азначае піць, піць праз край нагібаючыся да судзіны, упівацца. *Клюкнулі па чарцы. Клюкае ўжо носам—спаць хоча.*

**КЛЮКВА** *ж.* ягада Vaccinium oxycosus, Oxycosus palustris; **журавіна, журавіца, журавіннік, журавінны.** *Журавінны, журавінавы квас. Журавічны, журавінны кісель называюць журам: ягадны жур. Найлепш зьбіраць журавіцы, журавіны,*

*калі яны зьмерзнуць, зробяцца як камяшкі цьвёрдымі.*

**КЛЮЧ** *м.* прылада да замыканьня і адмыканьня замка; **ключ, ключы, ключны, ключыць** (заключыць і адключыць замок), **ключнік-ніца, ключар** урадовец які пераховуе ключы; **ключавіна,** дзірачка ў замку да ўтыканьня ключа; *архаічн.* **ключ** адміністратыўны падзел зямлі, воласьць, павет: *„Заповеда Олег дати восем на корабль и по 12 гривень на ключь"*. Відаць вайсковая сіла Алега дзялілася на *ключы* паводле кругаколіц з якіх паходзілі ваяры. Да апошніх часаў у нас называлі *ключом* вялікі двор, які дзяліўся на фальваркі ці засьценкі. Есьць сьляды самаўрадаваньня такіх ключоў, прыкл. ў Радзівілаўскіх дварох. Выбарны прадстаўнік ад жыхароў ўсяго *ключа*, называўся **ключвойт.**

**КЛЮЧ** *м.* **крыніца, крынічны.** *Крынічная вада. У крыніцу бяжы па вадзіцу. Арх.* **крынь, крыніе.**

**КЛЮЧЕВИНА** *ж.* мейсца мокрае ад крынічнай вады; **мачарына.**

**КЛЮША, КЛЮШКА** *ж.* кіёк з крывой камлявінай да трыманьня; **касло, каслук, каспыль.** *Ходзіць каспылямі папіраючыся* (мабыць рас. *„костыль"*, паходзіць ад названьня крывога дрэва **касапля,** **касоплі,** *касапеліна*, згэтуль і найменьне ракі *Касапля* рас. *„Каспля")*. *Каслук мой зламаўся. У нашага бацюшкі ракітавае касло з сярэбранай галоўкай, ходзіць папіраючыся ім.*

**КЛЯНЧИТЬ** *чаго у каго,* **канкаць, княгаць.**

**КЛЯТВА** *ж.* **бажба, прысяга, шлюбаваньне, зарок, праклён, кляношаньне, кляцьба.** *Бажыцца кляношыцца што ён гэтага не казаў. Я не пабажуся што гэтага ня было. Суд патрэбаваў каб сьведкі прысягнулі. Да прыняцьця прысягі—не солдат. Жана мужу шлюбуе вернасьць і паслухмянасьць. Даў зарок больш ня піць гарэлкі. Налажыў на сябе зарок больш не хадзіць да іх. Кляне сьмяротным праклёнам. Бацькаўскі праклён пазбаў-*

*ляе шчасьця ў жыцьці. Брыдкай* **к л я ц ь б о й** *кляне яго. Німа горшай як маскальская* **кляцьба**: *ад яе кожды раз зямля здрыгаецца.* **Кляты** *чорт.*

**КЛЯТВОНАРУШЕНІЕ** *ср.* **крывапрысяжніцтва, крывапрысяжнік, крывапрысяжна.**

**КЛЯУЗА** *ж. нямецк.* прыдзірка, прычэпка, плёткі; **каверза, каверзуе, каверзьнік-зніца.** „Вярзьці", „вярзе"—гаварыць нісянеціцу і **„казіць"** псаваць, выкрыўляць.

**КЛЯЧА** *ж.* конская самка, благая **каняжка; кабыла, кабылка, кабіліца; кабылюк.** *Які-ж гэта конь, кабылюк дый толькі.*

**КНИГА** *ж.* **кніга, кніжка, кніжыца, кніжачка; кніжнік,** хто спанатруе кнігі, ачытаны, **ведны** чалавек ў кнігах; **кніжня, кніжніца,** бібліатэка, бібліатэчка; **кніганос,** хто працае ў разнос **кніжкі.**

**КНИГОПЕЧАТАНІЕ** *ср.* **друкарства.**

**КНИГОПЕЧАТНЯ** *ж.* **друкарня,**

**КНИГОПЕЧАТНИК** *м.* **друкар.**

**КНИГОПРОДАВЕЦ** *м.* **кнігар.**

**КНИГОПРОДАЖА,** крама дзе прадаюць **кнігі; кнігарня.**

**КНИГОХРАНИЛИЩЕ, кнігахоўня, кнігахоўніца.**

**КНИЗУ** *прысл.* **ўніз, да нізу.** *Зьверху ўніз. Ад верху да нізу.*

**КНИПЕЛЬ** *м. ням.* зялезнае верацяно **ў** такарскім пастаўку; **верацяно.**

**КНОП** *м. ням.* глухі кругаваты вузел **на кацці** вяроўкі; **пятля.**

**КНОПКА** *ж. ням.* цьвячок з шырокай **галоўкай; прысьцібка.**

**КНУР** *м.* не кладзены сьвінны самец; **кнур, кнораз, лях** (сьвіньню паросную называюць **лёха).**

**КНУТ** *м. тат.* шнурок ці рэмень для сьцябаньня, навязаны на пруток *пугаўе*; **пуга, пужка.** *А дзе мая раменнаа пуга! Пастуская ухватка сьцябаць сабак пугай. Бязь пугі конь не туровіцца. Падганяй каня ня пугай, а аўсом.*

**КНУТОВИЩЕ, пугаў*е*, пугав*і*шча.**

**КНЯВДЕГЕТ** *м.* вадарэз на самым перадзе кодабу вадаплава; **лыч.**

**КНЯЗЬ, кн*я*зь, кн*я*зеўскі, князяв*а*ць, княз*е*ўна, княз*і*ца, княг*і*ня, кн*я*зю, кн*я*зства.** Славянская і расійская форма *„княжы“, „княжство“*, але ў нас пісалі *князеўскі і князеўства*, або *„князьство“*.

**КОАЛИЦІЯ** *ж. фр.* змова, угода, сувязь; **коал*і*ція.**

**КОБЕЛЬ** *м.* сабачы самец-расплоднік, гавораць такжа аб воўках і лісіцах; **кяж*у*к, к*е*жчык.**

**КОБЕНИТЬ** *што*, корчыць, выгібаць, выкрыўляць; **стаб*у*рчыць, чачэніць, чачэніцца, караб*а*ціць.**

**КОБЗА** *ж. укр.*, **банд*у*ра, банд*у*рка, банду-р*ы*ста,**

**КОБУРА** *ж.* похва з цьвёрдай скуры ўжываная да агнястрэльнай зброі; **біс*а*г, п*о*хва.**

**КОБЫЛА** *ж.* **каб*ы*ла, каб*ы*лка, кабыл*я*чы, каб*ы*льны.**

**КОБЬ** *ж. арх.* **варажб*а*, чараўн*і*нтва.**

**КОВАРНЫЙ**, хто куе каўгу: сваркі, кавадню; подступы; **крывад*у*шны, к*а*ведны, к*а*веднік—ніца.** *Каведны чалавек: лісіцай глашчыцца, а воўкам падкапуецца.*

**КОВАТЬ** *(ковы—мэталі)*, **кав*а*ць, кав*а*ньне, куе, к*у*зьня**, майстэрня дзе куюць; **коў** усё што коўкае, паддаецца кававньню, металь; **кав*а*ць, кав*а*ч**, майстар які выковуе з коваў розныя надабბі,

**КОВЕРКАТЬ** ламаць, згібаць, **комкаць, кум*я*-сіць, клычіць**, *Чытаючы ён комкае і кумясіць кнігу. Яго падучка клычыць.*

**КОВЕР** *м. пэрск.* **каб*е*рац, кав*е*рац, кіл*і*м**, Кабёрац мае ворсу як у аксаміце, гладкая тканіна тканая узорамі як каберац называецца кілім.

**КОВРЫГА** *ж.* цэлая булка хлеба; **б*о*хан, бахан*е*ц, карав*а*й**; луста праз усю булку: **ськ*і*ба, л*у*-ста**; доўгі каравайчык—**кул*і*бка.**

**КОВРИЖКИ**, пернікі з рысункамі; **пернікі**. Пернік, ад *перны* па рас.: „пряный“.

**КОВЧЕГ** *м.* ад „каваць“, каваная скрыня; **корст, корсьцік, кораб, караб.** *Нояў караб.*

**КОВШ** *м.* аднаручны чарпак, **коўш, коўшык; чарпло, чарпак, чарпачка**; чатырохкантовая скрыня сулейкай у млынох адкуль цячэ збожжа ў жорны, **кораб, кош;** пад рукаў коша падвешана *лага* дрэўляная міса з вырэзаным берагам, збоку дароблены *лапацень.*

**КОВЫЛЬ** *м.* стэповая трава Stipa; **тырса.**

**КОВЫЛЯТЬ,** хадзіць ў пераваліку, прыпадаць на нагу; **клыпаць, клыпанргі; кандыбаць, кандыба, шкандыбаць, шкандыбае, шкандыба.**

**КОВЫРЯТЬ** *што,* **калыпаць, калыпок, калыпайла, калыпепь, калуплівы, калыпацца, калыпаўка; капырсаць; пыркаць.**

**КОГДА** *прысл.* **калі, кады.** *Калі хочаш тады зраблю. Гэта было калі француз ваяваў. Гэта было калі чорт лыкі лупаў. Кады колечы адгаджуся. Кады ён ліхі чалавек. Кады ёсьць, а кады німа. Кады,* гавораць у заходн. Віленшчыне і Вытабшчыне.

**КОГОТЬ** *м,* **кіпцюр, кіпцюры, кіпець, кіпці.** *Кашачыя кіпці мышам і ў сьне мярэсьцяцца. І ў **ката** кіпці ў аксаміце. Што яму ў кіпці трапіла ня выскліньне.*

**КОДЕКС** *м. лац.* зборнік права, судоўнік; **зборнік.**

**КОЕ-ГДѢ, дзе-колечы.**

**КОЕ-КОГДА, дзе-калі,**

**КОЕ-КАК, як-колечы.**

**КОЕ-ЧТО, дзе-што.**

**КОЖА** *ж.* верхняя павалока цела жывёлаў; **скурка, скураны, скурны.** *Скура на руках пашчапалася. Купіў скуры на боты. Скураная шапка. Скурная, наскурная хвароба, Выкручываецца як скурат на агні. Скуравістыя яблыкі, заскуравелі ад непагадзі.*

**КОЖЕВНИК** *м.* майстар які вырабляе скуры; **гарбар, гарбарскі, гарбарства, гарбаваць; скураль, скураласкі, скуральнік,** што вырабляе цьвёрдую скуру; **кажар, кажанік,** што вырабляе касматыя скуры. *Аддаў гарбару у гарбарню выгарбаваць скуру на боты, а ён мне скураль з яе зрабіў. Кажарнік наш псуе толькі аўчыны.*

**КОЖУРА** *ж.* расьцінная скурка на пладах; **скажурка; шалупіньне, шалупка, шалупа; лузга.** *Наскрабалі цэлае вядро шалупіньня з бульбы, цыбулі. Скупы шалупінкі шкадуе. Палузгай гарох, а лузгу ссып у памыйніцу. Боб мае цьвёрдую скажурку. Арэхі лузгаюць і лузгу палюць.*

**КОЗА** *ж. агульн. слав.* **каза, казіца, козка, казёл, козьлік, казіны, казуля;** дзікая каза, сарна; **козьліцца,** упірацца, не паддавацца; злавацца; **казытаць,** шчакатаць, курціняць разстаўленымі пальцамі; **казлы драць,** ванітаваць, рыгаць, варацаць.

**КОЗНЬ, КОЗНИ,** хітрасьці, зломэтныя подступы; **подступы, напасьці.**

**КОЗЫРЬ** *м. у картах;* **козырь, казырны, казыраць.**

**КОЗЫРЕК** *м* стрэшка пры шапцы, ад сонца; **казырок.**

**КОЙКА** *ж.* **ложка, ложа.** *Ложка, ня лыжка —служыць да спаньня, а не да ежы.*

**КОКОРА** *ж.* бервяно з каранішчам загнутым каленам да будаваньня вадаплаваў; **кніца, вакорына, вакора, касапеліна.**

**КОКАРДА** *ж. фр.* стужка зложаная петлямі і зборкамі; **кукарда, кукардка.**

**КОКЕТКА** *ж. фр* жанка якая баламуціць мужчын, крэпка старецца падабацца; **баламутніца, баламутка.**

**КОКЛЮХА** *ж.* драўляны пабавень да разьбіваньня камоў зямлі; **кука, кокаць, кокнуць.**

**КОКЛЮШ** *м. фр.* дзяцінная хвароба, кашаль з удушшам; **коклюш, кыхтар** (Шарашэва).

**КОКОН** *м. фр.* кажушок шаўкавічнага чарвяка; **вопрадзень.** *У нас некатарыя чэрві на зіму завіваюцца ў вопрадні.*

**КОКОТАТЬ,** падобна курыцы **какатаць:** ко-ко-ко! *Курачка какоча, знаць насьціся хоча.*

**КОКОШНИК** *м.* галаўны убор расійскіх жанок; **какошнік, каптур.**

**КОКС** *м. англ.* прапалены ў закрытай печы камянны вугаль; **кокс.**

**КОЛА** *ж. ням.* маленькі перагонны дутнічок **кольба, гляcьцік.**

**КОЛБАСА** *ж.* кішка накрыпаная сечаным мясам; **каўбаса, каўбасьнік, каўбасісты.**

**КОЛДОВАТЬ, чараваць, вядзьмачыць.**

**КОЛДУН** *м.* **чараўнік, ведзьмак, ведзьмар, знахар.**

**КОЛЕБАТЬ** *што,* **зыбаць, хітаць, хістаць, хібаць, вітляць; вагаць, вагнуць, вагацца.**

*Зыбнула мора зыбнула,*
*Там наша Агатка ўтанула.*
*(Ш. І. ч. 2; 70).*

**КОЛЕБИМОСТЬ, зыбкасьць, хісткасьць, хіткасьць.**

**КОЛЕВИНА** *ж.* выежджая коламі рытвіна; **калявіна, каловіна.**

**КОЛЕГІЯ** *ж. лац.* **рада.**

**КОЛЕКЦІЯ** *ж. лац.* сабраньне рэчаў чым колегы важных; **калекція, сабраньне.**

**КОЛЕНКОРЬ** *м. фр. тканіна;* **маміс.**

**КОЛЕСО** *ср.* плосмы круг; **кола.**

**КОЛЕСНИК** *м.* майстар што робіць колы; **каладзей.**

**КОЛЕСНИЦА** *ж.* **павозка, каляска.**

**КОЛЕЯ** *ж.* **калявіна, калявіна, калавіна.**

**КОЛИРОВКА** *ж.* **прышчэпка, прышчэп.**

**КОЛИЧЕСТВО,** мера чаго колечы лікам, вагой; **коліснасьць, колісны, сколькасьць, сколітны,**

**сколітнік; колькасьць, лічэбнасьць, лічэбны, лічэбнік.** *Сколькасьць рэчаў, грошы, вёрст, пудоў.* У Лідчыне і каля Вілейкі (Насілава) мне прыходзілася чуць яшчэ поўнагалосную, бадай самую правільную, форму: **сколіка.** *Сколіка ён суліў табе за карову. Сколіка разоў мы ўжо гэта чувалі.*

**КОЛИКРАТНО, сколькакротна.**

**КОЛИКА** *ж.* рэзь у кішкох, боль у жываце; **колька, колькі,** *мн.;* **коле, калоцьце.**

**КОЛИРОВАТЬ** *дрэвы,* **шчапіць, прышчапляць, прышчэп.**

**КОЛКІЙ, колкі, калючы, калоць.**

**КОЛКОСТИ, прытыкі, дацінкі.** *Ён дацінкамі сваімі мяне са сьвету зводзіць. На ўсе прытыкі так ей дацяў сваім сказам, што змоўкла.*

**КОЛК** *м.* касьцявы камель пад рогам быка ці каровы; **карвыль.** *Зьбіла карова рог і з акрываўленым карвылём ходзіць.*

**КОЛОБ, КОЛБУХ** *м.* **ком, гамолка.**

**КОЛОДА** *ж.* **калода, калодка, калодачка, каладзьня.**

**КОЛОДКА** *шавецкая,* **капыл, капылок, капылы.**

**КОЛОДЕЗЬ, КОЛОДЕЦ** *м.* **студня, каладзец.** Каладцамі называюць студні пры якіх маецца калаўрот да чэрпаньня вады, калі замест калаўрота ёсьць асьвер, ці толькі крук, то называюць тады проста - студня. Хоць першапачатковае паходжаньне слова „каладзец“ выводзіцца ад *каладзьня,* калода з падоўжнай шуплавінай, якую ўстаўлялі ў крыніцы замест зруба, згэтуль у нас мяйсцамі мяшаюць— каладзец і крыніца.

**КОЛОБРОДИТЬ, каламесіць, каломеса.**

**КОЛОКОЛ** *м.* **звон, званок, званочак, званіць, зьвініць, звонкі, званніца, званар.**

**КОЛОННА** *ж. лац.* **стоўб, калюмна, калюмнада.**

**КОЛОНІЯ** *ж. лац.* пасёлак чужаземцаў, перасяленцаў; **выселак, выселкі, высяленец, калёнія.**

**КОЛОНІАЛЬНЫЙ**, *гаворыцца аб таварах* прывожаных з гарачых краёў, прыкл.: кава, какао, інбір, перац і інш.; **каланіяльны.**

**КОЛОРИТ** адценак, тон колеру; **калярыт**.

**КОЛОС** *м. агульн. слав.* **колас, каласы, калосьсі, каласок, калосны, каласісты, каласаваты, каласьнік; каласавік** *смал.*, юнак прыгажун; **каласіца,** гаворыцца аб расьцінах „злачных“.

**КОЛОСС** *м. грэцк.* рэч аграмадных памераў; **аграмадзіна, аграмадны; колёс, калясальны.**

**КОЛОТИТЬ** *што ці каго, чым або па чым;* **таўчы, біць, коксаць, кокаць.** Убій цьвек у сьцяну. Гэткаму толькі морду патаўчы. Наша слова *калаціць* азначае трасьці: *Накалаці яблыкаў. Трасца яго калоціць. Узяў хлапца за грудзі ы як калатнуў... Калоціцца са страху.*

**КОЛОТУШКА** *ж.* драўляны малаток; **пабавешка, кука, таўкачок.**

**КОЛОТОВКА** *ж.* судзіна да зьбіваньня масла; **бойка.**

**КОЛОТЬ** *што, каго;* поркаць, пырыць нечым вострым; **калоць, коле, колецца, калоцьце, кальнуць, калючы, колкі, колкасьць, калючка, калючнік, калюка; бадаць, басьці, будыль, бадыга, будавель, быдла.**

**КОЛОТЬ** *што,* разьбіваць на двое; **шчапаць, шчапацца, шчапаньне, шчэпка; шчапак, шчапага,** сякера клінаватая цяжкая. *Дровы шчапаюць, а сьвіньней колюць. Пашчапалася дашка; рукі пашчапаліся, патрэскаліся. Шчапаньне дроў- цяжкая работа.*

**КОЛОША** *ж.* ногаўка штаноў; **калоша, ногаўка.**

**КОЛПАК** *м. татар.* **каптур, каптурок.**

**КОЛЧА, КОЛЧЕНОГІЙ,** у каго вывернуты ступні; **клыш, клышавы, клышаваты.**

**КОЛЧАН** *м. татар.* похва для стрэл; **туля, сайдак, калчан.**

**КОЛ** *м.* **кол, калок, калочак, кольля; друк, дручок, друкі.**

**КОЛЫБЕЛЬ** *ж.* **калыска, калыбка, зыбка, люлька.** *Люлька,* агульна—пасьцелька для дзіцяці. *Зыбкай* называюць калыску павешаную на канцы гібкай жэрдзі, якая „зыбаючыся“ калыша. *Калыбкай* называюць дзіцячае ложачка пастаўленае на палазох, якое ківаючы у адну і другую старану калышуць. *Калыска,* назоў дзіцячай люлькі павешанай толькі на вяроўках, бяз зыбкі, у якой калышуць хібаючы у староны.

**КОЛЫМАГА** *ж.* **рыдван.** *А разбойнік па дарозе затрымаў рыдван.*

**КОЛЫХАТЬ** *што,* **калыхаць, гойдаць, зыбаць, калыбаць.** *Калышацца* ўсё што прымацаванае зьверху хібаецца са стараны у старану. *Гойдаецца* зьверху ўніз і знізу ў верх. *Зыбаецца* кождая рэчь якая мае прымацаваны адзін канец, а другі вольны знаходзіцца пад націскам цяжару якому працівіцца пругкасьць рэчы.

**КОЛЬЦО** *ср.* мэталічны кружок на палец; **пярсьцёнак, персьцень, пярсьцёнік;** персьцень з пячаткай **сыгнэт;** персьцень з бліскучым камяшком у аправе, **кляйнодзік.** Кружок з пустатой у сярэдзіне да змацаваньня чаго, **абручок, банька.** Прыкладам касу прымацоўваюць да касавіла *банькай.*

*Есьць ў маей Агаткі пярсьцёнкі*
*Будуць для канікаў падкоўкі,*
*(Ш. І. ч. 2, 82).*

**КОЛЬЧАСТЫЙ** *м.* **персьцявісты, пярсьцісты.**

**КОЛЂНО** ад *кланіць;* сустаў наназе, сустаў або згіб наагул; **калена, каленны, каленаваты, каленісты:** *у расьць.* **гузель, гузлаваты; кляга.**

**КОЛЂНОПРЕКЛОННО,** поклечкі, **поклечкам прыклякаць.**

**КОЛЕНЧАТЫЙ, вузлаваты, гузлаваты.** *Гузлаваты гічэль, салома.*

**КОЛЧЕДАН** *м.* самародак руды, ком мэталічнай руды; **дрысак, дрысга.**

**КОМАНДОВАТЬ** *чым. нямец.* **камандаваць, камандзір, камандзірскі, каманда, камандант.**

Слова гэта ў нашу мову не пасуе, яго трэбало-б заступіць якім сваім словам.

**КОМБИНАЦІЯ** *ж. лац.* **амяркацція.**

**КОМЕДІЯ** *ж.* **камэдзія, камадзіянт.** *Камэдыя, хто ня ведае, а хто ведае чысты сьмех.* **Перасьмеўка.**

**КОМИЗМ** *м.* **сьмешнасьць, сьмешны, сьмешнік.**

**КОМЕЛЕК** *м.* **грубка.**

**КОМЕНТАРІЙ** *м. лац.* аб'ясьнененьне, **тлумачэньне.**

**КОМЕРЦІЯ** *ж. фр.* **торг, таргоўля, тарговыя, авароты; камэрція, камэрцыйны.**

**КОМЕТА** *ж.* нанебнае цела; **камэта,**

**КОМИСАР** *м. лац.* хто выпаўняе якую камісію, даручэньне; **камісар, камісарскі, камісарства.**

**КОМИТЕТ** *м. фр.* **сабраньне, камітэт.**

**КОМИЧЕСКІЙ, сьмяшлівы.**

**КОМНАТА** *м.* **сьвятліца, істоба, істобка; пакой, пакойчык; келятка, бакоўка, камора, каморка.**

*Панясла да сьвятліцы,*
*Паставіла на скамліцы. (Рогач. пав.)*

**КОМОД** *м. фр.;* **камода, шуплярня.**

**КОМОЛЫЙ** *м.* **лабаты, лабацік, лабатка**

**КОМПАКТНЫЙ** *франц.* **сьціслы**

**КОМПАНІЯ** *ж. лац;* **кампанія**

**КОМПАС** *м. ням.* магнэсовая стрэлка на восі; **компас.**

**КОМПЕНСАТОР** *м. лац.* **роўнаважнік**

**КОМПЕНТЕНТНЫЙ** *м. лац.* праваможны.

**КОМПИЛЕВАТЬ, КОМПИЛИРОВАТЬ, зьбіраць, штукаваць, складаць.**

**КОМПЛЕКТ** *м. фр.* **паўнак, поўны, папаўняць.**

**КОМПЛИМЕНТ** *м. фр.* **камплімэнт, залесьць, залёсткі, залёсьнік—ніца.** *Майстар на залёсткі.*

*Тры корабы залестак нагаварыў. Ветласьцю ды залесьцю душу выймае.*

---

**КОМПЛЕКСІЯ** *ж. фр.* **склад чалавека.**

**КОМПОНИРОВАТЬ** *фр.* **змышляць, складаць.**

**КОМПОЗИЦІЯ** *ж. фр.* **уклад, вымысл, вытвор.**

**КОМПОЗИТОР** *м.* **складчык.**

**КОМПОТ** *м. фр.* вараныя яблакі, грушы, сьлівы: **саламатка.**

**КОМПРЕС** *м. лек. лац,* **прыпарка.**

**КОМПРЕСОР** *м. фр.* прылада ў машынах да сьцісканьня; **прытуг.**

**КОМПРОМИТИРОВАТЬ** *каго. фр.* **сароміць.**

**КОМПРОМИС** *м. фр.* **угода, угодлівы, згодлівы, згадзіцца:**

**КОМУНИКАЦІЯ** *ж. фр.* дарогі, спосабы зносін; **дарожніцтва, дарожны.**

**КОМУНИЗМ** *м. фр.* палітычнае вучэньне аб ўсеагульнай роўнасьці; **грамадзейста, гмамадзей, грамадзейнік.**

**КОМФОРТ** *м. англ.* выгода, утульнасьць, багацьце; **роскаш, раскошна, раскошнік.**

---

**КОМ** *м агульн. слав.* **ком, камы, камяк, камяга, камолка** (гамолка), **камячок, каміць, камсіць, кумясіць, кумешыць, каміць, комкаць, кумякнуць, кумяк, кумешыць; кулібка,** ком, бохан хлеба.

**КОНАРХ** *м. грэцк.* той хто чытае ў цэркве каноны; **канарх.**

**КОНВЕНЦІЯ** *ж. фр.* прыватнае умова аб чым колечы паміж двумя дзяржавамі; **угода.**

**КОНВЕРТ** *м. фр,* агортка ліська; **агортка, кувэрт.**

**КОНВОЙ** *м. фр.* вайсковы аддзел для ахову ў час падарожы; **ганавод, ганаводнік.** Ганаводамі і ганаводнікамі ў падзьвіньні называюць прыказчыкаў якія праводзяць абозы з таварамі; **канвой, канвойны, канвойшчык.**

**КОНВУЛЬСІЯ** *ж. лац. лек.* **сутарга, сутаржка.**

**КОНГЕСТІЯ** *ж. лац. лек.* прыліў крыві да якой часьці цела; **захлань.**

**КОНГЛОМЕРАТ** *м. лац.* **мяшаніна.**

**КОНГРЕС** *м. лац.* **зьезд.**

**КОНДЕНСАТОР** *м. лац.* прылада да згушчаньня; **згустатар, згустыр.**

**КОНДИТЕР** *м. лац.* **цукернік, цукерніцтва, цукерніца.**

**КОНДИЦІЯ** *ж. фр.* **умова, забавязаньне;** гаворыцца аб лекціях вучыцеля у прыватных дамох: *У яго ёсьць кодыціі, выехаў на кондыціі.*

**КОНДРАШКА** *м.* крывавы або нэрвовы параліж; **паляруш.** *Каб це паляруш скруціў.*

**КОНДИТНЫЙ** *сьпісак фр.* запісі аб паступаньні і здольнасьцях; **паводчая ведамка.**

**КОНДУКТОР** *м. лац.* **праваднік, павадыр.**

**КОНЕЦ** *м. агульн. слав.* **канец, кончык, канчар, канчак, канча, канечны, канцавы, канчатны, канчавіна, канчатка, канчатковы, канчаць, кончыць, канчальны, канчанік, канчанскі, канцаваты.**

**КОНЕЧНО** *прысл.* **конча, ачколечы, ведама.**

**КОНИЧЕСКІЙ, кучмаваты.**

**КОНКРЕТНОЕ** *лац. паняцьце* **уяўнае, рэчавістае.**

**КОНКУРС** *м. лац.* **спабор, спаборніцкі.**

**КОНКУРЕЦІЯ** *ж. лац.* **спаборчывасьць.**

**КОНКУРЭНТ** *м. лац.* **спаборнік, спаборніцкі.**

**КОНОБЬ** *ж.* **конаўка, коўш.**

**КОНОВАЛИТЬ, канавалаваць, канавал; лягчай, лягчыць.** *„Але, ось, быў у нас лягчай, звалі яго Нічыпарам... бывала падыдзе к жарабцу, пагладзіць яго па азадку,— той і стаіць як укопаны.“* (*Сержпут. 47*). **Валох, валошыць.**

**КОНОПАТИТЬ** *што, чым;* забіваць шчэлкі, пазы пакульлям; **пакляв*а*ць.**

**КОНОПЛЯ** *ж.* расьціна Cannabis sativa; **канапл*і*, калапні, кан*о*пы, кан*о*пны, кан*о*пнік. кап*о*пка, кан*о*пісты.**

**КОНСЕРВАТОР** *м.* **зах*о*ўнік,** хто бароніць стары палітычны лад; спраціўляецца навізьне—**кас*ты*рнік, паз*а*днік.**

**КОНСИЛІУМ** *м. лац.* **р*а*да, нар*а*да** асабліва дактароў.

**КОНСИСТОРІЯ** *ж. лац.* эпархіяльная духоўная канцэлярыя; **кансыст*о*рыя.**

**КОНСКРИПЦІЯ** *м. фр.* набор салдатаў пры помачы лёсаваньня; **п*о*пісь.**

**КОНСОЛЬ** *м. фр. архіт.* арнамант. на сьцяне палічкай; **паст*а*д*о*к.**

**КОНСПЕКТ** *м, лац.* скарочаны зьмест; **скар*о*т.**

**КОНСТИТУЦІЯ** *ж. лац.* дзяржаўны **стат*у*т.**

**КОНСТРУКЦІЯ** *ж. лац.* **пабуд*о*ва.** *Пабудова мовы, выкладу.*

**КОНСУЛ** *м. лац.* упаўнамочаны ад ураду ў таргових справах у другой дзяржаве; **к*о*нсул, к*о*нсульскі, к*о*нсульства.**

**КОНТИНЕНТ** *м. лац.* **цьв*е*рдзь.**

**КОНТИНГЕНТ** *м. лац.* **бонда, ч*а*сьць.**

**КОНТОРА** *ж. фр.* мейсца кіраўніцтва гаспадарчымі і рахунковымі справамі; **кант*о*ра, канцэл*я*рія.**

**КОНТРА** *ж. фр.* **супр*о*ць.**

**КОНТРАБАНДА** *ж. фр.* **качм*а*рка, качм*а*рства, карчм*а*ршчык; кантраб*а*нда, кантраб*а*ндзісты.**

**КОНТРАБАС** *м. фр,* **басэтля, бас*о*ля, басэтл*і*ста.** *Не да хлеба, не да солі, калі граюць на басолі,*

**КОНТРАМАРКА** *ж.* **цэдлік.**

**КОНТРАСИГНОВКА** *ж. фр.* **зар*у*ка.**

**КОНТРАФАКЦІЯ** *ж. фр.* **падр*о*бка.**

**КОНТРРЕВОЛЮЦІЯ** *ж. фр.* **супроць революція.**

**КОНТРАКТ** *м. фр.* пісаная умова. умова паводле праўнага парадку; **умова, кантракт.**

**КОНТРАСТ** *м. фр.* **супроцьлегласьць, спраціўства.**

**КОНТРИБУЦІЯ** *ж, фр.* вайсковы падатак, пабор з заваяваных; **даніна.**

**КОНТРОЛЬ** *м, лац.* **спраўдка, спраўджаць, спраўджаны, спраўдца.**

**КОНТУЗІЯ** *ж. лац.* удар куляй ашчэпкам без раны; **садно, ссадніць.**

**КОНТУР** *м. фр,* зьнешні абрыс рэчы; **абрыс.**

**КОНУС** *м. грэцк.* цела ў форме галавы цукру; **кучмак, кучмень, кучмісты, кучмавісты.**

**КОНФЕДЕРАЦІЯ** *ж. лац.* цесная сувязь дзяржаваў; **конфэдэрація, сувязь.**

**КОНФЕРЕНЦІЯ** *ж. лац.* **нарада.**

**КОНФЕТЫ** *м. мн. фр.* **цукеркі.**

**КОНФИГУРАЦІЯ** *ж. лац.* **абрыс, выгляд.**

**КОНФИДЕНЦІЯ** *ж. фр.* **спаверчасьць.**

**КОНФИРМОВАТЬ** *што, ням.* **зацьвярджаць.**

**КОНФИСКОВАТЬ** *што, фр.* атабраць у скарб; **атабраць, вызьняць.**

**КОНФОРМАЦІЯ** *ж. фр.* **склад, форма рэчы.**

**КОНФУЗИТЬ** *каго, фр.* **сароміць, сарамяжлівы, ўстыдаць, бантэжыць.**

**КОНЦЕНТРИЧЕСКІЙ,** *лац. аб крузе або клубе* у чаго адзін і той-жа агульны цэнтр (асяродак) з другім кругам, клубам; **сусяродлівы, канцэнтрычны.**

**КОНЦЕПЦІЯ** *ж. лац.* спосаб разуменьня і вывады; **канцэпція.**

**КОНЦЕРТ** *м.* музыка на некалькі галасоў ці музычных інструмантаў; **канцэрт.**

**КОНЦЕСІЯ** *ж. фр.* **пераўступка.**

**КОНЧИНА** *ж*, скон, скананьне, кананьне. *Сьведкі якія былі пры яго сканаьньні. Лёгкае, цяжкое кананьне.*

**КОНЬКИ** *мн. м.* сталёвыя палазкі да коўзаньня; **каўзгачы, коўзьлі; лызгачы, лызглі.**

**КОНЮШНЯ** *ж.* **стайня.**

*А ў стаенцы Божая радасьць,*
*Божая радасьць праявілася;*
*Сорак кабылак жарабілися,*
*А яшчэ стонькі назначылася.*
*Рогач. п. (Ром. 8—9 стр. 176).*

**КОПА** *ж.* **капа, капіца, купа.** *Капа сена саломы*; **капа,** сходка, грамада рас. „мір"; **капа,** *лічебн.* 60 штук. *Капа снапоў яек, а даўней—капа грошы.* **Капавік,** рас. „полтиник", 50 кап.

**КОПАТЬ** *што,* **капаць, капацца, капаньне, копкі; какапач, капага, капанка; капаніца,** накопная дарога.

**КОПОТЛИВОСТЬ, капырсьлівасьць. капырсацца, капырскі, капырсьнік,**

**КОПЕ(Ѣ)ЙКА** *манэта,* **капейка.**

**КОПИТЬ** *што,* **спароміць, спаромленьне; зашчаджаць.** *Грошы спаромяць, а сена ў копы копяць.*

**КОПІЯ** *ж.* **водпіс, копія.** *Зрабіў даслоўны водпіс з кантракту.*

**КОПОТЬ, сопар, сапорлівы; дым, дымець, задымлёны, дыміць, дымлянiна, дымарня.**

**КОПОШИТЬ** *што або чым,* **кешкаць, кешкацца; капорсаць, капорсацца, капорскі; пыркацца, пыркун, пырклівы.**

**КОПТИТЬ,** выпускаць дым, сажу, чарніць дымам; **дыміць, дымнік, дымлёны, дымарня, дымарка.** Рыбу і мяса дымяць у дымарнях, або вэглярнях; ад першага выводзяць назову *дымляніна;* ад другога *вагліна, ваглянiна,* не „вэндліна", бо апошняе тое-ж, а толькі паводле польскай вымовы.

**КОПТѢТЬ,** сядзець над чым сохнучы як мяса ў **дымарні; карпець, заскорпнуць; скарпеў, скарупка.**

**КОПОТУХА** *аб жанках*, якая капаецца, капорсаецца, стараючыся прыспароміць што ў хату; **тупатуха, т паць, тапаніна.**

**КОПЧИК** *м.* наплечная, азадная костка ў птахаў; аканечнік хрыбетніцы ў чалавека загнуты ў сярэдзіну; **купрык.**

**КОПЫТО** *ср.* рагавая павалока на нагах нек. жывёлаў; **капыт, капыто, капыты, капыткі, капысты, капыціцца** апошняе гаворыцца ў значэньні зваліцца, зьбіцца з ног, пасьці: **скапысьціцца.**

**КОПЬЕ** або **КОПІЕ** *ср.* абасечна вострае жалезца на дрэўку; **копія, капійнік.**

**КОРА** *ж.* спаверхная павалока на дрэве; **кара, карыца, карысты,** ліповая кара называецца **лубам.**

**КОРЯВѢТЬ, скарузнуць, заскарузлы; скорбнуць, заскорбнуць; карэць, карэлы, каржавець, каржысты,** пакрыты тоўстай крэпкай карой.

**КОРАБЛЬ** *м.* **карабель, карабельны, карабельнік; вадаплаў.**

**КОРАЛ** *м.* **караль, каралёвы, каралі,**

**КОРДОН** *м. фр.* шнур на якім ганяюць **каня** кругом стауба; ваярская варга ланцугом.

**КОРЕКТОР** *м. лац.* хто займаецца папраўкай памылак у друку; **карэгатар, карэгавацъ.**

**КОРЕЛЬСКАЯ БЕРЕЗА** *ж.* **ракітавая бяроза.**

**КОРЕНЬ** *м.* **карэнь, каранішча, карані, каранець, карашкі, каранасты; каранік,** вулей с дзюплаватага прыкарэнка пня; **караніць, каранець.**

**КОРЕСПОНДЕНЦІЯ** *м. фр.* **ліставаньне.**

**КОРЕННОЙ** *м.* які знаходзіцца каля **карэньня; вакорны, вакорына; вакорак,** бочка расьпілаваная на двое.

**КОРЗИНА** *ж.* **карзіна, карзінка, карзіначка; кашала, кашолка, кашолачка.** *Карзінай і кашалой* называюць плецены кораб з лучыны, **плецены** з пруткоў—*кош, кошак*; з лубу—*лубянка.*

**КОРИДОР** *м. фр.* **праход, калідор.**

**КОРИНКА** *ж.* дробныя чорныя разынкі; **карынткі.**

**КОРИФЕЙ** *м. грэцк.* хто трымае голас у хоры, кіруе опэрным хорам; **верхавод** у якой колечы справе.

**КОРИЦА** *ж.* **цынамон.**

**КОРИЧНЕВЫЙ, бурнаты, сапорысты.**

**КОРКА** *хлеба,* **скарынка;** на пладах і ягадах—**скурка, скажурка;** на кашы—**скарупка, скарупіцца, заскарупнуць.**

**КОРМА** *ж.* задняя часьць вадаплава; **карно.** Карно процілегла носу ў чоўне. *Карма* ў невадзе, яго сярэдряя часьць, мяшок, але: *карнік, корнік,* кіраўнічы вадаплавам, капітан вадаплаву.

**КОРМИЛО** *ср.* хвост вадаплава, які кіруе яго паваротамі; **стырно, стыравацьь.**

**КОРМЧАЯ КНИГА,** зборнік царкоўныя і часьцю цывільных правіл.

**КОРНЕТ** *м. фр. вайск.* **харужы.**

**КОРНЦАГИ** *м. мн. нял.* шчыпчыкі ножніцамі; **цапагі.**

**КОРН** *м. нял.* **зярно, зернавы, ядрэц, ядрыца.**

**КОРМ** *м.* чым корміцца; *кароўі корм*—**пошыр;** *конскі*—**аброк;** *агульна*—**корм, карміць.**

*Дай каню, дай каню сена аброку,*
*Маладому Ляксейку піва, мёду.*
*(Ш. I. ч. 2. стр. 54).*

**КОРОБ** *м.* гнутая, а часам і плеценая кашала; гнутыя бываюць з лубу, кары і драніцы; плеценыя з саломы і лазы; **кораб, карабок, каробка.**

**КОРОБЕЙНИК** *м.* разносчык тавараў; **лахтыр, вэнгер, крамнік.**

**КОРОБИТЬ** *што,* **карабаціць, карабаты, карабасьцік.**

**КОРОВА** *ж.* **карова, кароўка, каравёнка, каравёшка; кароўнік,** хлеў для кароў; **кароўніца,** служанка яка даглядае кароў.

**КОРОВАЙ** *м.* **каравай.**

**КОРОЛЬ** дастойнасьць валадара дзяржавы; **ка-**

**роль, каралеўскі, каралеўства, караляваць;** *у картах*—**кароль, вышнік.**

**КОРОМЫСЛО** *м.* лукаваты перасьвер на плечы насіць ваду; **каромесла, суднік,** ад „суды“ два вядры вады. У значэньні „рычага“ у нас не ўжываецца; для абазначэньня апошнага служаць: **асьвер, перасьвер, касарга, вага** (гл. Рычаг).

**КОРОНА** *ж.* галаўны убор пануючых асоб; **каруна, карунаваць, карунны.**

**КОРОПУЗ** *м.* **карштук, карнюк, карнапуз.**

**КОРОСТЕЛЬ** *птушка,* **дзяргач.**

**КОРОТКІЙ** *агульн. слав.* **кароткі, каротка, караткаваты, кароткасьць, карацiць, карацець.**

**КОРОТОТАТЬ** *час,* **праводзіць, церці.** *Сьцерлі гадзінку за чаркай.*

**КОРПІЯ** *ж. лац.* паскубаная старызна да закладаньня ран; **скубанка.**

**КОРПУС** *м. лац.* цела, склад; сабраньне аднастайных у адно цэлае; **корпус.**

**КОРЕКТОР** *м.* **карыгатар, карыгаваць.**

**КОРСАР** *м. фр.* **марскі разбойнік.**

**КОРСЕТ** *м. фр.* **шнуроўка,** жаночая вопратка да стану.

*Мой-жа ты татулечка,*
*Продай-жа ты каровачку,*
*Купі мне шнуровачку.*
*(Ром. 8—9 стр. 125).*

**КОРСАЖ** *м. фр.* верхная часьць жаночай вопраткі; **агруднік.**

**КОРТЕЖ** *м. фр.* урочысты поезд; **паход; провады.**

**КОРТИК** *м.* **кордзік.**

**КОРЧАГА** *ж.* гліняны **гляк.** У нас *карчагай* называюць судзіну да дзёгцю; робіцца з двума днамі, ў верхнім дне невялічкая атворына да маканьня у дзёгаць *квача.*

**КОРЧЕВАТЬ,** вырываць карчы, пні; **карчаваць, карчаваньне, карчоўка, карчы, карчоўя.**

**КОРЧИТЬ** *што,* **корчыць, корчыцца.**

**КОРЧИ**, **сутаргі.**

**КОРЫСТЬ** *ж.* **карысьць, карысны, карыстаць, карыстацца; зыск.**

**КОРЫТО** *ср.* **карыта, карытца, карытнік.**

**КОРЬ** *ж.* дзіцячая пошастная хвароба; **водра.**

**КОРЮШКА** *рыба,* **уклейка.**

**КОРАВѢТЬ, скарузнуць, скарузлы; кірпцець.**

**КОСА** *ж.* доўгая пяскаватая мяліна, **мельстынь;** прылада да касьбы травы, **каса;** суплёт жаночых валасоў, **каса, коска касіца.**

**КОСАРИ** *мн. м.* **касьбіты, касьцы.**

**КОСОТОЧКА** *ж.* брусок на палцы; **трапло.** *Траплом трэплюць косы,* **востраць.**

**КОСВЕННЫЙ, сукосны, скосны; субочны.**

**КОСМА** *ж.* клак поўсьці; **вахлак, вахлаты.**

*Мядзьведзю вахлаты,*
*Гаспадару багаты.*
*(Крачк. стр. 45).*

Ня будзь багатым, а будзь вахлахатым (прыказка). Верацъ што ў каго валахатыя грудзі, то гэта шчасьлівы чалавек; **касмыль, касматы; кудло, кудлак, кудлаты.**

**КОСМЕТИЧЕСКІЙ** *ж. фр.* які датыча умецтва і спосабаў падтрыманьня сьвежасьці і мяккасьці скуры, штучнай прыгожасьці; **касмэтычны, касмэтык, касмэтыка.**

**КОСМОС** *м. грэцк.* **сусьвет.** Памылкова некаторыя ужываюць *сусьвет* у значэньні „всемірный“ да гэтага служыць андналоў—*ўсесьвет.*

**КОСМОГОНІЯ** *ж. грэцк.* навука аб вытварэньнюся сусьвету.

**КОСМОГРАФІЯ** *ж. грэцк.* апісаньне ўсесьвету, ўсіх сьветаў.

**КОСМОЛОГІЯ** *ж. грэцк.* навука аб законах кіруючых ва ўсесьвеце.

**КОСМОПОЛИТИЗМ, ўсесьветніцтва, ўсесьветнік,** чалавек які не прызнае бацькаўшчыны, які лі-

чыць сябе грамадзянінам ўсяго сьвету.

**КОСНИТЬ, марудзіць, маруда, маруджаньне, марудлівы.**

**КОСНѢТЬ**, быць у адным і тым самым стане; **мадзець, касьцявец.**

**КОСНОЯЗЫЧНЫЙ, заіклівы, картавы.**

**КОСНУТЬСЯ, ткнуцца, торкнуцца, даткнуцца.**

**КОСОЙ, косы, касіць, касаваты.**

**КОСОГЛАЗЫЙ, касавокі, зызаваты, касавуры.**

**КОСОЛАПЫЙ, крывалапы, клышавы.**

**КОСТЕЛ** *м.* каталіцкая сьвятыня; **касьцёл, касьцельны, касьцельнік.**

**КОСТЕНѢТЬ, касьцявець.** Аб руках кажуць: рукі **скрэплі, акрэплі** ад сьцюжы.

**КОСТЕР** *м.* дровы зложаныя ў клетку; **груд.** *Паліць груды,* расчышчаць лядо спаляньнем на грудох сучча і карчэўя.

**КОСТРЮЛЯ** *ж.* **рондаль.**

**КОСТЫЛЬ** *м.* **кавяла, кавяліць; кавіляць,** хадзіць папіраючыся кавёламі.

**КОСТЬ** *ж. агульн. слав.,* **косьць, косьці, касьцявы, касьцісты, касьціна, костка, костачка, касьцяны, каставаты, касьцянка, касьцявець, кастырэць, кастыр.** Лакцявая косьць—*жбіца.*

**КОСТЮМ** *м. фр.* вопратка; камплект вопраткі; асобная тэатральная, маскарадная вопратка **касьцюм.**

**КОСЯЩАТЫЙ, касодзісты.**

**КОТЕЛ** *м.* **кацёл, кацялок, кацельны, катляр.**

**КОТЛОВИНА** *ж.* **катліна, волміна.**

**КОТЛЕТА** *ж. фр.* выбітае і пражанае блінцом мяса; **сяканец, сяканцы; катлет.**

**КОТОМА, КОТОМКА** *ж.* дарожная торба, пляцёнка; зазвычай пляцецца з лык або бяросты і носіцца за плячмі; **хатолка, тайстра, кабза, кашолка.**

**КОТОРІЙ** *займак,* **каторы, каторае, каторая.** *Каторы чалавек добры, а каторы і благі. Каторая гэта баба. Каторае у цябе дзяцё.*

**КОТ** *м.* самец кошкі; **кот, каток.** Кату даюць эпітэты: ***мурчак, катовіч.***

**КАУРІЙ** *масьць,* **буланы.**

**КОФЕ** *ср.* **кава, кавовы, кавярня, каўнік.**

**КОЧАН** *м.* **качан. качанок; качарыжка,** ножка пад качаном. Па расійску правільна „вилок".

**КОЧЕВАТЬ,** жыць не асела, не на адным мейсцы; **качаваць, качавы.**

**КОЧЕВРАЖИТЬСЯ, настырацца, настырлівы.**

**КОЧЕГАР** *м. англ.* **качагар, качаргар, дравасмал.**

**КОЧЕНѢТЬ, калець, акалелы.**

**КОЧЕРГА** *ж.* прылада да мяшаньня жару; **качарга; кацюба; пожах.**

*А дзе-ж тая гаспадыня што у шубе.*
*Ніхай шукае дочцы качубы. („Кацюбы" ў Новагрудчыне). Крачк. стр. 35.*

**КОЧЕТ** *м.* **певень.**

**КОЧКА** *ж.* **курган, купіна.**

**КОШЕНИЛЬ** *ж. фарба;* **чарвец, кармазын.**

**КОШЕРНЫЙ** *жыд.* **чысты.**

**КОШКА** *ж,* самка ката; **кошка, кошачка.**

**КОШЕЛЁК** *м.* торбачка скураная на грошы; **кеса, кеска; гамалейка, магалейка, кабза.** „...і паказаў магалейку з чырвонцамі" (Сержп. стр. 51).

**КОШМАР** *м.* сонны прывід, душаньне ў сьне; **змора, мара.** *Мара душыць, ўночы людзей садовячыся на грудзёх.*

**КОЩУНСТВО,** насьмяханьне над сьвятымі рэчамі, заплюгаўленьне сьвятасьці; **кашчуйства, кашчуйнік, кашчуйны, касьціць.**

**КОЭФИЦІЭНТ** *м. мат.* лічба на якую множыцца другая вялічыня; **памножнік.**

**КРАБ** *м.* круглы **морскі рак.**

**КРАЕВОЙ, краёвы.**

**КРАЖА** *ж.* **крадзежа, крадзьба, покрадзь.** *Сягоньня у нас покрадзь здарылася: укралі барана.*

**КРАЙ** *м.* ракі, мора — **бераг, наўзьбярэжжа;** зямля, старана і народ; **край, краіна, краёвы,**

**краёвец**; пачатак і канец чаго—**бераг; руб, скрай, скрайны, наўскрай; акрай, акрайны; акраец** абрэзак хлеба; **ускрай, ускрайны, украйны**; край тканіны—**пруг**, а калі абшыты, абкіданы ніткай **руб, рубец.**

**КРАЙНЕ** *прысл.* **скрайна, лішне, канечна.**

**КРАЙНОСТЬ** *ж*, **скрайнасьць, канечнасьць.**

**КРАЮХА** *ж.* абрэзак хлеба ці чаго іншага; **акраец, акрайчык, акройчык.**

**КРАЕГРАННЫЙ, наўскрайны, скрайны.**

**КРАЕСТИШІЕ** *ср.* **granaверш.**

**КРАМОЛА** *ж.* **бунт, рокаш, ракошны, ракошнік; замутня, мутар, муціць; нерадзіца; зрада.**

**КРАМПОВАТЬ** *ням. аб сукне;* надаваць яму полыск; **грымпляваць, грымплёўка, грымпаль.**

**КРАНІОЛОГІЯ** *ж. грэцк.* навука аб будове чэрапа, галавы; **канелёгія.**

**КРАНЦ** *м. ням.* зьвітыя ў падушку старыя вяроўкі якія зьвешываюць паўскрай вадаплава каб ён не ўдараўся голым бокам; **пехтыр, пехтыры.**

**КРАН** *м. ням.* трубка з папярэчнай затычкай да спусканьня цекляцяў; **крант, кранец, кранцік.** *Крант у самавары заскируз.*

**КРАН ПОД'ЕМНЫЙ, асьвер, асьверыць, сьверыць, сьвіран.**

**КРАПИВА** *ж.* расьціна Urtica; **крапіва.** Крапіва бывае простая і жыгучка.

**КРАПЧАТЫЙ, пярэсты, пярэсьціць.** Аб масьці курэй кажуць: **канаплястая курыца.**

**КРАСОТА** *ж.* **прыгожасьць, прыгожы-жая, прыгожства, прыгажэць, прыгажун, прыгажуля, прыгажуха, прыгожліва, прыгожлівасьць;**

*Дайце мне харошага,*
*Дайце мне прыгожага! (Р. 8-9 124).*

**гожасьць, гожы-жая; гозкасьць, гозкі.** Гэты апошнія словы маюць адценак гладкасьці, прыгожасьці і буйнасьці ўзросту; **гладкасьць, гладкі-кая;** *Гладкая деўка; гладкі хлапец;* зн. поўны-ная прыго-

жая; **краса**, **красавацць**, **красавацца**, **красуля**, **красуня** адцянае паняцьце поўнасьці росквіту, чыйколечы росквіт, бліскучасьць прыгожасьці; **харатство**, **харошы**, **харашэць**, **харашыцца**, **прыхарашывацца**, азначае стройнасьць і паўнату формаў; **пекната**, **пекнасьць**, **пекнянькі**, **пекны-ная**, **пякнець**, палкая, палючая прыгожасьць, харатство; **аздобнасьць**, **аздобліваcьць**, што мае ў сабе аздобу, пакрасу. **Ладны**, гожы не малы.

**КРАСИТЬ** *што*, пакрываць фарбай; **фарбавацць**, **малявацць**. *Фарбуюць* фарбай разьведзенай у вадзе, *малуюць* фарбай разьведзенай ў пакосьце, намазуючы фарбу памазком ці квачам.

*Коні гатуюць,*
*Вазкі малююць. (Віт. Ш. І. ч. 2. 31).*

**КРАСИЛЬЩИК** *м.* **фарбяр**, **фарбярства**, **фарбавацць**, **фарба**; **малявацць**, **маляваньне**, **маляр**, **малярства**, **малявіла**. *Купі фарбы на малявіла. Маляр заўсёды папэцканы малявілам.*

**КРАСНЫЙ** *па колеру*, **чырвоны**, **чырванець чырванявы**.

**КРАСКА** *ж.* барвісты парашок, соль ці зельле; **фарба**, **фарбавацць**, **афарбоўка**.

**КРАСНОРѢЧІЕ** *ср.* **красамоўства**.

**КРАСНѢТЬ**, **чырванець**, **пунсавець**, **спалынацць**. *Увесь спалынуў з сораму.*

**КРАСОЧНЫЙ**, **барвісты**, **барвістасць**; **малёўны**, **маляўнічы**. *Малёўные аколіцы. Барвістая малятура. Ён апавядае барвіста і красамоўна. Барвісты выказ.*

**КРАСТЬ** *што*, **красьць**, **красцца**, **крадзежа**, **крадзьба**, **покрадзь**, **крадун**, **крадзец**, **крадзьмак**, **крадком**, **покрадкі**, **скрадацца**, **крадзьма**.

**КРАТА** *ж.* **раз**, **крота**. *Сколькі крот разоў я казаў табе. Трыкротна большы. Стокрот няпраўда.*

**КРАТЕР** *м.* рыгво, горла агнепыхлівай гары; **рыгво**.

**КРАТКІЙ**, **кароткі**, **каротлівы**, **карацець**, **карацць**, **сукарот**.

**КРАТКОВРЕМЕННЫЙ**, **малач*а*сны.**

**КРАТКОСРОЧНЫЙ кароткатэрмін*о*вы.**

**КРАХМАЛ** *м.* чыста мучыстая часьць зярнят, асабліва збожавых; **ск*о*рблік, крахм*а*л.** *Скорблік*, паходзіць аб ласьцівасьці гэтай мучыцы быць клей кай і засыхаць „скорбнуць", прыдаючы „скорбласьць" тканінам; **скарбл*і*ць, наск*о*рблены.**

**КРАЮХА** *ж.* абрэзак хлеба; **акр*а*ец, акр*а*йчык.**

**КРЕАТУРА** *ж. лац.* стварэньне, жывёла; дакорліва аб нечыіх дабрахотліўцах; **нав*у*шнік, зав*у*шнік, зав*у*шлівец.**

**КРЕДИТ** *м. фр.* **пав*е*р, пав*е*рны.**

**КРЕДИТИВНЫЙ**, **пав*е*рчы, пав*е*рчая** *грамата* паслом; купецкі вексаль (беляг) на атрыманьне грошы—**спав*е*рка.**

**КРЕМЕНЬ** *м.* самы цьвёрды з паміж камянёў; **крам*е*нь, крамянец, крам*я*ны; крамян*е*ц** *стар.* **ґрод, з*а*мак,** *рас.* „*Кремль*". У Горадзеншчыне крэмянь называюць **г*е*га, г*е*жнік, г*е*жань; гіжэнь, гіжэль** ад *гіжэць* пырскаць іскрамі; у Вітабшчыне называюць: **ск*а*лка, скал*е*ць, скал*і*ца, скал*і*сты.**

**КРЕМЛЬ** *м.* унутраная часьць замку, гроду; *стар.* **дзяц*і*нец, крамян*е*ц** (ад крамень ці укромны?).

**КРЕМОТАРТАР** *м. лац.* **вінны камень.**

**КРЕМ** *м. фр.* страва з выбітай сьмятанькі; **пуш, пуш*о*вы.**

**КРЕНГЕЛЬ** *м. ням.* печыва з цеста; **раг*у*ль, раг*у*лькі. рагул*е*к.**

**КРЕНЗЕЛЬ** *м.* дзікі адамант да рэзаньня шкла; **ды*я*мант.**

**КРЕНИТЬ** *вадаплаў,* кланіць на бок; **клан*і*ць, кл*о*нішча, накл*о*н.**

**КРЕНЬ**, падысподны брус пад вадаплавам; **п*о*лаз, касп*ы*ль.**

**КРЕОЗОТ** *м. лац.* матэрыя якая пры зграньні мяецца ў дыме і дзёгцю, заховуе мяса ад гніцьця, з гэтай прычыны дымлёная мяса не псуецца; **крэаз*о*т.**

**КРЕП** *фр,* маршчыстая ценкая шаўковая тканіна; **дымка.**

**КРЕПОН,** густая, тоўстая **дымка.**

**КРЕСАЛО** *ж.* **крэсіва,** служыць да высяканьня агня са скалкі.

**КРЕСЛО** *ср.* просты услон з поручамі; **крэсла.**

**КРЕСТ** *м.* **крыж, крыжы, крыжовы, крыжавік. крыжавіна.** *Крыжы*, масьць у картах, рас. „кресги".

**КРЕСТЕЦ** *м.* задняя часьць паясьніцы: **крыжавіна, крыж,**

**КРЕСТЦЫ** *м. мн.* раздарожжа, розстань; **крыжавыя, дарогі.**

**КРЕСТИТЬ, ксціць, ксціны, кшчоны.**

**КРЕСТИЛЬНИЦА** *ж.* **ксцільніца;** *„Ту-же и крстильница водна"* (Срезн.). **Купель.**

**КРЕСТИТЕЛЬ** *м.* **ксціцель,** *архаічн.* **купала** *(babtista). А миръ от Покрова Бцѣ до Иваня дне до Купалъ (грам. 1349 г.)... во вторникъ передъ Купалы сьвятого Ивана, мѣсяца іюня 20 дня (Грам. Вітаўта 1396 г.). Отъ дней Ивана крстителя царстьвіе небесное нудиться (Срезн.).*

**КРЕСТНИК** *м.* **кшчоннік, хросьнік.**

**КРЕЩЕНІЕ** *ср.* **кшчэньне.** *На Кшчэньне, пасьля Калядаў;* **кшчоны, кшчонец, кшонскі;** *Кшчонскіе марозы (Пагост, Дзіс. пав.);* **ксціны,** быў на **ксьцінах,**

**КРЕСТЬЯНИН, селянін, сялянскі, сяляк.**

**КРЕСТОНОСЕЦ** *м.* манах гэтага ордэну; **крыжак.**

**КРЕЧЕТ** *м.* птах, **крагуй, крагуль, крагулёк.**

**КРИВОЙ, крывы, крываваты, крывасьць, крывіна, крывізна, крывуля, крывуліна, крывулькі, крывіцца, крывеліцца, крывульнік, крывіць, крывень, крывець, крыўляцца, крыўляк—лячка, крыўляка.**

**КРИЗИС** *м. лац.* **пералом, пераварот.** *Пералом хваробы. Пераварот дзяржаўны.*

**КРИНКА** *ж.* гаршчэчак да малака; **гарлач, гарлачок; стаўбун, стаўбунец, стаўбунок; гладышка, гладышок,** гэтае апошняе літаральна адпавядае рас. „кринка“; **кухаль.**

**КРИНОЛИН** *м. фр.* **крынуліна.**

**КРИН** *м,* расц. **лілея.**

**КРИСТАЛ** *м. лац.* выкопнае, горскае шкло; **крыштал, крышталовы, крыштальны.**

**КРИСТАЛИЗИРОВАТЬ, крышталізаваць, крышталізацiя.**

**КРИТИКА** *ж. лац.* **крытыка, крытыкаваць, крытык; ацэна.**

**КРИТИЧЕСКІЙ,** здольны да здаровай ацэны; **крытычны.**

**КРИТЕРІЙ** *м. лац.* азнака да распазнаньня праўды; **крытэрый.**

**КРИЧАТЬ, крычаць, крык, крычаньне, крыклівы, крыклівасьць, крыкун, крыкса.**

**КРИШКА** *ж.* **закрыўка, покрывка, века, вечка.**

**КРОВАВИТЬ, квывавіць, крывавіцца.**

**КРОВАТЬ,** паставец на пасьцель; **ложа, ложка ожачка;** *архаічн.* **караваць, караватка.**

*Ужо дзеванька з ложа ідзе,*
*Сваёму сьвёкарку дабрыдзень дае.*
(*Крачк. 81.).*

**КРОВЕНИТЬ, крывавіць.**

**КРОВЛЯ** *ж.* **страха, дах, пакрыва, покрыўка.** *Страхой* называюць саламянную пакрыву будынка, а *дахам* цісовую, кахлёвую, бляшаную; пакрыва і покрыўка адносіцца да рэчаў, не да будынкаў.

**КРОВЕЛЬЩИК** *м.* майстар які займаецца крыцьцём; **стрэшнік.**

**КРОВЬ** *ж.* цеклаць якая авяртаецца ў жывым целе, яна мае віды артэрыяльная *жычка* і вэнозная, *пасака, сапоркі* **кроў, крыві, крывавы, крывавіць, кроўны, крывісты; руда, юха.**

*Той мяне ўразіць пад шчырае сэрца,*
*У левае вушка,—пацячэ юшка;*

*У левы бачок,—пацячэ сачок.*
*(Р. 8—9 стр. 109).*

**КРОВНЫЙ**, сваяк па крыві; **сваяк. крывец, крывіч, родзіч.**

**КРОВОСНЫЯ СОСУДЫ, кроваходныя жылы.**

**КРОВООБРАЩЕНІЕ, кроваварот.**

**КРОВОСМѢШЕНІЕ, казіродзтва.**

**КРОВОПРОЛИТІЕ, кровапраліцьце.**

**КРОВОТЕЧА, краваток.**

**КРОИТЬ** *што*, **кроіць, кроіцца, крой, кроеньне, кравец.**

**КРОЛИК** *м.* зьвярок Cuniculus; **трус, трусок, трусік, трусы, трусцы.**

**КРОМА, КРОМКА** *ж.* сукрой хлеба; **ськіва, скібка, луста.**

**КРОМКА** *ж,* крой, сукрой; **пруг, рубок, скравак, матуз.**

**КРОМѢ** *чаго, прысл.* **акром, апрыч.** *Акром усяго яшчэ і гэта. Акром работы яшчэ і непрыемнасьці. Акром нас з табой ніхто гэтага ня ведае.*

**КРОМѢШНЫЙ**, скрайны, выключны; **сукротны.** *Цемра сукротная зн.: падысподная, пякельная.*

**КРОМСАТЬ, дзёрстаць, чыркаць, чыкрыжыць.**

**КРОНА** *ж. ням.* **каруна.**

**КРОПАТЬ** *што*, рабіць памалу і няўмела, **пыкаць, карпаць, кешкаць, пэцкаць, партоліць.**

**КРОПОТЛИВО, пыклива, карплива.**

**КРОПИТЬ** *што чым*, **крапіць, акрапляць, кропіць, крапаць, крапіла, крапільніца, кропля, крапля.**

**КРОПКІЙ, крохкі.** *Крохкая зялеза.*

**КРОТКІЙ** *аб чалавеку*, ціхі, скромны, цярплівы; **лагодны, лагодзіць, лагодлівасьць, лагода; рахманы, рахманасьць, рахманіць, рахманлівасьць.**

**КРОТ** *м.* зьвярок Talpa europea; **крот,**

**КРОХА** *ж.* **драбок. драбінка; крыха, крохатка, крыхаць, крышка; махатка; грудка.**

**КРОХОТНЫЙ, дробны, маханькі, крыхатны, крыхатка.**

**КРОШИТЬ** *што,* **крышыць, крышыцца.**

**КРОШИЛО,** паставец да крышэньня; **крышыльня.**

**КРОШЕВО, крышыва, крышанка.**

**КРУГ** *м.* **круг, кружок, кружочак, кругом, круглы, круглаваты, круглаты, круглавацік, кругласьць, круглянасьць, круглiць, круглець, клугляк, кругліня, кругавіна, кругавы, кругоўчына.** *Круг, абвод,* акружнасьць, *circulus. Кругомъ круг окрочивъ около престола (Жыць. Ніф. XIII ст.). Отласъ турски круги серебраны. Круг нябесны. Небесному кругу верхотворче Господи (Ирмол. 1250 г.). С небесных кроуг Гаоўриилъ слетев ( Рум. м. XV ст.). Зодзіяк або зьвярынец нябесны. Круг животный (Срезн.). Круг сонечны,* гадавы аварот зямлі наўкол сонца. *Царк.:* Сонечны круг 28 гадоў, пасьля праходу якіх ізноў паўтараецца парадак тыднёвых літар. *Круг месячны,* месячны аварот месіка наўкол зямлі. *Царк.:* Месячны круг, 19 гадоў, пасьля якіх маладзік вяртаецца на папярэднія дні году. *Месячныя круга прочитал (Чэцья; Срезн.),* Круг царкоўны, парадак службаў на цэлы год. *Гаворачы. аблюдзях,* кола, таварыства, кампанія.

*Запытаўся каравай вясельнага кола:*
*А дзе-ж тут дарожка ад печы да стола.*
(Крачк. стр. 45.).

*Круг,* калясо, кола: *Кола ганчарнае. Кола ў павозцы.*

**КРУГОВРАЩЕНІЕ** *ср.* **кругаварот, кругаваротны.**

**КРУГОЗОР** *м.* **сьветагляд.**

**КРУГОВОЙ, наўкольны.** *Наўкольная парука.*

**КРУЖИТЬ**, рабіць круг; Зямля *кружыць* голуб *кружыць*, віецца кругом; *Табака гарэлка кружыць галаву.* **Кружыць, кружыцца, кружэньне.** *Кружэньне галавы.*

**КРУЖЕВО**, рубкаваная (плеценая кручком з ніттак) узорыстая стужка; **карунка, фарбота фарботка, анталяжа.** *Анталяжамі* называюць белыя, ценкія пляцёнкі, якія служаць да абшываньня бялізны, чаццоў і інш. *Карункамі і фарботамі,*— пляцёнкі служачыя да аздобы вопраткі, прычым *фарботы* рожняцца ад карунак колёровымі ўзорамі або аздобамі з камянёў і бліскучак ды махрыстым брыжом. Прыкладам, росшыўка у наўлечцы *карунковая*, але посьцілка якая абшыта карункой з кутасікамі будзе ўжо *фарботная,—фарбота.*

**КРУЖКА** *ж* **кубак, конаўка.**

**КРУМЗА** *ж.* зялезны крук які злучае штэмпаль („поршень“) з цягой; **кавяла.**

**КРУЖИТЬ, кружыць, каламесіць.**

**КРУПА** *ж.* **крупы, крупіна, крупінка; крупіць, крупнік, крупеня**, страва з круп.

**КРУПЧАТЫЙ, крупаваты; крупаватка**, мука буйна молатая.

**КРУПНЫЙ, буйны, буйнець, буйніна, буйнаваты.**

**КРУП** *м. лек.* дзіцячая хвароба; **круп.**

**КРУТИТЬ** *што*, **круціць, вярцець.** *Аб нітках*— **сучыць.** *Аб вяроўках*—**віць.** *Круціць галавой, духамі. Круціць машыну, корбу, дзірку сьвярлом. Верціць вецер пыл па вуліцы. Верціць у руках мыла. Круці-вярці, а трэба памярці. Ен хоча скруціць пазычаныя ў мяне грошы.* **Круцель,** тое што зьверчана, скручана з чагосьці і тое, што „скручана“, неаддадзена. **Крынджы, крынджолы,** рэчы гнутыя, кручаныя.

**КРУТОЙ,** крэпка зьвіты, зсучаны; **тугі, сукраты.** *Туга зьвітая вяроўка. Пасукраныя ніткі,—перасучаныя.* Густы, ня рэдкі: **густы;** *аб яйках*—на **цьвёрда, цьвёрда**, не наўзьмяч; *аб цесьце*—**тугое.** *Туга замешаны хлеб.* Не пахоны, не палогі—

**прытны, стромкі.** *Стромкі, прыткі бераг ракі. Прытная сустромная гара.* Гарачы, гарачага характару, ўдачы—**прыткі.**

**КРУТИЗНА, КРУТЬ, прыць, прытнасьць, прытны; сустромы, сустромны, стромкі.**

**КРУЧИНА** *ж.* **маркота, маркотнасьць, маркотны, маркоціцца.** *Маркота сэрца гложа.*

**КРУШЕНІЕ** *ср.* **скрушня, скрушыць.** *Скрушыліся ўсе мае надзеі. Скруша сталася: разьбіліся ганкі. Скруша ўсей справе.*

**КРЫЖОВНИК,** расьціна і ягада; **агрэст, агрэсьнік, агрэставы.**

**КРЫЛО** *ср.* **крыло, скрыло, крыльлі скрыльлі, скрылатка; скрыль,** крыло пчалінай вузы; **крыльцы, скрыльцы.** Больш згодна з духам нашай мовы і больш маючае апраўданьне ў старой літэратуры форма *скрыло,* нячым *крыло.*

**КРЫЛЬЦО КРЫЛЕЧКО** *ср.* **прысенак, прысенцы; ганак.** Ганак, слова запазычанае з польскага, а палякі яго запазычылі ў немцаў. Народнае наша: *прысенак,* слова вельмі прыгожае і дамэтнае.

**КРЫЛѢТЬ,** расьціць лёткі, крыльлі; падрастаць; **крыяць, акрыяць.** *Лягчэй будзе калі ўжо дзеці акрыяюць. Акрыяў надзеяй. Курчаты ужо крыяюць.*

**КРЫЛОРУКІЯ.** *жывелы,* **крыланы.** Да крыланоў належаць кажаны.

**КРЫСА** *ж.* зьвярок **пац, пацук, пацукі, пацучыны.**

**КРЫТЬ** *што,* **крыць, крыцца.**

**КРЫША** *ж.* **страха, дах, строп.** *Строп нябесны.*

**КРПѢКІЙ** *агульн. слав.* **крэпкі, крэпка, крапчэй, крэпасьць, крапіць, крапіцца, крэпнуць; моцны, мацнець, мацаваць, мацунак, мацар, мацней.**

**КРѢПОСТНОЙ, прыгонны, прыгоннік, прыгоншчына.**

**КРѢПИТЕЛЬНЫЙ, змацоўны, змацняючы.**

**КРЮК** *м.* **крук, крукі, крукаваты, кручкаваты, кручнік; гак.**

**КРЯЖ**, цьвёрдая асобная часьць чаго, якая сама па сабе становіць цэласьць; **скрыж, скрыжаваты, скрыжэль; крач, крачаваты; карга, каржысты, каржак.**

**КРЯКАТЬ, каркаць, гаргаць, гракаць.**

**КРЯК** *м.* жабяя ікра; **кракавіны, кракацьцё.**

**КРЯЧИТЬ, кярэчыць, кярэчыцца.**

**КРЯХТѢТЬ, кракт**а**ць, крэнкаць.**

**КСЁНДЗ** *м.* каталіцкі сьвятар; **ксёндз, ксяндзоўскі.** Ксёндз, польская форма, наша старая форма: **„князь“**; у нас так даўней і называлі ксяндзоў **„князямі“**. *Князь біскуп, князь пробашч.*

**КСТАТИ** *прысл.* **дарэчы, ўсамчас.** *Дарэчы скажу вам ужо аб сваей бядзе. Калі памер бацька недарэчы і матка. Усамчас прыйшоў ты. Ўсамчас будзь сказана.*

**КТИТОР** *м. грэцк.* апякун над цэрквай; **патран, калятар, кцітар.**

**КТО** *заімак,* **хто, хтось, хтосьці.** *Хто ідзе? Каб хто ведаў як я абедаў; ніхто няведае як худак абедае. Хтось тут быў. Хтосьці, кагосьці шукае. Бяжы за ім, нет ведама за кім. Хто куды каторы.*

**КТОМУ** *прысл.* **датаго, датаго-ж.** *Датаго-ж ён і дурань. Датаго скажу табе.*

**КУАФЮРА** *ж. фр.* вычурная прычэска; **прычэска, прычасаньне.**

**КУБЫШКА** *ж.* вузкагорлы гаршчок з перахватам ў шыі; **гарлач, гарлачык.**

**КУБАРЬ** *м.* пусты клуб з дзірой у баку, які пускаюць дзеці для забавы; **жэўжлік, жэўжык; порплік, ваўчок.**

**КУБ** *м.* перагонная судзіна; **алембік**, бывае рознай вялічыні і выгляду. *У гэамэтрыі* простакутнае, роўнастароннае цела абмежанае шасьцью роўнымі

чатыракутнікамі; **шасцісьцен.** *У матэматыцы* сумма ад памножаньня кождай лічбы двойчы на сябе: 64 куб 4-х; **куб, кубічны.**

**КУВШИН,** гліняная судзіна; **стаўбун, стаўбунец. стаўбунчык; жбан, жбанок, жбанчык, жбанец.**

**КУВЫРНУТЬ** *што, каго;* **кульнуць, куляць, куляцца.**

**КУДА** *прысл.* **куды, кудой.** *Куды ідзеш? Куды вецер вее. Куды я туды і ён. Кудой ты западзеў мае рукавіцы. Куды хто, а я дамоў. Кудой дарога ў горад.*

**КУДАКАТЬ,** крычаць як курыца; **кудактаць, кудакча.** *Яйкі нясу, верна служу, спраў мне—хоць хадак.*

**КУДЕЛЬ** *ж.* вычасаны на прадзіва лён; **кудзеля, кудзелька, кудзельны; мычка,** кудзеля з воўны.

*Пасіся бычку, спраду мычку,*
*Старому дзедку на рукавічку.*
*(Р. 8-9 стр. 146).*

**КУДРИ** *м. мн.* курчавыя валасы, курчавае пасмо валасоў; **курчкі, курчавы, курчавець; кутры, кутрацца; сукро, сукраваты, сукрасьні; кугры, кугравы кугравець.**

*Валахатая галованька*
*Уся ў сукры павілася. (Друя).*

**КУДРЯВЫЙ, курчавы, кугравы, сукравы, кутравы.**

**КУДРАВИТЬ** *воўну,* **куграць.**

**КУДЕСИТЬ, пракудзіць.**

**КУДЕСНИК** *м.* **знахар, вядзьмак.**

**КУЗНЕЦ** *м.* **каваль, кавальства, каваць, кавальскі; кавальня,** зялезны скрыжэль на якім куюць.

**КУЗНЕЧИК** *м.* жамравік Grillus; **конік, прузік, сьвяршчэль.**

**КУЗНИЦА** *ж.* **кузьня,**

**КУЗОВ** *м.* **кодаб.** *Кодаб вадаплава, карэты.*

**КУКИШ** *м.* **фіга, кукіш, дуля.**

**КУКЛА** *ж.* **лялька.**

**КУКОЛКА** *ж.* жамярыца ў пэрыёд апошняй стадзіі свайго разьвіцьця; першая—*яечка,* другая—*вусень, вусьніца,* трэцяя—*каўшак, каўшанка,* чацьвертая—*мятлік.*

**КУКОРАЧ** *прысл.* **кукарэчмя,** ад „кукры" часьць нагі ад клуба да калена.

**КУКУРУЗА** *ж.* расьціна Zea mais; **какорыца.**

**КУКУШКА** *ж.* птах Cuculus canorus; **зязюля.**

**КУЛАК** *м. агульн. слав.;* **кулак, кулачок, кулачыць.**

**КУЛЕБЯКА** *ж.* пірог кіслага цеста с кашай, капустай, мясам; **кулеш.**

**КУЛИНАРНЫЙ** *лац.* датычны стравы і яе прыгатаваньня; **кулінарны.**

**КУЛИСА** *ж. фр.* адна з абцягнутых палатном і размаляваных бочных рам у тэатры; **куліса, кулісы.**

**КУЛИЧЬ,** вялікодны пірог з прыправамі; **баба, бабка.**

**КУЛЬ** *м.* рагожавы мех; **рагазень.** Па нашаму *куль* зьвязка саломы.

**КУЛЁК** *м.* мяшок, торба з пакрыўкай і завязкай, можа быць шыта з рагазы, бяросты ці палатна; **клунак.** *Ён убіў у неба гвозд, павесіў свой клунак (Сержп. стр. 1). Клункі з таварамі злажы у лубянку. Ўзяў клунак на плечы і пашоў ў дарогу.*

**КУЛЬМИНАЦІЯ** *сьвятла. лац.* мейсца дасьціжэньня найбольшай вышыні; **прыцін, кульмінацыя.**

**КУЛЬТУРА** *ж. фр.* выраб зямлі і дагляд за расьцінай; **асьвета, адукацыя, культура, культурны.**

**КУМИР** *м.* выабражэньне постаці паганскага божышча; **стод, балван, балвахвальнік.**

**КУМ** *м.* **КУМА** *ж.* кстоўны, хросны бацька, матка; **кум, кума, кумаваць кумоўства, кумотра.** *Иже поимеш куметру (Срезн.).*

**КУНА** *ж.* зьвярок Mustela; **куніца, кунічнік; кунець** пасьля ліняньня абрастаць поўсьцю, дабрэць,

папраўляцца; **куняць**, **ківаць** носам, дрэмлючы ківацца.

**КУПАТЬ** *каго*, пануруць у ваду; **купаць**, **купеля**, **купелька**, **купелішча**, **купаньне**.

*А дзе тое купелішча што голуб купаўся,*
*А дзе тая дзяўчына з якой я кахаўся.*
*(Дзіцна).*

**КУНСТКАМЕРА** *ж. нямец.* **музэй.**

**КУНСТШТИК** *м. нямец.* **штука.**

**КУПЕЦ** *м.* **купец**, **купецтва**, **купецкі**, **купляць**, **купля**, **купленік**.

**КУПЛЕТ** *м. фр* **прыпеўка.**

**КУПОЛ** *м.* **копула**, **баня**.

**КУПОН** *м, фр.* **адрэзак**, часьць білета або бонды ці акціі; **купон**.

**КУПОРИТЬ** *бутэлькі*, **каркаваць**, **закарковываць**.

**КУПОРОС** *м.* агульная названьне сярчана-кіслых мэталічных соляў; **купарвас**.

**КУРЯЖИТЬ** *каго фр.* **кубрыць** (Смл.).

**КУРЯЖИТЬСЯ**, **кубырыцца**, **закубырыўся**, **закубырсьціўся**; **карэжыцца**.

**КУРАТОР** *м. лац.* **апякун.**

**КУРГАН** *м. татар.* **валатоўка**, **валотаўка**.

**КУРГУЗЫЙ**, **куртаты**.

**КУРЫТЬ**, дыміць, чадзіць, пыліць; **дыміць**, **дымна**, **дымны**.

**КУРИТЕЛЬ**, **курэц**, **курэцкі**.

**КУРИЦА** *ж.* **курыца**, **курачы**.

**КУРНЫКАТЬ**, **курняўкаць**.

**КУРС** *м. фр.* **кругабег.**

**КУРСИВ** *м.* крывыя друкарскія літары; **курсыў**.

**КУРТИЗАНКА** *ж. фр.* жанка благой кандыцыі.

**КУРТАЖ** *м. італьян.*, **лажа**, **літкуп**.

**КУРТИНА** *ж. фр.* завеска, застаўка рамай абцягнутай палатном ў глыбі сцэны; **куртына.**

**КУРЯТНИК** *ж.* хлявок для курэй; **курынец.**

**КУРЬЕЗ** *м. фр.* што колечы дзіўнае і забаўнае; **пракуда, пракуднік.**

**КУРЬЕЗНЫЙ, пракудны.**

**КУРЬЕР** *м.* **ганец.**

**КУСАТЬ** *агульн. слав..* **кусаць, кусаньне, куслівы, кусака, кус, кусок, кусацца.**

**КУСОК** *м,* **кус, кусок; кавалак.** Кусок тканіны— **скумат, скумаць; скуматаць,** рваць, дзерці.

**КУСТ** *м.* **куст, кусток, кустовы.**

**КУСТОВНИК** *м.* **кустняк.**

**КУСТАРНЫЙ** *выраб.* **дамаробны, дамаробства, дамаробніцкі.**

**КУТАТЬ,** закрываць, агартаць; **атуляць, хутаць.**

**КУТЕРМА** *ж. татар.* **завіруха, склока, ростырга.**

**КУТИТЬ** *аб ветру;* кружыць, круціць, вярцець; **клочыць;** *аб чалавеку:* **мантыжыць, заматыжыцца; лайдачыць,** лайдацкі, лайдацтва, **лайдак.**

**КУТІЯ, КУТЬЯ** *ж.* **куцьця,** каша пшанічная або ячная ці іншая, з сытой.

**КУТУЗ,** падушачка на якой плятуць анталяжы; **кавалерчык.**

**КУТУЗКА** *ж.* **вязьніца.**

**КУТЫРЬ** *м.* жалудак жвучых жывёлаў; **пехцяр.**

**КУХАРИТЬ, кухмарыць, кухар, кухарка.**

**КУХНЯ** *ж. ням.* **варыўня, пякарня.**

**КУЦЫЙ, куртаты, курта, куртацік.**

**КУЧЕРЬ,** хто кіруе запрэжанымі конямі; **павозьнік, павозчык.**

**КУЧЕРЯВЫЙ,** *црк.* **курчавы.**

**КУШАК** *м.* шырокая стуга ці палотнішча тканіны спаясываецца; **паяс, паясны, паясок.**

**КУШАТЬ** *што*, **есьць**. Па нашаму *кушаць*, знача пробаваць, смакаваць але ня есьць. *Я толькі пакушаю, а есьці ня буду.*

**КУШАНЬЕ** *ср.* **ежа, страва.**

**КУШЕТКА** *ж. фр.*; **софка.**

**КУЩА** *ж.* **намёт.**

**КУЩИ** жыдоўскае веснавое сьвята; **кучкі.**

**КЪ СОЖАЛЕНІЮ**, **насужаль, нажаль.**

## Л.

**ЛАБАЗ** *м.* мучная і крупяная крама; крама дзе прадаюць емінныя тавары; **ятка, ятковы, ятковец, ятны.**

**ЛАБИРИНТ** *м. грэцк.* заблутаныя ходы, дарожкі, пераходы, мейсца адкуль трудна выйсьці; **лабірынт.**

**ЛАБОРАТОРІЯ** *ж. лац.* працоўня для хімічных работ; **лабараторія.**

**ЛАВА** *ж.* рожная мяшаніна растопленых горнакамянных парод, якая выцякае з агнепыхлівых гор; **лавіца.**

**ЛАВА** *ж.* **лава, лаўка**; тоўстая шырокая дашка ўздож сьцяны да седзіва.

**ЛАВИРОВАТЬ**, ісьці пад парусамі супроць ветру; **лавіраваць.**

**ЛАВКА** *ж.* **крама, крамнік, крамны.**

**ЛАВРА** *ж.* вялікі многалюдны манастыр.

**ЛАВР** *м*, дрэўца Laurus; **бабковец, ляўр.**

**ЛАГЕР** *м. ням.* вайсковы **стан, табар.**

**ЛАГОВКА** *ж.* дуплянка з дном, верхам і ручкай; **ражка.**

**ЛАДОН**, пахучы карэнь які ўжываюць ла кадзіла; **ладан, цімьян.**

**ЛАДОНКА** *ж.* мяшэчак з-ладанам ці якой колечы сьвятасьцю ношаны на шыі; **кудменчык.**

**ЛАДОНЬ** *ж.* унутрамная старана рукі, якая зьвернута „да лона“, грудзей; **дал*о*ня, дал*о*нны**. У нас гаворыцца: *ладкі біць*, але гэта не ад далоней паходзіць, а ад „лад“, тэмпо; ладкі выбіваюць пад скокі, песьні, рэцытацію.

**ЛАДЬЯ** *ж.* вялікая лодка; **лодзь, ладзяв*ы*.**

**ЛАЗАРЕТ** *м.* (ад св. Лазара), **ляч*о*мніца, шпіт*а*ль; лазарэт.**

**ЛАЗЕЙКА** *ж.* дзіра, мейса для пералазу; **перал*а*з.**

**ЛАЗУРЬ**, сьветла-сіняя барва; **блак*і*т, блак*і*тны.**

**ЛАЗУТЧИК** *м.* той хто сочыць, шпігуе; **зьв*е*д, зьв*е*дчык, вызьв*е*дчык; ас*о*чнік.**

**ЛАЙ** сабачы крык, брэх, **брэхат, брахн*я*; зьв*я*га, зьв*я*гаць, дз*я*ўкаць.**

**ЛАЙКА**, мяккога вырабу сабачая скура.

**ЛАКЕЙ** *м. фр.* слугар, паслугач пры стале; **ст*о*льчы.**

**ЛАКИРОВАТЬ** *што*, пакрываць лякам, прыдаваць полыск; **лякірав*а*ць, лякір*о*ўнік, л*я*кір.**

**ЛАКМУС** *м.* фарба расьцінная якая чырванее ад кіслацяў; **л*а*кмус, лякмус*о*вы.**

**ЛАКОМЫЙ**, **л*а*сы, ласун*о*к, лас*у*н, л*а*сік, лас*у*нак, л*а*саваць: л*а*каткі, л*а*катнік.**

**ЛАКОНИЗМ**, *м.* кароткі і моцны выслоў; **лякан*і*зм, лякан*і*чны.**

**ЛАКРЫЦА** *ж.* расьціна Glicyrthira glabra; **люкрэція.**

**ЛАМПА** *ж. ням.* **л*я*нпа, лянп*о*вы, л*я*нпка.**

**ЛАМПАС** *м. ням.* шырокая нашыўка другога колеру нанагавіцы; **н*а*шытні.**

**ЛАНДЫШ** *м.* расьціна Convallaria majalis; **красп*а*к; цімь*я*н; тым*я*нка?**

**ЛАНИТА** *ж.* **шчак*а*, скр*о*нь.**

**ЛАНЦЕТ** *м.* тонкі абастаронна востры ножык; **лянцэт.**

**ЛАПА** *ж.* ступня з пальцамі ў чатыраногіх і птушак; **лапа, лапка, лапыры, лапырысты, лапыр.**

**ЛАПОТЬ** *м.* кароткі абутак на нагу да шчыкалатак, бываюць робленыя з лазовай або ліповай кары „лута“—**лапаць**: падношаны і зношаны лапаць—**атопак**; робляныя з тоўстага скурата—**пасталы**; з кажуха, поўсьцю ў сярэдзіну **капсьні—копсьці**; з пяньковых вяровачак—**курпы, курплі**; падшытыя скурай лутовыя ці іншыя лапці—**лабакі**; робленыя з пруцьця „батаўя“—**баталы**; баталы робяцца даволі глыбокія, вышэй шчыкалаткі; лутовыя лапці якія нямаюць падэшвы—**каверзьні**. *Лапаць знай лапця, а бот бота. Блутае, быццам кашу ў лапці абувае. Не злутаўшы лык, не пляці лапцяў.*

**ЛАПТА** *ж.* вясельца якім бьюць па кочаўцы і сама гулня; **пераймень, пераймо.**

**ЛАПША** *ж.* крышаная цеста на страву доўгімі рэзкамі; **макарон; разанцы.**

**ЛАРЬ** *м.* **скрыня, скрынка, скрыначка**; калі акаваная зялезам—**каўчаг.**

**ЛАРЕЦ** *м.* **коўчык; шкатула; шкатулка.**

**ЛАСКАТЬ** *каго*, абходзіцца з кім ветліва, выказываць сардэчны спогад, прыхільнасьць, мілаваць; **песьціць, кукобіць, кунежыць, галубіць, гласьціцъ, ласьціць.**

**ЛАСКАТЬСЯ**, *каму каля каго;* **ласціцца, ласьціць, песьціцца, кунежыцца, галубіцца.**

**ЛАСКАНІЕ** *ср.* **пешчаньне, кунежаньне, кукобленьне, галубленьне; гласьціцца.**

**ЛАСКАТЕЛЬНЫЙ, гласьлівы, кунежлівы, кукоблівы, песьцьлівы.**

**ЛАСКОВЫЙ, ветлівы, прыхільны.**

**ЛАСТОЧКА** *ж.* пташка Hirundo; **ластка, ластавіца, ласьвіца, ластаўка.** *Голуб і ластаўка Божыя птушкі. Хто зрые гняздо ластаўкі ў таго будзе рабацьцё на твары. То не ластавіца па-*

*лётуе, — наша гаспадынька паходжуе. Ранная ласьвіца, Божы пасол.*

**ЛАТУНЬ** *ж.* жоўтая медзь, мяшаніна медзі з цынай; **мосяж, масяжовы.**

**ЛАТЫ** *ж. мн.* мэталічная, зазвычай сталёвая вопратка; **броня.** Суцэльна каваная броня—*панцыр;* сталёвая сетка капуляй—*кальчуга;* са сталёвых бляшак луской нашытых на скуру—*куян, куяк;* з дрэўляных дручкоў круг стану і з каваным наплечнікам—*калантыр, калантач, калатыр.*

**ЛАТЫНЬ** *ж.* лацінская мова і граматнасьць; **лаціна, лацінчына.**

**ЛАФА** *ж.* удача, шчасьце; **лахва.**

**ЛАФЕТ** *м.* гарматны **паставец.**

**ЛАЦКАН** *м. ням.* адвароты на грудзях ў дубальтоўнай вопратцы, **закарвашы.** Закарвашы *грудныя і рукаўныя* калі рукавы адагнутыя маюць канцы. *Наш паніч заўсёды носіць кветку ў закарвашы.*

**ЛАЧУГА, ЛАЧУЖКА** *ж. чуваш.* **халужка.** *Жыў ён у ліхой халужцы, на канцы вёскі. Стаіць сабе халужка на курыннай ножцы (Саколка).*

**ЛАЯТЬ,** крычаць як сабака; **гаўкаць, дзяўкаць; брахаць, брэша, брэх, брэхча, брахтун, брахун, брахунец, брахлівы; зьвягаць, зьвягае, зьвягча.** *Дзяўкаць,* адпавядае рас. „тявкать". *А сучачка дзяў, дзяў! Воўк сабакі не баіцца, ды зьвягі ня любіць. Брэша як сабака. Брахлівага сабакі ніхто не баіцца.*

**ЛГАТЬ** *каму што,* **ілгаць, хлусіць, маніць, клюдзіць.** *Ілгаць,* гаварыць няпраўду, сьвядома перакручаць праўду. *Хлусіць, маніць,* лгаць жартуючы, насьміхаючыся, выдумляючы няпраўду цікавую, або забаўную; памыляць каго колечы маной. *Мана,* безпадстаўная няпраўда, лганьнё, чыста здуманае здарэньне, фантазія. *Клюдзіць,* крывіць выкручацца няпраўдай, мыляючы слухача фальшывымі або падтасаванымі даннымі; гавораць аб заблутанным заячым тропе „наклюджана", „наклюджаны сьлед", зблутаны. Ужываецца такжа ў значэньні крывадушыць. *Клюдзіць дзеўка, праўды ня кажа.*

**ЛЕБЕДА** *ж.* расьціна Atriplex; **лабад*а*, лабад*о*ўнік, лаб*о*днік.**

**ЛЕБЕДЬ** *м.* водны птах Cygnus; **л*е*бядзь, лебядз*ё*к, лябедзька,** *м.;* **лябёдка** *ж.,* **лебядз*і*ны.** Архаічн.: **л*а*будзь.**

**ЛЕБЕЗИТЬ,** падлазіць, лашчыцца; **пахл*е*баваць, пахл*е*бнік, пахл*е*бчык; масл*ы*жыць, хлусьціцца, хлусьц*е*нь, хлусьв*а*.**

**ЛЕВІАѲАН** *м. црк.* мітычная рыба; **левіят*а*н.**

**ЛЕВ** *м.* **ЛЬВИЦА** *ж.* зьвер Felis leo; **леў** *м.* **льв*і*ца** *ж.* **льв*і*ны.**

**ЛЕВШАК** *м.* **маньк*у*т, ляўш*а*.**

**ЛЕГАЛЬНЫЙ** *лац.* **пр*а*ўны, прававітыы.**

**ЛЕГАТ** *м. лац.* **пас*о*л.**

**ЛЕНЕНДА** *ж. лац.* пераказ аб даўным здарэньні; **п*а*гудка, б*а*гудка, п*о*казка.** Апошняе, *показка,* апавяданьне з маральным вывадам.

**ЛЕГІОН** *м. лац.* у стараветным лацінскім ліку —сто тысяч, а часам і мільён—**цьма;** сабраньне вайсковых—**полк.**

**ЛЕГИТИМИЗМ** *м. лац.* **дынаст*ы*зм, радав*о*дства.** Тэрыторыяльныя прэтэнсіі дзяржаў на аснове дынастычных праваў.

**ЛЕГКІЙ** *агульн. слав.* **лёгкі, лёгкасьць, л*е*ганькі, легкав*а*ты, легкат*а*, лягч*э*ць.** У значэньні лёгкага выпаўненьня: **лацьва, лацьв*е*й.** *Лацьвей яму чым мне гэта рабіць. Лацьва табе казаць гэта.*

**ЛЕГКОВѢРНЫЙ, лацьвав*е*рны, лацьвав*е*р-часьць.**

**ЛЕГКОМЫСЛЕННЫИ, лёгкад*у*млівы, нябачлівы.**

**ЛЕГЧАТЬ, вал*о*шыць, выклад*а*ць;** *аб птушках*—**капл*у*ніць.**

**ЛЁД** *м.* мёрзлая вада; **лёд, лядав*ы*, ледзян*е*ць, ляда*в*іты, лядзянка, ледзін*а*.**

**ЛЕДЕНЕЦ** *м.* цукерак з топленага цукру; **лядун*е*ц, лядунц*ы*.**

**ЛЕДНИК** *м.* склеп з лёдам; **лядоўня, ляда*в*енька.**

**ЛЕДОКОЛ** *м.* **ледал*о*м.**

**ЛЕДЕНѢТЬ**, **ледав*е*ць.**

**ЛЕЖАТЬ** *агульн. слав.* **ляж*а*ць, ляж*а*ньне; ляг*а*ць, ляг*а*й** зн. лажыся; **ляж*а*чы, ляж*а*к, л*е*жлівы, л*е*жань, лежаб*о*к.**

**ЛЕЗВЕЕ, ЛЕЗВІЕ,** вострыва нажа; **ляз*о*, ляз*о*вы; лязав*а*ць,** вастрыць на рэмяню.

**ЛЕЙБ** *ням.* тэрмін да адзначаньня прыналежнасьці да асобы пануючага: *лейб-гвардзія, лейб-гусары, лейб-медык* і інш.

**ЛЕЙТЕНАНТ** *м. ням.* другі афіцэрскі чын, роўны капітану.

**ЛЕКАЛО** *ср.* вырэзка для зьнешніх абрысаў рэчы; крывая лінейка для крывалінейнага крэсьленьня; **паст*а*тка, паст*а*к.** *Вырэж сабе постатку нагі да крэсла з ценкай дашчэчкі. Сталярскія пастакі.*

**ЛЕКАРЬ** *м.* першая вучоная ступеня якую атрымліваюць у Расіі студэнты мэдычнага інстытуту, другая—*доктар мэдыцыны.* У нас лекарам называюць ўсякага доктара, які „лечыць“.

**ЛЕКАРСТВО** *ср.* усякае знадабьбе якое служыць да лячэньня; **ляк*а*рства.** *Архаічн. і народн* **зельле.**

**ЛЕКСИКОН** *м.* **сл*о*ўнік.**

**ЛЕКТОР** *м. фр.* той хто чытае лекціі; **л*е*ктар.**

**ЛЕЛЕЯТЬ** *каго,* **пелягав*а*ць.**

**ЛЕМЕХ** *м.* сашнік; **л*е*меш, лемяш*ы*.**

**ЛЕН** *м. ням.* князства незалежнае уходзячае ў слад дзяржавы на вядомых варунках; **лен, л*е*нны, л*е*ннае права.**

**ЛЕНТА** *ж.* **тас*е*мка; стуг*а*, ст*у*жка, ст*у*жачка, стужкав*і*сты.**

**ЛЕН** *м.* расьціна Linum utitatissimum; **лён, лян*о*к, лёнчык, ільн*ы*, ільняны.**

**ЛЕОПАРД** *м.* зьвер Felis pardus; **леап*а*рд.**

**ЛЕПЕСТОК** *м.* лісьцік кветкі; **пялюст*о*к, пялюстк*о*вы.**

**ЛЕПЕТАТЬ** *што,* гаварыць па дзіцячаму; **зю-**

**кацъ, зюзюкаць;** аб узрослых якія не выразна гаварацъ са страху ці іншых прычын; **бэнькаць, бэнькае; лапатаць, лапоча, лапатун.**

**ЛЕПЕТ** *дзіцячы;* **зюзюканьне.**

**ЛЕПЕТУН** *аб дзіцяці;* **зюзюкала, зюзюлёк;** *аб узрослых,* **лапатун.**

**ЛЕПЕТУХ** *м. тэхн.* прылада пры кошы над жарнаком у млыне; **лапацень.** *Лапоча як лапацень у млыне.*

**ЛЕПЁШКА** *ж.* плосмы кружок з цеста; **блінец, блінок, блінчык;** блін з маслам—*кныш;* прэсны блінец, посны, з вады і мукі—**какора;** злепачак лякарства—**пігулка, камолка.**

**ЛЕПТА** *ж. жыд.* старажыдоўская дробная манэта, **лепта, шэляг.**

**ЛЕСТЬ** *ж.* **пахлебства, пахлебнік, пахлебца, пахлебляць.** *Пахлебствам бярэ. Гэта пахлябляе мне;* **лёстка, лёстачкі.** *Лёстачкамі душу вымае.*

**ЛЕСТНЫЙ, пахлебны, лёстны.** *Лёстнае слова, што туман у вочы.*

**ЛЕСТЕЦ, ЛЬСТЕЦ, пахлебчык, пахлебнік, лёстнік—ніца,**

**ЛЕТАРГІЯ** *ж.* сонная хвароба, доўгае абміраньне; **апомерць.** *Мая сястра ляжала два тыдні ў апомерці*

**ЛЕТАТЬ** *агульн. слав.* **лётаць, лётае, ляцець, лётаньне, лёт, лётка, лётны, лёцік.**

**ЛЕТАТЕЛЬ, лятун, лятунец, палятун, палятуха.**

**ЛЕТУЧЕСТЬ,** ласьціvасьць лёгка вытыхаючага; **лёткасьць.** *Лёткая мазь.*

**ЛЕТУЧКА** *ж.* спавестка раздаваная на вуліцах; **лятучка.**

**ЛЕТУЧАЯ МЫШЬ, кажан.**

**ЛЖЕСВИДѢТЕЛЬ, крывасьветнік, крывасьветчыць.**

**ЛЖЕЦ, ілгун, лгач, лыгмар.**

**ЛИБО, або, леда, ледаяк, ледахто, ледадзе;**

**абыдзе, абыкалі, абыкуды, абыхто, абыяк, абышто; люба.**

*Люба Ціхоня ўтапіся,*
*Люба Ціхоня дзе дзенься. (Безс. 38).*

**ЛИБЕРАЛ** *м. фр.* палітычны **вольнадумец.**

**ЛИБИЛО** *ср.* прынада для ракаў; **прынутка**. *У той час рыбакі нуцілі ракі.*

**ЛИБРЕТО** *ср. нескл. італьян.*, **скарот** зьместу опэры балету.

**ЛИВЕНЬ**, улеўны дождж; **улева, хляба, плюхаць.**

**ЛИВЕР** *м. ням.* каўбаса з мясных пацяробкаў, драмезіва, драмязы; **драмязоўка, вантробная, вантрабянка.** Назоў гэтай каўбасы, *драмезаўка,* запісаны ад плытнікаў спад Вяліжа.

**ЛИВРЕЯ** *ж. фр.* вопратка слугара, прыстольніка; **лібэрыя, барва.**

**ЛИГА** *ж. фр.* **лучнасьць.**

**ЛИГАТУРА** *ж.* мяшаніна мэталяў; сколікасьць дамешкі другіх мэталяў да золата; **лігатура.** *У серабрэ 84-й пробы 12 часьцей лігатуры.*

**ЛИГОМИНА** *ж. фр.;* **лагодункі.**

**ЛИДІЙСКІЙ КАМЕНЬ, пробны камень.**

**ЛИЗАТЬ** *аг. слав.* **лізаць, лізаньне, лізун, лізунок; лізунец,** эпітэт языка, язык.

**ЛИКВИДАЦІЯ**, *ж. фр.*, **квітацыя, квітунак, квітаваць.** *Сквітаваў я сваю гаспадарку. Сквіталі ўжо купцы свой тартак.*

**ЛИКЕР** *м. фр.* густа-салодкая гарэлка; **лікер.** Гарэлку разрожнююць так: *ташчанка*, чыстая, нісчымная гарэлка; *карэнаўка*, запраўляная каранямі, але горкая; *салодаўка*, *мядоўка*, салодкая гарэлка.

**ЛИКОВАТЬ, весяліцца.**

**ЛИК** *м.* **аблічча, твар.** *Добры с твару ды душа татара. Хорошы абліччам. З упуду на ім аблічча няма..*

**ЛИЛОВЫЙ** *колер.* **лільёвы.**

**ЛИМАН** *м. укр.* суток ракі; **рыга.**

**ЛИМОН** плод дрэва Citrus medica; **цытрына, цытрыновы.**

**ЛИМОНАД** *м.* вада з цытрыновым сокам; **ліманада; фруктоўка.**

**ЛИМФА** *ж, лац.* белая кроў, малачко з якога творыцца кроў; **пасака.**

**ЛИМФАТИЧЕСКІЯ СОСУДЫ, пасачныя начыньні.**

**ЛИНГВИСТИКА** *ж. лац.* **моваведаньне.**

**ЛИНІЯ** *ж.*, **лінія, лінаваць, лінаваны; лінарка,** дашчэчка да лінаваньня.

**ЛИНЕЙНАЯ** *мера*, **паўздоўжная.**

**ЛИНЯТЬ,** траціць валасы або пёры на зьмену новых; **ліняць, лінявы, ліняе.**

**ЛИНЯТЬ** *аб барве, колеры;* **блекнуць, блеклы; сьвянуць, сьвяны.** *Пасьвялі вочкі, паблеклі шчочкі. Сіняя фарба сьвяне ад сонца.*

**ЛИПА** *ж.* дрэва Tilia; **ліпа, ліповы.**

**ЛИПНУТЬ,** клеіцца; **ліпнуць, ліпне, ліпкі.**

**ЛИРИЧЕСКІЙ** *аб паэзіі,* паэзія у якой пераважае пачуцьцё пад дзействам, не эпічная паэзія; **ліры́чны.**

**ЛИСА** *ж.* зьвярок Canis vulpis; **ліс, лісіца, лісі; лісіцца** прыкідацца добрым хітруючы, прыміляцца.

**ЛИСТ** *м.* зелень на дрэвах і травах, акром пнішча і сьцібла; **лісьць, лісьцясты, лісцьцё, лісьцяваты.**

**ЛИСТВЕННЫЙ, лісьцясты, лісьцёўнік.**

**ЛИСТВА, лісцьцё.**

**ЛИСТВЕННИЦА,** *хвоя,* **хвойка, хваёвы.**

**ЛИСТ** *мера,* **аркуш.** *Аркуш паперы, бляхі, шкла.*

**ЛИТАВРА** *ж.* адмена бубна; мядзяны кацёл паўклубам, абцягнены скурай; **літаўра, таламбас.**

**ЛИТЕЙНЫЙ, ліверкі, лівец; літнік,** хто адлівае з мэталю.

**ЛИТЕРА** *ж.* пісарскі і друкарскі знак з альфабату; **літара, літарны.**

**ЛИТЕРАТУРА** *ж. лац.* **пісьменніцтва, пісьменнік, пісьменніцкі.**

**ЛИТІЯ** *ж. црк.* маленьне за памершых; **ліцiя.**

**ЛИТОГРАФІЯ** *ж.* **літаграфія, літаграфічны, літаграфаваць, літаграф.**

**ЛИТОНЬЯ** *ж.* трэцьці жалудак у жвуноў; **кнігі.**

**ЛИТЬ** *агульн. слав.* **ліць, літы, ліцца, ліцьцё, літны.**

**ЛИФ** *м. фр.* **станік.**

**ЛИХОИМСТВО, хабарніцтва, падкупнасьць.**

**ЛИХОРАДКА** *ж.* лёгкае агульнае запаленьне крыві; **трасавіца, трасца; скалодаўка, скалодзіць.** Адна з дванадцаці сясьцёр-хвароб упамінаных у замаўляньнях:—*трасавіца, агнявіца, зябавіца, гнятавіца, кархавіца, глухавіца, ламавіца, пухлявіца, жаўтавіца, старгавіца, глядавіца, нявідуха.*

**ЛИЦЕ, ЛИЦО,** пярэдняя часьць галавы чалавека; **твар, тварок, тварны; аблічча;** у значэньні асобнага чалавека, **асоба;** лепшая пярэдняя старана якой рэчы: **від, выгляд.** *На від сукно нішто сабе. Пагардліва;* **морда, музро;** *жартліва:* **мордка, мордачка.**

**ЛИЦЕВОЙ,** аб чалавечым абліччы, **аблічны;** аб паказнай добрай старане рэчы, **аказная, відавая.** У гэтай рэчы іншая *ніцавая,* а іншая *відавая* старана.

**ЛИЦЕВАТЬ** *што,* вывяртаць вопратку ніцай старaной наверх; **ніцаваць, пераніцовываць, ніцоўка.**

**ЛИЧНЫЙ,** да асобы да асобнага чалавека датычны; **асабісты.**

**ЛИЧНО, асабіста.**

**ЛИЧНОСТЬ, асабістасьць, асоба.**

**ЛИЧИНКА** *ж.* каўшак жамяры; **каўшак, каўшанка.** Першая постаць *яйко,* другая—*вусеніца* або *чарвяк,* трэйцяя—*каўшак,* чацьвёртая—*матыль.*

**ЛИЦЕДѢЙСТВІЕ** *ср.* выступленьне пад маскай „личиной“, прыймаючы на сябе чужы від, падобьбе; прадстаўляць каго на сцэне; **вiдачын, вiдачынства, вiдачыннасьць, вiдачынны.**

**ЛИЦЕМѢРИТЬ,** быць двулічным, аблыжным і ўдаваць сваім зьнешнім відам ня тое што ёсьць; **аблуджываць, аблуда, аблуднік.**

**ЛИЦЕОЧЕРТАНІЕ** *ср.* нарыс падабізны асобы; **абрысоўка асобы.**

**ЛИЦЕПРІЯТІЕ** *ср.* **староннасьць, прыстароннасьць.**

**ЛИЦЕТВОРИТЬ** *што,* **уасабляць, уасобленьне.**

**ЛИЧИНА,** накладное на абліччa выбражэньне; **маска, маскавацца; машкара.**

**ЛИЦЕЙ** *м. фр.* высшая вучомная установа; **ліцэй,**

**ЛИЦЕМѢР, аблуднік, аблудлівец.**

**ЛИШАЙ** *м. ням.* расьціна ніжэйшага парадку, блізкая да імхоў, лішаёў; **шалуднікі**; наскурная хвароба, адмена высыпкі з выразным абмежаньнем, **кругі, шалуды, пархі..** Назовы паводле адмен хваробы: кругі *сухія*; *мокрыя* і *гнойныя*—пархі; *сьвярбучыя* і якія лушчацца—шалуды.

**ЛИШАТЬ** *каго чаго-колечы;* адбіраць, пазбаўляць каго чаго колечы; **пазбаўляць, пазбавіць, пазбаўлены.**

**ЛИШЕНІЕ** *ср.* **пазбаўленьне, пазбаўнік—ніца;** у значэньні беднасьці, напасьцяў, **недастаткі, напасьці.**

**ЛИШИТЬСЯ, вызбыцца, пазбыцца, вызуцца.**

**ЛИШНІЙ, лішні, лішнік, лішніца.**

**ЛИШЬ** *прысл,* **ледзь, толькі.** *Толькі прышоў дый за стол. Ледзь толькі заўважыў. Ледзь толькі уцёк.*

**ЛІАНА** *ж. гішп.* вялікая сямья расьцін гарачых краёў; **апавойнік.**

**ЛОБЗАТЬ, ЛОБЫЗАТЬ** *каго,* **цалаваць, цалунак, цалаваньне.**

**ЛОБ** *м. аг. слав.* **лоб, лобны, лабок, лобік; лабаты,** бязрогі; які мае выступ у бок; **лабыр,** выступ на раўніне ці на рэчы; **лабырыцца,** глядзець зпадлобьбя; **лабатка,** кветка не бахматая, ня поўнага квету; гвозьдзікі бываюць *поўныя* і *лабатыя,* гэтак сама многа іншых кветак.

**ЛОВИТЬ** *агульн. слав.* **лавіць, лавіцца, лоўля; лавец,** той хто займаецца лоўляй, паляваньнем; **ловы,** час, працэс лаўленьня; **лавушка,** прылада да лаўленьня малых стварэньняў—пастка, пасадка; **лоўчы** празначаны для ловаў; **лавечыць,** займацца ловамі.

**ЛОВКІЙ** *аб чалавеку,* **хвацкі, хупавы, зручны.**

**ЛОГИКА** *ж. грэцк.* навука праўднага, здаровага думаньня; **лёгіка, лёгічны.**

**ЛОГ** *м.* шырокая нізіна; **лог, лагчына, лагчавіна.**

**ЛОГОВИЩЕ,** лежа, пасьцель зьвера; **лагво, мярлог.**

**ЛОДАР** *м. ням.* **лотр, латраваць; разбойнік; галцяй,**

**ЛОДКА** *ж.* **лодка, лодзь; човен, чаўнок,** высечаны з аднаго пня, без латаў, або зьбіты з дасок; высечаны карытам з двумя латамі на баках—**дуб, дубіца, камяга.**

**ЛОДОЧНИК** *м.* той хто кіруе, павозіць чаўном; **вясляр, вясьлярнік, вясьлярскі, вясьлярства.**

**ЛОЖИТЬСЯ, лягаць, лягае, лягай, ляжаць; класьціся, кладзецца, кладоўсь, кладовіцца.**

**ЛОЖКА,** прылада есьці рэдкія стравы; **лыжка, лыжачка; лыжніца, лыжнік,** павеска на сьцяну палічкай да затыканьня у ім лыжак; **стругалыжнік,** хто выстругае лыжкі.

**ЛОЖНЫЙ,** няпраўдны, **фальшывы, лжывы.**

**ЛОЖЬ,** няпраўда, **лжа, фальш.**

**ЛОЗУНГ** *м. вайск ням.* умоўнае слова да апазнаньня вартай сваіх ў вайсковым абозе; **покліч.**

**ЛОКАЛЬНЫЙ** *лац.* **мясцовы.**

**ЛОКОМОБИЛЬ** *аб машыне,* **паравiк.**

**ЛОКОМОТИВ** *м. фр.* **паравоз, цягнiк.** Памылкова часам пiшуць цягнiк у значэньнi цэлага зял. дарожнага поезду, гэтае наiме абазначае толькi машыну якая „цягне".

**ЛОКОН** *м. ням.* закручанае пасмо валасоў; **павiтка; сукраць,** ад *сучыцца,* зьвiвацца; **завiток.**

**ЛОКОТЬ** *м. агульн. слав.* **локаць, локцi, лакцяваты.** Лакцявая косьць: **жбiца;** само вострыва локця—**жбiк.**

**ЛОМАТЬ** *агульн. слав.* **ламаць, ламацца, ломкi, ламлiвы, ломiцца; ламанiк; ламанец,** адломак чаго колечы; **храпаць.** *Пахрапаў услончык, стол.*

**ЛОМКIЙ, ламучы, ломкi; храпкi; крохкi.**

**ЛОМОВИК** *м.* вазец цяжкiх рэчаў; **панараднiк.**

**ЛОМАНЬ,** збор паламанага; **ламацьцё; ахрапья,** гаворыцца аб наламаных расьцiнах.

**ЛОМОТА** *ж.* тупая боль у касьцёх; **ламота.**

**ЛОМОТЬ,** адломак чаго; **ламанiк, ламанец.** Расiйцы „ломоть" кажуць i на адрэзак хлеба, фрукта; па нашаму гэта будзе: **сьскiбень, ськiба, ськiбка; луста, лустка, луськiк; скрыль, скрылёк.**

**ЛОМТИК, скрылёк, лусьцiк.**

**ЛОМТЕВОЙ, луставы, скрылявы.**

**ЛОМТИТЬ** *што,* **лустаць, скрыляць.**

**ЛОМБАРД** *м. чуж.* пазычковая установа, дзе выдаюцца грошы пад заклад рэчаў; **закладнiца.** Так гэта установа названа i ў некатарых старадаўных дакумантах.

**ЛОМКА,** аб хваробе, **ламота;** аб ламаньнi рэчаў—**ламежа.**

**ЛОМАТЬСЯ,** выкрыўляцца, капрысiць; **качапэрыцца, карэдзiцца.**

**ЛОПАСТЬ** *ж.* шырокi i плосьмы канец; нiжняя часьць лапаты, вясла; **лаптыр, лаптырок; лапатка; пелюсьць.**

**ЛОПАТА** *ж.* **лапата, лапатка—тачка, лапатня, лапацень, лаптыр.**

**ЛОПОСТЬ,** гл. „Лопасць".

**ЛОРНЕТ** *м. фр.* глядзельнае шкелка ў аправе; **лёрнэтка, лёрнэт.**

**ЛОСКУТ** *м.* адрывак, адрэзак тканіны, скуры; **скумат—ты, скуматок, скумацьцё; лахман, лахманы, лохмы, лахмацьцё; матуз, матузьзё; дзярмо, дзярмацьцё; дросткі,** які лёгка дзярэцца; **дранцё,** абдзіркі абноскі; **драхво, драхло,** гнільлё, падзертыя і збуцьвеўшыя рэшткі вопратак.

**ЛОСКУТНИК** *м.* хто таргуе скумацьцём; **скуматнік, лахмытнік, рызьнік.**

**ЛОСК** *м.* блеск, гладкасьць на рэчах; **полыск, палыскуе, палыскаваць, палыскоўны; лосы,** гладкі і палыскоўны; **ласа** гладкі пояс на вадзе; **полысь** на вадзе, гладкасьць, рас.: „гладь".

**ЛОСНИТЬСЯ, палыскуе; сьлібіць,** гаворыцца аб полыску расы калі глядзець пад сонца. *Сьлібіць расой дзядовы сад;* **ільсьніць—цца; лышчыць.**

**ЛОТОРЕЯ** *ж. фр.* **розыгрыш.**

**ЛОХАНЬ** *ж.* абручная судзіна з вушамі да мыцьця бялізны; **балея, балейка; чаўхра, чаўхірка.**

**ЛОЦМАН** *м.* кіраўнік вадаплава; **корнік, аснач.** А с н а ч, ад „аснада"—прылады вадаплаўскіе, выражае паняцьце літэральна капітана.

**ЛОШАДЬ, конь, конскі, канёк, каняга; канавод,** той хто водзіць, пасе і гадуе коней.

**ЛОЩЕНІЕ, лышчаваньне, лышчыць.**

**ЛОЯЛЬНЫЙ** *фр.* **пакорны, пакорлівы.**

**ЛУБОК** *м.* вытвар народнага мастацтва, рынковае мастацтва; **малёк, мальковы.** *Мальковыя абразкі. Не абразы, а малькі прадае.*

**ЛУГ** *м.* лог, нізіна празначаная на пашу, радзей пожні; **луг, лугі, лугавы, лужок, лугавіна;** луг пад сенажаць: **сенажаць, пожня; лука.**

**ЛУГОВОДСТВО, сенажатніцтва, сенажатніцкі, сенажатнік.**

**ЛУДИТЬ** *што,* пакрываць пабелай, растопленай цынай (ня волавам, Plumbum); **пабяляць, пабела.**

**ЛУКОШКО** *ср.* **лубка, лубачка.**

**ЛУКОМОРЬЕ** *ср.* **атока.**

**ЛУКАВИТЬ**, хадзіць крывымі выгібамі, пастулаць няшчыра; **крывадушыць, хітрыць.**

**ЛУК** *м.* расьціна Allium сера; **цыбуля, цыбульны.**

*Танцавала рыба з ракам,*
*І пятрушка з пастарнакам,*
*А цыбуля зівавала,*
*Што пятрушка танцавала.*

---

*Пашла Юля па цыбулю,*
*Паламала ў садзе дулю.*

**ЛУКОВИЦА**, **цыбулька, цыбулясты.**

**ЛУНА** *ж.* нанебнае цела, спадарожнік зямлі; **месік, месяц; княжыч;** кругавы аварот месяца наўкол зямлі адбываецца ў 29 дзён, 12 гадзін, 44 м., 3 сэк.; за гэты час месяц мае 4 зьмены: *маладзік, сход, поўня, ветах.* Па нашаму *луна,* сьвяны белы посьвет, поблеск; *лунее,* бялее; *лунь* беламалочнае сьвятло.

**ЛУНАТИК** *м.* чалавек хворы, які будучы ў сьне ходзіць; **люнатык, памесяўнік.**

**ЛУПА** *ж. фр.* павялічаючае шкло ў аправе; **люпа.**

**ЛУЧШІЙ**, **лепшы, лепшаць.**

**ЛУЧШЕ**, **лепш, лепей; валей.** *Валей бы ты на сьвет не радзіўся. Валей я чым ты. Па гэтай клухце валей пайду, чым паеду.* Клухта, разьмяшаная гразь; ліпкая плыўкая, гразявая каша; у пераносным значэньні „каша",—брудная заблутаная справа.

**ЛУЧЬ** *м.* гаворыцца аб сьвятле, аб цяпле; просты шлях нyважкай матэрыі, ад пункту выхаду да сустрэчы з аб'ектам; **прамень, праменны, прамянее, прамяністы, прамяністасьць, праменчык;** слова *прамень,* (ад „прама") ужываецца да акрэсьленьня сьветлавых праяў матэрыі. Слова „луч", якое такжа мясцамі ўжываюць, выводзіцца з паняцьця

*лучыць* і ў нас мае цэлую сямью слоў як-то: *луч*, што злучае адно з другім; *лучыць* злучаць разрозьненнае; *лучыцца*, злучацца разрозьненаму і г. д.

**ЛУЩИТЬ**, **лушчыць**, **луска**, **лушпіна**; **лузгаць**, **лузга**; **лускаць**, выдаваць характэрны трэск як пры лушчэньні.

**ЛЫЖИ** *мн.* дошчкі акія прывязуюць да ног да хадзьбы па сьнегу; **іртры**, **іртовы**; **ірцяр**, хто займаецца яздой на іртах.

**ЛЫКО** *ср.* **лыка**, **лыкі**; **лут**, **луток**, **луцьцё**; **лутаць** зьдрірацъ луты з дрэва, скуру с цела. *Пашоў раз Алёкса у лес драць луцьцё (Сержп. с. 37)*

*Вазьмі, сваце, добры лут,*
*Гані сучак ў цёмны кут. (Барыс.).*

**ЛЫСИНА** *ж.* **лысіна**, **лысы**, **лысець**, **лысаты**, **лысач**.

**ЛЬГОТА** *ж.* палёгка, большая воля, свабода; **польга**, **польгатны**; **польгаць**. *Ніякай ні ў чым польгі, польгаці няма. Мой бальшак польгатны, але мяншак пойдзе ў салдаты.*

**ЛЬНУТЬ** *да чаго,* ліпнуць, прылягаць у шчыць, прыліпаць; **гліпнуць**, **прыгліп**. *Гліпне смалой да рук. Сухая кашуля да цела ня гліпне. Слова не страла а да сэрца гліпне. Прыгліп да матчыных грудзей.*

**ЛЬСТЕЦ** *м.* **пахлебнік**; **лізус**.

**ЛѢВЫЙ**, **левы**, **лева**, **лявіца**, **ляўко**, **леўка**, **ляўша** (ляўшу завуць яшчэ: *манькут*), **ляўшак**.

**ЛѢЗЛЫЙ**, **поўзлы**, **апоўзлы**, **апоўзьлік**.

**ЛѢНЬ** *ж.* **лень**, **лянівы**, **ленасьць**, **лянько**, **ляніцца**.

**ЛѢНТЯЙСТВО**, ляніўства, гультайства; **гультайства**.

**ЛѢПИТЬ** *што,* **ляпіць**, **лепны**, **ляпень**, **ляпок**, **лепкі**, **лепкасьць**, **леплівы**, **вылепак**, **зьлепак**.

**ЛѢПОТА**, **хараство**.

**ЛѢСОСѢКА** *ж.* **лядо**, **пасека**. *Лядом* называюць высечаны абшар лесу са зваленымі суччамі і

іншымі адпадкамі, а такжа выпаляны агнём гэты самы абшар. *Пасека,* азначае высечанае мейсца, без акрэсьленьня стану яго.

**ЛѢСТНИЦА** *ж.* **лесьвіца**, ад „лезьць“.

**ЛѢС** *агульн. слав.* **лес, лесавы, лясны, лясы, лясісты; лясьнік** хто пільнуе лесу.

**ЛѢСОВОДСТВО**, **лясьнікоўства**.

**ЛѢТО** *ср.* цёплая пара году; **лета, летні; лётаваць**, праводзіць дзе лета; **летаўнік**, хто бавіць дзе летам.

**ЛѢТОПИСЬ**, апісаньне гістарычных падзей, паводле гадоў, лет; **летапісь, кроніка; летапісец, кронікар**.

**ЛѢТОПРЕПРОВОЖДЕНІЕ**, **летаваньне**.

**ЛЮБИТЬ** *каго,* пачуваць да каго крэпкую прывязанасьць, прыхільнасьць, духовую магнасьць; **кахаць, каханьне**, каханы—**ная, кахаценькі, каханак—нка, каханец, кахацца, кохнуць**. Слова *кахаць,* выводзіцца з дзеяслову *кохаць:* квактаць падобна курыцы што водзіць пісклят; падобна курыцы каля пісклят клапаціцца, „кохнуць“, туліць і саграваць. *Кохне хлапец па дзяўчыне; маці па дзяцёх. Ты цыганка, ты мая каханка (Р. 8-9 стр. 121)*.

*Залаты персьцень на мяняньне,*
*Шаўкова хуста на ўціраньне,*
*А красна Агатка на каханьне.*

*(Бар. п. Ш. І ч. 2. стр. 71).*

**ЛЮБИТЬ** *што,* **любіць, люблю, любы**. *Люблю рэдзьку з мёдам, бульбу з агуркамі. Люблю вудзіць рыбу, хадзіць на паляваньне. Люблю пагодную пагоду і грай птушыны ў лесе. Люблю глядзець на людзей і думаць аб людзях. Люблю ўсякае стварэньне.*

**ЛЮБОДѢЙСТВІЕ** *ср.* **любадзейства, любадзейнік**.

**ЛЮБОСТРАСТІЕ** *ср.* **юрнасьць, юрны**.

**ЛЮБОПЫТСТВО** *ср.* **цікавасьць, цікавы, цікаўны, цікаўства, цікаўскі, цікавіцца, цікавіць**.

ЛЮДИ *мн. агульн. слав.* **людзі, людзкі, людна; людзкасьць**, чалавечнасьць, гуманнасьць.

ЛЮК *м. марск.*, прасека у насьцілцы на вадаплаве; **лаз.**

ЛЮСТРА *жс. фр.*, вісомы сьвечнік; **павук, балядаш**, жырандаль.

ЛЮЦЕРНА *жс.* трава Medicago sativa; **мядуніца, мядзеліна.**

ЛЯГАВЫЙ *сабака,* **выжла.**

ЛЯГАТЬ, ударац заднімі нагамі; **брыкаць, брыкацца, брыкун, брыклівы.**

ЛЯГУШКА *жс.* **жаба, жабка.** Гл. „Жаба".

# М.

МАГАЗИН *м. фр.* будынак для складу і перахову тавараў; склад.

МАГНАТ *м. лац.* багач, **магут, дукар.**

МАГОМЕТАНИН, **бусурманін, бусурмацкі; магомэтанік.**

МАГНИТ *м.* зелязняк які прыцягае зялеза; **магнус, магнусовы, магнусаваць.**

МАДАМ *жс. фр.* **паня.**

МАДРИГАЛ *м.* кароценькі вершык, пахвальнага, лесьлівага, мілоснага зьместу; **мадрыгал, мадрыгалы** правіць,—гаварыць залесткі, пахвалы.

МАЕРАН *м.* расьціна Origanum majorana; **майран, майрановы.**

МАЕСТРО *м. нескл. італьян.* **майстар, мастак.**

МАЗАТЬ *што, чым;* **мазаць мазацца, мазь, мазаніна, мазьніца, масткі, маста.**

МАЙ *м.* пяты месяц у годзе; **травень, май.** Май, такжа назова зелені, асабліва лісьцястых дрэў. *Наламай маю. Маіць, умаіць хату, прыбраць зеленьню.*

**МАИС** *м.* расьціна Zea mais; **какорыца.**

**МАКАРОНЫ** *ж. мн. італьян.;* рэзанае на доўгі ценкія гічы цеста; **разанцы, локшыны** (Карск. Т. I); **макарон.**

**МАКАТЬ** *што у што;* **макаць, маканьне, макач, маканец; маканцы,** бліны; **макалка,** у што макаюць.

**МАКЛАК,** зводчык пры куплі-прадажы; **фактар, факторства, фактарнік, фактараваць; махляр.**

**МАКЛЕР** *м. ням.* на біржах пасрэднік паміж прадаўцом і пакупцом; **маклер.**

**МАКОВКА** сам верх; *на галаве*—**цемя,** *на дрэве*—**хамёлка.**

**МАКСИМУМ** *лац.* найбольшы лік, магчымасьць; **максімум, максімальны.**

**МАКУЛАТУРА** *ж. лац.* брудная сьпісаная папера.

**МАК** *м.* расьціна Papaver; **мак, маковы, макоўнік, макаўка.**

**МАЛИНА** *ж.* куставік Rubus ideus; **маліна, малінавы, маліньнік.**

**МАЛЫЙ, малы, маленькі, малюк, малец, малюські, малюся, малаваты, мальшы—шая, маліць, малець.**

**МАЛОДУШІЕ, маладушлівасьць.**

**МАЛОИЗВѢСТНЫЙ, малаведамы.**

**МАЛОКРОВІЕ** *ср.* **недакроўнасьць.**

**МАЛОЛѢТІЕ** *ср.* **маленьства, малалецьце, малалетка.**

**МАЛООПЫТНЫЙ, непрактычны.**

**МАЛОСВѢДУЩІЙ, малаведны.**

**МАЛОСТЬ, махатка, макарка, макорынка.**

**МАЛЬЧИК, хлопчык, хлапец.**

**МАЛЮТКА, малька, мальцік.**

**МАМА** *ж.* **мама, мамка, мамуся, мамця.**

**МАМАЛЫГА** *ж.* **какоравая (кукурузная) зацірка.**

**МАМЗЕЛЬ** *ж. фр.* **паненка, панна.**

**МАМОНА** *ж. црк.* багацьце, дастатак, скарбы.

**МАМОНТ** *м.* выкопная жывёла; **мамут.**

**МАНЕВРЫ** *мн. фр.* пабудова і перамаршы войск як на вайне; **манэўры.**

**МАНЕВРИРОВАТЬ** *чым,* **арудаваць.** *Арудуе вяслом, касой, сякерай.*

**МАНЕЖ** *м. фр.* будынак або майдан пад аткрытым небам да аб'ежджываньня коней; **манэж.**

**МАНЕКЕН** *м. ням.* дрэўляная лялька са ўсімі згібамі суставаў, ужываецца малярамі да зрысовываньня вопраткі, ўсіх яе згібаў: **лялька.**

**МАНЕР, МАНЕРА** *ням.* спосаб, лад, форма паступаньня, падыходу да справы; **спохватка.**

**МАНЕРНЫЙ, вычурны, вычураць, вычурлівы, вычурацца.**

**МАНЕРКА** *ж.* рэзаная рысункамі даска, для набіваньня узораў на тканіну, **набойка;** салдацкая бляшаная **конаўка** ці **букатка** да вады.

**МАНЖЕТА** *ж. фр.* канцы рукавоў закончаныя аздобнымі фарботамі ці гладкай бельлю; **зарукаўка, зарукаўнік.**

**МАНИТЬ** *каго, чым;* клікаць каго знакамі, кіўком пальца, спомігам; **маніць, паманіць;** заклікаць удаючы голас, падаючы надзею; **вабіць, вабкі, вабленьне;** ашуківаць дурачыць, **маніць, манюка, маманюшка, манюк, мана;** прыцягаць, прыклікаць каго абяцанкамі, паказуючы спажыву, карысьць, **надзіць, прынаджываць, прынада,** аб'ект пажа, даньня, якім надзяць.

**МАНОВЕНІЕ** *ср.* знак рукой, галавой, вачамі ці іншы ў форме загаду; **спокіў.**

**МАНИФЕСТ** *м. лац.* дзяржаўны акт, ліст; **грамата.**

**МАНИФЕСТАЦІЯ** *ж. лац.* выказываньне нездаволеньня настрою, замыслаў, бурным відавочным спосабам ; **разпагалос, разпагалосны, разпагалашаць, разпагалоска.** *Распагалосна зьбіраўся ў дарогу. Калі яго зьняважылі ён распагалосна*

*устаў і выйшаў з хаты. Распаглашаецца дзеўка па кірмашох. Усе яго распагалоскі і пагрожкі нічым кончыліся,*

**МАНИШКА** *ж. фр,* белы нагруднік пад камізэльку; **паўкашуляк, шмізэтка.**

**МАНІЯ** *ж. грэцк.* **памяшаньне, памяшаны** розумам. *Памяшаўся хлапец на зьбіраньні марак. Памяшаньня дастаў з жалю.*

**МАННА** *ж. црк.* цудоўная страва, якую праз 40 гадоў штодзень зсылаў Бог жыдам у пустыні; **манна;** *манныя крупы,* размолатая на дробныя крупкі пшаніца—**манна.**

**МАНСАРД** *м. фр.* **сьвяцёлка, салька.**

**МАНТІЯ** *ж.* шырокая, доўгая, безрукавая вопратка ўжываная як азнака высокай дастойнасьці; **плашч, корзна.** *Каралеўскі, біскупскі, архімандрыцкі плашч, корзна.*

**МАНУСКРИПТ** *м. лац.* **рукапіс.**

**МАРАЗМ** *м.* вынішчаньне жыцьцёвых сіл; **зьнебыткаваньне, сызмор, счаўраньне.** *Счаўраў хлапец. Вычаўрэлі мазгі са старасьці.*

**МАРАТЬ** *што,* **пэцкаць, пэцкацца, пэцкель, пэцканіна; брудзіць, брудны, бруднаваты, брудзь бруд; мырзаць, мырзгаць, замырзаны, мырзкі; мазгаць, мазраць.**

**МАРЕВО** *ср.* нанебнае зьявішча, калі ніжнія чыстыя слаіны паветра адбіваюць ў гарэ розныя відокі з зямлі; **мяресьціва, мярэсьціцца.**

**МАРІОНЕТКА** (ад наймя італьянца Маріоні), лялька для прадстаўленьняў ў лялькавым тэатры; **лялька.**

**МАРКА** *ж. фр.,* **знак, значок, наклейка; познамка.**

**МАРЛИ** *ср. фр.* рэдзенькая скорблая тканіна; **нітніца.**

**МАРМЕЛАД** *м.* рожныя фрукты вараныя ў цукры: **мармаляда.**

**МАРОДЕР** *м. фр.* салдат грабежнік; *стар.* **шыш шышы, шышаваць; разбойнік.**

**МАРС** *ж. лац.* чацьвертая ад сонца плянэта, паміж якой і Вэнэрай знаходзіцца зямля; **м*а*рс.**

**МАРТ** *м.* трэйці месяц у годзе; **сакав*і*к.**

**МАРТЫШКА** *ж.* **м*а*лпа.** Жаргоннае—*налпа.*

**МАРШАЛ** *м.* галоўны кіраўнік урачыстасьці, абраду; **марш*а*лак.** *У* нас у вясельным абрадзе бывае выбіраны маршалак, які пасьля кіруе ўсім ходам вясельля.

**МАРШИРОВАТЬ,** ісьці вайсковым, мерным крокам; **маршав*а*ць, марш*у*е, марш*о*ўка, марш*о*вы.**

**МАРЬЯЖИТЬ** *каго,* **здруж*а*ць, адруж*а*ць.**

**МАСИВНЫЙ** *лац.* суцэльна літы, або куты: **суцэльны, гам*о*тны.**

**МАСКА** *ж. фр. стар.* **машк*а*ра,** накладное аблічча пры пераадзеўку для тэатру, сцэны, забавы; **машк*а*рнік, машк*а*р; маска маскав*а*цца, маскав*а*ньне.**

**МАСКАРАД** *м.* забава з пераадзеваньнямі; **маскар*а*да, маскар*а*дны.**

**МАСЛО** *ж.* тук зьбіраны з малака; **м*а*сла, мась*л*яны, м*а*сьліць;** тук выціснаны з расьціннага насеньня: калапель, маку, ільнянага семя, гарчыцы— **ал*е*й, ал*е*іць, але*я*рня,** дзе робяць алей; **ал*е*йніца** бутэлька, бляшанка да алею; тук выціснаны з пладоў дрэва Olea europea, **ал*і*ва, ал*і*ўка, ал*і*ўны.**

**МАСЬЛИЦА** *ж.* ягада аліўкавага дрэва; **ал*і*ўка.**

**МАСЛОДѢЛ** *м.* **масл*а*роб, масл*а*робня, масл*а*робны;** аб кароўім масьле.

**МАССА** *ж. лац.* матэрыя, цела; тоўсьць, агул матэрыі ў вядомым целе, рэчаістасьць яго; **м*а*са мас*ы*ўны; мас*о*вы,** многі, многасьць мноства.

**МАСТЕР** *м. ням.* здольнік, умец у якой колечы рабоце; **зд*о*льнік; ум*е*ц, ум*е*цтва, ум*е*ласьць; м*а*йстар, майстрав*а*ць, майст*э*рня, майст*э*рка; маст*а*к, маст*а*цтва, маст*а*чыць, маст*а*чня.**

**МАСТИКА** *ж.* смалістая мяшавіна рожнага ужытку; **м*а*стка, м*а*сьць.**

**МАСТИСТЫИ** *старац,* глыбокая і ня друзлая старасць акружаная пашанай; **шаноўны.**

**МАСТОДОНТ,** *м.* дапатопнае стварэньне аграмаднага узросту; **мастадонт.**

**МАСТЬ,** барва поўсьці на конях, каровах і інш.; **масьць.**

**МАСШТАБ** *м, ням.* мерка даўжыні; мерка прынятая для крэсьлярскіх работ, прыкл. цаль прыймаецца за вярсту, крэсьліцца на паперы і нарыс выпаўняецца паводле гэтага памеру; **сумер, сумерны.**

**МАТЕМАТИКА** *м. грэцк.,* навука аб вялічінях і сколькасьцях; усё што можна выразіць лічбай належыць да матэматыкі; **матэматыка, матэматычны, матэма тык.**

**МАТЕРИК** *м.* суша, цьвёрдая зямля; **цьвердзь, цьвердзь зямельная.** Падысподны, непарушаны слой зямлі, **шчырэц.**

**МАТЕРІЯ** *ж.* ўсё што мае вагу, што займае мейсца ў прасторы; **рэчаістасьць; рэчаісты; матэрыя, матэрьяльны, матэрьял.**

**МАТЕРІЯЛИЗМ,** адкіданьне ўсякай духовай сілы, істасьці духа ў прыродзе; **матэрьялізм, матэрьяліста.**

**МАТЕРІЙ,** узрослы, поўны; **дародны, дароднасьць; чорствы.**

**МАТОРѢТЬ, чарсцьвець, мужнець.**

**МАТЬ** *ж.* **маці, матка.**

**МАТЕРИНСТВО, матнасьць, матная, маткаваць.**

**МАТРАЦ** *м. ням.,* калі мех напханы саломай ці сенам—**сянік, сянічок, сянічны;** чым бы ня быў напханы—**пехцяр;** бывае пехцяр травяны, валасяны, ваўняны, рагожавы і інш.

**МАТРИКУЛ** або—**МАТРЫКУЛА** *лац.* выпіс у форме пасьведчаньня; **матрыкула.**

**МАТРИМОНІЯЛЬНЫЙ** *лац.* **жанідзебны.**

**МАТРИЦА** *ж.* форма да адліваньня мэталю; **гнязьдзіла, гнезка; матрыца.**

**МАТРОС** *м. ням.* салдат які служыць на вадаплаве; **матрос.**

**МАТ** *м. ням.* плеценая подсьцілка ці покрыўка з саломы, пакульля, рагожы; **мата.**

**МАТ** *м. ням.* нястача блеску; **тускласьць, тусклы, тусьнець, тусніць.**

**МАТЬ** *ж.* радзіцелька; **мацi, матуля, матуся, матухна, матка, мама, мамка, мамця, мамуся, мамуля, матуля, матулька.**

**МАХАТЬ** *чым*, **махаць, махацца, махтацца, махала, махло, махалка, маханьне, махавы, махавік, махтае; махнітка,** галаўня, галавешка.

**МАХИНА** *ж. лац.* **аграмадзіна;** *арх.* **машына.**

**МАХОНЬКІЙ, масенькі, махценькі.**

**МАХРОВЫЙ** *або кветках.* **бахматы,** *Бахматы гвозьдзік, гэта поўнакветны, не лабаты. Бахматы бэз, ружы.*

**МАЧЕХА,** ня родная матка; **матчыха.**

**МАЧТА,** *ж.* стаячае бярвяно на вадаплаве да падніманьня парусаў; **стажар;** на Дзвіне—**сьлямга; мачта, мачтовы.**

**МАШИНА** *ж.* **машына.**

**МАШАНИСТ** *м.* **машыністы.**

**МАЯК** *м.* морская ліхтарня; **мігак.**

**МАЯТЬ** *каго,* **марыць,** мучыць; **тамiць, трудзіць канючыць, канючыцца.**

**МАЯТНИК** *м.* махавік у сьцянных гадзінніках; **ківач, махтач.**

**МГЛА** *ж.* выпары якія згушчаюць паветра, робяць яго тусклым, мала празрыстым; **імгла; імглісты, імгліць; хомар, хомарна, хаморыцца.**

**МГНОВЕНІЕ** *ср.* **міг.** *Міг жыцьця, а гэтулькі мучэньня;* **міглівы, мігаць, мігам.**

**МЕБЕЛЬ** *ж. фр.* хатняе знадабьбя: сталы, услоны лаўкі, крэслы, ложкі і інш; **мэблі, мэбляваць,**

**мэбляв*а*ньне, мэбл*ё*вы, м*э*баль; ст*о*ведзь, аба-ст*о*віць**, абставіць мэблямі; **аст*о*ўленьне, ст*о*ведны, ставец, став*е*жына, ст*о*ўдзік, ставадзьдз*ё*, стаўдз*ё*, стаўц*ё*, ст*о*веднік; б*о*лды, болд**, гаворыцца аб стоведзі (мэблях) „**разбалтаных**“, расківаных, малавартых. *Гэта-ж аднаго ставадзьдзя вазоў пяць набярэцца. Ні ставінкі ні гаршчынкі ў хаце. І, вось, астовілі хату, прыбралі...*

**МЕБЛИРОВАТЬ**, **мэбляв*а*ць**; **абстаўл*я*ць, абаст*о*ўленьне, абстан*о*ва.**

**МЕБЛИРОВАННЫЙ**, **мэбляв*а*ны, абаст*о*ўны, аст*о*ўлены.**

**МЕБЛИРОВКА, мэбляв*а*ньне; абстан*о*ва, абаст*о*ўленьне.**

**МАГЕРА** ж. *грэцк.* імя аднэй з трох фурый; злая, благая баба; **маг*е*ра.**

**МЕДАЛЬ** *ж. фр.* звонкая манэта выбітая ў памяць якога здарэньня; гэткі выбітак з вушком, ношаны на грудзёх учасьнікамі здарэньня, або знак дадзены ў нагароду за нешта; **мэд*а*ль, мэд*а*лік.**

**МЕДВѢДЬ** *м.* зьвер Ursus maritimus; **мядзьв*е*дзь, мядзьв*е*дзька, мядзьв*е*джы, мядзьв*е*дзіна, медзьвядз*ю*к, мядзьв*е*днік.**

**МЕДВЯНАЯ** *раса*, **мяд*о*вая.**

**МЕДИЦИНА** *ж. лац.* навука, умецтва лечыць; **мэдыц*ы*на.**

**МЕДІУМ** *м. лац.* пасярэднік; **зл*у*чнік.**

**МЕДЛИТЬ, б*а*віць, б*а*рыць, мар*у*дзіць, спав*а*ліваць.**

*Ды паедзь-паедзь, маё дзіцятка, ня баўся;*
*Прывязі нявестачку ў атласе.*
*(Орша. Ш. І. ч. 2. с. 65).*

**МЕДЛЕННОСТЬ, б*а*рнасьць, б*а*ўнасьць, мар*у*днасьць, спав*о*ля, спав*о*льна, пав*о*льнасьць.**

*Ой зяцю, зяцю Дунаю,*
*Ды паволі ідзі, не гудзі, (Безс. 38).*

**МЕД** *м. агульн. слав.* **мёд, мядок, мяд*о*вы**; **мядав*і*к**, пернік на мёдзе печаны; **мядав*і*ца**, эпітэт

пчалы; **мядуніца, мядунка,** расьціна Trifolium pratese et repens, дзяцеліна, мядзеліна, па рас. „клевер“, (што да назовы *мядзеліна*, то, здаецца, гэта будзе Medicago sativa, хоць ўсе Trifolium найчасьцей народ называе адным імем: мядуніца, мядунка.

**МЕЖДУ** *прыймя*, **між, паміж, праміж, суміж.** *Да праміж жанкамі няма ладу* (Сержп). *Суміж нас няма ніводнага, такога.*

**МЕЖУТОЧНЫЙ, прамежны.**

**МЕЖА** *ж.* **мяжа, мяжовы, мяжавіна, мяжыць.**

**МЕЖДОУМОК** *м.* **недарэка.**

**МЕЖДУСОБІЕ, праміжсобіца, праміжсобны.**

**МЕЖЕВАТЬ, мяжыць, размяжаць, разгранічаць.**

**МЕЖЕВОЙ, гранічны.** *Суды гранічныя.*

**МЕЗЕНЕЦ,** *паляц*, **мезенік, мезяны.**

**МЕЗОНИН,** *м. фр.* поўнаверх, надбудоўка над хатай; **салька, гаўбец, галубец.**

**МЕЛАНХОЛІЯ** *ж.* задумлёная маркотлівасьць, сумлівасьць, ціхая роспач, **хаморлівасьць, хаморны, хаморыцца.**

**МЕЛКІЙ,** ня буйны; **дробны, дробненькі, драбнець, драбіца, драбінка.**

**МЕЛКІЙ** ня глыбокі; **мелкі, мялець, мяліна, мяліня, мельстынь.**

**МЕЛОЧЬ, драбніца, дробязь.**

**МЕЛОЧНОИ, драбнічны, драбнічная, драбнічнае.**

**МЕЛОЧНОСТЬ, драбезьлівасьць, драбязьлівы, дробезнасьць.**

**МЕЛОЧНИК,** *м.* хто займаецца дробнай прадажай: **драбнічнік, драбнічны.**

**МЕЛИЗНА** *ж.* мейсца неглыбокае; **мяліня, мяльстыня.**

**МЕЛЮЗГА** *ж.* **дробязь, драбезьлівы, драбязьлівасьць.**

**МЕЛЮЗИТЬ** *у вачах*; **мікрыцца, мітусіць.**

**МЕЛЬЧИТЬ** *што*, **драбнiць, драбiць.**

**МЕЛЬЧАТЬ, драбнець.**

**МЕЛОЧНИЧЕСТВО, драбнiчнiцтва.**

**МЕЛКОВОДIЕ, малаводзiцца.**

**МЕЛКОПОМѢСТНЫЙ, засьцянковы, засьцянковец.**

**МЕЛОДIЯ** *ж. фр.* парадак згукаў песьнi, музыкi; **нота; попеўка.** Словы памятаю, але ўжо попеўку забылася. Гэта песьня пяецца на ноту (попеўку такой то песьнi.

**МЕЛОМАНIЯ** *ж. фр.* памяшаньне на музыцы.

**МЕЛОДРАМА.** *ж. фр.* драма з музыкай i песьнямi.

**МЕЛ** *м.* выкопная белая вапна; **крэйда.**

**МЕЛЬКАТЬ,** паяўляючыся зьнiкаць, няясна быць бачанаму i гуляць у вачу, паблiскаць; **мiгцець, мiтусiцца, мiтрыцца, мiтурыцца, мiтугi; мiльгаць, мiльгае, сумяльгам, кумяльгом.**

**МЕЛЬКОМ, мiгам, кумяльгом.** Апошняе, *кумяльгом,* гаворыцца аб борзкiм бегу; *Кумяльгом, кулём-понырью пабег.*

**МЕЛЬНИЦА** *ж.* постаў з жорнамi малоць зярняты па муку; **млын, млынок, малоцца, мелiва, млынскi.**

**МЕЛЬНИК** *м.* **млынар, млынарства.**

**МЕЛЬХIОР** мэталiчны сустоп пакрыты серабром; **новае серабро.**

**МЕМОРIЯ** *ж. фр.* **запiска.**

**МЕМОРАНДУМ** *м. фр.* дыплёматычная **запiска.**

**МЕМУАРЫ** *м. мн. фр.* жыцьцёвя: **запiскi.**

**МЕНЗУЛА** *ж.* каморнiцкi (землямернiцкi) столiк з простападам i компасам.

**МЕНЗУРА, МЕНЗУРКА,** аптэчная мерка для цеклацяў з рысамi на ей, азначаючымi вагу вады; **спомерка.**

**МЕНСТРУАЦIЯ** *ж. лац.* жаночае месячнае ачышчэньне; **месячка, месячнiца; ачышчэньне; на хусьцёх.**

**МЕНТОР** *м. лац.* **вучыцель, кіраўнік.**

**МЕНЬ, МЕНЕК** *м.* рыба Lota vulgaris; **мянтуз.**

**МЕНЬШІЙ, меншы, меншасьць, мяншэць.**

**МЕНШИНСТВО, меншасьць.**

**МЕНЯ** *займак,* **мяне.** *Не кідай мяне, а я ня кіну цябе. У мяне не ў цябе. Ня руш мяне.*

**МЕРГЕЛЬ** *м. ням.?* адмена зямлі; мяшаніна гліны і вапны; **рухляк.**

**МЕРЕЖА** *ж,* адмена венцера; **нерат.**

**МЕРЕЖКА,** клетка сеткі: работа клеткамі з нітак: **клетка.**

**МЕРЕЩИТЬСЯ,** выдаецца, здаецца, відзіцца не ясна; **мярэсьціцца, мітурыцца.**

**МЕРЕТЬ, мерці, паміраць, мерлы, мярляк, мярлец, мярцьвец, мерат, мертвы, мярцьвіня, мярьвіць.**

**МЕРТВЕЦКАЯ** *ж.* **трупярня.**

**МЕРТВЫЙ, мярцьвец, мярляк, мярлец, труп.**

**МЕРЗИТЬ** *што,* **плюгавіць, гідзіць, паганіць, брудзіць.**

**МЕРЗКІЙ, плюгавы, агідны, паганы.**

**МЕРЗОСТЬ, МРАЗЬ, бруд; плюгавасьць; гіда, гідзь; погань, гідзь-брыдзь.**

**МЕРЗАВЕЦ** *м.* **плюгавец—гаўка, агіднік—ніца.**

**МЕРЗНУТЬ** ад *мароз,* зябнуць, замярзаць; **мерзнуць, мерзлы, мерзьне, мерзласьць, мярзьляк.**

**МЕРИДІАН** *м.* выабражальная лінія на зямлі якая праходзіць ад бukляў (полюсов) прастападна на поўдзень; **поўдніца, поўднік.**

**МЕРИН** *м. татар.* кладзены жарабец; **конь.**

**МЕРКАТИЛЬНЫЙ** *фр.* **тарговы, купецкі, прамысловы.**

**МЕРЦАТЬ,** слаба пабліскаць, сьвяціцца; **мільгаць, мігцець.** Гл. „Мелькать“.

**МЕРЦАНІЕ, мігценьне.**

**МЕРКНУТЬ**, цямнець, траціць блеск; **тускнуць, туснуць, тусьнецць; сьвянуць, сьвялы.**

**МЕРКУРІЙ** *м. г. грэцк. міт.* імя грэцкага бога торгу і промыслаў: **Мэркуры.**

**МЕРТВЕННЫЙ**, **мярцьвісты.** *Мярцьвіста бледны.*

**МЕСТЬ**, адплата злом за зло; **помста, месьцежа, мсьцівы, мсьціць, помставаць, мсьціцель.**

**МЕССА** *ж.* каталіцкая абедня; **імша, імшальны, мшальны.**

**МЕТАТЬ** *што,* кідаць з розмаху; **шыбаць, шыбнуць; шпуляць, шпургаць, шпурнуў; лукаць.**

**МЕСТИ** *што,* зямятаць; **мясьці, мяце, зьмятаць, зьмеціны.**

**МЕТЕЛЬ** *ж.* віхор са сьнегам; **мяцеліца, замець, шугавея, кудаса.**

**МЕТЛА** *ж.* венік на кійку; **мятла, мяцёлка, мясьці, замятаць; мятліцца,** раешырацца мятлой.

**МЕТАЛ** *м. лац.* выкопная цьвёрдая матэрыя якая паддаецца куцьцю: зялеза, медзь, золата, цына, серабро, і інш.; **коў, ковік, ковы, каўляны, каўлявісты, ковакоўны, ковалітны; мэталь, мэталічны, мэталёвы, мэталлісты.** Камяні, якія не паддаюцца каваньню дзеля сваей крохкасьці называюцца „крушцамі“.

**МЕТАФИЗИКА** *ж. грэцк.* навука аб не рэчаістым (не матэрыяльным) сьвеце, аб духоўным, што вышэй зямной прыроды, што не падлягае човам чалавечым, а толькі аднэй яго умысловасьці; **мэтафізыка, мэтафізычны.**

**МЕТАФОРА** *ж. грэцк.* перанос простага значэньня на сукоснае ў рыторыцы; **мэтафара.**

**МЕТЕОР** *м.* ўсё што праяўляецца у атмосфэры; дождж, сьнег, град, бура, падаючыя камяні; **мэтэор; мэтэоролёгія,** навука аб зьявішчах у паветры.

**МЕТЕОРОЛИТ** *м.* арэололіт, мэтэорны або паветраны камень, **мэтэоролі́т.** Ясны, агністы сьлед

на небе ад паданьня мэтэароліта называюць **зьмірсьць** а мясцамі—**зьнічка**. *Зьмірсьць спалынуў. Зьнічка пакацілася, скацілася.* Народная показка кажа, што гэта іскры сыплюцца з пад молата св. Ільлі, калі ён цапы куе.

**МЕТИС** *м.* **мяшанец**. *Бацька быў выжал, а матка з кундысаў, вось і вышлі мяшанцы.*

**МЕТКІЙ, трапны**.

**МЕТНУТЬ, кінуць, шпурнуць, лукнуць.**

**МЕТОД** *м.* спосаб, парадак, прыняты шлях для дасьціжэньня чагосьці; **мэтода, троп, патропна, кругатроп.**

**МЕТРДОТЕЛЬ** *м. фр.* **стольнік.**

**МЕТРОПОЛІЯ** *ж. грэцк.* галоўны горад ў дзяржаве; кругаколіца царкоўнага кіраўніцтва пад загадам мэтрополіты, сама дзяржава ў тасунку да яе высялкаў (калоній); **мэтраполія.**

**МЕТРИКА** *ж.* парахільная запісь народжаных, жэняных і памершых; **мэтрыка.**

**МЕФИСТОФЕЛЬ**, імя аднаго са зрынутых Богам з неба арханелаў.

**МЕХАНИКА**, матэматыка ў дапасаваньні да законаў роўнавагі і руху цел; навука аб сіле і адпоры ей; умецтва запрагчы сілу да работы, будаваць машыны; **мэханіка, мэханічны.**

**МЕЧЕНОСЕЦ** *м.* кавалер гэтага ордэну; **крыжак, крыжакі, крыжацкі.**

**МЕЧЕТЬ** *ж. араб.* бажніца музульманаў; **мячэць.**

**МЕЧТАТЬ, мроіць, мроіцца, мроя, умроіць, амройчывы; крозіць, крозіцца; лятуцець.** Гл. „Греза".

**МЕЧТАТЕЛЬ** *м.* **мраец, мройніца, мроіць; канодумнік, канодумка.**

**МЕЧЬ** *м.* халодная зброя; **меч, мячовы; мечнік** урад у В. К. Літоўскім; **мечаваты.**

**МЗДА** *ж.* плата, нагарода, зыск, прыбытак; **наўда,** стар. **набда** (merces). *Да не даси набды от*

*блудніцы (Супр. рукапісь). Да не лиши набды убогого (Срезн.);* **заплата.** *Якая работа такая і заплата.*

**МЗДОИМЕЦ** *м.* **зьдзерца, хабарнік.**

**МИГАТЬ,** сплюскаць павекі і ў той міг адчыняць, даваць каму знак вачамі; **мігаць, міганьне, міглі, міганцы, перамігі, мігнуць, мігун, мігаўка; мігавіца,** рас. „молнія".

**МИЗАНТРОП** *м. фр,* чалавек які ненавідзіць людзей; **людалют, людалютасьць.**

**МИЗГИР** *м. усх. павук,* **мухаед.**

**МИЗЕРНЫЙ** *м. фр.* **бедны, слабы.**

**МИЗИНЕЦ** *м.* пяты, найменьшы палец; **мезенік, мезены.**

**МИКИТКИ** *м. чн. беларуск.;* **мікіткі, падуздошша.**

**МИКРОСКОП** *м. грэцк.* прылада да павялічаньня самых дробных рэчаў; **мікраскоп.**

**МИКСТУРА** *ж. лац.* цеклая мяшаніна, лекарскае знадабьбе; **мікстура; споліўка.**

**МИЛИЦІЯ** *ж. заходн.* земскае войска, паліція; **міліція.**

**МИЛІОН** *м.* тысяча тысяч; **мільён.**

**МИЛЫЙ** *агульн. слав.,* **мілы, міласьць; міласьцівы, міласьцівец, мілаваць, мілаваньне, мілець.**

**МИЛОСТЫНЯ** *ж.* **подаўка, падавец; субожынка; царэньне.** *Ты мне заплаці што трэба, а подаўкі тваей я нехачу.*

**МИЛОСТИВЫЙ** , **ласкавы, ласкавасьць.**

**МИЛАШКА, любінятка.**

> *Стары татка, стары татка,*
> *На сьвеце нажыўся,*
> *А ты-ж, мае любінятка,*
> *Цяпер ажаніўся. (Р. 8-9. 158).*

**МИЛОВИДНЫЙ,** прыемны, мілы на погляд; **прыгожы, гладкі.**

**МИЛОСЕРДІЕ, міласэрдзе, міласэрны, міласэрнасьць.**

**МИМИКА** *ж.* умецтва тлумачыцца ня словамі, а абліччам і споківамі; **ківомігі, ківаміглівы, ківаміжнік; міміка.**

**МИНДАЛЬ** древа Amygdalus communis; **мігдал, мігдаловы.**

**МИНЕРАЛ** *м.* выкопнае, горская або каменная парода; **крышэц, крышцовы; мінэрал.**

**МИНИМУМ** *м. лац.* найменшая сколькасьць чаго колечы, вялічыня, цэннасьць; **самоменш.** *Самоменш пяць рублеў штрафу. Самоменш тры мілі.*

**МИНИСТР** *м.* найвышэйшы зьверхнік якой колечы галіны дзяржаўнага кіраўніцтва; **міністар, міністэрскі, міністэрства.**

**МИНІАТЮРА** *ж. фр.* малюнак ў вельмі малым памеры; **міньятюра.**

**МИНУС** *м.* матэматычны знак адыйманьня (—) тое чаго няма, чаго нястае; **мінус.**

**МИНУТА,** мера часу 1/60 часьць гадзіны; **мінута.**

**МИРАЖ** *м.* **марава.**

**МИРИТЬ** *каго з кім;* **гадзіць, годжаньне, годжаны, гадзіцца: яднаць.** Мірыцьу значэньні гадзіць слова заноснае з Усходу, ад маскалёў.

**МИР** *м.* нястача сваркі, звады, воражасьці; **згода, згодны, згодна.**

**МИРОВОЙ,** суд які годзіць; **сугодны, згодлівы.**

**МИРОВАЯ, сузгодчая, годчая.**

**МИРИТЕЛЬ, сузгодчык, сузгодніца, сузгаджаць.**

**МИРОДАТНЫЙ, згодадайны.**

**МИРОЛЮБЕЦ, згодалюб, згодалюбны.**

**МИРОНАРУШИТЕЛЬ, згодаруйнік, згодаруйлівы.**

**МИРОТВОРИТЬ, супакаіваць.**

**МИРНЫЙ, спакойны.**

**МИРО** *ср. црк.* пахучы алеяк: **крыжмо, крыжмаваць.**

**МИСІЯ** *ж. лац.* **пасольства; місія.**

**МИСІОНЕР** *м. лац.* **паслан*е*ц, місіян*е*р.**

**МИСТИКА** *ж. лац.* навука аб зьверх-істотным, аб скрытым; **м*і*стыка, міст*ы*чны, містыц*ы*зм.**

**МИСТИФИЦИРОВАТЬ** *каго,* **ашук*і*ваць.**

**МИСТЕРІЯ** *ж.* духоўная драма.

**МИТКАЛЬ** *ж.* ватная тканіна; **парк*а*ль, паркал*ё*вы.**

**МИТРА** *ж.* княжая а такжа архірэйская шапка; **м*і*тра.**

**МИТРАЛЬЕЗА** *ж. фр.* **карт*а*чніца.**

**МИШЕНЬ** *ж.* **прыцэл.**

**МИШУРА** *ж.* штучнае шытнае і ткацкае золата; **п*о*блеса, п*о*блесны.**

**МИФ** *м. грэцк.* **міт, мітол*ё*гія, міт*ы*чны.**

**МІАЗМА** *ж.* трутная матэрыя якая мае быць ў паветры ў часе пошасных хвароб; **міазма.**

**МІР** *м.* увесь зямельны клуб, усе людзі, ўвесь род людзкі; **сьвет, сьв*е*цкі, сьветав*ы*; ўс*е*сьвет,** увесь сьвет.

**МІРЯНИН—НКА, сьвецкі чалавек,**

**МІРЩИНА** *ж.* (communa) **грамад*а*.**

**МІРЯК, грамадз*я*нін.**

**МІРОБЫТІЕ,** стварэньне і быцьцё сьвету; **сьвета*і*стасьць, сьвета*і*сты.**

**МІРОДЕРЖИТЕЛЬ, сьветаўл*а*днік.**

**МІРОДЕР** *м.* хто абірае, абдзірае людзей; **людал*у*п, людал*у*пства.**

**МИРОТВОРЕНІЕ, сьветатв*о*рства, сьветатв*о*рца.**

**МІРОСОЗДАТЕЛЬ, сьветаствар*ы*цель.**

**МИРОСОЗЕРЦАНІЕ, сьветагл*я*д.**

**МІРОѢД** *м.* **крывап*і*вец.**

**МЛАДЕНЕЦ** *м.* **дзяц*ё*нак, раб*ё*нак, маладз*е*нчык, маладз*е*нец, н*е*змысьль.**

**МЛАДЕНСТВО, дзяц*і*нства.**

**МЛАДШІЙ, мал*о*дшы.**

**МЛЕКОПИТАЮЩІЯ**, аб стварэньнях; **сасуны**.

**МЛЕЧНЫЙ ПУТЬ**, *арх. народ.* **стан; птушыны шлях; малочны шлях.**

**МНЕМОНИКА** *м.* умецтва змацовываць памяць; **мнэмоніка**.

**МНИТЬСЯ**, млевіцца (Смаленск). *Мне млевілася, памлевілася, што бытцам нехта увышоў.*

**МНЕНІЕ** *ср.* паняцьце, погляд на што; **сподумка**. *Мая сподумка—выдаць яму пазычку. Васіль выказаў сподумку сваю. Мы здаёмся на вашэціну сподумку (Новагорадак).*

**МНИТЕЛЬНЫЙ** *чалавек,* **недаверчывы, падозрывы**, асцярожны; **спадумлівы**. *Ты асьцярожна з ім: ён чалавек спадумлівы, гатоў паўзяць сподумку што хочаш ашукаць яго.*

**МНИМЫЙ, спадумны.**

**МНИМОУМЕРШІЙ, абумершы, абумор, абуморны.**

**МНИТЬ**, **думаць.**

**МНОЖЕСТВО, множства, многасьць.**

**МНОЖЕСТВЕННЫЙ, многасьцівы.**

**МНОЖИТЬ, множыць, памнажаць.**

**МНОЖИМОЕ, множанае.**

**МНОЖИТЕЛЬ, множнік.**

**МНОЖЕНІЕ, множаньне.**

**МНОГОКРАТНЫЙ, многакротны, сукротны.**

**МНОГОЧИСЛЕННЫЙ, многалічэбны.**

**МНОГОРѢЧИВЫЙ, многамоўны.**

**МНОГОСЛОЖНЫЙ, многасускладны.**

**МНЕНЬЕ, сподум.** *На мой сподум, няхай так будзе. Як жа на твой сподум.*

**МОБИЛИЗИРОВАТЬ** *фр.* **мобілізаваць; пазганяць**, пазгон. *Пазгон наймітаў; пазгон войска*

**МОГИЛА** *ж.* яма на паховіны, мейсца дзе пахаваны нябошчык; **магіла, магілка, магільнік, магільны.**

**МОГИЛЬЩИК** *м.* той хто капае магілы; **грабар.**

**МОГУЩЕСТВО, магутнасьць, магутны, магут.**

**МОГУЩЕСТВЕННЫЙ, магутны, патужны, мацарны** (ад „моц“).

**МОДА** *ж. фр.* часовы звычай у ўзаемных стасунках людзей, вопратцы і інш.; **мода, модны, моднік—ніца.**

**МОДЕЛЬ** *м. фр.* **фармчак, формаўка, формлік; подабень, падабок.**

**МОДИФИЦИРОВАТЬ, перайначываць.**

**МОЖЖЕВЕЛЬНИК, ялавец, яленец.** *Ой, калючы ялавец, ягадкі салодкі.*

**МОЗЖИТЬ,** біць або таўчы на мязгу; **мязджыць; дрошчыць.** Першае выражае разьбіцьцё на мязгу; другое—на дрызгі, трэскі. *Раздрошчыў пярун дрэва. Раздрошчыў калена аб камень.*

**МОЗАИКА** *ж.* умецтва выкладаць арнаманты і абразы з колёровых камяшкоў; **мазаіка, мазаічны.**

**МОЗГ** *м.* матэрыя якая напаўняе чэрап чалавека і вышэйшых жывёлаў; **мозг, мазгі.** Мозг складаецца з двох палавін—*глуздоў і маджджочка* які ляжыць ў патыліцы. Ад галаўнога ідзе, па хрыбетніцы, *хрыбетны* мозг. У косьцях знаходзіцца ужо ня „мозг“, як расійцы называюць, а *шпік.*

**МОЗОЛЬ** *м.* **мазоль, мазалі мазоліць; насмурга.**

**МОЙ** *займак;* **мой, мая, маё** Мой мазоль, мая і плата. Вазьмі сваё, а да майго ня тыч носу Мая хата скраю, нічога нязнаю. Пажывеш з маё, дык забудзеш сваё.

**МОЙКА,** чыннасьць мыцьця; **мыцьцё.**

**МОКРЫЙ** *агульн. слав.* **мокры, мокнуць, макрэць, мокра, макравата, мокрасьць, макравіна, макроцьце; моклы, макрадол, макразём.**

**МОЛВИТЬ** *што,* **мовіць, мовіцца, моўны.**

**МОЛВА** *ж.* **памоўка, пагалоска; слынь; гаворка.** *Аб воўку памоўка, а воўк тут. Пагалоска, слынь пашла паміж людзей аб вайне. Не ўсякай*

*пагаласцы вер. Людзкая гаворка што хаморлівая восень. Пашла гаворка па сялу (Сержп 47).*

**МОЛ** *прысл.* **маўляў.** *Ці-ж бо, маўляў, гэта праўда. Што ты гэта, маўляў, робіш.*

**МОЛЕТОЧИНА** *ж.* тое што праедзена мольлю; **маляедзіна.**

**МОЛИТЬ** *каго, аг. сл.* **маліць, моліць, маленьне, молены, малебны, малебнік-ніца.**

**МОЛИТВА** *ж.* словы маленьня, чыннасьць маленьня; **малітва, молябка.**

**МОЛНІЯ** *ж.* агністая праява буры; спамігліваe асьвятленьне неба ў часе буры; **маланка, маладня, маланіца, маланьня; сьвігавіца; бліскаўка, бліскавіца.**

**МОЛНЕННЫЙ, МОЛНІЕНОСНЫЙ, маланічны, сьвігавічны, бліскавічны.**

**МОЛОДОЙ, малады.** *Малады малодчык чаго зажурыўся.*

**МОЛОКО,** сьвежа доенае не варанае—**сырадой;** квашанае — **кіслае малако, прастакваша;** малако робленае з канапель, маку і інш — **сочыва.** Малочныя вытвары: *сьмятана, масла, твораг, сыр.*

**МОЛОЧНІЦА** *ж.* жанка якая предае малако — **малачарка.**

**МОЛОТИТЬ** *што,* выбіваць зярно з коласа; **малаціць, малочаны, малацьба, малацьбіт.**

**МОЛОТ, МОЛОТОК** *м.* знадабьбе да біцьця, каваньня; **молат, малаток, малаточак; малатовіна,** галоўка молата; **малатавіла,** ручка молата; адмены молатаў: *кляпач, клімач, капсьцень.*

**МОЛОТЬ** расьціраць што колечы на муку; **малоць, малоцьце, меліва.**

**МОЛЧАТЬ, маўчаць, маўчаньне, маўчба, маўчанка, маўчага, маўчун, маўклівасьць, маўклівы, маўклівец.**

**МОЛЧАНІЕ** ср. **моўкля, маўчаньне, моўчнасьць, моўчадзь.**

**МОЛ** *м. фр.* насып з зямлі, **вал; гаць.**

**МОЛЬБЕРТ** *м.* малярскі паставок; **паставок, паставец.**

**МОЛЮСК** *м.* бязкостнае стварэньне, аддзел смаўжоў і ім падобных; **мякчак.**

**МОМЕНТ** *м. фр.* **момант, момантальна; міг, мігам.**

**МОНАРХІЯ** *ж. грэцк.* **манархія, манарх, манархіста.**

**МОНАСТЫР** *м. грэцк.* **манастыр, манастырскі.**

**МОНАХ** *м. грэцк.* **мніх, мнішыць, мнішка, мнішства.** У старой нашай пісьменнасьці, пачынаючы ад Кірылы Тураўскага, пісалася вышэй прыведзеная форма роўнабежна з: **манах, манашка.**

**МОНЕТА** *ж. грэцк.* звонкі грашавы знак з цэннага кову; **манэта, манэты, манэтка, манэтны.**

**МОНОГАМІЯ** *ж. грэцк.* **аднажэнства.**

**МОНОПОЛІЯ** *ж. грэцк.* **аднаторжніцтва.**

**МОНОТЕИЗМ** *м. грэцк.* **аднабожніцтва.**

**МОНОТОНІЯ** *м. грэцк.,* **аднатоннасьць.**

**МОНУМЕНТ** *м.* **помнік.**

**МОРАЛЬ** *м. фр.* **маральнасьць, маральны, маралы.**

**МОРГАТЬ, мігаць, міргаць, мірганьне, міргі, мірглі, міргун, міргула, міргуся, міргасьлепіца, мірганадніца.**

**МОРДКА** *ж.* зьвярачы твар; **мордка, мордачка, морда, мардаска, мардасы; пыза, пызька, пызаты; мурло, мурласты.**

**МОРЕ** *ср.* сабраньне горкасалёных вод ў аграмадзістых волмінах зямельнага клубу; **мора, марскі.**

**МОРЯК** *м.* чалавек які праводзіць час на моры; **марак, наморнік.**

**МОРЕПЛАВАНІЕ, мораплаваньне.**

**МОРЕНА** *фр.* уздоўжны навал камянёў, паволі ссуваных горскімі лядамі ўніз; **звал.**

**МОРКОВЬ** *ж.* расьціна Dancus carotta; **морква, моркаўка.**

**МОРОЗ** *м.* зяба, сьцюжа пры якой вада мерзьне; **мароз, марозьлівы, марозіць, моразна.**

**МОРОЖЕНОЕ** *ср.* замарожанае малако з цукрам; **зморазь.**

**МОРОСИТЬ, імжыць, крапаць.** *Дождж імжыць, крапае.*

**МОРОШКА** куст і ягада Rubus chamaemorus; **камяніца.**

**МОРС** *м.* ягадны сок; **ягадвік.**

**МОРТИРА** *ж.* кароткая гармата да кіданьня бомб і гранатаў; **мажджэр.**

**МОРЩИНА** *ж.* складка, згіб тканіны, скуры; **зморшчка, зморшчаны, зморшчыць.**

**МОСКОТИЛЬНЫЙ,** фарбярскія і рожныя аптэчныя тавары ўжываныя рамесьнікамі; **мускатэльны.**

**МОСТ** *м, агульн. слав.* **мост, масток, масьціць, маставіна.**

**МОСТКИ** *ж.* палолажыя праз ваду ці гразь дошкі для пераходу; **кладкі.**

**МОСЬКА** *ж.* парода сабак; **мопс, мопсік.**

**МОТАТЬ** *што,* навіваць ніткі, шнуры; **матаць, зматываць, змотак; матавіла** прылада да зматываньня нітак.

**МОТАТЬ** *што,* раскідаць, неразумна траціць маемасьць; **марнатравіць; мантэжыць.**

**МОТАТЬСЯ,** баўтацца зьвісаючы; **цялёпкацца.**

**МОТЫЛЬ** *м.* **мятлік, мятлічак, мятлюк;** зборна—**мятульга.**

**МОТИВ** *м. фр.* пабудчая прычына; **пабудка;** паніжэньне і павышэньне голасу пры сьпяваньні; **нота.**

**МОТИВИРОВАТЬ** *што,* змацовываць довадамі; **абасновываць, абасноўка.**

**МОХНАТЫЙ, лахматы, калматы, бахматы.**

**МОХНОНОГІЙ, лахманогі.**

**МОХРОВЫЙ, бахматы, бахмач; бахматка,** кветка у якой слычыкі перарадзіліся у пялюсткі і напаўняюць ўсю місачку.

**МОХ** *м. агул. слав.* **мох, імхо́вы, імшы́ць; амша́рына**, абшар зеросшы мохам.

**МОЦІОН** *м. фр.* **рух**, рух для здароўя: **праха́джка, гімна́стыка.**

**МОЧА** *ж.* выдзяленьне вады жывым высшым арганізмам, сікі; **мо́ча, мачы́цца.**

**МОЧИТЬ, мачы́ць, мо́чаны, мо́чыва, мачо́нік.**

**МОЧАЛА**, валокны ліповага лубу; **раго́жка.**

**МОЧКА** *ж.* нітка, валакно, пучок; кожная расьцінная рэч складаецца з валокан і пляніц, прыкл: мяса, мускулы; карані абрастаюць *пляніцамі* і праз іх пьюць волагу; **пляні́ца, плёнчык, плёнчыкі, пляні́сты; сусо́к, суські́; музо́к, музо́чкі.**

**МОЧКАТЬ, сса́ць.**

**МОЧЬ** *ж.* цялесная і духовая **сі́ла, змо́га.**

**МОШЕННИК** *м.* **прахво́ст, жу́лік.**

**МОЩИ** *мн.* астанкі сьвятога; **рэлі́квіі.**

**МОЩНЫЙ, магу́тны, магу́тнасьць.**

**МРАЗЬ, агі́да, гіда́, гі́дкасьць; плюга́ўства.**

**МРАК** *м.* цемната, нястача сьвятла; **це́мень, це́мра, цямры́чны, цямры́чнік.**

**МРАЧНЫЙ** *аб чалавеку*, **хма́рны, хамо́рны, пану́ры; цёмкі.** *Пануры чалавек; панурая пагода. Ой цёмка, цёмка на дварэ, цямчэй таго за дваром (Крачк. 20).*

**МРАЧНОСТЬ, пану́расьць.** *Панурасьць характару.*

**МРАМОР** *м.* цьвёрды і сьціслы камень вапністай пароды; **ма́рмур, мармуро́вы.**

**МРЕЖА** *ж.* **се́ць.**

**МСТИТЬСЯ**, здаецца, выдаецца, думаецца, кросіцца; **мрэе, мрэяць, мрэіцца.** *Месяц мрэе* (песен.) *Сяло мрэе за ракою. Лес мрэе ў тумане. Ящчэ на дварэ, ня мрэе. Мрэе дзеўка аб замужжы. Як пачне думаць, як пачне мрэяць.*

**МУДЬЯ** *ж.* **яллі́ты, яльцы́.**

**МУДРЫЙ** *агул. слав.* **мудры, мудрэць, мудра,**

**мудрасьць, мудраваць, мудрэц, мудраўка.**

**МУЖ** *м.* чалавек поўных гадоў, *агульн. слав.;* **муж, мужны, мужаваць, мужчына, мужык, мужнець, мужства.**

**МУЗЫКА** *ж.* **музыка, гудзьба, гудзьбіт.**

*Вы гудзьбіты не гудзіця,*
*Майго татку не будзіця.*

*(Вяс. п. Новагарад. п.)*

**МУКА, мука, мучыца, мучны, мучнік, мучавік, мучысты.**

**МУКА, мука, мучэньне, мучаньнік, мучаніцтва, мучыць.**

**МУЛЬТИПЛИКАТОР** *м.* астранамічная прылада; паваротны круг якім бяруць адразу некалькі разоў вышыню сьвяціла.

**МУМІЯ** *ж.* высушаны труп, **мумія.**

**МУНДИР** *м. ням.?* **мундур, мундураваць.**

**МУНДШТУК** *м.* трубка праз якую кураць; **муштук.**

**МУНИЦІЯ** *ж. лац.* стралецка-вайсковыя знадабьбе; **амуніція.**

**МУРАВА** *ж.* сочная густая траўка на караню; **мурог, мурожка, мурожны.** *Траўка - мурожка шаўковая.*

*Па вуліцы па шырокай,*
*Ды па мурогу па зялёнаму,*
*Сядзелі мужы, мужы чэсныя.*

*(Гомель. Ром. 8—9 с. 157).*

**МУРАВИТЬ,** пакрываць глінparam начыньне палівай; **паліваць, палівaны, паліва.**

**МУРАВЕЙ,** *м.* жамяра; **мурашка, мурашнік, муравешнік, мурашкі, мурашны.**

**МУСАТИТЬ, вацаваць.**

**МУРЛЫКАТЬ, мурчэць, муркаць, курняўкаць.**

**МУСКАТ** *м.* дрэўца Myristica moschata; **мушкат, мушкатовы.**

**МУСКУС** *м.* **піжма.**

**МУСОРЬ** *м.* астаткі, адпадкі накіданныя на зямлю;

**сьмяцьцё, сумецьце, суметнік, сьмяціць;** у Вітабшчыне кажуць яшчэ—**шума, шуметнік, шумеціць.**

**МУТИТЬ, муціць, мутны, мутнець, муць, мутаўга, мутаўка, мутасьвет; бузаваць, збузаваў.** Рабіцца нядобра, пазываць на воміт; **нудзіць; мутліць, мліць.**

**МУХА** *ж.* радавое найменьне двокрылай жамяры; **муха, мушка, мушыны.**

**МУЧИТЬ, мучыць, мучаны, мучанык, мучыцель.**

**МЧАТЬ** *каго*, хутка унасіць; **унасіць, нясьціся, нясецца; смыжыць.**

**МЫЗА** *ж. татар*; **летнішча, палецішча**.

**МЫКАТЬ,** часаць пяньку або лён на кудзелю, **часаць**; цягацца па сьвету, гора цягаць, бядаваць; **смыжыць, гараваць.**

**МЫЧКА** *ж.* кузлачок кудзелі з якога выцягаюць нітку; **смычка, смыкаць.**

**МЫЛО** *ж* **мыла, мыліць, мыльны, мылкі.**

**МЫСЛЬ** *ж.* усякі чын розуму, думка, подумка; **мысьль, мысьліць, мысьлі, мысьлёвы.**

**МЫС** *ж.* высунутая клінам часьць чаго колечы; суша высунутая гарой, языком у мора; **суга, сузок.**

**МЫТНИК** або **МЫТАРЬ,** урадовец які зьбірае падаткі; **мытнік, мытніца, камора мытная;** *стар:* **куноемец:** *Оже оурветь Немьчиць бороды бояриноу или коуноемьчи, дати емоу 5 грив. серебра (Смален. грам. 1230).* Цяпер ў народзе слова зьневажлівае: **кунойміт.** Кунойміта гэтага с хаты выганю.

> Кунойма братка кунойма,
> Аддаў сястру з дамоўя!
> Прадаў сястру беляначку,
> У чужу старонaчку.

**МЫТА** *стар.* падатак.; **мыта куніца.** Паводле граматы князя Васіля Іванавіча Смаленскага (1514), відаць, што былі—куніца міравая і свадзебная: *А мировая куница и свадебная имати по шти гро-*

*шей, а со вдовы имать по томуж, которая поидеть замуж.* З другой смаленскай граматы 1229 г., відаць, што „куна“ была нейкая дробная манэта: *Латинескомоу дати от двою капию въску весцю коуна смоленьская.*

**МЫТЬ,** ачышчаць вадой, праць і паласкаць; **мыць, мыты, мыцьцё; мыйніца,** будынак у якім мыюць.

**МЫЧАТЬ, мычэць.**

**МЫШЬ** *ж.* малы зьвярок Mus; **мыш мышыны, мышачы, мышкі, мышанё, мышкаваць.**

**МЫЩЦА,** кожная асобая цэльная часьць мяса ў целе жывёлы; **сьцягно, цягніца; мускул, мускулы, мускулярны.**

**МЫШЕЛОВКА** *ж.* **пастка.**

**МѢДЬ** *ж.* **медзь, мядзяны, мядзяк, медзіць, меднік.**

**МѢДЯНИЦА** *ж. зьмяя,* **сьлімень.**

**МѢЛ** *м.* мяккі мучысты вапеннік; **крэйда, крэйдка, крэйдаваты.**

**МѢНЯТЬ, мяняць, мяняцца, мена, менны.** *Мяняла бабка кажушок на шапку.*

**МѢРА** *ж.* **мера, мерыць.**

**МѢРИЛО, мерка, мернік.**

**МѢСИТЬ** *што,* **мясіць, мясіцца, месіва, мешаны.** *Цеста, гразь мясіць.*

**МѢСТО** *ср.* **мейсца, мяйсцовы, мяйсцоваць;** *Прыгожая мяйсцовасьць.*

**МѢСТИТЬ, месьціць, тоўпіць.**

**МѢТКО трапна.**

**МѢТКА** *на бялізне,* **вышытка.**

**МѢСТОПРЕБЫВАНІЕ, аселасьць.**

**МѢСЯЦ** *м.* час авароту месяца наўкол зямлі. **месяц, месячны; месячнік,** лунатык.

**МѢТИТЬ** *што,* **значыць, значаны, значок;** трапляць у цэль: **цэліць, лучаць.**

**МѢХ** *м.* зьвярыная скура зьнятая з поўсьцю; **кажух, кажушны, кажушнік—ніца.**

**МѢШОК** *м.* **мех, мяшок, мяшочак, мяшэчны, мяхаваты.**

**МѢШАТЬ**, зьмешываць; **мяшаць, мяшацца, мяшаніна, мяшаньне, мяшанец.**

**МѢШКАТЬ** *дзе, чым;* быць дзе доўга, не спяшацца; **барыць, барыцца; марудзіць, маруда, маруднасьць, марудзтва.** *Гэй, не барыце, хутка дарыце. Паехаў у дарожку забарыўся, прыехаў з дарожкі—не жаніўся. (Р. 8-9. 137).*

**МѢЩАНИН** *м. бел.* **мяшчанін; мяшчане,** жыхары места.

**МЯГКІЙ**, ня цьвёрды, ня пругкі; **мяккі, мякаць; мякіш, мякатнік, мякацьцё, мякніца, мякіна, мякнуць, мякчыць, мяклы.**

**МЯКИНА**, дробныя, мяккія часьці коласа; **мякіна, мякіннік;** адмены мякіны: *пялюха* (ня„плева,“а—пялюха), *лялётка* (аўсяная дробная мякіна; Смаленск.), *пяльга, палова.*

**МЯСО** *ж.* **мяса, мясісты.**

**МЯСНИК** *м.* хто тарагуе мясам; **зарубач.**

**МЯТЕЖ**, **бунт, бунтар; мутар.**

**МЯТЬ** *што,* **комкаць, комсіць; клычыць; гатліць.**

**МЯУКАТЬ**, **курняўкаць.**

**МЯЧЬ** *м.* пругкі клубік да гуляньня; **шпуляк, шпульгак; кочаўка.**

## Н.

**НААЛКАТЬСЯ, налакнуцца, нагаладацца.**

**НАБАВЛЯТЬ** *што чым або на што;* **дадаваць, дадаць, дададзены, дадатак, дадатковы.**

**НАБАЛДАШНИК** *м.* აправа на верхнім канцы ляскі; **камёлка, булдаўка, ручка, клуга.**

**НАБАТ** *м.* збуда, трывога, заклік кабзь біраўся народ; **спалох.** *Ударылі ў званы на спалох.*

**НАБАХВАЛИТЬ, нахв*а*ставацца.**

**НАБЕКРЕНЬ** *прысл.* па адзін бок; **наб*а*кір.**

**НАБЕРЕЖНАЯ** *ж.* вуліца ці дарога на беразе; **пабярэжніца, узбярэжжа.**

**НАБИВАТЬ** *што на што, чым;* **набів*а*ць.** *Набіў на калясо абод; на касу баньку.*

**НАБИВ, наб*о*йка, наб*о*істы.** *Даць набойку на абсацы.*

**НАБИЛКИ** *мн.* рама ў якую ўстаўляюць бярдо; **н*а*більні.**

**НАБЛЮДАТЬ** *што,* уважліва разглядаць, пілнаваць і заховываць; **спацік*а*ць.**

**НАБЛЮДЕНІЕ** *ср.* **спацік*а*ньне.**

**НАБЛЮДАТЕЛЬНЫЙ, спацік*а*улівы, спацік*а*улівасьць.**

**НАБЛЮДАТЕЛЬ, спацік*а*ч.**

**НАБОЖНЫЙ, паб*о*жны, паб*о*жнасьць.**

**НАБОРОЗДИТЬ** *што,* нарабіць многа барознаў; **набаразнав*а*ць набар*о*з'ць.**

**НАБОРТНЫЙ, наўспруг*о*вы.**

**НАБОРЩИК** *м.* **наб*о*ршчык.**

НАБОСО *прсл.* басан*о*ж.

НАБОТАТЬ, наліць лішне многа; **наб*у*хаць.**

**НАБРАСЫВАТЬ** *што,* **накід*а*ць, накід*а*ньне.**

**НАБРОСОК,** нарыс алуўком, квачыкам; **н*а*рыс.**

**НАБРОС, н*а*кідзь.**

**НАБУРАВИТЬ, насьвярл*і*ць.**

**НАБУХАТЬ,** раздавацца ад мокрасьці; **набр*а*кнуць; набрын*е*ць,** аб зярняці; аб прыліве сокаў: **набр*у*знуць; набр*у*злы; н*а*брузь.** „Набрузь" называюць яшчэ „бросьцю". *Дрэвы ужо пакрыліся бросьцю; г. зн. на дрэвах набрузлі пучкі. Набрузлі ўжо пукалкі кветак.*

**НАБѢГ** *вайск.* раптоўны напад малым аддзелам; **наск*о*к, наск*о*кам.**

**НАБѢДОКУРИТЬ, накурал*е*сіць.**

**НАВАЖДАТЬ** *што на каго,* **блазіць.** *Блазіць яго бес зрабіць ліхое.*

**НАВОЖДЕНІЕ** *ср.* **наслань.**

**НАВАКСИТЬ** *боты*, **наваксаваць.**

**НАВАЛИВАТЬ** *што па што*; **навалівац, накідаць.**

**НАВЕРГАТЬ** *што на што*; **нарынаць, нарынуць.**

**НАВЕРСТАТЬ** *што*, нараўняць, **нашыхтаваць, наматаць.**

**НАВЕРТЫВАТЬ** *што на што*; **накручаць, навіваць.**

**НАВЕСЕЛѢ** *прысл.* **наўзвеселі.**

**НАВЕЧЕРІЕ** *ср.* **конадзень, канодаваць.**

**НАВЗГЛЯД** *прысл.* **напогляд, насуглядзь.**

**НАВЗНИЧ** *прысл.* **нічком, ніц, ніцмя.**

**НАВИВАТЬ** *што на што*, **навіваць, навіты навой, навіток, навіцень, навітка.**

**НАВИГАЦІЯ** *ж.* **вадаплаўства, вадаплаўны.**

**НАВИДАТЬСЯ** *чаго*, **нагледзіцца, набачыцца.**

**НАВИНЧИВАТЬ** *што на што*; **нашрубовываць нашрубоўка.**

**НАВІЙ,** нябышчык; **навец, наўскі.** „Наўцом" называюць сьвежа памершага нябошчыка, а также, нябошчыка які па сьмерці ходзіць ў сваім целе ды ссе кроў (рас. в у р д а л а к, польск. u p i o r). *Навец* процістаўляецца *мярсьню*: даўно памершаму які „разсыпаўся" і ня мае ўжо цела, а паказуецца толькі як дух „сьцень" (мярсьцень, мерсьціцца, прымярэсьціўся). У данным здарэньні слова „навец„ так сама эпітэт, як і слова „сьвежаніна", „сьвежаваць", „асьвяжыць", якое ўжываецца ў тасунку да статку. Наш селянін, не скажа: „зарэзаў, забіў карову, вала„ гэта лічыцца груба, дзеля гэтага кажа: „Асьвяжыў вала, карову, барана". У мысьль гэтага непрыстойна казаць —„мярцьвец", „труп", на сьвежа памершага, а трэба казаць: „нябошчык", „навец". **Наўскі,** яму прыналежачы, прыкл. „*Няўскі Вялікдзень*" (памінкі у Праводную нядзелю). У штодзеннай мове можна чуць падобныя сказы: „*Наўца праводзілі на могілкі*". „*Наўца памылі*".

**НАВЛЕКАТЬ** *што на што, ці на каго;* **наўсьцягаць, наўсьцягнуць, няўсьцяг.**—*Наўсьцягаць на себе людзкое нездаволеньне. Ен гэтым наўсьцяг на себе бяду. Не наўсьцягай на сябе Божай кары.*

**НАВОДНЯТЬ** *што,* заліваць вадой; **авалажываць, авалога.**

**НАВОДНЕНІЕ,** разьліў вады; **паводка, разводзіца; вызліў рэк, вод.**

**НАВОЗ** *м.* **гной, гнаіць, гнойны; памёт.** *Ядуць траву ўсё памётную, а пьюць ваду—ўсё балотную. (Р. 8-9. 274).*

**НАВОЗРАСТѢ** *прысл.* **надорасьце.**

**НАВОЛАКИВАТЬ, нацягаць.**

**НАВОЛОЧКА.** *ж.* похва на падушку; **наўлечка, наўлечнік; пошаўка.**

**НАВОНЯТЬ** *чым,* **насмуродзіць.**

**НАВОРАЧИВАТЬ** *чым на што;* **навяртаць, навернуты, наваротлівы.**

**НАВОРОШИТЬ** *чаго,* **напарушыць, натрасьці.**

**НАВОРОВАТЬ** *што,* **накрасьць, накрасьці, накрасцца.**

**НАВОРСИТЬ** *сукно,* **накутраць.**

**НАВОРЧАТЬ, навурчэць.**

**НАВРАТЬ** *што каму;* **налгаць.**

**НАВРЕДИТЬ** *каму, чым;* **нашкодзіць.**

**НАВРЯД** *прысл.* **наўдачу.**

**НАВСЕГДА** *прысл.* **назаўсёды.**

**НАВСКОСЯК** *прысл.* **наўскось.**

**НАВСТРѢЧУ** *прысл.* **насустрач.**

**НАВСПЯТЬ** *прысл.* **наўсузадзь, наўзадзь.**

**НАВЬЮЧИТЬ** *што на каго,* **натрочыць.**

**НАВѢРНО** *прысл.* **напэўна.**

**НАВѢС** *ш.* **павець, паветка, паветны; наслон; застрэшак.**

**НАВѢЩАТЬ** *каго,* **наведываць, наведзіны.**

**НАВѢТ** *м.* нагавор, абмова; **напасьць напасьлівы, папасьнік-ніца.**

**НАВЯЗАТЬ** *каму што*, **начапіць.**

**НАВЯЗЧИВЫЙ, начэпны, накарасьлівы.**

**НАГАЙКА** *ж тат.* **біч, батог, гарапнік.**

**НАГЛАВНЫЙ, нагалоўны.**

**НАГЛАЖИВАТЬ** *што,* гладзіць пеглям; **пегліць.**

**НАГЛАЗНЫЙ, навочны.**

**НАГЛЫЙ, кавыглайны, кавыглай** *(Смал.);* **зухвалы, зухвальства; нахрапны, нахрапна; бязочліва.** *Зухвальству, нахраплівасьці яго меры нету.*

**НАГЛОСТЬ, зухвальства, нахрапнасьць; кавыглайства.**

**НАГЛЯДНО, наўзвочна.** *Наўзвочны выклад навук найлепшы. Наўзвочна паказаў як гэта робяць.*

**НАГНОЕНІЕ, нарыў.**

**НАГНУТЬСЯ, нахінуцца, нагнуцца.**

*Куды лозы нахінуліся,*
*Туды ветры веюць.*

**НАГОЙ, голы; нагі, нагасьць.**

**НАГОВАРИВАТЬ, намаўляць, намова.**

**НАГОЛО** *прысл.* **нашчэнт, ўдакон, зусім.**

**НАГОНОШИТЬ** *што,* **наспароміць.**

**НАГОНЯИ, чос.** *Задаць чосу.*

**НАГОРЕВАТЬ, набядаваць.**

**НАГОРНЫЙ, наўзгорны.**

**НАГОТА** *ж.* **голь, галеча; нагасьць.**

**НАГРАБИТЬ** *што, чаго;* **награбіць, нарабаваць.**

**НАГРАВИРОВАТЬ** *што,* **вырыць.**

**НАГРАЖДАТЬ** *каго,* **нагараджаць, нагарода, нагародлівы, нагародлівец.**

**НАГРАФИТЬ** *паперу,* **налінаваць.**

**НАГРЕБНОЙ, накопны.**

**НАГРОМОЗДИТЬ** *што на што,* **награм*а*дзіць.**

**НАГРУБИТЬ** *каму,* **нагрубі*я*ніць.**

**НАГРУЖАТЬ, награмазДж*а*ць, награм*о*здзіць („груз"—громазд).**

**НАГРУЗЧИК** *м.* **награм*о*здчык.**

**НАГРЫЗОК** *м.* **кус*а*нік.**

**НАГРѢВАТЬ** *што,* **награв*а*ць.** *Гэткую грыню аднэй печчу не нагрэеш. Сонца награвае пясок.*

**НАГРЯДНИК,** рагожа да пакрываньня лех; **м*а*та.**

**НАГРЯЗНЯТЬ** *памост,* **набруДж*а*ць, бр*у*дзіць.**

**НАГРЯНУТЬ** *куды,* **нагр*ы*нуць.**

**НАДАВЛИВАТЬ** *што,* **націск*а*ць.**

**НАДАЛБЛИВАТЬ, надз*ю*бываць, надз*ё*ўбываць**

**НАДБАВКА** *чаго,* **надд*а*так, надд*а*тны, надда-в*а*ць.**

**НАДБРАСЫВАТЬ** *што,* **надкід*а*ць, надк*і*дка.**

**НАДВЕРТЫВАТЬ** *што,* **надкруч*а*ць.**

**НАДВИГАТЬ** *што куды, на што;* **насув*а*ць.**

**НАДВИГАТЬСЯ, насув*а*цца, нас*о*уны.**

**НАДВЫШАТЬ** *цану,* **падвыш*а*ць.**

**НАДГЛЯДЫВАТЬ** *што, зачым;* **наглядa*а*ць.**

**НАДДѢЛЫВАТЬ** *што,* **надрабляць.**

**НАДЕЖДА** *ж.* **надз*е*я, надз*е*іцца, надз*е*йны; спадз*е*я, спадзяв*а*цца, спадз*е*йны.**

**НАДДЕРГИВАТЬ** *што,* **надск*у*бываць.**

**НАДЕРНУТЬ** *што на што,* **насторгнуць.**

**НАДЖЕЧЬ** *што,* **надпал*і*ць, надп*а*лены.**

**НАДЖАТЬ** *што,* **надц*і*снуць.**

**НАДЖАК** *м.* **шмэргель.**

**НАДЗОРНЫЙ** *хто,* **паднаглядны.**

**НАДЗИРАТЕЛЬ, дагл*я*дчык-чыца.**

**НАДКОЛ** *м.* **надшчэп, надшчапляць.**

**НАДКЛАДЫВАТЬ** *што на што;* **надклад*а*ць, надкл*а*дка.**

**НАДКОВЫРЯТЬ**; **надкалупаць, надкалыпываць.**

**НАДКОЛОТЬ** *што,* **надшчапіць.**

**НАДКУШАТЬ** *страву,* **над'есьці.**

**НАДЛЕЖАТЬ, належаць.** *Гэта справа павінна да вас належаць. Належыць зара выпаўніць загад.*

**НАДМЕВАТЬСЯ, надымацца, надуты.**

**НАДМЕННО, надута, бутна, натапорыста.**

**НАДМОГИЛЬНЫЙ** *камень,* **нагробны.**

**НАДМОРЬЕ, наўзморье.**

**НАДО, трэба.** *Трэба зрабіць. Трэба пачысьціць. Мне трэба грошы. Колькі не жыві, а паміраць трэба.*

**НАДОБНЫЙ, патрэбны.**

**НАДОБНОСТЬ, патрэбнасьць, патрэба.**

**НАДОЛГО** *прысл,* **надоўга.**

**НАДОУМИТЬСЯ, спахапіцца, наразуміцца.**

**НАДОСАДИТЬ** *каму чым,* **дадзець.**

**НАДПИЛИТЬ** *што,* **надпілаваць, надпілоўка.**

**НАДПИСЬ** *ж.* **надпіс** *м.*

**НАДПОЧВЕННЫЙ** *слой,* **надглебны.**

**НАДРАЗНИВАТЬ** *каго,* **надражняць.**

**НАДРУБЛИВАТЬ** *што,* **надсякаць, надсечаны, надсячы, надсек.** *Глыбокі надсек на дрэве.*

**НАДРЫВАТЬ** *што,* **наддзіраць.**

**НАДРЫВ** *м. белар.* **надорва.** *Надрывацца над работай.*

**НАРѢЗЫВАТЬ** *што,* **надрэзаць, надрэз.**

**НАДСАЖДАТЬ** што, каго; **надрываць, надрывацца.** *Век свой прышлося над чужой працай надрывацца.*

**НАДСАДИНА** *ж.* **шчэрба.**

**НАДСМАТРИВАТЬ** *над чым,* **наглядаць.**

**НАДСМѢТНЫЙ, надпраектны.**

**НАДСТРАИВАТЬ** *будынак,* **надбудовываць.**

**НАДСТРОЙКА** *ж.* **надбудоўка.**

**НАДСѢДАТЬ, асядаць, асувацца.**

**НАДТРАВЛИВАТЬ** *кіслацю,* **надпаляць.**

**НАДУБЛЯТЬ** *скуру,* **гарбаваць.**

**НАДУВАТЬ** *што,* **надзьмухаць, надзьмуханы;** *каго:* **ашуківаць, ашуканства, ашуканец; абакуліваць.**

**НАДУТОСТЬ, нахмыленьне, нахмыльчывы; нагмыраньне.**

**НАДЦВѢТАТЬ, надквітаць.**

**НАДѢВАТЬ** *што,* **адзяваць, адзеўны; напранаць.**

**НАДѢЛАТЬ** *чаго,* **нарабіць, наробны.**

**НАДѢЯТЬСЯ** *на што,* **спадзявацца, спадзеўны.**

**НАДѢЯННОСТЬ, спадзейнасьць.**

**НАЕДИНѢ** *прысл.* **на адзіноце.**

**НАЕЖИТЬ** *скуру,* **навожыць, насторшыць.**

**НАЕМЩИК** *м.* **наймiт.**

**НАЕМ, наймо, найманьне.**

**НАЖАРИВАТЬ** *што,* **напражываць.**

**НАЖАТЬ** *каго, што;* **націснуць.**

**НАЖДАК** *м.* **шмэргель.**

**НАЖЕЛАБЛИВАТЬ** *што,* **нажалубліваць.**

**НАЖЕЛАТЬ** усякага дабра; **нажадаць.**

**НАЖЕЧЬ** *што,* **напаліць.**

**НАЖИВАТЬ** *што,* набываць жывучы; **нажываць, нажытак.**

**НАЖИВА** *ж.* **зыск, зыскоўны.**

**НАЖИМ** *на што,* **націск.**

**НАЖУЖЖАТЬ, надзунець.**

**НАЗАВТРА** *прысл.* **назаўтра.**

**НАЗАДИ** *прысл.* **спозаду, ззаду.**

**НАЗАПЕРТИ** *прысл.* **на запоры.**

**НАЗАПРЕТѢ** *прысл.* **назабароне.**

**НАЗВАНЬЕ**, **назоў, найме, мяно.**

**НАЗВАННЫЙ**, **названы, нарачоны.**

**НАЗДРАВСТВОВАТЬСЯ** *каму,* **наздаровацца.**

**НАЗЕРКАЛИТЬ** *шкло,* **налюстрыць**

**НАЗИДАНІЕ**, **навука, навучаньне.**

**НАЗНОБИТЬ** *што, каго;* **назябіць.**

**НАЗНАМЕНОВАТЬ** *што,* **назначыць.**

**НАЗОЙЛИВЫЙ**, **даедлівы, дакучлівы.**

**НАЗОЛА** *ж.* **прыкрасьць.**

**НАЗОЛИТЬ** *бялізну,* **нажлукціць.**

**НАЗРѢВАТЬ**, **дасьпеваць, дасьпелы.**

**НАЗУБРИВАТЬ** *што,* **зубрыць.**

**НАИВНЫЙ**, **лацьваверны.**

**НАЙДЕНЫШ** *аб дзіцяці,* **знайда.**

**НАИЗВОРОТ** *прысл.* **навыварат.**

**НАИЗРОѢ** *прысл.* **навыраю.**

**НАИЗУСТЬ**, **напамяць, наўзмоў.**

**НАИМЕНОВАНІЕ**, **найменьне.**

**НАЙПАЧЕ** *прысл.* **асабліва, найболей, злашча.**

**НАИСКОСЬ** *прысл.* **наўсаксь.**

**НАКОВАЛЬНЯ** *ж.* **кувала.**

**НАКАЗЫВАТЬ** *каго,* **караць, караньне.**

**НАКАЗАНІЕ** *ср.* **кара.**

**НАКАЛИВАТЬ** *што,* **напаляць, нажарываць.**

**НАКАЛЫВАТЬ**, рабіць дзіркі; **накалываць; на-** разьбіваць дроў: **нашчапаць.**

**НАКАНУНѢ** *чаго, прысл.;* **наконадні, конадзень.**

**НАКАПЛИВАТЬ**, **награмаджаць.**

**НАКОПТѢТЬ**, **надымець, насопарыць.**

**НАКАТЫВАТЬ** *куды, чаго;* **накачываць.**

**НАКАЧИВАТЬ** *ваду,* **напамповываць.**

**НАКВОХТАТЬ**, **наквактаць.**

**НАКИДЫВАТЬ** *што,* **накідаць.**

**НАКИПЬ** што накіпела, **пена.**

**НАКИПЬ НА ГУБАХ, смага.**

**НАКЛАДЫВАТЬ** *што, куды;* **накладаць.**

**НАКЛАДНАЯ** пры тавары; **праводчая.**

**НАКЛАДНО, каштоўна, накладна.**

**НАКЛОН** *м.* **нахіл, нахіляць.**

**НАКЛОННО, пахіла.**

**НАКЛОНИТЬ, схінуць, пахінуць; скланіць.**

*Схінуў ён галовачку,*
*На праву старонячку.*

**НАКЛОНЧИВОСТЬ, пахіласьць;**

**НАКОВАЛЬНЯ, кавальня, кувала.**

**НАКОВЫЛИВАТЬ, кульгаць.**

**НАКОЖНЫЙ, наскурны.**

**НАКОЛАЧИВАТЬ** *што на што,* **набіваць.**

**НАКОЛДОВАТЬ, начараваць.**

**НАКОНЕЦ, наканец ўрэшце.**

**НАКОНЕЧНИК** *м.* **аканечнік, пупыр, канчар.**

**НАКОПЛЯТЬ, набіраць, наспароміць.**

**НАКОРЯВѢТЬ, накарэць.** *Наскарэлая анучына. Заскарэлыя рукі.*

**НАКРАХМАЛИТЬ** *што,* **наскарбліць наскорблены.**

**НАКРАСИТЬ** *чаго,* **нафарбаваць.**

**НАКРАСНѢТЬ, начырванець.**

**НАКРОШИТЬ, накрышыць, накружаць.**

**НАКРОВЕЛЬНЫЙ, настрэшны.**

**НАКРОШКА** *ж.* **цяртуха, цярушыць; кружаніна, кружаць.**

**НАКУВЫРКАТЬ, накуляць.**

**НАКУПАТЬ** *чаго,* **накупляць.**

**НАЛАГАТЬ** *што на што* **накладаць.**

**НАЛОГ** *м.* аплата, падатку наложанага на жыхарства; **налог, налогі, наложны.**

**ОБДУМЫВАТЬ** *што,* **абдумываць.**

**ОБДѢЛЫВАТЬ** *што,* **абрабляць, абробка.**

**ОБДѢЛЯТЬ** *каго,* **абдзяляць.**

**ОБЕЗГЛАВИТЬ** *каго,* **абезгаловіць, абезгалоўлены.**

**ОБЕЗГЛАЗИТЬ** *каго,* **абязвочыць.**

**ОБЕЗНАДЕЖИТЬ** *каго,* **абезнадзеіць.**

**ОБЕЗЗАБОТИТЬ** *каго,* **абезклапоціць.**

**ОБЕЗКУРАЖИВАТЬ** *каго, франц.* пазбавіць надзеі; **абезнадзеіць; агалошыць; зьбіць з панталыку.**

**ОБЕЗЛИЧИТЬ,** прыдаваць асобе агульнае значэньне, гаварыць у агульных словах, **абезасобліваць, абезасобіць.**

**ОБЕЗЛОШАДИТЬ** *каго,* **абязконіць.**

**ОБЕЗМАТЕРИТЬ** *каго,* **абязматчыць.**

**ОБЕЗНАДЕЖИТЬ** *каго,* **абезнадзеіць.**

**ОБЕЗНАРОДИТЬ** *край,* **абязлюдзіць.**

**ОБЕЗНАЧАЛИТЬ** *каго,* пазбавіць пачатку, зьверхнасьці; **абезпачаціць; абяззьвершыць.**

**ОБЕЗОБРАЖИВАТЬ** *што, чым;* **зьнепадобіць, ашпэціць.**

**ОБЕЗОПАСИТЬ** *што ад чаго;* **абясшкодзіць, забасьпечыць.**

**ОАЕЗОРУЖИВАТЬ** *каго,* **абяззбраіваць.**

**ОБЕЗПЕЧИВАТЬ** *каго чым;* **абаспячаць.**

**ОБЕЗПЛОТИТЬ** *каго,* **абезцялесіць.**

**ОБЕЗПОКОИВАТЬ** *каго, чым;* **турбаваць, непакоіць.**

**ОБЕЗПОРОЧИТЬ** *каго,* **унявінніць.**

**ОБЕЗПРІЮТИТЬ,** пазбавіць каго прытулку; **абезпрытуліць.**

**ОБЕЗСЛАВИТЬ** *каго,* **зьняславіць, зьнячэсьціць.**

**ОБЕЗСМЕРТИТЬ** *каго,* **анесьмяроціць.**

**ОБЕЗСМЫСЛИТЬ** *што,* **абнясэнсіць, зьнясэнсіць.** *Папраўкай абязсэнсілі напісанае.*

**ОБЕЗСРАМѢТЬ,** утраціць стыд, сорам; **абезсаромець.**

**ОБЕЗСУЖИВАТЬ** *каго,* **абязсуджацъ.**

**ОБЕЗЧЕСТИТЬ** *каго,* **зьняславіць, зганьбіць.**

**ОБЕЗУМИТЬ** *каго,* пазбавіць розуму; **абязцяміць, абязцямлены.**

**ОБЕЗЦВѢЧИВАТЬ** *што,* пазбаўляць колеру; **абязколерыць, абязбарліваць.**

**ОБЕЗЬЯНА** *ж.*назьваньне вялікага аддзелу млекасосных, чатырарукіх; найбольш падобны яны да чалавека; **малпа.** Жаргоннае: **налпа.**

**ОБЕРЕГАТЬ** *што,* **абараняць; ашчаджаць; аховываць.** *Абарані Божа ад прыяцеляў, а ад ворагаў сам. абаранюся. Ашчаджай капейку. Ахавай Божа ад пажару.*

**ОБЕРЕЖНО, асцярожна; ашчадна.**

**ОБЕРЕЖЛИВЫЙ** *чалавек,* **асьцярожлівы.**

**ОБЕРТКА** *ж.* **агортка; акладка.**

**ОБЕР** *м. ням.* **старшы, высшы, зьверхні, над.**

**ОБЕРКОНТРОЛЕР, надкантроль.**

**ОБЕРПРОКУРОР, надпракурор.**

**ОБЕРСЕКРЕТАРЬ, надсэкратар.**

**ОБЕЧАЙКА** *ж. усх.* бакі сіта, рэшата, шырокі плосмы лубяны абруч; **аболаўка; лубаўка.**

**ОБЖАЛОВАТЬ** *каго,* **абжаліць.** *Не абжаленых ня судзяць. Абжаліў у суд.*

**ОБЖАРИВАТЬ** *пячэню,* **апражываць; асмажываць.**

**ОБЖАТЬ** *што,* **абціснуть.**

**ОВЖЕРАВЛИВАТЬ** *асьвер,* **перасьверываць.**

**ОБЖЕСТИТЬ** *скрыню,* **аббляшыць, аббляхаваць.**

**ОБЖИТЬСЯ** *дзе,* **асталявацца.**

**ОБЖИГАТЬ** *каго, што;* **апаляць, апаляцца, апалены, апаляньне, апал.**

**ОБЖИГАТЕЛЬНАЯ** *печ,* **апалíўная.**

**ОБЖИГАЛЬЩИК,** хто апаляе гаршчкі, цэглу; **апалíўнік, апалíва.**

**ОБЖИЖАТЬ** *замеску,* **разрэдзіць, разрэджаны.**

**ОБЖИМАТЬ** *што,* **абціскаць.**

**ОБЖИНКИ** *ж. мн.* **дажынкі.**

**ОБЖУЖЖАТЬ** *пчалой,* **аббзычэць.**

**ОБЗАВОДИТЬ** *каго, чым;* **абзасобіць.**

ОБЗАВЕДЕНІЕ *ср.* **абзасобленьне, абзасобчывы;** **асталёўка.**

ОБЕЗЗАДАЧИВАТЬ *каго,* **абязцямліваць, зьбіваць с панталыку.**

**ОБЗАДЬ** *чаго, прысл.* **спазадзь, апозадзь.**

**ОБЗЕРКАЛИТЬ** *шкло,* **аблюстраваць.**

**ОЗИМЫЙ** *пасеў,* **азíмы, азíміна.**

**ОБОЗРѢВАТЬ** *што,* **аглядаць, агляд; азіраць, азірацца, азірны, азíрчывы, азíркам.**

**ОБЗНАКОМИТЬ** *каго, з кім з чым;* **азнаёміць.**

**ОБЗНИЧЬ** *ударыцца, прысл.* **наўзніч.**

**ОБЗОБАТЬ** *што, беларуск.* аб'есьці, аглыдаць клюючы; **абзобліць, абзабаць.** *Варона абзабала костку.*

**ОБИДА** *ж.* **крыўда, крыўдна, крыўдзіць, крыўднік-ніца, крыўджаны.**

**ОБИЛІЕ** *ср.* многасьць, сутасьць, дастатак; **багацьце.**

**ОБИЛЬНЫИ, багаты, багатны; аквíты.**

**ОБИЛОВАТЬ** *чым,* **багацець, багатаваць.**

**ОБИЛЬНОСТЬ, багацьце, аквíтасьць.**

**ОБИЛЬСТВОВАТЬ, багатаваць; аквітаваць.**

**ОБИНЯК** *м.* **выкрут, выкруты; абакол, абакольны, абакулы.** *Што круціш абакуламі гаворыш: гавары проста. Майстар на абакулы, ды на выкруты.*

**ОБИРАТЬ** *што,* **абіраць, абраны, абор, абíркі, абíрчывы; абдзіраць.**

**ОБИТАТЬ** *дзе (лац. Vita)* жывучы быць дзе, сяліцца; жыць.

**ОБИТАЕТСЯ,** жыве, прабывае, пасяляецца.

**ОБИТАЛИЩЕ,** жытло, дом, сяліба.

**ОБИТАТЕЛЬ,** жыхар—рка, жыхарства, жыхаркі.

**ОБИТАЕМОСТЬ,** жыхарства, аселасьць.

**ОБИТЕЛЬ,** прыбытак, прабываць; сяліба.

**ОБИХОД** *м.* гаспадарка, ужытак, дагляд.

**ОБИХАЖИВАТЬ,** даглядаць.

**ОБИХОДНЫЙ,** гаспадарчы.

**ОБКАЛЫВАТЬ** *што,* ашчэпываць, ашчапаны.

**ОБКАЛЯТЬ** *што,* абгартовываць.

**ОБКАПЫВАТЬ** *буракі,* абкапываць.

**ОБКАТЫВАТЬ** *што,* акругляць качаючы; акачываць.

**ОБКАЧИВАТЬ** *вадой,* абліваць.

**ОБКЛАДЫВАТЬ** *што, чым;* акладаць.

**ОБКЛЕВЫВАТЬ** *ягады,* абдзюбываць; дзюбаючы гладаць: забаць, зобле.

**ОБКОВЫРОВАТЬ** *што,* абкалупываць.

**ОБКОЛАЧИВАТЬ** *лёд з бочкі,* абіваць.

**ОБКОЛЕСИТЬ** *сьвет,* абкалозіць.

**ОБКОЛОТЬ** *лучыну,* ашчапаць.

**ОБКРАДЫВАТЬ** *каго,* акрадаць.

**ОБКРОШИТЬ** *што* абкрышыць.

**ОБКУТЫВАТЬ** *каго, што;* агартаць.

**ОБЛАГАТЬ** *каго* акладаць.

**ОБЛАГОРАЖИВАТЬ,** адаброчываць, акрывечываць.

**ОБЛАКО,** хмарка; болка, болачка.

**ОБЛАКОМИТЬ** *каго,* аблрсаваць.

**ОБЛАМЛИВАТЬ** *што,* абламываць, абламаны, абломак, абломчывы.

**ОБЛАСКАТЬ** *каго,* аблашчыць, аглашчыць.

**ОБЛАСТИТЬ** *човен*, апакляваўшы абіць яго драніцамі; **ашчыц*і*ць.**

**ОБЛАСТЬ** шырокая ўлада і моц; **абл*а*да**; край пад асобнай ўладой: **зямл*я*, абв*о*д;** штоколечы агульнае у рэчавістым ці духовым быце; **дзедзіна.** *Усё што знаходзіцца па-за дзедзінай розуму, яму недаступна.*

**ОБЛАТКА** лісьцік з прэснага цеста; **апл*а*так.**

**ОБЛАЧАТЬ** *каго*, **апран*а*ць, в*о*пратка.**

**ОБЛЕДЕНѢТЬ**, пакрыцца лёдам; **аблядав*е*ць.**

**ОБЛЕКАТЬ, ОБЛЕЧЬ** *каго, што*: **пакрыв*а*ць; абал*а*чываць, абал*о*чыны, абал*о*ча, абалос*і*на.**

**ОБЛЕПЕТЫВАТЬ, аблап*о*шываць.**

**ОБЛЕГЧЕНІЕ** *ср.* **п*о*льга, п*о*льгна, п*о*льгаваць.**

**ОБЛИГАЦІЯ** *ж, лац.* пазычковы білет.

**ОБЛИЧАТЬ** *каго* **вiн*і*ць, выкрыв*а*ць, высьвятляць.**

**ОБЛИЧИТЕЛЬНЫЙ,** *паступак*, **абвiняючы, высьвятляючы.**

**ОБЛИЧИТЕЛЬ, абвінав*а*тчык,** хто абвінавачуе.

**ОБЛЕСНИТЬ** *каго*, **асьляп*і*ць.**

**ОБЛИСТВЕНѢТЬ, аблісцьв*е*ць.**

**ОБЛИЦОВЫВАТЬ** *што*, **аклад*а*ць, аздабл*я*ць.**

**ОБЛОБЫЗАТЬ** *каго*, **пацалав*а*ць.**

**ОБЛУКАВИТЬ** *каго,* **абхітр*ы*ць, аблас*у*ціць.**

**ОБЛУК, ОБЛУЧЕК** *м.* выгіб, грэбень на павозках і санях; **грэбень; сяднiч*о*к.**

**ОБЛЫЙ, круглав*а*ты.**

**ОБЛѢСЬЕ** *ср.* ўскрай лесу; **узл*е*сьсе.**

**ОБЛѢТО** *прысл.* **узл*е*цьце.**

**ОБМАГНИТЬ** *зялеза*, **амагнасав*а*ць.**

**ОБМАНЫВАТЬ** *каго*, **аш*у*ківаць; лудзіць; звадз*і*ць.**

**ОБМАНЧЫВЫЙ, зл*у*дны, ул*у*дны; зв*о*дны,**

**ОБМАНКА** *м. горн.*, **бл*і*нда.**

**ОБМАН** *м.* **ашуканства; злуда; звод, звадзіць.**

**ОБМАНЩИК** *м.* **ашуканец; зводнік, абакула.**

**ОБМАРАТЬ** *каго, што;* **абпэцкаць.**

**ОБМАСЛИТЬ** *што*, **аклусьціць.**

**ОБМЕЖОВЫВАТЬ** *зямлю*, **аграні́чаць, абмяжаць.**

**ОБМЕРЕТЬ, абумерці, абуморлівы.**

**ОБМЕТЫВАТЬ** *пыл*, **абмятаць, апыляць; аб** шытве: **абкідаць.**

**ОБМИНАТЬ** *што*, **аціскаць, аталачываць.**

**ОБМОЛВИТЬСЯ, абмовіцца, прагаварыцца.**

**ОБМОРОК,** *ад „абміраць“*, **абумерце; амлеласьць, амленьне.**

**ОБМОРОСИТЬ,** абпырскаць дажджом; **абпырскаць.**

**ОБМУНДИРОВАТЬ** *каго*, **абшыць. адзець.**

**ОБМУНДИРОВКА** *ж.* **абадзетак.**

**ОБМУСОРИТЬ** *падворак*, **асьмяціць.**

**ОБМѢНИВАТЬ** *што*, **абмяняць, абменены, абменны.**

**ОБМѢРЯТЬ, вымяраць, вымер.**

**ОБМЯГЧАТЬ** *што*, **абмякчаць.**

**ОБНАДЕЖИВАТЬ** *каго, чым;* **абнадзеіваць, абазпячаць.**

**ОБНАЖАТЬ** *што*, **агаляць, абнажаць.**

**ОБНАРОДЫВАТЬ** *што*, **апублі́ковываць.**

**ОБНАРУЖИВАТЬ** *што*, **выкрываць.**

**ОБНЕРЯШИТЬ** *каго*, **абнехаіць, абхаяць.**

**ОБНИМАТЬ** *каго, што*; **абыймаць, абоймы.**

**ОБЪЕМ** *м.* **абхват, абойм.**

**ОБЪЕМЛЕМОСТЬ, абымчівасьць.**

**ОБНИЩАТЬ, абяднець; згалець; абнеціца.**

**ОБНОВЛЯТЬ** *што*, **аднаўляць, аднова.**

**ОБНОВКА** *ж.* новая рэч; **абноўка.**

**ОБНОСОК** *м.* **атропак.**

**ОБНУЗДАТЬ** *каня*, **акілзаць.**

**ОБНѢЖИТЬСЯ, абкунежыцца, абакволіцца, распесьціцца.**

**ОБОБРОЧИТЬ** *каго,* **ачыншаваць.**

**ОБОБЩАТЬ** *што.* **уагульняць, уагульнены.**

**ОБОГАЩАТЬ** *каго,* **абагачаць, абагачаны.**

**ОБОГОТВОРЯТЬ** *каго,* **абагаўляць, багоміць.**

**ОБОГРѢВАТЬ** *што, каго;* **аграваць, агрэты.**

**ОБОДРЯТЬ** *каго,* **захочываць; асьмяляць.**

**ОБОДРИТЕЛЬНЫЙ, захотлівы; асьмельчывы.**

**ОБОЕОСТРЫЙ, абавостры.**

**ОБОЕСТОРОННІЙ, абастаронны, абапольны.**

**ОБОЖАТЬ** *каго,* лічыць богам, божышчам, выказываць пашану як Богу; **багоміць, абагомліваць, абагомленьне.**

**ОБОЖАТЕЛЬ** *м.* **абагоўнік, абагоуленік.**

**ОБОЖАТЕЛЬНЫЙ, абагоўлевы —вая.**

**ОБОЗНАЧАТЬ** *што,* **азначаць, азначаны.**

**ОБОЗРѢВАТЬ** *што,* **азіраць; аглядаць.**

**ОБОЗРѢНІЕ** *ср.* **агляд.**

**ОБОИ,** папера да аклеіваньня сьцен; **шпалеры.**

**ОБОКОЛ** *прысл,* **наўкол.**

**ОБОЛОЧКА, павалока, апавалока, абалонанка.**

**ОБОЛЬЩАТЬ** *каго, чым;* **звадзіць, звясьці, звод; спакушаць, спакушаны, спакусьнік—ніца; абласуціць; спаляшчаць, спалешчаны.** *Награды больш спакушаюць чым захочуюць. Знаць благі яго спакусіў, зьвёў. Зьвёў, спакусіў дзяўчыну. Абласуціў лёстачкамі ды прымілачкамі бабу. І не спаляшчай таннасьцю, я твайго тавару ня куплю.*

**ОБОМШИТЬ** *хату,* **амшыць, амшоны; амшара,** абшар заросшы мохам; **амшанік,** сьцюдзёная будоўля, але з амшонымі. сьценамі, рознага ужытку; **амшавець,** пакрыцца, парасьці мохам.

**ОБОНПОЛ** *прысл. црк.,* **патой бок.**

**ОБОНЯТЬ,** чуць носам, нюхам пах; **нюхаць, вохшыць.** *Сабака вохшыць, звохшыў сьлед.*

**ОБОНЯНІЕ** *ср.* **апавохнасьць, нюх.** *Ад сільнага катару траціцца апавохнасьць.*

**ОБОРАЧЫВАТЬ** *што,* **авяртаць, аварот; абяртаць.**

**ОБОРАНИВАТЬ** *каго, што;* **абараняць, абарона, абаронны.**

**ОБОРОТЛИВЫЙ, аваротлівы, зваротлівы.** *Аваротлівы круг. Зваротлівы чалавек.*

**ОБОРОТЕНЬ,** чалавек перакінуты ведзьмаком у воўка; **перакульшчык, ваўкалака; вукула** *(смл.).*

**ОБОРОТ** *м.* **аварот.** *Аварот каляса.*

**ОБОРКА,** абшыўка па рубу; **абрубка, фальбанка, шлярка.**

**ОБОРВАНЕЦ** *м.* **абарванец, абдзерцік, абдзіра; лахудра,**

**ОБОРУДОВАТЬ** *што,* **абастовіць, астовіць.** *Астоўленьне майстэрні дорага каштавала. Прадаецца кузьня з усей абастоўкай.*

**ОБОСОБЛЯТЬ** *каго,* **адасабляць, адасобнены.** *Кормнага кукуця (парсюка) ўжо адасобнілі, заперлі ў катух,*

**ОБОСТАЛЬ** *прысл.* **ўдосыць.**

**ОБОСТРЯТЬ** *што,* **авайстраць, авойстраны.**

**ОБОСТРЕНІЕ** *ср.* **авойстраньне.**

**ОБОЩРЯТЬ** *каго,* **заахвочываць.**

**ОБОЮДНЫЙ, абапольны, абапал.** *Абапольная віна. Абапольны грэх. Абапол дарогі пасаджаны ліпы.*

**ОБРАБАТЫВАТЬ** *што,* паляпшаць даглядам, работай; **апрацовываць, апрацоўка; абрабляць, аброблены, абробка.** *Дзікі камень абрабляюць чэшучы яго. Скуры абрабляюць квасам. Ральлю абрабляюць плугам і бараной.*

**ОБРАЗОВЫВАТЬ** *што,* надаваць кшалт, абраз; **утвараць, ствараць, вытвараць.** *За гліны вытвараюць начыньне. Італьянцы першыя стварылі*

*са статыстыкі навуку. Бераг, на загібе ракі творыць прытную сугу (мыс). Вецер натварыў з сыпучага пяску качагораў (дюн).*

**ОБРАЗОВАНІЕ**, асьвета; **адукацiя, адукаванасьць, адукаваны.** *Адукаваны чалавек не раўня прастаку. Век шаснадцаты быў у нас векам адукаванасьці. Адукацiйная праца вымагае вялікіх высілкаў.*

**ОБРАЗЕЦ** *м.* рэч паводле памеру, якасьці і падобнасьці каторай павінны быць другія рэчы; **наўзорчык, наўзорны, наўзорна, наўзор; проба, пробка; постатка.** *Постатка ножкі крэсла. Пробка гароху, аўса, сукна. Пробка, наўзорчык паперы, лёну, воўны. Наўзорны, прыкладны вучань. Наўзорны спосаб выкладу навук. Наўзорна перапісана папера, зроблена работа.*

**ОБРАЗНОСТЬ,** што уяўляецца ў форме постаці, абраза; **уяўнасьць.** *Уяўнае апісаньне прыроды. Уяўлівае апавяданьне.*

**ОБРАЗИНА** *ж.* **хара.**

**ОБРАЗДИТЬ** *црк.* **акілзаць.**

**ОБРАЗУМИТЬ** *каго,* **апамятаць; ацяміць.**

**ОБРАЗУМЧИВЫЙ, апамятлівы, ацямлівы.**

**ОБРОНИТЬ** *што,* **ськівуць, спакінуць.**

**ОБРАСЫВАТЬ** *што,* **абкідаць.**

**ОБРАЩАТЬ, абяртаць, зьвяртаць.** *Няма што зьвяртаць на яго ўвагі. Абярнуў човен ўверх дном; абярнуў міску.*

**ОБРЕВИЗОВАТЬ** *што, франц.* прагледзіць, парадак і праўднасьць рахункаў; **зрэвізаваць; спраўдзіць.**

**ОБРЕКАТЬ, ОБРЕЧЬ** *каго,* **празначаць, пасьвячаць, ахвяроўваць.**

**ОБРОЧНЫЙ** пазямельны падатак; **чынш, чыншовы, чыншавік.** Арэнда за карыстаньне нерухомасьцю адбываная даўней якой колечы „чыннасьцю", прыкл.: павоцнай, ткацкай, рымарскай, сталярскай, бондарскай,—пазьней пераведзеная на аплату грашыма.

**ОБРЕМЕНЯТЬ** *каго, чым;* **накладаць на каго цягар; ацягчаць, ацягчаньне.**

**ОБРЕМЕНИТЕЛЬНЫЙ, уцяжлівы.** *Уцяжлівыя варункі.*

**ОБРЕЧЬ** *каго,* **празначыць, пасьвяціць, ахвяраваць.**

**ОБРИТЬ** *каго,* **агаліць, аголены.**

**ОБРИСОВАНІЕ** *ср.* **абрысоўка.**

**ОБРУБАТЬ** *што,* **абсякаць, абсякацца, абсечаны, абсечнік, абсяканец.**

**ОБРУБОК** *м.* кавалак адсечаны ад цэлага; тое, што абсечана з усіх старон; **абсяканец, воцяпень; цяльпух, цяльпушок, цяльпешка.** „Цяльпушок" кавалак адсечаны ад цэлага, нешта вычасанае з цэлага.

*Люлі, люлі Цяльпешыку,*
*Звару табе кулешыку:*
*І яечнага і смачнага,*
*Аўсянога, прасячнага.*
*(Казка аб „Цяльпешыку" Дзісна).*

**ОБРУБКИ,** астаткі, адпадкі ад сячэньня; **поцяпнік, поцяпкі; аскромкі, трэскі.**

**ОБРУГАТЬ** *каго,* **аблаяць, аблаяны.** *Другі пахваліць горш чым аблаіць.*

**ОБРУЧЕНЬЕ** *ср.* **заручыны.**

**ОБРУЧАЛЬНЫЯ** *пярсьцёнкі,* **заручныя.**

**ОБРУЧЕНИК-ЧЕНИЦА, заручнік-ніца.**

**ОБРУШАТЬ** *што,* рыючы зваліваць; **абрынаць. абрынацца.** *Абрынуўся бераг ракі, скрай гары. Абрынуўся дом, абрынулася сьцяна, страха. Лёд абрынуўся і ледзь мы не патапіліся. Ен спохапу ды са злосьці тэй на мяне абрынуўся.*

**ОБРЫВАТЬ** *што,* **акапываць.**

**ОБРЫВАТЬ** *што,* рвучы аддзяляць; **абрываць, абрываньне, абарваць, абарванец, абрывак, абрыўны.**

**ОБРИЗГИВАТЬ** *каго, што;* **апырсківаць; абрызгаць, абрызнуць.**

**ОБРѢЗЫВАТЬ** *што,* **абраз*а*ць, абрэз; абці*на*ць, абцяты.**

**ОБРѢЗАНЕЦ** *м.* над кім выпоўнены абрад абразаньня; **абраз*а*нец.**

**ОБРѢЗ** *м.* **абрэз, абц*і*н.**

**ОБРѢТАТЬ** *што,* **набыв*а*ць; знах*о*дзіць, вынах*о*дзіць.**

**ОБРѢТЕНІЕ, наб*ы*так; знах*о*дка.**

**ОБРЮЗГНУТЬ,** ацячы, аплыць на целе; **аз*ы*знуць, абр*а*кнуць.**

**ОБРЯДИТЬ** *што,* **прыбр*а*ць.**

**ОБРЯД,** заведзены правам або звычаям парадак; **абр*а*дак, абрад*о*вы; цэраманьял, цэрам*о*нія.**

**ОБСАЖИВАТЬ, ОБСАЖДАТЬ** *што, чым;* **абсадж*а*ць, абс*а*джаны, абс*а*да, абсяд*а*ць.**

**ОБСАЛИВАТЬ** *што,* **аклушч*а*ць.**

**ОБСАСЫВАТЬ** *што,* **абсыс*а*ць.**

**ОБСАХАРИТЬ** *што,* **абцкурав*а*ць.**

**ОБСЕЛИТЬ,** *мяйсцовасьць;* **абсял*і*ць.**

**ОБСЕМЕНИТЬ** *поле,* **абс*е*яць, абс*е*вак.**

**ОБЕРВАЦІЯ** *ж. лац.* **спацік*а*ньне.**

**ОБСЕРВАЦІОННЫЙ, спацік*а*ўчы.**

**ОБСЕРВАТОР** *м.* **спацік*а*ч.**

**ОБСИДІАН** *м.* вульканічнае шкло.

**ОБСИДѢТЬСЯ, абс*е*дзіцца.**

**ОБСКУРАНТ** *м. лац.* вораг адукацii, асьветы народу; **каст*ы*рнік.**

**ОБСЛАЩАТЬ** *стравы,* **асал*а*джываць.**

**ОБСЛУШИВАНІЕ** *ср.* **аслух*а*ньне.**

**ОБЛѢДОВАТЬ** *што,* **абазн*а*ць, абазн*а*ньне; спасач*ы*ць, спас*о*чаны, спас*о*чнік-ніца, апас*о*ка, спосач.** *Апасочылі ўсю аколіцу і нідзе не знашлі злодзеяў. Мальцы такі спасачылі дзе курыца нясецца. Пан загадаў нам апасочыць ўсю пушчу каб даведацца ў якім оступе мядзьведжае лагво. (Пружаны).*

**ОБСНАЩИВАТЬ** *вадаплаў*; **аснаджаць, аснада.**

**ОБСОБИТЬ** *што,* **прысобіць, асвоіць.**

**ОБСОВЫВАТЬСЯ, асувацца.**

**ОБСТАВИТЬ** *што, чым*; **абставіць, астовіць.** *Абставіў лавы гаршкамі. Астовіў ўсю хату болдамі, стаўцём.*

**ОБСТАНОВКА,** акружаючыя, каго ці што людзі, рэчы, варункі; **абастоўка; варункі, акольнасьць.** *У гэткай абастоўцы, варунках, акольнасьцях цяжка працаваць.*

**ОБСТАИВАТЬ** *каго,* **адстаіваць; заступацца, заступаць.** *Заступацца за свае правы, за сваю справу. Нябось, я цябе адстаю перад начальствам (зьверхнасьцю),*

**ОБСТОЯТЕЛЬНЫЙ** *чалавек,* **надзейны; пэўны.**

**ОБСТОЯТЕЛЬСТВА, акольнасьці, варункі.** *Акольнасьці, варункі не далі мне свабоды рухаў. Гэта акольнасьць прымусіла мяне пераменіць сваю подумку.*

**ОБСТЕГАТЬ** *каго,* **абсьцябаць, абхлястаць.**

**ОБСТРОГАТЬ** *дашку,* **астругаць.**

**ОБСТРАДАТЬСЯ, агоўтацца, абцярпецца.**

**ОБСТРАИВАТЬ** *дом,* **аббудовываць, аббудоўка, аббудавацца.**

**ОБСТРОЧИТЬ** *каўнер,* **абштабнаваць.**

**ОБСТРУКЦІЯ** *ж. лац. лек.* зацьвердзь, завал у кішкох; **зацьвердзь.**

**ОБСТУПАТЬ** *каго,* **аступаць, аступлены, оступ.**

**ОБСУЖДАТЬ** *што,* абдумываючы абгаварываць што; **абмярковываць, абмяркаваньне, абмяркацыя.**

**ОСУЖДЕНІЕ** *ср.* абвіняць каго судом; хаяць абгаворамі; **осуд, асуджаць, асуда, асуднік—ніца, асудны.**

**ОБСУРГУЧИВАТЬ** *ліст,* **абляковываць.**

**ОБСУСЛИТЬ, асьлінявіць.**

**ОБСУШИВАТЬ** *тто,* **асушаць.**

**ОБСЧИТЫВАТЬ** *каго*, **аблічаць.**

**ОБСЫПЫВАТЬ** *каго, чым*; **абсыпаць.**

**ОБСѢМЕНЯТЬ** *поле*, **абсяваць, абсевак, абсеў, абсеўны** абшар.

**ОБСѢНЯТЬ** *што*, **азасьціць.**

**ОБТАЧИВАТЬ**, на такарным пастаўцу; **абтачываць, абточаны.**

**ОБТЕСАТЬ** *бэльку*, **абчасаць.**

**ОБТРЕСКАТЬСЯ** аб рэчы; **абшчапацца.**

**ОБТЯГИВАТЬ** *што чым*, **абцягаць; апінаць.**

**ОБТЯЖКА, напінка, напін.**

**ОБТЯЖНЫЯ** *гузікі*, **абапонныя.**

**ОБУВАТЬ** *каго*, **абуваць, азуваць.**

**ОБУВЬ** *ж.* **абутак, абуваць.**

**ОБУГЛИВАТЬ** *што*, **авогліваць, абвоглены, абвогліць.**

**ОБУЕВАТЬ, ОБУЯТЬ** *каго*, **агалчаць.** *Хцівасьць агалошыла яго. Слава агалчае людзей. Агалцелы страхам, страціўся.*

**ОБСУЖДАТЬ** *што*, **амяркoвываць.**

**ОБУЗДАТЬ** *каго*, **акілзаць, абрытаць; угаманіць; паўсьцягнуць.**

**ОБУЛТЫХАТЬСЯ** *ў вадзе*, **абалохтацца.**

**ОБУМИТЬ** *каго*, **аразуміць, апамятаць.**

**ОБУРЕВАТЬ** *каго*, **абураць.** *Ветры абураюць мора. Ярасьць абурае душу.*

**ОБУСЛОВЛИВАТЬ, абварункoвываць.**

**ОБУХ** *м.* тупы зад усякай вострай прылады—сякоры, нажа; **абух, абушок, абушнік, абушына.**

**ОБУЧАТЬ** *каго, чаго*; **навучаць, навучаньне, навучаны, навучнік—ніца, навука.**

**ОБУЯТЬ, ахапіць, апанаваць.**

**ОБХАЖИВАТЬ** *розныя мейсцы*, **абхадзіць, абходжаны, абход, абходчык.**

**ОБХОЖДЕНІЕ, ОБХОДИТЕЛЬНОСТЬ, ветласьць**

**ОБХВАТЫВАТЬ** *што*, **абхапляць; абхопчывы.** *Мядзьведзь абхопчывы, ахвоч абнімацца.* **Аха-**

**пываньне, ахапаньне, ахопісты, ахапка.** *Усяго ў ахапку не забярэш. Хату ды сямью ў ахапку ня возьмеш.*

**ОБХЛЕСТАТЬ** *пугу*, **абляскаць, ахлыстаць.**

**ОБЦАРАПАТЬ** *што*, **абдзерці, абдзёрстаць.**

**ОБЧИНЯТЬ** *алувок*, абразаць борк алуўка; **астругаць.**

**ОБШАРКИВАТЬ** *што*, **асмаргаць, ашмаргаць; абшмыгаць, абшмыгтаць** локці ў вопратцы.

**ОБШИВКА** *на вопратцы*, **аблямоўка;** на *сьценах хаты:* **ашалёўка.**

**ОБШИВНИ**, шырокія сані; **розвальні.**

**ОБШЛАГ** *м. ням.* адварот на рукаве ці на грудзёх; **закарваш, закарвашы.**

**ОБЩЕНІЕ** *ср.* **лучнасьць.** *Лучнасьць людзей.*

**ОБЩАТЬ, ОБЩАТЬСЯ**, **лучыць, злучаць.** *Не лучы гэтых людзей разам. Ня злучай маіх спраў са сваімі. Не прылучай чужога. Дзьве палавіцы гораду разлучаны ракой.*

**ОБЩЕЕ** *ср.* **агульнае, супольнае.** *Агульная міса.*

**ОБЩНО** *з кім*, **лучна, супольна.**

**ОБЩНОСТЬ**, **агульнасьць, сумеснасць, супольнасьць.**

**ОБЩИТЕЛЬНЫЙ** *чалавек*, **таварыскі, дружацкі.**

**ОБЩИНА** *ж.* злучнасьць людзей як нешта аддзельная цэлае; **грамада, грамадзкі.**

**ОБЩЕСТВО** *ср.* сабраньне людзей злучаных якімі колечы варункамі, умовамі; **суполка; таварыства.** *Суполка, таварыства дамаўласьнікоў, шаўцоў, краўцоў, выдаўцоў.*

**ОБЩЕСТВЕННЫЙ**, **грамадзкі.**

**ОБЩЕИЗВѢСТНЫЙ, агульнаведамы.**

**ОБЩЕДОСТУПНОЕ** *відовішча*, **агульнадаступнае.**

**ОБЩЕЖИТІЕ, сужывецтва; інтарнат.**

**ОБЩЕНАРОДНЫЙ. ўсенародны.**

**ОБЩЕПОЛЕЗНОЕ, агульнакарыснае.**

**ОБЩЕПОНЯТНОЕ, агульназразумелае.**

**ОБЩЕУПОТРЕБИТЕЛНОЕ, агульнаўжытнае.**

**ОБЩЕЛКАТЬ, аблузгаць.**

**ОБЩИПЫВАТЬ** *гусю*, **скубаць, аскубываць.**

**ОБЪЕДИНЯТЬ** *што*, **спалучаць, злучаць; садначываць; аб'едныываць.**

**ОБЪЕКТ** *м. лац.* **знадабень, знадбень; самасьць.**

**ОБЕКТИВ** *м.* шкло падзорнай трубы, зьвернутае да рэчы.

**ОБЪЕКТИВНЫЯ** *азнакі*, якія могуць быць спаціканы глядачом; *суб'ектывные*, чуюцца самім аб'ектам.

**ОБЪЕКТИВНОСТЬ** *пагляду, апісаньня*; праўдная, безстаронная перадача, без асабістага удзелу.

**ОБЪЕМИСТЫЙ, абоймісты, абоймістасьць.**

**ОБЪЕМ** *чаго*, **абойм, абойма, абоймы.**

**ОБЪЂЗЖАТЬ** *што*, **аб'язджаць.**

**ОБЪЮНЂТЬ** *на вясну*, **амаладзець**

**ОБЪЯВЛЯТЬ** *што*, **апавяшчаць, аглашаць.**

**ОБЪЯВЛЕНІЕ** *ср.* **апавешчаньне, агалошаньне.**

**ОБЪЯСНЯТЬ** *што, каму*; **тлумачыць.**

**ОБЪЯСНЕНІЕ** *ср.* **тлумачэньне.**

**ОБ'ЯТЬ, абняць; ахлынуць.**

**ОБЫВАТЕЛЬНИЦА, абываталь-талька.**

**ОБЫКАТЬ** *да чаго*, **абвыкаць.**

**ОБЫКНОВЕНЬЕ** *ср.* **звычай, звычны; навык.**

**ОБЫКНОВЕННЫЙ, звычайны.**

**ОБЫСКИВАТЬ** *каго*, шукаць чаго ў каго; **трасьці.**

**ОБЫСК** *м.* **потрус, пяротрус, пяротрусы, пяротрусны**

**ОБЫЧАЙ, звычай, звычаі, звычайны.**

**ОБЫЩИК** *м.* **пяротрусьнік,ператрусьнік.**

**ОБѢДАТЬ**, **абедаць, абеданьне, абед; палуднаваць, палуднік.**

**ОБѢДНЯ**, царкоўная служба, літургія; **палудня, палудніца; палудзенка**, малая палудніца.

**ОБѢДНЕНЬЕ, абядненьне, абяднець.**

**ОБѢЖАТЬ** *што*, **абегчы.**

**ОБѢЛИВАТЬ** *сьцены*, **абяляць, пабяляць.**

**ОБѢЛЬНЫЕ** *селяне*, **вольныя**, звольненыя ад усякіх паслуг і падаткаў.

**ОБѢРУЧЬ** *прысл.* **абаруч, абаручны.**

**ОБѢТОВАТЬ** *што*, **ахвяраваць, азарочыць, прыракаць, прырачоны.**

**ОБѢТ** *м.* **ахвяра; зарок, зарочны, заракацца.** *Даў зарок ня піць гарэлкі. Зарочнага барана павёз у царкву на ахвяру. Заракалася сьвіньня бруды есьці.*

**ОБѢЩАТЬ** *што каму*, **абяцаць, абяцаньне, абяцацца, абяцанка.**

**ОБЯЗЫВАТЬ** *каго, чым;* **абавязываць.**

**ОБЯЗАННОСТЬ, абавязак, абавязковы; павіннасьць.**

**ОБЯЗАТЕЛЬСТВО** *ср.* **забавязаньне.**

**ОВАЦІЯ** *ж. лац.* выяўленьне каму ад грамады ўдзячнасьці; **авація.**

**ОВДОВѢТЬ, аўдавець, удовы-вая.**

**ОВЕН** *м.* **баран, барашак, баранчык.**

**ОВЕРШЕК, узвершак.**

**ОВЕС** *м.* **авёс, аўсяны, аўсянік** (блін), **аўсюг.**

**ОВИН** *м.* будоўля да сушэньня збожжа; **еўня, асець, стадола** (смл.), **клуня.** *Вось ўжо для вавашэці гатова жыта ў асеці.*

**ОВЛАДѢВАТЬ** *чым*, **аваладзець, аваладзеваць, аваладзежа.**

**ОВОД** *м.* муха Oestrus; **авадзень, аваднí: гіз, гізы.** Трэба разрожніваць *авадня, гізa і сляпня* якіх зазвычай зьмешываюць. Авадзень большы і сьвят-

лейшы за сьляпня, а гіз—меншы, касматы і цямнейшы за сьляпня.

**ОВОЩ, ОВОЩИ**, ядомые націвы і карэньні: цыбуля, капуста, буракі, морква, рэпа, агуркі, гарбузы: **гардав*і*на, гард*о*віца; сьл*е*ціва, сьл*е*ціўя; зелян*і*на.** *Сьлеціўя сёлета неўрадзіла (Слонім).*

> *У гародзе гардовіца,*
> *Цяжка дзяцюком Пятровіца:*
> *Ідзіце, дзеткі, гарду рваці,*
> *Лягчэй будзе Пятра ждаці.*
> *(Крачк. 139).*

**ОВОЩНИК** *м.* чалавек які прадае сьлеціўя, гардавіну; **сьл*е*тнік, гардаўшч*ы*к.**

**ОВРАГ** *м.* прытнабокая рытвіна, расточына ад веснавых вод; **яр, яр*у*га; раст*о*ка; сухад*о*л.**

**ОВЦА** *ж.* **авечка, ав*е*чы; ав*е*чнік, аўчч*а*рнік,** хлявец для авечак.

**ОГАРОК** *м.* **аг*а*рак, аг*а*ркі.**

**ОГВОЗДИТЬ** *скрыню,* абіць цьвякамі; **ацьвякав*а*ць.**

**ОГИБАТЬ** *што,* **агіб*а*ць, агін*а*ць, ахін*а*ць.**

**ОГЛАВЛЯТЬ** *што,* **азгал*а*ўліваць, азгал*о*ўлены.**

**ОГЛАВЛЕНІЕ** *ср.* **агал*о*вак, азагал*о*вак, азагал*о*ўны, азагал*о*ўлівы.**

**ОГОНЬ** *м. агульн. слав.;* **агонь, агн*і*сты, агняв*ы*; агняв*і*к,** камень які дае агонь; **агняв*і*ца, гар*а*чка; в*о*гнік,** запаленьне, гангрэна; **агнів*о*,** зьвяно у ланцугу, крэсіва; **в*о*гнішча,** разложаны агонь, сьлед, мейсца дзе быў разложаны агонь.

**ОГНЕДЫШУЩАЯ** *гара,* **агнез*е*йчая.**

**ОГНЕСТОЙКІЙ, ОГНЕУПОРНЫЙ, агнеадпорны.** *Агнеатпорная цэгла, будоўля.*

**ОГНЕСТРѢЛЬНЫЙ, агнястрэльчы.**

**ОГНЕННЫЙ, агн*і*сты.**

**ОГОВАРИВАТЬ** *што,* дапускаць што умоўна, ставіць варункі; **варункав*а*ць, засьцяраг*а*ць; ра-**

біць увагу, ссылку **амаўляць;** асуджаць каго завочна, **абмаўляць.**

**ОГОВОРКА** *ж.* **засьцярога.** *Трэба зрабіць засьцярогу, што падмочанага тавару ня прыймем.*

**ОГОЛАЖИВАТЬ** *каго,* **агаладжаць.**

**ОГОРОД** *м.* агароджанае мейсца, дзе садзяць гардавіну, сьлеціва; **гарод, гародны; садок.**

**ОГОРОДНИК** *м.* **агроднік, агродніцкі, агродніцтва.**

**ОГРАЖДАТЬ** *што, каго;* **асланяць.** *Ад ворага аслонішся, а ад прыяцеля не аслонішся. Аслані сябе крыжом і малітвай.*

**ОГРАДА** *ж.* **агарода, агароджа.**

**ОГРАДИТЕЛЬ** *м.* **заступнік.**

**ОГОРЧАТЬ** *каго,* **зажаляць, засмучаць, згрызьці.**

**ОГОРЧЕНІЕ** *ср.* **смутак, згрызота.**

**ОГОРОШИТЬ** *каго,* **агалошыць.**

**ОГОРСТАТЬ** *што,* **агартаць.**

**ОГРАБИТЬ** *каго,* **аграбаваць, абрабаваць, аблупіць.**

**ОГРАНИВАТЬ** *што,* **аграняць, агранка.**

**ОГРАНИЧИВАТЬ** *што,* **агранічаць, абмяжаць.**

**ОГРЕСТИ** *што,* **абграбсьці.**

**ОГУРЕЦ** *м.* расьціна і плод Cucumis sativus; **агурок, агуркі, агурэчнік; хрустак** (Гродзенск.). Націва агурэчніка, таксама як гарбузоў і іншых паўзучых называюць—*гічы.* **Агурнік,** расц. Borago offic.

**ОДЕЖДА** *ж.* ўсё чым чалавек адзяваецца; **адзеньне, адзежа, адзежка, адзежына; вопратка.** *Усей адзежы--шапка ды анучы. Без адзежы, бяз ежы, сядзелі на вежы (пабрахушка).* Адзежа падзяляецца на сподню—*бялізну* і верхнюю—*адзеньне,* або *вопратку.* Слова *„хусьцё“* літэральна тое-ж самае, што і рас. „платье“. З чужаземных пісьменнікаў даведываемся, што вопратка нашых прапрашчураў (X—XII ст.) складалася з сьвіты, бо-

таў і пушыстай шапкі. Гэты весткі пацьвярджаюцца нашымі народнымі абрадовымі песьнямі (Вялікоднымі і Калядными). Пяецца ў песьнях: „Надзень сьвіту, шоўкам шыту“. „Надзень боты Казловыя“ (адмена „хазовыя“). „Надзень шапку бабровую“. З летапісаў можна устанавіць даволі падробна склад вопраткі нашых прашчураў. Насілі „сарочкі“, „кашулі“, „сьвіты“, сьвіты падпаясывалі паясамі з мэталю або тканіны. У багацейшых паверх сьвіты плашч „корзна“, „керэя“. На нагах „боты“, „прабашні“, „чэрэвіі“; бяднейшыя насілі „лычакі“, „назутні“. На галаве “клобук“ (шапка) з пушыстым аколкам. На шыі у багатых—залатыя ланцугі, „грыўні“; у жанок у вушах „кольцы“ (завушніцы“).

**ОДЕРЕВЯНѢТЬ, адрыв*е*ць, адрывян*е*ць; адуб*е*ць, адуб*е*лы.** *Адубелі рукі ад работы, ногі ад хадоты.*

**ОДЕРЖИМЫИ, ап*а*нтаны, агалц*е*лы.**

**ОДЕСНУЮ** *чаго,* **правар*у*ч.**

**ОДИН** *м.* **адз*і*н, адн*а*, адз*і*ны, адзін*ю*сенькі, адз*і*на, адн*о*йчы; адзін*е*ц, адзін*о*кі, адзін*а*кі, адзін*а*ка, адзін*а*кавы; адзін*ак*, адзін*а*чка, адзінк*о*м, адз*і*нка, адзін*о*чна.**

**ОДНОВРЕМЕННО, аднач*а*сна, адначас*о*ва.**

**ОДНОГЛАСНЫЙ, аднагал*о*сны.**

**ОДНОДВОРЕЦ, аднах*а*тнік, засьцянк*о*вец.**

**ОДНОЗВУЧНЫИ, адназг*у*чны.**

**ОДНОЗНАЧНЫИ, сузн*а*чны.**

**ОДНОЛИЧНО, аднаас*о*бна.**

**ОДИНАКОВЫЙ, адн*о*лькавы.**

**ОДНАЖДЫ, аднакр*о*т, аднакр*о*тны.**

**ОДНОИМЕННЫЙ, суім*е*нны.**

**ОНООБРАЗНЫИ, аднаст*а*йны.**

**ОДНОРОДНЫЙ, адна*і*сты аднаякі.**

**ОДНОЦВѢТНЫИ, аднак*о*лерны, аднаб*а*рвісты.**

**ОДНАКО** *прысл.* **адн*а*ча.** *Усё добра, аднача канец благі.*

**ОДОБРЯТЬ** *што,* **пахваляць, пахвала, пахвальнік.**

**ОДОЛЖАТЬ** *каму што,* даваць у доўг; **пазычаць, пазыка;** абавязываць, рабіць каму услугу, ласку. *Пазыч мне грошы. Апазычыўся, запазычыўся кругом. Узяў пазыку пад застаў. Зрабі ласку, падай мне кнігу. Не хадзі, не прасі чужой ласкі.*

*А я маю курыцу,*
*Для васпана няўзычу. (Беліца, Могіл.).*

**ОДОЛѢТЬ** *каго, што;* („доля", часьць), **асіліць, перасіліць,** **перамагчы, перамагаць, перамога, пераможлівы; адужыць.**

**ОДОНЬЯ,** ападкі, астаткі, гушча на дне; **падонкі.**

**ОДР** *м.* **ложа, лежа; пасьцель;** памост пры дрэве ў лесе, на які стаўляюць **вульлі** пшчол; сядлаватае разьвільле на дрэве; **адро.**

**ОДРЯБЛѢТЬ, ОДРЯБНУТЬ,** разкіснуць, зьвянуць і падыйсьці вадой як мёрзлая рэпа; **ахізнуць, ахізлы.**

**ОДРЯХЛѢТЬ,** стацца трухлым; **атрухлець, атрухлелы, атрухнуць; авехнуць.**

**ОДТЯЖКА, адвалочка, адвалока.**

**ОДУБИТЬ** *скуры,* **агарбаваць.**

**ОДУВАНЧИК** *расціна* Leontodon taraxacum, якога пухавістае насеньне разносіцца ветрам; **кульбаба, багатка.**

**ОДУТЛЫЙ, адутлаваты; азызлы, азызлаваты.**

**ОДУРМАНИТЬ, ачмуціць, ачмута; ачмарыць, ачмара, ачмурэлы.**

**ОДУХОТВОРЯТЬ** *што,* надаць чаму духоўны зьмест, значэньне, ажывіць духам; **адухаўляць, адухоўлены, адухоўленьне.**

**ОДУШЕВЛЕНІЕ, ажыўленьне, ажыўляць.**

**ОДЫШКА,** труднае прыгнеценае дыханьне; **удушша, удушлівы, удушлівец.**

**ОДѢВАТЬ** *каго ў што,* **апранаць, апранацца.**

**ОДѢЯЛО,** палотнішча якім акрываюцца кладучы-

ся спаць; *суконная або ватная:* **коўдра, ватола**; *палатняная:* **капа**.

**ОДѢЯЛЬНИК**, посьцілка падшываная пад коўдру; **пакрывец, прасьцірадла**.

**ОЖЕРЕЛЬЕ** *ср.* нашыйная аздоба з каменяў ці манэт; **нашыйнік, ашыйнік**.

**ОЖЕСТОЧАТЬ** *каго*, пазбавіць спачуцьця і жаласьці; **акамевіць, акамелы, акастырыцца, ачарсцьвець сэрцам.** *Акамеў сэрцам, акамелае сумленьне. Закамеў ў злосьці сваей.*

**ОЖЕСТѢВАТЬ, каржэць, калянець, дубець,** карэць, скорбнуць.

**ОЖЕЧЬ**, апаліць.

**ОЖИВЛЯТЬ** *каго*, **ажыўляць.**

**ОЖИВОТВОРЯТЬ, ажыцяўляць, ажыцёўлены.**

**ОЖИДАТЬ** *каго*, **ждаць, чакаць, чаканы.**

**ОЖИРѢТЬ, разсыцець.**

**ОЗАБОТИТЬ** *каго*, **заклапоціць, стурбаваць.**

**ОЗАБОЧЕННО**, **заклапочана, клапатліва.**

**ОЗАВОДИТЬСЯ** *чым*, **азасабліваціа, азасобіўся.** *Азасобіўся жонкай і дзеткамі.*

**ОЗАГЛАВИТЬ** *кнігу*, **азагаловіць, азагаловак.**

**ОЗАДАЧИТЬ, зумець, зумеўся, зуменьне.**

**ОЗАРИТЬСЯ** *на што*, **пагаліцца, паквапіцца.** *Паквапіўся на дармовую чарку.*

**ОЗДОРАВЛИВАТЬ** *каго*, **аздараўляць, ачуняць.**

**ОЗЕРО** *ср.* **возера, возерца, вазёрны, азярына.**

**ОЗИМЬ**, пасеў на зіму; **азіміна.**

**ОЗЛАЩАТЬ** *што*, **азалачываць, азалочаны.**

**ОЗЛОБЛЯТЬ** *каго*, **злаваць, злосьціць.**

**ОЗНАКОМИТЬ** *каго*, **азнаёміць, азнаёмленьне.**

**ОЗНАМЕНОВЫВАТЬ** *што, чым*; **азнамляць, азнамлены, азнаміцца; адзначаць, адзначаны, адзнака.**

**ОЗНОБЛЯТЬ** *пальцы, вушы, нос;* **азябляць, азяблы, азябшы**

**ОЗНОБ,** *м.* **зяб, зябкі, зябіць, празябнуць.**

**ОЗНОБЧИВЫЙ, зябкі, азяблівы.**

**ОЗОЛЯТЬ** *што,* **ажлукчаць.**

**ОЗОЛА, дакука.**

**ОЗОРСТВО, буянства, буяніць, буян.**

**ОЗРѢВАТЬ, аглядаць, агляд.**

**ОКАЙМЛЯТЬ** *што,* **аблямовываць, аблямоўка, абрамляць, абрамоўка.** *Абрамаваць рысунак.*

**ОКАМЕНѢТЬ, акамець, акамелы.**

**ОКАМЕНѢЛЫЙ, акамеўшы, скамеўшы.**

**ОКАНЧИВАТЬ** *што,* **даканчаць, даканчальна.**

**ОКОНЕЧНОСТЬ,** канец рэчы, гаворыцца аб руках і нагах; **канчына, канчыны.**

**ОКОПТИТЬ** *шкелка,* **задыміць, задымлёны.**

**ОКАРАЧИВАТЬ** *каго,* **акярэчываць, акярэчыў; ажыргаць, ажыргнуў.** *Ажыргаў каня,— абняў нагамі конскі хрыбет.*

**ОКАРАЧУНИТЬСЯ, акапуціцца, акалець.**

**ОКАРМЛИВАТЬ, акярмляць, акормлены.**

**ОКАЯННЫЙ, праклятьі, закамелы.**

**ОКАТИСТЫЙ, кругляны; букаты.**

**ОКАЧИВАТЬ, абліваць.**

**ОКЕАН** *м.* ўсесьветнае мора якое акружае ўсю цьвердзь зямельную; **акіян, акіянскі.**

**ОКИПЯТИТЬ** *што,* **акіпеніць, абварыць.**

**ОКИСАТЬ,** станавіцца кіслым; **акісаць, акіснуць; аквашывацца, аквась нуць.**

**ОКИСЛЯТЬ** *што,* **аквашываць, акісьляць, оквась.**

**ОКЛЕВЕТАТЬ** *каго,* **абмовіць, абмова; ачарніць.**

**ОКЛИКИВАТЬ** *каго,* **аклікаць.**

**ОКОВЫ, аковы.**

**ОКНО** *ср. аг. слав.*, **вакно,ваконца, ваконны.**

**ОКО** *ср. аг. слав.*, **вока, вочка, вочы, вочкі, вочніца, вочны, вачкаваты.**

**ОКОЛДОВАТЬ** *каго*, **ачараваць.**

**ОКОЛИРОВАТЬ** *яблыню*, **прышчапляць, пучкаваць.**

**ОКОЛЕСИЦА**, **акалозіца, кругабродзіца.**

**ОКОЛО**, **каля, акаля, вакол.** *Каля хаты, лесу, дарогі. Будзе каля 30 гадоў. Прыбяры акаля дому. Вакол хаты рожы, а ў хаце прыгожа.*

**ОКОЛОЗЕМНЫЙ, акалязямельны.**

**ОКОЛЫШЕК, аколак.**

**ОКОЛОТОК** *м.* **аколіца, акалічны; кругаселіца.**

**ОКОЛАЧИВАТЬ** *каго*, **абіваць.**

**ОКОЛПАЧИТЬ** *каго*, **адурыць.**

**ОКОЛТАТЬСЯ** *каля чаго*, **агоўтацца.**

**ОКОМГНОВЕНІЕ** *ср*, **воміг, вомігам.**

**ОКОНЕЧНЫЙ, даканчальны, аканечны.**

**ОКОНОПАЧИВАТЬ** *човен*, **пакляваць.**

**ОКОНТУЗИТЬ, ассадніць, садно.**

**ОКОРАЧИТЬ** *што*, **ажыргаць.**

**ОКОРНАТЬ** *каго, што*; **акуртаць, куртаты.**

**ОКОРОК** *м.* сьцягно, кумпяк з мясам; **кумпяк, кумпячына.**

**ОКОРЯВѢТЬ, заскарузнуць, заскарэць.**

**ОКОСЕВО**, дрэўца, ручка касы; **касавіла.**

**ОКОСНѢТЬ, акалець, асьцерпнуць, акрэпнуць.** *Рукі акалелі, асьцерплі, акрэплі ад сьцюжы. Нябошчык яшчэ не асьцерп, не акрэп.*

**ОКОСОЛАПИТЬ** *каго*, **акульгавіць.**

**ОКОСОГЛАЗИТЬ** *каго*, **абаднавочыць.**

**ОКОСТЕНѢТЬ**, стацца цьвёрдым як косьць; **акасьцявець, акасьцявелы, акасьцявеласьць, акастырэць, акастырыцца.**

**ОКОЧЕНѢТЬ**, акрэпнуць астыгаючы ад сьцюжы; **акрэпнуць, асьцерпнуць, адубець, акалець.**

**ОКОШКО** *ж.* **ваконца; прозарка**, малое ваконца каля дзьвярэй.

**ОКРАДЫВАТЬ** *каго,* **акрадаць, акрадзены.**

**ОКРАШИВАТЬ** *што,* **афарбовываць.**

**ОКРАСКА** *ж.* **афарбоўка.**

**ОКРЕСТ** *чаго,* **вакол.** *Вакол хаты, лесу. Вакол сьвятых чэрці плодзяцца.*

**ОКРЕЩИВАТЬ, ахрышчаць, ксціць.**

**ОКРИВЛЯТЬ** *каго,* назбавіць вока, асьляпіць на адно вока; **калечыць.** Па нашаму „крывы" можа быць толькі с пакрыўленай, пацагнутай нагой, але ніколі „крывы" ў значэньні *аднавокага.*

**ОКРИЛЯТЬ** *каго,* **акрыяць, акрыяў, акрыялі.**

**ОКРИСТАЛИЗИРОВАТЬ** *што,* **акрышталіць.**

**ОКРОВАВИТЬ** *каго, што;* **акрывавіць, акрывеніць.**

**ОКРОМСАТЬ** *што,* **абчыкрыжыць.**

**ОКРОМУХА** *хлеба,* **акраец.**

**ОКРОМЯ** *прысл.* **акром, апрыч.**

**ОКРУГЛЯТЬ** *што,* **акругляць, акругляцца, акругласьць.**

**ОКРУГ** *м.* абвод кругам; **круг.** *Небесному кругу верхотворче Господи. С небесных кроуг Гаоуриилъ слетев. Круг нябесны (зодзіяк). Круг сонечны, месячны. (Гл. „Круг").*

**ОКРУГ** *м.* мяйсцовасьць абнятая кругам інтэрасаў; **абвод; кругаколіца, кругакольны; кругаселіца, аколіца.**

**ОКРУЖИТЬ** *што,* **акружыць, акружацца, акружэнь.**

**ОКРУЧИВАТЬ** *што чым,* **акручываць, акручаць, акручаны.**

**ОКРУТНИК** *м.* **машкарнік.**

**ОКРЫЛАТѢТЬ, акрылець, акрыяць.**

**ОКТАЭДР** *м. грэцк. гэамэтр.* **васьміграннік**; клуб агранены на восем гран.

**ОКТОИХ** *м.* кніга царкоўнага сьпеву на 8 галасоў; **васмігалосьнік.**

**ОКТЯБРЬ**, дзясяты месяц году; **кастрычнік.**

**ОКУЛИРОВАТЬ** *лац.* прышчапляць воспу, дрэвы; **прышчапляць, прышчэпка, прышчэп.**

**ОКУЛИСТ** *м.* **вачавы доктар.**

**ОКУНАТЬ** *што, каго у што;* апусьціць у цечу і ўзноў выняць; **пануpаць, пануpаны, пануpыў, пануpыўся, пануpаньне.**

**ОКУПАТЬ** *што,* **акупляць.**

**ОКУРИВАТЬ** *дымам,* **акаджаць, аџьмяваць. адымляць.**

**ОКУТАТЬ** *дзяцё,* **авінуць, атуліць, агарнуць.**

**ОКУЧИВАТЬ** *бульбу, буракі;* **акапываць, абсыпаць.**

**ОЛАДЬИ**, блінчыкі; **аладкі.**

**ОЛЕНЬ** *м.* найме зьвера Cervus tarandus; **алень.**

**ОЛИСТВЕНИТЬ** *дрэвы;* **алісьцьвіць.**

**ОЛИФА** *ж.* вараны алей да маляваньня; **пакост, пакосьціць, напакосьціць.**

**ОЛИЦЕТВОРЯТЬ,** прыдаваць рэчы аблічча, прыпісываць ўласьцівасьці асобы; **уасабляць, уасабленьне, уасоблены.**

**ОЛОВО**, крушэц, мэталь, stannum; **цына, цыновы, цынаваць.** *Цыновая конаўка, талерка.* Па нашаму „волава“: Plumbum, а па расійску—„свинец“.

**ОЛТАРЬ** *м.* **аўтар, аўтарны.**

**ОЛУХ** *м.* **целяпей, пабавень.**

**ОЛЬХА** *дрэва* Alnus glutinosa; **вольха, альшына, альхоўнік, альховы.**

**ОМЕГА** *ж. грэцк.* апошняя літара грэцкай абэцады.

**ОМЕРЗИТЬ** *што, чым, каму;* **агідзіць, агіда; абрыдзіць, абрыда.**

**ОМЕРЗИТЕЛЬНЫЙ, агідліви; абрыдліви,**

**ОММОРОК** *м.* **амарока.**

**ОМОВЕНІЕ** *ср.* **абмыцьцё.**

**ОМРАЧАТЬ** *што*, зацямняць, зацяняць; **амарочываць, ахмараць, ацьмяваць.**

**ОМРАЧАТЬСЯ, хмарыцца, ацямняць.** *Ноч ацямніла зямлю. Ведамка гэта амарочыла яго. Неба ахмарылася, зыхмарылася.*

**ОМУТ** *м.* яма пад вадой у рацэ ці возеры; **вір, амут.** *У ціхім віры чэрці плодзяцца.*

*У халодным у вірочку,*
*Ўтапіў, дочку. (Гомель. Р, 8-9. 178).*

**ОНЕМѢТЬ, анямець, анямелы; ацерпнуць.** *Прыседжаная нага ацерпла. Ацерплі ад сьцюжы пальцы. Анямеў, ябязмовіў навекі.*

**ОНУЧА** *м.* **ануча, анучына, анучы; анучнік,** рызьнік, хто скупляе старое рызьзё.

**ОН** *м. заімак;* **ён, яго, ягоны; яна, яно.**

**ОНѢМИТЬ** *каго,* **аняміць, анямеласьць.**

**ОПАДАТЬ, ападаць, ападкі.**

**ОПАЗДЫВАТЬ,** прыхадзіць, прыбываць куды пазьней належнага; **пазьніцца, спазьняцца, спознены, спозьненьне.**

**ОПАИВАТЬ** *каго*, **апаіваць, апоены.**

**ОПАИВАТЬ, ОПАЯТЬ** *што*, абліць цынай; **аблютаваць, алютаваць, алютоўка.** *Трэба алютаваць дно ў бляшанцы каб не цякла.*

**ОПАЛЗЫВАТЬ, апаўзаць, апаўзаньне, апоўзьліва, апоўзьлік, апаўзень.**

**ОПАЛУБИТЬ** *човен*, **апакрыць, астрапіць.**

**ОПАЛ** *м.* цэнны камень; **апаль, апалёвы.**

**ОПАЛЫВАТЬ** *белар. лехі;* **апалываць, апалоць. пеліва.**

**ОПАЛА,** гнёў, няміласьць зьверхніка; **кара, гнеў,**

**ОПАЛЬЧИВЫЙ, запальчывы,** які хутка згараецца гневам.

**ОПАРИВАТЬ**; **абварываць вараткам.**

**ОПОРИШ** *м.* часьць адпоратага абутку; **апорак.**

**ОПАСАТЬ** *каго*, **перасьцярагаць, асьцярагаць.**

**ОПАСАТЬСЯ**, **асьцярагацца, баяцца.**

**ОПАСЕНЬНЕ**, **асьцярожнасьць, абачлівасьць.**

**ОПАСКА**, *ж.* **асьцярога, абачнасьць.**

**ОПАСНЫЙ** чаго трэба асьцярагацца; **небасьпечны, небасьпечнасьць.**

**ОПАСНОСТЬ**, **небасьпека.**

**ОПАСЛИВЫЙ** *чалавек*, **асьцярожны, абачны, боязкі.**

**ОПАХИВАТЬ** *што*, **абдзьмухаць, абвяваць, абмахіваць.**

**ОПАХАЛО**, знадабьбе для навяваньня на сябе прахалоды; **авахтаць, авахтацца, вахтар, вахтавацца.**

**ОПАШЬ** *прысл.* **ўнакідзь, ўнакідку.**

**ОПАШЕНЬ**, шырокая, вопратка; **накідка.**

**ОПАХИВАТЬ**, праводзіць баразну; **аборываць.**

**ОПАХТАНЬНЕ**, сырватка ад біцьця масла; **масьлянка, юрага.**

**ОПЕКА** *ж. аг. сл.* **апека, апякун, апякунства, апякавацца.** *Апякуецца над чужымі дзяцьмі. Бацькаўская апека найлепшая.*

**ОПЕКАТЬ**, аблажыўшы гарачым пячы; **апякаць, апяканьне, апеклы.**

**ОПЕЛЕНЫВАТЬ** *каго*, **спавіваць.**

**ОПЕЛЕНИТЬ** *што*, **пакрыць.**

**ОПЕПЕЛЯТЬ** *што*, **спаляць**; абяртаць у попел; **спапяляць, папяліць; папялыжка,** рэч спапялеўшая.

**ОПЕРА** *ж.* музыкальны драматычны **твор, на** данныя словы; **опэра;** якія называюць *лібрэтто тэкст, зьмест.*

**ОПЕРЕТКА** *ж.* музычна-сцэнічны твор жартлівага зьместу; **опэрэтка.**

**ОПЕРАЦІЯ** *м. лац.* гаспадарчае, тарговае ці іншае прэдпрыемства; часьцей разумееца лекарская помач падаваная нажом, хірургіяй; **апэрація.**

**ОПЕРЕЖИВАТЬ** *каго,* **апераджаць.**

**ОПЕРЕЛОЖѢТЬ** аб ральлі, абярнуцца ў дзірван, быць запушчанай; **задзірванець, задзірванелы.**

**ОПЕРЕНЬЕ** *ср.* **апераньне, аперания, аперыцца.** *Дзеткі ўжо аперыліся і акрыялі.*

**ОПЕРЕТЬ** *што на што;* **абаперці; прысланіць.**

**ОПЕСТРЯТЬ** *што,* **апстрыкаціць, апярэсьціць.**

**ОПЕХИВАТЬ,** адтрасаць у начоўках ашакі, луску; **апалываць.**

**ОПЕЧЬЕ,** лаўка, ляжанка пры печы; **пяколак.**

**ОПИЛИВАТЬ** *што,* **апіловываць, апілкі.**

**ОПИСЫВАТЬ** *што,* **апісываць, апісаньне, опіс.**

**ОПИСЬ,** сьпісаньне чаго; **сьпіс, сьпісовы.**

**ОПИСКА,** памылка ў пісьме; **памылка, памылковы, памыляцца.**

**ОПІЙ** *м.* згушчаны малочысты сок індыйскіх макавак; **опіум.**

**ОПЛАВЛИВАТЬ** *руду, воск, сала;* **тапіць, топлены, топкі.**

**ОПЛАКИВАТЬ** *каго, што;* **аплаківаць.**

**ОПЛАМЕНЯТЬ** *што,* **апалымляць, апалымець.** *Апалымелі ужо дровы ў печы. Апалымеў румянцам.*

**ОПЛАЧИВАТЬ** *што, каму;* **аплачываць.**

**ОПЛЕВЫВАТЬ, аплёвываць; ахарківаць, акархіваць.**

**ОПЛЕКА** *ж.* нашытка, знак на плячы; **нарамнік.** *З залатымі нарамнікамі.*

**ОПЛЕСНѢТЬ, зацьвілець.**

**ОПЛЕТАТЬ** *што,* **аплятаць, аплёт, аплецены.**

**ОПЛОДОТВОРЯТЬ, аплодняць, заплодняць,**

**запл*о*днены—ная, запл*о*д, азапладняць, азапл*о*длівы.**

**ОПЛОТ** *м.* **ап*о*ра, агар*о*да.**

**ОПЛОШАТЬ, спрамахн*у*цца, прамахн*у*цца; здрэфіць.**

**ОПЛОШНОСТЬ, нярупл*і*васьць, нядб*а*ласьць.**

**ОПЛѢШИВѢТЬ, аблыс*е*ць.**

**ОПОГАНИВАТЬ** *што,* **сплюг*а*ўліваць, сплюг*а*ўлены.**

**ОПОДЛѢТЬ, ап*о*дліцца.**

**ОПОДОЗРИТЬ** *каго,* **запасач*ы*ць, запас*о*чаны.** *Грыня запасочылі ў крадзежы. Запасочаны злодзей хоць і нявінен адпавядае.*

**ОПОДОЛЬНИК** *м.* ніз вопраткі; **пад*о*л.**

**ОПОЗДАТЬ** *куды,* **сп*о*зьніцца.**

**ОПОЗИЦІЯ** *ж. лац.* **адп*о*р, супрац*і*ўства.**

**ОПОЗНАВАТЬ** *што, беларус.* **апазнав*а*ць.** *Я апазнаў свайго украдзенага каня на рынку.*

**ОПОЗОРИТЬ** *каго,* абезславіць, асароміць; **аг*а*ньбіць, зг*а*ньбіць.**

**ОПОЛДНИ** *прысл.* **поўдзень.**

**ОПОЛИЧАТЬ** *каго,* **апас*о*чыць.**

**ОПОЛОВНЯ,** застаронак да ссыпаньня **мякіны; мяк*і*ньнік, застар*о*нак.**

**ОПОЛЧАТЬ** *каго,* падымаць народ творачы з яго войска; **азбр*а*іваць, азбр*о*йнік.**

**ОПОМНИТЬСЯ, ап*а*мятацца, ац*я*міцца.**

**ОПОНЕНТ** *м. лац.* **супрац*і*ўнік, спапрэчнік.**

**ОПОРАЖНИВАТЬ** *што,* **апаражн*я*ць, апар*о*зіць.**

**ОПОРОЧИТЬ** *каго.* **ган*і*ць, зьнясл*а*віць, хул*і*ць.** *І Бога хвалі і чорта не хулі. Ён запасочаньнем зьняслаўлены. Майго каня ніхто не зганіць, конь хоць куды! Ён навекі з г а н б і ў, зьняславіў жыцьцё сваё.*

**ОПОРОШИТЬ** *што чым,* абсыпаць пылам, мукой; **апар*у*шыць.** *Апарушыць пірог цукрам.*

**ОПОСЛѢ** *прысл.* **апасьля, посьле.** *Апасьля нас. хоць трава не расьці. Кожды разумен,—хто сьпярша, хто апасьля.*

**ОПОСТИТЬСЯ,** **аскаро́міцца.**

**ОПОСТЫТЬ, ОПОСТЫЛѢТЬ;** **дакучыць, абрыднуць.** *Абрыд як горкая рэдзька.*

**ОПОСТѢН** *прысл.* **апасьцен.**

**ОПОТРОШАТЬ,** **апатро́шыць.**

**ОПОХАБИТЬ** *каго,* **абла́яць.**

**ОПОХМѢЛЯТЬ** *каго,* **пахмяляць, пахме́льле.**

**ОПОЧИВАТЬ,** аддыхаць лежучы; **апачываць.**

**ОПОШЛЯТЬ** *што,* рабіць не цікавым, не глыбокім звычайным; **аплыгчаць, плыгкі.**

**ОПОЯСЫВАТЬ** *каго.* **апаясываць; апяразываць, аперазацца, апяразаў, апяразка.** *Я це як аперажу віцьцю. Апяражыся паясом паверх кажуха. Аперажы сноп пярэвяслам.*

**ОПРАВДЫВАТЬ** *каго,* **апраўдываць, апраўдывацца, апраўданьне.**

**ОПРАСТЫВАТЬ** *што,* **апаражняць, спаражняць.**

**ОПРАШИВАТЬ** *каго,* **выпытываць.**

**ОПРОС** *м.* **допыт.** *Круціцца як на допыце.*

**ОПРЕДѢЛЯТЬ** *што,* **акрэсьляць, азначаць, празначаць, вызначаць.**

**ОПРЕДѢЛЕНЬЕ** *ср.* **акрэсьленьне, акрэсьлены, акрэсьленасьць.**

**ОПРЕЖДАТЬ** *каго,* **апераджаць.**

**ОПРИТЧИТЬ** *каго,* **суро́чыць.**

**ОПРИЧЬ** *прысл.* **акром.**

**ОПРОВЕРГАТЬ** *што,* перавяртаць ўверх дном, **перакуляць, перакідаць;** даводзіць каму адваротнае сьпіраючыя, **зьбіваць, пярэчыць, аспярачаць, зьнепраўджаць.**

**ОПРОВЕРЖЕНІЕ** *ср.* **зьняпраўджаньне, аспярэчаньне, асьпярэчаны.**

**ОПРОКЫДЫВАТЬ** *што*, **перакуляць, перакулены, перакуліць, перакульчівы.**

**ОПРОМЕТЧИВЫЙ, парыўчы, парыўчывасьць, парыўчасьць.** *Усякую справу псуе ён сваей непаздзержнай парыўчасьцю.*

**ОПРОМЕТЬЮ** *пабег,* **кумяльгом.**

**ОПРОСТАТЬ, апаражняць, спаражніць.**

**ОПРОС, выпыт, допыт.**

**ОППОТИВѢТЬ** *каму,* **абрыднуць.**

**ОПРУДИТЬ** *раку*, **загаціць.**

**ОПРѢСНОК** *м.* **аплатак, аплаткі.**

**ОПРЯТНОСТЬ**, трываньне і трыманьне чыстасьці; **ахайнасьць, ахайны.**

**ОПТИКА** *ж.* часьць фізыкі, навука аб сьвятле, аб праявах яго і законах зроку; **оптыка.**

**ОПТИМИЗМ**, філёзофічны, кірунак які кажа што на сьвеце усё ідзе да лепшага.

**ОПТ** *м.* прадажа агулам; **агул, агулам; гурт, гуртам.**

**ОПТОВОЙ, агульны, агульніцкі; гуртовы.** *Агульніцкая крама, ў якой прадаюць тавары не ў раздроб, а агулам, гуртам.*

**ОПУСТОШАТЬ** *што, бєлар.*, апусташаць, пустошыць, **пустэчыць.**

**ОПУТЫВАТЬ** *што*, **аблутываць, аблутаць, аблутаны, аблуціна, аблута, аблутак.** *Аблуталі хлапца ды зьбілі з дарогі. Нашто аблутаўся ўвесь ніткамі. Інкалі называюць запоіны „аблуцінамі“, што, знача, аблуталі хлапца з дзеўкаю (Шаркаўшчына).*

**ОПУХОЛЬ**, апухлае месца; **пухля, пухліна.**

**ОПУЧИВАТЬ, ўздуваць, раздуваць; пушыць, апушыць.** *Апушыла карову ад маладой канюшыны. Апушыла, ўздула жывот.*

**ОПУШАТЬ** *што*, пушным або мяккім чым ашываць брыж вопраткі; **абрамаваць, абрамоўка.**

**ОПЫТ** *м.* **досьлед; спроба; практыка.**

**ОПЫТНЫЙ,** **дасьв*е*дчаны, практ*ы*чны.**

**ОПЫТНОСТЬ,** **дасьв*е*дчанасьць, практ*ы*чнасьць.**

**ОПѢЖИТЬ** *каго*, **апял*ё*сіць.**

**ОПѢШИТЬ,** растраціцца, не спахапіцца, спужацца і' страціца; **асалуп*е*ць, спатал*ы*жыцца.**

**ОПЯЛИВАТЬ** *чым, што;* **апінаць.**

**ОПЯТНАТЬ** *што*, **апляміць.** *Ягадамі аплямілі, заплямілі абрус.*

**ОПЯТЬ** *прысл.* **ізноў, узноў.** *Ен узноў прышоў прасіць. Узноў Янук расквасіў сабе нос.*

**ОПЯТИТЬ, падаць назад.**

**ОРАКУЛ** *м. лац.* прарок, мейсца дзе прар*о*чуць; **ар*а*кул.**

**ОРАЛО,** нарог у сасе ці плузе; **рал*о*.**

**ОРАНЖЕВЫЙ,** колеру аранжаў, чырвона-жоўты; **аранж*о*вы.**

**ОРАНЖЕРЕЯ** *ж. фр.* зімовы сад пад шклом.

**ОРАТОРІЯ** *ж. лац.* навука красамоўства.

**ОРАТОР** *м. лац.* красамоўца, умец гаварыць пры людзях; **прам*о*ўца.**

**ОРАТЬ,** крычаць ва ўсё горла; **гаман*і*ць, з*я*паць.** *Нехта зяпае на вуліцы, бытцам ратунку просіць. Дзеці песьні зяпаюць. Вольна чорту ў сваім балоце зяпаць.*

**ОРБИТА** *ж. лац.* кругакольны шлях плянэты каля сонца; **кругак*о*л.** Вачавая ямка ў якой ляжыць вачавое яблыка; **вачад*о*л.**

**ОРГАН** *м. лац.* **чэляс, орган;** больш а часьцёх цела ў якіх свае назначэньні прыкл.: *орган зроку*—вока, *орган слуху*—вуха.

**ОРГАНИЧЕСКІЙ,** прыналежны да аднаго з двох царстваў прыроды—расьціннага ці жывёлнага. *Арганічнымі* называюцца тыя, у якіх ёсьць аджыўляньне і траўленьне, ці ператвараньне стравы; **арган*і*чны.**

**ОРГАНИЗМ** *м. лац.* стройнае цэлае. *Арганізм чалавека,*—ўсё *ўстройства* яго цела. *Арганізм машыны,* яе устройства.

**ОРГАНИЗАЦІЯ** *ж. лац.* **устройства.**

**ОРГАНИЗАТОР—ША, устройшчык—чыца.**

**ОРГАН** *м. лац.* музычная прылада зложаная з вялікага ліку рознамерных труб; **арганы**; **арганісты,** музыка які іграе на арганах.

**ОРГІЯ** *ж. грэцк.* пьянства і распуста; **руя.** Руяй называюць кождае распуснае сабраньне, а такжа сабачае і воўчае вясельле.

**ОРДА** *ж. татар.* качуючае племя, часьць качавога народу,—арава, таўпа; **арда.**

**ОРДЕН** *м. лац.* кляса, стан кавалераў аднаго ордэнскага знаку ношанага як знак брацтва; **ордэн.** *Ордэн крыжакаў.*

**ОРДИНАРНЫЙ,** устаноўлены, заьверджаны. *Ардынарны прафэсар,* які зяцьверджаны сябрам прафэсарскай калегii (касты).

**ОРДЕР** *м.* пісаны загад, квіт; **ордэр.**

**ОРЕЛ** *м.* птах Aguila; **арол.**

**ОРЖАД, ОРШАД** *м. фр.* мігдаловае малако з цукрам; **сочыва.**

**ОРЖАНОЙ** *хлеб,* **аржаны, жытні.**

**ОРИГИНАЛ** *м. лац.* іставы, праўдзівы, ня копія, ня одпіс,—дакумант ці твор; **іставік,істак; арыгінал.**

**ОРИГИНАЛЬНЫИ,** **істы, істны; своеаблічны; асаблівы; арыгінальны.**

**ОРИКТОЛОГІЯ** *ж. грэцк.* навука пазнаваньня крушцоў са зьнешняга выгляду.

**ОРІЕНТИРОВАТЬСЯ** *франц.* **спакмячаць.** *Спрасоньня я не спакмеў дзе дзьверы, Як ужо заблудзіўся ў лесе то цяжка спакмець выхад з яго (Лужкі).*

**ОРІЕНТАЦІЯ** *на што* **спокмеўка.** *Яго не пасылай туды дзе патрэбна хуткая спокмеўка. Я ў лесе не заблуджуся, бо абладаю спокмеўкай,*

*кудой трэба ісьці (Аношка Антон, Гарманавічы)- Пайшоў на спокмеўку, на цямкі і вышаў з ле. су. Восьцер на спокмеўку.*

**ОРІОН** *м. грэцк. спагвезьдзе;* **кігачы, кічагі рагачы.** *(Пагост. Дзісн. п.).*

**ОРКЕСТР** *м. італьян.* поўнае сабраньне музыкантаў дзеля сумеснай ігры; **аркестра, спогудзьба; спогудка,** сыгрыўка некалькіх **музыкантаў.**

**ОРНАМЕНТ** *м. франц.* аздобы узорамі у будоўніцтве, рэзьбярстве; **выхілясы; сповіткі.** *Сповіткамі і выхілясамі прыбраны сьцены.*

**ОРНИТОЛОГІЯ** *ж. грэцк.* навука аб птушках, часьць гісторыі натуральнай; **птахаведаньне.**

**ОРОБѢТЬ** *усх.* прыйсьці ў замяшаньне па нясьмеласьці, спужацца; **атаропець; асалупець, злякнуцца, спатлыжыцца, спаталычыцца.** *Як зірнуў я што зладзеі ў клеці, дык спаталыжыўся і няведаў што рабіць. Мой сьведка спаталыжыўся і пачаў вярзьці нісянеціцу. (Празарокі).*

**ОРОШАТЬ** *што чым,* **аваложываць, авалога.** *Дождж аваложыў зямлю. Я ж гэту зямельку аваложываў потам сваім, а яе чужынцы забралі. (Несьвіж).*

**ОРТОПЕДІЯ** *ж. грэцк.* умецтва папраўляць калецтва чалавечага цела.

**ОРУДІЕ,** усё што пасярэднічае паміж работнікам і работай, усякая прылада, знадабьбе: малаток, піла, нож, каса, машына; **прылада.**

**ОРУЖІЕ** усякая прылада якая служыць да нападаньня і абароны; **зброя, збройны; збройнік,** хто азброены; **збройня,** склад, будынак для перахову зброі.

**ОРУЖЕЙНЫЙ, збрайнічны.**

**ОРУЖЕБОРСТВО, бітва.**

**ОРУЖЕНОСЕЦ,** даўней: **мечнік; збройчы.**

**ОРѢХ** *м. агульн. слав.* **арэх, арэшак, арэхавы, арэшнік; арэхаўка.**

**ОРѲОГРАФІЯ** *ж. грэцк.* **правопісь.**

**ОСА** *ж.* жамярыца Vespa; **асв*а*, асв*і*ны.** *Лезьці асвой у вочы. Злы як асва. Няруш асьвіннага гнязда.*

**ОСАДА** *ж. вайск.,* **аблога, аблягаць.** *Баяры лаўкі абляглі, пасыпалі золата па скамлі. Сталі аблогай вакол гораду. Полацак вытрымаў многія аблогі на сваім вяку.*

**ОСАЖИВАТЬ** *каго, што;* **ас*а*джываць.**

**ОСАНКА** *ж.* склад жывога цела і ўсіх яго рухаў; **паст*а*ва, постаць.** *Высокі, стройнай постаці.*

**ОСАННА** *црк.* **збаў, захав*а*й.**

**ОСАЧИВАТЬ** *дрэва,* выпускаць з дрэва сок, смалу, падсякаючы кругом пня кару; **асуш*а*ць.**

**ОСВИДѢТЕЛЬСТВОВАТЬ** *што,* зрабіць агляд, спраўдзіць, апазнаць ўсю праўду; **асьв*е*тчыць, асьв*е*тчаньне.**

**ОСВИРѢПѢТЬ, азьвяр*э*ць, разь*ю*шыцца.**

**ОСВОБОЖДАТЬ** *каго,* **асвабадж*а*ць, звальняць.**

**ОСВѢДОМЛЯТЬ** *каго аб чым, белар.;* **асьведаml*я*ць.**

**ОСВѢЖИТЕЛЬНЫЙ** *вецярок,* **асьвяж*а*ючы.**

**ОСВѢТАТЬ, развідн*я*ць, дн*е*ць, залач*э*ць.**

**ОСВѢЩАТЬ** *што,* **асьвятл*я*ць, асьвятл*е*ньне.** *Сонца асьвятліла зямлю. Іскрай хаты не асьветліш. Ужо саўсім на дварэ асьвятлела.*

**ОСВЯЩАТЬ** *што,* **асьвянч*а*ць, асьвянч*о*ны.**

**ОСДАБЛИВАТЬ** *страву,* **акраш*а*ць.**

**ОСЁЛ** *жывёла* Equns asinus; **ас*ё*л, асьл*і*ны, асьл*я*чы, асьл*і*ца.**

**ОСЕЛОК, брус*о*чак; гл*а*дзік.**

**ОСЕМЬЯНИТЬСЯ,** азасобіцца сямьёй; **асям*е*іцца.**

**ОСЕНЬ,** пара году паміж летам і зімой; **в*о*сень, в*о*сенны, в*о*сенскі, в*о*сеншчына, в*о*сеннік.**

**ОСИНА** дрэва Populus tremulus; **ас*і*на, ас*і*навы,**

**асовы.** *Асовыя дровы. Вядзьмаку загналі ў грудзі асовы кол.*

**ОСКАЛИВАТЬ** *зубы,* **ашчыраць, ашчырацца.** *Не ашчырай зубоў на старшых за сябе. Сабака ашчырыў зубы.* *А ш ч ы р л і в ы сабака.*

**ОСКВЕРНЯТЬ** *што,* **паганіць, паганіцца, апаганеньне; гадзіць, гадкі.**

**ОСКЛАБЛЯТЬСЯ, усьміхацца, пасьміхацца; ашчырацца.**

**ОСКОЛОК** *м.* **аскромак, аскепак, ашчэпак, дразга, шчабень.**

**ОСКОЛИТЬ** *палена,* **аскяпаць, аскепак.**

**ОСКОЛЬЗАТЬ, асклізаць, асьлізнуць.**

**ОСКОМА** *ж.* тупое ныцьцё ў зубах ад кіслага; **оскома аскамець, аскамелы; ажоса, ажоснуць, ажосьлі.**

**ОСКОРБЛЯТЬ** *каго,* **абражаць, абражацца, абразьлівы, абражаньне; зьнявага, зьняважаць, зьняважліва, зьняважаньне.** *Я не чакаў ад яго гэткай зьнявагі. Мы-ж цябе (гаспадара) не зьняважаем,—з сьвятым Вялічкам паздараўляем.*

**ОСКУДѢТЬ, абяднець, атушчэць.** *Атушчэла маё цярпеньне. Рука даючага не абяднее.*

**ОСЛОЖНЯТЬ** *што,* **блутаць, блутываць.**

**ОСЛОП** *усх. м.* **кій, палка, кол.**

**ОСЛУШАНІЕ** *ср.* **непаслушнасьць, непаслушны, непаслушлівасьць; непаслухмяны, неслух, непаслушнік, непаслухмянасьць.**

**ОСЛѢПИТЕЛЬНЫЙ** *блеск,* **асьляпляючы.**

**ОСМАТРИВАТЬ** *што,* **аглядаць, агляд.**

**ОСМОТРИТЕЛЬНЫЙ, аглядны, абачны.**

**ОСМОТРИНЫ, агледзіны.**

**ОШМЫГАТЬ** *рукавы,* **асмуніць.** „Сьмуніць" церці выціраць. *Асмуніць вяроўку, абцерці яе на круку, пасьля зьвіцьця.*

**ОСНАСТКА, аснада, аснаджаць, аснач.**

**ОСНОВЫВАТЬ** *што,* **засновываць, заснаваць, аснова; закладаць.**

**ОСНОВАТЕЛЬНЫЙ, грунтоўны.**

**ОСНОВАТЕЛЬ, заснавец, закладчык.**

**ОСНОВНОЙ, падставовы, падстаўны.**

**ОСОБЕННЫЙ, асаблiвы, асаблiвасьць.**

**ОСОБЕННО, асаблiва, злашча.**

**ОСОКОРЬ,** дрэва Polupus nivea; **белы топаль, ясакар.**

**ОСПА** *ж.* **воспа, восьпiна, восьпiца.**

**ОСПАРИВАТЬ** *каго што;* **пярэчыць, сьпiрацца; запярэчываць.** *Кождая вера пярэчыць, другой I не запярэчуй ужо, што ты там ня быў,*

**ОСПОРЩИК** *м.* **супоршчык, супорлiвец. супар.**

**ОСРАМИТЬ** *каго,* **астыдзiць, асароміць.**

**ОСТАЛЬНОЙ, астанны, астатнi.**

**ОСТАТОК** *чаго,* **астанак, у астанку.**

**ОСТАНОВКА** *ж.* **затрымка, астаноўка.**

**ОСТАИВАТЬСЯ, астаiвацца, астоiны.**

**ОСТАТНIЙ, апошнi—няе—няя.**

**ОСТЕГИВАТЬ** *што,* каго чым; **асьцёбываць,** абшываць дробна пазад iголкi; **ахлыстаць** каго пугай, дубцом. **Асьцёбываньне, восьцiбка, восьцiбны; асьцёбак,** той каго асьцябалi; адломак дубца.

**ОСТЕКЛИТЬ** *што,* **ашклiць, ашклёны.**

**ОСТЕРВЕНЕНIЕ** *ср.* **азьвярэньне.**

**ОСТЕРЕГАТЬ** *каго,* **перасьцярагаць.**

**ОСТЕРЖЕНОК** *м.* **астрыжэнь, стрыжэнь.**

**ОСТИСТЫЙ** *ячмень,* **асьцяваты.**

**ОСТОВ** *м.* аснова, корпус; **кодаб.**

**ОСТОЖЬЕ** *ср.* **стажар.**

**ОСТОЛБЕНИТЬ** *каго,* **астаўпiць, астаўпеў.**

**ОСТОЛОП** *м.* абрубак палена; **цяльпух, цяльпук; целяпей.**

**ОСТРАЩИВАТЬ** *каго ,чым;* **атстрашываць.**

**ОСТРАСТКА** *ж.* **пастрашка.**

**ОСТРИТЬ** *што,* рабiць вострым; **лязiць, iстрыць.**

**ОСТРИТЬ**, падпускаць шпількі, насьміхацца; **шкеліць, шкельнік—ніца, сашкеліў, дашкуліў.** *Абсадзі шы гэтага шкеля. Досыць табе шкелі строіць.* **Галузааацъ.** *Галузуюць паны з нашай беднасьці.*

**ОСТРЕЕ, ОСТРІЕ, вострыва, востраць.**

**ОСТРІЙ, востры, войстры.**

**ОСТРОУМІЕ** *ср.* **дасьціпнасьць, дасьціпны.**

**ОСТРОВ** *м.* кавалак сушы аколены вадой; **атока; востраў.**

**ОСТРОВИТЯНИН** *м.* **астраўчанін.**

**ОСТРИЧЬ** *каго, што;* **астрыгчы, астрыжаны.**

**ОСТРОГ** *м.* частакол з бярвеньня ўверху завостранага; **астрог.** Даўней кождая сяліба была гарадцом або **астрогам.** Гарадзецъ бываў будаваны вянцамі з вуглямі і вежамі, а астрог толькі абнесены вастраколам. Цяпер „астрог", азначае вязьніцу, турму.

**ОСТЫВАТЬ, астыгаць, асьцюдзяваць, астуда.**

**ОСУЕТИТЬ** *каго,* **зблазіць.**

**ОСУЖДАТЬ, асуджаць, абмаўляць, засуджаць.**

**ОСУЩЕСТВЛЯТЬ** *што,* **зысчаць, зысціць, зышчаньне.** *Зысціліся словы мае. Думаў пабудаваць сабе хату, але не зысьціў канодумкі сваей.*

**ОСЫРѢТЬ, аволагнуць, авільгнуць, авогнуць.** *Сена зо нач авогла.*

**ОСЬ,** асярэдзінны стрыжэнь на якім ходзіць кола; **вось, восі, васявы, васявіна.** *Кола на восі круціцца. Зямля аварачываецца каля сваей восі.*

**ОСЬМ** *лічэбн.* **восем, восьмы, васьмаваць, васьміна, васьміканцік, васьмікантнік.**

**ОСѢВКИ** *збожжа,* **высеўкі.**

**ОСѢДЛОСТЬ, аселасьць, аселы.**

**ОСѢМЕНЯТЬ** *поле,* **абсяваць, абсеянае, абсевак.**

**ОСѢРИВАТЬ,** *серчыкі,* **асярковываць.**

**ОСѢНЯТЬ, ацяняць, засьціць, асланяць.**

**ОСѢТИТЬ** *каго*, **аблутаць, ацянеціць.**

**ОСЯЗАНІЕ,** *ср.* чоў ошчупу; **ошчуп; дотык.**

**ОСЯЗАТЬ** *што*, **ашчупываць,шчупні; датыкаць.**

**ОСЯЗАЕМОСТЬ, датыкальнасьць, датыкальна.**

**ОТАПЛИВАТЬ** *печы*, **апаляць, аципляць.**

**ОТБАВЛЯТЬ** *што ад чаго*, **адыймаць.**

**ОТБАРАХТАТЬСЯ** *ад каго*, **адбалохтацца, адкараскацца.**

**ОТБЛАГОДАРИТЬ** *каму за што;* **аддзячыць, адпомніць.**

**ОТБЛАГОДѢТЕЛЬСТВОВАТЬ, аддабрадзеіць.**

**ОТБЛЕСК** *м.* **водблесь, водзіг, сполыск.**

**ОТБОЙ,** чыннасьць адбіваньня; **адбой; адвал.** *Ад пакупцоў адбою няма. Адвал вадиплава ад берагу.*

**ОТБОЛѢТЬ,** кончыць хварэць; **адхварэць.**

**ОТБОРНЫЙ,** выбраны; **адборны, адбор.**

**ОТБОЯРИТЬСЯ** *ад каго*, **адкараскацца.**

**ОТБРАНКА, спалайка, лаяць.**

**ОТБРАСЫВАТЬ** *камень*, **адкідаць, адкідлівы.**

**ОТБРОСЫ** *мн.* **адкідзьдзя, адпадкі.**

**ОТБРОСНЫЙ, адкідны, адкідак.**

**ОТБРИВАТЬ, адгаліваць, адгаліць.**

**ОТБРЯКАТЬ, адбразгаць.**

**ОТБУЧИТЬ, аджлукціць, жлукціць.**

**ОТБѢЖАТЬ** *куды*, **адбегчы, адбеглы.**

**ОТБѢСИТЬСЯ, атшалець.**

**ОТВАЖИВАТЬ** *каго*, **аднаджываць, аднадзіць, аднадка.** *Лёгка прынадзіць, ня лёгка аднадзіць. Аднадзілася сьвіня у гарох хадзіць. Кус панадны, ды кій аднадны.*

**ОТВАР** *чаго*, **адвар, адварываць.**

**ОТВЕРГАТЬ** *што*, **адрынаць, адрынуты, адрынаньне; адкідаць, адкінуты, адкіданьне.** *Не ад-*

*кідай, не адрынай просьбы нашай. Ён адрынуўся ад нас. Адрынуты ад грамады.*

**ОТВЕРЕЗИТЬ** *каго,* **аცьвярозіць.**

**ОТВЕРДѢВАТЬ, цьвярдзець, зацьвярдзелы, зацьвярдзець, зацьвярдзеласьць, зацьвердзь.**

**ОТВЕРЗАТЬ** *што,* **расчыняць.** *Зямля расчыняе нетры свае. Ен расчыніў вусны свае. Усе хлябы нябесныя расчыніліся.*

**ОТВЕРСТІЕ** *ср.* **атворына;** шчалуга, **шчалужына.**

**ОТВЕРТЫВАТЬ** *што,* **адвяртаць, адкручываць, адшрубовываць.**

**ОТВЕРТКА** *ж.* **зашрубка.**

**ОТВИВАТЬ** *нітку,* **адвіваць, адвінаць.**

**ОТВИЛИВАТЬ** *ад чаго,* **выкручывацца.**

**ОТВИНЧИВАТЬ** *што,* **адшрубовываць, адшрубоўка.**

**ОТВЛЕКАТЬ** што ад чаго, куды; адцягаць на другое мейсца; **адцягаць, адцяганьне; адвалока.**

**ОТВЛЕЧЕННОСТЬ, адвалочнасьць, адвалочны.** *Адвалочнае паняцьце. Філёзофія і мэтафізыка займаюцца адвалочнымі паняцьцямі.*

**ОТВНУТРЬ** *прысл.* **спазнутра.**

**ОТВНѢ** *прысл.* **спазне, спазнешні.**

**ОТВОДОК** *м.* **сучок,** ветка пасаджаная асобна; **чаранок.**

**ОТВОДИТЬ** *каму, што;* аддзяляць каму што, назначаць; **празначаць, назначыць.** *У пажар кватэр не назначаюць. Гэту зямлю нам назначылі, празначылі.*

**ОТВОРЯТЬ** *што,* **адчыняць, атчыняцца, атчынены, адчын, адчынлівы.**

**ОТВРАЩАТЬ** *каго, што, ад чаго;* **адвяртаць.**

**ОТВАЩЕНІЕ** *ср.* **абрыда, агіда, адраза.**

**ОТВРАТИТЕЛЬНЫЙ, адразьлівы, абрыдлівы, агідны.**

**ОТВРАТНЫЙ, адваротны.**

**ОТВРЕЩИ** *што, царк.* **адрыгнуць.**

**ОТВѢДЫВАТЬ** *чаго,* **прабаваць;** *аб ежы,* пазнаваць смак; **кушаць.** *Не спрабаўшы гора не пазнаеш і шчасьця. Не пакушаўшы не кажы што смачна. Пакушаў воўк канінкі ад хваста.*

**ОТВѢСНЫЙ, простападны; сустромы, прытны.**

**ОТВѢЧАТЬ** *каму на што;* даць адповедзь; **адпавядаць; адказываць.** *Ён мне адказаў стрэчным пытаньнем. На гэткія пытаньні, я зазвычай адпавядаю маўчаньнем. Не сьпяшай адпавядаць, сьпяшай слухаць.*

**ОТВѢЧАТЬ** *за што, за каго;* **адказываць, адказны, адказ, адказчык; адпавядальнасьць, адпавядальны.**

**ОТВѢТСТВЕННОСТЬ, адказнасьць.**

**ОТВѢТЧИК—ЧИЦА, адказчык—чыца.**

**ОТВѢШИВАТЬ,** адважываць на вагах; **адважываць, адважаць, адважыць.** *Адваж мне фунт мыла.* **Адважыць** *каго на што,* прыдаць адвагі, сьмельсьці каму. **Адвага,** сьмеласьць; **адважны, адважлівы, адважлівасьць.**

**ОТВЯЗЫВАТЬ** *што,* **адвязываць.**

**ОТВЯЗАТЬСЯ** *ад каго,* **адкасацца, адкараскацца, адстрычыцца.**

**ОТГАДЫВАТЬ** *загадку,* **адгадываць, атганаць.** *Атгані загадку. Атгані дзе мы былі (ганаць).*

**ОТДАВАТЬ** *каму, што;* **аддаваць, аддаваньне, аддатак, адданкі, аддатчык—чыцца, аддатны.**

**ОТДАВЛИВАТЬ** *што,* **адціскаць, адціскацца, адцісканьне, водціск.**

**ОТДАВНА** *прысл.* **здаўна.**

**ОТДАЛЯТЬ** *каго, што;* **аддаляць, аддалены, аддаленьне.**

**ОТДАНІЕ** *ср.* **аддатак.**

**ОТДВИГАТЬ** *што,* **адсуваць, адсунуты, адсовісты, адсоўка, адсоўны.**

**ОТДЕЖУРИТЬ, аднявацъ.**

**ОТДЕРГИВАТЬ** *што,* адрываць торгаючы; **адтыргаць, адторгнуты, адтыргнуць, адтыргнуў.** *Я яму руку падаў, а ён сваю адтыргнуў. Адстыргні фіранку.*

**ОТДИРАТЬ** *што ад чаго,* **аддзіраць, аддзіраньне, адзірчывы.**

**ОТДОЛУ** *прысл.* **сысподу.**

**ОТДОХНУТЬ, адпачыць, адпачынак.**

**ОТДРУЖИТЬ** *каму за што,* **адпомніць.**

**ОТДУТЬ** *каго,* выбіць; **аддубасіць, аткалашмаціць.**

**ОТДУНУТЬ** *што,* **аддзьмухнуць, дзьмухаць.**

**ОТДЫХАТЬ,** адпачываць пасьля працы, **адпачываць, адпачынак.**

**ОТДѢВАТЬ** *што,* **атчапляць.**

**ОТДѢЛЫВАТЬ** *што,* выканчаць якую работу; **абрабляць, аброблены; аздабляць; выладжываць.**

**ОТДѢЛКА** *ж.* **абробка; аздоба; выладка.**

**ОТДѢЛЯТЬ** *што ад чаго,* **адзяляць, адзелены, аддзел, аддзельны; адасабліваць, адасоблены, адасобленьне, адасобчывы, адасобнены, адасобак.** *У клеці ёсьць яшчэ адасобак для схову дакумантаў. Каліта с чатырмя адасобкамі. Гэта саўсім іншага адасобку рэчы. Маю справу, урэшце, адасобілі ад ягонай.*

**ОТЕКАТЬ** *вадой,* **аплываць.**

**ОТЕЛЬ** *м. франц.* **гасцінніца.**

**ОТЕПЛѢТЬ, ацяплець.**

**ОТЕРЕТЬ** *што аб што,* **асморгаць, асмурыжыць, ацерці, абмуліць, ашмуляць.**

**ОТЕРЗАТЬ** *што,* **абтурзаць, атурзаць.** *Сабакі атурзалі кажух.*

**ОТЕЦ** *м.* хто мае дзяцей, хто спладзіў дзяцей; **бацька, баця, бацькаў, бацькавы; бацькавіч,** сын бацькі, **бацькаўскі. Тата, татка, татуля, татусь.** *Пажывеш то і Кузьму бацькам назавеш. Ня лезь раней бацькі ў пятлю.* У літэратурнай

мове ўжываецца: **ацец, айца, айцу, ойчы**, але ў народнай мове гэтага слова саўсім не чутно, мабыць такі яно чужое і дагэтуль ў народзе не прынялося, акром рэдкіх здарэньняў ў песьнях.

**ОТЦОВСКІЙ, бацькаўскі.**

**ОТЦОВЩИНА, бацькавіна.**

**ОТЕЧЕСТВО, бацькаўшчына.**

**ОТЧИМ, войчым, бацюк.**

**ОТЖЕЧЬ** *што,* **адпаліць, адпалены.**

**ОТЖИВЛЯТЬ , ажыўляць, ажыўчы.**

**ОТЖИГАТЬ** *гарэлку,* **выганяць.**

**ОТЖИМАТЬ** *што,* **выціскаць.**

**ОТЖИРѢТЬ, атсыцець.**

**ОТЗАВТРАКАТЬ, атсьнедаць.**

**ОТЗВУК** *чаго,* **адгалосак, водгук.**

**ОТЗНОБИТЬ, адзябіць.**

**ОТЗНОИТЬ, адпарыць.**

**ОТЗОЛИТЬ** *бялізну,* **аджлукціць.**

**ОТЗУДИТЬ, атсьвсярцець.**

**ОТЗЫВАТЬ** *каго, адкуль;* **адклікаць, адкліканьне, отклік, атклічны ліст, атозвіны.**

**ОТЗЫВЧИВОСТЬ** *сэрца,* **спагадлівасьць, спагадлівы.** *Спагадлівы чалавек. Спагадлівасьць на чужое гора.*

**ОТКАЗ** *каму у чым,* **адмова, адмаўляць.**

**ОТКАЛЫВАТЬ** *што ад чаго,* **адшчапляць, адшчэплены, адшчапіўся, адшчэпак, адшчапенец, адшчапенства.** *Адшчапіў кавалак палена. Адшчапіўся бераг стала, і адшчэпак зьвісае. Адшчапенец гэты, адшчапіўся ад нашай грамады.*

**ОТКАРМЛИВАТЬ** *каго,* **адкармліваць, адкормнік.**

**ОТКАТЫВАТЬ** *што ад чаго,* **адкачываць, адкочаны, адкотак, адкотны, адкотчывы.**

**ОТКАЧНУТЬ, адхібнуць.**

**ОТКАШЛИВАТЬ**, **адкашліваць**, **адкархіваць**, **адкархнуць**, **адкархівацца.**

**ОТКИДЫВАТЬ** *што,* **адкідаць, адкідак.**

**ОТКИПЯТИТЬ, адкіпеніць, адварыць, адпрагаціць.**

**ОТКИЧИТЬСЯ, адпышацца.**

**ОТКЛАДЫВАТЬ** *што,* **адкладаць, адложаны, адлажыцца, адклад.** *Адклад ня йдзе на лад.*

**ОТКЛАНИВАТЬСЯ** *каму,* **адвітывацца.**

**ОТКЛОКТАТЬ, адклыгтаць.**

**ОТКЛОНЯТЬ** *тшо,* **адхіляць, адхінаць, адхінацца, адхін** (адварот).

**ОТКЛОНЕНІЕ, адхіл, адхілчывы, адхілчывасьць.**

**ОТКЛОХТАЦЬ, адквактаць.**

**ОТКОВЫРЫВАТЬ** *што,* **адкалупываць, адкалупаць, адкалупнуць, адкалупчывы, адкалупепь, адкалупнае, адкалупнік, адкалупак.**

**ОТКОЖУРИВАТЬСЯ, адскажурыцца.**

**ОТКОЛАЧИВАТЬ, адбіваць, атшчапаць.**

**ОТКОЛОК** *м.* **атшчэпак, атшчанаць.**

**ОТКОЛЬ, ОТКОЛѢ** *прысл,* **аткуль, скуль.** *Аткуль, скуль прыехаў. Аткуль вецер вее? Скуль што бярэцца.*

**ОТКОМАНДИРОВАТЬ** каго, куды, *нямец.;* **адпасылаць, адпасланы, адпасылка, адпасыльны.**

**ОТКОНОПАТИТЬ, адпакляваць.**

**ОТКОРОБИТЬ, адкарабаціць.**

**ОТКОРЯЧИТЬ** *нагу;* **адкярэчыць, аджыргаць.**

**ОТКОСНЫЙ** *бераг,* **прытны, прыцень.**

**ОТКОСТЫЛЯТЬ** *каго,* выбіць кавялой, **адкавеліць, адкавелівай** па дарозе.

**ОТКРАИВАТЬ, адкраіваць, адцінаць, адцятак.**

**ОТКРАХМАЛИТЬ, адскарбліць.**

**ОТКРОХМАЛИТЬСЯ, адскорбіцца.**

**ОТКРЕЩИВАТЬСЯ, адхрэшчывацца.**

**ОТКРОВЕНІЕ** *ср.* **аб'ява. аб'явіцца, ябяўленьне; аткрыцьце, аткрыцьцё.**

**ОТКРОМСАТЬ** *што,* адрэзаць як папала; **адчыкрыжыць; адваліць.**

**ОКРУГЛЕНІЕ** *чаго* **акругласьць, круглянасьць.**

**ОТКРЫВАТЬ** *каму што;* **аткрываць, аткрыцьцё, аткрытна, аткртынасьць.**

**ОТКУПАТЬ** *што,* **адкупляць, адкупленьне.**

**ОТКУПОРИВАТЬ** *што,* **адтыкаць адкарковываць.**

**ОТКУТЫВАТЬ** *што,* **адвіваць, разгартаць.**

**ОТКУШАТЬ,** спробавать на смак; **пакушаць, спробаваць, пасмакаваць.**

**ОТЛАГАТЬ** *што,* **адкладаць, адложаны.**

**ОТЛАГАТЕЛЬСТВО, адклад.** *Адклад ни йдзе на лад.*

**ОТЛОГІЙ** *бераг,* **пахоны, пахоністы, пахонасьць.**

**ОТЛЕТАТЬ** *адкуль,* **адлятаць, адляцець, адлёт, адлётны, адлётак.**

**ОТЛИВАТЬ** *што ад чаго,* **адліваць, адліць, адліцьцё, адліў, адліўка,**

**ОТЛИЦОВЫВАТЬ** *што,* **адніцовываць.**

**ОТЛИЧАТЬ** *што ад чаго,* **адрожніваць, адрожнівацца.** *Пры агне зялёнага ад блакітнага не адрожніш.*

**ОТЛИЧИТЕЛЬНЫЙ, адрожлівы, адрожніваючы,**

**ОТЛИЧІЕ** *ср.* **адзнака.** Часта зьмешываюць словы—*азнака і адзнака*; першае „азнака“—перакладаецца ня расійскае словам „*признак*“, а другое—„адзнака“—„*отличіе*“.

**ОТЛИЧИТЬСЯ, адзначыцца.**

**ОТЛУДИТЬ** *начыньня,* **пабяліць, пабела.**

**ОТЛОМОК, адломак, аскромак.**

**ОТЛУЧКА** *ж.* **нябытнасьць.**

**ОТМАЛЧИВАТЬСЯ, адмаўківацца.**

**ОТМАТЫВАТЬ, адмáтываць, адвівáць.**

**ОТМЕЖОВЫВАТЬ** *зямлю,* **адмяжáць.**

**ОТМЕЩАТЬ, мсьцíць, помставаць.**

**ОТМѢНЯТЬ** *што,* **адмяняць, адмéна.**

**ОТМѢЧАТЬ** *што,* **адмячáць, адзначáць, адзнáчаны, адзнáка, адзнáчны.**

**ОТМЯУКАТЬ, адмяўкаць.**

**ОТНИМАТЬ** *ад каго ці чаго што;* **адбірáць, адбірáньне, адбíрны, адбíрчывы, вóдбіркі, вóдбірак.**

**ОТНОСИТЬ** *што,* **аднасíць, аднóс, аднóсчывы.**

**ОТНОСИТЕЛЬНЫЙ, датычны, ўзглядны.** Але нельга ужываць жаргоннага барбарызму „адносны", „адносна", „адноснасьць", бо ў нашай мове выглядае як бытцам нешта мела адыходзіць ад носу.

**ОТНОСИТЕЛЬНО, ўзглядна, датычна.** *Ўзглядна і гэта добра. Датычна гэтай справы, трэба яшчэ падумаць. Узглядна лепш былобы, каб так было.*

**ОТНОШЕНІЕ,** зварот да каго урадовым пісьмом; **цэдула.**

**ОТНЫНѢ** *прысл.* **адцяпер.** *Адцяпер і давеку піць заракуся.*

**ОТНЮДЬ** *прысл.* **аніяк, ані.** *Гэта ані цябе не датыча.*

**ОТОВРАТЬСЯ, адылгáцца.**

**ОТОВСЮДУ** *прысл.* **адусюль.** *Адусюль найшло.*

**ОТОВСЮДЬ, адусюль, адусюльныя навіны.**

**ОТОДВИГАТЬ, адсувáць, адсýнуць.**

**ОТОПЛЕНІЕ,** *ср.* **апáл, апаляць; ацяцляць.**

**ОТОРАЧИВАТЬ** *што,* абшыць край стужкай, тасемкай, скурай; **аблямавáць, аблямóўка.**

**ОТОЩАТЬ,** аслабець даўно ня еўшы; **атушчэць, атушчэласьць, атушчэлы.** *Ад раніцы ня еў і атушчэў. Ня еў—атушчэў, пад'еў—ацяжэў. Жывёла за зіму атушчэла.*

**ОТПАДЫВАТЬ** *ад чаго,* **адпадáць.**

**ОТПАИВАТЬ** *што,* **адлютовываць.**

**ОТПАЛЗЫВАТЬ** *куды,* **атпаўзаць, адпаўзьці.**

**ОТПЕЧАТЫВАТЬ** *што,* **аддруковываць.**

**ОТПЕЧАТОК** *чаго,* **водціск, воддрук.**

**ОТПЕЧАТЛѢВАТЬ** *што,* **адціскаць.**

**ОТПИРАТЬ** *дзьверы,* **адчыняць, адчыняцца, адчынены;** *замок*—**адмыкаць, адамкнуць; адключаць.**

**ОТПИХИВАТЬ** *што, каго;* **адпіхаць.**

**ОТПЛАТЧИВЫЙ, отплатлівы, адплата.**

**ОТПЛЕВЫВАТЬ, адплёвываць, адкархіваць.**

**ОТПЛЕСКИВАТЬ** *што,* **адпалыскаць, адпалыснуць.**

**ОТПЛЫТІЕ** *куды,* **атплыцьцё, адплываць.**

**ОТПЛЯСЫВАТЬ** *што,* **адтанцовываць.**

**ОТПОВАЖИВАТЬ** *каго,* **адпанаджываць, адпанадка.**

**ОТПОТЧИВАТЬ** *гасьцей,* **адчаставаць.**

**ОТПРАВЛЯТЬ** *што куды,* **адпраўляць, адпасылаць.**

**ОТПРАВИТЕЛЬ-НИЦА, адпасыльнік—ніца.**

**ОТПРАЗДНОВАТЬ, адсьвяткаваць.**

**ОТПРАВЛЕНІЕ, адпраўка.**

**ОТПРИГИВАТЬ** *ад чаго,* **адскаківаць, адскок.**

**ОТПРЫСК** *дрэва,* малады адростак; **атожылак.**

**ОТПУГИВАТЬ** *каго,* **адпуджываць, адпуджаць.**

**ОТПУСК,** часовае звальненьне ад абавязкаў, службы; **спаволя, спаволены, спаваліваць, спавольнік.**

**ОТПУТЫВАТЬ** *што,* **адблутываць, адблутны.**

**ОТПЫХИВАТЬСЯ, адсапывацца, адсапецца.**

**ОТПѢВАТЬ** *каго,* **адпяваць.** *Толькі памры а адпявялы знойдуцца.*

**ОТПЯЛИВАТЬ** *што,* **адпінаць, адпяць.**

**ОТПЯЧИВАТЬ** *калёсы,* **адпазаджываць, адпазадзь.**

**ОТРАБАТЫВАТЬ** *доўг*, **адрабляць, адработак.**

**ОТРАВЛЯТЬ** *каго чым*, **атручаць, атручаны, атручаньне, атрута, атрутны, атрутнік.** *Горкае жыцьцё атручае радасьць. Перац—курыцы атрута.*

**ОТРАДА** *ж.* уцеха, асалода, успакаеньне; **патоля, патоліць, спатоліць.** *Дзеткі патоля мая. А калі ня будзе песьні, то што спатоліць душу ім? Спатоліў жаль свой. Пьяніца знае адну толькі спатолю ў гарэлцы.*

**ОТРАЖАТЬ** *каго*, адбіць сілай; **адбіваць, адбівацца, адбой.** *Ад людзей адбою няма. Люстра адбівае акружаючые рэчы.*

**ОТРАЖЕНІЕ** *чаго*, **адбіцьцё, адсьвет.**

**ОТРАПОРТОВАТЬ** *каму што;* **пераказаць, пераказ.**

**ОТРАСЛЬ, адросьце, адростак; галіна.**

**ОТРЕЗВЛЯТЬ** *каго*, **ацьвяражываць, ацьвярожаны, ацьвярожаньне.** *Пьяны пакуль не прасьпіцца, не ацьвярозіцца.*

**ОТРЕКОМЕНДОВЫВАТЬ** *каго каму, франц.;* **адрэкомандовываць, рэкомандаваць.**

**ОТРЕПЬЕ** *чаго*, **атропкі; лахмацьцё, дзярмацьцё.**

**ОТРЕТИРОВАТЬСЯ** *фр.* **адыйсьці.**

**ОТРЕЧЕНІЕ** *ад чаго*. **адрачэньне, адрачыся.**

**ОТРИЦАТЬ** *што*, **адкідаць, запірацца, запярэчываць; нэхціць, нэхчаньне.** *Няма чаго запірацца, прызнаўся. (Сержп. 51).*

**ОТРОГ** *м.* сук, галіна рогу; **атовільня, атовілкі, атовілак.** *Рогі лася нарастаюць атовілкамі.*

**ОТРОЖДАТЬ** *каго, што;* **адраджаць, адроджаны, адраджэньне, адродчывы.**

**ОТРОК** *м.* **ОТРОКОВИЦА** *ж.* дзяцё ад 7 да 15 гадоў; **падростак, падросткі.**

**ОТРУБАТЬ** *што*, **адсякаць, адсечаны.**

**ОТРУБОК** *м.* **адсяканец, ацёпак.**



15. Зак. 923

**ОТРУБИ**, астаткі ад прасеянай мукі; **вотрына, ашакі.**

**ОТРЫВАТЬ** *што ад чаго;* **адрываць, адарваны, адрывак, адрыўчывы, адрывісты.**

**ОТРЫТЬ** *што,* **адкапаць, адкапаны, адкопны, адкопы, адкоп.**

**ОТРЫЖКА, адрыжка.**

**ОТРѢЗЫВАТЬ** *што ад чаго;* **адразаць, адрэ.**

**ОТРѢШАТЬ** *што ад чаго;* **адлучаць, адзяляць, адкідаць.**

**ОТРЯДИТЬ** *каго куды;* **адасласць, аддзяліць.**

**ОТРЯД** *м.* збор жывой сілы куды і дзеля чаго колечы адасланай; **аддзел.** *Вайсковы аддзел. Аддзел работнікаў.*

**ОТРЯСЫВАТЬ** *што,* **атрахаць, атрушаць.**

**ОТСАЖИВАТЬ** *што,* **адсаджаць, адсадзіць.**

**ОТСВѢЧИВАТЬ,** адбіваць сьвятло; **бліщчэць.**

**ОТСЕЛЬ, ОТСЕЛЕ (Ѣ), адгэтуль, адсюль.**

**ОТСЕПАРОВЫВАТЬ** *лац.* **аддзяляць, адлучаць.**

**ОТСИЖИВАТЬ, адседжываць, адседка.**

**ОТСКОБЛИТЬ** *што,* **адскабліць.**

**ОТСКРЕСТИ** *што,* **адскрабаць.**

**ОТСКРЕЖЕТАТЬ** *зубамі,* **адскрыгаць.**

**ОТСЛАИВАТЬ** *што,* **адслаяць, адслой.**

**ОТСЛАНИВАТЬ** *што,* **адсланяць, адслон.**

**ОТСЛУЖИВАТЬ** *службу,* **адслужыць, адслуга.**

**ОСМѢИВАТЬ** *каго,* **асьмяваць, асьмевы.**

**ОТСОВЫВАТЬ** *што,* **адсуваць, адсунуты.**

**ОТСОВѢТОВЫВАТЬ** *каму што,* **адраджаць.**

**ОТСРОЧИВАТЬ** *што,* **адкладаць.** У старой нашай мове ў значэньні „срок", ужывалася слова „рок". *На рок завіты,* на тэрмін (срок) даканчальны. *Рокі судовыя,* тэрміны (сроки) судовыя. *А маеть N стаці на суд наш земскі року пазначоного.* Побоч са словам *рок*, ужываліся і выводныя: *адрочыць, адроченьне, адрочаны.*

**ОТСТАВАТЬ**, аставацца ззаду не даганяць; **адставаць.**

**ОТСТАВЛЯТЬ** *што ад чаго,* **адстаўляць.**

**ОТСТАВКА** *ж.* адстаўленьне, адпраўка каго ад якой службы; **адпраўка, адправіць, адпраўны.**

**ОТСТОЯТЬ** *ад чаго,* **быць на агледласьці.**

**ОТСТОЯТЬ** *каго,* **абараніць, асланіць, адстаяць.**

**ОТСТЕГИВАТЬ, адштабнаваць; адпінаць гузікі.**

**ОТСТИРАТЬ** *плямы,* **адмыць, адмываць.**

**ОТСТРАНЯТЬ** *каго адкуль,* **аддаляць, аддалены.**

**ОТСТРАДАТЬ, адмучыцца.**

**ОТСТРАИВАТЬ** *дом,* **адбудовываць.**

**ОТСТУПАТЬ** *куды,* **адступаць, адступленьне.**

**ОТСТУЖИВАТЬ** *што,* **адстуджаць.**

**ОТСУТСТВІЕ** *чаго дзе,* **нябытнасьць, нябытны, нябытаваць; немень.** *Гэта сталася ў часе маей нябытнасьці. У нябытнасьці вінаватага ня судзяць. Нябытны тут сьведка піша. Немень, нябытнасьць грошы, прымушае рабіць даўгі.* Вельмі непрыгожа выглядае жаргонны расійскі барбарызм які, нажаль, цяпер даволі часта ужываюць: *„атсутнасьць", „адсутны".*

**ОТСЧИТЫВАТЬ** *што,* **адлічаць, адлічаньне.**

**ОТСЫРѢТЬ, адвілжэць, адволгнуць.**

**ОТСЮДА** *прысл.* **адсюль, адгэтуль.**

**ОТТАЛКИВАТЬ** *каго, што;* **адпіхаць, адтаўхаць.**

**ОТТОЛКАТЬ, адтоўхаць.** *Мне такі акуратна бакі адтоўхалі.*

**ОТТАЛКИВАЮЩІЙ**, непрыемны, гідкі; **адражаючы, адразьлівы, адраза, адражаць.**

**ОТТАРАЩИТЬ** *нагу, руку,* **адтапырыць.**

**ОТТАСКИВАТЬ** *адкуль,* **адцягаць.**

**ОТТАЧИВАТЬ** *нож,* **істрыць, навостраны.**

**ОТТЕПЕЛЬ, адліга, адліжна.**

**ОТТИРАТЬ** *што,* **адціраць.**

**ОТТИСКИВАТЬ** *што,* **адціскаць, адбіваць.**

**ОТТОГДА** *прысл.* **адтады.**

**ОТТОЛКАТЬ** *што,* **адпіхаць.**

**ОТТОРГАТЬ** *што ад чаго,* **адрываць; адтыргаць, адтырнуты, адтыржны.**

**ОТТОЧИТЬ** *нож,* **адыйстрыць, адыйстраны.**

**ОТТРАПЕЗОВАТЬ, адпасілкавацца, пад'есьці.**

**ОТТРЯСЫВАТЬ** *што,* **адтрасаць, адтрэсены.**

**ОТТУДОВА** *прысл.* **адтуль.** *Адтуль адкуль і ўсе. Адкуль вецер, адтуль і дождж. „Адкуль Гануля?"—„З Барысава".—„А чыя ты?—„Дзянісава".*

**ОТТУШЕВЫВАТЬ** *што,* **адцяняць.**

**ОТТѢНЯТЬ, адцяняць, адценак.**

**ОТТЯГИВАТЬ** *што,* **адцягаць, адвалакаць.**

**ОТТЯЖКА, адвалока, адклад.**

**ОТУЖИНАТЬ, адвячэраць.**

**ОТУТЮЖИТЬ** *вопратку,* **адпегліць.**

**ОТУХАТЬ** *аб вугальлях,* **ачаваць, ачанаць, ачалі.**

**ОТФИНТИТЬ, выкруціцца.**

**ОТФЫРКАТЬ** *носам,* **адпорскаць.**

**ОТХОЖІЙ** *промысл,* **адыходны.**

**ОТХАРКИВАТЬ, адхаркаваць, адкархаваць.**

**ОТХВАТИТЬ** *што,* **адхапіць, адваліць.**

**ОТХЛЕСТАТЬ** *каго,* **адсьцябаць.**

**ОТХЛОПАТЬ** *каго,* **адляскаць.**

**ОТХЛЫНУТЬ** *беларуск., ад чаго;* **адхлынуць, адлынуць.**

**ОТЦАРАПАТЬ** *струп,* **аддзерці, адкалыпаць.**

**ОТЦВѢТАТЬ, адквітаць, адквітаньне.**

**ОТЦОВЩИНА** *ж.* **бацькаўшчына.**

**ОТЦѢЖИВАТЬ** *што,* **адцаджаць.**

**ОТЦѢПЛЯТЬ** *што,* **адчапляць, адчэп, адчэпны.**

**ОТЧАЛИВАТЬ** *ад берагу,* **адплываць.**

**ОТЧАСТИ** *прысл.* **часьцю, часткова.**

**ОТЧАИВАТЬ** *каго,* **абезнадзеіваць, абезнадзеіцца.**

**ОТЧАЯНІЕ** *ср.* **безнадзея, роспач.** *Роспач бярэ глядзець на іх бяду. Распачны паступак, крок. Безнадзея агарнула яго. Безнадзейная справа.*

**ОТЧЕГО** *злуч,* **чаму, чаго дзеля.** *Чаго дзеля не прыйсьці, прыйду. Чаму-б табе ня заняцца чым?*

**ОТЧЁКАНИВАТЬ** *манэту,* **адбіваць, выбіваць.**

**ОТЧЕРКИВАТЬ** *што,* **адкрэсьляць.**

**ОТЧЁРПЫВАТЬ** *што,* **адчарпаць.**

**ОТЧЕРТИТЬ** *што,* **адкрэсьліць.**

**ОТЧЕСТВО** імя па бацьку; **прыйме.** Маскалі кажуць заўсёды імя с прыймем: Петра Антонавіч, Іван Іванавіч; у нас здавён гэта ўжо вывелася.

**ОТЧЕСТВОВАТЬ** *каму за што,* **адудзячыць.**

**ОТЧЕТ, справаздача.**

**ОТЧЕТЛИВЫЙ, выразісты, выразістасьць, выяўна, выяўнасьць.**

**ОТЧИЗНА, бацькаўшчына.**

**ОТЧИМ, войчым, бацюк.**

**ОТЧИСЛЯТЬ** *што, адкуль, куды;* **адлічаць.**

**ОТЧИЧ** *м.* **дзедзіч, дзедзічны, дзедзіна.**

**ОТЧІЙ** *дом,* **бацькаўскі.**

**ОТЧМОКАТЬ** *каго,* **адцмокаць.**

**ОТЧУЖДАТЬ** *каго,* **адчураць, адчураньне.**

**ОТШАГАТЬ, адкрочыць.**

**ОТШАСТАТЬ, адшахнуць.**

**ОТШАТАТЬ, адківаць, адхібаць.**

**ОТШАТНУТЬ, адхібнуць, адшахнуць.**

**ОТШВЫРНУТЬ, адшпурнуць.**

**ОТШЕВЕЛИТЬ** *што,* **адкратаць.**

**ОТШИБАТЬ** *што ад чаго,* **адбіваць.**

**ОТШЕСТВІЕ** *ср.* **адойсьце, зойсьце.** ***Па зойсьцю з сьвету гэтага нябошчыка Якіма.***

**ОТШПАКЛЕВЫВАТЬ, адкітовываць.**

**ОТШТУКАТУРИТЬ** *сьцяну,* **адтынкаваць.**

**ОТЩЕЛКАТЬ** *што,* **адлузгаць, адлузнуць.**

**ОТЩИПНУТЬ** *кветку,* **адшчыкнуць,** адарваць шчыпком.

**ОТЫСКИВАТЬ** *што,* **адшуківаць, адшуківаньне.**

**ОТЪЗЖАТЬ** *куды,* **ад'язджаць, ад'езджы.**

**ОТ'ЮЛИВАТЬ** *ад работы,* **адлынаць.**

**ОТѢНЯТЬ, зацяняць, засьціць.**

**ОТЯГИВАТЬ** *што,* **ацягаць, адцяганьне.**

**ОТЯГОЩАТЬ** *каго,* **ацягчаць, ацяжаць.**

**ОФЕНЯ,** разносчык тавараў; **крамнік; хадач.**

**ОФИЦЕР** *м. франц.* **афіцэр, афіцэрства, афіцэрскі.**

**ОФИЦІАНТ** *м. фр.* слуга пры стале; **стольчы.**

**ОХАЛЬНИЧАТЬ, буяніць.**

**ОХЛАЖДАТЬ** *што,* **астуджаць, астудзіць, астуда, астудзяваць.**

**ОХЛЯБНУТЬ, ахізнуць, ахізлы; ахлюзнуць.**

**ОХАВРОНИТЬ** *каго,* **акукуціць.**

**ОХАПКА** *ж.* **ахапка, наручча, улоньне.**

**ОХВАТЫВАТЬ, ахапляць, абымаць.**

**ОХОЛАЩИВАТЬ, выкладаць.**

**ОХОЛОПИТЬ** *каго,* **амужычыць.**

**ОХОТА** *ж.* стан чалавека які штоколечы хоча; **ахвота, ахвочы, ахвотна, ахвоціць.**

**ОХОТА** *ж.* лоўля і страляньне зьвераў; **паляваньне, паляўнічы, паляваць; ловы, лавец, лавечыць, лавецтва, лавецкі.** ***Лавецкі сабака. Тры гады лавечылі, многа зьвярья накалечылі.*** Наша старое і жывое да гэтуль слова: ***лавец, лавечыць; паляваньне, паляўнічы,*** здаецца, ўплыў польскі.

> ***Уставайце, баяры, коні сядлайце,***
> ***Едзьце на ўловы ў зялёны дубровы.***
>
> *(Р. 8-9 113).*

**ОХРА** *ж.* чырвона-жоўтая зямельная фарба; **вохра, вохрыць, вахраваць.**

**ОХРАНЯТЬ** *што, каго,* **абаховываць, абасьпячаць.**

**ОХРАНА** *ж.* **абахоў, абасьпека.**

**ОХРИПЛОСТЬ, хрыпка, хрыпаты, хрыпун.**

**ОХРОМИТЬ** *каго,* **акульгавіць, кульгавы, кульгаць.**

**ОХРУСТАЛИТЬ** *што,* **акрышталіць.**

**ОХУЖДАТЬ** *каго, што,* **агуджаць, гудзіць.** *Згудзілі маю работу.*

**ОХАТЬ,** стагнаць, крактаць; **вохаць.**

**ОЦАРАПЫВАТЬ** *каго,* **абдзіраць, абдзёр, абдзёрстаў** сабе рукі.

**ОЦВѢТАТЬ, аквітаць, аквітаньне, аквецьце, аквётаўка.**

**ОЦѢНИВАТЬ** *што,* **ацаняць, ацэна.**

**ОЦѢПЕНѢТЬ, адрантвець, асьцербнуць.**

**ОЦѢПЛЯТЬ** *што,* акружыць ланцугом, вартай, **акружаць, акаляць.**

**ОЦѢПЛЯТЬ,** навешываць; **апавешываць, абвешываць.** *Крамнік абвесіў дзьверы таварамі.*

**ОЦѢП** *м.* рагатка на дарозе, а також асьвер пры студні; **асьвер, касарга, застава.**

**ОЧАГ** *м.* под для вогнішча; **агмень, вогмішча.** *Палажы загнет на вогмішча. Кавальскае вогмішча завецца гарном. Зьбілі под пад вогмішча.*

**ОЧАПИТЬ** *што,* **перасьверыць.**

**ОЧАРОВАТЕЛЬНЫЙ, чароўны, акудны.**

**ОЧЕВИДНЫЙ, ачавісты, ачавісьтасьць.**

**ОЧЕЛОВѢЧЕНІЕ, ачалавечаньне.**

**ОЧЕНЬ** *прысл.* **вельмі.** *Вельмі добра Вельмі многа, мала. Вельмі, ня вельмі,—нятое каб надта, але хачу есьці.*

**ОЧЕРЕДЬ,** пазьменная радоўка аднаго за другім; **чарод, чародны, чарадаваць, чарадоўка; радоўка.** *Ці гэта ўжо мая радоўка на работу?*

**ОЧЕРЕТ** *укр.* **чарот, чаротнік; трасьнік.**

**ОЧЕРЧИВАТЬ** *што,* **акрэсьляць, абрысовываць.**

**ОЧЕРК** *чаго,* **абрыс; нарыс.**

**ОЧЕРСТВѢТЬ, ачарсьцьвець; аскарэць; заскорбнуць.**

**ОЧЕРТАНІЕ** *ср.* **абрыс.**

**ОЧЕСТИТЬ** *гасьцей,* **ачаставаць.**

**ОЧИНЯТЬ** *алувок,* **астругаць;** само мейсца аструганае называецца—*борк.*

**ОЧИПОК** *укр.* **чапец, чыпак.**

**ОЧКИ, акуляры; акулярнік,** похва на акуляры.

**ОЧКО** *на дрэве,* **пучок; пупырок,** апошняе больш адносіцца да завязі кветкі.

**ОЧКОВАТЬ** *дрэвы,* **прышчапляць.**

**ОЧКУР** *м. укр.* паяс, завязка пры штанах; **матуз, матузы.**

**ОЧНУТЬСЯ** *са сну,* **прачхнуцца, ачунуцца.**

**ОЧУВСТВОВАТЬСЯ, ачухацца; ачуняць, ачунацца, ачунак.**

**ОЧУДИТЬ** *каго,* зьдзівіць, уразіць; **акудзіць, акудны, акудлівы.**

**ОЧУТИТЬСЯ, апынуцца.**

**ОШАРАШИТЬ** *каго,* **агалошыць, аглушыць**

**ОШЕЙНИК** *м.* **ашыйнік.**

**ОЩЕЛОМИТЬ** *каго чым;* **аглушыць, спаталыжыць.**

**ОШЕЛУДИВѢТЬ, ашалудзець, апаршывець.**

**ОШИБИТЬСЯ, памыліцца, памылка.**

**ОШПАРИТЬ, абварыць.**

**ОШТРАФОВАТЬ** *ням.* **аштрафаваць.**

**ОШУРКИ** вытапкі сала; **скваркі.**

**ОШШУЮ** *слав.* **левую, лявіцу.**

**ОЩЕЛКАТЬ** *што,* **аблузгаць.**

**ОЩЕТИНИТЬСЯ,** наставіць шэрсьць; **насторшыцца.**

**ОЩУЛИТЬ** *зубы*, **ашчырыць, вышчырыць.**

**ОЩУЩАТЬ,** **пачуваць, почаў, почаўна, пачовісты.**

## П.

**ПАВИЛЬОН** *м. франц.* летняя прыбудоўка да дому; **прыдомак, прымень.**

**ПАВЛИН** *м.* птах Pavo cristatus; **павун, павуніца, павук, пава, павіны.**

**ПАВНА,** праток, ручэй на балоце які рэдка замярзае, гэта выплывы рэк і рэчак; **патока, паток.**

**ПАВОЛОКА** *ж. стар.* дарагія прывозныя тканіны, асабліва шаўковыя; **павалока.**

**ПАГУБА** *ж.* **загуба, згуба; гібель, пагібель, пагібельны.**

**ПАДАТЬ** *агульн. слав.* **падаць, падае, паўшы, падкі; падзь,** мейсца якое праваліўшыся ці дзе нешта праваліласа; **падзежа; падла, падліна,** сьцерва, труп палай, здохлай жывёлы; **пажа, падзежа,** паданьне, падыханьне жывёлы; **пасьць,** правал, зеў; **пастка,** западка, лавушка на мышэй; **падучая** хвароба, эпілепсія.

**ПАДАЛЬ,** труп паўшай жывёлы; **падліна, падла; сьцерва.**

**ПАДЕНІЕ, падзежа, паданьне, спаданьне.**

**ПАДКІЙ** *да чаго,* **квапны, сквапны, скваплівы.**

**ПАДУЧАЯ** *хвароба,* эпілепсія, пры якой чалавек час ад часу падае без памяці ў сутаргах; **падучая, падучка, кадук** (смал.).

**ПАЖИТЬ** *ж.* пожня або поле дзе пасецца статак; **паша, пасьвіць.**

**ПАЖ** *м. фр.* хлопчык арыстакратычнага роду на ўслугах у пануючай асобы; **паж.**

**ПАЗ** *м.* вузкая і доўгая шчэль, глыбокая разора на цеслярскіх, сталярскіх і другіх вырабах; **жалу-**

**біна, жалонка, жалубіць, жалубнік; паз, пазок, пазаваць; шпуга, шпугаваць.**

**ПАЗУХА** *ж.* мейсца паміж грудзьмі і вопраткай над паясом; заглыбленьне паміж грудной клеткай і рукой, расійск. „мышка": **пазуха, пазушка, пазушны, пазушына.** *Атагрэў зьмяю за пазухай. Палажы люльку за пазуху.* **Паха, падпаха; заўлоньне.** *Вазьмі хлеба ўзаўлоньне. Атагрэў зьмяю заўлоньнем. Пахаваў ўзаўлонкі.*

**ПАЙ** *м. татар.* часьць, дзель у складчыне, ў сябарстве, ў таварыстве; **бонда. бондаўка.** Ужо Чэчот („Piosnki wieśniacze z nad Niemana i Dźwiny" Вільня 1846 г.). ў слоўнічку даложаным да вышэй названай яго кнігі зрабіў памылку ў тлумачэньні слова „бонда". За Чэчотам абмылку паўторыў Насовіч; за Насовічам пайшлі іншыя, як прыкладам, выдаўцы кнігі праф. Янчука („Нарысы па гысторыі беларускае літэратуры. Старадаўны пэрыод". Менск 1922 г. (дзе слова „бонда", ў вынасцы, тлумачыцца так:—„бочка, кадь, (укр. бодня), дзе хаваецца асабістая маемасьць і харчы; часамі значыць, выслужаная ўласнасьць—зямля".

Слова „бонда" вельмі пашыранае на ўсім абшары Беларусі і даўно ўжываецца ў беларускай нісьменнасьці. Гэтак, у „Судзебніку Казіміра, выданым у Вільні В. Кн. Літоўска-Беларускім Казімірам, 29 лютага 1468 году, пішацца: „*Аколи чии паробки украдуть што у кого... коли первое украдеть ино его не вѣшати, а заплатити бондою его; а не будеть бонды, ино осподар его за него заплатить, а паробка сказнити*) и пробити*". (Янчук, Нарысы па гістор. бел. Літ. стр. 49).

Гэты тэкст „Судзебніка" для нашага народу і цяцер саўсім зразумелы, бо і сягоньня яшчэ аплата парабка бывае траякая: а) аплата бондай, б) умоўленай сумай грошы і бондай, в) толькі грашмі, гатоўкай. Трэба думаць, што даўней, пры натуральнай

*) Слова—казна, казьня ўжывалася ў старой Беларусі ў значэньні „кара"; „Прабіць"—знача кляйміць прабіцьцем дзіркі на вуху або поздры.

гаспадарцы, аплата працы прадуктамі зямлі была найболей пашыранай формай; цяпер гэта форма сустрачаецца толькі мясцамі, як перажытак. Пры разрахунку з парабкам „бондай", за яго працу ў гаспадара, робіцца умова аб тым, якую часьць ураджаю атрымае парабак за вядомы пэрыод працы, або якая часьць зямлі будзе дадзена парабку на яго долю. Парабак дае толькі сваю асабістую працу, гаспадар дае зямлю, інвэнтар, харчы і насеньне. У меншых гаспадарках,—на адну, дзьве, тры сахі,—найчасьцей, парабак вытарговуе, як „бонду" сабе, часьць ад агульнага ураджаю, часам нават, пры умове на 2—3 гады, ў парабкаву „бонду" іддзе часьць і прыплоду ад скаціны. Гэта форма аплаты наемнай працы ў народзе вядома пад назьваньнем „служыць з бонды".

Другая форма—аплата парабка грашмі і бондай, да нядаўна яшчэ была вельмі пашыранай, а ў малых гаспадарках практыкуецца і цяпер. Мае яна галоўным чынам на мэце „шчырасьць" у працы „старэннасьць" і „прыхільнасьць" увайшоўшага ў сямью чалядніка. Калі гэта парабак, то яму, акром пэнсыі гаспадар „за старэннасьць" абяцае даць „бонду" бульбай або збожжам; калі наймаецца дзеўка, то ей даецца „бонда" зазвычай лёнам „на кашулі", калі — пастух, то яму як „бонда" пэступае парасё ці ягнё. У гэтым здарэньні „бонда" зьяўляецца дабраводьным наддаткам да пэнсыі найміту, для захвоты яго „да шчырай працы".

У сялянскіх семьях, асабліва вялікіх семьях, дзе жывуць разам, на непадзеленай гаспадарцы жанатыя браты, кожды працаздольны семьянін мае сваю „бонду" ў агульнай гаспадарцы. Падрастаючым дзяўчатам засяваюць гарнец, другі лёну „на палотны", акром таго даюць у „бонду" цялушку, парасёнка. У прыпадку выхаду замуж,— „бонда" дзяўчыны зьяўляецца яе пасагам, ею самой запрацаваным. Падрастаючым хлапцом даюць у „бонду" гадаваць жарабёнка, а ўзрасламу „дзяцюку" даюць мерку, другую збожжа на яго безкантрольныя выдаткі. Пры падзеле братоў, „бонда" падзелу не падлягае.

Пры пячэньні хлеба, з паскорбкаў дзяжы, гаспадыня лепіць маленечкую булачку, якая завецца „бондачка“ г. зн. піражок, які традыцыйна пячэцца на долю пастуха выходзячага ў поле—„пастуская бондачка“, „каб лепш пасьвіў“.

У гаспадарках, дзе практыкуецца хатняе рэмясло, напр. бондарства, ці выраб лыжак, найміт, за падмогу ў гэтай рабоце, дастае „бонду“ вырабамі, паводле яго „працавітасьці“, незалежна ад гадавой платы.

„Бондай“ кождага семьяніна, ў нашых сялян, зьяўляецца яго адзежа, часам рамесьленны інструмант. Слова „бонда“ гэткім чынам тасуецца да ўсякіх рэчаў і прадуктаў, абазначаючы іх выключнасьць з агульна-сямейнай ўласнасьці.

У часе гэтай вайны нашы сяляне, разумеючы саму істоту слова, ўжывалі, саўсім правільна, слова „бонда“ замест, нічога іх сэрцу і розуму не гаворачага, расійскага—„паёк“. Атрымала бондачку і г. п. (Барысаўскі павет, а тажа каля Оршы).

Што датыча слова „бодня“, то яно у нас мае больш разьвітыя формы чым у Украінцаў, у якіх маецца толькі адна форма для абазначаньня вялікага бондарскага начыньня. Мне здаецца, што больш правільна „боднар“ чым „бондар“. Бо „бадніна“ агульнаеназьваньне начыньня бондарскай работы, „баднаўё“, зборнарнае названьне боднарскіх вырабаў.

**ПАКЕТ** *м. франц.* кувэрт, агортка з паперай у ей; **спокладак, спокладзень.**

**ПАКИ** *прысл.* **зноў, ізноў.** *Ізноў зробіш, ізноў пакараю.*

**ПАКЛЯ** *ж.* атрэпьпя лёну і пянькі; **пакульля, пакульны; пакляваць,** затыкаць шчэлкі пакульлям.

**ПАКОВАТЬ** *нямецк.* складаць у скрынкі, зьвязываць у трокі; **спакладаць, спакладаньне, спаложаны, спакладка, спакладчык, спокладак, спокладзень; пакаваць, пакаваньне, апакоўнік, пак.** *Спалажы бутэлькі ў скрынку. Узяў чатыры спокладні на воз.*

**ПАКОСТЬ** *ж.* **поскудзь, паскудзіць, паскуднік; плюгаўства, плюгавасьць, плюгавіць, плюгаўнік, плюгаўка.** *Плыгаць*, скакаць падобна жабе, поўзаць як вужака.

**ПАЛЛАДА** *ж. грэцк.* багіня вайны.

**ПАЛАДИН** *м. лац.* рыцар гонару.

**ПАЛАНКИН** *м.* **драгі, насілкі.**

**ПАЛАТА** *ж.* **намет, наметка** (не намёт); **шацёр.** *Аткрыў акно, гляні на двор: на тваім двара стаіць шацёр навюсенькі, бялюсенькі (Вялікодн. п.). А ў полі, а ў полі татары стаялі, татары стаялі, наметы стаялі (нар. песн. Новагр. п.).*

**ПАЛАЧ** *м.* той хто выпаўняе сьмяротны прысуд; **кат; катаваць,** біць, зьдзекавацца падобна кату, прыстаўленаму на даўнейшым судзе мукамі дабыць прызнаньне.

**ПАЛЕВЫЙ** *франц.* колеру саломы, бледнажаўтаваты; **палавы палавець.**

**ПАЛЕНИЦА** *ж. укр.* **пірог, піражок, перапеча.**

**ПАЛЕОГРАФІЯ** *ж.* часьць археолёгіі; навука аб старадаўных літарах і спосабах пісаньня; **палеографія.**

**ПАЛЕСТИНА** *ж. жыдоўск.* **палестына.** У перакладзе азначае—*бацькаўшчына.*

**ПАЛЕЦ** *аг. слав.* **палец, пальцы, пальчаты, пальчаткі,** рукавіцы с пальцамі. Названьне пальцаў на руках: *вялікі* або *пянцюх, спаказны, сярэдні, пярсьцяк, мезяны.* На нагах: *вялікі* або *ступель* і чатыры малыя *палюхі.*

**ПАЛЕЯ,** летапісь выбраная са Старага Закону.

**ПАЛИСАД; ПАЛИСАДНИК** *м. франц.* тынок агародка з калкоў тычком; **штахэтнік; тын, тынок, тынец, тыніць.**

**ПАЛИТРА** *ж. франц.* ручная малярская дашчэчка да накладаньня фарбаў.

**ПАЛКА** *ж.* **палка, палкі, палкаваць.** *Любіць як сабака палку.*

**ПАЛИЦА** *ж.* палка, асабліва закамлістая з булдавой; **пабаўга, побаўка; кіяга.**

**ПАЛОМНИК** *м.* **багамол, пілігрым.**

**ПАЛУБА,** памост і столь на вадаплавах; **апастрэшща, пострап.**

**ПАЛЬМА** *ж.* найме дрэў гарачых краёў.

**ПАЛЬТО** *ср. нескл. франц.* верхная вопратка; **бурнос.**

**ПАЛЬЯТИВ** *м. лац.* часовае, аблягчаючае але не вылячаючае лякарства; **пальятыў.**

**ПАМФЛЕТ** *м. англ.* Нападка на што ці на каго, аддрукаваная аддзельнай кніжачкай; **памфлет.**

**ПАМЯТЬ** *ж. агульн. слав.* **памяць, памятаць, памятны, памятка, памятна, памятлівасьць, памятаньне.**

**ПАНАГІЯ** *ж. грэцк.* абразок ношаны архірэямі на грудзёх.

**ПАНАЦЕЯ** *ж. альхім.* ўсеагульнае лекарства, знадабьбе ад усіх хвароб, зельля доўгалецьця.

**ПАНДАН** *м. франц.* рэч роўнамерная, роўназначная, аднаякая, аднаколерная; **спараўня.** *Гэты абраз спараўня таму. Гэтай рэчы няма спараўні. Разлажы кнігі ў спароўнь фігуры.*

**ПАНДЕКТЫ,** зборнік рымскіх правоў і пастаноў.

**ПАНЁВА,** спадніца; **андарак.**

**ПАНЕГИРИК** *м. грэцк.* **пахвала.**

**ПАНЕЛЬ** *ж. нямецк.* **лата,** якую прыбіваюць на памосьце ўдоўж сьцен каб закрыць шчэлку; **ходнік** ўздоўж дому.

**ПАНИКАДИЛО** *ср. грэцк.* царкоўны вісомы сьвечнік; **балядаш, павук, сьвечніца.**

**ПАНИХИДА** *ж. грэцк.* царкоўная адправа за ўмершых; **задушная адправа.**

**ПАНИЧЕСКІЙ** *страх* **ПАНИКА** *грэцк.* раптоўны, безпрытомны і няўстрымны страх.

**ПАНОРАМА** *ж. грэцк.* кругавы абраз, абманываючы глядача, які лічыць сябе пасярод выбражанай вакол яго мяйсцовасьці.

**ПАНСІОН** *м. франц.* вучомная і выхаваўчая установа; **пансіён.**

**ПАНТАЛОНЫ** *італьян.* **штаны, гаштакі; хлачы,** жаночья.

**ПАНТЕИЗМ** *м. грэцк.* **многабожнасьць, многабожства;** багомленьне прыроды; **пантэізм.**

**ПАНТЭОН** *м.* мейсца пахаваньня слаўных людзей; сабраньне твораў ўсіх адмен; зборнік жыцьёцапісаньняў слаўных людзей.

**ПАНТЕРА** *ж.* хіжны зьвер, сямьі львоў; **пантэра.**

**ПАНТОМИНА** *ж. грэцк.* перадача пачуваньняў і мысьляў выражэньнем аблічча і рухамі ўсяго цела.

**ПАНЦЫР** *м. ням.* кальчужная кашуля; **панцыр.** *Панцырныя баяры,* баяры якія ставалі на вайну ў панцырах.

**ПАПА** *м. грэцк.* **бацька, тата.**

**ПАПА** *м.* каталіцкі першасьвятар; **папеж, папежскі;** **папежнік,** каталік, які прызнае папежа.

**ПАПАХА** *ж.* круглая шапка з касматым верхам.

**ПАПЕРТЬ** *ж.* прысёнак пры цэркві; **бабінец, свянтар, цьвінтар.**

**ПАПИЛЬОТКА** *ж. фр.* трыкутны кавалачак паперы да закручываньня валасоў.

**ПАПОРОТНИК** *м.* вялікая сямья зерлавых (бязкветных) расьцін Filix; **папараць.** *На Купала ў ночы цьвіце папараць (Сажрп. 46).*

**ПАПСКІЙ, папежскі.**

**ПАПЬЕМАШЭ** *ср. франц.* папяровае цеста; **паперкаўка, папярковы.** *Папярковая лялька.*

**ПАРА** *ж.* двойка, двойца; **пара, парны, паравацьу; спарыш,** зростак двох арэхаў.

**ПАРАБОЛА** *ж. грэцк.* **прыповесьць;** *матэмат.* разрэз цукровай галавы наскось, зьверху ў ніз, дае крывую кучмаватую лінію; **воблю, параболю**

**ПАРАГРАФ** *м. грэцк.* невялікі аддзел, зварот у пісьме абазначаны параграфічным (§) знакам і лічбай.

**ПАРАДОКС** *м. грэцк.* выказ дзіўны, на першы погляд дзікі, спрацiўны агульна прынятаму.

**ПАРАД** *м. фр.* сьвяточная вопратка; аздоба; *вайск:* урочысты прагляд войска.

**ПАРАЗИТ** *м. грэцк.* расьціна або жамяра якая жыве чужымі сокамі; **чужапас, чужапасны**.

**ПАРАКЛИТ** *м. грэцк.* найме прыдаванае Св. Духу: **спацяшыцель**.

**ПАРАЛЕЛЬ** *ж.* **ПАРАЛЕЛЬНАЯ** *лінія*, **роўналегласьць, роўналежнік, роўналежны; паўзьбежны**.

**ПАРАЛИЧ** *м.* хвароба пазбаўляючая цела руху; **паралiж, паляруш; паралiжаваць, спаралiжаваны**.

**ПАРАПЕТ** *м. франц.?* **балясы**.

**ПАРАФИН** *м.* выкопны воск; **парафіна, парафінавы**.

**ПАРАФРАЗ** *м. грэцк.* падробнае абшырнае тлумачэньне, сьцiслай прамовы; перақаз іншымі словамі; **перафраза, парафразоўка**.

**ПАРАШУ(Ю)Т** *м. франц.* складны парасон, як. раскладаецца пры паданьні цела.

**ПАРДОН** *м. франц.* **выбач, выбачайце**.

**ПАРЕНЬ** *м.* малады хлапец, падростак і вышэй падростка, ня жанаты (не мужчына); **дзяцюк, дзяцючок, дзяцюкоўскі, дзяцюкі**.

**ПАРИ** *нескл. франц.* **заклад**. *Пайду аб заклад што ты гэтага ня зробіш. Давай, пойдзем ўзаклад, што гэта ня той.*

**ПАРИК** *м. франц.* накладныя, на ўсю галаву валасы; **сызвалосьнік, сызвалосіца**.

**ПАРИКМАХЕР,** майстар які голіць і пастрыгае валасы; **пастрыгач; галяр**.

**ПАРИКМАХЕРСКАЯ, пастрагальня; галярня**.

**ПАРКЕТ** *м. франц.* складаны з дробных дашчэчак узорамі памост; **ціс, цісовы**.

**ПАРИТЬ, лынаць, лынае**.

**ПАРК** *м. англ.* чысты гаёк з дарожкамі для прахаджкі; **гай, гаёк**.

**ПАРЛАМЕНТ** *м. франц.* сабраньне народных паслоў для кіраваньня дзяржавай; **рада, дзяржаўная рада**.

**ПАРНИК** *м.* цёплы ашклёны будынак для разсадкі і зімовага перахову расьцін; **цяплярня, цяплiца**; зруб пакрыты вокнамі: **расаднік.**

**ПАРОДІЯ** *жс. грэцк.* перасьмешка паважнага твору; пераробка якога твору навыварат; **перасьмешка, пераніцоўка.**

**ПАРОКСИЗМ** *м. грэцк.* **прыступ, прыпадак** хваробы; **спохват, спохваты.**

**ПАРОЛЬ** *м. франц.* слова перадаванае варце, дзеля пропуску ў абоз тых, якія знаюць тое слова; **спокліч.**

**ПАРОСЬ,** дробны дожджык; **сітнік, сітнічок.**

**ПАРОХОД,** паравы вадаплаў; **параплаў.**

**ПАРТЕР** *м. франц.* ніз, под тэатру; **прыспад.**

**ПАРТІЯ** *жс. франц.* аднадумнікі, сувязь людзей аднаго пераконаньня; **партыя, партыйны; партызан,** староннік партыі, які змагаецца за свае пераконаньні са зброяй у руках.

**ПАРТИКУЛЯРНЫЙ,** не афіціяльны, **прыватны**

**ПАРУС** *м.* **вятруг, вятругі; лаштыр.**

**ПАРЧА** *жс.* залатая або сярэбраная тканіна; **грызэт, грызэтовы; залататканка, залататканы.**

**ПАРШИ, пархі, паршывы, пархуць.**

**ПАР** *м.* пакінутая адлогам зямля; **папар, папарны; адлог.**

**ПАР** *м.* цеклаць абернутая гарачынёй ў лятучую форму; **пара, паруе, парыць, параваць, выпарывацца, паравы, парыва, паранiна, параніца. выпетрываць.**

**ПАРОВОЗ** *м.* **цягнік.** *Цягнік цягне ўвесь поезд.*

**ПАРОХОДСТВО, вадаплаўства, вадаплаўны.**

**ПАСАЖ** *м. франц.* крыты ход, праход з вуліцы ў вуліцу часам з крамамі і спаказамі тавараў; **апаветнік, апаветніца.**

**ПАСАЖИР** *м. франц.* **сядак, сядакі, сядацкі.**

**ПАСАТНЫЯ ВЕТРЫ,** якія ў вядомую пару году веюць заусёды з аднаго боку.

**ПАСПОРТ** *м. франц.* пасьведчаньне тожсамасьці асобы; **пашпарт**.

**ПАСИВ** *м. фр.* **доўг**. Процілеглае: *актыў—гатоўка.*

**ПАСИВНЫЙ**, **ад'емны**; актыўны: *дадатны.*

**ПАСКВИЛЬ** *м. франц.* безыменны, зьняважлівы, насьмешлівы твор; **пашквіль.**

**ПАСКОРНИ**, аскробкі мяздры; **мяздруга.**

**ПАСКОННЫЙ**, з горнай канаплі; **пяньковы.**

**ПАСЛЕН**, радавое найме расьцін Solanum; **глісьнік.**

**ПАСМО** *ж.* ніткі матаюць пасмамі; **пасмо.** Маток мае ад 7 да 17 пасмаў; пасмо мае 40 нітак ці 10 чысьменак па 4 ніткі.

**ПАСМУРНЫИ, хмарны, хмарлівы, хмарыцца, пахмурны**. *Пахмурная пагода, Захмарыўся хлапец, зажурыўся.*

**ПАСТБИЩЕ, паша, пасьвіць.**

**ПАСТЕЛЬ** *ж. італьян.* рысунак сухімі фарбамі.

**ПАСТЕРНАК** *м.* **пастарнак.**

**ПАСТИ** *статак,* **пасьвіць, пасьціць.**

**ПАСТВА** *ж.* **пасцьба, пасцьвіць.**

**ПАСТУХ** *м.* **пастух, пастыр, пастушок, пастускі.**

**ПАСТИЛА** *ж. лац.* (pasta), **запяканае фруктовае мязіва з цукрам.**

**ПАСХА** *ж. жыдоўск.* (пэйсах); **Вялікдзень.**

**ПАСТЬ, зеў, зяўло; зяпа, зяпаць,** крычаць на ўсю глотку.

**ПАС** *прысл. франц.* у гульні ў карты; **годзі.**

**ПАСЬЯНС** *м. франц.* раскладаньне карт рожным парадкам, часам з варажбой; **кабала.**

**ПАСЮК** *м, укр.* **пацук.** Расійск.: *крыса.*

**ПАТЕНТ** *м. лац.* ліст на годнасьць, вучоную ступеню, на права торгу.

**ПАТЕТИЧЕСКІЙ** *м. грэцк.* расчуляючы, пабуджаючы; **патэтычны.**

**ПАТОКА** *ж.* сток цечы, мядовы самацёк; бульбяны салодкі сыроп: **меляс.**

**ПАТОЛОГІЯ** *ж. грэцк.* навука аб азнаках і характарах хвароб; **паталёгія.**

**ПАТРІАРХ** *м. грэцк.* прабацька, **патрыярх.**

**ПАТРІОТ—ТКА,** хто любіць бацькаўшчыну; **патрыот—тка, парыотычны.**

**ПАТРОН** *м. лац.* апякун, заступнік дабрадзей; **апякун.** Папяровая ці мядзяная трубка для набояў; сам набой; **ладунак, ладункі.**

**ПАТРОНТАШ** *м. нямец.* **ладаўніца; кулетніца.**

**ПАТРУЛЬ** *м. франц.* вайсковы абход або аб'езд; **дазор.**

**ПАУЗА** *ж. грэцк. муз.;* **пяропын.**

**ПАУК** *м.* жамяра; **павук, павуковы, павучына, павучыньне.**

**ПАУПЕРИЗМ** *м. лац.* **бедната, абядненьне.**

**ПАХАБИТЬ,** гаварыць стыдныя словы, непрыстойна лаяцца; **машкеліць, машкельнік, машкельчына, машкяляць.** *Не машкяляй пры дзяцёх. Брыдка слухаць тваю машкельшчыну (Празарокі).*

**ПАХАТЬ** *зямлю,* **араць, заворываць, аромы, араньне, аральля; ральля, раліць, ралейны, аральбіт, араты, артай, артаі.**

**ПАХАРЬ,** хто арэ; **аральбіт, ратай, араты.**

*На жыцьцё багатае,*
*На сыноў ратаёў,*
*На дачок жнеяк.* (Дзіс. п. Вясель. п.).

---

*Не пашла-б я за аратага,*
*Ды пашла-б я за сэнатара.*

**ПАХОТА** *ж.* **ральля, аральля.** Слова „пашніца" сустрачаецца ў абрадовых песьнях ў значэньні „пасеву", „збожжа". *Радзі Божа жыта і пшаніцу, жыта і пшаніцу, ўсякую пашніцу!* Зраўняй „па-

ша", падножны корм. У Лепэльшчыне я чуў слова „пахаць" ў значэньні *сеяць*.

**ПАХМУРНЫЙ** *чалавек*, **хмырлівы, нахмыраны.**

**ПАХТАТЬ**, баўтаць, збаўтываць, зьбіваць цеклаць трасучы само начыньне, або калатоўкай; **баўтаць.** Аб зьбіваньні масла: **зьбіваць, біць; бойка,** дзяжурка да зьбіваньня масла.

**ПАХТАЛКА** *ж.* **бойка.** *Бойку купіла масла зьбіваць.* Кіёк плосмы на канцы, да зьбіваньня масла: **калатоўка.**

**ПАХТАНИНА** *ж.* сыроватка ад зьбітага масла; **масьлянка, юрага.**

**ПАХОВИНА**, сподняя і бакавая часьць бруха жывёлаў ад пупа да пах; **пахвіна, пахвінка.**

**ПАХОТИНА** *ж.* **паха, пашка.**

**ПАЦІЕНТ** *м. лац.* **хворы, спалечнік.**

**ПАЧЕ** *прысл.* **больш, лепш, больш за ўсё.** *Больш за ўсё сьцеражыся благога таварыства. Люблю парэчкі а больш чорныя.*

**ПАЧКА** *ж. нямецк.* зьвязка, згортак; **клумчык, клонцік, клонка.** *Купіу клонцік табакі. Іголкі прадаюць клонкамі па 12 штук у клончыку.*

**ПАЧКАТЬ** *што,* **пэцкаць, пэцканіна, пэцкіль.** *Гэта не майстар, а пэцкіль. Дзе гэта ты запэцкаўся ў сажу? Не памыўся, а толькі папэцкаўся.* **Мурзацца, замурзаны, мурзацік, мурза.** „Мурзамі" называюць вусны і шчокі ў пагардлівым значэньні; *замурзацца, абмурзацца,* знача папэцкаць нечым аблічча, а болей шчокі і вусны.

**ПАШТЕТ** *м. ням.* пірог з мясной накрыпкай; **пірог з накрыпкай, накрыпка.**

**ПАЯТЬ** *што,* злучаць ці зварываць мэталічныя часьці, лёгкатопным мэталям; **лютаваць, лютоўка, лютаваны, лютавальны, лютавальнік, лютаўнік.** *Медзь і бляху лютуюць цынай (stannum); медзь і зялеза—мядзяным прыварам; серабро і золата—сярэбранай і залатой прылюткай. Цынай лютуюць лютавальнікам, а медзьдзю—ў агне.*

**ПАЯЦ** *м. італьянск.*, **кулдыяш, кулдыш** (гл. „Гаер“).

**ПЕГАС** *м. грэцк.* баечны крылаты конь.

**ПЕДАГОГИКА** *жс. грэцк.* навука аб гадаваньні і выхаваньні дзяцей, маладзежы; **пэдагогіка.**

**ПЕДАЛЬ** *м. лац.* касарга, асьвер у рожных машын і музычных прылад, націсканы нагой; **понажы.** *У арганах і ў кроснах понажы.*

**ПЕДАНТ** *м. франц.* чалавек да драбніц акуратны; **крыпатун, крыпотлівасьць, крыпотлівы, крыптацца.** *Часам нельга ня быць крыпотлівым: саманеншая неакуратнасьць псуе ўсё. Ён зазвычай крыптаецца ў драбніцах.*

**ПЕДОМЕТР** *грэцк.* прылада да мераньня пройдзенага; **хадамер.**

**ПЕЙЗАЖ** *м. франц.*, ландшафт *нямецк.*; малюнак, выгляд мясцовасьці; **краёвідзь; спазор.** *З гары аткрываецца прыгожы спазор на раку і лес. У кнізе пададзена краёвідзь вельмі падобная да нашага краю.*

**ПЕЙЗАЖИСТ** *м. франц.* маляр які малюе краёвіды; **краёвіднік, краёвідны.**

**ПЕКЛЕВАТЬ** *жыта, пшаніцу,* **пітляваць, пітаць, пітляваны** хлеб; **пітляванікі,** блінцы з пітлянай мукі.

**ПЕЛЕНА** *жс.* палотнішча да пакрываньня чаго тканіна да абвіваньня чаго; **полка** (з „**апаволка**“, апавалачываць).

**ПЕЛЕНАТЬ** *дзяцё,* **спавіваць, спавіць.**

**ПЕЛЕРИНКА** *жс. франц.* круглы доўгі каўнер, поўплашчык; **палярынка.**

**ПЕЛЬМЕНЬ, ПЕЛЬМЕНИ** *вогульск.* заварыванае ў цесьце мяса маленькімі піражкамі; **каўдуны, каўдунцы.** Найме паходзіць ад назовы трыбуха—„*кіндзюк*“, „*каўдук*“; „каўдунцы“—малыя трыбушкі. *Беглі авечкі па калінаву масту, ўбачылі агонь,—скочылі ў ваду (Загадка: Каўдуны).*

**ПЕМЗА** *жс. ням.* наздраватая, кіпрая лява, адмена наздраватага каменя, застыгшай каменнай пены

выкіданай агнепыхлівымі горамі; **шарха, шархаваць; памакс, памаксаваць.**

**ПЕНТЮХ** *м.* **трыбух, кіндзюк, каўдук, пехтыр, мендзер;** гэта усё наймі трыбуха, бруха, жалудка самага рознаякага паходжаньня. *Сьвінны кіндзюк, каўдук с кашай. Янучок, Янучок, ці напхаў каўдучок!*

**ПЕНСІОН** *м.* або **ПЕНСІЯ** *ж. франц.* плата звыж памесячнай, пагоднай дажы, за заслугі, або за доўгалетную службу; **запаслуга.**

**ПЕНЬ** *м.* астатак пры карані ссечанага або зломленага дрэва; **пень, пні, пнішча, пнеўя, пністы; галамень, галамьё, галомісты; корч, карчы, карчаваць, карчаваньне.**

**ПЕНЬКА** *ж.* канопнае валакно; **пянька, пяньковы.**

**ПЕНЮАР** *м.* жаночая ранная вопратка; **растармашка.**

**ПЕНЯ** *ж.* кара грашмі; **грашобірка, грашаборны, грашаборы.**

**ПЕНЯТЬ, наракаць, дакараць, дакора.**

**ПЕНЯЗЬ** *м. ням.* **грош.**

**ПЕПЕЛ** *м.* **попел, попельны, попельнік, папяльніца, папялішча, папяліць, папялышка, папялыга; прысок, прысець, прысцовы, прысіць, спрысець, прысец; прысьнік** ямка ў печы куды зьмятаюць жар і попел.

**ПЕПЕЛИЩЕ, папялішча, пагарэлішча.**

**ПЕРВЫЙ** *лічэбн.* **першы, першасьць, пяршак, пяршачка, пяршанка, пяршацтва, пяршына, першаваць; пярвічка.**

**ПЕРВЕНСТВО, пяршацтва, пяршак.**

**ПЕРВИЧНЫЙ, першаісты, першаістасьць.**

**ПЕРВЕНСТВОВАТЬ, першаваць пяршуе.**

**ПЕРВОБЫТНЫЙ, першабытны, першаісты.**

**ПЕРВОВЕСНІЕ** *ср.* **прадвесьне.**

**ПЕРВОГЛАСНЫЙ** *напеў,* **першагалосны.**

**ПЕРВОГОДНЫЙ, першагодны, першагодак.**

**ПЕРВОДАННЫЙ** *сын*, **першародны.**

**ПЕРВОЗВАННЫЙ** *госьць*, **першазваны.**

**ПЕРВОЗДАННЫЙ** *камень*, **першатворны.**

**ПЕРВОЗИМЬЕ, зазімак, зазімкі.**

**ПЕРВОИЗБРАННИК, першавыбранец.**

**ПЕРВОКЛАССНЫЙ, першаклясны.**

**ПЕРВОНАЧАЛЬНЫЙ, першапачатны.**

**ПЕРВООБРАЗНЫЙ, першааблічны.**

**ПЕРВООСНОВАТЕЛЬ, першаасноўнік.**

**ПЕРВОСВЯЩЕННИК, першасьвятарнік.**

**ПЕРВОПЕЧАТНЫЙ, першадрукоўны.**

**ПЕРВОПИСНЫЙ, першапісны.**

**ПЕРВОПЛОДНЫЙ, першаплодны.**

**ПЕРВОПОБѢДНЫЙ, першапераможны.**

**ПЕРВОПОДВИЖНИК, першападзейнік.**

**ПЕРВОПРЕПОВѢДНИК, першапрапаведнік.**

**ПЕРВОПУТЬЕ, першадарожыца, першадарожны.**

**ПЕРВОРОДСТВО, першародзтва, першародны.**

**ПЕРВООСЕНЬЕ, першавосеньне.**

**ПЕРВОСЛУЖИТЕЛЬ, першапаслужнік.**

**ПЕРВОСТРАДАТЕЛЬ, першамучанік.**

**ПЕРВОСУЩНЫЙ, першаісты.**

**ПЕРВОУГОДНИК, першагодлівец.**

**ПЕРВОУЧЕНИК, першавучнік, першавучны.**

**ПЕРВОЦВѢТ, першаквет, першакветны.**

**ПЕРГАМЕНТ** *м.* цялячая ці другая скура прыгатаваная да пісаньня; **пэргамант.**

**ПЕРЕАУКИВАТЬ,** пераклікацца ў лесе; **перагукацца.**

**ПЕРЕБАВИТЬ** *чаго у што;* **перадаць.**

**ПЕРЕБАЛОВАЛИСЬ** *дзеці,* **распусьціліся, распуста.**

**ПЕРЕБАЛОТИРОВАТЬ** *каго,* **перагаласаваць.**

**ПЕРЕБАЛТЫВАТЬ** *лякарства,* **перабаўтываць.**

**ПЕРЕБИВАТЬ** *каго, што;* **перабіваць, перабіваньне, перабіўка, перабіўчывы, перабой, пяробіль.** *Толькі прывязла сыры на рынак дык наўпяробіль парасхапалі.*

**ПЕРЕБИРАТЬ** *што,* **перабіраць, перабірацца, пераборы, перабор, перабіраньне, пераборка, пераборчывасьць.**

**ПЕРЕБОЙ, пяробіль, пяробільны.**

**ПЕРЕБОДАТЬ, перабасьці, перабоды.**

**ПЕРЕБОЛТАТЬ, перабаўтаць.**

**ПЕРЕБОЛѢТЬ** *хварэючы,* **перахварэць.**

**ПЕРЕБОРАЗЖИВАТЬ** *што,* **перабарозіваць.**

**ПЕРЕБОРАНИВАТЬ** *ральлю,* **перабарановываць, пераскараджываць, пераскароджаны.**

**ПЕРЕБОРАТЬ** *каго,* **перабараць, перасіліваць, перамагаць.**

**ПЕРЕБОРМОТАТЬ, перамарматаць.**

**ПЕРЕБРАЖИВАТЬ,** пераходзіць праз брод; **перабрыдаць, перабрысьці, пераброд, пераброды.** *Ой шырока рэчка, мелкі пераброд. Не вайною, не паходам, а ракою, перабродам (Салд. песн.).*

**ПЕРЕБРАКОВАТЬ** *тавар,* **перабракаваць.**

**ПЕРЕБРАНИТЬ** *усіх,* **пералаяць, пералаівацца, пералайка, пералайчывы.** *Цябе, дачушка, сто сабак не перабрэшуць у пералайцы.*

**ПЕРЕБРАСЫВАТЬ** *камень праз хату,* **перакідаць, перакідацца, перакіданьне, перакідчывы, перакід, пярокід, пярокіды, пярокідак.**

**ПЕРЕБРАЧИТЬСЯ, пераженіцца.**

**ПЕРЕБРИВАТЬ** *каго,* перагаліць іначы; **перагаліваць.**

**ПЕРЕБРОДИТЬ** *аб піве,* **перабрузнуць, пяробрасьць;** **парабрузлае** малако, піва,—**перакісшае.**

**ПЕРЕБРИЗГИВАТЬ, перабрызгаць, пяробрызь.**

**ПЕРЕБРЯКАТЬ, перабрязгаць.**

**ПЕРЕБУКСИРОВАТЬ** *вадаплаў*, **пераваличы.**

**ПЕРЕБУНТОВАТЬ** *народ*, **перабунтэжыць, перабурыць.**

**ПЕРЕБУТИТЬ** *што*, **перажлукціць.**

**ПЕРЕБЫВАТЬ** *дзе*, **перабываць, перабыць, перабываньне.**

**ПЕРЕБЫЗИТЬСЯ** *аб статку*, **перагізавацць.**

**ПЕРЕБѢГАТЬ** *праз што*, **перабягаць, перабяганьне, перабегі, перабежка, перабежнік, перабеглы.** *Конь масточак перабег, спатыкнуўся на дарожцы.*

**ПЕРЕБѢЛИВАТЬ** *дом*, **перабяляць, перабяляны, перабелка.** *Больш каштуе перабелка як сама атынкоўка.*

**ПЕРЕБѢСИТЬ** *каго*, **перашалець.**

**ПЕРЕБѢЩИК**, **пяробег, перабежнік.**

**ПЕРЕВАДИТЬ** *каго*, **перанадзіць.** *Перанадзілі да сябе нашых галубоў.*

**ПЕРЕВАЗЖИВАТЬ** *каня*, **пераляйцоўваць.**

**ПЕРЕВАЛИВАТЬ** *што куды*, **пераваліваць, пераваляць, пераваляньне; перавал.**

**ПЕРЕВАРАКСАТЬ, перакешкаць.**

**ПЕРЕВАРИВАТЬ** *што*, **пераварываць, прагатовываць.**

**ПЕРЕВАРИВАТЬ** *аб жываце*; **percтраўляць, ператураўлены.** *Сабака і косьці ператураўляе.*

**ПЕРЕВЕРСТЫВАТЬ** *што*, **перашыхтовываць.**

**ПЕРЕВЕРТЫВАТЬ** *што*, **перавяртаць, перавернуты, пяровертка, пяроверцень.**

**ПЕРЕВЕРШИВАТЬ** *што*, **перапастанаўляць.**

**ПЕРЕВЕСЛО** *абвязаць*, саламяны шнур да зьвязываньня снапа; **пяровясла;** такжа перавязка на вядрэ.

**ПЕРЕВЗНУЗДЫВАТЬ** *коні*, **перакелзываць.**

**ПЕРЕВИВАТЬ** *што чым*, **перавіваць, перавіўца, перавіўка, перавіўчывы.**

**ПЕРЕВИЗЖАТЬ** *каго,* **перапішчаць, перазьвіржджэць.**

**ПЕРЕВИНЧИВАТЬ** *што,* **перашрубовываць.**

**ПЕРЕВИРАТЬ** *што, каму;* **пералгаць, пералгацца, пералганьне, пяролгі, пяролыжны, пералыгі і пяролыгі, пералыгчывы.** *Хто мяне пералжэ, трох дзён не пражыве. Адзін лгаў, не далгаў, другі лгаў, пералгаў, трэці пералыгіваў.*

**ПЕРЕВИСАТЬ,** *вісець, цераз што;* **перавісаць, перавіслы, пяровеска.**

**ПЕРЕВОДИТЬ** *што, каго;* вывеўшы з аднаго мейсца пакідаць на другім; **перавадзіць, перавод, пераводнік—ніца, пяровады.**

**ПЕРЕВОДИТЬ** *з аднэй мовы на другую;* **перакладаць, пераклад, пераклады, перакладчык—чыца, перакладзены.** *З чужой мовы цяжка зрабіць добры пераклад. Перакладчык не павінен трымацца будовы чужой мовы.*

**ПЕРЕВОДИТЬ, нішчыць, выгубляць.** *Мышэй нішчаць атрутай. Выучні пакуль навучацца пісаць пераніщчаць многа пёр і паперы.*

**ПЕРЕВОЗИТЬ** *што, куды;* **перавазіць, перавазіцца,** пераваз, **перавозка, перавозьнік, перавозны.**

**ПЕРЕВОЙ,** перавіў, **перавіўны.**

**ПЕРЕВОЛАКИВАТЬ** *што праз што;* **пераваланываць, паравалочны, пераванока, пераваноччa; перавалочына—ніца,** пярокладка, папярэчніца на двох стаўбах; папярэчная бэлька ў будоўлях бяз столі.

**ПЕРЕВОЛОЧЬ** *што,* **перавалачы.**

**ПЕРЕВОРАЧИВАТЬ** *што,* **перавяртаць.**

**ПЕРЕВОРАШИВАТЬ** *сена,* **перетрасаць, пературска.**

**ПЕРЕВОРОТИТЬ** *што,* **перавярнуць.**

**ПЕРЕВОРСИТЬ** *сукно,* **перакуграць, перакутрыць.**

**ПЕРЕВОРЧАТЬ** *на каго,* **перабурчэць, перакватаць, перапуктаць.**

**ПЕРЕВОСПИТЫВАТЬ** *каго,* **паравыховываць.**

**ПЕРЕВОСТРИТЬ** *нож,* **перайстрыць.**

**ПЕРЕВОЩИК** *м.* **перавозьнік.**

**ПЕРЕВРАТЬ** *што, каму;* **пералгаць, пераманіць.**

**ПЕРЕВЬЮЧИВАТЬ** *каго,* **launratрочываць, launratрочаньне.**

**ПЕРЕВѢВАТЬ** *збожжа,* **перавяваць, перавяваньне.**

**ПЕРЕВѢШИВАТЬ** *што на вагах;* **пераважываць, пераважываньне, перавага, пераважнік.** *На адных вагах важ, а на другіх пераважывай.*

**ПЕРЕВЯЗЫВАТЬ** *што,* **перавязываць, апавязываць, спавязываць.** *Рана ня добра апивязана-абвязана. Вязаў вузлы ды дрэнна, дык цяпер п е р а в я з у е. Спавяжы клункі свае.*

**ПЕРЕГАР** *м.* **перапал.**

**ПЕРЕГИБЧАТЫЙ, перагібісты, пярогіб.**

**ПЕРЕГЛЯДЫВАТЬ** *што,* **пераглядаць, пярогляд.**

**ПЕРЕГНОЙ,** што перагніло; **пярогніль, пярогніўны.**

**ПЕРЕГНУСИТЬ** *што,* **перагугнавіць.**

**ПЕРЕГОВАРИВАТЬ** *што,* **перагаварываць перагаворы.**

**ПЕРЕГОРАЖИВАТЬ** *што,* **перагараджываць, перагародка.**

**ПЕРЕГОРОДЧАТЫИ, перагáродністы.**

**ПЕРЕГОРДИЛИСЬ** *ўсе,* **перапышэлі.**

**ПЕРЕГОРЕВАТЬ** *гора,* **перагараваць.**

**ПЕРЕГРАБИТЬ** *у людзей,* **перагрaбаваць, перарабаваць, пералупіць.**

**ПЕРЕГРЕЗИТЬ** *ў думах,* **перамроіць.** *Мала чаго чалавек перамроіць, пакуль да чаго дойдзе.*

**ПЕРЕГРОХОТАТЬ** *ўсё,* **пераграката́ць.**

**ПЕРЕГРУЖАТЬ** *тавар,* **перакладаць, перавáліваць.**

**ПЕРЕГРУПИРОВАТЬ** *каго, што;* **перагрупавáць.**

**ПЕРЕГРУСТИТЬ** *па кім,* **перамаркоціцца.**

**ПЕРЕГРЯЗНИТЬ** *што,* **перабрудзіць.**

**ПЕРЕДАВАТЬ** *што, каму;* **перадаваць.**

**ПЕРЕДАВЛИВАТЬ** *што,* **пераціскаць, пяроцісь**

**ПЕРЕДОЙНИЦА** *карова,* **перадойка.**

**ПЕРЕДАТОЧНЫЙ, перадатны, перадача.**

**ПЕРЕДБАННИК** *м.* **прылазьнік, прымыйнік.**

**ПЕРЕДВИГАТЬ** *што,* **перасуваць, перасоўка, перасоўны, пяросаўка.** *Перасувалі стол і палачалі ножкі. Серады не перасунеш.*

**ПЕРЕДГОРЬЕ** *ср.* **узгорья, паўзгорья.**

**ПЕРЕДЕРГИВАТЬ** *што,* **перастыргаць, перастыргнуты.**

**ПЕРЕДЕРЖАТЬ** *што,* **ператрымаць, ператрымка.**

**ПЕРЕДЛИНИТЬ** *што,* **перадоўжыць.**

**ПЕРЕДОЛЖИТЬ** *што,* **перадоўжыць.**

**ПЕРЕДОЛБИТЬ** *што,* **перадзяўбсьці, перадзяўбці.**

**ПЕРЕДОПРОС** *м.* **пяропыт, перадопыт.**

**ПЕРЕДПОСЛѢДНІЙ** *грош,* **перадапошні.**

**ПЕРЕДРАЗНИВАТЬ** *каго,* **перадражняць.**

**ПЕРЕДРОБИТЬ** *косць,* **раздрушчыць.**

**ПЕРЕДРОГНУТЬ,** дрыжэць ад сьцюжы; **перазябнуць, перадрыжэць, перакалаціцца.**

**ПЕРЕДРЯГИ,** сваркі, калатня; **перакалоты.**

**ПЕРЕДРЯБНУТЬ, перахізнуць, ператрухлець.**

**ПЕРЕДРЯЗГИ, перасваркі, перакалоты.**

**ПЕРЕДУНУТЬ** *што,* **перадзьмухнуць.**

**ПЕРЕДНЯЯ,** першы пакой, пакойчык пры ўходзе

ў дом; **сені, сенцы.** *Судзьдзя нас у сенцах пратрымаў да поўдня. Паны любяць простых людзей у сенцах прыймаць.*

**ПЕРЕДНИК** *м.* часьць вопраткі рожнага выгляду і крою для акрыцьця верхняй вопраткі ці для аздобы; **панявень, панявок, поняўка, поньцік; запалак; хвартух, хвартушок.** „Хвартух" слова нямецкае, зайшло да нас праз палякаў (ням.: Fahrtuch). Наша пітомае слова *панява.* Панява гэта сымвал замужнай жанкі, як і чапец. Абычай нашэньня паняўкоў дзяўчатамі, як аздоба да вопраткі, гэта так сама праціўна нашым традыціям як абстрыганьне валасоў у дзяўчат, як адзяваньне іх у чапец.

*Узяў цябе у перайку,*
*Пушчу ў паневяйку. (Бязсонаў).*

**ПЕРЕДОВОЙ,** хто, або што на перадзе; **нярэдні, наўпярэдні.**

**ПЕРЕДИРИТЬ** *што,* **прадзіравіць.**

**ПЕРЕДЫШАТЬ, перадыхаць, перадышка;ператхнуць, пяротха.** *Без спачынку, без пяротхі гналі нас у воласьць.*

**ПЕРЕДѢЛЫВАТЬ** *што,* **перарабляць, перарабляцца, перарабляньне, пераробка, пераробны.** *Гарбатага толькі магіла пераробіць. Усіх работ зразу не пераробіш.*

**ПЕРЕЖАРИВАТЬ** *пячэню,* **перапражываць.** *Лепш недапражыць чым перапражыць. Кава недапражана, трэба перапражыць.*

**ПЕРЕЖАТЬ, пераціснуць.**

**ПЕРЕЖАВКАТЬ, перачаўкаць, пераржваць.**

**ПЕРЕЖЕЛАТЬ** *чаго,* **перахацець.**

**ПЕРЕЖЕРАВЛИВАТЬ** *асьвер,* **перасьверываць.**

**ПЕРЕЖИГАТЬ** *што,* **перапаляць, перапаляньне, перапал, перапалкі.**

**ПЕРЕЖИЖЖАТЬ** *што,* **перарэджаць, перарэджаны.**

**ПЕРЕЗАРИТЬСЯ** *на што,* **перагаліцца.**

**ПЕРЕЗНОБИТЬ** *рукі ногі;* **перазябіць.**

**ПЕРЕЗОЛЯТЬ** *попел,* **пералуговываць.**

**ПЕРЕЗРѢВАТЬ** *аб фруктах,* **перасьпяваць, перасьпелы.**

**ПЕРЕИМЕНОВЫВАТЬ** *даць другое імя,* **перамяновываць.**

**ПЕРЕКАЛЯТЬ** *дрот,* **перапаляць, перапал.**

**ПЕРЕКОЛОТЬ, расшчапаць; перашчапіць, перашчэп.**

**ПЕРЕКАЛЯКАТЬ** *аб чым,* **перагукаць.**

**ПЕРЕКОПТИТЬ, перадыміць, пераванглiць.**

**ПЕРЕКАТЫВАТЬ, перакачываць, перакочаны, ператотны, перакот.** *Праз камяні бярвеньня не перакоціш. Яйко перакацілася.*

**ПЕРЕКАЧНУТЬ** *што,* **перахібнуць.**

**ПЕРЕКИДЫВАТЬ** *што,* **перакідаць.**

**ПЕРЕКИПАТЬ, перакіпеніць, пярокіп.**

**ПЕРЕКИСЬ, пяроквась.**

**ПЕРЕКЛАДЫВАТЬ** *што,* **перакладаць.**

**ПЕРЕКЛАДИНА,** у будоўлі, верхняя зьвязка; **пярэчніца, папярэчніца, пярочага;** *у сасе:* **паліца.**

**ПЕРЕКЛЕВЫВАТЬ** *што,* **перадзюбываць, перадзюбнуць.**

**ПЕРЕКЛОЧИТЬ** *што,* **пераскумаць, перакудлаць.**

**ПЕРЕКОБЕНИТЬ** *каго,* **перакабаціць.**

**ПЕРЕКОВЕРКАТЬ** *што,* **пераламаць, пеpакрыўляць.**

**ПЕРЕКОВЫЛЯТЬ** *дарогу,* **перакандыбаць, перадыбаць.**

**ПЕРЕКОВЫРЯТЬ** *што,* **перакалупаць.**

**ПЕРЕКОЛАЧИВАТЬ** *што,* **перабіваць, перабіваньне.**

**ПЕРЕКОНОПАТИТЬ** *што,* **перапакляваць.**

**ПЕРЕКОРОБИТЬ** *што,* **перакарабаціць, перакрывіць.**

**ПЕРЕКОРЧИТЬ** *каго*, **перакрывіць, перакорчыць.**

**ПЕРЕКОРЯЧИТЬ** *нагамі*, **паражаргаць.**

**ПЕРЕКОЧЕНѢТЬ** *на марозе*, **перакалець.**

**ПЕРЕКРАСИТЬ** *што*, **перафарбаваць, перамаляваць.**

**ПЕРЕКРАХМАЛИТЬ** *што*, **пераскорбліць.**

**ПЕРЕКРОШИТЬ** *што*, **перакрышыць, перакружаць.**

**ПЕРЕКРЕСТИТЬ** *каго*, **пераксьціць.**

**ПЕРЕКРЕСТОК**, мейсца дзе перасякаюцца дарогі (+) **пярокрыжкі, крыжавыя дарогі;** мейсца дзе дарога разыходзіцца на двое віламі ( ≺)—**ройста, розстанкі.**

**ПЕРЕКУБАРИТЬСЯ**, **перакуліцца.**

**ПЕРЕКУВЫРНУТЬ** *што*, **перакуліць, перакуляць.**

**ПЕРЕКУПАТЬ** *што*, **перекупляць, пярокуп.**

**ПЕРЕЛАГАТЬ** *што*, **перакладаць, пераклад.**

**ПЕРЕЛЕЛЕЯТЬ** *дзяцей*, **перакукобіць.**

**ПЕРЕЛИСТОВЫВАТЬ** *кнігу*, **перагартаць.**

**ПЕРЕЛИЦОВЫВАТЬ** *што*, **пераніцовываць, пераніцоўка, пераніцаваны.**

**ПЕРЕЛОГ** *м.* **дзірван.**

**ПЕРЕЛУЖИВАТЬ** *рондлі*, **перапабяляць, перапабела.**

**ПЕРЕЛУКАВИТЬ** *каго*, **перахітрыць.**

**ПЕРЕЛЯГНУТЬ** *праз што*, **перабрыкнуць.**

**ПЕРЕМАЯТЬ** *людзей*, **ператаміць, перамучыць**

**ПЕРЕМЕДЛИТЬ**, **перамарудзіць.**

**ПЕРЕМЕЖКА**, **мітускі, пераменкі.**

**ПЕРЕМЕЖНО**, **пераменна, наўпераменна.**

**ПЕРЕМЕЛЬЧАТЬ** *што*, **перадрабляць.**

**ПЕРЕМЕТ** *м.* **пярокідзь, ўпярокідзь.**

**ПЕРЕМЕТЫВАТЬ** *што*, **перакідаць, перашпургаць.**

**ПЕРЕМОРОСИТЬ** *дожджам*, **перакрапаць.**

**ПЕРЕМѢННОСТЬ, зьменнасьць, зьменчывасьць**

**ПЕРЕМѢТИТЬ** што, **перазначыць.**

**ПЕРЕМЯГЧАТЬ** *што*, **перамякчаць, перамяклы.**

**ПЕРЕНАЗМИТЬ** *папар*, **перагнаіць.**

**ПЕРЕНАШИВАТЬ** *што*, **перанасіць, пераносчывы.**

**ПЕРЕНОСЬЕ, пераносіца.**

**ПЕРЕОБРОЧИТЬ** *каго*, **перачыншаваць.**

**ПЕРЕОБЫКНУТЬ, перавыкнуць.**

**ПЕРЕОДѢВАТЬ** *каго*, **пераапранаць.**

**ПЕРЕОСВИДѢТЕЛЬСТВОВАТЬ, пераасьведчыць.**

**ПЕРЕПАИВАТЬ** *што*, **пералютовываць.**

**ПЕРЕПАКОСТИТЬ** *што*, **перагадзіць.**

**ПЕРЕПАЛЗЫВАТЬ** *куды*, **перапаўзаць, перапоўзіны.**

**ПЕРЕПАХИВАТЬ** *ральлю*, **пераворываць.**

**ПЕРЕПАХНУТЬ** *палу сьвіткі*, **перахітнуць.**

**ПЕРЕПЕЛЕНЫВАТЬ** *дзіцянё*, **перапавіваць.**

**ПЕРЕПЕЛ** *м. птах.* **перапёлка.**

**ПЕРЕПЕЧАТЫВАТЬ** *кнігу*, **перадруковываць.**

**ПЕРЕПИЛИВАТЬ** *дашку*, **перапіловываць.**

**ПЕРЕПИХИВАТЬ** *што*, **перапіхаць.**

**ПЕРЕПЛАВЛЯТЬ** *лой*, **перапапляць, перапопны.**

**ПЕРЕПЛАНИРОВАТЬ** *мяйсцовасьць* **перапляноваць.**

**ПЕРЕПЛЕСНУТЬ** *ваду*, **перапялёхнуць.**

**ПЕРЕПЛЕТАТЬ** *кнігу*, **сшываць.**

**ПЕРЕПЛЕТЧЫК** *м.* **шытар, шытарства.**

**ПЕРЕПЛЕТНАЯ** *ж.* **кнігашытня.**

**ПЕРЕПЛУТОВАТЬ** *каго*, **перамахляваць.**

**ПЕРЕПОНКА** *ж,* прыродная перагародка ці разгародка ў целе жывёлы расьціны; **балона, балонка, плеўка.**

**ПЕРЕПОНЧАТЫИ,** балонлівы, балоністы.

**ПЕРЕПОРУЧАТЬ** *каму,* перадаручаць.

**ПЕРЕПОРХНУТЬ** *куды,* перапырхнуць.

**ПЕРЕПОРТИТЬ** *што,* перапсаваць.

**ПЕРЕПРАЗДНОВАТЬ,** перасьвяткаваць.

**ПЕРЕПРАШИВАТЬ** *каго,* перапытываць.

**ПЕРЕПРИКАЗАТЬ** *каму,* перазагадаць, перазагад.

**ПЕРЕПРОКИДЫВАТЬ** *што,* перакідаць, пераkуляць.

**ПЕРЕПРИГИВАТЬ** *што,* пераскаківаць.

**ПЕРЕПРѢТЬ** *ў печы,* перапетрыць.

**ПЕРЕПРЯДЫВАТЬ,** перасігаць, пераскакаць.

**ПЕРЕПРЯМИТЬ** *пруткі,* перапраставаць.

**ПЕРЕПРЯТЫВАТЬ** *што,* перахoвываць.

**ПЕРЕПУГАТЬ** *каго,* перапужаць, перастрашыць.

**ПЕРЕПУТЬЕ,** раздарожжа.

**ПЕРЕПУТАТЬ** *што,* пераблутаць.

**ПЕРЕПЫРАТЬ** *каго, што;* перапыркаць, перапырнуць.

**ПЕРЕПЯЛИВАТЬ** *што,* перапінаць.

**ПЕРЕПЯТНАТЬ** *што,* перапляміць.

**ПЕРЕРАБОТАТЬ** *што,* перарабіць, пераробка

**ПЕРЕРДѢТЬ** *чырванець сьпеючы,* перажаўрэць

**ПЕРЕРЕБЯЧИТЬСЯ,** передзяцініцца.

**ПЕРЕРОБѢТЬ,** перебаяцца, боязкі, ператоропець.

**ПЕРЕРОЖАТЬ,** перараджаць, перароджаны.

**ПЕРЕРОНЯТЬ** *што,* пераскідаць.

**ПЕРЕРУБАТЬ** *што,* перасякаць, перасека.

**ПЕРЕРУГАТЬ** *людзей,* пералаяць.

**ПЕРЕРЫВАТЬ** *зямлю,* перакапываць, перакоп·

**ПЕРЕРЫВ** *м.* пярорва, перапын.

**ПЕРЕРЫДАТЬ**, перахліпаць.

**ПЕРЕРЫСКАТЬ** *горад*, перагнаць, ганьба, гон.

**ПЕРЕРЫХЛИТЬ** *зямлю*, перапухліць.

**ПЕРЕРѢЗЫВАТЬ** *што*, перарэзаць, перарэз.

**ПЕРЕРЯЖИВАТЬ** *каго*, перапранаць.

**ПЕРЕСАЖИВАТЬ** *дрэвы*, перасаджаць.

**ПЕРЕСАСЫВАТЬ** *што*, перасысаць.

**ПЕРЕСКОБЛИТЬ** *што*, пераскрабці.

**ПЕРЕСКАЗЫВАТЬ** *што*, перапавядаць, пераказываць.

**ПЕРЕСКОРБѢТЬ** *аб чым*, перасумаваць.

**ПЕРЕСКУДѢТЬ**, иеранеціцца, перабяднець.

**ПЕРЕСКУЧИТЬСЯ**, перанудзіцца.

**ПЕРЕСЛАЩИВАТЬ** *гарэлку*, перасаладжываць.

**ПЕРЕСЛУШИВАТЬ** *што*, перaслухаць.

**ПЕРЕСМАТРИВАТЬ** *што*, пераглядаць.

**ПЕРЕСНАБЖАТЬ** *каго*, перазасобіць.

**ПЕРЕСНАРЯЖАТЬ** *каго*, перапасылаць.

**ПЕРЕСНАЩИВАТЬ** *што*, пераснаджываць.

**ПЕРЕСОВЫВАТЬ** *што*, перасуваць.

**ПЕРЕСОВѢТОВАТЬ** *каму*, перарадзіць.

**ПЕРЕСОЗИДАТЬ** *што*, перастварaць.

**ПЕРЕСОРТИРОВЫВАТЬ** *што*, перасартовываць.

**ПЕРЕСОЧИНЯТЬ** *кнігу*, перакладаць, перасклад.

**ПЕРЕСПѢСИВѢТЬ**, перапышэць.

**ПЕРЕСПАРИВАТЬ** *каго*, пераспрачаць.

**ПЕРЕСПОСОБИТЬ** *рэч*, peраладзіць.

**ПЕРЕСПРАШИВАТЬ** *каго*, перапытываць.

**ПЕРЕСРОЧИТЬ** *час*, перарочыць,ператэрміиаваць.

**ПЕРЕССОРИТЬ** *каго з кім*, перасварыць.

**ПЕРЕСТАНОВКА** *чаго*, перастаўка.

**ПЕРЕСТЕГАТЬ** *коўдру,* **перасьцібаць.**
**ПЕРЕСТЕКЛОВАТЬ** *што,* **перашкліць.**
**ПЕРЕСТИГАТЬ** *каго,* **перасягаць.**
**ПЕРЕСТИРАТЬ** *што,* **перамыць.**
**ПЕРЕСТРАГИВАТЬ** *што,* **перастругаць.**
**ПЕРЕСТРАДАТЬ,** **перамучыцца.**
**ПЕРЕСТРАИВАТЬ** *што,* **перабудовываць.**
**ПЕРЕСТРАХОВАТЬ** *дом,* **перабасьпечаць.**
**ПЕРЕСТЫВАТЬ,** **перастыгаць.**
**ПЕРЕСУЖИВАТЬ** *каго,* **перасуджаць.**
**ПЕРЕСУШИВАТЬ** *што,* **перасушаць.**
**ПЕРЕСЧИТЫВАТЬ** *што,* **пералічаць.**
**ПЕРЕСЫРѢТЬ,** **праволгнуць, переволагнуць.**
**ПЕРЕСЫЩАТЬ** *што,* **перасычаць.**
**ПЕРЕТАСКИВАТЬ** *што,* **перацягаць.**
**ПЕРЕТАЛКИВАТЬ** *што,* **перапіхаць.**
**ПЕРЕТОМИТЬ** *людзей,* **перамарыць.**
**ПЕРЕТЕРЕБИТЬ** *воўну,* **пераскубаць.**
**ПЕРЕТЕРѢТЬ** *скуру,* **працерці, перасморгаць.**
**ПЕРЕТЕРЗАТЬ** *каго,* **соратузаць.**
**ПЕРЕТЕРЯТЬ** *што,* **перагубіць.**
**ПЕРЕТЕСЫВАТЬ** *брус,* **перачосываць.**
**ПЕРЕТОЛКОВЫВАТЬ** *што,* **ператлумачываць.**
**ПЕРЕТОЛОЧЬ** *крупы,* **ператаўчы.**
**ПЕРЕТОПОРЩИТЬ** *рукі,* **ператапырыць.**
**ПЕРЕТОРОПИТЬ** *каго,* **перетуравіць.**
**ПЕРЕТОРМОЗИТЬ** *машыну,* **перагальмаваць.**
**ПЕРЕТОРМОШИТЬ** *што,* **пераскуматаць.**
**ПЕРЕТОСКОВАТЬ,** **пeратужыць.**
**ПЕРЕТРАВИТЬ** *што, квасамі;* **перапаліць.**
**ПЕРЕТРАНЖИРИТЬ** *многа грошы,* **пeратраляваць.**
**ПЕРЕТРАТИТЬ** *грошы, дабро;* **перамарнаваць.**
**ПЕРЕТРЕЗВИТЬ** *каго,* **працьвярозіць.**

**ПЕРЕТРУНИТЬ** *каго,* **парашк*е*ліць, паракп*і*ць.**

**ПЕРЕТРЯСЫВАТЬ** *сена,* **паратруш*а*ць, пяротрус.**

**ПЕРЕ́ТЬ,** сунуць нешта упіраючыся; **налягаць; п*е*рці, прэ, прэцца, разпір*а*е, падпір*а*е, запір*а*е.** Да гэтага караня трэба аднясьці *пяру, праць, і* магчыма: *Пяру́н.*

**ПЕРЕТЯПАТЬ** *што,* **пераць*ю*кацъ.**

**ПЕРЕУВѢРИТЬ** *каго,* **паракаб*а*ціць.**

**ПЕРЕУГЛИТЬ** *што,* **парав*о*гліць, парав*о*гліў.**

**ПЕРЕУКЛАДЫВАТЬ** *што,* **паракладаць.**

**ПЕРЕУЛОК** *м.* папярэчная вулка; **паравулак.** Глухая вулка: **зав*у*лак.**

**ПЕРЕУМНИЧАТЬ** *каго,* **парахітр*ы*ць.**

**ПЕРЕУСТУПАТЬ** *што,* **параўступ*а*ць.**

**ПЕРЕУТЮЖИТЬ** *што,* **парап*е*гліць.**

**ПЕРЕХВАТЫВАТЬ** *што,* **парах*о*пліваць.**

**ПЕРЕЦВѢТАТЬ, параквіт*а*ць, паракв*е*т.**

**ПЕРЕЦ** *м.* расьціна Piper nigrum; **п*е*рац, пярцовы, п*е*рчыць, пярч*ы*ца, перчын*а*.**

**ПЕРЕЦѢПЛЯТЬ** *што,* **парачапляць.**

**ПЕРЕЧАЛИТЬ** *што,* **паравяз*а*ць.**

**ПЕРЕЧЕНЬ** *чаго,* **рэ*е*стр, рээстрав*а*ць.**

**ПЕРЕЧЕРТИТЬ** *што,* **паракрэсьліць.**

**ПЕРЕЧЕТ** *чаго,* **парал*і*к.**

**ПЕРЕЧИНЯТЬ** *што,* **парапраўляць.**

**ПЕРЕЧИСЛЯТЬ** *што,* **пнралічаць.**

**ПЕРЕЧНИЦА,** *што папярок;* **папярэчка.**

**ПЕРЕЧНИЦА,** *у чым трымаюць перац;* **пярцоўніца.**

**ПЕРЕЧУВСТВОВАТЬ** *што,* **парач*у*ць, парапач*у*ць.**

**ПЕРЕШАГНУТЬ** *што,* **паракр*о*чыць, паражыргн*у*ць.**

**ПЕРЕШЕЕК, парашыяк, парахв*а*т, парасм*ы*к, пяроцісь, парач*а*п.**

**ПЕРЕШИБИТЬ** *што,* **параб*і*ць.**

**ПЕРЕШИПѢТЬ** *каго,* **перасіпець.**

**ПЕРИЛА** (апірацца), **поручы, рэлі, балясы.** *У крэсьле поручы; пры масьце ставяць—рэлі, а паладок (бальконччык) мае—балясы.*

**ПЕРЕСТИЛЬ** *м. грэцк.* Крытыя пераходы на стаўбах; **апавеці, посенкі.**

**ПЕРИСТЫИ, пёрысты, пёрны.**

**ПЕРИФЕРІЯ** *ж. грэцк.* **абакружыца.**

**ПЕРИФРАЗА** *ж. грэцк.* **пераказ.**

**ПЕРЕФРАЗИРОВАТЬ** *што,* **пераказаць.**

**ПЕРІОД** *м. грэцк.* час ад аднаго здарэньня да другога; *арх.:* **рок, рочны, рокі.** *Рокі судовыя* тэрміны, пэрыёды судоў; іх было спярша чатыры ў гаду, а пазьней два—вясной і восеньню. *Рокі соймовыя,* пэрыёды соймаў; **пэрыёд, пэрыёдычны.** Народнае: **верамье.** У веташнае (калі месяц на ветаху) верамье ня можна сьвяжаваць статку, бо мяса будзе ўбываць варучыся і хутка чарвець (Задарожжа). *Вось у гэта верамье,—ад Турэцкай да Японскай вайны. Жонка хворая на вярэміцу не павінна хлеба мясіць, гэта грэх. (Навагрудзк. п.).*

**ПЕРЛОМУТР** *м. ням.* **пэрлавіца, перавічны.**

**ПЕРЛЮСТРАЦІЯ** *ж. франц.* тайнае чытаньне чужых лістоў.

**ПЕРО** *ср. агульн. слав.* Пяро складаецца са *стрыжня і махтачоў;* стрыжэнь: *з камля,* або *дудкі з душой і з лычка.* Абрэз дудкі пісомага пяра: *борк.* **Пяро, пёрка, пёры, пярына, пярцо, пярынка, пёрысты, пераваты, пярыстасьць, пёрны, пёрнаўка, пярнатка, пернаціць** (стрэлы), **пярнач,** булава з пёрамі, рэбрамі наверсе.

**ПЕРПЕНДИКУЛЯР** *м.* лінія пад 90° вуглом; **прастапад.**

-**ПЕРСИК** *м.* дрэва і плод Persica vulgaris; **брусква, бруcквіца.**

**ПЕРСОНА** *ж. франц.* **асоба;** архаічн.: **парсуна.** *Абед замоўлены на пяць асоб.*

**ПЕРСПЕКТИВА** *ж. лац.* спазор ўперад, на адлегласьць; аманчывае паменшаньне рэчаў ўмеру іх аддаленьня ад глядача; ўсе чаго чакле і спадзяецц

чалавек у будучыне; **пэрспэктыва, пэрспэктыўны; празор.** *Простая ў празоры прасада. (Лужкі Дзісенск. п.).*

**ПЕРСТ** *м.* **палец, пальчык, палюх, пальцы, пальцаваты, пальчасты; пальчаткі,** *рукавіцы з пальцамі.*

**ПЕРСТЕНЬ** *м.* **персьцень, пярсьцёнак, пярсьцёнік, пярсьцёнчык.**

**ПЕРЧАТКИ** *ж.* **пальчаткі, рукавічкі.**

**ПЕРТУРБАЦІЯ** *ж. лац.* **непакой.**

**ПЕРУН** *м. міт.* З усіх славянскіх народаў найжывейшая памяць аб Пяруну захавалася у Крывічоў. Паводле народнага апісаньня—гэта высокі, плячысты галавач з доўгімі валасамі, чорнымі вачамі і залатой барадой; у левай руцэ ў яго лук, ў правай страла; езьдзіць ён па небе ў залатой павозцы і пускае агністыя стрэлы. Слова *пярун* сягае ў праарыйскую эпоху: паміж іншымі эпітэтамі Індры было *parjanya, parganya,*—грамавая хмара, ад караня *prg (=prć)*—разсяваць, акрапляць, пырскаць. **Пярун; пяруном,** хутка, пасьпешна, скора.

**ПЕСИМИСТ** *м. лац.* чалавек якому здаецца што ўсё ідзе на сьвеце да горшага, які ва ўсім бачыць толькі зло, які на ўсё ўзіраецца панура.

**ПЕСОК** *м.* **пясок, пясчына, пясчынка, пяскі, пяскаваты, пясочны, пясчысты, пясчанка.**

**ПЕСТИК** *м.* пладнік, тая часьць кветкі якая запладняецца і далей творыць завязь і плод; **таўкачык.**

**ПЕСТРЫЙ, рабы; перапялёсы, пярэсты, стрыкаты.** *Стрыкатая курыца.*

**ПЁСТРО, стрыката, стрыкацiста, стрыкацэнькі, стрыкаціна, стрыкацiць.** *Не багата ды бліс куча і стрыката.*

**ПЕСТРѢТЬ, пярэсьціць, стрыцець.**

**ПЕСТ** *м.* **таўкач, таўкачык, таўчы.**

**ПЁС** *м.* **сабака, сабачка, сабачэц, сабацкі, сабацы, сабачэць.** *Сабака,* ўзрослы сабачы самец;

*сука, сучка,* сабачая самка; **клюст** сабачы **самец** расплоднік (кобель). Падодле адмен бываюць: ***кундаль*** або ***кундыс, брэхта, выжал, гончы, хорт, ямнік.***

**ПЕТАРДА** *ж. франц.* **бляшанка напоўненая порахам да ўзрываньня чаго.**

**ПЕТИТ** *м. франц.* самыя дробныя друкарскія літары; **пэціт.**

**ПЕТИЦІЯ** *ж. лац.* пісаная просьба; **просьба.**

**ПЕТЛЯ** *ж.* **пятля, пяцелька, пятальга; пятляць, путлаць,** круціць, блутаць.

**ПЕТЛИЦА** *ж.* абшытая або прышытая засцібка для гузіка; **пяцелька; зашплік.** *Ходзіць з кветкай у зашпліку.*

**ПЕТЛИ**, пры дзьвярох; **завесы.**

**ПЕЧАЛИТЬ** *каго,* **смуціць, смутак, смутны.**

**ПЕЧАЛОВАТЬСЯ, смуціцца.**

**ПЕЧАТЬ** *ж.* **пячаць, пячатка, пячатаць.**

**ПЕЧАТАТЬ**, адбіваць друк; **друкаваць.**

**ПЕЧАТНИК,** хто друкуе; **друкар.**

**ПЕЧАТНЯ**, установа да друкаваньня; **друкарня.**

**ПЕЧЕНІЕ**, сухое салодкае печыва; **сушкі.**

**ПЕЧЕНЬ**, чэрэва ў целе якое аддзяляе **жоўць; печань, ятро.**

**ПЕЧЬ** *ж.* **печ, печа, печка, печны; печавік,** майстар які будуе печы; **пячух,** хто сядзіць **на печы,** дамасед; **пячурка,** пазушка ў печы да сушэньня і агрэваньня. Печ зложаная з камянёў: **камянка, крушвіца.**

**ПЕЧНИК** *м.* **мурнік.**

**ПЕЩЕРА** *ж.* падзь, пустата ў зямлі; **пячора, пячорны, пячорка, пичорскі.**

**ПИГАЛИЦА**, птах Vanellus; **кнігаўка.**

**ПИГМЕЙ** *м. грэцк.* малы чалавечак; баечны мальчык з пальчык; **злыднік, карштук.**

**ПИК** *м.* масьць у картах; **віна, віновы.**

**ПИКА** *ж. франц.* ражон на доўгім дрэўку; **рагаціна, дзіда, бадыга, сьпіца, капьё.**

**ПИКЕТ** *м. фр.* **чата.**

**ПИКНИК** *м. англ.* пачастунак ў складку; **братчына.**

**ПИЛИТЬ** *чым што,* **пілаваць, пілаваньне, пілоўка; пільшчык** хто пілуе, гаворыцца аб пільшчыках дроў; пільшчыкаў бэляк на доскі, называюць—*трачамі.*

**ПИЛЮЛЯ** *ж. лац.* **пігулка.**

**ПИЛЯСТРА** *ж. лац.* прысьценны стоўб, якбы напалавіну таўшчыні ўтоплены ў сьцяну.

**ПИНАТЬ** *каго,* **пехтаць, пехнуць, петаць.**

**ПИПА** *англ.* мера віна: 40 вёдраў.

**ПИПЕРМЕНТ, перная мята.**

**ПИРАМИДА** *ж. грэцк.* востраверхае цела на шырокай падставе, з палогімі бокамі; **пірамида, кантастог.**

**ПИРАТ** *м. грэцк.* наморны разбойнік.

**ПИРОВАТЬ, баляваць, бясёдаваць, банкетаваць.**

**ПИРОМЕТР** *м. грэцк.* **агнямер.**

**ПИРОТЕХНИКА** *ж. грэцк.* умецтва складаць агні і арудаваць агнямі.

**ПИР** *м.* **ПИРШЕСТВО,** многалюдная званая бясёда; **бясёда, бясёдаваць, бясёднік—ніца, бясёданька, бясёднікі; гасцьба, гасьцітва; банкет, баль.** *Вясельная, хрэзьбінная бясёда. Ой вясёла тая бясёданька, дзе гарэлку пьюць (песн.). Зваў воўк казу на бясёду, ды каза няйдзе.*

*Ясна сонца за лес коціцца,*
*Уся бясёданька разыходзіцца. (Быхаў).*

**ПИРОГ** *м.* хлебнае ці піражнае цеста запечанае з накрыпкай; скаромная—з мясам, салам; посная, з рыбай, крупамі, макам, ягадамі; **кныш, кнышы.** *Поўна печ перапеч, а пасярэдзіне кныш. (Загадка: Зоры і месік). Пакуль у бабы дасьпеюць кны-*

*шы, то ў дзеда нястане душы.* Па нашаму „пірог“ пшанічны хлеб, тое што па расійску „булка“, „куліч“. Дробныя пшанічныя піражкі (рас. „булочки“), у нас маюць названьне: ***перапечы, перапечкі; перапечайніца,*** жанка якая выпякае ці прадае піражкі („булочки“).

**ПИРОЖНОЕ, мазулёк, мазулькі; цестка, цестачка.**

**ПИСАТЬ** *што агульн. слав.*; **пісаць, пісаны, пісаньне, пісацца, пісака, пісомы—мая, пісар, пісарства, пісьменнік, пісьменніцтва.**

**ПИСАННЫЙ,** аздоблены калеровымі рысункамі; **маляваны, маляваць, маляванік—нка.**

*Каромысьлік яровенькі,*
*Вядзерцы маляваны. (Рогачоўск. пав.).*
*Ня можа чалавек ціханька сядзець, бо не маляваны сьвяты (Сержп. стр. 1).*

**ПИСАНКА,** *украін.* размаляванае фарбамі вялікоднае яйко; **маляванка.**

**ПИСАТЕЛЬ, пісьменнік—ніца, пісьменніцтва.**

**ПИСЧЫЙ, пісомы.** *Пісомая папера.*

**ПИСМО,** паведамленьне на паперы; **ліст, лісьцік, лісты; ліставаньне,** перапіска, абмен лістамі; **лістоўна,** паведаміць каго аб чым. *Напісаць, выслаць ліст. Я з ім даўно не лістуюся. Паведамлю Вам аб гэтым лістоўна.*

*Ня сплю, не ляжу,—лісточкі пішу,*
*Лісточкі пішу, да паненкі шлю,*
*(Р. 8—9. с. 113).*

**ПИСКАР** *м. рыба* **піскун, піскуны.**

**ПИСТОЛЕТ** *м.* **пісталет.**

**ПИТАТЬ** *каго,* **сыціць, сыціцца, сытны, сыт насьць; карміць.** *Сыціць д шу і цела. Ці насыціўся-ж ты? Сытная, унасытная страва. Якая-ж насыць з рака?! У печы румяна, на стале сытна. (Р. 8—9. 175).*

**ПИТАТЬСЯ, сыціцца, карміцца, жыраваць.**

*Каля рэчкі хадзіла,*
*Жыравала пясок (Нар. пес.).*

**ПИТАТЕЛЬНЫЙ**, **сытны, насытны, пажыўны.**

**ПИТЬ** *што*, **піць, піты, піваць, піцьцё, піта; пітны мёд; пітня**, мейсца дзе пьюць; **піва**, піта з соладу; **піта, напітак**, цеклаць служачая да піцьця; **жлактаць, жлабтаць; лактаць, локча.**

**ПИХТА** хваёвая дрэва, блізкае да сосны Pinus abies; **хвоя, хваёвы, хвойка.**

**ПИЧКАТЬ** *каго чым;* **напіхаць, нашпіковываць; пехтаць, пехціць.** Напехталі, галаву вымысламі.

**ПИЧУГА, ПИЧУЖКА, птах, пташка, пташачка.**

**ПИЩА** *ж.* усё што служыць да аджыўляньня, што сыціць; **страва, страўка, стрававацъ; корм, ежа.**

**ПИЩЕВОЙ, страўчы, настраўны.** *Настраўныя знадаббі. Страўчы праход.*

**ПИЩЕПРОВОДНИК, стравапраход.**

**ПИЩЕВАРЕНІЕ** *ср.* **траўленьне, травіць, страўны.** *Толькі пры добрым траўленьні можа быць чалавек здаровы. І пры добрым траўленьні ня страўных рэчаў, жывот няможа травіць.*

**ПІАНО** *прысл. італьян. музычн.* **ціха, цішэй.**

**ПІИТИКА** *ж. грэцк.* навука вершаваньня.

**ПІОНЕР** *м. франц.* вайсковец для земляных работ, для пратораньня дарог.

**ПІЯВКА** *ж.* **пьяўка.** *Піла-бы пьяўка ды залубянела брушка.*

**ПЛАВАТЬ, плысьці, плыцьцё, плыўмя, плывучы, плывун, плывень, плывок, плывучка.**

**ПЛАВИТЬ** *што*, рабіць рэдкім, на агні; **тапіць, топкі, топлены, тапленьне, топкасьць, тапіньнік.**

**ПЛАВНО, паточыста, паточысты.**

**ПЛАКАТ** *м. франц.* апавестка да расклеіваньня на сьценах.

**ПЛАКАТЬ** *агул. слав.* **плакаць, плач, плача, плачмя-плача, плачлівы, плакса, плак.**

**ПЛАЧЕВНЫЙ**, годны плачу; **плачлівы.**

**ПЛАМЯ, полымя, полымны, палымее, паланее, паломісты, паланець, палымець.** *З агня ды ў полымя. Паломістае жаданьне дабра. Дровы пылаюць, паланеюць у печы.*

**ПЛАМЕННО, палка, агніста.**

**ПЛАНЕТА** *ж. грэцк.* **плянэта.**

**ПЛАНКА** *ж. нямец.* невялічкая дашчэчка; **пластка, пластачка; лішта, ліштаўка.**

**ПЛАНТАЦІЯ** *ж. лац.* зямля абробленая і абсаджаная фруктовымі дрэвамі або кустамі; **плянтація.**

**ПЛАН** *м. лацін.* плосмець, плосмы нарыс, выабражэньне рэчы, без пэрспэктывы (празору); **плян, плянаваць, плянаваньне.**

**ПЛАНИМЕТРІЯ** *ж.* часьць геамэтрыі, якая абыймае вымерыванье і вылічаньне плосмяцяў, па паверхні цел.

**ПЛАСТИКА** *ж. грэцк.* умецтва выабражаць рэчы ў поўным, круглым выглядзе, разьбой або лепкай; **плястыка, клуглавітасьць.**

**ПЛАСТ** *м.* **пласт, пластаць, пласткі.**

**ПЛАСТИНКА** *ж.* кождая рэч у форме цененькай дошчачкі; **пластка, пластачка.**

**ПЛАСТИНЧАСТЫЙ, пласткаваты;** аб грыбох на сподзе якіх маюцца пластачкі, пружкі, ўвесь род гэтых грыбоў—**пружакі.**

**ПЛАСТАТЬ** *рыбу,* **палтаць, плытаць.**

**ПЛАСТАР** *м. лек.* **плястыр, плястры; прыльпень.**

**ПЛАТАН** *м.* дрэва з кляновымі лісьцямі Platanus occidentalis; **явар.**

**ПЛАТАТЬ** *вопратку,* зашываць, накладаць латкі; **лапіць, лапленьне, лаплены, палаплены; лаплік,** палапленая вопратка; **латаць, латаніна, латаньне.**

**ПЛАТЬЕ** *ср.* ўсё што мы напранаем, акром бялізны; *стар. і песеннае:* **хусьцё;** цяпер: **вопратка, адзеньне, адзежа.**

**ПЛАТОК** *м.* **хуста, хустка, хустачка, хусьціна, хусьцінка;** *стар.*: **шырынка.**

*Шыла шырыначку барвістым шоўкам,*
*Шоўкам шыла, золатам рубіла.*

---

*Аднаму дала залаты персьцень,*
*Другому дала шаўкову хусту,*
*А за трэйцяга сама пашла. (Р. 8-9. 119).*

**ПЛАТИТЬ** *за што, каму;* **плаціць, плата, платны, платнік—ніца** **аплатчык.**

**ПЛАТФОРМА** *ж. франц.* памост, насьцілка, памост да пастаўленьня чаго колечы; **пласа, пласьня.**

**ПЛАФОН** *м. франц.* столь, малюпак на столь.

**ПЛАХА,** расшчэплены папалам кругляк дае дзьве **плахі;** верх плахі: *гарбыль,* ніз, па расшчэпу: *пласмень, пласмо. Палажы плаху гарбом, пласмом ўверх;* **плашка, пластка, плашмак.**

**ПЛАШМЯ** *палажыць,* **пласмя, пласмом; наўсплась.**

**ПЛАЦ** *м. нямецк.* **майдан, ток, буёк.**

**ПЛАЧЕВНЫЙ, плачлівы.** *Вясёлы пачатак ды канец плачлівы.*

**ПЛАШМЯ, наўсплась.**

**ПЛЕЯДЫ** *ж.* найме групы з сямі гвёзд ў спагвезьдзі цяльца; **стажары, валасажары, гняздо, бабы, кучкі.**

**ПЛЕВА** *ж.* **плева, плеўка, плевачка, плявіна; балона, балонка, балоністы.**

**ПЛЕВЕЛ** *м.* **мякіна, палова, пялюха.**

**ПЛЕВЕЛ,** шкодная трава ў збожжы; **зеліва.**

**ПЛЕВАТЬ, пляваць, харкаць, харкацьцё.**

**ПЛЕВОК** *м.* **плявунец, харкавень.**

**ПЛЕМЯ** *агульн. слав.* **племя, племны, племіць; пляменік,** з брата сын.

**ПЛЕМЕННОЙ, племны.** *Племны бычок, цялушка, пакінутыя на племя.*

**ПЛЕМЕННИК** *м.* установа для расплоду; **племнік.**

**ПЛЕОНАЗМ** *м. грэцк.* **многамоўства.**

**ПЛЕРЕЗЫ** *ж. фр.* белыя нашыткі на чорнай вопратцы; жалобныя нашыткі.

**ПЛЕСЕНЬ,** гнільная нарасьць ад вільгаці; **цьвіль, цьвілець, зацьвіль.**

**ПЛЕСКАТЬ, плюскаць, плюскацца, плюск, плюскоча; плюса** або **плёса,** заліў на рацэ,— мелкі заліў ў возеры, мелкая затопа.

**ПЛЕСНА** *ж.* ўся ступня нагі, плосмая яе часьць; **ступня.**

**ПЛЕТЬ** *ж.* **пуга, пужка.**

**ПЛЕТЕНЬ** *м.* **тын, тыніць, тынок.**

**ПЛЕХНУТЬ** *што,* **пялёхнуць.**

**ПЛЕЧО** *ср.* **плячо, плечы, плячысты.**

**ПЛИС** *м. франц.* партовы аксаміт; **пліс.**

**ПЛИТА** *ж.* **пліта, плітка, плітоўнік.**

**ПЛОДИТЬ** *каго,* **пладзіць, пладзіцца, плодны,** плод, **пладавіты, плоднасьць.**

**ПЛОМБА** *ж. франц.* валавяная вісячая **пячаць; плёмба.**

**ПЛОСКІЙ,** роўны, сплюшчаны, на чым няма гарбоў; **плосмы, пласмаваты, пласмо, пласміня, пластка; плоцны, плоц, плацмаваты, плоцкі.**

**ПЛОСКОСТЬ,** глупая насьмешка, выказ; **пляўзьня, пляўза, пляўзнуў, пляўзае.**

**ПЛОСКОВЕРХІЙ, пласмаверхі.**

**ПЛОСКОГРУДЫЙ, пласмагруды.**

**ПЛОСКОДОННЫЙ, пласмадонны.**

**ПЛОСКОНОСЫЙ, пласманосы.**

**ПЛОТНЫИ,** сьціснуты, зьбіты, густы; **шчытны, зворны, стульны, сьціпры, зьніцны.** *Сьціпры ком, сьціснуты, зьбіты. Сьціпрэй накладай воз. Шчытна, зворна, стульна, зьніцна зложаны клепкі ў дзяжы; дапасавана дно да вядра.*

**ПЛОТНОСТЬ, сьціпрасьць;** працілеглае гэтаму паняцьцю *кіпры кіпрасьць,* рыхлы, наздрысты, ня сьціслы. *А плоть языка суть кипрая. (Супр. рук).*

*Клён куды сьціпрэй за бярозу.* Слова „сьціпры“ праўдападобна, зләжылася са слоў „сьцісьлы“ і „сьперты“.

**ПЛОТНИК** *м.* **цясельнік, цясельніцтва, цясельства, цясьліць.**

**ПЛОТЬ** *ж.* цела жывёлы і чалавека; уся матэрыя з якой складаецца жывое цела; **цела, цялесны.** Слова „плоць“ ужываецца ў нашей мове для абазначэньня сорамных часьцей цела, а часам для выражэньня паняцьця да якога гатунку, мужскога ці жаночага, належыць аб'ект: *Плоці мужчынскай, плоці жаночай. Не падкасывайся, плоці сваей не паказывай! У маскалёў і галава плоцьцю называецца, таму яны так брыдка і лаюцца (в. Мікалаева, каля Дзісны). Што ты як сабака плоць сваю паказуеш! Па плоці пазнаюць хлопчык ці дзяўчынка.*

**ПЛОТОЯДНЫЙ, мясаедчы, мясяеднік.**

**ПЛОХОЙ, благі, худы, дрэнны, кепскі.** *Благога, худога чалавека унікай. Блага, худа, дрэнна жывецца.*

**ПЛОШАТЬ, кепсьціцца, скепсьціцца; блажэць, зблажэў; дрэфіць, дрэпіць, дрэпіцца, здрэпіўся.**

**ПЛОЩАДЬ** *ж.* не забудаваны абшар у гарадох і сялібах, шырэйшы за вуліцу; **майдан;** *архаічн.* **ток.** Раўніна, роўнае мейсца: **раўніна, плосня.** У нашых казках калі зыходзяцца асілкі, то перш чым біцца робяць *ток* сабе, на якім будзе змаганьне. Па вёсках, пляцок для забавы дзяцям называюць *тачком. Таргова ток, царкоўны ток. Конскі ток, выган дзе пушчаюць коні на пашу.* У тураве каля Туравага калодзезя істнаваў пляцок, які звалі *Тураў ток.* Слова *пляц,* якое цяпер ужываецца,—нямецкае. *Раўніна займаная Палесьсям, роўна палавіне ўсяго нашага краю.*

**ПЛОЩАДКА** *ж.* падвышанае і роўнае мейсца; **тачок.** *Стралецкі тачок у Полацку, дзе быў стралецкі замак. Княжы тачок, перад замкам у Навагрудку.* У в. Пагосьце (Дзіс. п.) перад школай пляцок для забавы дзяцям „тачок“.

**ПЛУГ** *м.* **плуг, плугаваць, плужыць, плужнік, плугатар, плугарал, плугавік.**

**ПЛУТ** *м.* пройда; **махлюга, махляваць, махлыжыць, махлыга.**

**ПЛѢНИТЬ** *каго*, **паланіць, палонны, палон, палоннік—ніца.**

**ПЛѢНИТЕЛЬНЫЙ, павабны, паваблівасьць.**

**ПЛѢСЕНЬ**, сівазялёны грыбок на загніваючых рэчах; **цьвіль, цьвілець, цьвілаваты, цьвільга; цьвіляваты; цьвіліховы**—па масцы—сівазеленаваты.

**ПЛѢШЬ**, голае мейсца ад выпаўзшых валасоў; **лысіна, лысець, лысы, лысаты, лысаваты.**

**ПЛЮСНА**, ўся нага ад пяты да пальцаў; **ступня, ступеня.**

**ПЛЮС** *м. лац.* знак дадаваньня (+); **плюс.**

**ПЛЮШ**, *тканіна*, **машыст, машыстовы.**

**ПЛЯСАТЬ, танцаваць, танцы, танок, танцор—рка.**

**ПНЕВМАТИКА** *грэцк.* навука аб паветры, часьць фізыкі.

**ПОАЛѢТЬ, пачырвець, пачырвеў.**

**ПОБЕРЕЧЬ** *што*, **паашчадзіць.**

**ПОБЕРЕЖНЫЕ** *жыхары*, **наўзьбярэжныя.**

**ПОБИРАТЬСЯ, жабраваць, жэбры.**

**ПОБЛАГОДАРСТВОВАТЬ** *каму*, **падзякаваць.**

**ПОБЛАГОДѢТЕЛЬСТВОВАТЬ, памагчы.**

**ПОБЛАГОПРІЯТСТВОВАТЬ** *каму*, **паспрыяць.**

**ПОБЛАЖАТЬ** *каму*, **патакаць, патачка.**

**ПОБОРАТЬ** *каго*, **перамагаць.**

**ПОБОРСТВОВАТЬ** *чаму*, **дапамагаць.**

**ПОБОРОЗДИТЬ** *што*, **паскародзіць.**

**ПОБРАНКА** *вышла*, **палайка, палаяць.**

**ПОБРЕЗГОВАТЬ** *чым*, **пагрэбаваць.**

**ПОБРЯКУШКА**, **набразгушка; дзындзык.**

**ПОБУЖДАТЬ,** *каго да чаго*; **пабуджаць, пабудка; панука, па кацъ.**

**ПОБЫВКА,** часовае быцьцё; **побыць, на побыце.**

**ПОБѢГ** *м.* **уцёк, уцекі, уцечны, уцечка.**

**ПОБѢГИ** *на дрэве,* **парасьці.**

**ПОБѢГУШКИ, пабягушкі, пабягун, набягулькі**

**ПОБѢДА, перамога,** *архаіч.:* **звыцяжства.**

**ПОБѢДИТЕЛЬ, пераможца,** *архаічн.:* **звыцяжнік.**

**ПОВАДКА** *м.* **панада, панадка, панадзіцца.** *Што ў цябе за панадка—біцца: Понадзіўся, як сьвіньня ў гарох хадзіць.*

**ПОВЕДЕНІЕ,** спосаб у які вядзе сябе чалавек; **паступаньне; паводжаньне, па адэнція.**

**ПОВАЖИВАТЬ** *што каго*; **павозіць, павознік, вазіла, павозка, павоз, павозьніцкі.**

**ПОВАЛЬНЫЙ, ўсеагульны, пагалоўны;** *аб хваробе*: **пошастная, пошасьць.**

**ПОВАР—РИХА,** хто варыць, займаецца варэньнем; **кухар, кухарка, кухцік, кухня; варыўня.**

**ПОВЕЛѢВАТЬ** *што, каму;* **загадываць, загадываньне.**

**ПОВЕЛИТЕЛЬНЫЙ, загадны, загадніцкі, загад.**

**ПОВЕРГАТЬ** *каго, што;* **парынаць, парынаньне, парынуты, парынаўнік —ніца.**

**ПОВЕРТЫВАТЬ** *што, каго;* **павяртаць.**

**ПОВЕРХНОСТЬ** *ж.* **паверхня, паверхні, паверхнасьць.**

**ПОВЕРХ** *прысл.* **наўзьверш.**

**ПОВЕТШАТЬ, пастарэць, зьветхнуць.**

**ПОВЕРСТАТЬ, параўняць, пашыхтаць.**

**ПОВИВАТЬ** *што, чым;* **павіваць, павінаць, павой; бабіць.**

**ПОВИВАЛКА, ПОВИТУХА** *ж.* **полажніца, полажная бабка.**

**ПОВИВАЛЬНЫЙ**, полажны. полажніцкі.

**ПОВИДИМОМУ** *прысл.* відочна. *Зіма у нас відочна сярдзітая будзе.*

**ПОВИДАТЬСЯ** з *кім*, пабачыцца.

**ПОВИНОВЕНІЕ** *ср.* пакора, паслухмянасьць.

**ПОВРЕЖДАТЬ** *што*, псаваць; шкодзіць, пашкоджаньне,

**ПОВРЕМЕНИТЬ**, пагадзіць, зчасаваць, пачакаць, саждаць. *Згадзя год ён ізноў прышоў. Стой, сажджы жана мая (Р. 8—9. 163)*

**ПОВРЕМЕННЫЙ**, пачасоўны.

**ПОВСЕДНЕВНЫЙ**, паўсякчасны, абыдзенны.

**ПОВСЕМѢСТНЫЙ**, паўсюдны.

**ПОВСЕСВѢТСКІЙ**, паўсясьветны.

**ПОВТОРЯТЬ** *што*, паўтараць, пазнаўляць, паўзноўна,

**ПОВТОРИТЕЛЬНЫЙ**, паўторчы, паўзноўчы.

**ПОВЫКОВЫРОВАЛИ**, павыкалупывалі.

**ПОВѢРКА**, спраўдка, спраўджаць.

**ПОВѢРЕННЫЙ**, павернік—ніца.

**ПОВѢРЬЕ**, забабон, забабоннасьць.

**ПОВѢТСТВОВАТЬ**, павядаць, апавядач.

**ПОВѢСА**, вісус; шыбельнік—ніца.

**ПОВѢСТКА** *ж.* позаў.

**ПОВѢЩЕНІЕ** *ср.* павядомленьне, наказ, азнаймо.

**ПОВѢТРІЕ** *ср.* заразьлівая хвароба; памор, паморак.

**ПОГАНИВАТЬ** *каго*, паганяць, пагонка, пагоня.

**ПОГОРЯТЬ**, пагараць, пагарэлы, погар, погары.

**ПОГАШЕНІЕ** *ср.* спагашаньне, гасьба.

**ПОГИБАТЬ**, гінуць, спагін; прападаць.

**ПОГУБЛЯТЬ** *каго*, губіць, загуба; запрапашчаць.

**ПОГЛАВНЫЙ** *сабор*, **пагалоўны**, **усеагульны**.

**ПАГЛАЗѢТЬ** *на што*, **паваронiць**.

**ПОГЛА(О)ЩАТЬ** *што*, **паглынаць**, **пахлынаць**.

**ПОГЛЯДЫВАТЬ** *на што*; **паглядаць**, **погляд**.

**ПОГНУШАТЬСЯ** *чым*, **грэбаваць**, **пагарджаць**, **чурацца**.

**ПОГОВОРКА**, гутарка, чутка; **памоўка**, *На воўка памоўка, а воўк тут.* Кароткі але зьмястоўны сказ; **прыказка**.

**ПОГОДА** *ж.* **пагода**, **пагодны**, **пагодлiвы**, **пагодна**, **пагодзiцца**.

**ПОГОНЫ**, **нарамнiкi**.

**ПОГОРЛАНИТЬ**, **пагалакаць**.

**ПОГОСТ** *м.* магiлкi з цэркаўкай; **цьвiнтар**.

**ПОГРАНИЧНЫЙ**, **наўзьмежны**.

**ПОГРЕБАТЬ** *каго*, **хаваць**, **хаваньне**, **пахoвiны**, **пахоўны**; **хаўтурыць**, **хаўтуры**, **хаўтурны**. „Хаўтуры" ад слова „хаваць", „скрываць", „хутаць". *Сягоньня абаралi, сягоньня i ахаўталi бульбу*, знача абсыпалi, абкапалi (Вiтабшчына). *Куды ты захаторыла маю шапку, пояс?* **Хаўтурка, хатурка**, названьне зрубчыка якi будуюць на могiлках замест помнiка. **Хаўтыр**, скупец, якi ўсё **хавае**, хоўтае, скрывае. **Хутырка**, скрытка, схоўка, зямлянка, склеп. **Хатарга**, цемень, цямната. **Захаторылася**, захмарылася, зацянiлася, зацямнiлася. **Расхатурхацца**, развiднець, разсьвятлець, ачунянь, раскрыцца.

**ПОГРЕБЕНIЕ** *ср.* **пахoвiны**, **пахаваньне**; **хаўтуры**.

**ПОГРЕБАЛЬНЫЙ**, **пахоўны**, **хаўтурны**.

**ПОГРЕБ** *м.* **склеп**, **поднiк**, **поруб**.

**ПОГРЕМОК** *м.* **брашчотка**.

**ПОГРОХОТАТЬ**, **пагракаць**.

**ПОГРУЖАТЬ** *што у што*, **пануpаць**, **пануpаньне**, **пануpаны**.

**ПОГРУЖАТЬ** *што*, **націскаць. націсь, націсканьне.**

**ПОГРѢШНОСТЬ, спамылка.**

**ПОДАТЕЛЬ** *чаго*, **давец.**

**ПОДАТЬ** *ж.* **падатак, падаткі, падатковы.**

**ПОДАВЛЯТЬ** *што, каго;* **тлуміць, цісnуць.** *Тлуміць жаль ў душы; сьлёзы ў вачах. Тлумяць, цісnуць людзей.*

**ПОДАВЛЯЮЩЕ, патлумляюча, атлумляюча.**

**ПОДАВНО** *прысл.* **пагатоў.** *Вам добра, а мне пагатоў.*

**ПОДОЙНИК** *м.* начыньне да даеньня; **даёнка, дайніца.**

**ПОДДАКИВАТЬ, патакаць.**

**ПОДАРИТЬ** *што, каму;* **дараваць, падараваць, падарунак.** *Каго люблю, каго люблю таго пацалую; пуховую падушачку таму падарую.*

**ПОДАЯНІЕ** *ср.* **датак; дар, дарэньне.** *Усякі датак добры.*

**ПОДБАВЛЯТЬ** *што у што;* **дадаваць, наддаваць.**

**ПОДБАВКА, наддача, наддатковы; падвышка.**

**ПОДБЕДРЕННЫЙ, паджаберны, паджабрыцы,**

**ПОДБЕРЕЖНЫЙ, наўзьбярэжны.**

**ПОДБИВАТЬ** *каго на што;* **падушчаць, падбіваць.**

**ПОДБИВКА, падкладка; хутроўка, хутраваць;. подшаўка.**

**ПОДБОР** *м.* **дабор, дабіраць, даборны.**

**ПОДБРАСЫВАТЬ** *што*, **падкідаць, падкіданьне.**

**ПОДБѢЧЬ, падбегчы, падбежка.**

**ПОДВАЛ** *м.* зруб ўстаўлены ў зямлю; **поруб.** Па нашаму *„падвал“, „падвала“*, фундамант; *падвалак* пень, калода, найчасьцей дубовая, якую падкладаюць пад вуглы вясковых будынкаў.

**ПОДВЕРГАТЬ** *што ці каго чаму*; **паддаваць, наражаць.** *Паддаваць каго чыім уплывам. Паддаць каго суду, адпавядальнасьці. Наразіць каго на клопаты, непрыемнасьці.*

**ПОДВЕРНУТЬ** *што*, **падвінуць.**

**ПОДВЕРСТАТЬ** *што*, **падшыхтаць, падшыхтаваць.**

**ПОДВЗДОХИ**, **падуздошы, падмікіткі.**

**ПОДВИГАТЬ** *што*, **пасуваць, пасуваньне; парухаць; пакранаць.**

**ПОДВИЖНОЙ**, **рухавы, рухавасьць; пакратлівы.**

**ПОДВИЖНИК** *м.* **патужнік, падзейнік, спачынца.**

**ПОДВИГ** *м.* **патуга, чын.**

**ПОДВИЗАТЬСЯ**, **чыніць, дзеяць.**

**ПОДВИНЧИВАТЬ** *шруб*, **падшрубовываць.**

**ПОДВЛАСТНЫЙ**, **падуўладны. падлеглы.**

**ПОДВОРАЧИВАТЬ** *што*, **падвяртаць.**

**ПОДВОРЬЕ**, заездны дом; **заезд, заездны.**

**ПОДВОХ** *м.* **подступ.**

**ПОДВѢДОМСТВЕННЫЙ**, **падведамны, падведнасьць.**

**ПОДВѢСКА** *ж.* **вісулька, дзындзык, бryндзік.**

**ПОДГАДИТЬ**, **падгадзіць, здрэпіць.**

**ПОДГВОЗДИТЬ** *боты*, **падцьвякаваць, падцьвечыць.**

**ПОДГЛЯДЫВАТЬ**, **падглядаць.**

**ПОДГНОЙ**, **пагной.**

**ПОДГОВАРИВАТЬ** *каго*, **падмаўляць.**

**ПОДГОЛОВОК** *м.* **узгаловак, узгалоўе,**

**ПОДГОРОДНЫЙ**, **прыгорадны, прымескі.**

**ПОДГОРЮНИТЬСЯ**, **зьбедніцца.**

**ПОДГОТОВЛЯТЬ**, **спасобіць; прыгатовываць.** *Спасобіць хлапца у гімназію.*

**ПОДГРАБЛИВАТЬ** *сена*, **падграб*а*ць.**

**ПОДДАНСТВО, падд*а*нства, падд*а*ны.**

**ПОДДАВЛИВАТЬ** *што*, **падгнят*а*ць, падціск*а*ць.**

**ПОДДАКИВАТЬ,** *каму*, **патак*а*ць, пат*а*чка.**

**ПОДДОЛБИТЬ** *што*, **падц*ю*каць.**

**ПОДДЕВКА** *ж.* **пад*о*пранка.**

**ПОДДЕРГИВАТЬ** *што,* **падтырг*а*ць, п*о*таргі.**

**ПОДДЕРЖИВАТЬ** *што*, **падтр*ы*мліваць, п*а*дтр*ы*мка.**

**ПОДДРЕВЕСНЫЙ, паддрэўны.**

**ПОДДУВАЛО**, атворына ў печы праз якую паветра дзьме ў печ; **п*о*дзьмеўка, п*о*дзьмевень.**

**ПОДДѢТЬ** *каго*, падхапіць кручком, **нанізаць** на што; **падшпіл*і*ць, падцяць.** *Падцінай рыбу пакуль скубе. Падцяў вострым словам.*

**ПОДДѢЛЫВАТЬ** *што*, **падрабляць, падр*о*бка, падр*о*бны.**

**ПОДЕНКА** *ж. жамярыца,* якой век доўжыцца ўсяго адзін дзень; **мятульг*а*.**

**ПОДЕРГИВАТЬ** *што,* **патаргаць, п*о*тарга.**

**ПОДЕРГИВАТЬСЯ, ПОДЕРНУТЬСЯ,** пакрыцца чым лёгка каб аснаўное прасьвечывала; **пакр*ы*цца.** *Серабро ад серкі пакрылася чэрню.*

**ПОДЖАЛИВАТЬ, паджыг*а*ць.**

**ПОДЖАРИСТЫЙ** *чалавек*, **падх*о*рцісты, падхарт*а*ны; шч*а*плы.**

**ПОДЖАРИВАТЬ** *што*, **падпр*а*жываць. падпр*а*жаны.**

**ПОДЖАТЬ** *ногі*, **падк*о*рчыць; падц*і*снуць.**

**ПОДЖИГАТЬ** *што,* **падпаляць, падпаляньне, падп*а*л; падгняч*а*ць, падгн*е*т.**

**ПОДЖИГАТЕЛЬ, падпал*я*ч—чка; падгн*е*тнік—ніца.**

**ПОДЖИДАТЬ** *што, каго*; **нажыд*а*ць, чак*а*ць.**

**ПОДЖИДИТЬ** *што,* **падрэдзіць.**

**ПОДЖЕ(Ӧ)Г** *м.* **падпал, падгнет.**

**ПОДЗАТЫЛОК** *м.* задняя часьць шыі, ад патыліцы да першай шыйнай хрыбеткі; **запатылак.**

**ПОДЗЕМЕЛЬНЫЙ, падземны, падземьме.**

**ПОДЗЕРКАЛИТЬ** *шкло,* **падлюстрыць.**

**ПОДЗОБОК** *м.* ніжняя часьць валя; **падвольле, падвольны.**

**ПОДЗУЖИВАТЬ** *каго,* **падбухторваць.**

**ПОДКЛАДЫВАТЬ** *што,* **падкладаць, падклад.**

**ПОДКЛАДКА** *пад вопратку,* **подшаўка.**

**ПОДКЛИНИВАТЬ, надкліновываць.**

**ПОДКОВЫРОВАТЬ** *што,* **падкалупываць.**

**ПОДКОЖНЫЙ, падскурны.**

**ПОДКОЛАЧИВАТЬ** *што,* **падбіваць.**

**ПОДКОЛДОВАТЬ** *што,* **падчараваць.**

**ПОДКОЧЕЧНЫЙ, падкурганы.**

**ПОДКРАШИВАТЬ** *што,* **падфарбовываць.**

**ПОДКРЫШНЫЙ, падстрэшны, падстрэшак.**

**ПОДКРѢПЛЯТЬ** *што, чым;* **падмацовываць.**

**ПОДКРѢПЛЕНІЕ** *ср.* **падмацунак; пасілак.**

**ПОДКУВЫРНУТЬ** *што,* **падкуліць, падкуляць.**

**ПОДКУПАТЬ** *каго* **падкупляць. падкупляцца, падкупляньне, подкуп, падкунны, падкупнік—ніца.**

**ПОДКУРГУЗИТЬ** *каго,* **падкуртаць, падкуртаны.**

**ПОДКУРЖЕВѢТЬ, пад'інець.**

**ПОДКУТЫВАТЬ** *што чым,* **падвіваць, авіваць.**

**ПОДЛАДЖИВАТЬСЯ** *да каго,* **падлабунівацца.**

**ПОДЛАГАТЬ** *што. пад што;* **падкладаць, падклад.**

**ПОДЛЕЖАТЬ** *чаму,* **прыслухаць.**

**ПОДЛЕЖАТЕЛЬНЫЙ, падлеглы, прыслухаючы. залежны.**

**ПОДЛАСКАТЬСЯ** *да каго,* **падлашчыцца.**

**ПОДЛЕ** *прысл.* **водле,** *Водле гэтага, ты вінен.*

**ПОДЛЕБЕЗИТЬСЯ** *да каго,* **падлабуніцца.**

**ПОДЛЕТЫВАТЬ, падлятаць, падлёт, падлётак.**

**ПОДЛИННЫЙ,** запраўдны, праўдны; **існы, істотны.** *Існае золата. Існы чорт. Існая, істотная праўда. Існы ліст, не перапісаны, ня копія.*

**ПОДЛИННО** *прысл.* **істотна.** *Істотна справа была так і так. Я істотна гэтага ня ведаю, Істотна, гэта не чалавек, а зьвер.*

**ПОДЛИННИК** *м.* **іставік.** *Іставік дакуманту. Іставікі лістоў, рысункаў. Іставы малюнак, ня копія, арыгінал.*

**ПОДЛОГ** *м.* **спофальш.** *Спофальш дакумантаў.*

**ПОДЛОЖНЫЙ, спафальшоўны, спафальшэрскі.**

**ПОДЛОКОТНИК, падлоктавік, падлокніца.**

**ПОДЛОПАСТНЫЙ, падпелюсны.**

**ПОДЛУКАВИТЬ, падхітраваць.**

**ПОДЛУННЫЙ** *аб сьвятле,* **падмесячны.**

**ПОДЛУЩИВАТЬ** *гарох,* **падлушчаць.**

**ПОДЛЫЙ, подлы, подласьць, падлец.**

**ПОДЛѢ** *прысл.* **водле, побач.** *Водле ставу грэбля.*

**ПОДМАЗЫВАТЬСЯ** *да каго,* **падлазіць, падлізацца.**

**ПОДМАКЛАЧИВАТЬ, падмахлёвываць.**

**ПОДМАРАТЬ** *што,* **падпэцкаць.**

**ПОДМАСТЕРЬЕ,** памочнік майстра; **падмайстар.**

**ПОДМЕТНЫЙ, падкідны.**

**ПОДМЕТКИ** *у ботах,* **падноскі.**

**ПОДМИНАТЬ, падкомкаць, падкомсьціць.**

**ПОДМОСТКИ, вышкі.** *Тэатральныя вышкі.*

**ПОДМЫВАЕТ,** цягне, хочацца; **карціць.** *Мне ўсё карціць сказаць яму праўду. Так і карціць ўмяшацца ў гэта.*

**ПОДМЫШКА**, ямка пад плячавой косьцю; **падпаха.**

**ПОДМЫШЕЧНЫЙ, падпашны.**

**ПОДМѢЛИТЬ** *крэйдай*, **падкрэйдаваць.**

**ПОДМѢСЬ, дамешка.**

**ПОДМѢЧАТЬ** *што*, **спасьцярагаць, спасьцераґацца, спасьцярога, спасьцярожлівы; заўважаць, заўважыў, заўвага, заўважлівы.**

**ПОДНАВѢСЬ** *ср.* **павець, паветка, паветны.**

**ПОДНАСѢСТНЫИ, падкурасадны.**

**ПОДНАУМИТЬ** *каго*, **паднацяміць.**

**ПОДНАЧАЛІЕ** *ср.* **падуўладнасьць.**

**ПОДНЕБЕСНЫЙ, паднебны, паднебьбе.**

**ПОДНЕБЬЕ,** верх ґубной падзі; **паднябеньне.**

**ПОДНЕСЬ** *прысл.* **дасягоньня, пасяньдзень.**

**ПОДНИМАТЬ. падымаць, падыманьне, падойм.**

**ПОДНОЖІЕ, падножак.**

**ПОДНОВЛЕНІЕ** *ср.* **падноўка.**

**ПОДНОС** *м.* **тайстра, тайстэрка.**

**ПОДНОГОТНЫЙ, падпазнокны, падпазнокціца.**

**ПОДОБАЕТ** *што, каму;* **прыстоіць.**

**ПОДОБІЕ** *ср.* **падоба, падобны, падобнасьць; падабец, падабізна,** партрэт, зьнімак.

**ПОДОБЛАЧНЫЙ, падаблочны.**

**ПОДОДВИГАТЬ** *што*, **падсуваць.**

**ПОДОДѢЯЛЬНИК** *м.* **апакровец, апокрыўка.**

**ПОДОВИННЫЙ, падасетны, падасетнік.**

**ПОДОВРАТЬ** *што, каму*; **падылгаць.**

**ПОДОЗРИТЕЛЬНЫЙ,** запасочаны, запасочнасьць.

**ПОДОЙНИК** *м.* **дайніца, даёнка.**

**ПОДОЙТИ** *да каго, чаго*, **падыйсьці, падход.**

**ПОДОКОННИК** *м.* **падваконец, падваконіца.**

**ПОДОЛЕЩАТЬСЯ**, **падлéсчывацца; пахлеба-вацца.**

**ПОДОМАШНЕМУ** *прысл.* **падамоваму.**

**ПОДОНКИ**, ападонкі, **падонкі; толаг; гружлі.**

**ПОДОПЕЧЕК** *м.* **падпечак, падпечча.**

**ПОДОПЛЕКА** *ж.* подшыўка пад кашуляй на плячах і грудзях; **подшыўка, падкладка.**

**ПОДОПОЯСКА** *ж.* **падпяразка, падпяразны.**

**ПОДОРДѢТЬ, паджаўрэць.**

**ПОДОРЭЖАТЬ, падаражэць.**

**ПОДОСАДОВАТЬ, памарокаваць.**

**ПОДОСТЛАТЬ** *што*, **падаслаць.**

**ПОДОСТАЛЬ** *прысл.* **ўдосыць, ўшчэнт, ўдакон.**

**ПОДОТВѢСНЫЙ, паземы.**

**ПОДОТВѢТНЫЙ, падатказны.**

**ПОДОШВА** *ж.* спод абутку; **падэшва; падашвіца,** скура прыгатаваная на падэшву.

**ПОДПАДАТЬ** *пад што*, **падпадаць, падлягаць.**

**ПОДПАКОСТИТЬ** *каму*, **падгадзіць.**

**ПОДПАЛЗЫВАТЬ** *пад што*, **падпаўзаць.**

**ПОДПАХИВАТЬ** *ральлю*, **падорываць.**

**ПОДПАЯТЬ** *што*, **падлютаваць.**

**ПОДПИЛИВАТЬ** *што*, **падпіловываць.**

**ПОДПИЛОК** *м.* **напільпік, напілак.**

**ПОДПИСЫВАТЬ** *што*, **падпісываць, падпісывацца, подпіс, падпіска, падпісчык—чыца.**

**ПОДПИЧКАТЬ** *што пад што*; **падпехціць,** пхаючы падпіхнуць.

**ПОДТЛЕТЫВАТЬ** *што пад што*; **падплятаць.**

**ПОДПЛЯСЫВАТЬ, падтанцовываць.**

**ПОДПОЛЬНЫЙ,** які знаходзіцца пад завалам, памостам, у порубе, склепе; **тайны, скрытны, падземны.**

**ПОДПОЧВЕННЫЙ, падглебны, падглебьбе.**

**ПОДПРИГНУТЬ**, **падскокнуць**, **падскочыць**.

**ПОДПУГИВАТЬ** *каго*, **пастрашаць**, **напужаць**.

**ПОДПУЧИВАТЬ**, **падпушаць**, **ўздуваць**,

**ПОДПЫРНУТЬ** *каго пад бок*, **падтыкнуць**.

**ПОДПЯТИТЬ** *калёсы*, **пазадзіць**.

**ПОДРАВНИВАТЬ** *што*, **падраўнаць**.

**ПОДРАЖАТЬ** *каму*, *чаму;* рабіць тое самае што і другі, старацца ўпадобніцца каму; **патвараць**, **патвараньне**, **патворства**, **патворнік—ніца**; **патвор**, вырадак; **патворлівы**; **патураць**, **патураньне**. *Не патурай благому прыкладу. Не патурай багатаму. Лягчэй патвараць як самому прыдумаць.*

**ПОДРАЗДѢЛЯТЬ** *што*, дзяліць другім парадкам, у другой ступені; **падпадзяляць**, **падпадзел**.

**ПОДРАЗУМѢВАТЬ** *што*, **паднагадываць**, **нагадуецца**. *Што такі ён паднагадываў сваім сказам. У казках гаворыцца аб зьвярох, а паднагадуюцца людзі.*

**ПОДРАТЬСЯ** з *кім*, **пабіцца**.

**ПОДРЕБЕЗЖАТЬ** *чы и*, **падрызджэць**.

**ПОДРУБЛИВАТЬ** *што*, **падсякаць**, **падсека**.

**ПОДРУГА** *ж.* **прыяцелка**; **дружка**; **тайка**, **таечка** (Смал.). „Тайка“, дваяка тлумачыцца: як асоба каторай давераецца ўсё тайнае і ад караня „таяць“. Паняцьце аб каханьні, любові, ласцы і дабраце, ў смаленскай Крывіі, знайшло сабе мэтафорычнае выражэньне ў словах: *талкі*, добры, ласкавы, сэрдэчны; напр. гавораць аб маладых: *„Тут у іх пойдуць прытайкі ды прымілкі“*; згодна з гэтай мэтафорай песьлівае найме прыяцелкі: **тайка**, **таечка**. *Цёплая ты мая таечка-сугрэвачка, сугрэй ты сэрцэйка маё, зьвясялі душу маю.*

**ПОДРУЧНИК—НИЦА**, **памочнік—ніца**.

**ПОДРѢЗЫВАТЬ** *што*, **падрэзаць**, **падрэз**.

**ПОДРЯГИВАТЬ**, **падрыгаць**, **подрыгі**.

**ПОДРЯД** *м. прысл.* **ўрад**, **ўпорадзь**, **падрад**.

**ПОДРЯЖАТЬ** *каго*, **гадзіць, згоджаны.** *Згадзіў фурманкі. Згадзіць парабка на год, наймітa на месяц.*

**ПОДРЯД,** умова на дастаўку, на тэрміновую работу; **узнойм, узноймны, узнаймацца, узноймiт.** *Узноймамі людзі і багацеюць і галеюць. Узяў узнойм на пабудаву маста, на звозку бярвеньня. Здаецца на узнойм папраўка дарогі.*

**ПОДСАЧИВАНІЕ** *дрэў на пню*; **падраска, падрасіна, падрасіць.**

**ПОДСВѢЧНИК** *м*, **ліхтар; сьвечнік.**

**ПОДСКАЗАТЬ** *каму, што*; **падказаць, падказчык.**

**ПОДСКАКИВАТЬ, падскакаць, падскок.**

**ПОДСОЛАЖИВАТЬ** *што*, **падсаладжаць.**

**ПОДСЛУШИВАТЬ** *каго*, **падслухаць.**

**ПОДСЛѢЖИВАТЬ** *зьвера*, **падсачаць, падсочаны.**

**ПОДСМАТРИВАТЬ** *каго*, **падглядаць.**

**ПОДСМѢИВАТЬСЯ** *з каго або з чаго*; **падсьмяхацца.**

**ПОДСОБЛЯТЬ** *каму*, **памагаць, памаганьне.**

**ПОДСОВЫВАТЬ** *што пад што;* **падсуваць.**

**ПОДСОЛНЕЧНИК** *расьц.* **падсонечнік.**

**ПОДСПОРЬЕ, падмога, спамога.**

**ПОДСПУДНЫЙ,** які знаходзіцца пад оберцю схаваны (пад абернутай судзіной); **спахоўны.**

**ПОДСТАТЬ** *прысл.* **ўсамраз, ўдалад.** *Гэта шапка ўсамраз яму. Ўсамраз ты* **зьявіўся.** *Не ўдалад азваўся.*

**ПОДСТЕКОЛЬНЫЙ, падшклоўны, абашклоўны.**

**ПОДСТЕРЕЧЬ** *каго,* **падпілнаваць.**

**ПОДСТОРОЖИТЬ** *каго,* **падвартаваць.**

**ПОДСТРЕКАТЬ** *каго на што*; **падбухторываць, пад'юджаць, падбіваць, падсковываць.**

**ПОДСУДИМЫИ, падсудны, падсуднасьць.**

**ПОДСУЧИВАТЬ** *шарсьціну ў дратву;* **падсукаць.**

**ПОДСУШИВАТЬ** *што,* **падсушаць.**

**ПОДТАЛКИВАТЬ** *што, каго;* **падпіхаць.**

**ПОДТАСКИВАТЬ** *каго, што;* **падцягаць.**

**ПОДТАЧИВАТЬ** *сякеру,* **падвастраць; паднорываць.** *Вада паднорыла сьцяну.*

**ПОДТВЕРЖДАТЬ** *што,* **пацьвярджаць, пацьверджаньне.**

**ПОДТРУНИВАТЬ, падкпіваць.**

**ПОДТЯГИВАТЬ, падцягаць; падзягаць, дзягнуць.** *Дзягай,* выкрык плытнікаў пры падцяганьні плытоў да берегу.

**ПОДТЯЖКИ, трочкі.**

**ПОДСѢКА** *ж.* **выцябкі, лядо.**

**ПОДУСАДЕБНЫЯ** *землі,* **падыдворныя, падсялібныя.**

**ПОДУЧИВАТЬ** *каго,* **падвучаць, падвучаны.**

**ПОДХАЛИМ** *м.* **падхалуса, падхалюза.**

**ПОДХЛЕСТЫВАТЬ** *каня,* **падсьцёбываць.**

**ПОДХЛОПЫВАТЬ** *бічом,* **пахлястаць.**

**ПОДХОД** *м.* **подступ.**

**ПОДЦВѢЧИВАТЬ, падбарвіць, пабарвоўка.**

**ПОДЦѢПЛИВАТЬ** *што,* **падчапляць.**

**ПОДЧЕЛЮСТНЫЙ, падськіўны.**

**ПОДЧЕРКИВАТЬ** *што,* **падкрэсьляць.**

**ПОДЧИВАТЬ** *каго,* **частаваць, трактаваць.**

**ПОДЧИНЯТЬ** *каму каго;* **даваць пад абладу.**

**ПОДЧИНЕНІЕ** *ср.* **падуўладнасьць, падуўладны—ная.**

**ПОДЧИСЛЯТЬ** *што,* **падлічаць.**

**ПОДШАЛИВАТЬ, падураваць.**

**ПОДШАТЫВАТЬ** *што,* **падхібаць, падхістаць.**

**ПОДШВЫРИВАТЬ** *што,* **падкідаць, падшпургаць.**

**ПОДШЕВЕЛИВАТЬ** *што*, **падкратываць.**

**ПОДШИБАТЬ, падбіваць.**

**ПОДШПОРИВАТЬ** *каня*, **падбадаць** („бадыгі"— шпоры).

**ПОДШТАННИКИ, гаштакі, гасьці.**

**ПОДШУЧИВАТЬ** *з каго*, **паджартовываць, падсьмяваць.**

**ПОДЩЕБЕНИВАТЬ** *дарогу*, **паджвіровываць.**

**ПОДЩУРИВАТЬ** *вочы*, **падплюскаць.**

**ПОД'ЕЖИЛО** *жывот*, **падцягнула.**

**ПОД'ЕРЗНУТЬ** *пад каго*, **падлызнуць.**

**ПОД'ИЗБНЫЙ, падхатны.**

**ПОД'ѢЗД** *м.* зьнешнія дзьверы у доме, да якіх пад'язджаюць для ўхода ў дом; **пад'езд.**

**ПОД'ЕМ** *м.* **уздойм, уздоймны, уздоймам.**

**ПОД'ЕМНЫЙ** *мост*, **узводны.**

**ПОД'ЮРКНУТЬ** *пад што*, **паднырнуць.**

**ПОД'ЯЧІЙ**, судовы пісар, памочнік пісара; **падпісак.**

**ПОДЫЗБИЦА, прызба, завальня.**

**ПОДЫСКИВАТЬ** *што*, **падшукаць, падшуканьне.**

**ПОДЫШАТЬ** *паветрам*, **падыхаць.**

**ПОДѢЛЫВАТЬ** *што*, **парабляць.**

**ПОДЮЖѢТЬ, акрэпнуць, ачуняць.**

**ПОЕДИНО** *прысл.* **паводна.**

**ПОЕДИНОК** *м.* бой сам на сам; **паядынак, двубой.**

**ПОЕЛИКУ** *прысл.* **паскольkі, якмага.**

**ПОЕМНЫЯ** *сенажаці*, **паплавы, паплаўныя, заліўныя.**

**ПОЖАЖДАТЬ** *чаго*, **пажадаць, пажадлівасьць.**

**ПОЖАЛИТЬ** *каго*, **пажыгаць.**

**ПОЖАЛОВАНІЕ** *каму чаго*, **наданьне, надаўчы ліст, надаваць, надавец.**

**ПОЖАЛОВАТЬСЯ** *каму*, **пажаліцца.**

**ПОЖАЛУЙ** *прысл.* **бадай.** *Бадай,—гэта і лепш.*

**ПОЖАРИВАТЬ** *што*, **папражываць, папякаць.**

**ПОЖАРНЫЙ, агнягасны, спагасны.**

**ПОЖАРНИК,** чалавек які гасіць пажары; **спагасьбіт, спагасьнік, спагасьбніцкі, спагасны.**

**ПОЖАТЬ** *руку*, **паціснуць.**

**ПОЖЕЛАТЬ** *чаго*, **пажадаць, пажаданьне.**

**ПОЖЕЛТИТЬ** *што*, **пажаўціць, пажоўкнуць.**

**ПОЖЕМАНИТЬСЯ. пакарэжыцца.**

**ПОЖЕРТВОВАТЬ** *што*, **ахвяраваць.**

**ПОЖЕСТѢТЬ, скалянець, ажоснуць, заскаржэць.**

**ПОЖЕЧЬ** *што*, **папаліць, спаліць.**

**ПОЖИТКИ, рухмацьцё, дабыткі, худоба.**

**ПОЖИЗНЕННЫЙ, дажывотны, дажывоцьце.**

**ПОЖИЛОЙ** *чалавек*, **сталы, летны, падстары.**

**ПОЖИДИТЬ** *расчыньнік*, **разрэдзіць, развясьці.**

**ПОЖИНКИ, дажынкі.**

**ПОЖИРАТЕЛЬ, пажорца, пажорнік.**

**ПОЖИРѢТЬ** *на целе*, **пасыцець, папаўнець.**

**ПОЗА** *ж. фр.* **пастава.** *Прыгожая пастава.*

**ПОЗАБРОСАТЬ, пазакідаць.**

**ПОЗАБЫВАТЬ** *каго*, **забываць.**

**ПОЗАВИДОВАТЬ** *каму*, **пазаздросьціць.**

**ПОЗАВИНЧИВАТЬ** *шрубы*, **пазашрубоўваць.**

**ПОЗАВТРАКАТЬ, пасьнедаць, пасьнедак.**

**ПОЗАВЧЕРА** *прысл.* **пазаўчора.**

**ПОЗАГЛАЗНО** *прысл.* **пазавочна.**

**ПОЗАДВИГАТЬ** *што*, **пазасуваць.**

**ПОЗАДИ** *чаго*, **апазадзь, ззаду.** *Ня бачыш, што апаздзь цябе дзеецца? Напярод не высувайся, ззаду не аставайся.*

**ПОЗАИМСТВОВАТЬ** *што,адкуль*; **запазычыць.**

**ПОЗАКЛЕИТЬ** *што*, **абклеіць.**

**ПОЗАКЛИНИВАТЬ** *што*, **аклінаваць.**

**ПОЗАКРАСИТЬ** *што*, **замаляваць.**

**ПОЗАРИТЬСЯ** *на што*, **пагаліцца, паквапіцца.** *Пагалішся на чужое, сваё ўпусьціш. На двох зайцаў паквапішся, ніводнага ня зловіш.*

**ПОЗВОЛЕНІЕ** *ср.* **пазваленьнэ, пазваляць.**

**ПОЗВОНОК** *м.* адна хрыбетная костачка; **хрыбетка**; хрыбетная косьць зложаная з 24 хрыбетак (у чалав.)—**хрыбетніца.** Па крыўску „пазванок" гэта драўляны званок (бразгушка), які прывешываюць каровам.

**ПОЗВОНЧАТЫЯ** *стварэньні*, **хрыбчакі, хрыбчатыя.**

**ПОЗВОЛИТЕЛЬНО, пазвольна.**

**ПОЗДНО,** позна, позны, **позьніць, пазьнець, позьнік.**

**ПОЗДОРОВКАТЬСЯ** *з кім*, **павітацца.**

**ПОЗДРАВИТЬ** *каго*, павітаць.

**ПОЗДРАВЛЕНІЕ** *сьвят*, **павітаньне, павітачка.**

**ПОЗЕМ** *м.* **ральля.**

**ПОЗОР** *м.* **ганьба, ганьбіць, ганебны.**

**ПОЗОРИЩЕ** *ср.* **відовішча.**

**ПОЗИЦІЯ** *ж. лацін.* **пастава, стан, мяйсцовасьць.**

**ПОЗИТИВНЫЙ** *лац.* **дадатны.**

**ПОЗЛАЩАТЬ** *што*, **пазлачаць.** *Стаўбы новыя, тачоныя, тачоныя пазлачоныя.*

**ПОЗЛИТЬ** *каго*, **пазлаваць.**

**ПОЗНАНЬЕ** *ср.* **пазнаньне.**

**ПОЗНАВАТЕЛЬ** *м.* **пазнавец, пазнатчык.**

**ПОЗНОБИТЬ, пазябіць.**

**ПОЗУДИТЬ** *каго*, **письверціць.**

**ПОЗУМЕНТ** *фр.* залацістая тасемка, стужка; **галун.**

**ПОЗЫВ** *да ежы*, **пабудка, похаць, хоць.**

**ПОИГРЕЦКИ** *гуляць у карты,* на мастацку; **па гулецку.**

**ПОИЗБАВИТЬ** *каго*, **пазбавіць.**

**ПОИЗБОРОЗИТЬ** *ральлю*, **пабарозіць.**

**ПОИЗБЫЛО** *вады*, **пазбыло.**

**ПОИЗВЛЕЧЬ** *карысьць*, **паўзяць.**

**ПОИЗВѢДАТЬ** *брод*, **вызьведаць.**

**ПОИЗДЕРЖАТЬ** *грошы*, **павыдаць.**

**ПОИЗДЫРЯВѢТЬ**, **падзіравіцца.**

**ПОИЗДѢЛЬНАЯ** *плата*, **пазробная.**

**ПОИЗМОЛОТЬ** *зярно*, **памалоць.**

**ПОИЗНОВУ** *прысл.* **спаноўна.**

**ПОЕМНЫЕ** *сенажаці*, **паплавы.**

**ПОЕМИСТАЯ** *рака*, **паплаўная.**

**ПОЙМАТЬ** *каго*, **злавіць, злавіцца, злоўлены.**

**ПОИМЩИК** *м.* **лавец, лавіць, улоў.**

**ПОИМЕНОВАТЬ** *каго*, **памянаваць.**

**ПОИМЕННЫЙ** *сьпіс*, **пайменны.**

**ПОИСКИВАТЬ** *чаго*, **пашуківаць; спаганяць.**

**ПОКА** *прысл.* **пакуль, дакуль.** *Пакуль сонца ўзойдзе—раса вочы выесьць. Куй зялеза пакуль гарача. Дакуль цярлю—гарцуй нябожа.*

**ПОКАЗАТЕЛЬ, даказчык, сьветка: паказнік.**

**ПОКАЗЫВАТЬСЯ, паказывацца, казацца, кажацца, яўляецца.**

*А ці дома, дома сам пан гаспадар?*
*А хоць і дома ды не кажацца, прыбіраецца.*

**ПОКАЯНІЕ** *ср.* **каяньне, каяцца, пакайны, пакайнік—ніца.** *Чым маладыя пахваліцца, тым стары пакаіцца. Мазур раз на вяку праўду скажа дый то пакаіцца.*

**ПОКАЛЯКАТЬ** *з кім*, **пагукаць.**

**ПОКАМѢСТ, пакуль, пакуль што.**

**ПОКАТЫЙ** *бераг*, **пахоны, палогі, суслоны.**

**ПОКАЧИВАТЬ** *што*, **калыхаць; гойдаць, пагойдуе.**

**ПОКАЧНУТЬ** *стоўб*, **пакіўнуць, пахібнуць.**

**ПОКЛАЖА** *ж.* цягар; **паклада, пакладны; покладзень.**

**ПАК**, *м.* **скырыня, скрынка.**

**ПОКЛЕП** **каверза, напасьць.**

**ПОКЛОНЕНІЕ** *каму*, **паклон, суклон; чэсьць, чціць.**

**ПОКЛОННИК—НИЦА**, **чэсьнік—ніца; адаратар—рка.**

**ПОКЛОЧИТЬ** *воўну*, **пакузлаць.**

**ПОКЛЯПЫЙ**, **пахілы, паклякны.**

**ПОКЛЯУЗНИЧАТЬ**, **накаверзаваць.**

**ПОКОБЕНИВАТЬСЯ**, **пакарэжыцца, пачачэніцца.**

**ПОКОВАРНИЧАТЬ**, **пакаведаваць, пакаверзаваць.**

**ПОКОЙ**, стан нячыннасьці, адпачынак, спакой; **ціш; спакой, спакойлівасьць; спакойства, спакойнасьць, спакойны, спакоіць; коесьць, койліва, коіць, коіцца, сукоіцца, укаіць.** *Спакой душы і цела. Ні днём, ні ноччу супакою няма. Згодай і спакойнасьцю народы растуць, а сваркамі ды закалотамі руйнуюцца Ледзь сукоіла дзіцятка. Радасьць раны гоіць і сэрца коіць.*

**ПОКОИТЬСЯ**, **спачываць, апачываць.**

**ПОКОЙНИК** *м.* **нябошчык, навец.** Наўцом называюць сьвежа памершага нябошчыка, а такжа нябошчыка які ходзіць па сьмерці ў сваім целе і высысае ў жывых кроў (рас. *вурдалак*, польск. *upior)*. Навец працістаўляецца *мярсьню*,—даўно памершаму, які разсыпаўся і нямае ўжо цела, а паказуецца толькі як дух *„сьцень“ (мярсьцень, мярсьціцца, прымярэсьціцца)*. У даным здарэньні слова *„навец“*, гэта эпітэт, як і слова *„сьвежаніна“*, *„свежаваць“*, якое ўжываецца гаворачы аб статку забітым на мяса. Наш селянін ня скажа: „зарэзаў“, „забіў“ кабана, вала,—гэта лічыцца груба, а таму кажа:

„асьвяжыў вала, барана, кабана". У мысьль гэтага непрыстойна казаць:—„мярцьвец", „труп" на памершага чалавека, а кажуць: *„нябошчык"*, *„навец"*. *„Наўскі"*,—яму прыналежны; прыкладам: „Наўскі Вялікдзень", веснавыя памінкі. У штодзеннай мове можна сустрэць падобныя сказы: *Наўца праводзілі на могілкі. Наўца, нябошчыка памылі, ўхаўтурылі.*

**ПОКОИНИЦКАЯ**, будынак дзе ставяць нябошчыкаў; нябошчыцкая.

**ПОКОЛОТИТЬ** *каго*, выбіць, абабіць.

**ПОКОЛЕБАТЬ** *што*, скалынуць, скіўнуць, схібнуць, спахібнуць.

**ПОКОЛИКУ** *прысл.* паскольці.

**ПОКОЛЬ, ПОКОЛѢ** *прысл.* пакуль, дакуль. *Дакуль дажджы ідуць, нельга касіць.*

**ПОКОЛЕНІЕ** *ср. аг. слав.* пакаленьне.

**ПОКОМНАТНО** *прысл.* папакойна.

**ПОКОРОБИТЬ** *што*, пакарабаціць, пакарэжыць.

**ПОКОРОТАТЬ** *час*, пакароціць; сьцерці.

**ПОКОРЫСТОВАТЬСЯ** *чым*, пакарыстаць.

**ПОКОРЯТЬ** *каго*, паконываць, паканаць, пакананьне, пакананы; паняволіваць, паняволеньне, панявольны. Слова *„пакараць"* у нашай мове ўжываецца ў значэньні расійскага *„укрощать"*, *„караць"* таксама як наша слова *„пакора"*, тлумачыцца на расійскае *„кротость"*; *„пакорны"*,—*„кроткій"*, *„смиренный"*.

**ПОКОСНИТЬ**, пачакаць, пабавіць, памадзець.

**ПОКОЧЕВРЯЖИТЬСЯ**, пакарэжыцца.

**ПОКРАЖА**, крадзьба, крадзежа.

**ПОКРАЙ** *прысл.* наўскрай. *Наўскрай поля бяроза.*

**ПОКРАХМАЛИТЬ** *бялізну*, паскарліць.

**ПОКРИКИВАТЬ**, пакрыкаць, пагойкаваць.

*Ой выйдзем мы ды паслухаем,*
*А ці ня едуць, ды ці ня гойкаюць (Вітаб.).*

**ПОКРОВИТЕЛЬ**, апякун, заступнік, пратэктар.

**ПОКРОВИТЕЛЬСТВОВАТЬ**, апякавацца, пратэгаваць.

**ПОКРОЙ**, форма, выгляд як скроена вопратка; крой. *Якім кроем. Ня тым кроем.*

**ПОКРУПНЪТЬ**, пабуйнець,

**ПОКРУЧАТЬСЯ**, апранацца, прыбірацца.

**ПОКРУЧИНИТЬСЯ**, пахаморыцца.

**ПОКРОВЕНІЕ** *ср.* пакрыцьцё; апакрова.

**ПОКРЫВАЛО** *ср.* пакровец.

**ПОКРЫТКА** *ж.* дзеўка, якая дзякуючы упадку свайму прымушана пакрыць галаву чапцом; пакрутка, пакрутная, пакруцілася, пусьцілася ў распусту.

**ПОКРОВЕННЫЙ**, пакрыўны.

**ПОКРЫВАТЕЛЬ**, спакрывач чка, спакрываць.

**ПОКРЪПИТЬ** *што*, памацаваць, падмацаваць.

**ПОКРЯКИВАТЬ**, пакрэктаваць, крэкнуць.

**ПОКУДА** *прысл.* дакуль. *Дакуль гэта ты цярпець будзеш. Дакуль дакаціў качулку?*

**ПОКУПАТЬ** *што*, купляць, куплены, купля, купны, купляньне, пакупец пніца, куплі.

**ПОКУПОРИТЬ** *бутэлькі*, пакаркаваць, пазатыкаць.

**ПОКУШАТЬ**, паесьці, пад'есьці, наесцца.

**ПОКУШАТЬСЯ** *зрабіць што*, памыкацца.

**ПОЛА** *ж.* ніжняя часьць разшпільной вопраткі; крысо; пала (палавіна); палаток, пала, падол.

**ПОЛАГАТЬ** *што*, думаць, дагадывацца, пryймаць за пэўнае; мяркаваць, лічыць. *Чалавек мяркуе, а Бог выракуе. Даўней лічілі, што сонца каля зямлі кружыцца.*

**ПОЛАГАТЬСЯ** *на каго*, здавацца. *Нельга на чужую волю здавацца Можаш на яго саўсім здацца*

**ПОЛАГАЕТСЯ** *чаго колькі*, прыпадае. *Гэтага хлеба прыпадае па гэтулькі ў дзень. Мне прыпадае атрымаць з агульных грошы 3 рублі заработку*

**ПОЛБА** *ж.* каласавая расьціна Triticum spelta; **оркіш; пансак.**

**ПОЛДЕНЬ** палавіна дня; **поўдзень; палудзень, палуднёвы; палуднік,** абед; **палудніца, палудзенька,** царкоўная адправа, „обѣдня"; **прыцінь,** стаяньне сонца ў самым зэніце.

**ПОЛДНИЧАТЬ,** спачываць ў сам палудзень; **палуднаваць; удднеўкі, уднаваць.** *Найміты папалуднапі і пайшлі на удднеўкі, зн. на спачынак.*

**ПОЛЕВОДСТВО, ратарства.**

**ПОЛЕВОЙ, польны.**

**ПОЛЕЗНЫЙ, пажытэчны, карысны.**

**ПОЛЕЛЕЯТЬ** *каго,* **пакукобіць, папесьціць.**

**ПОЛЕМИКА** *ж. грэцк.* **пераспрэчкі, пераспрэчны, пераспрэчнік.**

**ПОЛЁТЫВАТЬ, палятаць, палёт, палятуха.**

**ПОЛЕЧЬ, палегчы, пал: глы.**

**ПОЛЗАТЬ, поўзаць, поўзаньне, поўзкі, паўзун, паўзмя, паўзаліз.**

**ПОЛЗКОМ,** паўзмя; **наўгомыжкі** (Полацак).

**ПОЛИВНЫЯ** *луга,* **паплавы.**

**ПОЛИГАМІЯ** *грэцк.* **многажонства.**

**ПОЛИГАРХІЯ** *грэцк.* **многапанства.**

**ПОЛИГОН** *м. грэцк.* **многабочнік.**

**ПОЛИКРАТІЯ** *грэцк.* **многаўладзтва.**

**ПОЛИМЕНТ** *франц.* гіпс паложаны на дрэва пад пазалоту; **гіпс, гіпсаваны.**

**ПОЛИМОРФНЫЯ** *целы, грэцк. хім.* **многастайныя.**

**ПОЛИП** *м.* мякчак; **паліп, склізень.**

**ПОЛИРОВАТЬ** *што, фр.* **сьлігаваць, сьлігкі, сьлігтаваць, сьлігтоўны; сьлігтар,** майстар, які сьлігтуе шкло ў гутах; **сьлігтарня,** установа, дзе сьлігтуюць шкло, а такжа названьне машыны.

**ПЛИТЕИСМ** *грэцк.* **многабожства.**

**ПОЛИТИКА** *грэцк.* навука дзяржаўнага кіравецтва; **палітыка.**

**ПОЛИТИПАЖ** *франц.* рэзьба рысункаў па дрэву; **дрэварытніцтва, дрэварытнік.**

**ПОЛИТУРА** *франц.* **сьліга.**

**ПОЛИХРОМІЯ** *грэцк.* размалёўка рэзаных і іншых мастацкіх вырабаў; **малятура.**

**ПОЛИЦІЯ** *франц.* дагляд над публічным парадкам; **паліція.**

**ПОЛИЧНОЕ**, што пацьвярджае праступак; **пазнакі, апознаткі.** *Злавілі злодзея з пазнакамі у руках. Апознаткі знайшоў у клеці: злодзей згубіў сваю шапку.*

**ПОЛИКА, пазнатка.**

**ПОЛИШИНЕЛЬ** *італьян.* **блазан.**

**ПОЛК** *м.* адзінка лічбы войска; *пяхотны* полк складаецца з 3—4, а часам і больш **батальёнаў,** у кождым па 1000 чалавек; *конны*—з 4—6 эскадронаў адпавядаючых ротам (100—250 чал.); **полк, палковы, палкі, палкоўнік.** Старае нашае вайсковае дзяленьне вялося на *сотні* і *тысячы,* згэтуль найме зьверхнікаў *сотнік, тысяцкі;* кожды афіцэр называўся *сотнікам,* а палкоўнік—*тысяцкім,* генералы—*ваяводамі.*

**ПОЛНЫЙ, поўны, поўніць, поўніцца.**

**ПОЛНО** *прысл.* **годзі, будзе.** *Годзі вам сварыцца! Годзі ўжо гэтага гультайства. Будзе ўжо піць. Будзе ўжо жыць—пара паміраць.*

**ПОЛНОЛУНІЕ, поўня.**

**ПОЛНОТА, поўнасьць.**

**ПОЛНОВѢСНЫЙ, поўнаважкі.**

**ПОЛНОВЛАСТНЫЙ, поўнаўладны.**

**ПОЛНОМОЧНЫЙ, поўнамоцны.**

**ПОЛОВИЦА,** дашка ў памосьце; **памосьціна.**

**ПОЛОВИК** *м.* радно да засьціланьня памосту; **кілімчык, мата.**

**ПОЛОВА** *ж.* **мякіна, палаўня, пялюха.**

**ПОЛОВОЙ** *м.* **паслужнік.**

**ПОЛОЖЕНІЕ** *чаго,* **паклад, палажэньне.**

**ПОЛОЗ** *м.* крывеліна падстаўляная пад санкі; **полаз, палазы, палазок, палозьзі; касьпель, каспылі; касапеліна, касапля,** крывое дрэва прыдатнае на каспылі да санак.

**ПОЛНОЧЬ, поўнач; кураклік.**

**ПОЛОСА** *ж.* доўгая плосмая і стасоўна вузкая часьць чаго колечы; **плашка, пластка; пляса; штаба, штабка; пруга, пругаваты.**

**ПОЛОСА** *зямлі,* **шнур.**

**ПОЛОСАТИТЬ, пялёсаваць, плясаты.**

**ПОЛОСОВАТЬ, пялёсіць, пялёсаваць, пялёсы.**

**ПОЛОСТЬ,** западзь, шчалуга у чым; **падзь, падзісты, падзіна; шупло, шуплавіна.**

**ПОЛОТЕР** *м.* хто выцірае памост; **шліхтар.**

**ПОЛОТНО** *ср.* **палатно, палатняны, палотнішча; палаценца, палаценка.**

**ПОЛОТЕНЦЕ,** палотнішча да выціраньняся; **ручнік, ручнікі; ручніца,** ручнічок да рук.

**ПОЛСТЕВОЙ, поўсьцявы,** зроблены з поўсьці.

**ПОЛТИНА** *ж.* 50 капеяк; **капавік.**

**ПОЛУДИТЬ** *самавар,* **пабяліць; пацынаваць, пацына.**

**ПОЛУКРУГ** *м.* **паўкруг.**

**ПОЛУСВѢТ, суцьмень, сутон.**

**ПОЛУЧАТЬ** *што ад каго;* **атрымліваць, атрыманьне.**

**ПОЛУЧКА, атрымка, пасылка.**

**ПОЛУЧАЙ, атрымай, вазьмі, прыймі.**

**ПОЛУЧШЕ** *чаго,* **палепш.**

**ПОЛУШАРІЕ** *ср.* **паўклубьбе.**

**ПОЛУШКА** *ж.* дробная манэта; **шэляг.**

**ПОЛ** *м.* насьцілка на под з дошчак; **памост;** выкладаны з малых кавалкаў дрэва узорамі—**цісок, цісовы памост;** біты з гліны—**под.**

**ПОЛ** *м.* прыналежнасьць да мужскога ці жаночага роду; **плоць, постаць.** *Мужской, жаночай*

*плоці,* цела; (гаворыцца „плоць" толькі аб стыдных часьцях цела).

**ПОЛОВОЕ** *пытаньне,* **плоцьскае, плоцьнае, плоцьлівае.**

**ПОЛЫЙ пусты, парожні, шуплы.**

**ПОЛОУМІЕ** *ср.* прыдуркаватасьць, неспаўна розуму; **недарэка; некумны, некумнасьць, некмеўны,** **некмень.**

**ПОЛЫНЬ,** трава Artemisia absynthium; **палын.**

**ПОЛЬЗА** *ж.* **карысьць, карысны, карыстаць, карыстаньне, карысьнік.**

**ПОЛЬСТИТЬ** *каму,* **пахлебіць.**

**ПОЛЮБИТЬ** *каго,* **пакахаць.**

**ПОЛЮБИТЬСЯ, падабаецца.**

**ПОЛЮБОВАТЬСЯ, пацешыцца, парадавацца.**

**ПОЛЮБОВНАЯ, палюбчая, палюбная.**

**ПОЛЮБОВНИК—НИЦА, каханец—нка.**

**ПОЛЮБЕЗНИЧАТЬ** *з кім,* **пазалецацца, паветліцца.**

**ПОЛЮБОПЫТСТВОВАТЬ, пацікавіцца.**

**ПОЛЮС** *м. грэцк.* кождая з канечных пунктаў восі, на якой аварачываецца клуб; **скрань, аскрай.** *Зямельныя скрані—паўночны і палуднёвы.*

**ПОЛЯРНЫЙ, паўночны,** а сьцісьлей; **аскрайны.** *Аскрайныя адны адным сілы. Аскрайная зорка, бліжэйшая да паўночнага скраня.*

**ПОЛЯК** *м.* **паляк, польскі, польшчына; лях, ляскі, ляшка.** Першае найме ад „поле", другое—ад „ляха".

**ПОМАВАТЬ** *црк.* падаваць знак; **паманіць, паманка,** вабленьне, прыкліканьне.

**ПОМАДА** *ж. фр.* мазь да валасоў; **памаста памастка.**

**ПОМАЗЫВАТЬ** *што, каго*; **памазываць, памазаньне, памазка, памаз, памазок; помазь,** мазіва да калёс.

**ПОМАЗАННИК, памазанец—нка.**

**ПОМАКИВАТЬ** *што у што*; **памакаць, памакач; памаканец; памак** намокшая калода; **памакалка,** тук у які макаюць бліны.

**ПОМАКЛЕРИТЬ, памахляваць.**

**ПОМАЛЧИВАТЬ, памаўкаць, памоўклі, памоўчка.**

**ПОМАРГИВАТЬ, паміргаць, помігі.**

**ПОМАРАТЬ** *што,* **папэцкаць, пабрудзіць, пакляксаць.**

**ПОМАРКА** *ж. на паперы,* **клякса.**

**ПОМАТОРѢТЬ, пасталець.**

**ПОМЯТЬ** *што,* **пакомкаць.**

**ПОМЕДЛИТЬ, пагадзіць, пабарыць, спаволіць.**

**ПОМЕРЕКАТЬ,** падумаць; **памазгаваць.**

**ПОМЕРЕЩИТЬСЯ, патрызьніцца, здацца.**

**ПОМЕРЦАТЬ** *црк.* **памяркаць, меркнуць.** *Сонца памеркла за хмарай. Памерк яго розум.*

**ПОМЕТ,** усякія адпадкі; **адкідзьдзя,** усё што пакінута, закінута.

**ПОМЕЧТАТЬ, пакрозіць, памрэяць, паканодуміць, памжаволіць.** Апошняе слова запісана мной у аколіцах Полацка. *Ляжыць ды пустое мжаволіць. Памжа,* паўдрэмка, паўсон, паўява, а такжа называюць памжой што ў паўсьне, ці перад засыпаньнем прыдаецца ў вачу. *Толькі самжыў павекі ажно памжа нейкая стала ў вачу. Перад засыпаньнем, заўсёды ў вачу памжа ўзносіцца: як дождж бліскучы, кружкамі сыплецца, плыве. І ня здумаеш і не спамжыш таго, што ён табе нараскажа. Прымжыцца (або прымсьціцца) другі раз такое што век не забудзеш. Дзяцё часта прымхі свае за праўду прыймае.*

**ПОМИГИВАТЬ, памігаць, помігі.**

**ПОМИЛОВАТЬ** *каго,* даравацъ каму віну, не караць; **злітавацца, зьлітаваньне.**

**ПОМИЛОВАТЕЛЬ, літасьцівец, літасьнік.**

**ПОМИМО** *прысл.* **паміма, акром, апрыч.**

**ПОМИНОВЕНІЕ** *ср.* **памінкі, памінаньне, памін.**

**ПОМИНУТНО** *прысл.* **штомінутнə,**

**ПОМИРИТЬ** *каго з кім;* **пагадзіць, пагадзіцца, пэзгодна.** *Сабаку з катом не пагодзіш. Нячым судзіцца, лепш гадзіцца.*

**ПОМИРОВАТЬ** *каго,* памазаць мірам; **пакрыжмаваць.**

**ПОМІРСКИ** *прысл.* **пасьвецку.**

**ПОМІРУ** *ісьці,* **пасьвету,** жабруючы.

**ПОМНИТЬ, падумаць.**

**ПОМОИ, памыі, памыйкі, памыйніца.**

**ПОМОЛВКА** *ж.* **памоўка.** *На воўка памоўка, а пастухі барана зьелі. На чорта памоўка, а папы чадзяць.* Аб змове дзяўчыны; **заручыны, дзеваснобьбя.**

**ПОМОЛОГІЯ** *лацінск.* **агродніцтва.**

**ПОМОРОСИЛ** *дождж,* **пакрапаў.**

**ПОМОРЬЕ** *ср.* **паморья, паўзморья.**

**ПОМОХА,** імгла, туман, горкая раса і пара шкодная збожжу; **памарока.**

**ПОМОЧИ** *мн.* рэмяні, матузы да падтрыманьня чаго; **матузы.** *Штонікі на матузкох.*

**ПОМОЩ** *м.* **помач, памагаць, памога.** *Цяжка жыць на старасьць дзеду з бабай без памогі* (Сержпут. 96).

**ПОМОШЬЕ,** імхавое балота; **мшара.**

**ПОМОЩЕСТВОВАТЬ** *каму,* **памагаць.**

**ПОМПОН** *м. фр.* **кутас.**

**ПОМРАЧАТЬ** *што,* **хмарыць, хмарны, хмарыцца; хаморыць, хомарна, хомар; памíркаць, памерклы, памарока, памарочная** пагода, **помарак, памарочыць.**

**ПОМСТИТЬ** *каму,* **адамсьціць, помста, памсьціць.**

**ПОМУРАВЛЕНІЕ** *гліны,* **апаліва, паліва.**

**ПОМУРЛЫКАТЬ**, **пакурняўкаць, памурчэць.**

**ПОМУСАТИТЬ** *нож,* **палязіць.**

**ПОМУСОЛИТЬ** *пальцы,* **пасьлініць.**

**ПОМУТИТЬ** *цечу*, **скаламуціць, скаламуціцца.**

**ПОМУЧНѢТЬ**, **памучавець, памучавелы.**

**ПОМХА** *ж.* **перашкода, перапона.**

**ПОМЦЫ** *мн.* сеці да лоўлі птушак; **цянёты.**

**ПОМЧАТЬ** *што*, **патурыць.** *Віхар патурыў пыл стаўбом. Каршак патурыў курчонка.*

**ПОМЧАТЬСЯ**, **пагнаць.** *Куды ён пагнаўся.*

**ПОМЫКАТЬ** *каго*, **папіхаць, папіханьне, папіхач.** *Пан намі як жывёлай папіхае. Папіхач карчомны.*

**ПОМЫЧАТЬ**, **памычэць.**

**ПОМЫШЛЯТЬ** *аб чым.* **падумываць, памысляць.**

**ПОМЫШЛЕНІЕ** *ср.* **подум, подумка; помысл; памысны,** згодны з мысьлямі з жаданьнямі; **памысьлісты** чалавек, шпаркага розуму, **амяркаціі.**

**ПОМѢРѢ** *прысл.* **ўмеру.**

**ПОМѢСЬ** *ж.* **ПОМѢСОК** *м.* плодная злучка жывёлаў; **мяшанец.**

**ПОМѢХА** *ж.* **перашкода, абуза; замінка.**

**ПОМѢШАТЕЛЬСТВО**, **памяшаньне.**

**ПОМѢШКАТЬ**, **памарудзіць, забавіць.**

**ПОМѢСТИТЬ** *што, у што*; **патоўпіць, патоўпішча.**

**ПОМѢСТЬЕ**, **маёнтак, двор, валасьцеля.**

**ПОМѢТКА**, **пазначка, пазначаць.**

**ПОМѢЩИК** *м.* **валасьцель, валасьцельскі, валасьцельства; абываталь.**

**ПОНАБРОСАТЬ** *чаго*, **панакідаць.**

**ПОНАДБАВИТЬ**, **панаддаць.**

**ПОНАДВИГАЛИ** *лавак*, **панасувалі.**

**ПОНАДОБИТЬСЯ**, **запатрэбіцца.**

**ПОНАДѢЯТЬСЯ**, паспадзеяцца.

**ПОНОСИТЬ** *каго*, лаяць, абмаўляць; зьневажаць.

**ПОНОС** *м.* частая і цеклая спарожа; мытуха.

**ПОНАШИНСКИ** *прысл.* па наскаму.

**ПОНЕВА** *ж.* адмена спадніцы, сярэдняе між спадніцай і хвартухом; поняўка, понька.

**ПОНИКЛЫЙ**, паклякны, панiклы.

**ПОНИМАТЬ** *што*, разумець.

**ПОНЯТІЕ**, здольнасьць разумець; разуменьне. *Гэткле разуменьне аб людзях у яго. Гэта звыш майго разуменьня*; споцям.

**ПОНЯТНЫЙ**, зразумелы, зразумела; цямкі.

**ПОНЯТНОСТЬ**, зразумеласьць. *Зразумела тлумачыць, дык і мы сваю зразумеласьць выказусм. Зразумеласьць прамовы залежыць ад чыстаты мовы.* Спацямлiвасьць

**ПОНЯТЛИВЫЙ** *хлапец*, зразумчызы; спацямлiвы.

**ПОНИТКОВЫЙ** *андарак*, паўсуконны, паўсуконак.

**ПОНИЩЕНСКИ** *выпрашываць*, па жабрацку.

**ПОНОВЛЯТЬ** *што*, аднаўляць, аднова.

**ПОНОВИ** *прысл.* паноўна. *Ен паноўна прыйшоў.*

**ПОНОРАВЛИВАТЬ** *каму*, гадзiць, дагаджаць.

**ПОНРАВИТЬСЯ** *каму*, падабацца, падабаньне.

**ПОНТОН** *м. фр.* адзін з лёгкіх разборных чоўнаў, які служыць для хуткай пабудовы мосту; пантон; боднік, бодны мост, баднаўнік, баднаўцы.

**ПОНУЖДАТЬ** *каго да чаго*; панукаць, панукнуць, панука; прымушаць, прымус; сілаваць.

**ПОНУЗДАТЬ** *коні*, памуздаць.

*А золатам пасідланыя,*
*А сірабром памузданыя.*

**ПОНЫТЬ**, панурыцца.

**ПОНЫНѢ** *прысл.* дагэтуль. *Дагэтуль не аддае доўгу. І дагэтуль там усё так-жа.*

**ПОНѢМЕЦКИ** *прысл.* **панямецку.**

**ПОНЯТЛИВОСТЬ, цямлівасьць, цямкасьць; зразумчывасьць.**

**ПОНЯТОЙ,** сьведка прыватна запазваны; **віж, віжаваць.**

**ПООДАЛЬ, водаль.** *Водаль ад берагу, хаты.*

**ПООЧЕРЕДНО, пачародна, пазьменна.**

**ПООЩРЯТЬ** *каго,* **захачаць, захота, захотчывы, захотнік—ніца.**

**ПОПАДАТЬ** *куды,* **трапляць, трапляцца; лучаць, лучацца.**

**ПОПАД, ПОПАДКА, патрап.** *У патрап сказана.*

**ПОПЕЧЕНІЕ** *ср.* **апека, абахоў.**

**ПОПЕЧИТЕЛЬ, апякун, апекавацца.**

**ПОПЕНЯТЬ** *на каго,* **памарокаваць.**

**ПОПЕПЕЛИТЬ** *сёлы, гарады,* **папаліць.**

**ПОПЕРВУ** *прысл.* **спярша, наўперш.**

**ПОПЕРЕК** *прысл.* **наўпоперак, наўпоперач.**

**ПОПЕРЕМЕННЫИ, паўзьменны.**

**ПОПИРАТЬ** *што,* **таптаць.**

**ПОПОЛЗНОВЕНІЕ** *ср.* лёгкая пакуса да чаго; **паманка, памыканьне, памыкацца; похаць.**

**ПОПОЛЬЗОВАТЬ** *каго,* памагчы ў хваробе; **памагчы.**

**ПОПОЛЬЗОВАТЬСЯ, пакарыстацца.**

**ПОПОМНИТЬ, папамятаць.**

**ПОПОРТИТЬ** *што,* **папсаваць.**

**ПОПОТЧИВАТЬ** *каго, чым;* **пачаставаць.**

**ПОПРАВИТЕЛЬНЫИ, папраўчы.**

**ПОПРАЗДНОВАТЬ, пасьвяткаваць.**

**ПОПРАНІЕ** *ср.* **патаптаньне, таптаньне.**

**ПОПРЕДЬ** *прысл.* **наўперш.**

**ПОПРЕКАТЬ, дакараць, закідаць; памінаць.**

**ПОПРЕК, дакор, закід, дагана.**

*Як пайду я у чужыя людзі,*
*Мне маладой дагана будзе. (Крачк. 78)*

**ПОПРЕПЯТСТВОВАТЬ** *каму*, папярэчыць.

**ПОПРЕТИТЬ** *каму, што;* папярэчыць; згадзіць.

**ПОПРИДВИГАЛИ**, папрысувалі.

**ПОПРИЖАЛ** *хто, каго;* прыціснуў.

**ПОПРИТЧИТЬСЯ** *каму, што;* здалося; прыдарылася.

**ПОПРИЩЕ** *ср. црк.* мера дарогі, днеўны пераход, каля 20 вёрст; прагон.

**ПОПРИЩЕ** *ср.* абшар, мейсца на якім дзеюць; мейсца прыладжанае для выперадкаў, здагонак, гульні, змаганьня; точышча, такавішча; поле. *Поле, точышча бітвы. Выйсці на точышча. Зрабіць точышча, такавішча, да лоўлі зьвяроў, птахаў. Точышча вялікасьвецкага жыцьця плыгкае і пустое.*

**ПОПРОБОВАТЬ** *што*, спрабаваць.

**ПОПРИГИВАТЬ**, падскаківаць.

**ПОПРИГУН**, паскакун, скакун, скакунец.

**ПОПРЯТАТЬ** *што*, пахаваць, паховы.

**ПОПУЛЯРНЫЙ** *франц.* народны, просты.

**ПОПУРИ** *франц.* мяшаніна, мяшанка.

**ПОПУЩЕНЬЕ** *ср.* допуст: пакволя. *Гэта Боскі допуст. Пакволяй бацькоў распушчаны.*

**ПОПУСТУ** *прысл.* дармо дарэмна.

**ПОПУТАТЬ** *што*, паблутаць, паблутаньне.

**ПОПУТНЫЙ**, спадарожны, спадарожнік--ніца;

**ПОПУТИ** *прысл.* падарозе.

**ПОПЫТАТЬ**, спробаваць.

**ПОПЫХ** *м.* **ПОПЫШКА** *ж.* пасьпех, пасьпешка спохап.

**ПОПЫХТѢТЬ**, пасапець, папыхаць.

**ПОПЯЧИВАТЬ** *што*, апазаджываць, пазадны; паступацца, падавацца назад.

**ПОРА** *агульн. слав.* пара.

**ПОРА** *ж. лац.* шчэлкі, дзірачкі, наздрыцы; кіп-

**ра, кіпрыца, кіправаты, кіпravы.** *Язычная плоть есть кипрая, аки гоуба (Срезн). Сьвінная скура кіпрая, нягодна на абутак.*

**ПОРАБОЩАТЬ** *каго,* **паняволіваць; паярэмліваць.**

**ПОРАБОТАТЬ, папрацаваць.**

**ПОРАДѢТЬ** *каму* **паспрыяць.**

**ПОРАЗИТЕЛЬНО, паражаюча.**

**ПОРАЗБРОСАТЬ** *што,* **параскідаць.**

**ПОРАЗБУХНУТЬ, разбракнуць, раздуць.**

**ПОРИЦАТЬ** *каго,* **гудзіць, ганіць, хуліць, дакараць.**

**ПОРИЦАНІЕ** *ср.* **дагана, згана, зганіць.**

**ПОРИЦАТЕЛЬНЫЙ, здаганны, здаганнік—ніца.**

**ПОРОГ** *аг. слав.* **парог, парогі, парожысты.**

**ПОРОЖДАТЬ** *што,* **раджаць.**

**ПОРОЖДЕНЬЕ** *ср.* **спародзьдзе.**

**ПОРОДА** *ж.* род, калена, адмена пакаленьня жывёлы з асобнымі азнакамі; **завод**. *У яго конь добрага заводу. Заводныя каровы. Куры калакуцкага заводу; сабакі гончага заводу; жарабец арабскага заводу.* **Котла** (Сержп).

**ПОРОДА** *горн.* адмены выкопных, якія твораць цэлыя тоўшчы і служаць якбытцам асновай, галоўным засабам, ядром зямнога клуба; **пароды**.

**ПОРОДИСТЫИ,** роджаны ад чыстага, не мяшанага гатунку; **заводны.**

**ПОРОДНИТЬСЯ** *з кім,* **спакровіцца, спакроўны.**

**ПОРОЗНЬ** *прысл.* **ўпопрысь, паасобна, поразна, ўроскідзь, ўроспадзь.** *Яны з братам ўпопрысь, ўроскідзь жывуць.*

**ПОРОЗНИТЬ** *каго з кім,* **парожніць, парожніцца.**

**ПОРОК** *м.* **недастатак духовы, ўсё, што праціўна праўдзе і дабру; склоннасьць да злога, да бла-**

гога жыцьця; **спагуда, спагудны, спагудныя** людзі, **гудзіць.** *Агульная спагуда нашых вяскоўцаў, гэта пьянства. Крадзьба і лжа самыя цяжкія спагуды. Не вадзі знаёмства са спагуднымі людзьмі каб цябе не спагудзілі добрыя людзі.*

*Ці я яму коніκі паспудзіў;*
*Ці я яму Настульку пагудзіў?!*
*(Аршан, пав. Ш. I ч. II. 57).*

---

*Ніхай яна нашай хатанькі ня гудзіць.*
*(Вітабс.к Ш. I ч. II. 35.).*

**ПОРОК** *м.* недастатак цялесны; **гана.** *Конь без ганы ніякай.*

**ПОРОЧИТЬ** *каго,* **ганіц, ганіцца, гана; гудзіць, спагуда, спагудлівы, спагуднік—ніца.** *Не нам людзей гудзіць, хай іх сам Бог судзіць. Ніхто свайго тавару ня гудзіць.*

**ПОРОСЛЬ** *ж.* **порасьць.** *Усякая порасьць зямельная.*

**ПОРОТОЗЕИТЬ, пасалупеніць.**

**ПОРОТЬ** *каго,* **сячы, сьцябаць.** *Высеклі хлопца.*

**ПОРОЧНЫЙ, спагудны.**

**ПОРТАЛ** *лац.* галоўны ўход; галоўныя зьнешныя дзьверы ў будынку.

**ПОРТВЕЙН** *м.* адно з моцных салодкіх він.

**ПОРТЕР** *м.* англіцкае, вельмі моцнае піва.

**ПОРТИК** *м. будаўн.* крытыя зьверху, на стаўбах пераходы, зазвычай ўдоўж будынку.

**ПОРТИТЬ** *што,* **псаваць, псаваны, псавацца, псуцьцё.**

**ПОРТКИ, штаны, гасьці, нагавіцы.**

**ПОРТМОНЭ** *ср. франц.* **каліта, калетка; кеса; гамэтка.**

**ПОРТЯНКИ, анучы.**

**ПОРТЫ** *црк. стар.* **вопратка.**

**ПОРТНОЙ** *м.* **кравец, кравецтва; крэўчык,** па-

мочнік, вучань краўца; **крэўчы, кройчы,** закройшчык.

**ПОРТНИХА** *ж.* **шв*а*чка, шв*а*цтва.**

**ПОРТУПЕЯ** *ж. франц.* рэмянь, тасемка праз плячо для нашэньня шаблі; **таз*а*к; рам*е*нь.**

**ПОРТФЕЛЬ** *франц.* скураная торба да нашэньня папераў і спраў; **гам*е*ц, вайг*а*к; т*о*рба.**

**ПОРТШЕЗ** *м. фр.* **др*а*гі.**

**ПОРТ** *м.* мейсца для прыходу і пастою вадаплаваў; **пр*ы*стаць.**

**ПОРТЬЕРА** *фран.* **зап*о*на, запав*е*са.**

**ПОРУБИТЬ** *што.* **пас*е*ч, нас*я*чыся, пас*ё*к, пасячэньне нарубень** тоўстая жэрдзь да ўціскаванья возу з сенам.

**ПОРУБЕЖНЫЙ пагран*і*чны, паўзьм*е*жны.**

**ПОРУГИВАТЬ** *каго.* **л*а*яць, зьневаж*а*ць, бэшціць.**

**ПОРУГАНІЕ** *ср.* **пал*а*йка, г*а*ньба, зьняв*а*га.**

**ПОРУСКИ** *прысл.* **па руску.** Рускай народнасьцю і мовай, да XIX ст., называліся Украіна і Крывія (дынастычна-веравызнаўчы тэрмін), т. зв. Вялікарасія насіла найменьне Масковія, а народнась і мова яе—*маскальская* (не „Маскоўская“ бо калі „маскоўская“, то чаму ня тульская, яраслаўская, разанская). Ад Пятра і Кацярыны ўтвараецца „Россійская“ імпэрыя з адменнай, мяшанай мовай ў склад якой ў 3/4 ўходзяць словы чужаземныя (францускія, нямецкія, татарскія, лацінскія, грэцкія, крыўскія і украінскія) і 1/4 народныя маскальскія і царкоўныя. Гэта мова і народнасьць ужо ня руская, а *„расійская“* (па жаргоннай вымове—„рас*е*йская“). Цяпер, у нашы часы, калі наступіла адраджэньне Крывіі і Украіны, т. зв. расійскай мове адрэзаюцца крыніцы высысаньня лексычнага матэрьялу з гэтых зямель, сама мова і народнасьцьвялікарусаў стылізуецца на ўласнай глебе, якая абыймае землі быўшага царства Маскоўскага; а згэтуль самае праўднае найме гэтай мовы і народнасьці ёсьць яе старадаўнае імя: *маскалі.*

*маскальскае, маскальства, па маскальску, амаскаліць.*

**ПОРУЧАТЬ** *што, каму:* **даручаць, даручацца, даручэньне.**

**ПОРУЧИТЕЛЬСТВО, зарука, заручацца, заручнік—ніца; паручна,** кожд**а**му ў рукі.

**ПОРУШИТЕЛЬ,** хто нешта парушыў; **парушнік.**

**ПОРФИРА** *ж. грэцк.* **кармазын; пурпура.**

**ПОРФИРОРОДНЫЙ, пурпурародны.**

**ПОРХАТЬ, пырхаць, пырхнуць, пырхун.**

**ПОРЦІЯ** *ж. франц.* часьць, дзель, зазвычай у значэньні часьці, дзелі стравы.

**ПОРЧА, псуцьцё, папсоўка.**

**ПОРШЕНЬ,** стрыжэнь, жэрдзь якая ўкладаецца ў трубу помпы; **саўгач, саўгак.** Прут для пратору заскарузлых дзірак, цыбука пры люльцы і інш.: **протар.**

**ПОРШНЕВОЙ ЗОЛОТНИК,** кляпа, затамка для затамоўкі ходу вады ўніз; **затамка, каўтыга.**

**ПОРЫВ** *м.* **похап, пахопамі, пахопісты.**

**ПОРѢШАТЬ** *справы,* **пасканаць.**

**ПОРЯБИЛ** *вецер ваду,* **памітусіў.** *Памітусілася ў вачах.*

**ПОРЯДОК** *м.* **парадак, парадкі, парадкаваць.**

**ПОРЯДКОМ** *прысл.* **ладна.** *Яму такі ладна дасталася.*

**ПОРЯДКОВЫЙ** *нумар,* **парадковы, пачародны.**

**ПОРЯДОЧНЫЙ** які ідзе па парадку, па чародзе; **даладны.** *Даладны чалавек, які любіць лад, парадак. Даладны дом, які утрыманы ў ладзе, парадку.*

**ПОРЯДОЧНЫЙ** не малы, **значны, слушны.** *Гэта цана значная. Значны, слушны ўжо хлапец.*

**ПОСАЖЕНЫЙ, пасаджаны.**

**ПОСАД** *м.* рад дамоў, вуліца ў два рады дамоў; **слабада.**

**ПОСБРАСЫВАТЬ** *што*, **паськідаць, паськідкі.**

**ПОСВИНЯЧЕМУ** *жыць*, **пасьвінску.**

**ПОСВЯЩАТЬ** *каго у што*, **пасьвячаць, пасьвята.**

**ПОСДОБИТЬ** *страву*, **акрасіць, акраса.**

**ПОСЕДМИЧНО, патыднёўна.**

**ПОСЕЛЬ** *прысл.* **дасюль, дагэтуль.**

**ПОСЕЛЯТЬ** *каго, дзе*; **сяліць.**

**ПОСЕЛЕНІЕ** *ср.* **сяліба, сялібны, сяляк, сялящтва.**

**ПОСЕЛЯНИН** *м.* **сялянін—нка, сялянскі.**

**ПОСРЕДИ** *прысл.* **пасярод.** *Пасярод гораду.*

**ПОСЕРЖИВАТЬ** *каго*, **злаваць, злавацца.**

**ПОСЖИГАТЬ** *дровы*, **паспаляць.**

**ПОСЖИМАТЬ** *што*, **пасьціскаць.**

**ПОСОЗЫВАТЬ** *людзей*, **пасклікаць, паззываць.**

**ПОСИДѢЛКИ, павячоркі, папрадкі.**

**ПОСИДѢЛКА,** *пры хворым*, **прызорніца, прызіраць.**

**ПОСІЯТЬ** *аб сонцы*, **пазіяць.**

**ПОСКИДЫВАТЬ** *што*, **паскідаць.**

**ПОСКИДЫВАТЬ** *што*, **паськачываць.**

**ПОСКИТАТЬСЯ** па чужыне; **пабадзяцца, павалондацца.**

**ПОСКОЛОТЬ** *што*, **сасчапіць.**

**ПОСКОЛАЧИВАТЬ** *што*, **пазьбіваць.**

**ПОСКОЛЬЗАТЬСЯ, пасьлізацца, пасьлізнуцца.**

**ПОСКОНЬ, зрэбьбе; пянька, пяньковы, пласкіры.**

**ПОСКОПИТЬ** *грошы*, **сабраць, наспароміць.**

**ПОСКОРБѢТЬ, пасмуціцца, пасмутнець.**

**ПОСКОРѢЕ** *прысл.* **хутчэй.**

**ПОСКОТИНА** *ж.* **выган.**

**ПОСКРЕЖЕТАТЬ** *зубамі,* **наскрыгаць.**

**ПОСКРЕЩИВАТЬ** *што,* **пакрыжаваць.**

**ПОСКУЧАТЬ, панудзіцца.**

**ПОСЛАБЛЯТЬ, папушчаць, попуск, попуст.**

**ПОСЛАЗЫВАТЬ, пазьлязаць.**

**ПОСЛИЗНУТЬ, паскаўзнуць, паскаўзель.**

**ПОСЛИНЯЛА** *фарба,* **паблекла.**

**ПОСЛОВИЦА** *ж.* **прыказка.**

**ПОСЛОЖИТЬ** *рэчы,* **паскладаць.**

**ПОСЛУЖНОЙ** *сьпісак,* **паслужны.**

**ПОСЛУШАТЬ** *каго,* **паслухаць.**

**ПОСЛУШАНІЕ** *ср.* **паслухнянасьць, слухмянасьць, паслушнасьць, паслухач,** хто слухае.

**ПОСЛУШНИК, келятнік—ніца.**

**ПОСЛЫШКА** *ж.* **чутка, послытка.**

**ПОСЛЫШАТЬСЯ, пачуцца.**

**ПОСЛѢ** *прысл.* **пасьля, затым.** *Пасьля прыду, Сьпярша падумай, а пасьля, затым скажы*

**ПОСЛѢДНІИ, апошні, апошкі, астатні.** *Апошні грош. Апошкі сабраў. Першы прышоў, а апошні вышаў. Астаткі з хаткі.*

**ПОСЛѢДСТВЕННЫЙ,** які зьяўляецца не прычынай, а вынікам; **вынікны, вынікласьць.**

**ПОСЛѢДСТВІЕ** *ср.* **вынік, вынікі, выніканьне.**

**ПОСЛѢДОВАТЬ** *за кім,* **пайсьці.**

**ПОСЛѢДУЮЩІИ, чародны, ўчародны.**

**ПОСЛѢДОВАТЕЛЬ, пасьцежнік—ніца.**

**ПОСЛѢДОВАТЕЛЬНЫИ, пасьцежны.** *Пасьцежныя лічбы адзін, два, тры. Пасьцежная гутарка, якая ідзе па парадку, разумнай сьцягой.*

**ПОСЛѢСЛОВІЕ, паслоўе.**

**ПОСЛЫ** *мн.* **паслы, пасол, пасылаць; віці.** *Пусьцілі віці па сьвеце, пусьцілі хвалу па сялу (у Шэйна, т. І. ч. ІІ стр. 29, сказана; „веце па сьвеце").*

*Есьць у дому сьвячоным*
*Бацька і маці, сёстры і брацьця,*
*Старыя бабкі, малые рабяткі,*
*Віці, павіці, красны дзявіцы (Мсціслаў).*

**ПОСМАТРИВАТЬ** *на каго*, **паглядаць, пазіраць.**

**ПОСМЕКНУТЬ** *што,* **спакмець.** *Ён усё гэта спакмеў.*

**ПОСМѢТЬ, адважыцца.** *Не адважыўся я зрабіць гэта.*

**ПОСМѢЯНІЕ, перасьмевы, насьмешкі.**

**ПОСОБЛЯТЬ** *каму чым*; **памагаць.**

**ПОСОБІЕ** *ср.* **дапамога; засілак; спамога.**

**ПОСОБНИК—НИЦА, памочнік—ніца.**

**ПОСОБСТВОВАТЬ, памагаць.**

**ПОСОВОКУПИТЬ, зграмадзіць.**

**ПОСОВРАЩАТЬ, панавяртаць, паперакуляць.**

**ПОСОВЫВАТЬ** *што,* **пасуваць, пасувацца, пасовісты.**

**ПОСОВЕСТИ, па сумленьню.**

**ПОСОВѢТОВАЛИ** *каму, што*; **параілі.**

**ПОСОГЛАСИТЬ,** *тых што сварацца*; **пагадзіць.**

**ПОСОДѢИСТВОВАТЬ** *каму,* **дапамагчы.**

**ПОСОЗРѢТЬ, пасьпець.** *Ягады пасьпелі.*

**ПОСОКРАЩАТЬ, пазьманшаць.**

**ПОСОЛОНО** *прысл.* **наўслонь.**

**ПОСОСЛОВНОЕ** *дзяленьне*, **пастаноўнае.**

**ПОСОТЕННО, пасотна.**

**ПОСОХ** *м.* палка, ляска, **посах.** *Старэцкі посах;* **Пасашок**, апошняя, чарка якой частуюць гаспадары гасьцей перад выхадам з дому.

*Вазьмі пасашок папірайся,*
*Сьцежкі ў клетку дабівайся (Крачк. 46).*

**ПОСПИХИВАТЬ, пасьпіхаць.**

**ПОСОПУТСТВОВАТЬ** *каму*, **памагчы, паспрыяць.**

**ПОСПОРИТЬ** *з кім*, **паспрачацца.**

**ПОСПРОСИТЬ** *каго*, **паспытаць.**

**ПОСПРИГНУТЬ**, **саскочыць.**

**ПОСРАЖАТЬ** *каго,* **паразіць, паразіў.**

**ПОСРАМЛЯТЬ** *каго,* **сароміць, застыдаць.**

**ПОСРАМЛЕНІЕ** *ср.* **асаромленьне, пастыда.**

**ПОСРАМИТЕЛЬНЫЙ, пастыдны, пасаромлівы.**

**ПОСРЕДИ, пасярод.** *Пасярод хаты.*

**ПОСРЕДСТВЕННЫЙ, пасярэдны, пасярэднасьць; мерны.**

**ПОСРЕДСТВО** *ср.* **спосаб, пасяродак.**

**ПОСРЕДНИК,** трэцьці выбраны двумя старанамі для спагоды; **пасярэднік.**

**ПОСРЕДСТВОВАТЬ, пасярэднічаць.**

**ПОСРЕДИННЫЙ, пасярэдны.**

**ПОСРОЧНАЯ** *плата,* **патэрміновая.**

**ПОСРУБИТЬ** *дрэвы,* **пазсякаць.**

**ПОСРЕЗАТЬ** *галіны,* **пасьцінаць, пазрэзаць.**

**ПОССОРИТЬ** *каго з кім,* **пасварыць.**

**ПОСТАВЛЯТЬ** *што, куды;* **пастачаць, пастачаньне; дастача.**

**ПОСТАВЩИК** *м.* **дастатчык, дастача.**

**ПОСТАНОВЛЕНІЕ** *ср.* **пастанова.**

**ПОСТОЙ** *м.* **папас, папасываць.**

**ПОСТОЯЛЫЙ ДВОР, заезд.**

**ПОСТОЯЛЕЦ** *м.* **пожыцень, кватэранец.**

**ПОСТОЯННЫЙ,** не пераменчывы, роўны, аднастайны; **сталы, сталасьць.**

**ПОСТАЛКИВАТЬ, пасьпіхаць.**

**ПОСТАСКИВАТЬ, пасьцягаць.**

**ПОСТАТЕЙНО, паартыкульна.**

**ПОСТЕНАТЬ, пастагнаць.**

**ПОСТЕПЕННЫЙ, пастпуенны, пастпуенна.**

**ПОСТЕРЕЧЬ, папільнаваць.**

**ПОСТИГАТЬ, насягаць, судашаць.** *Бура насягнула, судосіла нас у лесе. Судосіла іх нядобрая доля.*

**ПОСТИЖИМЫЙ,** **дасягны; судосны, судосьлівы.**

**ПОСТИТЬ,** **поставаць, пасьціць, посны, пост, посьнік—ніца.**

**ПОСТИЧЬ,** **судосіць, асягнуць.**

**ПОСТЛАТЬ,** **пасл*а*ць, пасьц*е*ль.**

**ПОСТНИЧАТЬ,** **поставаць.**

**ПОСТОЙ,** часовы кватэрунак; **пажытво, кватэрунак.**

**ПОСТОРОННІЙ,** **пабочны, чужы.**

**ПОСТОЯННО,** **заўсёды, уставічна, няўстанна.**

**ПОСТРАДАТЬ,** **пацярпець, пацярпеў.**

**ПОСТРОИТЬ** *будоўлю,* **пабудаваць.**

**ПОСТРОЕНЬЕ,** **пабудова, будова.**

**ПОСТРОЙЩИК** *м.* **будаўнік, будаўніцтва.**

**ПОСТРАШИТЬ** *каго,* **папужаць.**

**ПОСТРИГИВАТЬ** *каго,* **пастрыгаць, пастрыжкі, пастрыжыны, пастрыгальня.**

**ПОСТРѢЛ** *м.* хвароба; **апоплексія.**

**ПОСТРЯПАТЬ,** **упорацца.**

**ПОСТРЯТЬ** *дзе,* **завязнуць, завяз.**

**ПОСТРЯХИВАТЬ** *што з чаго,* **пастрасаць.**

**ПОСТУЧАТЬ** *у дзьверы,* **пастукаць.**

**ПОСТУПАТЕЛЬНЫЙ** *рух,* **паступовы.**

**ПОСТУПОК,** **учынак.**

**ПОСТ** *м. ням.* **мейсца, абавязак, становішча.**

**ПОСТЫЖАТЬ** *каго,* **ганьбіць.**

**ПОСТЫДНЫЙ,** **ганебны.**

**ПОСТЫВАТЬ,** **астыгаць.**

**ПОСТЫЛЫЙ,** **прыкры, апрыкроны; гадкі; абрыдлы, абрыдлівы; нялюбы.**

**ПОСТѢСНЯТЬСЯ,** **пасароміцца, пастыдацца.**

**ПОСУДА** *зборн.* усякае падручнае знадабьбе; **начыньне.** *Сталовае, кухоннае начыньне; сталярскае, бандарскае начыньне; зямецкае, кавальскае начыньне.*

**ПОСУХА** *ж.* **посха, засха, суш.**

**ПОСЦАРАПАТЬ** *што,* **пазьдзіраць.**

**ПОСЦЕПЛЯТЬ** *што,* **пашчапляць, сасчапіць.**

**ПОСЧАСТЛИВИТЬ, пашчасьціць, пашчасьціла.**

**ПОСЧИТЫВАТЬ** *што,,* **палічаць, палічаны.**

**ПОСЫЛАТЬ** *каго, куды;* **пасылаць, пасылка, пасыльны, пасланец, пасол.**

**ПОСЫРЕТЬ, павільжэць, паволгнуць.**

**ПОСЫХАТЬ, засыхаць, засха.**

**ПОСЕДЕТЬ, пасівець, пасівелы.**

**ПОСЕРИТЬ** *серчыкі,* **пасеркаваць.**

**ПОСЕРЕЛО** *неба,* **пашэрала.**

**ПОСЕЩАТЬ** *каго,* **наведываць, адведываць; учашчаць.**

**ПОСЕТИТЕЛЬ, наведнік—ніца, наведацца, наведкі.** *Пан наведаўся да нас. Наведнікі аж дзьвеpы разкоўталі. То ў гасьцях, то ў наведках, а хата ройстам без гаспадыні. Будуць наедкі як пойдзем ў наведкі.*

**ПОСЯГАТЬ** *на што,* **парывацца, памыкацца; пасягаць; пасягнуць, паязнуўся, паязьлівы, паязьлівасьць.**

**ПОТАИНИК** *м.* **скрытка.**

**ПОТАЛАНИТЬ** *каму, што;* **паручыць, пашчасьціць.**

**ПОТАЛКИВАТЬ** *каго,* **папіхаць.**

**ПОТОЛОЧЬ** *што,* **патаўчы; падратаваць.**

**ПОТАСКИВАТЬ, пацягаць.**

**ПОТАЩИТЬ, пацягнуць, пацягнулі.**

**ПОТАСКУН—КУХА, шлюхтыр, шлюха.**

**ПОТВЕРЖИВАТЬ, пацьвярджаць.**

**ПОТЕЧЬ, пацячы.**

**ПОТЁКИ,** цеклаці па чым; **рагі.**

**ПОТЕМНЯТЬ, цямнець, пацямнець, пацёмкі пацьмежа.**

**ПОТЕРЕБИТЬ, патурзаць.** *Сабака патурзаў крысо.*

**ПОТЕРЕБКИ, пацяробкі, поцябкі.**

**ПОТЕРЗАТЬ** *каго,* **патурзаць.**

**ПОТЕРЯТЬ** *што,* **страціць, страта, стратнік.**

**ПОТИР** *м. грэцк.* **чаша, келіх.**

**ПОТИСКИВАТЬ, паціскаць, поцісь.**

**ПОТОЛОК** *м.* насьцілка па маціцах; **столь, сталявы, сталіць** хату. Насьцілка на кроквах—**накот.** Накоты робяць у клецях.

**ПОТОМНЫЙ, нашчадны.**

**ПОТОМ** *прысл.* **пасьля, затым.** *Пасьля таго не барыце, хутка дарыце. Спярша так, пасьля інак. Затым прышлі госьці.*

**ПОТОМУ, таму, дзеля таго.**

**ПОТОМОК** *м.* **нашчадак, нашчадны.**

**ПОТОМСТВО,** якія пасьля будуць; **нашчадзь.**

**ПОТОНУТЬ, патопнуць, патоп.**

**ПОТОНЧАТЬ, пацяняць, ценкі.**

**ПОТОПОРЩИТЬ, патапырыць.**

**ПОТОРОПИТЬ** *каго,* **патуровіць, патуровіцца.**

**ПОТОРМОШИТЬ, патурзаць.**

**ПОТОСКОВАТЬ** *па чым,* **патужыць.**

**ПОТОШНИЛО, змліла, згадзіла.**

**ПОТРАВА, спаша.**

**ПОТРАТИТЬ** *грошы,* **выдаць, выдатак.**

**ПОТРЕБЛЯТЬ** *што,* **спажываць, спажываньне.**

**ПОТРЕБИТЕЛЬ, спажывец, спажывецкі.**

**ПОТРЕБОВАТЬ** *што, беларуск.* ад **„трэба“; патрэбаваць.**

**ПОТРЕВОЖИТЬ** *каго,* **патурбаваць.**

**ПОТРЕЗВОНИТЬ, пабарабаніць, пабразгаць.**

**ПОТРЕПАТЬ** *хлапца па шчацэ,* **пакляпсаць.**

**ПОТРОГАТЬ** *што,* **парухаць, пакратаць, пакрануць.**

**ПОТРОШИТЬ** *каго,* **патрошыць; палтаць.**

**ПОТРОХА, падрабязгі; драмяза; трыбухі, трыбушыць.** *Драмязоўка, поліўка з драмязы, а такжа каўбаса.*

**ПОТРУБНОЙ** *падатак,* **падымны, падымшчына.**

**ПОТРУДИТЬ** *каго просьбай,* **патурбаваць.**

**ПОТРУНИВАТЬ** *з каго,* **насьміхацца, кпіць.**

**ПОТУДА** *прысл.* **патуль, датуль.** *Дакуль жывецца датуль жыві. Датуль жыў пакуль, не памер.*

**ПОТУСКАТЬ, бледнуць, сьвянуць.**

**ПОТУХНУТЬ** *аб агні,* **пагасьнуць.**

**ПОТУХОЛЬ,** пах тхліны; **тхля.**

**ПОТУШИТЬ** *агонь,* **гасіць, пагашаць, пагаснуць.**

**ПОТЧИВАТЬ** *каго,* **частаваць, трактаваць, гасьціць.**

**ПОТЩАТИСЯ** *црк.* **пастарацца, парупіцца.**

**ПОТЬМА** *ж.* **поцемкі, пацёмкі.**

**ПОТѢШАТЬ** *каго, чым;* **пацяшаць, пацеха, забаўляць.**

**ПОТѢШНЫЙ, забаўны, забаўляцца.**

**ПОТЯГИВАТЬ, пацягаць, пацягацца, пацягнуцца,** пацяганьне, пацягушкі; поцяг, рэмень якім шаўцы прытрымліваюць работу.

**ПОУБАВИТЬ** *чаго,* **паменшыць.**

**ПОУБѢДИТЬ** *каго,* **пераканаць.**

**ПОУЖИНАТЬ, павячэраць.**

**ПОУКЛАДЫВАТЬ** *рэчы,* **спалажыць.**

**ПОУКРАСИТЬ** *хату,* **прыаздобіць.**

**ПОУКРЫВАТЬ** *вінных;* **пахаваць.**

**ПОУКРѢПЛЯТЬ** *гарады,* **паўмацовываць.**

**ПОУЛОЖИТЬ** *дзяцей,* **улажыць.**

**ПОУМНѢТЬ, паразумнець.**

**ПОУМОЛКЛИ** *песьні,* **памоўклі.**

**РАЗРѢШАТЬ** *каму, што*; **пазваляць.** *Яму пазволена паступіць на службу. Даць пазгаленьне на друк кнігі.*

**РАЗРѢШЕНІЕ** *ср.* **разьвязка, разпавязка; пазваленьне, звальненьне.**

**РАЗРѢШИМОСТЬ, разспавязнасьць, разспавязлівасьць.**

**РАЗРѢШИМЫЙ, разспавязны, разспавязьнік—ніца.**

**РАЗРѢШЕТИТЬ** *сьцены*, **пасіткаваць.**

**РАЗРЮМИТЬСЯ, разрымзацца.**

**РАЗРЯВКАТЬСЯ, разравецца.**

**РАЗРЯЖАТЬ** *каго,* апранаць збыткоўна; **разпрыгосіць, разпрыгошаны, пазпрыгашаць.**

**РАЗРЯД,** парадак, аддзел, разьдзел; **аддзел, пададдзел.**

**РАЗРЯЖАТЬ** *стрэльбу*, **разпрыжаць—жацца разпрыга.** Адваротнае: *запрыжаць, запрыга. Разпрыжылася, разпрындзілася бура. Разпрыжыў стрэльбу. Разпрыжыўся злосьцю і дагэтуль усё яшчэ прыжыцца.*

**РАЗСАЖИВАТЬ** *што, каго;* **разсаджаць—джывацца, разсеўся, разседчывы.**

**РАЗСАЛИТЬ** *што*, **разтоўціць**, **разтоўчаны—тоўціца.**

**РАЗСОЛЬНИК** *м.* гарачая поліўка на агурэчным расоле з мясам; **расол.**

**РАЗСАРИВАТЬ** *што,* **разтрасаць, разпарушаць.**

**РАЗСАТАНѢТЬ, разшалець, ачарцець.**

**РАЗСВИРѢПѢТЬ, разьюшыцца—юшаны.**

**РАЗСВѢТАТЬ, раззалачэць, разаднець.**

**РАЗСЕЛИНА** *ж.* **разпадзіна, розшчалка.**

**РАЗСЕЛЕНІЕ** *народаў*; **разсяленьне.**

**РАЗСЕРДИТЬ** *каго*, **раззалаваць—вацца.**

**РАЗСКАЗЫВАТЬ** *каму што*; **апавядаць—даньне, апавядач—дачка.**

**РАЗСЛАБЛЕННОСТЬ, аслаба, аслабеньне; нядужнасць, нядугі, нядужны, нядужэць.**

**РАЗСЛАИВАТЬ** *што,* **разслаяць—яцца, разслой.**

**РАЗСЛАНИВАТЬ** *што,* **разсланяць.**

**РАЗСЛАЩИВАТЬ** *што,* **разсаладжываць.**

**РАЗСЛУШИВАТЬ** *што,* **разслухаць—хацца.**

**РАЗСЛѢДОВАТЬ** *што,* **разпасачыць, разпасока, разпасочнік—ніца.**

**РАЗСМАТРИВАТЬ** *што,* **разглядаць—дацца. разгляд, разглядчык—чыца.**

**РАЗСНАЩИВАТЬ, раз існаджаць.**

**РАЗСНУРОВЫВАТЬ** *камашы,* **разшнуровываць, разбарсываць.**

**РАЗСОВЫВАТЬ** *што,* **разпіхаць -хацца.**

**РАЗСОВѢСТИТЬСЯ, разсароміцца.**

**РАЗСОВѢТОВАТЬ, адрадзіць, адраіць.**

**РАЗСОЛ** *м.* **расол**; расол з пад селядцоў; **лёк.**

**РАЗСОРИТЬ** *каго з кім*; **разсварыць.**

**РАЗСОРТИРОВЫВАТЬ** *што,* **разгатунковываць, разьбіраць.**

**РАЗСОРТИРОВЩИК, разборшчык—шчыца.**

**РАЗСОХА** *ж.* **вілаваціна, расаха, развіліна.**

**РАЗСПРАШИВАТЬ** *каго,* **разпытываць—тывацца; розпыты, розпыт.**

**РАЗСРОЧИВАТЬ** *што, каму*; **разлажыць на раты.**

**РАЗСТАНАВЛИВАТЬ** *што,* **разстаўляць, разпастаўляць.**

**РАЗСТАНОВКА** *ж.* адлегласьць, прамежак паміж рэчамі; **разпостань, разпастанак.** *Чытай так, як дзяк: выразна, ясна з разпастанкамі.*

**РАЗСТЕГИВАТЬ** *што,* **разпінаць, разшпіляць.**

**РАЗСТОНАТЬСЯ, разстагнацца.**

**РАЗСТОЯНІЕ** *ср.* **адлегласьць, аддальнасьць.**

**РАЗСТРАИВАТЬ** *што*, **разладжаць, разлад, разладнік—ніца**; *каго*: **узбурыць—бураньне, узбураны; разнемарасьціць.**

**РАЗСТРИГАТЬ** *каго*, пазбаўляць годнасьці, гаворыцца, аб духоўных асобах; **разстрыгаць**.

**РАЗСУЖДАТЬ,** гаварыць, гутарыць тлумачучы, ўнікаючы розумам; **развяжаць.**

**РАЗСУЖДЕНІЕ** *ср.* **развяжаньне.**

**РАЗСУДОК** *м.* **развага.** *Розуму многа, а развагі няма.*

**РАЗСУДИТЕЛЬНОСТЬ, разважлівасьць.**

**РАЗСЧЕСТЬ** *што*, **разлічыць—лічацца.**

**РАЗСЧЕТ** *м.* **разлічка, разплата.**

**РАЗСЧЕТЛИВЫЙ** *чалавек*, **аглядчывы, ашчадлівы.**

**РАЗСЧЕТЛИВОСТЬ, агляднасьць, ашчаднасьць**

**РАЗСЫЛЬНЫЙ** *м.* **пасланец.**

**РАЗСЫПЧАТЫЙ, разсыпісты—тасьць.**

**РАЗСѢЯННОСТЬ, неўважлівы—васьць.**

**РАЗСѢЛИНА** *ж.* **разпадзіна, шчэль, шчалуга, шчэлка.**

**РАЗСѢЧЬ** *што*, **разсячы, разцяць.**

**РАЗУБѢЖДАТЬ** *каго*, **пераконываць.**

**РАЗУВѢРЯТЬ** *каго*, **зняпэўняць.**

**РАЗУЗНАВАТЬ, выведываць, выведы.**

**РАЗУКРАШАТЬ, прыаздабляць—ляцца.**

**РАЗУМ** *м.* **розум, разумны, разумець, разуменьне, разумнасьць, разумнік—ніца.**

**РАЗУТЮЖИТЬ** *што*, **разпрэгліць.**

**РАЗУХАБИТЬ** *дарогу*, **выбіць, выбоіна.**

**РАЗУЧИТЬ** *што*, **зацьвярдзіць; наўчацца.**

**РАЗХЛЯБАННОСТЬ, разплюхласьць, разплюхлы—плюхаць.**

**РАЗ'ЕДИНЯТЬ** *што*, **разлучаць, разадзіняць, раздзяляць.**

**РАЗ'ЯСНЯТЬ** *каму, што;* **тлумачыць, выясьняць.**

**РАЗЫСКИВАТЬ** *што,* **шукаць, шуканьне, спошукі.**

**РАКА** *ж. црк.* **дамавіна.**

**РАКЕТА** *ж.* трубка набітая порахам і гаручай мякацьцю, якая падпаленая знізу ўзлятае ў паветра і там покаецца; **агнепырсень, агнялёт.**

**РАКИТА** *ж.* рожныя адмены лазы. Па нашаму *„ракита";* тое-ж што па расійску *„корельская береза".*

**РАК** *м.* **рак, ракі, ракавы.** Аб лавеньні ракаў кажуць: *„нуціць ракі"*, а прынаду на ракаў называюць—*„нутка".*

**РАКОВИНА** *ж.* чарапок ў якім жыве **склізень; чарупка, чарупіна, чарупаўка, шчарупка, шчарупаўка, шчарупны.**

**РАМА** *ж. ням.* **рама, рамка; прасло.** *Ваконныя праслы (Вяліж.).*

**РАМО** *ср.* уступ ад шыі да рукі, плячавая косьць; **плячо, плечы; рамёны, раменны; пяльно, пелькі.**

**РАМПА** *ж. франц.* нізенькі шчыток у тэатрах, які прыкрывае лянпы, што асьвятляюць сцэну; **зацьма.**

**РАНА** *ж. агульн. слав.* **рана, ранка, раначка, раніць—ніцца.**

**РАНГ** *м. франц.* адзел, падзел; **ступень.**

**РАНДЕВУ** *франц.* мейсца сустрэчы, умоўленая сустрэча, пабачаньне, зборнае мейсца; **спастрэчка.**

**РАНЕЦ** *м. нямец.* салдацкі хатылёк з бялізнай і ежай; **хатылёк, хатыль; клумак, клумцік.** *Стаў ён разбіраць маскалёў клумак (Сержп. 51).*

**РАНИТЬ** *каго,* **раніць, ранны; ўразіць.**

*Толькі баюся старога дзеда:*
*Той мяне ўдарыць,*
*Той мяне ўразіць*
*Пад шчыра сэрца,*
*Скрозь палаценца, (Рам. 8—9 с. 109).*

**РАНО** *агульн. слав.* **рана, ранавата, раніца, рань, раніна, ранны, ранічны.**

**РАНТ** *м. нямецк.* выпуск, абшыўка па выпуску; **брыжэнь, пруг.**

**РАПИРА** *ж. нямецк.* тупая шпада з клубікам на канцы.

**РАПОРТОВАТЬ** *каму аб чым, франц.;* падаваць, спавяшчаць па зьверхнасьці.

**РАПСОДІЯ** *грэцк.* вершаваны адрывак.

**РАПС** *м. ням.* **сурэпіца.**

**РАСА** *ж. франц.* адмена жывёлаў і людзей, якое перадаецца з роду ў род; **племя.**

**РАСКАЛЫВАТЬ** *што,* **шчапаць—пацца, разшчэп.**

**РАСКАЛЯТЬ** *зялеза,* **разпаляць, разпякаць.**

**РАСКАНЮЧИТЬСЯ, разкнягацца.**

**РАСКАРЯЧИВАТЬ** *што, каго,* **разкярачываць, разкярака.**

**РАСКАССИРОВАТЬ** *што,* **разкасаваць.**

**РАСКАТЫВАТЬ** *што,* **разкачываць—чываацца, разкот.**

**РАСКАТИСТЫЙ** *гром,* **разкоцісты, разточысты.**

**РАСКАЧИВАТЬ** *калыску,* **разгойдаваць—гойдацца.** *Яго не адразу разгойдаеш.*

**РАСКАЯТЬСЯ, разкаяцца.**

**РАСКВОХТАТЬСЯ** *аб курыцы,* **разквактацца.**

**РАСКИДЫВАТЬ** *што,* **разкідаць—дзісты.**

**РАСКЛАДЫВАТЬ** *што,* **разкладаць, разкладдка.**

**РАСКЛАНИВАТЬСЯ, вітацца, вітаньне.**

**РАСКЛЕВАТЬ** *што,* **раздзяўбсьці, раздзяўбці, раздзюбаць.**

**РАСКЛЕГТАТЬСЯ** *арлом,* **разклыгтацца.**

**РАСКЛИНИТЬ** *што,* **разклінаваць—вацца.**

**РАСКЛЕКОТАТЬСЯ, разклыктацца.**

**РАСКЛОЧИТЬ** *воўну,* **разкудлаць—длацца.**

**РАСКОВЫРЯТЬ** *што,* **разкалупаць, разкалупіна.**

**РАСКОЛОТИТЬ** *што;* **разьбіць, разьбітак.**

**РАСКОЛЕБАТЬ** *што,* **разхібаць, разкалыбаць.**

**РАСКОЛОТЬ** *што,* **разшчапіць, разшчэп.**

**РАСКОЛЬНИК, адшчапенец—пеніца.**

**РАСКОНОПАЧИВАТЬ** *што,* **разпаклёвываць.**

**РАСКОСТЫЛЯТЬСЯ, разкавеліцца.**

**РАСКРАСИТЬ** *што,* **размаляваць.**

**РАСКРАСНѢТЬСЯ, разчырванецца.**

**РАСКРИТИКОВАТЬ** *што,* **разпагудзіць.**

**РАСКРОШИТЬ** *што,* **разкрышыць.**

**РАСКРУЧИНИТЬСЯ, размаркоціцца.**

**РАСКРѢПИТЬ** *вяроўку,* **размацаваць.**

**РАСКУВЫРКАТЬ** *што,* **разкуляць.**

**РАСКУДРЯВИТЬ** *каго,* **разкурчавіць.**

**РАСКУПАТЬ** *што,* **разкупляць—ляньне.**

**РАСКУПОРИВАТЬ** *бутэлькі,* **разкарковываць.**

**РАСКУРЯЖИТЬ** *каго,* **разкачапэрыць, разкарэжыць.**

**РАСКУТЫВАТЬ** *каго, што;* **разьвіваць, разьвінаць.**

**РАСКУЧИВАТЬ** *што,* **разгартаць, разгарнаць.**

**РАСПАДАТЬСЯ, разваляцца, разсыпацца, разпадацца.**

**РАСПАЯТЬ** *што,* **разлютаваць—вацца, разлютоўка.**

**РАСПАКЛИТЬ** *што,* **разпакуліць, разкудлаць.**

**РАСПАЛЗЫВАТЬСЯ, разпаўзацца, розпаўзьні.**

**РАСПАЛИВАТЬ** *што,* **разпаляць—ляцца, разпал.**

**РАСПАРИВАТЬ** *што,* **разпараць, разпетрыць.**

**РАСПАРЫВАТЬ,** дзяліць па шву; **разпарываць, пароць.**

**РАСПАХИВАТЬ** *зямлю,* **разворываць, араць, узорываць.**

**РАСПАШЕК** *м.* **розьдзерць, выдзіркі.**

**РАСПАХНУТЬ** *дзьверы,* **разшугнуць, разхлыснуць.**

**РАСПЕЛЕНАТЬ** *каго,* **разпавіць.**

**РАСПЕНЯТЬСЯ** *на каго,* **размарокавацца, разнаракацца, нараканьне.**

**РАСПЕРЕТЬ** *што,* **разчыніць—ніцца.**

**РАСПЕРСТЫЙ,** у каго пальцы тырчаць крыва; **разпалы.**

**РАСПЕСТРЯТЬ** *што,* **разпстрычаць, разпстрыцець.**

**РАСПЕЩРЯТЬ** *што,* **разпстрычаць.**

**РАСПИЛИВАТЬ** *што,* **разпіловываць.**

**РАСПИНАТЬ** *што, каго;* **разпінаць—нацца.**

**РАСПЯТІЕ,** выабражэньне разпятага на крыжу Хрыста; **разпяцьце.**

**РАСПИХИВАТЬ** *што,* **разпіхаць—хацца.**

**РАСПИЧКАТЬ** *што,* **разпехціць.**

**РАСПЛАВЛИВАТЬ** *што,* **разтапляць—ляцца.**

**РАСПЛАВ** *м.* **разтоп, разтапіцца.**

**РАСПЛАМЕНЯТЬ** *што,* **разпалымляць—ляцца.**

**РАСПЛАНИРОВАТЬ** *мейсца,* **разплянаваць.**

**РАСПЛАЩИТЬ** *што,* **разплюшчыць—шчыцца.**

**РАСПЛЕМЕНЯТЬ** *курэй,* **разплемляць, разплемнік.**

**РАСПЛЕСКАТЬ** *што,* **разплюхаць—хацца.**

**РАСПЛОЖАТЬ** *статак,* **разпладжаць, разплод, разплоднік, разплодчык.**

**РАСПЛОХОЙ** *хто, што;* **разблагі, разблажэць.**

**РАСПЛОЩИТЬ** *што,* **разплюшчыць.**

**РАСПЛЫВЧАТЫЙ, разплывісты—тасьць, росплынь.**

**РАСПЛЯСАТЬСЯ, разтанцавацца.**

**РАСПОГАЖИВАТЬСЯ, разпагаджацца — пагодзілася; разматрунілася; размірсалася, рахатурылася, разхаморылася.**

**РАСПОЛАГАТЬ** *што,* разлажыць, **разставіць,** разьмесьціць; **ракладаць —даацца.**

**РАСПОЛОЖЕНІЕ** *дому, сьвятліц;* **разклад.**

**РАСПОЛАГАТЬ,** *каго у чыю карысьць;* **скланяць—няцца, склонны—нчывы.**

**РАСПОЛОЖИТЕЛЬНОСТЬ**, **склоннасьць, прыхільнасьць**.

**РАСПОЛИТЬСЯ, разпалавініцца.**

**РАСПОЛСТИТЬ** *што,* **разкудлаць, разкузлаць.**

**РАСПОРЯЖАТЬСЯ** *чым, кім;* **распараджацца.**

**РАСПОРЯДИТЕЛЬ** *м.* **разпарадчык, загадчык.**

**РАСПОРЯДОК** *м.* **разпарадак, лад.**

**РАСПРАВЛЯТЬ** *што,* **разраўняць, разпрастаць.**

**РАСПРАВА** *ж.* разбор, суд, прысуд; **разбор, прысуд.**

**РАСПРЕДѢЛЯТЬ** *што, каго;* **разпадзяляць, разпадзел.**

**РАСПРОДАЖА** *ж.* **разпрадажа, разпрадаваць.**

**РАСПРОСТИРАТЬ** *што,* **разпасьцягаць, разпасьцілаць.**

**РАСПРОСТРАНЯТЬ** *што,* **разпаўсюджаць, разпашыраць.**

**РАСПРОСТРАНЕНІЕ** *ср.* **разпаўсюджаньне, разпашырэньне.**

**РАСПРОСТИТЬСЯ** *з кім,* **развітацца, разпрашчацца.**

**РАСПРЯ** *ж.* **ростырка, сварка.**

**РАСПРЯМЛЯТЬ** *што,* **разпрастовываць.**

**РАСПРЯЧЬ** *коні,* **разпрагчы, разпрэжаны.**

**РАСПУГИВАТЬ** *каго,* **разпужываць, разпудзіць.**

**РАСПУТЫВАТЬ** *што,* **разблутываць.**

**РАСПУТІЕ** *ср.* **раздарожжа, разстанцы.**

**РАСПЫЛАТЬСЯ разпалымецца, разпаланецьь.**

**РАСПУХАТЬ, разпухаць—ханьне, розпухля.**

**РАСПЫЖИТЬ** *што,* **разпушыць, разтапырыць.**

**РАСПЫЛИТЬ** *што,* **разпарушыць, разпрысіць.**

**РАСПЫРЯТЬ** *сена,* **разпоркаць.**

**РАСПЫХАТЬСЯ, разсапецца.**

**РАСПЯЛИТЬ** *што,* **разпяць, разцягнуць.**

**РАСПЯТІЕ** *ср.* **разпяцьце, разкрыжаваньне, розкрыж.**

**РАСТАЛКИВАТЬ** *што, каго;* **разпіхаць—хацца.**

**РАСТАСКИВАТЬ** *што,* **разцягаць—гацца.**

**РАСТВОРЯТЬ** *што,* **разчыняць—няцца.** *Разчыніў дзьверы, вокны. Не разчыняй скрыні.* **Разчыняць** на хлеб муку з вадой, што завецца **разчына.**

**РАСТВОРЯТЬ** *што, чым або ў чым;* развадзіць, разпускаць; разрэджаць, разьмешываць цеклацю: **разцячаць—чацца, разцечаны.**

**РАСТВОР** *м.* мяшаніна з чым колечы цеклаці; **разцечнік.**

**РАСТВОРИМЫЙ, разцечлівы, разцечлівасьць.**

**РАСТЕНІЕ** *ср.* ад „расьці", **расьціна, расьціны, расьцінны.**

**РАСТЕРЗАТЬ** *што, каго:* разарваць на часьці; **разтурзаць.**

**РАСТЕРЯТЬ** *што,* **разтраціць—ціцца; разгубляць.**

**РАСТИ** *аг. слав.* **расьці, расьціна, расток, рост, рослы, расьціць, расьцінны, расьцінасьць.**

**РАСТИСКИВАТЬ** *што.* **расціскаць.**

**РАСТЛѢВАТЬ** *што,* **разтняваць—тнявацца, разтнець.**

**РАСТЛѢНІЕ** *ср.* **разтненьне, разтнеўнік—ніца; абяздзеўленьне, абяздзевіць.**

**РАСТОЛМАЧИТЬ** *што, каму;* **разтлумачыць.**

**РАСТОРГНУТЬ** *што,* парваць сілай; **парваць, разтыргнуць.**

**РАСТОРМОШИТЬ** *каго,* **разкатурхаць.**

**РАСТОРОПНЫЙ, разьвітны, разьбітны разьбітнасьць.**

**РАСТОЧАТЬ** *што,* **разсыпаць; шатлаць, разшатлаць** маемасьць; **разкідоміць—кідомства.**

**РАСТРАВЛЯТЬ** *рану,* **ятрыць.**

**РАСТРАВЛЯТЬ** *дашку квасамі;* **выпаляць.**

**РАСТРАНЖИРИТЬ** *што,* **разтраляваць.**

**РАСТРАЧИВАТЬ** *што,* выдаткаваць, выдаваць, змарнаваць; **разтрачаць, разпарушаць.**

**РАСТРАТА** *ж.* **нястача, марнатрацтва.**

**РАСТРЕПАТЬ** *каго, што,* **разкудлаць; разтармосіць.**

**РАСТРОГАТЬ** *што, каго;* **раздражніць; разчуліць.** *Раздражніць пшчол. Раздражніць рану перавязуючы яе. Расчуліў матку старэньнем сваім.*

**РАСТРОГАТЬСЯ, разчуліцца.** *Яна была вельмі разчулена гэтым.*

**РАСТРУБ** *м.* разпашырэньне трубы; **разтруб.**

**РАСТЫКАТЬ** *калы,* **разтыкаць, разтыцкаць, разпіхаць.**

**РАСТЯГИВАТЬ** *што,* **разцягаць, разпінаць.**

*А на гарэ татары стаялі,*<br>*Пад гарой шатры разпіналі.*

**РАСТЯЖНОЙ.** **разцягомы, разцяглы—гласьць.**

**РАСТЯНУТЬ** *што,* **разцягнуць—гнуцца. росьцяг.**

**РАСФЫРКАТЬСЯ. разпорскацца.**

**РАСХОЖДЕНІЕ** *у чым,* **разыходжаньне**

**РАСХОД** *грошы,* **выдатак, выдаткаваць, выдатковы, выдатчык—датчыца.**

**РАСХИЩАТЬ** *што,* **разхапляць, разпахапляць; лупіць.**

**РАСХЛЕБЕНИТЬ** *дзверы,* **разхлыстаць.**

**РАСХЛЕБАТЬ** *што,* **разсёрбаць.**

**РАСХЛЕСТАТЬ** *што*, разхлыстаць, разхлысьлівы.

**РАСХЛОПАТЬ** *што*, разляскаць, разляснуць.

**РАСХЛЯБАТЬСЯ**, разклыбацца, разклыблівасьць.

**РАСХОРОНИТЬ** *што*, разхаторыць.

**РАСХОДИТЬСЯ**, разбазырыцца.

**РАСХОХОТАТЬСЯ**, разрагатацца, рагатаць.

**РАСХРАБРИТЬСЯ**, разхаробіцца.

**РАСХРОМАТЬСЯ**, разкульгацца.

**РАСХОДОВАТЬ** *што*, выдаткаваць.

**РАСЦАРАПАТЬ** *што*, раздзярстаць, раздзерсьціна.

**РАСЦВѢТАТЬ** *аб расц.* разквітаць—таньне, розквіт, разквітласьць.

**РАСЦѢПЛЯТЬ** *што*, разчапляць, разчапляньне.

**РАСЧЕРТИТЬ** *стол*, разкрэсьліць.

**РАСЧЕСТИТЬ** *каго*, разнясьці, разлаяць.

**РАСЧЕТВЕРИТЬ** *што*, разчацьвертаваць, разчацьвярыць, разчвярціць.

**РАСЧИСЛЯТЬ** *што*, разлічаць—чаньне.

**РАСЧИТЫВАТЬ** *на што*, разлічаць.

**РАСЧУДАЧИТЬСЯ**, разпракудзіцца, раздзівачыцца.

**РАСШАЛИТЬСЯ**, раздурэцца, разкудашыцца, раздашыцца.

**РАСШАМКАТЬ** *што*, разчвякаць.

**РАСШАТАТЬ** *што*, разківаць, разхібаць, разчапаць.

**РАСШВЫРЯТЬ** *што*, разшпургаць—шпурляць.

**РАСШЕВЕЛИТЬ** *што, каго*; разкратаць—таццца.

**РАСШИБИТЬ** *што*, разьбіць.

**РАСШИПѢТЬСЯ**, разсіпецца—сіплы.

**РАСШИРЕНЬЕ** *ср.* **разшырэньне, разпашырэньне.**

**РАСШИРЯТЬ** *што*, **разпашыр*а*ць, пашыр*а*ць.**

**РАСШИФРОВЫВАТЬ** *што*, разьбіраць лічбовае пісьмо, разчытываць труднае пісаньне.

**РАСШНУРОВЫВАТЬ** *што*, **разбарс*а*ць, разб*а*рсываць.**

**РАСШУМѢТЬСЯ, разкрыч*а*цца.**

**РАСШУТИТЬСЯ, разжартав*а*цца.**

**РАСЩЕЛКНУТЬ** *што*, **разлузнуць—нуцца.**

**РАТИФИКОВАТЬ** *умову*, **змацав*а*ць, пацьвярдзіць.**

**РАТЬ** *ж.* змаганьне, сварка, вайна; **б*і*тва; войска.**

**РАТНИК** *м.* ваяр; **б*о*йнік, баяв*а*ць, баяв*а*ньне, ба*я*рства.**

**РАТОБОРСТВО**, вайсковая схватка; **б*і*тва.**

**РАУТ** *м. англ.* званы вечар без танцаў.

**РАФИНАД** *франц.* чысты, высшы разбор цукру; **чыст*а*к, ч*ы*сьціць, ач*ы*шчаны.**

**РАХАТЬ** *што*, **кід*а*ць, рын*а*ць.**

**РАХИТИЗМ,** хвароба касьцей якая выражаецца разьмякчэньнем і выкрыўленьнем іх; **кастагр*ы*зь.**

**РАЦІОНАЛЬНЫЙ**, разумны, праўдны, абаперты на розуме і практыцы.

**РАЦІОН** *м. вайск.* хорч выдаваны на дзень; **хорч; порція.**

**РАЧИТЕЛЬНЫЙ, старэнны, рупл*і*вы.**

**РАШКУЛЬ** *м.* алувок да зазначаньня абрысаў рысаванай рэчы.

**РАШПИЛЬ** *м. ням.* самы буйны напільнік для дрэва; **ш*о*ргіль, шаргляв*а*ць,** абпіловываць шорглям дрэва.

**РАШТРА** *ж. ням.* пяро з пяцьцю канцамі да лінаваньня паперы для нот; сталярская прылада да абазначаньня на дрэве адразу некалькіх роўналеглых ліній; **кр*ы*скіль.**

**РВАТЬ** *што*, **рваць, рве, рвацца—нуцца; дзерці, драць.**

**РВАНЬ драньцё, драсьцё, дросткі; дзярмо, дзярмацьцё.**

**РВЕНІЕ** *ср.* **парыў.**

**РВОТА** *ж.* **блявата, бляваць, блювоціны; блювярза,** непрыстойная гутарка, польск. *„bluźnierstwo"*; **варыцаньне, варацаць; вякі, вякаць; воміт, воміты, вамітаваць; рыгаць, рыгае, вырыгнуць.**

**РВОТНЫЙ, блювотны, варацальны, вомітны.**

**РВОТНОЕ** *ср.* **блювотнае, вомітнае.**

**РДѢТЬ,** гарэць, чырванець, займацца агнём і чэрвеньню; сьпець, дасьпяваць і чырванець на сонцы; жаўрэць, жаўрэе, жаўрыцца—раньне, жаўраны; жаўрэц, румянец. *Сады жаўрэюць. Жнеі зажаўрэлі на сонцы. Зажаўрэла дзяўчына, шчокі агнём загарэліся з ιораму. Ад суніц аж жаўрэе ў лесе. Болька зажаўрэла.*

**РЕАГЕНТ** або **РЕАКТИВ** *м. лацінск. хіміч.* матэрыя якой пазнаецца прытутнасьць ў росцечы другой, вядомай матэрыі; **рэактыў,** **ператвор, разчыннік.**

**РЕАГИРОВАТЬ** *на што,* **рэагаваць, спраціўляцца.**

**РЕАКЦІЯ** ж. **рэакція, спраціўчын, спраціўчынны.**

**РЕАЛ** *м. друкарск.*, крывы стол, на якім стаіць скрыня да літар; **паставец.**

**РЕАЛЬНЫЙ** *лацінск.* **практычны—насьць, практык; істотны,**

**РЕАЛИЗИРОВАТЬ** *што,* **выканаць, выкананьне; рэалізаваць, зысьціць.**

**РЕБЕЗИТЬ** у *вачах,* **мітурыцца, мітусіцца, мельсціцца.**

**РЕБРО** *ср.* край, востры або вузкі бок рэчы; **рабро, рабярцо, рабраваць.** *Дошкі паложаны не пласмом, не тырчком (тырцом) а рабром.*

*Рабро ложка*, вузкі кант бакавой дашкі. *Рабро гранкі*, дзе зыходзяцца дзьве плосмені.

**РЕБРО**, адна з доўгіх пласмаватых касьцей, якія ідуць, у жывёлаў дугой, ад хрыбетнай да грудной косьці, і абыймаюць грудную часьць брушной падзі; **скаба, скабы, скабіца, скабка**. *У чалавека 12 пар скабаў, якія прытыкаюць зворцамі да хрыбетнай косьці а храсткамі да грудной косьці (мастка)*.

**РЕБУС** *м. франц.* загадка ў рысунку.

**РЕБЯ** *ср.* · **РЕБЕНОК** *м.* **дзіця, дзяцё, дзіцятка, дзіцячы; дзяцюк**, дзяцюком завуць хлапца ад падростка да юнацтва; **дзяцінтства, дзяцініцца**.

**РЕВАНШ** *м. франц.* адплата роўным; **адпоміца, адпомніць—ніцца**.

**РЕВЕНЬ** *м.* лякарская расьціна Rheum, якой карэнь ідзе на парашок выклікаючы ляксу; **рэбарбар**.

**РЕВЕРАНС** *м. фр.* паклон, пашанотнае прысяданьне; **прывець**.

**РЕВЕРС** *м. фр.* парука, забавязаньне на пісьме; **заручны ліст**.

**РЕВИЗОВАТЬ** *што, каго, лацінск.* **спраўджаць, рэвізаваць**.

**РЕВИЗОР** *м.* **рэвізор, спраўдчык—чыца**.

**РЕВМАТИЗМ** *м. лац.* празябная ламата ў мускулах і касьцях; **ламавіца, касталоміца**.

**РЕВНОВАТЬ**, старацца ўсімі сіламі, парыўча кіравацца да чаго; **рупіцца, руплівы, руплівец, рупнасьць; рупатлівы, рупатлівец, рупата**.

**РЕВНОВАТЬ** *каму, чаму*; не уступаць, бытцам на выперадкі гнацца за кім; **сусьцігаць—гацца, сусьціжнік—ніца**.

**РЕВНОВАТЬ** *каго*, ня верыць, завідаваць, балючая нявера ў каго колечы, асабліва ў чыім колечы каханьні; **паздросьціць, паздросьлівец, паздросьнік—ніца, паздрасьць, запаздросьлівы—дросьніца—дросьнік**.

**РЕВОЛЬВЕР** *м. англ.* **рэвальвэр.**

**РЕВОЛЮЦІЯ** *ж. фр.* пераварот, раптоўная перамена быту, ладу, стасункаў, пераварот дзяржаўнага ладу; **рэволюція, пераварот, пярозрынь.**

**РЕВѢТЬ, равець, раве, равеньне, роў, равучы; равуль,** або **рэвут**—эпітэт звону.

**РЕГЕЛЬ** *ж. нямецк. будаўніч.* папярэчная зьвязь страпільных ног; **пяростуга, пярэчніца.**

**РЕГЕНТ** *м. лац.* кіраўнік дзяржавы пры малалетнім каралю.

**РЕГЕНТ** *м.* кіраўнік хору сьпявакоў.

**РЕГЛАМЕНТ** *м. франц.* парадак або, разпадзел парадку на пісьме; **статут.**

**РЕГУЛЯРНЫЙ** *м. франц.* **акуратны, акуратнасьць, рэгулярны.**

**РЕГУЛЯТОР** *м. фр.* **раўнач, рэгулятар.**

**РЕДАКТОР** *м. фр.* **рэдактар, рэдагаваць, рэдакція.**

**РЕДИСКА** *ж.* **рэдзькаўка.**

**РЕДУТ** *м. фр.* часовае ўмацаванае канавай і валам мейсца, якое служыць да абароны; **акоп.**

**РЕЖИССЕР** *м. фр.* кіраўнік ігры актораў на сцэне.

**РЕЗЕРВ** *м. фр.* **запас, запасовы.**

**РЕЗЕРВУАР** *м. фр.* запас вады, **патоўпішча; вадабадзь.**

**РЕЗИДЕНТ** *м. фр.* **рэзыдэнт—дэнтка; рэзыдэнція,** мейсца прабываньня пануючай асобы.

**РЕЗИНА** *ж. лацінск.* (літэральна „смала"): цягучная і пругкая смала гуміляснага дрэва; **гумілястыка, гуміляса, гумілясны.**

**РЕЗОЛЮЦІЯ** *ж. франц.* пастанова на пісьме.

**РЕЗОНАНС** *м. франц.* вотклік голасу; **голс, голскі, галсчэць, галсьнік.**

**РЕЗОН** *м. франц.* разумны повад; **рація.**

**РЕЗУЛЬТАТ** *м. франц.* канечны вывад, разьвязка; **вынік.**

**РЕЗЮМИРОВАТЬ** *што, франц.* выклад істоты справы ў кароткасьці; **вывадзіць, вывад.**

**РЕЙД** *м. голяндск.* мейсца перад пристаньню на якім караблі могуць стаяць з поўным цяжарам і узброеньнем.

**РЕЙСФЕДЕР** *м. нямецк.* крэсьлярскае пяро шчыпчыкамі; **крысьлярнік.**

**РЕЙС** *м. нямецк.* адзін канец плаваньня вадаплава, дарогі вадой; **канец.** *Адзін канец, два канцы. Мы тры канцы зрабілі за лета.*

**РЕЙТАР** *м. нямецк.* конны ваяр; **коннік.**

**РЕЙТУЗЫ** *м. мн. нямецк.* конніцкія штаны.

**РЕКВИЗИЦІЯ** *ж. франц.* вайсковы збор заваёўніка з жыахароў; **пабор.** *Контрыбуцiя* (выкуп) бярэцца без аплаты, а за *рэквізыціі* выдаюць грошы або расьпіскі.

**РЕКЛАМА** *ж. франц.* **агалошаньне, аглашацца, аглашаць; рэкляма.**

**РЕКЛАМАЦІЯ** *м. фрац.* **заява.**

**РЕКОГНОСТИРОВАТЬ** *франц. мяйсцовасьць ворага;* **сачыць.**

**РЕКОГНОСТИРОВКА** *ж.* **апасока.**

**РЕКОМЕНДОВАТЬ** *каго, каму, франц.* **знаёміць, даручаць.**

**РЕКРЕАЦІЯ** *ж. франц.* **спачынак.**

**РЕКРУТ** *м. нямецк.* **навабранец.**

**РЕКТИФИКАТОР** *м. лацін.* паўторная перагонка сьпірту; **ачыстнік, ачыстка.**

**РЕКТОР** *м. лацін.* зьверхнік у унівэрсытэце або сэмінарыі; **рэктар.**

**РЕЛИГІЯ** *ж. лацін.* **вера, вызнаньне.**

**РЕЛЯ** *ж.* два стаўбы з перакладкай; **арэлі.**

**РЕЛКА, РЭЛЬКА** *ж.* сухая, доўгая прагаліна па балоце, поросшая лесам; **рэўка.**

**РЕЛЬЕФ** *м. франц.* што колечы выпуклае на плосмені, больш аб разьбе, лепцы; **выпукласьць.**

**РЕЛЬС** *м.* **РЕЛЬСЫ** *мн. англ.* зялезныя калаходы на дарогах; **рэлі, рэлькі; калявіна, калявіцы.**

**РЕЛЯЦІЯ** *ж. франц.* **справаздача.**

**РЕКОШЕТ** *м. фр.* **касалёт, касалётам.**

**РЕМА, УРЕМА** *ж. татар.* ўся рачная даліна ад пагорья да пагорья, ўся шырыня ручва і паплавоў; **радань, раўда, раўдовы.**

**РЕМЕНЬ** *м.* (нямецк. Riemen узята са славянскага), вузкая і доўгая стуга скуры; **рэмень, раменны, рамяшок; дзяга, дзяжыць,** біць дзягай, рэмянём да спаясываньняся.

**РЕМЕСЛО** *ср.* ручное майстроўства, умецтва ручнога майстроўства; **рэмясло, рамесьнік—ніца, рамесьніцкі; талент, талентаваць, талентнік—ніца; здольніцтва, здольнік—ніца; умецтва, умец.**

**РЕМИЗ** *м. франц.* у картачнай гульні недабор біткі, сколькі недабраў бітак столькі ставіш рэмізаў; **недабор.**

**РЕМОНТ** *м. франц.* **папраўка, папраўляць, правіць.**

**РЕНЕГАТ** *м. лац.* **адступнік, перакульшчык; зрайца, зраднік.**

**РЕНОНС** *м. фр. картачн.* **адмова,** ня меньне на руках масьці.

**РЕНТА** *ж. франц.* безупынны грашавы даход, працэнты ад капіталу.

**РЕПЕРТУАР** *м. франц.* сабраньне драматычных твораў якія ставяцца ў вядомы пэрыод ў тэатры.

**РЕПЕТИЦІЯ** *ж. франц.* **паўтарэньне, проба; падгатоўка.**

**РЕПЕТИТОР** *м.* памочнік вучыцеля да паўтараньня лекцій з вучнямі.

**РЕПРЕССІЯ** *ж. франц.* **прымус, прыгнечаньне.**

**РЕПУТАЦІЯ** *ж. франц.* **апінія, слава.** *Добрая, благая слава. Ён ня мае добрай славы.*

**РЕСКРИПТ** *м. лацінск.* **грамата.**

**РЕМУС** *м. нямецк. сталярск.* прылада да адкрэсьліваньня чаго паводле меркі; складаецца з калодачкі і двох, прапушчаных у яе, ножак, змацаваных клінам, на канцох ножак вострыя цьвячкі; **рыскіль, рыскляваць.**

**РЕСНИЦА** *ж.* валаскі ўскрай павекі; **вейка, вейкі, рэскі.**

**РЕССОРА** *ж. франц.* **зыблі, зыбні.** *Павозка на зыблях. Брычка—зыблянка.*

**РЕСПУБЛИКА** *ж. лацінск.* дзяржава якой кіруе сам народ праз сваіх выбарных; **рэспубліка, народаўладзтва.**

**РЕСТОРАЦІЯ** *ж.* **РЕСТОРАН** *м. франц.* **рэстаран; страўня.**

**РЕСТАВРИРОВАТЬ** *што, лац.* **аднаўляць—ляньне.**

**РЕТИВЫЙ**, старэнны, шчыры, гарачы да справы, **рупны, рупнасьць, руплівасць.**

**РЕТИРОВАТЬСЯ** *франц.* **адступаць, адступаньне.**

**РЕТИРАДА** *ж. фр.* **адступленьне.**

**РЕТОРТА** *ж. лац.* **лажка.**

**РЕТРОГРАДНЫЙ** *рух,* рух назад; **пазадны.**

**РЕТУШИРОВАТЬ** *франц.* папраўляць ад рукі фотографію, рысунак; **рэтушаваць.**

**РЕУК** *м.* благое балотнае сена; **вішар.**

**РЕФЕРИРОВАТЬ** *лацінск.* выкладаць справу погляд або вывад; **выкладаць, дакладаць, дакладчык.**

**РЕФЛЕКТОР** *м. лацінск.* ўкляслае люстэрка да адбіваньня праменьняў і павялічаньня праз гэта сьвятла; **зягіль, пасьветыль.**

**РЕФЛЕКЦІЯ, атозяйва, адсьвет; ордух.**

**РЕФЛЕКС** *м.* **адсьвет, атозяйва.**

**РЕФОРМАЦІЯ** *ж. лацінск.* **перакшталчаньне, перакшталціца, перакшталчаць; рэфармація, рэфармаваць, рэформа.**

**РЕХНУТЬ** *каго,* **грымнуць.**

**РЕХНУТЬСЯ, памяшацца.**

**РЕЦЕНЗІЯ** *ж. лац.* **разбор, ацэна.**

**РЕЦЕПТ** *м. лац.* **рэцэпт.**

**РЕЦИДИВ** *м. лац.* **паварот, ўзварот.**

**РЕЧЬ, мова, сказ.**

**РЕЧЕННЫЙ, сказаны, названы.**

**РЕЧЕНЬЕ** *ср.* **сказ, выражэньне.**

**РЕЧИСТЫЙ, гаварлівы, моўны.**

**РЕЧИТАТИВ** *м. італьянск.* мова на расьпеў, пяяньне падобнае на простую мову; **мовасьпеў.**

**РЕ(Ѣ)ШЕТКА** *ж.* рад пераплеценых прутоў ўдоўж і ўпоперак; **крата, кратаваць, крацясты, кратка, краткаваць.**

**РЕ(Ѣ)ШЕТО** *ср.* лубяная ці іншая аболка (абечайка) з сітам замест дна; **рэшата, рэшатны, рэшатнік—ніца.**

**РЕШЕТИТЬ** *што,* **кратаваць, дзірыць, сітаваць.**

**РЕЯТЬ** або **РѢЯТЬ,** хутка нясьціся або ляцець; **лынуць, лынае.** *Птушка лынае ў паветры. Руччы лынулі з гор. Човен лынае ў хвалях.*

**РЖА** *ж.* **(і)аржа, (і)аржавы, (і)аржавіна, (і)аржавець; ржа, ржаўка,** балота завіраючае зялезную руду. Ад „аржа" паходзіць і найменьне гораду „Арша" ці „Орша"; і „Аршава"; дзеля гэтага належала-б пісаць ня „Ворша", „Орша", а—„Арша", як, здаецца, і вымаўляе акалічнае жыхарства.

**РЖАНОЙ** *хлеб,* **ржаны.** Сьцісла бяручы *аржаны,* гэта знача з „аржы" (рас. „полба"), а ня з жыта, але ў нас за чорным хлебам і жытняй мукой утрымалася мясцамі назова: *Аржаны хлеб, аржаная мука,* не глядзя на тое, што аржы ўжо ніхто цяпер ня сеіць.

**РЖАТЬ, іржаць, іржэ, іржаньне.**

**РИГА** *ж. эстонск.* **асець, гумно.**

**РИДИКЮЛЬ** *м. франц.* ручны жаночы мяшэчак, **сачок, сак, торбка.**

**РИЗА, РИЗЫ** *црк.* **шата, шаты.** Па нашаму *рызы*—лахмацьцё, *рызінка*—лахман да віціраньня пылу, мыцьця памосту, *рызьнік*—лахматнік, анучнік, хто скупляе старыя лахманы.

**РИЗНИЦА** *ж.* пакой пры сьвятыні дзе пераховуюць царкоўныя шаты і ўсякае царкоўнае знадабьбе; **шатніца, сакніца.**

**РИКОШЕТ** *м. франц.* **касалёт, касалётам; адскок.**

**РИСКОВАТЬ** *франц.* **рызыкаваць, рызыка, рызыкант—кантка.**

**РИСОВАТЬ** *што,* **рысаваць—ваньне, рысунак, рысаўнік—ніца, рысунковы.**

**РИСТАТЬ,** **гарцаваць, гарцаваньне, гарцоўны, гарцуе, гарцаўнік—ніца.**

**РИСТАЛИЩЕ** *ср.* мейсца, ток, абшар да конных перагонак, мейсца для вайсковых муштраў, гімнастыкі; **гарцовішча.** У слоўніку П. Бэрынды (Кутэйна 1655): *Тризнище* местце гдѣ бываютъ поединки, або ширмѣрства, або боіованья, вытѣчки, або кuглярства и иныи таковыи; зри позорище; отъ сего: *натрижненіе,* звитязства, увелбенье, мзда, дар. *Тризноположник,* пан гонитбъ и запасництва. *Тризникъ,* ширмѣр, або тот што на игриску естъ. У Ноўгародзкім слоўніку XV ст. (1431 г.) *Тризна,* страдальство, подвиг. У „Азбуковнику о неудобь понимаемых рѣчах“ XVI ст.: *Тризна,* подвигъ.

**РИС** *м. нямецк.* крупы і расьціна Oryza sativa; **рыж, рыжовы.** *Рыжовая каша з шафранам (Прамова Мялешкі). Рыжовая мука, скарбель (крахмал).*

**РИТМ** *м. грэцк.* мера ў музыцы або ў паэзіі.

**РИТОРИКА** *ж. грэцк.* навука красамоўства; **красамоўства.**

**РИТОР** *м.* **красамовец, красамоўны.**

**РИТУРНЕЛЬ** *ж. франц.* прыпеў не сьпяваны, а граны.

**РИЧАГ** *м.* **гальмо, касарга, багля, вага, асьвер.**

**РИФА** *ж. нямецк.* зялезны абруч на калёснай трубцы; **букля.**

**РИФ** *м. морск.* камяністая грыва пад вадой, небаспечная для плаваньня вадаплаваў; **скрыж.**

**РИѲМА** *ж. грэцк.* аднагучнасьць канцавых складоў у вершах; **рытма.**

**РОБѢТЬ,** баяцца чаго, страціцца, не адважвацца і падаць духам, траціць сьмеласьць, адвагу; **трухнуць, трухлівы, трухлівасьць, трухлець.** *Чаго трухлець: долі ня мінеш, а толькі надрыжышся. Патрухлелі як вераблі ўбачыўшы ястраба.*

**РОВНЫЙ** *аг. слав.* **роўны, раўняць, раўнаваць, раўняцца—навацца, роўня, раўня, раўніна, раўняк, раўнячка, раўнакі, роўнаякі, равесьнік—ніца, равеснасьць, роўна, роўнасьць, раўняш.**

**РОВ** *м.* **роў, ірвы, раўчак, раўчаг, равок.**

**РОГОЖА** *ж.* тканіна, пляцёнка з лубовага лыка або сітніку (рагозьніка); **рагоза, рагозны, рагозьнік.**

**РОГ** *м. аг. слав.* **рог, рогі, рагаты, рагач, рагаль, рагатка, рагацець; рагуля, рагуліна, рагавешка,** рагатая рэч, рэч аб двох і больш рагах; **рагаціца,** шырокі двулезы нож на дрэўку, адмена галябарды ці бардыша; **рагаўё; рагавець** (як каменьцянець, камянець), абяртацца ў рагавістую матэрыю; **ражон,** завострапы шост: *За наша дабро, нам ражон у рабро.*

**РОГОНОСЕЦ, рагаль.**

**РОДИНА** *ж.* **бацькаўшчына.**

**РОДИТЕЛЬ, бацька, бацькі, бацькаўскі.**

**РОДНИК** *м.* **крыніца.**

**РОДОНАЧАЛЬНИК** *м.* **родазьверхнік.**

**РОДСТВЕННИК, крывіч, сваяк, родзіч, радняк.** Найменьні племяныя. *Крывічы і Радзімічы* выказуюць адно і тое-ж самае паняцьце сваяцтва: *крывіч* ад „кроўны“; *радзіміч* ад „родны“.

**РОДСТВО** *ср.* **сваяцтва, кроўства, кроўнасьць; роднасьць, родны, радняк—нячка, радніцца.**

**РОДЫ**, аддзяленьне ад маці дзяцёнка: **рады, полаг; радзільніца.**

**РОДОСЛОВНАЯ** *ж.* **радавод,** вывад роду.

**РОДИЛЬНЫЙ** *прытулак*, **радзільны, полажны; радзільня.**

**РОДИТЕЛИ, бацькі,** бацька і матка, **бацькаўскі.**

**РОДИНА** *ж.* **бацькаўшчына.**

**РОДНОЙ, родны, сваяк, спакроўнік, крывіч, кроўны.**

**РОДСТВЕННИК** *м.* **крывіч—чка, кроўнік—ніца, сваяк; родны, роднік—ніца, радня, радзім, радзюк.** *Радзіма майго сасватаў з суседкай. Гэтаж такі радзюк мой, што і прызнацца сорамна. Родніка (бліжняга) свайго любі як самаго сябе. Жывучы усяк нажывешся і маскаля роднікам, крывічом, назавешся (в. Баяры Дзіс. пав. Сымон. Ластаўка). Свой, кроўны грош прапівае. Кроўнага свайго не пазнае. Не па крыві, а па духу ён мне крывіч. Летапісныя Радзімічы, гэта пераклад, або аднаслоў найменьня Крывічы.*

**РОДИМЫЙ, кроўны, кроўненькі.** Мой ты **кроўненькі.**

**РОДИМИНКА, радзімка, радзімы знак, радзімчык.**

**РОДОВИК,** мяйсцовы, пракавечны жыхар; **крывец, пракаветнік.**

**РОД** *м.* **племя, род.**

**РОДНИТЬСЯ** *з кім,* **раднiцца; спакровіцца, спакровіць.**

**РОДНѢТЬ** *каму,* **раднець, зраднiцца; спакровіцца.**

**РОДНИК** *м.* **крыніца, крынічны.**

**РОДОВСПОМОГАТЕЛЬНОЕ** *умецтва,* **радаспаможнае.**

**РОДОНАЧАЛЬНИК** *м.* **родапачатнік—ніца.**

**РОЖА** *ж.* лайчыва кажуць аб абліччы; **рыла.**

**РОЖА** *ж.* запаленьне скуры erysipelas; **рожа, ружа.**

**РОЖАТЬ, раджаць, нараджаць, радзіць.**

**РОЖЬ** *ж.* каласавая расьціна Secale cereale, з сямьі каласьніковых; **жыта, жытны, жытнае, жыціна, жытцо, жытнік.** *Жытняя мука; жытні хлеб.* У назове: *Аржаная мука, аржаны хлеб,*— асталася памяць аб *„аржы"* (рас. „полба") якую у нас даўней сеялі.

*Радзі Божа жыта—птаніцу,*
*Жыта птаніцу ўсякую пашніцу.*
*(Р. 8—9. 110).*

---

*Ільля на Васільля*
*Носіць пугу жыцяную:*
*Дзе замахне—жыта расьце,*
*Дзе не махае—там ня бывае.*
*(Р. 8—9. 126).*

**РОЖЕНИЦА, радзіліца, радзіха.**

**РОЖДЕСТВО** *ср.* **нараджэньне;** сьвята нараджэньня Хрыста: **Каляды, Коляды.** Слова „Каляды" паходзіць ад *калець, мерзнуць* і ябазначала сьвята зімовага сонцавароту. *„Каледзь"*—мароз, прыліпаньне рук да намерзшага зялеза. *„Каледзь хапае за пальцы"*, а такжа тое, што па расійску „мразь", „мерзкій". **Каляда,** зіма сьцюжа, час калі усё замярзае, калее. Угро-русы называюць нашы Каляды *Керечун*, а Румыны—*Кречун*; у Усх. Расіі называюць калядны пост (па нашаму „калядніца") *корочуном. Акалеў*, здох, памер, застыг, што зыходзіцца з вялікарускім *„окорячился"*, апруцянеў, акалеў.

**РОЖДЕСТВЕНСКІИ, калядны; калядаваць,** хадзіць зьбіраючы ахвяры, даткі; калядуюць сьвятары ў сваіх парохіях, а такжа дзеці расьпяваючы абрадовыя песьні.

**РОЗА** *ж.* куст і кветка Rosa; **ружа, ружовы.**

**РОЗНЫЙ**, усё, што ўпоразьнь, разьдзельна, не разам; **розны**, **розніць—ніцца**, **рознасьць**, **рознаклад**, **рознаслоў**.

**РОЗНИЧНЫЙ**, **раздробнічны**, **раздробнік**, хто прадае ня гуртам, а ў раздроб; **драбнічніца**--крама, ў якой прадаюць ў раздроб тавары.

**РОЗСКАЗНИ**, **павядакі**, **раздабары**.

**РОЗСТАНИ**, **ройсты**.

**РОЗЫСКИВАТЬ**, **вышуківаць**, **шукаць**.

**РОЙ** *аг. слав.* **рой**, **раіцца**, **раеньне**, **ройна**, клумна, людна; **роіцца**, выдаецца, здаецца: *Роіцца нейкі нязьведаны край (Алесь Гарун);* **райніца**. лубка ў якую зьбіраюць рой; **райба**—пара, калі пшчолы рояцца; **раёк**, дажынковая песьня.

**РОКОВОЙ**, **канавы**.

**РОКОТАТЬ**, **гракатаць**, **гракоча**, **грокат**.

**РОК** *м.* нямінучае, суджанае; **кон**, **канавы**, **канодны**, **канодаваць**. *Канодны дзень*, судны рашучы. *Ад кону да кону*, ад пачатку да канца. *На кон галаву ставіць* на ўсякія неспадзеўкі, на небасьпеку. *Яго кон прыйшоў*, час установлены спракон, фатум. *Яму гэта на раду накановала*, празначана. *Такое яму канаваньне ад Бога*, такое празначаньне, доля. *Каму Бог якую сьмерць кануець*, (*канануець*) *так (той) і ўміраець* (Насовіч). *На кану знаць напісана яму*. У гульні у карты *кон*, стаўка. *Паставіць на кон*. **Конадзень**, дзень перад гадавым сьвятам, рас. „канун". **Канодумка**, мысль да якой чалавек кіруецца, яго мроя, жаданьне, глыбокае душэўнае хаценьне. *Гадавы кон*. гадавы круг, час ад пачатку да канца году. Ў народных апавяданьнях Кон уасабляецца ў постаці волата з сівой барадой, буйнымі сівымі валасамі і густымі брывямі, якія пакрываюць яго вочы. Кожды волас у брывёх як найвышэйшае дрэва на зямлі. Кон уладзіў ўвесь сьвет і даў ўсяму жывому,—стварэньням, багам і людзям,—безадменныя законы і сам спачыў на краю сьвета. Каліб ён прасnуўся і

зірнуў сваімі вачамі на сьвет, увесь сьвет згарэў-бы.

**РОЛЬ, РОЛЯ** *франц.* значэньне чалавека ў сьвеце, ў тасунку да другіх людзей; асоба прадстаўляная актарам.

**РОМАШКА**, расьціна Arthemis nobilis, **румянак; рамунка.**

**РОМБ** *м.* роўнабочны, крывы чатыракутнік, як бытцам зсунуты на бок чатыракутнік.

**РОМ** *м.* гарэлка з цукровага трасьніка.

**РОНДО** *франц.* верш, у якім першая штрофка паўтараецца ў апошняй.

**РОНЯТЬ** *што*, **саскідаць, рынаць.**

**РОПТАТЬ** *на што*, **наракаць, нараканьне, нарокліві; вурчэць, вурклівы, вуркат.**

**РОСА** *ж. аг. слав.* **раса, расіца, росны, расінка—сіцца, расіць.**

**РОСКОШЬ, роскаш, раскошны, раскашаваць.**

**РОСОМАХА** *ж.* хіжы зьвер ў Сібіры; *крыўскае*: благі дух ў постаці чалавека са зьвярачай галавой і лапамі, жыве ў калапнях. *Каб цябе расамаха задрала*! **Расамаха**, воўк канятнік.

**РОСПАШЬ, росцяж.** *На росцяж разчыніў дзьверы.*

**РОСТВЕРК** *м. ням.* бярвеньні, часам на палях, служачыя апорай для будынку; **падвала, падвалы—валіны.**

**РОСТЕПЕЛЬ, разтопа, адліга.**

**РОСТОВЩИК** *м.* **квотнік; квота**, рост, прыспор на грошы.

**РОСТОКА**, рытвіна, размытая веснавой вадой; **разтока, яр.**

**РОСТОК** *м.* **плёнчык, плянец.**

**РОТА** *ж.* **бажба, прысяга, тэкст прысягі.**

**РОТА** *ж.* вайсковая дружына, часьць палка, батальёну; **дружына.**

**РОТМИСТР** *м. нямецк.* (Rotmejster) старшы афіцер у конніцы.

**РОТОНДА** *ж. франц.* круглы будынак, часам на стаўбах.

**РОТ** *м.* атворына ў целе жывёлы і чалавека праз якую прыймаецца страва; **губа, губка, губця, губны.** У губе *зубы, язык,* збоку *шчокі,* зьверху *паднябеньне,* ззаду *засланка,* а за ей *глотка, глонаўка. Маўчыць як вады набраўшы ў губу. Поўна губа, а есьць просіць. Пан на ўсю губу. Губай мух ловіць.*

*Дзяўчыненька мая люба*
*Праклятая твая губа;*
*Набрахала на мяне,*
*Што хадзіў я да цябе. (Беліца, М. г.).*

**РОТОЗЪЙ, разявяка.**

**РОЧА** *ж.* хата у лесе для лаўцоў; пуня сярод лясоў; **падора, падорка.** Пры лядавой гаспадарцы зсечаны лес паляць і выгаркі падорываюць, а за некалькі гадоў закідаюць на сенажаць, гэткае мейсца называецца *падоркамі.*

**РОЩА** *ж.* **гай, гаёк, гаёвы, гайнічок.** Слова „гай" па гарадох, прыкл. у Вільні, даўней ўжывалі ў знач „сад", „парк". *Барнардынскі гай.*

**РОЯЛИСТ** *м. франц.* староннік манарха, манархізму.

**РТУТЬ** *ж.* коў або мэталь; **жывое серабро, міркіль.** *Люстерка крытае міркляя без фарбы, хутка сьціраецца (Троцкі пав.).*

**РУБАХА** *ж.* **кашуля, кашулька, кашуліна, сарочка, сарочыца.** Доўгая, паніжы кален—*сарочка;* кароткая, вышы кален, з круглым адкладным каўняром—*кашуля.*

**РУБЕЦ** *м.* знак ад парэзу, пасячэньня; **шрам, блізна.**

**РУБЕЖ** *м.* **рубеж, дукт, граніца.**

**РУБИТЬ** *што, каго;* **сеч, цяць, рубаць.**

*Сталі явар сеч—рубаць,*
*Стаў ім явар прамаўляць (Р. 8-9. 138).*

**РУБИЩЕ** *ср.* **рубьбё, рубьё,** тоўстая, падзертая, будная вопратка; **дранцё, лахмацьцё.**

**РУГАТЬ** *каго,* **лаяць, лаяцца, лаянка, лайлівы, лайлівец—ліўка; лайбоніць, лаебны; зьневажаць; машкяляць,** лаяць маскальскай лаянкай.

**РУДОЙ, руды, рудзіць, рудзька.**

**РУДА** *ж.* самародны выкапываны з зямлі коў; **руда.**

**РУДНИК** *м.* **рудня, рудніца.**

**РУДОКОП** *м.* **рудак, рудацтва—дацкі.**

**РУЖЬЕ** *ср.* **стрэльба, страляць; стрэльбнік,** хто робіць, правіць, стрэльбы; **стрэльбніцкі** майстар; **стрэльбня,** майстэрня, фабрыка, дзе робяць стрэльбы; **рушніца, рушнічнік, рушнярня.**

**РУИНА** *ж. франц.* **разваліна, крушня.**

**РУКА** *ж. аг. слав.* **рука, ручына, ручышча, ручка, ручутка, рукасты, ручны; ручыць,** шчасьціць, удавацца.

**РУКАВ** *м.* **рукаў, рукавок, рукавец, рукавіна,** часьць вопраткі якая пакрывае ўсю руку ад пляча да цэўкі.

**РУКАВ** *м.* рачны праток, аддзяліўшаеся ручво ракі, раздзяліўшаеся уйсця ракі; **лаха, рукавіна.**

**РУКАВ** *м.* труба, кішка для пратоку цеклаці, скураная, пяньковая, гумілясная; **кішка, труба, трубка.**

**РУКОЯТКА** *ж.* за што бяруць, трымаюць, падымаюць рэч; **цаўё, ручка, рукавятка.**

**РУКОЯТІЕ** *ср.* браньне рукой; **рукаемства.**

**РУЧЕНКА** *лёну, пянькі;* **павесма.**

**РУЧНОЙ** *аб жывёлах,* **асвоены, свойскі; ручы.** *Ручая лісіца, ручы воўк. І ручы воўк у лес глядзіць.* **Прыручаць,** асваіваць. *Прыручыў пеўня.* Даль падае, як крыўскае слова, *ручы,* ў значэньні рас.: ловкій, искусный, сручный, бойкій.

**РУЧАТЬСЯ, ручацца, ручаньне.**

**РУЧАТЕЛЬСТВО, зарука, заручнік; заручны ліст.**

**РУЧЕЙ**, невялікі паток вады, рэчка, якая летам перасыхае; **ручч*э*й, ручч*ы*, ручав*і*на; ручав*а*я** вада, якая цячэ, праточная; **руч*ы*сты,** які цячэ. *Сьлёзы ручыліся па твару. Рака ручыстая.*

**РУКОБЛУДІЕ** *ср.* **анан*і*зм, рукам*я*цтва.**

**РУКОВОДСТВО** *ср.* **павад*ы*рства, кірав*е*цтва.**

**РУКОВОДИТЕЛЬ** *м.* **павад*ы*р.**

**РУКОДѢЙСТВОВАТЬ, рукадз*е*яць.**

**РУКОДѢЛІЕ** *ср.* ручная работа; **руказд*о*льства, руказд*о*льнік—ніца, руказд*о*льня.**

**РУКОИМНЫЙ,** што зручна ўзяць, ухапіць рукамі; **зр*у*чны, зр*у*чнасьць.**

**РУКОМОЙНИК** *м.* **рукам*ы*йніца; ставун*е*ц.**

**РУКОПАШЬ, рукахв*а*ць, рукахв*а*там.**

**РУКОПЛЕСКАТЬ** *каму,* **л*а*дкі біць, пакляск*а*ць.**

**РУКОПОЖАТІЕ** *ср.* **рукапаціск*а*ньне.**

**РУКОПОЛАГАТЬ** *каго,* пасьвячаць на сьятарства ўскладаньнем рук архірэя на галаву пасьвячанага; **пасьвяч*а*ць.**

**РУКОТВОРЕНІЕ** *ср.* кожды твор рук чалавечых; **рукатвар*э*ньне, рукатв*о*рны.**

**РУКОТЕРНИК** *м.* **ручн*і*к.**

**РУЛАДА** *ж. італьян.* пералівы, перакоты голасу пры пяяньні.

**РУЛЁК** *м. нямец.* качалка і рубчаты валнік да качаньня бялізны; **кач*а*лкі.**

**РУЛЬ** *м.* часьць усякага вадаплава, прыладжаная да *карна* (кармы), да кіраваньня вадаплавам; **стыр*но*, стырав*а*ць стырнік—ніца, карм*е*нь, к*о*рнік,** той хто кіруе карном.

**РУМПЕЛЬ,** жэрдзь да кіраваньня стырном; **б*а*гля, б*а*гіль; к*о*рна, к*о*рніца.**

**РУМЯНЫЙ, рум*я*ны, рум*я*нец; руж*о*вы, р*у*ж.**

**РУМЯНА** чырвоная фарба для націраньня аблічча; **руж**

**РУМЯНИТЬ** *што, каго;* **рум*я*ніць.**

**РУНДУК** *м. татар.* крытая лаўка з векам; лаўка, стойка для торгу на рынку; закрытыя нары, пад якімі знаходзіцца скрыня для складу рэчаў; **скрыня, покубель**, аб лаўцы з векам; **пр*ы*талка, ст*о*йка**, аб стойцы для торгу.

**РУНД** *м. ням.* спраўджаньне варты, абход варты; **абх*о*д.**

**РУНО** *ср.* **рун*о***, воўна зьнятая з авечкі на вясну; **р*у*нка**, зьвіток воўны з аднэй авечкі; **р*у*нь**, усходы азіміны; **рун*е*ць**, зелянець, высыпаньне зелені перад зімой.

**РУНЫ** *ж. мн.* старадаўныя скандынаўскія надпісы, літары высечаныя на камянях; **р*у*ны, рун*і*чнае** пісьмо.

**РУПОР** *м. морск.* гаворная труба; **т*у*ба.**

**РУСЬ** *ж.* найменьне разбойніцкага скандынаўскага племя, якое ў IX стагодзьдзі падбіла часьць усходна-славянскіх плямен і заснавала зачаткі дзяржавы, якая разраслася ў Расійскую імпэрыю. Тэрмін *Русь* быў перанесен на ўсе славянскія народы над якімі панавала дынастыя Русаў, у тым ліку і на народ, племя Крывічоў. Пасьля прыняцьця Русамі хрысьціянства, якое пашыралася пад найменьнем веры русаў, імя русь стала азначаць дзяржаўную і веравызнаўчую прыналежнасьць. У гэтым (веравызнаўчым) сэнсе ужывалі найменьне Русь многія нашы пісьменьнікі XVI ст., прыкл. Фр. Скарына, Тяпінскі і інш.

**РУСАЛКА** *ж.* мітолёгічная жаночая постаць, якая жыве ў вадзе і толькі на сяродлецьце выходзіць ў лясы і пасевы збожжа. Народ іх выабражае стройнымі дзяўчатамі з доўгімі русымі валасамі; яны заклікаюць да сябе маладзеж, дзяцей і зашчакачываюць да сьмерці—**рус*а*лка**; у горадзеншчыне—**каз*ы*тка; рус*а*льніца**, тыдзень пасьля Сёмухі.

**РУСЛО**, усякі ператок цечы па ўпадзіне, жолабу; уся шыриня і даўжыня цячэньня ракі, рачное карыта, лагво; **ручв*о*, лагв*о*.**

**РУСЫЙ** (аб валасах), сьветлавалосы; **р*у*сы, рус*а*вал*о*сы.**

**РУТА** *ж.* расьціна Ruta graoveolens; яркая зелень, зелень, зяляніна асабліва травяністая, дзеля гэтага эпітэт *рута* дадаецца і да мяты і да травы і да табакі. *Рута—мята; рута—траўка. Руцьвян. руцьвяны*, як эпітэт дадаецца вянку, полю, лугу і інш. **Парутнец**, пазелянець.

**РУТИНА** *ж. фр.* безкрытычнае выпаўненьне звычаю, навыку; **навытар.**

**РУХЛЫЙ,** ня сьціпры, ня сьціслы наздраваты, сыпучы; **рыхлы, рыхласьць, рыхлаваты, рыхлявы, рыхлець, рыхляціна; пухляны, пухліць, пухляк.**

**РУХЛЯДЬ,** рухомая маетнасьць; **болды, балдзьдзё; рухмацьцё, рухамоцьце.**

**РЫБА** *ж. аг. слав.* **рыба, рыбі, рыбка, рыбіна, рыбіца, рыбны.**

**РЫБАК** *м.* **рыбак, рыбалоў, рыбалоўнік, рыбалоўства; рыбар, рыбарства, рыбарскі.**

**РЫДАТЬ,** голасна плакаць ўзрыгамі; **наўзрыд, наўзрыдам; хліпаць; руіць, руець; рыгаць.**

**РЫЖІЙ, рыжы, рыжэць, рыжасьць.**

**РЫЛО** *ср.* па расійску агульна морда жывёлы,— па нашаму сьвінская морда—**рыла,** ад „**рыць**".

**РЫЛЬЦЕ,** насок, дзюбка начыньня да зьліваньня цечы; **дзюбка, дзюбцік, дзюбок; насок; гілёк.**

**РЫНОК** *м.* **рынак, торжышча.**

**РЫСКАТЬ, насіцца, гарцаваць, лётаць.** *Лётае воўк па полю. Лётае, носіцца па чужыне.*

**РЫТЬ, капаць; бурыць, рыць.** *Зрылі старую хату і будуць стаўляць новую. Ня зрывай сена з торпу,* ня скідай.

**РЫЧАГ** *м.* **касарга, вага, асьвер, багіль, багля, карно, шпульга.** *Касарга і вага*—кол, бэлька падложаная пад цягар, адным канцом на коса ўверх пастаўленым, націскам на другі канец выварачывае цягар; *асьвер*, перасьвераючыся лягчэйшым канцом падымае цягар, асьвер бывае пры студні; *багіль, багля*, аглабля да паварачываньня прыкладам вятрака пад вецер, да кіраваньня стырном; *кар-*

*но*, кол, аглабля пры кіраваньні стырном у вадаплаве; **шпульг*а***, перасьвер цягару праз шпулю, прыкладам пры дзьвярох.

**РЬЯНЫЙ, я́ры, запальч*ы*вы, пар*ы*вісты.**

**РѢДКІЙ,** не густы, ня сьціпры, не часты, **рэдкі, рэдкав*а*ты, рэдзіць; радз*ю*га,** рэдкая, не густая тканіна; **рады—ў гады,** калі-некалі.

**РѢДКОСТНЫЙ,** рэдка сустрачаны, цэнны; **рэдкі, рэдкасьць; рэдны, рэдлівы—васьць; рэд*ы*ль.**

**РѢДЬКА** *ж.* **рэдзька.** *Горкі як рэдзька.* Аб зьвялай рэдзьцы кажуць: *Рэдзька спалатнела*; *палатнявая рэдзька.*

**РѢЗАТЬ** *аг. слав.* **рэзаць—заццa, рэзаньне, рэзь; рэз,** карба нарэзка; **рэзьб*а***, вырэзка рысункамі на дрэве, кове, камяню; **рэзьн*я***, бойка, бітва халоднай зброяй; **рэзьні** *смл.* дробныя піражкі, якія робяць на Куцьцю, у Віленшчыне і Горадзеншчыне называюць іх „*сьліжыкі*"; **рэзьня,** бойня дзе рэжуць статак на мяса; **разьн*і*к, разьн*і*цтва,** рамясло разьніцкае; **рэза,** адрэзак, шнур зямлі; мера паперы, рас. „стопа"; **рэзкі,** востры, праразьлівы; **рэзк*а*сьць,** вострасьць; **рэз*а*нка, рэз*а*чка,** рэзь—боль у жываце.

**РѢЗЬБА** *ж.* **разьб*а*, рыцьб*а*, шніц*у*ра.**

**РѢЗЕЦ** *м.* усякая прылада да выразаньня; **разец.**

**РѢЗЧИК** *м.* хто выразае па дрэве; **рэзьб*я*р, рытнік, шн*ы*цар.**

**РѢКА** *ж. аг. сл.* **рак*а*, рэчка, рач*у*лка, рачн*ы*, рэчышча.**

**РѢЗЦЫ,** пярэднія зубы, **секач*ы*.**

**РѢЧЬ мова.**

**РѢЧЕНІЕ** *ср.* **ск*а*з, в*ы*слоў, в*ы*сказ.**

**РѢШАТЬ, канч*а*ць,** вяршыць, пастанаўляць; **станаўл*я*ць, развязываць.**

**РѢШИТЕЛЬНЫЙ,** стан*о*ўчы.

**РѢШИТЬСЯ, адв*а*жыцца, над*у*мацца.**

**РѢШЕНІЕ**, пастанаўленьне, разьвязка.

**РѢШИМОСТЬ**, станоўчасьць.

**РѢШЕТО** *ср*. **рэшата.**

**РѢЯТЬ, лынаць, лынае, лынаньне.**

**РЮМИТЬ**, плакаць, хліпаць па дзяцінаму; **рымзаць, рымзае, рымза.** *Чаго ты рымзаеш? Разрымзайся хлапец.*

**РЮМКА** *ж*. **чара, чарка, чарачка.** *Чарку гарэлкі, сыр на талерку. Чарай абнясьлі на пачэснай бясёдзе. А ты чарачка ты забавачка, не стучы, не гручы каля сэрца йдучы.*

**РЮХАТЬ,** выдаваць сьвінны голас; **рохкаць, рохкае; рохля,** эпітэт сьвіньні.

**РЯБЫЙ, рабы, рабаваты, рабасьць, рабізна, рабацьцё.**

**РЯБЧИК** *м*. птах курыннага котла; **ярабак.**

**РЯБИТЬ** у вачу; **мітусіць, мільгае, мільгаціць, мігціць, таласіць.**

**РЯБЬ** *на вадзе*, дробныя зморшчкі, хвалі; **таласа, талосіцца.**

**РЯДИТЬ, кіраваць, трымаць у парадку.**

**РЯДОМ**, адзін каля аднаго; **побач.**

**РЯДИТЬСЯ, зьбірацца, прыгатовывацца.**

**РЯЖЕННЫЙ, суджаны, суджаньне.**

> *Рад сужанька, вельмі рад,*
> *Што ў боскім доме пабываў,*
> *На белым ручніку пастаяў.*
> (*Ш. І. ч. 2. с. 224*).

**РЯЖЕНЫЯ**, пераадзетыя ў маскі; **машкарнікі.**

**РЯДОВОЙ, звычайны.**

**РЯСНЫЙ** *украінск*. сьпелы, буйны, чысты; **жаўры.**

**РЯСНИТЬ, жаўрэць.**

**РЯСА** *ж*. верхняя вопратка сьвятароў, мніхаў і мнішак; **рыза, рызны, падрызьнік,** сподняя вопратка сьвятара, **сутана, сутаннік.**

**РЯХНУТЬСЯ**, **грымнуцца.**

# С.

**САБЛЯ** *ж.* **шабля, шабліца.**

**САБУР** *м.* расьціна Aloe; **альвас.**

**САВАН**, доўгая белая ільняная кашуля, ў якой хаваюць нябошчыкаў; **саян.** Даўней пашанотная вопратка старцаў. Мне апавядалі жыхары вёскі Сталіца (Дзіс. пав.), што яшчэ іх дзяды на Купальле, Радаўнік, Каляды і Вялікдзень прыбіраліся ў доўгія, да пят, белыя кужэльныя кашулі, званыя саянамі. Гэткія саяны паказывалі мне прыгатаваныя на сьмерць. Пашыты яны былі з тонкага, добра выбеленага кужалю, падол у нізе, ў некатарых, быў ператканы вузенькай палоскай узору, цёмна-чырвонага колеру. Чорны **саян: чамара.**

**САВАОӨ** *м. жыдоўск.* адзін з эпітэтаў Бога.

**САВРАСЫЙ**, *конская масьць*, **каштан, каштанаваты.**

**САГИ,** названьае скандынаўскіх поэтычных легенд, былін.

**САГО** *ср.* крупы вырабляныя з сэрцавіны сагавай пальмы.

**САЖА** *ж.* **сажа; сапуха, сопат;** сапоры, чорна чырванявы, барвы, масьці пачарнеўшай ад сажы рэчы, рас. „бурый“.

**САЖАТЬ** *каго,* **саджаць, садзіць—дзіцца, сесьць.**

**САДОК** *м.* **рыбнік, сажалка, баер.**

**САЖАНИНА,** пасаджаная зелень; **садзіва.**

**САДОВНИК** *м.* **агроднік, гароднік.**

**САЖЕНЬ** *ж.* (ад „сягаць“), мера ў стан чалавека, як можна сягнуць ўверх рукой; **сяжань; сажань** мера=3 аршынам.

**САЗАН** *м.* рыба Cyprinus carpio, **карп.**

**САЙДАК** *м. татар.* налучнік, пакровец на лук зазвычай скураны; **сагайдак, калчан, налучнік.**

**САЙКА** *ж.* пшанічны хлябец вельмі туга замешанага цеста; **рагалька, рагалькі**; тугое цеста замешанае на расьцінным малацэ (канапельным, макавым), печанае блінцамі, называецца: **сачэнь, сачні.**

*Прынясла Каляда рэшато бліноў,*
*Рэшато бліноў ды начво сачнёў.*

**САКЛЯ** *ж. грузінск.* **хаціна, хатка.**

**САК, САКОС** *грэцк.* архірэйская шата; **сакас.**

**САКВОЯЖ** *м. франц.* дарожны мяшок; **тайстра клумак, хатулёк, хатыль.**

**САЛАЗКИ** *ж. мн.* ручныя санкі; **саначкі, крынджолкі.**

**САЛАМАТА** *ж.* мучная кашка з жытняга соладу; **саламаха; лямёшка, лямяха.**

**САЛАТ** *м.* расьціна Lactuca; **салата.**

**САЛА** *ср.* пласт падскурнага клушчу, туку,—расійцы называюць. *салим*, а у нас гэта: **саланіна**; унутранны тук, які ляжыць чапцом на кішках завуць у нас **сала.** Карові, авечы тук, клушч, у нас завуць не „сала", а *лой*; зайчы—тук—*скром*; птушыны, (гусячы)—*шмэляц*; чалавечы—*клушч*; рыбі—*тук.* Агульнае найменьне клушчавой матэрыі якая творыцца ад зьлішкі стравы—**тук, клушч.**

**САЛЬНЫЙ,** месьцячый ў сабе сала; **клусны, клусьнець.**

**САЛЬНОСТЬ, клуснасьць, клускасьць**; аб непрыстойнай гутарцы, слове: **бляўза, бляўзгае; няпрыстойнасьць.**

**САЛЕНЬЕ** *чаго*, **клушчаньне, клусьціць.**

**САЛЬНИЦА,** бляшанка ў якой трымаюць клушч да мазаньня машын; **мазьніца.**

**САЛОН** *м. франц.* **гасьцінная, вітальня.**

**САЛОП** *м. франц.* верхняя жаночая цёплая вопратка, круглая бурка.

**САЛТЫК** *ж. татар.* **форма, формаўка; постатка.**

**САЛФЕТКА** *ж. франц.* **сарвэтка.**

**САЛЮТОВАТЬ** *каму, франц.* вітаць стрэляньнем.

**САМШИТ**, дрэўца Buxus sempervirens; **букшпан.**

**САМ** *заімак.* **сам, сама, само; самы, самасьць, самотны; самец,** мужчына у жывёлаў і птахаў.

**САМОВЛАСТІЕ** *ср.* **самаўлада—насьць, самаўладнік.**

**САМОВОЗГАРЯНІЕ** *ср.* **самаўзгорчывасьць, самаўспалькасьць.**

**САМОВОСХВАЛЕНІЕ** *ср.* **самахвальства.**

**САМОДВИГАТЕЛЬ, самарушнік, самапaруховец.**

**САМОИЗВОЛЬНЫЙ, самахотны, самавольны.**

**САМОЛЮБІЕ** *ср.* **самалюбства—любец—любніца.**

**САМОМНЕНІЕ** *ср.* **самахвальства, самадумства.**

**САМОНАДѢЯНІЕ** *ср.* **самапэўнасьць.**

**САМОНРАВІЕ** *ср.* **самаволя, самавольнік—ніца.**

**САМООБЛАДАНІЕ** *ср.* **самаабпада, самаабладны.**

**САМОУНИЧЕЖЕНІЕ** *ср.* **самаўніжэньне, самаўніжна.**

**САМООБОЛЬЩЕНІЕ** *ср.* **самаашуканства.**

**САМОСОЗНАНІЕ** *ср.* **сьвядомасьць, самаведнасьць.**

**САМООТВЕРЖЕНІЕ** *ср.* **самаахвяра, самаахвярна.**

**САМОПОЗНАНІЕ** *ср.* **самапазнаньне.**

**САМОПРАВСТВО, самаўправа, самаўпраўства.**

**САМОПРОИЗВОЛЬНЫЙ, самавольны, самаволя.**

**САМОПРЯЛКА, самапрадка, самапраднік.**

**САМООПРЕДѢЛЕНІЕ** *ср.* **самаазначаньне.**

**САМОРАЗЛОЖЕНІЕ** *ср.* **самаразпад.**

**САМОСТОЯТЕЛЬНЫЙ, самаісты, самаістнасьць.**

**САМОТЕК** *м.* **самацёк, самацечны.**

**САМОЦВѢТНЫЙ** *камень,* **дарагі, цэнны.**

**САМОЧЕСТВОВАНІЕ** *ср.* **самашана.**

**САМОПОЧИТАНІЕ** *ср.* **самапашана.**

**САМОПОКЛОНЕНІЕ** *ср.* **самапаклонства.**

**САМООБОЖАНІЕ** *ср.* **самабагомленьне.**

**САМОЧИНСТВО** *ср.* **самаволя—вольнік—ніца.**

**САМОЧИНСТВО** *ср.* **самачын.**

**САНГВИНИК** *м. лац.* чалавек поўнакроўнага складу, гарачага характару.

**САНДАЛ** *м.* дрэва ўжыванае на фарбу; **бруззлія.**

**САНДАЛЫ** *црк.* абутак, падвязныя падэшвы; **пасталы.**

**САНДРИК** *м. будаўніч.* **надаконнік.**

**САНИ** *ж. мн.* **сані, санкі, саначкі, санцы; саннік,** майстар які вырабляе сані; **санная** дарога, зімовая, засыпаная сьнегам.

**САНИТАР** *м. франц.* даглядчык хворых на вайне.

**САН** *м.* высокая зьверхнасьць або годнасьць; **дастойнасьць, дастойніцтва.** *Біскупская, каралеўская дастойнасьць.*

**САНОВНИК** *м.* **дастойнік—ніца.**

**САПА** *ж. франц. вайск.* роў для падходу да крэпасьці.

**САПЕР** *м. франц.* вайсковы будаўнічы, інжынер.

**САПЕРНЫЙ** *батальён,* **будаўніцкі, інжынерны.**

**САПЕТКА** *каўказ.* плецены вулей; пляцёнка да бутэлькі; **пляцёнка.**

**САПИНА** *ж.* **ссадзіна,** зьбітая скура на целе.

**САПОГ** *м.* **бот, боты, боцікі.**

*На ножцы боцік стаптаўся,*
*Дык я прызастаўся.*

**САПОЖНИК** *м.* майстар які шые абутак; **шавец, шавецтва; шэўчык** (таксама як: **„крэўчык“,** ад **„кравец“**).

**САРАЙ** *м. татар.* халодная будыніна пры хаце для сена, саломы, мякіны; **пуня, пунька**; для триманьня павозак, і упражы; **вазоўня.**

**САРАНЧА** *ж.* жамяра, шадобная на палявога коніка, якая тучамі налятае і паядае збожжа і травы; **шаранча: нальля.**

**САРАФАН** *м.* жаночая расійская вопратка, без рукавоў і з паясом.

**САРАЦЫНСКОЕ ПШЕНО, рыж, рыжовы.**

**САРКАЗМ,** злосная насьмешка; **насьмешка.** *Саркастычны сьмех,* злосны сьмех.

**САРКОФАГ** *м. грэцк.* магільны помнік ў форме труны.

**САРПИНКА** *ж.*, **паркаль, паркалёвы.**

**САТАНА** *ж.* чорт, бес, нячысьцік, злы дух; імя аднаго з праклятых арханелаў; **шатана, шатан;** але такжа: **сатана, сатанскі, сатанства.**

**САТИРА** *ж. лац.* пісаны твор ў якім маецца насьмешка; **сатыра.**

**САТИСФАКЦІЯ** *ж. франц.* **здаволеньне.**

**САФЬЯН** *ж. татарск.* (казёл); выробленая казловая скура рожнай афарбоўкі.

**САХАР** *м. лацінск.* **цукір, цукровы, цукрысты, цукрынка, цукравацць—вацца; цукернік,** хто робіць цукеркі; **цукеркі,** рас. „конфеты".

**СБАВЛЯТЬ** *з чаго,* **спускаць, ськідаць** цану; **зьніжаць, зьмяншаць.** *Хоць крыху спусьці, ськінь, зьніж з цаны. Ськінь з возу. Зьменшыць пыхі.*

**СБАТОВАТЬ** *коні,* зьвязаць усе павады ў адзін вузёл; **збатаць.**

**СБЕЛЕНИТЬСЯ, ашалець.** *Што ты ашалеў? Вярзеш як блёкату аб'еўшыся.*

**СБЕРЕГАТЬ** *што,* **шчадзіць, шчадна, шчадзіцца.**

**СБИВАТЬ** *што,* **зьбіваць, зьбівацца, зьбіваньне, зьбіўка, зьбіўны, зьбівісты, зьбіўкі, зьбіток, зьбіцень.**

**СБИРАТЬ** *што,* **зьбіраць, зьбірацца, зьбіраньне, збор, зборка, зборы, зборшчына, зборня, зборышча.**

**СОБИРАТЕЛЬНЫЙ, зборны.**

**СБОР** *м.* **збор, зборны, зборна.**

**СБЛИЖАТЬ** *што з кім,* **збліжаць, зблізіць—жацца.**

**СБОКУ** *прысл.* **збоку.** *Знаюць Юрку і ззаду збоку.*

**СБОЧЬ** *прысл.* **ўзбоч, наўзбоч, наўсубач, субач.** *Узбоч лесу цячэ рэчка. Наўзбоч, наўсубач вёскі стаіць яго хатка. Субач гары праходзіць вулка.*

**СБОРНИК** *м.* сабране вершаў, апавяданьняў ці іншых пісьменных твораў; **зборнік.**

**СБРЕСТИ, збрысьці, збродны, збродлівы.**

**СБРАСЫВАТЬ** *што, адкуль;* **ськідаць—дацца, скіданьне.**

**СБРАТАТЬСЯ** *з кім,* **збратацца.**

**СБРИВАТЬ** *бараду,* **галіць, згаліць.**

**СБРОСИТЬ** *што,* **ськінуць, ськідаць—дацца.**

**СБРИЗГАТЬ** *што,* **спырскаць** вадой, дажджом.

**СБУНТИТЬ** *пяньку,* **спавясаць, спавяска, павеска.**

**СБЫВНОЙ** *тавар,* **збытны.**

**СБѢГАТЬ** *з чаго,* **збягаць, зьбеглы, зьбежны, зьбежнік—ніца.**

**СВАДЬБА** *ж.* **вясельле, вясельнік—ніца.**

**СВАЖИВАТЬ** *што, куды;* **звазіць, зьвязьці, звозка, звоз, звозны, звозчык—чыца.**

**СВАЗЖАТЬСЯ** *з кім,* **зблутацца.**

**СВАЯ** *ж.* бэлька ўбітая ў зямлю; **паля.** *От там кале ставу еще і цяпер тырчаць з вады палі (Сержп. 54).*

*Ой па лугу ды па зялёнаму,*
*Біты палі ўсё мядзяныя.*
*(Вяліж. пав.; Рогач. пав. Р. 8-9. с. 172).*

**СВАЛИВАТЬ** *што або каго,* **зваляць, зваліваць -вацца, звал, звальны.**

**СВАРГАНИТЬ** *што,* зрабіць што няўмеючы, хутка, абыяк; **зварсаць, зкешкаць.**

**СВАРИТЬ** *што,* **зварыць, згатаваць, спрагціць.**

**СВАРНАКАТЬ**, салгаць, **зьвярзьці.**

**СВАТАЖИТЬСЯ** *з кім,* **зсябравацца.**

**СВАТАТЬ** *княгіню,* **сватаць—тацца, сватаньне—тоўства; сват**—хто вядзе маладога ў сваты **сваха, свашка, свацьця; дзеваснобіны, дзеваснобьбе, дзеваснобь, дзеваснобіца.** *Прыгатаваўшы ўсё патрэбнае, жаніх з дружкам адпраўляюцца ў дзеваснобы (Быт Зап. Руск. Селяніна Крачк. стр. 19). Дзеваснобы паўтараюцца часам у чэцьвер перад вясельлем, тады яны вядомы у некатарых мяйсцох пад найменьнем змовін (тамжа, стр. 22).* У Лепэльшчыне „дзеваснобамі“ і „дзеваснобкамі“ называюць дружкаў і дружак якія едуць з поездам маладой ў дом маладога; старшы „дзеваснобь“ або „маршалак“, гэта сват.

**СВАХЛЯТЬ,** зрабіць абыяк; **зкешкаць, злямчыць.**

**СВЕКЛА** *ж.* расьціна Beta vulgaris; **бурак, буракі, бурачаны, бурачнік.** *Бурачковы колер,* сіва-чырванявы. *Бурачковы цукер, юшнік.* Бурачанае націва называюць—**бацьвіньня;** з яго вараць улюбленую нашым народам страву: *бацьвіньнік.* Асабліва славіцца бацьвіньнік з сьвінымі вангленымі вушамі і скабамі, беляны сьмятанай.

**СВЕКОР** *м.* бацька мужа; **сьвёкар—карка; сьвякроўка, сьвякруха, сьвекра,** маці мужа. *Помніць сьвекра сваю маладасьць, дык і нявестцы ня верыць. Сьвекарка—ня родны татка. сьвякроўка—ня родна матка (песьн.). Не надымайся,—сьвекрам ня будзеш (Прыказка).*

**СВЕРБѢТЬ, сьвярбець, сьверб, сьвярбата, сьвербкі, сьвярбушка; свораб, сворабна, сворбка, свароб—лівы, сваробіца** *(Вяліжск. пав.).*

**СВЕРГАТЬ** *што, каго, з чаго;* сьпіхаць, валіць з вышыні; **зрынаць, зрынацца, зрынаньне, зрынач—чка.**

**СВЕРЖЕННЫЙ, зрынуты, зрынутнік—ніца.**

**СВЕРКАТЬ, сьвігаць, сьвігае, сьвігтаць—тацца, сьвігнуць; сьвігавіца,** поблісь ў тучы, маланка; **сьвігтучы, сьвігучы, сьвігня; мігцець, мігаць, міглівы; зігцець, зігаць, зіглівы; лыскаць, лышчэць.**

**СВЕРНУТЬ** *у бок,* **збочыць, зьвярнуць.**

**СВЕРНУТЬ** *што,* **зьвінуць, скруціць, згарнуць.**

**СВЕРСТАТЬ** *што,* зраўняць у адну меру з чым, ў адзін рад; **зшыхтаць, зшыхтацца, шыхтоўка; зраўняць.**

**СВЕРСТНИК** *м.* раўня, аднолетак; **равесьнік—ніца, равесны, равесьніцтва.**

**СВЕРТЫВАТЬ** *што.* **зьвінаць—нацца, зьвіток; зьвітны,** зьвіты, спрытны, дасьцейлівы.

**СВЕРХ** *чаго,* **звыж.** *Звыж платы яшчэ і падзяка. Звыж году служыў.*

**СВЕРХУ** *чаго,* **зьверху, паверх.** *Паверх зямлі—вада. Сыр зацьвілеў зьверху.*

**СВЕРХКОМПЛЕКТНЫЙ, звыжпатрэбны, надпатрэбны.**

**СВЕРХМѢРНЫЙ, звышмерны, надмерны.**

**СВЕРХЕСТЕСТВЕННЫЙ, наднатуральны, надыстотны.**

**СВЕРШАТЬ** *што,* **даконываць, даконывацца, даканаць, дакананьне, даканаyы, даканаўшчык—чыца.**

**СВЕРЧЕК** *м.* жамярыцца Grileus; **цьвіркун, сьвірстун, свершч.** *Знай сьвяршчок свой шасток.*

**СВЕСТЬ,** сястра жонкі; **сьвесь, сьвестка, сьвесьніца.** *Посла Миндовгъ за по свою свесть (Лет.);* **сьвесьціны,** плёткі.

**СВИВАТЬ** *што,* **зьвіваць—вацца, зьвіваньне, зьвіток, зьвіцень, зьвітны.**

**СВИДАТЬСЯ** *з кім,* **пабачыцца, пабачаньне.**

**СВИДѢТЕЛЬ, сьведка, сьведчыць.**

**СВИДѢТЕЛЬСТВОВАТЬ, сьведчыць.**

**СВИДѢТЕЛЬСТВОВАНІЕ, сьведчаньне.**

**СВИДѢТЕЛЬСТВО, пасьветчаньне.**

**СВИНЧИВАТЬ** *што,* **сашрубовываць.**

**СВИНЕЦ** *м.* коў, адзін з самых мяккіх і важкіх; **волава, валавяны, валавяніць, волаўка.** Той коў які па расійску называюць волава у нас называюць яго—*цына.*

**СВИНЬЯ** *ж.* **сьвіньня, сьвінка, сьвінячы; сьвінуха, сьвінушка,** травяністая расьціна якая пад восень бялее і робіцца жострай як сьвінная шэрсць, расьце на пясчаных і падзольных высокіх землях; **сьвінушнік, сьвінарнік, сьвінятнік,** хлеўчык для сьвіней; **сьвінства,** неахайнасьць ў маральным значэньні; **сьвініна,** сьвінное мяса; **сьвінтус,** чалавек неахайны ў фізычн. і маральным значэньні; **сьвінар, сьвінапас,** пастух які пасьвіць сьвіньней; **сьвінячыцца,** пастулаць брыдка, па сьвінску. *Знаў Бог, што ня даў сьвіньні рог. Здарылася сьвіньні ў неба глянуць. Воўк не пастух, а сьвіньня не агроднік. Заракалася сьвіньня бруды есьці. Ашчыраецца як сьвінная галава на Коляды,* калі ляжыць вараная на стале. *Рохкае, як сьвіньня.* Эпітэт сьвіньні: *рохля.* Сьвінны самец не кледзены: *кнур, кнораз, керназ;* кладзены: *парсюк.* Па ўзросту: *парасё, падсьвінак, кабан.*

**СВИРАТЬ** *што на каго;* **ілгаць, салгаць.**

**СВИРЕЩАТЬ,** верашчэць, выдаваць рэзкі праразьлівы голас; **сьвірашчэць, сьвіраст, сьвірасьцёлка,** названьне птушкі Ampellis (Bombycilla) garulus. *Ты мая перапёлачка, ты мая сьвірасьцёлачка (Песн.).*

**СВИРЕЛЬ,** сьвісьцёлка, музычная прылада; **жалейка; сьвірасьцёлка,** дзьве дудкі зьвязаныя разам адна другой карацейшая; **сьвірэц,** музыка на сьвірасцёлках.

**СВИРѢПЫЙ, люты, лютасьць, лютаваць.** У старой нашай пісьменнасьці слова „свирѣпый“ трапляецца ў значэньні: *дзікі, дзікасьць.*

**СВИСАТЬ, звісаць—саньне, зьвіслы, зьвіславаты.**

**СВИСТѢТЬ, сьвістаць, сьвіснуць, сьвіст, сьвістун, сьвістуха, сьвістушка, сьвістулька, сьвісток; сьвішч,** наскрозная дзіра ў чым колечы: ад выпаўшага сучка ў дашцэ, чарвяточына ў арэсе, наскрозная дзіра ў целе, гнойная глыбокая рана; **сьвішчаваты.**

**СВИТА** *ж. франц.* акружаючыя пануючую ці знатную асобу людзі, пашанотная варта; **почат, ў почце, ў** акружаньні почту.

**СВИТОК** *м.* **сувой, зьвітак.**

**СВИХНУТЬ** *што,* выламаць, вылушчыць з мейсца; **зьвіхнуць—нуцца, зьвіханьне, зьвіх, вывых, вывіхнуць—нуцца.**

**СВІЯЗЬ,** качка падобная да шылахвоста, з сіняй дзюбай; **сьвітазь, сьвітаза.**

**СВОБОДА,** свая воля, вольнасьць; **свабода, свабодны, свабоднік—ніца; воля, вольны, вольніца, вольнік.**

**СВОДИТЬ** *каго, з чаго, адкуль;* **звадзіць, звод, зводны.**

**СВОДЧАТЫЙ, скляпеністы, скляпіць, скляпеньне.**

**СВОДНЯ** *ж.* **свахрайка, свахрайства.**

**СВОДЧИК** *м.* **свахрай, свахрайнік—райніцтва.** Свахраём называюць такжа пасрэдніка пры мяне і куплі—прадажы.

**СВОЗИТЬ, звазіць, звоз, звозны, звозчык.**

**СВОЙ** *займак,* **свой, свая, сваё, свае.** *Выдаю свой ўласны, а ня чужы грош. У нас свой дом. Свая рука не ліхадзейка. Свая табака не пяршыць. Сваё дабро хоць ноччу еш. Сваё дзіцятка. Свае коні. Воўк сваё возьме. Кождаму свой кон і закон.* **Свойскі, свой;** аблашчаны, ня дзікі. *Гэта свойская справа. Свойская разправа. Свойскі конь,* свой; асвоены. *Свойскія качкі,* асвоеныя—ня дзікія. *Свойскі абычай.* **Свойчлівы** чалавек, які ня робіць турбаціі, не вымагае асаблівых каля сябе захадаў.

**СВОЙСТВО** *ср.* свая асаблівасьць, што адражняе адну рэч ад другой; **свомасьць, свома, свомны.** *Аднэй вялічыны і меры ды не аднэй свомасьці рэчы. Свомна чалавеку памыляцца.*

**СВОЙСТВО**, сваяцтва па крыві; **сваяцтва, сваяк, сваячка, сваяцкі.**

**СВОЯЧНИЦА**, сястра жонкі; **сьвестка; сваცьця, сватка, ятроўка, швагерка, пасестрымка.**

**СВОЯК**, муж жончынай сястры; **свась, сват, швагер, дзевер, пасестрым.**

**СВОЯСИ,** свой дом, свая сямья, бацькаўшчына, **свойчына.** *Паедзем на свойчыну. А што у нас на свойчыне цяпер дзеецца? Дай Бог на свойчыне сядзець, а не па чужыне бадзяцца.* **Свайчак,** тоеж што рас. *„земляк“*, свой чалавек, чалавек з бацькаўшчыны.

**СВОЕБЫТНЫЙ** *абычай,* **свойскі.**

**СВОЕВЛАСТІЕ** *ср.* **самаўладнасьць.**

**СВОЕВРЕМЕННЫЙ, сваячасны—часна.**

**СВОЕДѢЛЬНЫЙ** *стол,* **самаробны.**

**СВОЕДОРНОЕ** *лыка,* **самалутнае.**

**СВОЕЗЕМЕЛЬНЫЙ, сваеземны, сваяземец.**

**СВОЕКОРЫСТІЕ** *ср.* **самапрагны—тасьць.**

**СВОЕНРАВІЕ** *ср.* **самадурства, самадур.**

**СВОЕОБЫЧІЕ** *ср.* **самазвычнасьць.**

**СВОЕОБРАЗНЫЙ, сваеаблічны—насьць.**

**СВОЕРОДНЫЙ, сваякі—касьць, сваякасьлівы.**

**СВОЕУМІЕ** *ср.* **разумніцтва, разумнік—зумніца.**

**СВОЛАКИВАТЬ** *што,* **звалачаць—чацца.**

**СВОЛОЧЬ**, усё што звалочана ці звалаклося ў адно мейсца, благі народ, галцяі, бадзягі; **зброд, збродны; збродзень,** цяжкі праступнік; **збродня,** цяжкі праступак; **збройца,** хуліган, той хто зрабіў які праступак; **назброіць,** набуяніць нахуліганіць; **зброя,** рас. *орудіе.*

**СВОРАЧИВАТЬ, зварачываць—ца, зьвярнуць, зварот, заротлівы.**

**СВОРКОВАТЬСЯ** *з кім,* **збрукавацца.**

**СВОРОВАТЬ** *што,* **украсьці, украсьць; украдкам,** ціха зрабіць што, крадучыся, хаваючыся.

**СВОРЫХАТЬ** *што,* **зварухнуць, зкрануць.**

**СВЫКАТЬСЯ** *з чым,* **звыкацца, звыкнуцца, звычка, звычай, звычна; звычлівы,** які легка звыкаецца з чым, з кім.

**СВЫСОКА** *прысл.* гаворыцца толькі ў пераносным значэньні; **звысока.** *Глядзіць звысока,* на каго. *Гаворыць звысока,* дабранымі, вычурнымі сказамі.

**СВЫШЕ** *прысл.* **звыш, знаўзвышы, зьверх, згары.** *Гэта зьверх сіл маіх. Звыш гэтай цаны не даюць. Праўда зыходзіць знаўзвышы, з неба ад Бога. Запона царкоўная разадралася згары да нізу.*

**СВЫЧНЫЙ, звычны,** які прывык, прызвычаіўся.

**СВѢВАТЬ** *што з чаго;* **зьвяваць--вацца, зьвеўкі.**

**СВѢДАТЬ** *што,* **дазнаць, дазнаньне, дазнацца.**

**СВѢДЕНЬЕ** *ср.* **дознатка—наткі; зьвестка, ведамка.**

**СВѢДУЩІЙ** *чалавек,* які ведае справу, работу, навуку; **знайлівы; сьведамы.**

**СВѢЖІЙ** *аг. слав.* **сьвежы, сьвежасьць, сьвежына, сьвяжынка; сьвежаніна,** мяса сьвежа забітай жывёлы; **сьвежаваць,** забіваць, рэзаць на мяса жывёлу; **сьвяжуха,** маладзіца.

**СВѢНЧАТЬ** *каго з кім,* **зьвянчаць—чацца.**

**СВѢРЯТЬ** *што з чым;* **спраўджаць, спраўдка, спраўдчык—чыца.**

**СВѢСИТЬ** *што,* **зважыць, адважыць.**

**СВѢСТИТЬСЯ** *з кім,* **знясьціся, зьнюхацца.**

**СВѢТ** *м.* **сьвятло, сьветласьць.** *Цемра сьвятла ня любіць. Наняў жыльлё са сьвятлом і цяплом. Сьвятло веры, праўды. Адыдзі ад сьвятла.*

*Сонечнае сьвятло, лепш лучыны (жарт.). Пацёмшчыкі сьвятла ня любяць.* Па нашаму **сьвет,** тое што па расійску „мір“. *Ня ўвесь сьвет, што ў вакне. Хто заморам не бываў, той і сьвету не відаў. Пажылі мы на сьвеце, пасаромілі добрых людзей. Птушынага малака на ўсім сьвеце ня знойдзеш.*

**СВѢТИЛО** *црк.* сонца, месяц, гвезды; **сьвятнік.**

**СВѢТИЛЬНИК** *м.* **сьвечнік, каганец, сьветач.**

**СВѢТИЛЬНЯ,** валакняны шнур у сьвечцы; **кнот, кноцік.**

**СВѢТИЛЬНЯ,** падстаўка да лучыны; **сьветач.**

**СВѢТЕЛКА,** гасьцінны, чысты пакой; **сьвятліца.**

**СВѢТЛО** *прысл.* **сьветла, сьвятлее.**

**СВѢТЛЯК** *м.* жамярыца, на выгляд—чарвячок які сьвеціцца ў ночы; **сьвятулёк, сьвятулькі; купальскі чарвячок.**

**СВѢЧА** *ж.* **свяча, сьвечка.** *Ні Богу сьвечка, ні чорту погаж. Суліў чорту сьвечку, якому яна не патрэбна.* **Сьвечня, сьвечніца,** падстаўка пад сьвечку, ліхтар.

**СВѢТОПИСЬ, фотографія, сьветладрук.**

**СВѢТИК** *песьлівае,* **ясачка, яска.**

**СВѢЩАТЬСЯ** *з кім,* раіцца, радзіцца, умаўляцца аб што пад зарукай, прысягай; **зьвечавацца, зьвячуюцца—валіся, зьвечаўка; зьвечаўнік, зьвечаўніца,** рас. „заговорщик—щица“.

**СВѢШИВАТЬ** *што,* **важыць—жыцца, важаньне.**

**СВѢЩНИК** *м.* **сьвечнік.**

**СВЯЗЫВАТЬ** *што,* **зьвязываць—вацца зьвязь; зьвязны,** які зьвязывае, зьвязываецца; **зьвязнасьць,** зьвязь, выразістасьць.

**СВЯЗИСТАЯ** *матэрыя,* сьцягаючая як таніна (гарблік); **сьцягаючая.**

**СВЯЗЛО** *ср.* перавязка саломай, травой; **пярэвясла.**

**СВЯЗАТЬ** *рукавічку, назутку:* **зрубіць.**

**СВЯТОЙ** *аг. слав.* **сьвяты, сьвятасьць, сьвяціць, сьвята, сьвяткі, сьвяткаваць, сьвяточны, сьвятдзень.**

**СВЯЩЕНІЕ, пасьвячаньне, пасьвяціць.**

**СВЯТИЛИЩЕ,** *сьвятое мейсца;* **сьвятыня.**

**СВЯТИТЕЛЬ** *м.* зьверхнік над сьвятарамі; **біскуп, архірэй.**

**СВЯТЫННЫЙ, сьвятарны.**

**СВЯТОША, сьвятуха, сьвятух, сьвятахлівы; сьвятун, сьвятуля, сьвяцька.**

**СВЯТѢЙШІЙ,** тытул патрыярха; **сьвятшы.**

**СВЯЩЕНЫЙ, сьвятарны.**

**СВЯЩЕННИК, сьвятар, сьвятарства, сьвятарскі.**

**СВЯЩЕННИЧАТЬ, сьвятарыць, сьвятарстваваць.**

**СВЯЩЕННѢИШІЙ,** тытул мітрапаліта; **сьвятарнейшы.**

**СВЯТОТАТЬ, сьвятакрадца.**

**СВЯТОТАТСТВО, сьвятакрадзтва—крадны.**

**СВЯТОХУЛЬСТВО, сьвяталайства—лайнік.**

**СВЯЩЕННОДѢЙСТВОВАТЬ, сьвятадзеяць—дзейства.**

**СВЯЩЕННОНАЧАЛІЕ, герархія.**

**СВЯЩЕННОСЛУЖИТЕЛЬ, сьвятаслужнік.**

**СВЯЩЕННОПѢНІЕ** *ср.* **сьвятасьпеў.**

**СГИБНУТЬ, згінуць.** *Згінеш як рудая мыш.*

**СГИБАТЬ** *што,* **згібаць—бацца—баньне, згібны, згіб, згібісты, згібень, згібнік.**

**СГЛАЖИВАТЬ** *што,* **згладжаць—джацца.**

**СГЛОДАТЬ** *што,* **зглыдаць, згложа.**

**СГОРЯЕМЫЙ, згарны; спальны, спальнасьць.**

**СГОРЯТЬ, згараць, згараньне, згар; спаляцца.**

**СГЛУПИТЬ, здурыць, здуру,** па дурнаце, па глупасьці.

**СГЛЯДИНЫ,** агляд маладой; **угледзіны.**

**СГНЕТАТЬ** *што*, **згнятаць, сьціскаць.**

**СГНУСИТЬ**, сказаць у нос; **згугнавіць, гугнавы.**

**СГОВАРИВАТЬ** *каго з кім;* **згаварываць—вацца, згавор, згаворчывы—вацьць.**

**СГОНОШИТЬ**, сабраць, сашчадзіць; **скантопіць.** *Скантопіў на старасьць капейку.*

**СГОРЯТЬ**, **згараць, спаляцца.**

**СГОРСТАТЬ** *што*, **згарнуць.**

**СГОТОВИТЬ** *што*, **прыгатаваць.**

**СГРАБЛИВАТЬ** *што*, **зграбаць, зграбсьці; зграбастаць**, зграбсьці, схапіць.

**СГРЕБАТЬ** *што*, **зграбаць, згробкі, згробчывы.**

**СГРЕЗИТЬ** *што*, **збрэдзіць** праз сон.

**СГРОМОЗДИТЬ** *што*, **зграмадзіць; згрудзіць, груд.**

**СГРУБИТЬ** *каму*, **згрубіяніць.**

**СГРУЖАТЬ** *што з чаго*, **ськідаць цяжыва, разпацяжаць, разгруджаць.**

**СГРУППИРОВАТЬ** *што, франц.* **згрупаваць; зкучыць, зкупіць**, сабраць у адну купу; **згуртаваць.**

**СГРУСТНУТЬСЯ, змаркоціцца.**

**СГРЫЗАТЬ** *што*, **згрызаць, згрызак.**

**СГУЩАТЬ** *што*, **згушчаць, згусьціць, згусьцелы.**

**СГУЩАЕМОСТЬ, згуснасьць, згусны, згустак.**

**СДАБРИВАТЬ** *што чым;* **здабрываць, палепшаць.**

**СДАБЛИВАТЬ** *што*, прыпраўляць страву; **скрашываць, скраса, закраса; затаўка** (ад „тук“).

**СДАВАТЬ** *што*, **здаваць, здаваньне, здача; здатак,** па рас. „сдача“, рэшта грошы пры аплаце.

**СДАВЛИВАТЬ** *што*, **сціскаць—кацца; сьціск, сьцісклы, сьціслы, сьцісканьне; сьціскі,** або **клюбы,** рымарская і стругарская прылада; ў першых да зацісканьня шытай скуры, у другіх—да сьцісканьня клееных рэчаў.

**СДАЛЕКА** *прысл.* **здалі, здалёк, здалёка.** *Здалёк адгэтуль. Здалёк пачаў гутарку. Здалёку прыбыў. Здалі глядзеў я на гэту рую.*

**СДАТОЧНЫЙ, здатковы.**

**СДВАИВАТЬ** *што,* **здваяць—яцца, здвоены—еньне; здвоміць, здвомлены, здвоміцца.**

**СДВИГАТЬ** *што,* **зсуваць—вацца, зсуваньне, зсовісты, зсоўнік—ніца; зрушаць.**

**СДВИЖЕНІЕ, зрух, зрушаць, зрушыцца.**

**СДВОИТЬ, здвоміць.** *Здвоміць высілкі.*

**СДВУРЯЖИВАТЬ** *пражу,* зьвіваць у дзьве ня ссучаныя ніткі; **трысьціць.**

**СДЕРГИВАТЬ** *што з чаго;* **стыргаць, стыргнуць—гацца, стырганьне.**

**СДЕРЖИВАТЬ** *што, каго;* **стрымліваць—вацца, стрымаць, стрыманьне; гамаваць.**

**СДЕРЖАННО** *прысл.* **пастрымліва; пагамоўна.**

**СДИВИТЬСЯ** *з чаго,* **зьдзівіцца, зьдзіўна, зьдзіў, зьдзіўленьне.** *На зьдзіў прыгожы хлапец, дзеўка. Зьдзівіўся ўбачыўшы яго.*

**СДИРАТЬ** *што з чаго;* **зьдзіраць, лупіць, лупаць.**

**СДИЧАТЬ, зьдзічэць—чэлы.**

**СДОБНЫЙ,** аб хлебе на малацэ, на яйках, масьле; **мастны, масьціць, маста; масьнік,** або **грыбок,** блін на яйках і масьле, з пшоннай мукі; **скаромны, скароміць, скорам** (ад „скром“ ўнутранны тук).

**СДРОБЛЯТЬ** *што,* **здрабняць, крышыць.**

**СОДРУЖЕСТВО, спадружжа, спадружнік—ніца.** У нас гэта слова ужываецца яшчэ ў значэньні рас. „супружество“.

**СДУВАТЬ** *што з чаго;* **здзьмухаць, здзьмухнуць, здзьмуханьне, здзьмух.** *Вецер здзьмухнуў паперу. Здзьмухні пыл са стала. Як ветрам здзьмухнула іх.*

**СДУМАТЬ** *што,* **здумаць—мацца, здум.** *Прышло ў здум мне гэта ужо пазьней. Ён усё па*

*свайму здуму робіць. Ані здумаць, ні згадаць, што там было.*

**СДЫХАТЬ, СДОХНУТЬ, стыхаць, стухлы, стухнуцца, стухля.**

**СДѢВАТЬ** *вопратку,* **спранаць, спранацца—нуць.**

**СДѢЛАТЬ** *што,* **зрабіць—біцца, зрабі, зроблены, зроб; зробна,** рабіць ад штукі; **зробнік--ніца,** працавік, які робіць ад штукі, бярэцца за работу агулам, не падзённа.

**СДѢЛКА** *ж.* **угода.** *Зрабілі паміж сабой угоду.*

**СДЮЖАТЬ, змагчы, здолець.**

**СЕ** *займак, або прысл.;* **ся, асе, асё-ж, се, сё.** *Се і хлеба нетуці (смл.). Сё прыду. Дзе нож? Асё-ж ляжыць. Асё-ж і разьвіднела. Асё маці мая. Най ся што хоча дзеіцца. Най ся і так будзе.*

**СЕАНС** *франц.* **седні, паседжаньне, поседні, посест.**

**СЕБЕР** *м.* (татар. „шабер", сусед); удзельнік (пайщик), таварамі ў торгу ў прэдпрыемстве; **сябра, сябраваць; сяброўства-**таварыства, супалка.

**СЕБЯ** *займак,* **сябе, сабой аб сабе.** *Кожды сабе працуе. Кожды сам сабой жыве. Ен толькі сабой заняты, толькі аб сабе думае.*

**СЕБЯКА, сабека,** сябелюб, эгоіст.

**СЕБЯЛЮБІЕ** *ср.* **сабечніцтва, сабечнік—ніца.**

**СЕГМЕНТ** *м. геомэтр.* адрэзак круга, або клуба.

**СЕГОДНЯ, сягоньня, сягоняшні; сёньня, сёнешні, сёдні, сёднаваць, сёднік.**

**СЕДМЬ** *црк.* **сем, сёмы.**

**СЕДМЕРИЦА, сямёрка.**

**СЕЗОН** *м. франц.* часьць году, пара чаго колечы; **пара;** *стар.:* **рок, рочкі.**

**СЕЙ, СІЯ, СІЕ** *займак,* **гэты, гэта, гэтае.** *То гэты, а то гэны. Да гэтага часу. Гэта баба, а гэта дзед. Гэтае поле неўраджайнае. Гэтта*

*тут. Гэтта што такое. Гэтта былі дровы, а цяпер няма іх тут. Гэта я, а гэныма ён.* **Сяй.** *Сяй ночы а паўночы (Безсон. 40).*

**СЕЙМ** *м.* (ад „сыймацца“ падыймацца), збор, зьезд; **сойм, соймавы, соймаваньне.** Абы соймаваліся на здаўна установленым местцы (прывілей полацкай зямлі); **соймішча,** ток, мейсца, дзе зьбіраўся сойм; **саймавацца,** радзіцца.

**СЕЙЧАС, зара.** *Зара прыду, зраблю. Зара буду ў вас. Жыдоўскае „зара“, а панскае „пачакай“.*

**СЕКВЕСТРОВАТЬ** *тавар, лацінск.* узяць пад дагляд, пад апеку; **ўзяць пад запалог, запаложнае, запалог.** *Запалог налажылі на дворную зямлю, ўзялі пад запалог (Дзісн. пав.).*

**СЕКИРА** *ж.* **сякера, сякерка, секярышча; барта,** лёгкая цясьлярская сякера.

**СЕКРЕТ** *м. франц.* **тайства, таіць, таіцца, тайна; сэкрэт, сэкрэтны.**

**СЕКРЕТАРЬ, сэкрэтар—тарства.** У слоўніку П. Бэрынды: *Тайникъ—секретарь.*

**СЕКТА** *франц.* брацтва, якое прыняло сваю асобную навуку аб веры; **адшчапенства, адшчапенец.**

**СЕКУЛЯРИЗАЦІЯ** *ж. лац.* перадача духоўнай маетнасьці ў сьвецкую абладу.

**СЕКУНДА** *ж. лац.* шасьцідзясятая часьць мінуты; **сэкунда; хвіліна, хвілінка, хвілька.**

**СЕКУНДАНТ** *м.* таварыш, сьведка і пасрэднік паядыншчыка.

**СЕЛЕДКА,** марская рыба; **селядзец—дцы, селядцовы, селяднік, селядніца; селядоўка,** бочка ад селядцоў. Расол, у якім знаходзяцца ў бочцы селядцы—*лёк.*

**СЕЛЕЗЕНКА,** брушнае цела, якое знаходзіцца пад левым уздошшам; **салозіца; селязёнка.** У каня салозіца бьецца ў жываце, кажуць: *салозаўка грае.*

**СЕЛЕЗЕНЬ,** качы самец; **качур, качурок; селязень.**

**СЕЛИТРА** *ж.* азоцістая соль; **салітра.**

**СЕЛЕНІЕ** *ср.* **сяліба**, наагул дзе людзі селяцца, жыльлё, мейсца дзе стаіць дом і двор.

**СЕЛО**, **сяло**, **сяльцо**, **селішча**, **сельскі**, **селянін**, **селянка**: **сялак**, **сялачка**; **вёска**, **вясьняк**, **вясьнячка**, **веські** *(Новагрудзкі пав.)*.

**СЕЛЬДЕРЕЙ**, расьціна Apium graveolens, якога карэнь ідзе на прыправу варыва; **салера**.

**СЕЛЬНИК** *м.* халодная будыніна пад аднэй страхой з хатай для складу; **сеннік**. Сеннік прыбудовуюць трысьценам да сяней, або, часьцей, аддзяляюць перагародкай палавіну сяней пад сеннік; **сельніца**, шырокі, нізкі кораб, у якім перасеваюць муку, а такжа лубка, з якой сеюць.

**СЕМЕНИТЬ**, дробна і хутка ступаць; **сігтаць**, **драпатаць**, **дрыпаць**. Адгэтуль сказ: **даць драпака**, пусьціцца наўцекі, густа перабіраючы нагамі.

**СЕМЕНИК** *м.* **насеньнік.**

**СЕМГА**, рыба Salmo salar; **ласось.**

**СЕМЕЙСТВО**, **сямья**, **сямейны**, **сямянін**, **сямейна.**

**СЕМИК** *м.* сёмая нядзеля пасьля Вялікадня; **сёмуха**; **зялёныя сьвяткі**; **грануха**, **граная нядзеля.**

**СЕМИНАРІЯ** *ж. лац.* духоўная сярэдняя школа.

**СЕМИТЫ**, народы сэміцкага племя, з якога паходзяць жыды.

**СЕНАТ** *м. лац.* рада пры пануючай асобе; у нас даўней **рада гаспадарская**, або проста: **рада.**

**СЕНТЭНЦІЯ** *ж. франц.* судовая пастанова вайсковага суда, або ў справе крымінальнай; кароткі і дасціпны выслоў.

**СЕНТИМЕНТАЛЬНЫЙ** *франц.* **кволкі**, **тклівы.**

**СЕНТЯБРЬ**, дзевяты месяц у годзе; **верасень.**

**СЕПАРАТНЫЙ** *лацінск.* аддзельны, асобны, сам па сабе; **адасобны.**

**СЕПАРАТИЗМ**, імкненьне аддзяліцца, аддзяліцца ад большасьці; **адасобчына.**

**СЕРАФИМ** *жыдоўск.* *„сэраф“*; у перакладзе; *гаручы, пылаючы*; **сарафім**, названьне аднаго з высшых анельскіх станаў.

**СЕРВИЗ** *м.* гарнітур сталовага, або гарбатнага начыньня; **гарнітур, прыбор.**

**СЕРЬГА** *ж.* зворысты кружок з аздобамі, які носяць жанкі ў вушных музкох; **завушніца.**

**СЕРДОЛИК** *м.* камень; **карналін, крываўнік.**

**СЕРДЦЕ** (cor, cordis?), **сэрца, сэрцэйка, сэрдэчны, сэрцовы, сэрцавіна.** *Сэрдэчна (грудна) мне шкада яго.*

**СЕРДОБОЛЬНЫЙ, сэрдабольны.**

**СЕРЕБРО** *ср.* **серабро, сярэбраны, серабрысты;** але побач ужываецца: **срыбра, срыбны, срыбнік.**

**СЕРЕДА** (сярэдзіна), **серада, сяродны, сярэдні.**

**СЕРЕЖКА** *на дрэве,* **каток, каткі.**

**СЕРЕНАДА** *гішпанск.* начная вітальная музыка, песьня, зазвычай пад вокнамі вітанага; **сэранада.**

**СЕРЖАНТ** *м. франц.* **падафіцэр.**

**СЕРІЯ** *ж. франц.* **чародаўка.**

**СЕРПЕНТИН**, зеленаваты, цьвёрды камень; **агат.**

**СЕРП** *м. аг. слав.* **серп; сярпіць**, націнаць зубмі зялеза.

**СЕРПЯНКА, раднінка, радніца.**

**СЕРТУК** *м. франц.* **сурдут.**

**СЕРЧАТЬ, злавацца.**

**СЕРЬЕЗНЫЙ** *франц.* у рас. мове гэтае слова ўжываецца ў самых розных адценках для абазначаньня чалавека срогага, самапэўнага, важнага; **важны, паважны.**

**СЕРЬЕЗНО** *прысл.* **запраўды; паважна.**

**СЕСЕКАТЬ**, шаплявіць; **сюсюкаць.**

**СЕССІЯ** *ж. лац.* сабраньне, паседжаньне, або тэрмін цэлага раду іх; **сэсія.**

**СЕСТРА, сястр*а*, сястр*ы*ца, с*ё*стрынька, сястр*у*ха, сястр*ы*цца, сястр*о*нка.**

**СЕУНЧ** *м. татар.* пасланец з бітвы; **в*е*стнік, ган*е*ц.**

**СЖАМНУТЬСЯ** *аб малацэ,* **зс*е*сцца.**

**СЖАРИТЬ** *што,* **спяч*ы*, спр*а*жыць.**

**СЖАТЬ** *што,* **сц*і*снуць—нуцца, сц*і*ск, сьц*і*склы.**

**СЖИГАТЬ** *што,* **спаляць—ляцца, сп*а*л.**

**СЖУЩЕРИТЬ** *што,* **зж*о*рці, зж*у*мрыць.**

**СЗАДИ, зз*а*ду.** *Ён зайшоў ззаду. Ззаду цягаецца.*

**СЗЫВАТЬ, зыв*а*ць—в*а*цца, с*о*звы; склік*а*ць, склік*а*цца, склік*а*ньне, скл*і*чны, скл*і*к, скл*і*чнік, скл*і*чніца.**

**СИБАРИТ** *м.* чалавек разпешчаны, разквелены, які жыве для роскашаў цялесных; **сыбар*ы*т.**

**СИБИРЬ,** часьць Расіі за Уральскімі гарамі; **Сіб*і*р.**

**СИВЫЙ** *па масьці, колеру;* **сів*ы*, сів*і*зна, с*і*васьць, с*і*ўка, с*і*ўчык, сів*е*ць.**

**СИВОВОРОНКА, сівагр*а*к.**

**СИВЕЦ** *расьц.* Nordus stricta; **сьвін*у*шнік, сьвін*у*ха.**

**СИГАРА** *ж. гішпан.* табачны лісьць, скручаны ў трубку да курэньня; **цыг*а*ра.**

**СИГНАЛ** *м. франц.* умоўны знак; **зн*а*к, спогалас, сыгн*а*л.**

**СИДѢТЬ, сядз*е*ць, с*е*сьці, с*е*дні, сядз*я*чы, сяд*у*н, с*е*дзіны, сядзьб*а*, сяд*о*к, сяд*у*ха, сяд*а*ць, сяд*а*ла, сядл*о*.**

**СИЗЫЙ,** цёмны, чорны з беласаватым адценкам; **ш*ы*зы, шыз*е*ць, ш*ы*засьць.** *Шызыя гусі, галубы. Шызы арол.*

**СИЛА** *ж. аг. слав.* **сіла, сілав*а*ць, с*і*льна, сілк*о*м; сілам*о*ц, сільн*е*ць, сіл*а*ч—чка.**

**СИЛО, плян*і*ца, плян*і*ць.**

**СИЛУЕТ** *м. франц.* зьнімак з цені, з бакавога абрысу аблічча; **сыльвэта, сыльвэтка.**

**СИМА** *ж.* **спружына.**

**СИМВОЛ** *м. грэцк.* істота справы, навукі ў кароткіх славах, або ў знаках; **сымвал, сымвалічны.**

**СИМЕТРІЯ** *ж. грэцк.* роўнамернасьць; **спараўня, спароўны, ў спароўнь** чаму, **спароўнасьць.**

**СИМОНІЯ** *ж. грэцк.* прадаваньне годнасьцяў і мейсц духоўных; **сьвятакупства.**

**СИМПАТІЯ** *ж. грэцк.* **прыхільнасьць, сымпація.**

**СИМПАТИЧНЫЙ, прыемны, сымпатычны.**

**СИМПТОМ** *м. грэцк.* **пазнака.**

**СИМПТОМАТИЧЕСКІЙ,** **пазнатніцкі, пазнатны.**

**СИМФОНІЯ** *ж. грэцк.* асобная адмена музыкальнага твору; **сымфонія.**

**СИНАГОГА,** жыдоўская малельня; **сынагога.**

**СИНАПИЗМ** *м. лац.* **гарчычнік.**

**СИНЕВА, блакіт.**

**СИНІЙ** *колер,* **сіні, сінець, сінасьць, сінька, сіняк, сіняціна, сініць, сінецца, сінявіна.**

**СИНОД** *м. грэцк.* духоўная рада, вышэйшы духоўны урад; **сынод.**

**СИНОЛОГ** *м.* вучоны знавец кітайскай мовы.

**СИНОНИМ** *м. грэцк.* адназначнае, або вельмі блізкае да другога па значэньню слова; **аднаслоў.**

**СИНОПСИС** *м. грэцк.* кароткі зьмест чаго, одпіс.

**СИНТАКСИС** *м. грэцк.* **словатворства, словатворны.**

**СИНУС** *м. грэцк.* нахіл канца дугі на прамень; **лучак.**

**СИНХРОНИЗМ** *м. грэцк.* зьбег выпадкаў ў адзін час; **спачаснасьць.**

**СИНХРОНІЯ** *ж.* досьлед аб часе здарэньня.

**СИПЛЫЙ, сіплы, сіпець, сіпка, сіпун; сіпуха,** эпітэт вужакі.

**СИРЕНЬ**, куст Siringa vulgaris; **бэз.**

**СИРИН** *м.* **пугач.** Баечнае птушка з жаночай галавой і грудзямі.

**СИРОП** *м. лац.* густы навар, ягадны, фруктовы, мядовы; **сыроп.**

**СИРОТА** *аг. слав.* **сірата, сіротка, сірацина, сірацець, сіроцтвавацъ, сіроцтва, сірочы, сіротны.**

**СИСЯ** *ж.* **сіся, сіська; цыцка, цыца.**

**СИСТЕМА** *ж. грэцк.* плян, парадак, разклад часьцей, ход чаго ў разумным парадку; **сыстэма, сыстэматыка, сыстэматычна, сыстэматык; парадак.**

**СИТЕЦ** *м. нямецк.* друкаванае узорамі палатно; **паркаль, паркалёвы.**

**СИТО, сіта, сітная** мука, прасеянная праз сіты; **сітнік,** хлеб печаны з сітнай мукі.

**СИТУАЦІЯ** *ж. франц.* **палажэньне, мейсцапалажэньне.**

**СИФИЛИС** *м.* лац. прыкасная, благая хвароба; **францы; кастаедніца.**

**СИФОН** *м. грэцк.* **лівар.**

**СІЯТЬ,** ярка блішчэць; **зіяць, зіяе, зьяе, зіяньне, зіяльны.**

**СІЯТЕЛЬСТВО,** тытул графоў і князёў.

**СКАБА** *ж.* шчэпка, лучына; **застрамка, заскамка; заскаміць,** рас. „занозить“.

**СКАБІОЗА** *расц.* Scabiosa; **каростаўка, перапелячнік.**

**СКАЗЫВАТЬ** *што, каму;* **гаварыць.**

**СКАЗКА** *ж.* **казка, байка.**

**СКАЗОЧНЫЙ, баечны.**

**СКАЗАНІЕ** *ср.* **апавяданьне, апавядач—дачка.**

**СКАКАТЬ, скакаць—каньне, скок, скокі, скакунец, скакуха,„скакун—кунок; скочка**-жамярыца, блаха; **скакулёк,** рас. „кузнечик“; **скакуха,** эпітэт жабы.

**СКАЛА** *ж. італьян.* **гама,** лесьвіца тонаў, гукаў.

**СКАЛА** *аг. слав.* **скала, скалка, скалісты, скалець.**

**СКАЛДЫРНИЧАТЬ, скнорыць, скнара, скупец.**

**СКАЛИТЬ** *зубы,* **ашчыраць, ашчырацца.**

**СКАЛИТЬ,** прытворна плакаць, бяз сьлёз; **скуголіць, скугліць.**

**СКАЛПЕЛЬ,** ножык апэратара; **скальпаль.**

**СКАЛП** *м.* садраная скура з галавы; **скальп.**

**СКАЛЯБИНА** *ж.* **прышчык.**

**СКАМЬЯ** *ж.* дашка на ножках да седзіва; **лава, лаўка, лаўны; зэдаль, зэдлік.**

**СКАНДАЛ** *м. фр.* непрыстойнае, саромячае здарэньне, пастулак; **аслава, аславіцца, аслаўлівы; буянства, буяніць, буян.**

**СКАНДОВАТЬ** *вершы,* лічыць стопы; **скандаваць.**

**СКАНЬ,** залатая нітка, нітка абвітая ценкай мэталічнай бляшачкай; **залатая нітка.**

**СКАПЛИВАТЬ,** зьбіраць і заховываць; **спароміць, наспароміць, прыспароміць, спорам; зьбіраць.**

**СКОПИЩЕ,** зброд народу; **зборышча; натаўп.**

**СКОПИТЬ** *каго,* **скапіць, выкладаць.**

**СКОПИДОМНИК, зьбярыдомнік—домства.**

**СКАРБ** *м.* рухомая маетнасьць; **рухмацьцё, набытак, дабытак.**

**СКАРЕД** *м.* скупец; **жмінда, скнара.**

**СКАРЛАТИНА,** высыпная хвароба; **шкарлятына.**

**СКАТАТЬ** *што,* **скачаць.**

**СКАТЕРТЬ, настольнік.**

**СКАТ** *гары,* **склон, сток, спад.**

**СКАТИСТАЯ** *горка,* **палогая, пахоная, сточная, спадзістая.**

**СКАФА** *ж. тат.* прылада, зробленая са старой касы да скрабаньня скур; **скрабстак.**

**СКАСТИТЬ,** ськівуць з рахунку; **скрэсьліць.**

**СКВАЖИНА** *ж.* **шчэлка, шчалуга, шчалга,**

**шчалупа, шчалужына, шчалужысты, шчалужыць, шчалугаты; протха; сьціправіна, сьціпорына, сьціпорысты, сьціпра, сьціпрына, сьціпры** (ад „скяпаць“, шчапаць).

**СКВАРА** *царк.* **гарачыня.**

**СКВЕРНА,** брыда, нечысьць, блаж; **гадасьць, плюгаўства.**

**СКВЕРНЫЙ, гадкі, гадзіць, гадзіцца, гаднік—ніца, агіднік—ніца; плюгавы.**

**СКВЕРНОСЛОВІЕ, брыдамоўства, брыдамоўнік; плюгамоўства, плюгамоўнік.**

**СКВЕР** *м. англ.* тачок у горадзе, абгароджаны і абсаджаны дрэвамі і кустамі; **гайнік, гайнічок.**

**СКВОЗЬ** *што, чаго;* **скрозь, наскрозь.** *Скрозь, наскрозь прабіў дашку. Прапаў, як скрозь зямлю праваліўся.*

**СКВОЗИТЬ, скрозіць;** *аб ветры:* **падвявае.**

**СКВОЗЬНЯК** *м.* сускрозны востры падвеў; **падвей, падвейчыва, падвяі, падвеяць.** *Скуль гэта у нас падвейцам нясе. Падвей скруціў яго. У нас на гумне падвейчыва. З усіх кутоў падвяі дзьмуць.*

**СКВОРЕЦ** *м.* птах Sturnus vulgaris; **шпак; шпакаўніца,** скрынка на гняздо шпакам, зазвычай вешаная на дрэвах.

**СКЕЛЕТ** *м. грэцк.* **шкілет; кастыр.**

**СКЕПТИТИЗМ** *м. грэцк.* **зьнявера, зьняверны, зьняверніk, зьняверніца, зьняверлівец, зьняверства.**

**СКИДЫВАТЬ** *што з чаго;* **сьцідаць, сьціданьне—дацца, сьцідка, сьцідчык—чыцца, сьцідчывы, сьцідыш.**

**СКИНІЯ** *ж. грэцк.* дарожная сьвятыня жыдоў да будовы ерузалімскага храму; **скрыньня.**

**СКИПЯТИТЬ** *што,* **заварыць.**

**СКИПИДАР** *м.* крэпка пахнучы алеяк, які выганяюць са смалы; **шпікунар.**

**СКИПЕТР** *м. лац.* царскяя ляска, азнака царскай годнасьці; **бэрла.**

**СКИРДА** *ж.* **тарпа.** Злажыць *у тарпу,* у ськірду. *Жыта вазіці у тарпу лажыці (Вальчоб. пес. Аш м. п.; Р. 8—9 с. 175).*

**СКИСАТЬ, ськісаць, квяснуць, квасьнець, квас.**

**СКИТАТЬСЯ, валондацца, валачыцца, цягацца, бадзяцца.**

**СКИТАЛЕЦ, бадзяка, валачомец, валачомнік.** Слова „бадзяцца" ў нашай мове мае дваякае значэньне: *цягацца, валондацца дзе колечы без ніякай мэты; валяцца ў брудзе, брудзіцца. Дзе ты бадзяўся? Цэлы век свой ён бадзяўся па сьвеце. Ня зьеў сабака не збадзяўшы,* не пакачаўшы па бруднай зямлі. **Бадзецца,** цягнецца, валачэцца.

**СКИТ** *м.* **пустэльня, пустэльнік, пустэльства, пустэльны.**

**СКЛАБИТЬСЯ, ашчырацца.**

**СКЛАДЫВАТЬ** *што,* **складаць, скласьці, скласцца, склад, складка;** складны, добрай будовы, складу; **складзень,** складны абраз; **складчына, складковы, складчык—чыца.**

**СКЛАДЧАСТЫЙ, складкаваты, складкавасты.**

**СКЛЕИВАТЬ,** *што,* **клеіць, склеіцца, склейкасьць.**

**СКЛЯНКА, шклянка, шкелка.**

**СКЛОНЯТЬ скланяць. склоннасьць, склон, скланяцца; сасланяць, суслон.**

**СКЛОЧИТЬ** *што,* **скудлаць, скомкаць, склычыць.**

**СКНИПА** *црк.* **вош, кляшчавая вош.**

**СКОБЛИТЬ** *што, чым;* **скрабаць; скрабстаць.**

**СКОВЕРКАТЬ** *што,* **скаверзаваць, скаверзаць.**

**СКОВОРОДА** *ж.* **патэльня, скварніца.**

**СКОВОРОДНИК** *м.* **чапяла.**

**СКОВОРОДИТЬ** *што,* **скварыць.**

**СКОВЫРИВАТЬ** *што,* **скалупываць, скалупнуць.**

**СКОВЫРНУТЬСЯ** з чаго колечы, саскаўзнуцца і зваліцца; **скавырзнуцца—вырзнуўся, скавырзьлівы, скавырзень.**

**СКОГОТАТЬ,** выць і плакаць; **скуглíць; скавытаць,** як шчанё.

**СКОЛОТИТЬ** *што*, **зьбíць, зьбíтыш, зьбіцень.**

**СКЛОННОСТЬ, нахіл.**

**СКОЛЕБАТЬ** *што*, **скалыбаць, скалыбнуць; скалыхаць, ззыбнуць.** *Кладка ззыбнулася, Агатка зьлякнулася (песн.).*

**СКОК, скок, скакаць.** Аб жабе не кажуць жаба „скача", а—„*плігае*".

**СКОЛЬЗИТЬ, склізíць, лызгае, каўзíць, шчакаўзíць; глізíць, глíзкі, глізьмень, глíздавíца.**

**СКОЛЬЗКІЙ, склíзкі, лызгучы, коўзкі, шчокаўзкі.** *Шчакаўзьнецца нага а жыд, плясь у гразь. (Сержп. 59). Лёд гладкі, лызгучы... Мянтуз склізкі, калі ня возьмеш за шчэляпы, не ўтрымаеш. Коўзкая дарога, ведама галаледзіца.*

*Масьляніца—каўзуха,*
*Працягніся да Духа!*
*(Ром. 8—9 с. 138).*

**СКОЛОБИТЬ** *што*, **скумясіць, скуліць.** *Скумясіў ком сьнегу. Вожык скуліўся ў клубок.*

**СКОЛОЗИТЬ** *трасца*, **скалодзіць,** трасе і зябіць.

**СКОЛЬ** *прысл.* **як.** *Як цяжка чакаць і не дачакацца.*

**СКОЛЬКО, сколькі, сколіка, сколічкі.** *Сколькі не давай, ўсё мала. Сколіка гэта прышло вас? Дай хоць сколічкі, хоць на завод.*

**СКОМИТЬ, ныць.** Ныюць старыя косьці. *Ные сэрца з жалю.* **Заскамець,** заныць, **засьцербнуць.** *Рукі заскамелі ад работы. Скамяць, ныюць старыя косьці.*

**СКОМПОНОВАТЬ** *што франц.* **злажыць, стварыць.**

**СКОМПРОМИТИРОВАТЬ** *каго, фр.* **скампрамітаваць; зьняславіць, засароміць.**

**СКОНЧАТЬ** *што*, **канчаць—чацца, скончаны.**

**СКОПЕЦ** *м.* чышчаны самец; **скапец.**

**СКОПИТЬ, зграмадзіць, сабраць, сашчадзіць, саспароміць.**

**СКОПЛЕНІЕ** *народу*, **натаўп.**

**СКОПОСКОЙ, борзкі, шпаркі.**

**СКОРОТАТЬ** *час*, **сьцерці, правясьці.**

**СКОРБЬ** *ж.* ныць сэрцам і балець па чым; **смутак, смутны, смуціцца, смуткаваць; смутлівая,** тое-ж што па расійску „скорбящая“. *Маці Божа смутлівая.* **Туга, тужыць, тужна, тужліва.**

**СКОРЛУПА** *ж.* **скарупка, скарупа—піна.**

**СКОРНЯК, скураль, скуральства.**

**СКОРОБИТЬ** *што*, **карабаціць,—ціцца, карабаты.**

**СКОРОПОСТИЖНО, нагла.**

**СКОРОСЫЙ, борзкі, хуткі.**

**СКОРПІОН** *ж.* ядавітая жамяра; **скарпіён.**

**СКОРЧИТЬ** *што*, **скорчыць—чыцца.**

**СКОРЯВѢТЬ, заскарузнуць, заскарэць.**

**СКОРЯЧИТЬ** *ногі*, **скярэчыць.**

**СКОТ** *м.* агульнае найменьне дамовых жывёлаў; **статак.** *Каб статак быў гладак. Выгналі статак на пашу.* У нас паўсюдна, ад Горадзеншчыны і да Смаленшчыны кажуць *статак* (Гл. Буслаеў „Русск. Нар. Поэзія“ стр. 183). **Статчына**, адна асобная жывёла. *Траву выпусьціці, статак накарміці* (*Безсонов, стр. 22*). **Скацежа, скацежына, скацежнік—ніца** (Дзіс. пав.).

**СКОТОВОДСТВО, разплодніцтва, гадоўля статку; гадоўніцтва.**

**СКОТОВОД, гадоўнік статку, гадоўнік.**

**СКОТ** *лайчыва*, **скаціна, скот.**

**СКРАШИВАТЬ, аздабляць, аздабляцца, аздоба.**

**СКРЕБОК** *м.* **скрабло.**

**СКРЕЖЕТАТЬ** *зубамі*, **скрыгаць, скрыгатаць, скрогат.**

**СКРЕНЬ,** поўна да краёў; **ўшчэрць.**

**СКРЕСТИТЬ** *шаблі*, **скрыжаваць.**

**СКРЕСТЬ**, **скрабсьці, скрабаць—бацца; скрабатаць, скрабстацца, скрабснуў.**

**СКРЕСТОК** *м.* **скрыжавень, крыжовыя дарогі.**

**СКРИЖАЛЬ,** дашка, пліта з надпісамі; **табліца.**

**СКРИП, скрып, скрыпець—пучы, скрыпун; скрыпка, скрыпіца, скрыпач.**

**СКРОПКІЙ, крохкі.**

**СКРУЧИВАТЬ** *што*, **скручаць, скрут, скрутак.**

**СКРЫВАТЬ** *што*, **хаваць—вацца, хаваньне, схоўны, схоў, схоўка.**

**СКРѢПЛЯТЬ** *што*, **замацовываць—вацца.**

**СКРѢПЫ** у *будавецтве*, **уснадкі**; пад кроквамі **змацоўка.**

**СКРЮЧИТЬ** *што*, сагнуць у крук; **скручыць.**

**СКРЯГА, скнара, жмотнік, жмінда.**

**СКУДНОСТЬ, недастатак, недастатны; худацтва.**

**СКУДОГЛАСІЕ, худагoласнасьць.**

**СКУДОЗЕРНЫЙ** *колас*. **худазерны.**

**СКУДОЗУБЫ, худазубы.**

**СКУДОЛѢТЬЕ, худалецьце.**

**СКУДОУМІЕ, тупасьць.**

**СКУДЕЛЬ** *ж.* **гліна, гліняны.**

**СКУДЕЛЬНИК** *м.* **ганчар, ганчарня.**

**СКУКА** *ж.* **нуда, нудзіцца, нудны, нудна; маркота, маркоціцца, маркотны; моташнасьць.** *Пахадзіў, пахадзіў маскаль па небу, бачыць, што сьвятыя ня кураць люляк, ня пьюць гарэлкі, не сьмяюцца, ні песень не пяюць і м о т а ш н а яму стала* (*Сержп. с. 1.*).

**СКУЛА** *ж.* **ськівіца;** *ніжняя ськівіца*—**санкі;** *верхняя ськівіца* або *ськівічная косьць* яна выступае пад вокам, пераходзячы да вуха ў ськівічную дугу, *ськівіцамі* і называюць гэту касьцявую выпукласьць над шчокамі.

**СКУЛЬПТОР** *м. лац.* **рэзьбяр, рэзьбярства. рэзьба.**

**СКУПАТЬ** *што,* **скупляць—ляньне, скуп.**

**СКУПОЙ** *чалавек,* **скупы, скупец, скупасьць, скупаватасьць, скупяндзя, скупяндзей.**

**СКУРГУЗИТЬ** *што,* **скуртаць.**

**СКУСОК** *м.* адкушаны кусок; **кусанік.**

**СКУТАТЬ, згарнуць, зьвінуць, захоўтаць.**

**СКУФЬЯ** *ж.* **ярмолка, шаламейка.**

**СКУЧАТЬ, маркоціцца, нудзіцца.**

**СКУЧИВАТЬ,** складаць у кучу; **зваліваць, капіць,** складаць у кучкі, копкі.

**СКУШАТЬ** *што,* **зьесць.**

**СЛАБЫЙ, слабы, слабасьць, слабаваты, слабун, слабскі, слабсьцік, слабасіл, слабадум, слабадух, слабадушлівы.** У значэньні не тугога: **слабкі, слабкаваты. Слабізна,** паха ў нізе бруха.

**СЛАБИТЕЛЬНОЕ** *лякарства,* **праноснае, звальняючае, ляксовае.**

**СЛАВА,** як хто слыве, праслыў у людзях; **слава, славіцца, слаўны, славіць, славіцца, слаўленьне, слыць, слывучы.** *Няма чалавека каб благая слава не прайшла. Добрая слава далёка, а благая далей. Слава дым, а золата тяя. Не памоўка, а паробка славіць. Худы худую славу шырыць.* У нас даўней славіліся: паясы слуцкія; шкло урэцкае; сукно зельвянскае; паліва ільлецкая; дзяўчаты с пад Глуска; мурнікі вяліжскія; купцы полацкія; стральцы налібоцкія; абаранкі смаргонскія.

**СЛАВОСЛОВИТЬ** *каго,* **выслаўляць.**

**СЛАВЯНСТВА,** славянскае племя, мова і абычаі; **славянства.** *Задунайская славяншчына атурэ-*

*чылася, палабская—анямечылася, маскоўская—ататарылася, крывічанская—абезправілася.*

**СЛАГАТЬ** *што колечы,* **складаць—дацца, склад, складка, складчык—чыца.**

**СЛАДИТЬ** *што,* **зладзіць—дзіцца, зладжаны, злад.**

**СЛАДКІЙ, салодкі, салодшы, саладкаваты, саладзіць—дзіцца, салодчык, саладзец, соладзь.**

**СЛАДОСТНЫЙ,** салодкіх пачуваньняў або душы; **салодлівы, салодлівец—ліўка.**

**СЛАДОСТРАСТІЕ,** склоннасьць да цялесных насалод; **любаярлівы—васьць.**

**СЛАСТЕЦ** *м.* пахлебнік; **салодлік.**

**СЛАЗИТЬ** куды, **злязаць, зьлезць, злаз, злазны.**

**СЛАКОМИТЬ** *што,* зьесьць крадком; **зласаваць.**

**СЛАМЛИВАТЬ, зламываць—вацца, злом, зломны.**

**СЛАНЕЦ** *м.* усякі камень плітамі, слаямі; **лушчак, лушчэц, лушчывы.**

**СЛАПАТЬ** *што,* схапіць, ўзяць ў лапы, злавіць **злапаць—пацца; злапнуць,** сьцягнуць. У чарнігаўшчыне, ў паветах прыналежных этнографічна да Беларусі (Крывіі), ужываюць гэтае слова, зашто нашых чарнігаўцаў называюць—*лапацонамі.*

**СЛАСТИТЬ** *што у каго;* дабыць пахлебствам; **злабуціць.**

**С(Т)ЛАТЬ, слаць, слацца, сланьнё, слач—чка.**

**СЛАТЬ, слаць, слацца, шле, пасылае.**

**СЛЕГАТЬ, злягаць—гацца, злеглы, злегчыся.**

**СЛЕГКА** *прысл.* **злягка.** *Ён злягка яго ўдарыў. Пачынай работу злягка, хутчэй скончыш. Злягка намякнуў мне аб гэтым.*

**СЛЕЗА** *ж.* **сьляза, сьлязіна, сьлязіць—зіцца. сьлязлівы—лівасьць, сьлёзны, сьлязніца, сьлёза-**

точніца, **сьлязуха.** *Баба сьлязой а мужчына гарбом. Што сьляза сарвецца, то у под уткнецца. Праз золата сьлёзы цякуць. Масква сьлязам ня верыць. Паны на сьлезах вырасьлі.*

**СЛЕНДАТЬ,** бадзяцца без занятку; **шлындаць.**

**СЛЕСАР** *м. нямец.* майстар, які робіць замкі, які робіць рэчы халодным каваньнем; **слясар, слясарства; кавацтва, кавач.**

**СЛЕТАТЬ** *адкуль,* **зьлятаць—тацца. злёт, зьлятаньне.**

**СЛИВА** *ж.* дрэва і плод Prunus demestica; **сьліва, сьліўка; сьлівавіца,** гарэлка са сьліў.

**СЛИВАТЬ** *што,* **зьліваць—вацца, зьліў, зьліўкі, зьліўны.**

**СЛИТОК** *м.* **зьлітак, зьлітны.**

**СЛИВКИ,** прэсны адстой смятаны; **сьмятанка.**

**СЛИЗИСТЫЙ, склізны, склізьніца, скліза.**

**СЛИЗЫВАТЬ** *што,* **зьлізаць, зьлізывацца, зьліз, зьлізнуць.**

**СЛИЗУРКА** *ж.* пасемца паперы, якое кнігашытнікі прыклеіваюць да першага і апошняга сшытка кнігі; **пазіўка.**

**СЛИМОНИТЬ** *што,* **злапсьціць,** сьцягнуць, украсьць.

**СЛИНА, сьліна, сьлінька, сьлінькі, сьлінны, сьлінявы, сьлінявец, сьлінацёк.**

**СЛИНЯТЬ** *аб фарбе,* **зблякаваць.**

**СЛИПАТЬ, зьліпаць—пацца—паньне, зьліплы, зліпак, зліпчывы.**

**СЛИТНЫЙ, зьлітны, зьлітак, зьлітасьць.**

**СЛИЧАТЬ** *што з чым;* **зраўніваць, зраўнай, зраўнаньне, зраўновываць, зраўнальны, зраўнач—начка; стокміць.**

**СЛИШЕК, злішкі, лішніца, лішкі.** *Вазьмі колькі табе трэба, а лішкі аддай яму. Адных зьлішкаў то сколькі ён набраўся? Лішніцы ужо ты вымагаеш ад мяне.*

**СЛИШКОМ** *прысл.* **зьлішне, лішне.** *Гэтага ўжо лішне многа. Ён лішне добры чалавек. Зьлішне ты ўжо на яго нападаеш. Што зьлішне, той сьвіньні не ядуць.*

**СЛІЯНІЕ** *ср.* **зьліцьцё, зьліў.** *Зьліцьцё, зьліў двох рэк завуць „сутокамі". Зьліў пачуваньняў і жаданьняў.*

**СЛОБОДА** *ж. стар.* сяліба вольных, свабодных людзей, гэткія слабоды у нас бывалі каля гарадоў і дзеля гэтага найме *слабада,* сталася аднасловам працмесьця. *Ужо разагналі маўраў слабоды, люд іх ў няволі бядуе (Обуховіч).* **Слабаджане,** жыхары прадмесьцяў.

**СЛОВЕТЬ, слывецць, слыве, слыць.**

**СЛОВНО** *прысл.* **бытцам, маўляў, мэрам.** *Бытцам яго на агні пражаць, так верашчыць. Маўляў, маланка блiснула. Мэрам, чорт іх узнасіў.*

**СЛОВО** *ср.* **слова, слоўца, слоўка, слаўцо.**

**СЛОВЕСНЫЙ, слоўны, вустны.** *Слоўная, вустная умова.* Але рас. „безсловесный", гаворыцца—*бязмоўны. Бязмоўнае стварэньне.*

**СЛОВЕСНОСТЬ,** усё што выражаецца словамі, пісьмом; **пісьменнасьць, пісьменнік, пісьменніца.**

**СЛОВЕСИТЬ, гаварыць.**

**СЛОВАРЬ,** зборнік слоў і выславаў якой колечы мовы; **слоўнік, слоўніцтва.** *Стар.:* **вакабуляр.**

**СЛОВЕСНО, вустна.**

**СЛОВОПРЕНІЕ** *ср.* спрэчка славамі; **словаспрэчніцтва.**

**СЛОВООБИЛЬНЫЙ, многаслоўны.**

**СЛОВОСОЧИНИТЕЛЬ, словатворац.**

**СЛОВОПРОИЗВОДСТВО, словаскладня, словародня,** часьць граматыкі, этымолёгія.

**СЛОВООХОТЛИВОСТЬ, словаахвотлівасьць.**

**СЛОВУТЫЙ, славэтны—насьць.**

**СЛОГ** *м.* **склад.** *Словы зложаны са складоў. Склад мовы,* будова мовы.

**СЛОЕНЬЕ** *ср.* **слаістасьць.**

**СЛОЖЕНЬЕ** *ср.* **складаньне,** аб складаньні лічбаў; **склад,** аб будове цела, ці форме, выглядзе чаго.

**СЛОЙ,** пласт, слань матэрыі, які ляжыць адзін над адным пластамі; **слой, слаісты, слаіць—іцца, слаяваты, слаявіна.**

**СЛОМАТЬ** *што,* **зламаць—мацца, злом.**

**СЛОНИТЬ** *што,* **прысланяць, сланіць—ніцца; сланяцца,** хадзіць без занятку туды і сюды.

**СЛОН** *м. зьвер,* **слон, слані, сланёвы.**

**СЛУГА** *м.* **слуга, служка, служыць, служэньне, служба; пахолак.** *А вы, мае пахолкі, кажэце, што вы зрабілі (Сер жпут. 9).*

**СЛУЖИЛЫЙ, служомы.**

**СЛУЖИТЕЛЬ, служак, служака; служэбнік—ніца.**

**СЛУЖИТЕЛЬСТВОВАТЬ, слугаваць.**

**СЛУКАВИТЬ, схітрыць, схітраваць.**

**СЛУПЛИВАТЬ** *што,* **злупляць—ляцца, злупчывы.**

**СЛУХ,** адзін з пяці човаў чалавека, якім разпазнаюць гукі; **слух, слухаць, слуханьне.**

**СЛУЧКА** *ж.* **злука.**

**СЛЫШНЫЙ, чутны, чутна, чуткі.** *Чутна, што вайна будзе. Што чутна новага? Чутны крыкі. Чутны гром. Чуткае вухо. Чуткія сабакі.*

**СЛУЧАЙ, выпадак, трапля, прыгода, здарэньне, прылука.** *Прылука, бач, раз і самной прылучылася. Было на сьвеце здарэньне. Здарылася мне бачыць мядзьведзя. Не малая была ў нас ў дарозе прыгода. Чакай прыгоды, а прыгода ўжо цябе чакае. Не прапусьці гэтай траплі, купі сабе зямлі. Дзіўны выпадак зацьменьне, а я яго бачыў. Які гэта выпадак быў у вас?*

**СЛУЧАЙНОСТЬ, здарэньне, выпадак, трапля.**

**СЛУЧАЙНЫЙ, выпадковы, трапны.**

**СЛУЧАТЬ** *каго з кім, што*; **злучаць, злучаньне.**

**СЛУШАТЕЛЬ, слухач, слухачка.**

**СЛЫГАТЬ** *што*, **салгаць, зманіць.**

**СЛЫХАТЬ** *што*, **чуваць, чутно, чутка.**

**СЛѢВА** *прысл.* **зьлева, зьлявіць.** *Справа мора, зьлева горы. Захадзі зьлева.*

**СЛѢДИТЬ** *каго*, ісьці па сьлядох; **сачыць** (ад „сакмо"—сьлед).

*Коняй сядлайце,*
*На аблаву едзьця*
*Кунаў сачыці (Ром. 8—9. 113).*

**СЛѢДОВАТЬ** *за кім;* **ісьці.** *Ідзі за ім. Дні ідуць за днямі.*

**СЛѢДУЕТ**, павінна, трэба, выходзіць; **належыцца, належыць.** *Кождаму належыць клапаціцца аб сабе. Нікому не належыцца утыкаць носу ў чужыя справы.*

**СЛѢДОВАНЬЕ,** *войска, абозаў*; **ход, паход.**

**СЛѢДСТВІЕ** *ср.* шуканьне сьлядоў, пазнак, віны **сьледзтва, сьледавацель, сьледаваць.**

**СЛѢДСТВІЕ** *ср.* **вынік.** *А вынік з гэтага быў саўсім не чаканы.*

**СЛѢДУЮЩІЙ, наступны, чародны.**

**СЛѢД** *м.* **сьлед, троп, сакмо, ступно.**

**СЛѢЗАТЬ, злязаць, зьлез—злы.**

**СЛѢПИТЬ** *што*, **зляпіць, злепак.**

**СЛѢПОЙ, сьляпы, слепаваты, падсьлепы, сьляпец, сьляпяндзя; невідушчы, невідучы; сьляпень**—муха Tabanus; **сьляпіць** *каго*, **сьлепнуць, сьлепавокі; нявісны.**

**СЛЮБИТЬСЯ** *з кім*, **злюбіцца.**

**СЛЮДА,** слаістае, як шкло правіднае выкопнае; **луда, лудак.**

**СЛЮЗ, ШЛЮЗ** *м.* нямецк. Schluse; **завор.**

**СЛЯГА,** тонкае, доўгае бервяно; **друк, жэрдзь.**

**СЛЯКОТЬ**, **слата, слаціць; негадзь.**

**СМАЗЫВАТЬ** што чым; **мазаць—зацца, мазь, мазаны, мазок, мазень.**

**СМАЗЛИВЫЙ**, **гладкі, гладкасьць.**

**СМАЛИТЬСЯ**, **смыліць, смылкі, смылець.**

**СМАЛКИВАТЬ**, **змаўкаць, змоўкнуць, змоўк.**

**СМАЛУ** *прысл.* **змалку, змаленьства**: *Змалку дзён прывык да вады. Змаленьства я гэтага не бачыў і баяўся. Змаленьства дуронік, а падстарасьць злодзей.*

**СМАНИТЬ** *каго куды*; **знадзіць.**

**СМАРАТЬ** *што*, **спэцкаць—кацца.**

**СМАСТЕРИТЬ** *што*, **змайстраваць.**

**СМАТЫВАТЬ** *што*, **зматываць, змотак.**

**СМАХИВАТЬ** *што з чаго;* **змахаць.**

**СМАХИВАТЬ** *на каго;* **быць падобным.**

**СМЕЖАТЬ** *што*, **зьліжаць**; *аб вачах*: **самжаць самгнуў—гнуць.** *Толькі самгнуў вочы, аж нехта, чую, драгае ў дзьверы. Ані вачэй не самгнуў гэтае начы.*

**СМЕЖНЫЙ**, **сумежны, сумежна, сумеж.**

**СМЕКАТЬ** *што*, **спакмяваць, спокмеўка, спакмеў; скеміць, кемкі.** *Гэта каб ты упіўся ды ня скеміў... (Сержп. 69). Я ўлёт спакмеў чаго ён хоча. Слухай, ды спакмявай. Адзін мігае, а другі спакмявае. А ты спокмявай што людзі кажуць. Калі ня розумам дык спокмеўкай бярэ. Кемкі хлапец, усё ўлёт спакмявае. Ддбры дзяцюк ды спокмеўкі ў яго няма.*

**СМЕРЗАЦЬ**, **змярзаць, зьмерзлы, змярзляк.**

**СМЕРКАТЬСЯ**, **змяркацца—каньне, зьмерк, зморк, змрочны, змрочлівы.**

**СМЕРТЬ**, **сьмерць, сьмертухна, сьмяротка.**

**СМЕРТНЫЙ**, **сьмяротны—насьць, сьмяротнік.**

**СМЕРТЕЛЬНЫЙ**, **сьмяртлівы.** *Сьмяртлівы вораг. Сьмяртлівая крыўда.*

**СМЕРЧ**, навальнічны віхор, сувой і вір ў паветры; **склока.**

**СМЕТАТЬ** *што*, **зьмятаць—таньне, сумёт, сумётны; сумецішча; суметнік**, мейсца, куды зьмятаюць сьмяцьцё; **сумецьце**, ўсё непатрэбнае, што вымятаецца вон.

**СМЕТАНА** *ж.* **сьмятана.**

**СМИГИВАТЬ, зьмігаць—гацца, зьміглі.**

**СМИЛОВАТЬСЯ, зьлітавацца.**

**СМИРЯТЬ** *каго*, **успакаіваць—вацца.**

**СМИРЕНІЕ** *ср.* **супакоеньне, успакоеньне; пакора.**

**СМИРЕННЫИ, спакойны; пакорны.**

**СМИРНОСТЬ, супакойнасьць**

**СМИРЕННОСТЬ, пакорнасьць.**

**СМИРИТЕЛЬ, спакорнік—ніца.**

**СМИРИТЕЛЬНЫЙ, спакорчывы.**

**СМОКОВНИЦА** *ж.* дрэва і плод Ficus carica: **смоква.**

**СМОКТАТЬ, смактаць, цмактаць, цмактун.**

**СМОЛА** *ж.* **смала, смолка, смалянка, смалаваты, смольны: смоль**, чорная смала, копаць ад смалы, пах нечага смылелага, што засмылела ад гарачыні; **смаліць**, пакрываць смалой; **смалярня**, смалакурня; **смаляр; смаляк**, смалаватае палена.

**СМОЛВИТЬ, змовіць, прамовіць.**

**СМОРКАТЬ, сморкаць—кацца, смаркачы, смаркач.**

**СМОРОЗИТЬ** *што*, сказаць яўную ня праўду' **змахлыжыць.**

**СМОРЩИТЬ, зморшчыць—чыцца, зморшчкі.**

**СМОТАТЬ** *ніткі*, **зматаць.**

**СМОТРѢТЬ, глядзець—дзецца, агляд, агледзіны.**

**СМОТРИТЕЛЬ, даглядчык—чыца.**

**СМОЧЬ** *што*, **змагчы, змога; здолець.**

**СМОШЕННИЧАТЬ** *што*, **зжуліць.**

**СМРАДИТЬ, смуродзіць, сморад, сьмярдзець.**

**СМУДРИТЬ** *што*, **змудраваць.**

**СМУРІЙ, цьмяны—насьць, цьмянець; хмарны.**

**СМУТА** *ж.* **замутня; руіна; каломеса.**

**СМУЩАТЬ** *што*, **змучаць, змучаны; каламесіць; муціць.**

**СМУЩЕНІЕ, засаромленьне, сорам.**

**СМУТНЫЙ, мутны.** *Мутна памятаецца.*

**СМУТЬЯН** *м.* **змутар.**

**СМЫВАТЬ** *што*, **змываць—вацца, змыты.**

**СМЫКАТЬ** *што*, **змыкаць—кацца, змычны.**

**СМЫЧКА,** паз дзе адна рэч прытыкае да другой; **стык, стыкацца, стычны; зьвяно.**

**СМЫШЛЯТЬ** *што*, **змысьляць; здумляць, здуманы.**

**СМЫСЛ** *м.* **сэнс, сэнсоўна.** *У гэтым ёсьць сэнс. З сэнсам гавора. Усей прамовы сэнс такі, што бяз грошы нічога нязробіш.*

**СМЫШЛЕННОСТЬ, спрыт, спрытны—насьць; цямлівасьць, цямкі.**

**СМѢЛЫЙ** *аг. слав.* **сьмелы, сьмельшы, сьмялейшы, сьмеласьць, сьмялач—лачка, сьмелаваты, сьмялець, сьмельства, сьмельскі.** *Сьмелыя вочы ў мужчын—краса, ў жанок спагуда. Сьмеласьць сіле ваявода.*

**СМѢТЬ, важыцца.** *Ані важся гэта рабіць. Я не адважыўся сказаць. Як ён мог адважыцца на гэткі чын?*

**СМѢНЯТЬ** *каго, што;* **зьмяняць—няцца, зьмена, зьменнасьць.**

**СМѢРИВАТЬ** *што*, **зьмяраць—рацца, зьмераньне, зьмерка, зьмерны, зьмерак.**

**СМѢСИТЬ** *што*, **зьмясіць—сіцца, зьмесак.**

**СМѢСЬ, мяшаніна, мяшанка.**

**СМѢСТИТЬ** *што у чым;* **зьмесьціць, стоўпіць.**

**СМѢТА** *ж.* **каштарыс.** *Зрабіць каштарыс будоўлі. Каштарыс даходаў і выдаткаў;* **размяркацiя.**

**СМѢХ** *м. аг. сл.* **сьмех, сьмешкі, сьмехацьцё, сьмяхотны—хотлівы, сьмешны, сьмяшыць, сьмяяцца, сьмяхотнік—ніца, сьмеў, сьмеўкі, сьмевы, сьмяхоты.** *Работа, курам на сьмех. Гэта-ж коні сьмяяцца будуць! І сьмех і грэх. Ня тое сьмешна, што жонка мужа бье, а тое, што муж плача. Сьмяхотны хлапец. Сьмехацьцё дый тольки. Я гэта сказаў сьмехам (жартам), а ён і начапурыўся. У маладзежы заўсёды сьмевы ды перасьмеўкі.*

**СМѢТИТЬ** *што,* **скеміць.**

**СМѢТЛИВЫЙ, кемкі, кемлівы, кемкасьць.**

**СМЯГЧАТЬ** *што,* **зьмякчаць—чацца, зьмякаць, зьмяклівы, зьмякнуць, зьмяклы, зьмяклаць.**

**СМЯТЕНЬЕ, трывога, ўзбураньне.**

**СМЯТКА,** *аб вараным яйку;* **наўзьмяч.** *Звары яйко не на цьвёрда, а наўзьмяч.*

**СМЯТЬ, скомкаць, пакомкаць, скамшыць.**

**СНАБДѢВАТЬ** *каго чым;* **дастарчаць—чаньне.**

**СНАБЖЕНІЕ, дастача; засобленьне, засобіць—біцца, засоблівы.** *Чым (што) зямля засобіць (дастарчая)—тым і кормімся. Мы ўзасобілі яго ў дарогу усім патрэбным. Чалавек ўзасоблены розумам і воляй.*

**СНАДОБЛЯТЬ, азнадабляць, азнадаблены—біць.**

**СНАДОБЬЕ, прыправа; зельле; спэція.**

**СНАРУЖИ** *прысл.* зьверху, зьверхняй стараны **спаверху, спаверхнасьць.** *Спаверху гладка, а ў сярэдзіне гадка. Пстрыкаты рысь спаверху, а чалавек з сярэдзіны. Па спаверхнасьці нельга судзіць аб чалавеку. Дзеўка, хлапец гожай спаверхнасьці. Спаверху бытцам рай, а ў сярэдзіне пекла.*

**СНАРЯЖАТЬ** *што, каго*; **прыспасабляць—ляцца, прыспасобленьне, прыспасобка, прыспасобны, прыспасобнік—ніца, прыспасоблівы; прыладжаць—дзіцца, прыладжаньне.** *Прыспасобіў, прыладзіў ужо саху, калёсы на вясну. Прыспасобіць каго ў дарогу. Умелі ўзгадаваць, умейце і да жыцьця прыспасобіць.*

**СНАРЯДИТЬ** *каго чым;* **узасобіць**. *Узасобіць войска абозамі, ежай і адзежай.*

**СНАРЯД**, рэч як прылада ў рэмясьле, промысьле, умецтве; **прылада**. *Сьлясарскія, стругарскія прылады. Без прылады—як бяз рук.*

**СНАСИЛОВАТЬ** *каго*, **прыняволіць, прысілкаваць.**

**СНАСТЬ** *ж.* **начыньня**. *У краўца начыньня*; (чым ён „чыніць“, ад „чын“ работа, дзейнасьць): іголка, нітка, напалак, пегель; *у лаўца начыньня:* запасткі, стрэльба; *у стругара (сталяра):* стругі, далоты, пілы, і г. д.

**СНАЧАЛА** *прысл.* **спачатку, знова**. *Спачатку падумай, а пасьля скажы. Пачынай знова.*

**СНАЩАТЬСЯ, снадзіцца, аснада,** *рас.: „оснастка“.*

**СНЕВОЛИТЬ** *каго*, **зьняволіць, зьняволеньне, зьняволя.** *Бяда зьняволіла ў жэбрыісьці. Бацькаўская зьняволя прымусіла жаніцца.*

**СНЕСТИ** *што*, **зьнясьці, знасіць; зносьць,** цярплівасьць. *Ужо зносьці няма цярьпець далей.*

**СНЕТОК** *м.* рыбка Osmerus eperlanus; **стынка.**

**СНИГИРЬ**, птушка Loxia pyrrhula, **гіль. Гіліць,** прыслужываць каму паводле ўмовы гульні; **гіль**, навічок, практыкант, новы ў навуцы, ў вучэньні; **гілёк**, насок у начыньні, прыкладам у чайніку; **агіляцца**, марудзіць, гультаіць, унікаць шчырай работы; блазнаваць.

**СНИЗАТЬ** *пацеркі на шнурок,* **зьнізаць.**

**СНИЗУ** *прысл.* **зьнізу**. *Зьнізу мокра, зьверху золка. Зьнізу белы, зьверху чорны.*

**СНИМАТЬ** *што, скуль;* **зьнімаць—мацца, зьнімак, зьнімчывы.** *Зьнімі вопратку, шапку.*

**СНИСКИВАТЬ** *што,* шукаючы знаходзіць; **набываць—ваньне, набытак.** *Набываць хлеб працай. Набыць славу.* **Вышуківаць.**

**СНИСХОДИТЬ** *скуль,* **зыходзіць.** *Сонца зышло на захад. Зыходзіць народ з гары.*

**СНИСХОЖДЕНІЕ, паблажлівасьць, паблажлівы, паблажка.**

**СНИДТИ, зыйсьці, зыход.**

**СНИТИТЬ** *што, каго;* **зьнеціць,** зруйнаваць зьнішчыць, зьніштожыць.

**СНИТЬ,** расьціна, **сьнітка, шнітка.**

**СНОВА** *прысл.* **зноў, ізноў, пазноўна.** *Знова пачаў сваю басьню. Ізноў такі прышоў. Пазноў на разпачаў суд.*

**СНОВАТЬСЯ, сноўдацца, сьцяняцца.**

**СНОВИДѢНІЕ** *ср.* **сон, сны, сьніцца.**

**СНОЗА,** зьвязь двох розных рэчаў; **знуза, знузіць.** *Знузіць дышаль з павозкай.* Гаворыцца аб рэчах, якія злучаюцца пры помачы шворна, папярэчнай змацоўкі.

**СНОП** *м. аг. слав.* **сноп, снапы, снапаўё, снапок.**

**СНОПЬЯНОЕ** *зельля,* **снатворнае.**

**СНОРАВЛИВАТЬ** *што,* **прыпасовываць—вывацца, прыпасоўка; дагаджаць, гадзіць, дагодліва.**

**СНОРОВКА, зручнасьць, навык, навытар.**

**СНОСНЫЙ, зносны.**

**СНОСЛИВЫЙ, выносьлівы, выносьлівасьць.**

**СНОТОЛКОВАТЕЛЬ, снотлумач.**

**СНОХА** *ж.* жонка сына; **нявестка, сыновая.**

**СНУЗНІЙ** *црк.* **конны, коннік.**

**СНУР** *м. нямец.* **шнур—рок, шнураваць.**

**СНУРІЙ, пануры.**

**СНУТРИ** *прысл.* **зсярэдзіны.**

**СНЂГ** *м. агул. слав.* **сьнег, сьняжок, сьнежыць, сьняжысты, сьнежкі, сьняжына.**

**СНЂГУРКА, сьняготка, сьнегавік.**

**СНЂДЬ, яда, ежа, едзіва.** *Усё дадзена на ежу і на патрэбу чалавеку.*

**СНЮХАТЬ** *што,* **зьнюхаць, звохшыць.**

**СОБАКА** *ж.* **сабака, сабачка, сабацкі—бачы, сабачнік, сабакар; сабачня,** рас. „псарня", **сабачыцца.** У нас сабака не жаночага, як у маскалёў, а мужчынскага роду. *Сабацы, сабача сьмерць. Прымацкі хлеб—сабацкі. На каго людзі—на таго і сабакі. Любіш мяне, любі і майго сабаку.*

**СОБЕСЂДНИК, субясёднік—ніца, субясёдаваць.**

**СОБИРАТЬ** *што,* **зьбіраць—раньне, збор.**

**СОБЛАГОВОЛИТЬ, рачыць, рачаньне.** *Рачце госьцікі за сталы цісовыя, абрусы бялёвыя.*

**СОБЛАЗНЯТЬ** *каго,* **спакушаць—шацца, спакусьнік—ніца, спакуса.** *Чорт хацеў спакусіць іх (Сержп. 67). Чым сам хто спакусіўся, тым і другіх спакушае.*

**СОБЛЮДАТЬ** *што,* **заховываць—вацца.** *Заховываць звычаі і абычаі. Я захіваў сваю маемасьць. Ці заховываецца парадак выдаваньня грошы. Заховывай духоўную чыстату, беражыся брыдзі маральнай.*

**СОБОЛЬ,** зьвярок Mustela zibelina; **саболь, саболі.**

**СОБОЛЂЗНОВАТЬ** *каму,* **спачуваць—чуцьце, спачуваньне.**

**СОБОР** *м.* **збор, сабраньне, скупа, скупшчына.** *Двор вялікі, збор не вялікі, не ўся радня. (Шэйн).*

*Сабраліся паны, ксяндзы, архірэі,*
*Архірэі, большая скупа.*
*(Рогач. пав. Ром. 8-9 172).*

**СОБОЮ** *прысл.* **сабой.** *Ён гэта сам сабой зрабіў.*

**СОБРАТ** *м.* **пабратым.**

**СОБУТЫЛЬНИК** *м.* **спабутэльнік.**

**СООБЩА** *прысл.* **разам, супольна.** *Супольна ўсё робяць. Супольна таргуюць.*

**СООБЩИТЬ** *што каму;* **паведаміць;** *што з чым;* **злучыць, злучэньне.**

**СОБЫТІЕ** *ср.* **падзея.** *У нас з гэтага здарэньня зрабілі цэлую падзею. Гістарычныя падзеі служаць навукай патомству.*

**СОБСТВЕННЫЙ, свой, ўласны, собскі.**

**СОБСТВЕННОСТЬ, ўласнасьць, собіна, собінка.**

**СОБСТВЕННО** *прысл.* **ўласьціва.** *Ўласьціва зямля гэта яму не належыць.*

**СОБСТВЕННОРУЧНО, ўласнаручна.**

**СОБСТВЕННИК, ўласьнік—ніца; собнік—ніца**

**СОВА** *ж.* **сава, соўка, савіны.**

**СОВАТЬ** *што,* **суваць, сую, суеш, сувацца.** *Гляджу, аж ён суе мне грыўню ў руку. Ён суваўся да мяне біцца. Ня суйся ў паны, лекаем будзеш. Што ты яму там суеш у лапу. Усюды суваўся шукаючы праўды;* **торкаць, ткаць.**

**СОВЕРШАТЬ** *што,* **даконываць, дакананьне.**

**СОВЕРШЕННЫЙ, дакананы.** *Дакананы факт.*

**СОВЕРШЕННО, саўсім, зусім.** *Зусім іншы.*

**СОВЕРШЕННЫЙ, які дасьціг высшай дасканальнасьці; дасканальны.**

**СОВЕРШЕНСТВО, дасканальнасьць.**

**СОВЕРШЕНСТВОВАТЬ, дасканаліць—леньне.**

**СОВЕРШАТЕЛЬ, даканач.**

**СОВЕРШЕННОЛѢТНІЙ, поўналетні.**

**СОВЛАДѢВАТЬ, абладаць, абладаньне.**

**СОВЛАЧАТЬ** *з каго што;* **сьцягаць.**

**СОВМѢЩАТЬ, стоўпіць—піцца; зьмесьціць.**

**СОВМЕЩЕНІЕ** *ср.* **патоўплівасьць; сумеснасьць, сумеьслівасьць.**

**СОВМЕСТИТЕЛЬ, спатоўпнік—ніца; сумесьнік.**

**СОВМѢСТНО, сумесна, паспольна.**

**СОВОЗЛЕЖАТЬ** *з кім,* **суспол ляжаць.**

**СОВОКУПЛЯТЬ,** злучаць, зьбіраць у адно; **купіць, скупіць; злучаць; суспаляць.**

**СОВОКУПЛЕНІЕ, злучэньне, суспоненьне—ліцца.**

**СОВОКУПНО, злучна, супольна—насьць.**

**СОВОК** *м.* прылада да насыпаньня, адмена каўша зпераду аткрытага; **шупаль.**

**СЭВПАДАТЬ, зыходзіцца, супадаць, супадацца.**

**СОВПАДЕНІЕ** *ср.* зьбег варункаў; **супадак.** *Вялікдзень часам супадае з Багавешчаньнем.*

**СОВРАЩАТЬ** *каго,* **спаварачываць, абяртаць.**

**СОВРЕМЕНЯТЬ, зчасаваць.**

**СОВРЕМЕННЫЙ, сучасны—насьць.**

**СОВРЕМЕННИК, сучасьнік—ніца, сучасна.**

**СОВРЕМЕНЕМ, зчасам.** *Зчасам усё будзе.*

**СОВСѢМ** *прысл.* **саўсім, зусім.** *Саўсім Максім і шапка з ім. Зусім такі конь, як наш. Зусім усё добра, а толькі галаву сякуць.*

**СОВЫКАТЬСЯ, звыкацца, звыкся.**

**СОВѢСТЬ** *ж.* **сумленьне, сумленны—насьць.**

**СОВѢСТИТЬСЯ, сароміцца, стыдацца.**

**СОВѢЩАТЬСЯ** *каму з кім;* **радзіцца, раіцца.**

**СОВѢЩАНІЕ** *ср.* **нарада.**

**СОВѢЩАТЕЛЬ, райчы, радны, раднік.**

**СОВѢЩАТЕЛЬНОЕ** *мейсца,* **раднае.**

**СОВѢТОВАТЬ** *каму, што;* **радзіць, раіць—іцца.**

**СОВѢТ** *м.* **рада.** *Рада дзяржаўная. Добрая рада лепш за спогад. Даць каму раду. А пан гаспадар суды судзіць, рады радзіць (Вяс. песьня).*

**СОВѢТСКІЙ, радавы.** *Радавая рэспубліка. Радавы лад.*

**СОГБЕНІЕ** *ср.* **згіб, згорбленьне; пахіласьць.**

**СОГЛАШАТЬ, згаджаць—джацца.**

**СОГЛАСОВАТЬ, пагадз*і*цъ.**

**СОГЛАШАТЬСЯ, згадж*а*цца.**

**СОГЛАШЕНІЕ** *ср.* **угода.** *Зрабілі паміж сабой угоду.*

**СОГЛЯДАТЬ** *што,* тайна выведываць; **вызведываць—ваньне, в*ы*зведы.**

**СОГЛЯДАТАЙ, вызьв*е*дчык, вызьв*е*дніцтва.**

**СОГНИТЬ, згн*і*ць.**

**СОГНУТЬ** *што,* **сагб*а*ць, згібн*у*ць.**

**СОГРАЖДАТЬ** *што,* **зга**р**адж*а*ць, згар*о*джаны.**

**СОГРАНИЧНЫЙ** *з чым,* **паграні*ч*ны.**

**СОГРАЖДАНИН** *м.* **спаўграмадз*я*нін.**

**СОГРѢВАТЬ** *што,* **саграв*а*ць--в*а*цца, с*у*грэў.**

**СОГРѢШАТЬ, пагр*а*ш*а*ць—ш*а*ньне.**

**СОГРѢШЕНІЕ** *ср.* **пагрэшнасьць—шнік—шніца.**

**СОДВИГАТЬ, зсув*а*ць—в*а*цца.**

**СОДЕРЖАТЬ** *што, каго, дзе;* **утр*ы*млівацъ, утрым*а*ньне; трым*а*ць.** *Птушак трымаюць у клетках. Ён утрымлівае гэту школу на свой кошт.*

**СОДЕРЖАТЬ** *што у сабе;* **мець, мае; зьмяшчаць.** *Гарэлка гэта мае 30% на сто вады. Пуд мае 40 фунтаў. Кніга зьмяшчае ў сабе навуку аб прыродзе.*

**СОДЕЖАНКА** *ж.* **утрым*а*нка.**

**СОДЕРЖАНІЕ** *кнігі,* **зьм*е*ст.**

**СОДЕРЖАНІЕ,** выдатак на што; **утрым*а*ньне.**

**СОДЕРЖИМОЕ, зьм*е*сьціва.**

**СОДЕРЖИМОСТЬ, зьм*е*сьціва, пат*о*ўплівасьць.**

**СООДНОВА** *прысл.* **зразў, адразу.** *Адразу ўсё зьеў. Зразу падняў. Захацеў зразу ўсё мець.*

**СОДОМ,** крык, гоман, сварка; **гв*а*лт.**

**СОДРОГАТЬСЯ, здрыг*а*цца—н*у*цца, здрыг*а*ньне.**

**СОДѢЙСТВОВАТЬ, дапамагаць.**

**СОДѢТЕЛЬ, зьдзейца.**

**СОЕДИНЯТЬ** *што з чым;* **злучаць—чацца, злучэньне, злучнік—ніца; суадналяць, суадно-лены—леньне, суаднольнік—ніца.**

**СОЁК** *м.* дрот, якім прачышчаюць люльку; **пра-тар.**

**СОЖАЛѢТЬ, шкадаваць—ваньне.**

**СОЖИГАТЬ** *што,* **спаляць—ляньне, спал.** *Гэты паперы пойдуць на спал.*

**СОЖДАТЬ, пачакаць.**

**СОЖИМАТЬ, сьціскаць, сьціск.**

**СОЖИТЕЛЬ сужывец, сужывецтва.** *Сужывецтва людзей варункуецца выпаўненьнем права.*

**СОЖИТЕЛЬСТВО,** ў значэньні няпраўнага зьвяз. ку мужчыны з жанкой; **сойдніцтва, сойда, сай-дацтва.**

**СОЖРАТЬ, зжорці.** *Ён гатоў зараз ўсё зжорці*

**СОЗВАТЬ** *гасьцей,* **сазваць, склікаць.**

**СОЗВУЧІЕ** *ср.* **созгук, сазгучнасьць, сазгучча.**

**СОЗВѢЗДІЕ,** кучка гвезд, сабраных пад адно, найменьне; **спагвезьдзе.**

**СОЗДАВАТЬ** *што,* **ствараць, тварыць, твор, тварэц.**

**СОЗИДАТЬ** *што,* **тварыць, творчы—часьць; будаваць.**

**СОЗЕРЦАТЬ** *што,* глядзець ўнікаючы ў істоту рэчы; **зеціць—чаньне, зетлівы—васьць, зетнік, зетніца.** *Бог зеціць помыслы сэрца чалавечага. Зецячы прыроду, зецім вялічча Стварыцеля.*

**СОЗЕРЦАТЕЛЬНЫЙ, спазетлівы.**

**СОЗНАВАТЬ** *што,* **усьвядамляць.** *Ён усвядамляе памылку сваю. Ён сам не ўсьвядамляе сабе што робіць.*

**СОЗНАНЬЕ** *ср.* **сьвядомасьць; прытомнасьць.** *Хворы ляжыць без прытомнасьці ўжо. Сьвядомасьць адпавядальнасьці пабуджае чыннасьць.*

**СОЗНАТЕЛЬНЫЙ, сьвядомы.** *Сьвясомы пасту пак.*

**СОЗНАТЕЛЬНОСТЬ, сьвядомасьць.**

**СОЗРѢВАТЬ, сьпецъ, сьпеньне, сьпеласьць.**

**СОЗРѢВАТЬ** *што,* **аглядаць, агляд.**

**СОИЗВОЛЯТЬ** *што, або на што;* **прызваляць —леньне.**

**СОИМЕННИК** *м.* **цёска, аднайменьнік.**

**СОИСКАНІЕ** *ср.* **спаборніцтва, спаборнік—ніца.**

**СОКОЛ** *птах,* **сакол, сакалок, саколка.**

**СОКРАЩАТЬ** *што,* **скарачаць—цца, скарот.**

**СОКРОВЕННЫЙ, скрыты, скрытасьць.**

**СОКРОВИЩЕ** *ср. даўней:* **схоў;** *цяпер:* **скарб.**

**СОКРУШАТЬ** *што,* крушыць, бурыць, ламаць; **скрушаць, скрушацца, скруха, скрушаны, скрушны.**

**СОЧЕВИЦА** *расц.* Ervum lens; **сачыўка, сачывіца.**

**СОЧЕЛЬНИК** *м.* вечар перад Калядамі; **конадзень, конаднік; канодаваць,** спраўляць вячорнае сьвята з абрадовай вячэрай.

**СОКОВНИК** *м.* **сачэнь,** **блін,** піражок, печаны на макавым ці калапельным малацэ.

**СОЛДАТ** *м. нямецк.* **жаўнер—ства; ваяр.**

**СОЛИДНЫЙ** *франц.* **надзейны, пэўны,**

**СОЛИДАРНОСТЬ** *франц.* кругавая парука, адзін за ўсіх і усе за аднаго; **аднамыснасьць.**

**СОЛИСТ** *м. франц.* лепшы па голасу і ўменьню сьпявак, адзіночны сьпявак.

**СОЛИТЕР,** чарвяк які трапляецца ў жалудку ў чалавека, тасемісты гліст; **тасемнік.**

**СОЛНЦЕ** *аг. слав.* **сонца, сонейка, сонечна.**

**СОЛНЕЧНИК,** расьціна Helianthus annuus; **сонечнік.**

**СОЛНЦЕВОРОТ, сонцаварот.**

**СОЛОВЕЙ** *птах*, салавей, салавейка, салаўіны; салоўка.

**СОЛОВЫЙ** *масьць*, буланы.

**СОЛОТЬ**, рэдкае і вязкае балота; крокаць.

**СОЛОХА** *ж.* русалка.

**СОЛЬ** *аг. слав.* соль, салёны, саліць, солена, солка.

**СОЛОНКА** *ж.* начыньне да солі; сальніца.

**СОЛЬБА**, саленьне, саляніна.

**СОМНАБУЛИЗМ** *фрн.* люнатызм.

**СОМНѢНЬЕ** *ср.* нявера, падозрывасьць, боязьнь; сумнеў, сумнявацца, сумнеўна, сумнеўны, сумнеўнасьць.

**СОМРАК** *црк.* зьмерк.

**СОНМ** *м. црк.* сход, збор, сходка, зьбежышча.

**СОН** *аг. сл.* сон, сонны, санлівы, соня, сонька соннасьць.

**СООБРАЖАТЬ** *што*, мяркаваць, кеміць.

**СООБРАЖЕНІЕ** *ср.* мяркацыя, амяркацыя.

**СООБРАЗНЫЙ** *з чым*, адпаведны, згодны.

**СООБРАЗИТЕЛЬНОСТЬ**, здагадлівасьць, кемлівасьць

**СООБРАЗОВАТЬ** *што з чым;* згадзіць, пагадзіць.

**СООБЩАТЬ** *што, каму:* перадаваць—вацца; павядамляць.

**СООБЩЕНЬЕ**, злука, спалука; павядомленьне.

**СООБЩАТЬСЯ**, злучацца; знасіцца.

**СООБЩА**, разам, супольна, агулам, злучна.

**СООБЩНИК**, супольнік—ніца; спалучнік.

**СООБЩЕСТВО**, суполка, супольнік—ніца; спалука.

**СООРУЖАТЬ** *што*, будаваць—ваньне, будынак.

**СООТВЕТСТВЕННО** *чаму*, адпаведна.

**СООТВѢТСТВОВАТЬ**, адпавяд*а*ць.

**СООТЕЧЕСТВЕННИК** *м.* спаўб*а*цькавіч.

**СООТНОШЕНІЕ** *ср.* стас*у*нак.

**СООТНОСИТЬСЯ**, стас*у*ецца.

**СОПЕЛКА** *ж.* сьвісьц*ё*лка.

**СОПЕРНИК** *м.* спад*у*жнік, спаб*о*рнік.

**СОПЕРНИЧАТЬ**, спадуж*а*цца, спабар*а*цца.

**СОПЛЕМЕННИК** *м.* крыв*і*ч, пабрат*ы*м.

**СОПОСТАВЛЯТЬ** *што з чым*, спастаўл*я*ць.

**СОПРИКАСАТЬСЯ** *з чым*, ст*ы*к*а*цца.

**СОПРИКОСНОВЕНІЕ** *ср*, ст*ы*к, ст*ы*чнасьць.

**СОПРИЧАСТНЫИ**, спрыч*ы*нны.

**СОПРИЧАСТНИК**, спрыч*ы*ннік—ніца.

**СОПРОВОЖДАТЬ** *каго*, прав*о*дзіць.

**СОПРОТИВ** *чаго*, наспр*о*ць, наспр*о*цьны.

**СОПРОТИВЛЯТЬСЯ**, спраціўл*я*цца—л*е*ньне.

**СОПРѢТЬ**, стл*е*ць, сапрэць.

**СОПѢТЬ**, сап*е*ць, сапн*у*ць, сапсьц*і*, сап*е*ньне, сап*у*н, сап*у*чы, с*о*пат.

**СОРАБОТНИК**, супрац*о*ўнік—ніца, супрац*о*ўніцтва; спараб*о*тнік.

**СОРАДОВАТЬСЯ**, спацяш*а*цца.

**СОРАЗМѢРЯТЬ** *што з чым*, спамяр*а*ць.

**СОРАЗМѢРНЫЙ**, спам*е*рны—н*а*сьць.

**СОРАТНИК** *м.* спаб*о*рнік.

**СОРДѢТЬ**, зж*а*ўрэць.

**СОРЕВНОВАНІЕ**, с*у*сьціг, сусьціг*а*цца, сусь ц*і*жнік—ніца; спаборн*і*цтва.

**СОРИНКА** *ж.* паруш*ы*нка, тр*у*сачка, затр*у*сіць.

**СОРОКА**, *птах*, сар*о*ка.

**СОРТИРОВАТЬ** *франц.* гатунка*ва*ць.

**СОРТ** *м. франц.* гат*у*нак—нк*о*вы.

**СОР** *м.* сум*е*цьце, сум*е*тны, сум*е*тнік; шу*м*а.

**СОСАТЬ, ссаць, ссаньне, соска, сутка, суток, сасіць, сасуха; смактаць.**

**СОСКОЛЬЗАТЬ, саскаўзаць, сасьлізаць; шчакаўзаць.**

**СОСКУЧИТЬСЯ, змаркоціцца.**

**СОСЛОВІЕ,** людзі агульнага ім заняцьця, агульных правоў; **стан.** *Купецкага, духоўнага стану чалавек.*

**СОСЛУЖИВЕЦ** *м.* **супрацоўнік—ніца.**

**СОСОК** *м.* сама барадавачка на грудзёх; **музок, музік;** музы, вусны; **сойчык.**

**СОСРЕДОТОЧИВАТЬ, скупляць—ляцца, скуплены.** *Скупіць войска. Скупіць увагу, мысьлі.*

**СОСРЕДОТОЧЕННОСТЬ, скупленнасць.**

**СОРОДНИКИ, сваякі, родзічы.**

**СОСТАВЛЯТЬ** *зкуль далоў:* **зстаўляць, зстаўляньне.**

**СОСТАВ,** матэрыя, зложаная з рожных матэрый; **сызбор, сызборны.** *Сызбор складанага стала. Сызбор для пазалоты. Сызбор гэтага лякіру невядомы. Сызбор войска, роты, батальёну. Сызбор вады: дзьве часьці вадароду і адна часьць квасароду, на вагу. Сызборныя часьці лякарства.*

**СОСТАРИТЬ** *каго,* **састарыць.**

**СОСТОЯТЬ, складацца—дацца; быць.**

**СОСТОЯТЬСЯ, адбыцца.** *Адбыліся таргі.*

**СОСТОЯНЬЕ** *ср.* **стан; меньне.**

**СОСТОЯТЕЛЬНЫЙ, маетны.** *Маетны чалавек.*

**СОСТРАДАНЬЕ, спачуваньне--чуваючы. спачуцьцё.**

**СОСТРОГАТЬ, саstругаць.**

**СОСТРОИТЬ** *дом,* **збудаваць.**

**СОСТРЯПАТЬ** *што,* **згатаваць.**

**СОСТЯЗАТЬСЯ** *з кім,* **сасьцігацца, сусьцігі.**

**СОСТЯЗАТЕЛЬНОЕ** *кіравніцтва,* **сусьцігоўчае.**

**СОСУД** *м.* **начыньне.** *Начыньне дрэўлянае, глінянае, мядзянае, сярэбранае. Ночыньня цар-*

*коўнае. Начыньні крованосныя. Начыньне сталовае, варыўнае.*

**СОСЧИТЫВАТЬ**, **зьлічаць—чацца, зьлік, зьлічыць—чыцца; рахаваць.**

**СЧЕТОВОДСТВО, рахункoвасьць.**

**СЧЕТОВОД** *м.* **рахмайстар.**

**СОСѢДСТВО** *ср.* **суседзтва, сусед—дка, суседзкасьць, суседні, суседзька.**

**СОТВОРЯТЬ** *што*, **ствараць.**

**СОТЕННЫЙ, сотны.** *Сотны раз кажу табе!*

**СОТОВАРИЩ** *м.* **сутаварыш—шка.**

**СОТРАПЕЗНИК** *м.* **сусталоўнік.**

**СОТРУДНИК** *м.* **супрацоўнік—ніца, супрацоўніцтва, супрацоўны.**

**СОТРЯСАТЬ** *што*, **ўстрасаць—сацца.**

**СОТРАСЕНЬЕ, ўстраска, страсежа.**

**СОТЫ**, васковыя начынькі да мёду, як іх робяць пшчолы; **вуза, вузовы** мед, мед ў вузе, ня спушчаны; **вузок**, адна асобная каморачка вузы.

**СОУМЫШЛЕННИК, супольнік злачыну.**

**СОУС** *м. франц.* поліўка, якой паліваюць мяса падаючы на стол; **сос; сосьніца.**

**СОУЧАСТВОВАТЬ** *у чым*, **быць супольнікам.**

**СОУЧАСТНИК, супольнік—ніца.**

**СОФА** *ж. турэцк.* шырокі услон з поручамі, абіты тканінамі; **услон.**

**СОХРАНЯТЬ** *што, каго;* **хаваць, заховываць, пераховываць.** *Хавай цябе Божа! Збожжа трэба пераховываць у сухім мейсцы. Заховывай свае слоза.*

**СОХРАННОСТЬ, спахоўнасьць, спахоўны, спахоў.** *Усе вашы рэчы ў спахоўнасьці, ў цэласьці. Аддаць што ў спахоў. Спахоўна знайшоў свае рэчы.*

**СОХРАНЧИВЫЙ, спахоўлівы, спахоўчывы.**

**СОХРАНИТЬ, ухаваць.** *Ухавай Божа!*

**СОЦІАЛЬНОСТЬ** *ж. франц.* **грамадзкасьць.**

**СОЦІАЛИЗМ** *м. франц.* вучэньне аб будове грамадзкага ладу; **соціялізм.**

**СОЧЕТАТЬ, злучаць, падбіраць.**

**СОЧЕТАНІЕ, злучэньне, падбіраньне, падбор.**

**СОЧИНЯТЬ** *што*, **тварыць, твор, творчасьць.**

**СОЧЛЕНЯТЬ, зьвязываць, счапляць, сустаўляць.**

**СОЧЛЕНЕНІЕ, сустаў, суставы.**

**СОЧУВСТВОВАТЬ** *каму*, **спачуваць, спачуцьце,** спачуваюча. *Спачуваць чужому гору.*

**СОШЕСТВІЕ,** зойсьце. *Зойсьце з гары.*

**СОЩИПЫВАТЬ** *кветкі*, **сашчыкаць—шчыкнуў.**

**СОЮЗ** *м.* ўзаемная зьвязь; **сувязь.**

**СОЮЗНЫЙ, сувязны, сувязьнік—ніца.**

**СПАЗМЫ** *ж. мн. лац.* **сутаргі.**

**СПАИВАТЬ,** змацовываць мэталічнай лютоўкай; **зьлютовываць—вацца.**

**СПАЙКА** *ж.* **зьлютоўка;** **зьлітнасьць.**

**СПАЛЗЫВАТЬ** *з чаго*, **спаўзаць, споўз.**

**СПАЛЬНЯ** *ж.* пакой да спаньня; **апачывальня.**

**СПАРЖА** *ж.* расьціна Asparagus officinalis; **шпарагі, шпаражнік.**

**СПАРХИВАТЬ, спырхаць, спырхнуць.**

**СПАСАТЬ** *каго*, **ратаваць; збаўляць.** *Ратуй тонучага. Ня лекар ратуе, а Бог. Вера збаўляе.*

**СПАСАТЬСЯ, ратавацца; збаўляцца.** *Тавар ратуецца, а карабель тоне. Ратуйся, хто можа! Збаўляецца, а па тры разы ў дзень напіваецца. Збаўляецца, шукае сабе збаўленьня ў пустэльні.*

**СПАСАНЬЕ, ратаваньне.**

**СПАСЕНЬЕ, ратаваньне, паратунак; збаўленьне.** *Ратаваньне тонучых. Збаўленьне душы. Без цярпеньня няма збаўленьня.*

*Дзеўка-дзявіца я цябе паратую,*
*Я цябе паратую, за сябе замуж вазьму.*
*(Ром. 8—9 с. 179).*

**СПАСИТЕЛЬНАЯ** *лодка*, **ратунковая.**

**СПАСИТЕЛЬ, ратаўнік; збавіцель.** *Ратаўнік убогіх. Ратаўнік патапаючых. Хрыстос збавіцель наш. Хрысьце, Боже, збавіцелю наш (Скарына).*

**СПАСИБО** *прысл.* **дзякую.** *Дзякую Богу і вашэці за начлег у клеці.*

**СПАТЬ, спаць, спаткі, спатухны, спатанькі, спатачкі, спаньнё, сьніцца.**

**СПАХНУТЬ** *што*, **змахнуць, зьмясьці.**

**СПАЯТЬ** *што*, **зьлютаваць.**

**СПЕЧЬ** *што*, **сьпячы—чыся, сьпечаны, сьпека.**

**СПЕКТАКЛЬ** *м. франц.* **відовішча, прадстаўленьне.**

**СПЕКУЛЯЦІЯ** *ж. франц.* **спэкуляцыя—лянт; махлярства, махлер.**

**СПЕЛЕНАТЬ** *дзяцё*, **спавіць—ваньне.**

**СПЕПЕЛИТЬ** *што*, **спапяліць.**

**СПЕРВА** *прысл.* **спярша.** *Спярша так, а цяпер гэтак. Тыж-бы спярша сказаў гэта.*

**СПЕРЕТЬ** *што*, **сьперці.**

**СПЕРТЫЙ,** *аб паветры*: **затхлы.**

**СПЕСЬ** *ж.* **пыха, пышны, пышлівы—васьць.** *А барыня пышна на вуліцу вышла. Разумнай пыхі не бывае. Дурань павім пяром пышаецца.*

**СПЕЦІЯ** *ж. лац.* **лякарства, зельля.**

**СПЕЦІАЛЬНЫЙ** *лац.* **спэціяльны; нарочны.**

**СПЕЦІАЛЬНО, нарочыта.**

**СПИНА** *ж.* задняя (у чалавека), або верхняя (у жывёлаў) часьць цела; **хрыбет; горб; плечы, плечкі.**

**СПИНКА** *у крэсьле*, **прыслон, плечкі.**

**СПИРАЛЬ, вітуніца—нічны; сьпіраля.**

**СПИХИВАТЬ** *што зкуль*; **сьпіхаць—ханьне.**

**СПИЦА** *ж.* (ням. Spitze); **пруток, прут.**

**СПИЧКА** *ж.* **сернік, сернікі, сернічны.**

**СПИЧ** *м. англ.* **прамова.**

**СПЛАВЛЯТЬ** *што з чым;* **стапляць—ляцца.**

**СПЛАВ** *м.* **стопак.** *Стопак серабра.*

**СПЛАВ** *па рацэ,* **сплаў, сплаўная, сплыць.**

**СПЛАНИРОВАТЬ** *што,* **сплянаваць.**

**СПЛАЧИВАТЬ** *што,* цесна зьбіваць; **шчыціць, шчытны, сашчіціць—ціцца.**

**СПЛЕСНУТЬ, спаласнуць—нуцца.** *Рыбіна спаласнулася ў чароце;* **плянснуць.**

**СПЛЕТНИ, плёткі, каверзьні.**

**СПЛЕТНИК, пляткар—карка.**

**СПЛИН** *м. англ.* **хаморлівасьць.**

**СПЛОТИТЬ** *што,* **сашчыціць; зьліць.**

**СПЛОХОВАТЬ, скепсціць.**

**СПЛОШЬ** *прысл.* **зьлітна, ўшчыць.**

**СПЛОШНОЙ, зьлітны, шчытны.**

**СПЛУТАВАТЬ, змахляваць.**

**СПОБОРНИК, спаборнік, памочнік.**

**СПОБОРСТВОВАТЬ** *каму, чаму;* **памагаць.**

**СПОДВИЖНИК, таварыш падзей.**

**СПОДОБЛЯТЬ** *каго,* **годным учыніць.**

**СПОДРУЧНО, зручна—насьць.**

**СПОДРУЧНИК, памочнік—ніца.**

**СПОЛНА** *прысл.* **поўнасьцю.** *Грошы атрымаў ўсе поўнасьцю.*

**СПОРА** *ж. лац.* зародышы ў бязкветных, безнасенных расьцінах; **зярло, зярліца, зерлавыя, зерлакі.**

**СПОРИТЬ** *з кім,* **спрачацца, спрэчка.**

**СПОРЛИВЫЙ, спрэчлівы.**

**СПОСОБСТВОВАТЬ** *чаму,* **памагаць.**

**СПОСПѢШЕСТВОВАТЬ** *каму,* **спрыяць, памагаць.**

**СПРАШИВАТЬ** *каго,* **пытаць—тацца.**

**СПРОС** *м.* **попыт.** *Сёлета ёсьць попыт на лён.*

**СПРОВАДИТЬ** *каго,* **прагнаць, аднадзіць.**

**СПРИГИВАТЬ** *скуль,* **саскаківаць.**

**СПРЫСНУТІЕ** *ср.* **спрыскі.**

**СПРЯГАТЬ** *каго з кім,* **злучаць, падбіраць.**

**СПРЯЧЬ** *коні,* **спрагчы, спрагаць.**

**СПРЯМЛЯТЬ** *што,* **спрастовываць.**

**СПРЯТАТЬ** *што,* **схаваць—вацца, схоў, схо-
вы, схоўна, схоўкі, схоўшчык—чыца.**

**СПУГАТЬ** *каго,* **спужаць, злякнуць, спудзіць.**

**СПУД,** мерка да збожжа; **карэц.**

**СПУТАТЬ** *што,* **зблутаць, скудлаць.**

**СПЯТИТЬ** *з розуму,* **злузнуцца** з глуздоў.

**СРАВНИВАТЬ** *што з чым;* **раўняць—няцца.**

**СРАВНЕНІЕ** *ср.* **параўнаньне, зраўнаньне.**

**СРАВНИТЕЛЬНЫЙ, параўнаўчы.**

**СРАЖАТЬ** *каго,* **зьбіваць, бітва.**

**СРАЗУ** *прысл.* **зразу.** *Зразу ўсяго ня зробіш. Як ня думай, а зразу ня выдумаеш. Жыў, жыў дый зразу памер.*

**СРАМИТЬ** *каго,* **сароміць, стыдзіць.**

**СРАЩИВАТЬ** *што,* **ґаіць, гоіцца, гойчы.**

**СРОБѢТЬ, атаропець, торапкі.**

**СРОДНЫЙ** *каму, чаму;* **блізкі, радня, родны.**

**СРОДСТВО** *ср.* **радня** паміж сабой, **роднасьць.**

**СРОДНИК, сваяк—ячка, сваяцтва.**

**СРОДНИ** *прысл.* **радня.**

**СРОК** *м.* **тэрмін, тэрміновы—васьць, тэрміна-
ваць.**

**СРУБАТЬ** *дрэва,* **зсякаць, зсяканьне—кацца.**

**СРУЧНЫЙ, зручны—насьць, зручнець.**

**СРЫВАТЬ** *што з чаго;* **зрываць—вацца зры-
ваньне, зрыўны, зрывак.**

**СРЫВАТЬ** *што,* **скапываць—вацца, скоп, скапываньне, скопны.**

**СРѢДКА** *прысл.* **зрэдка, рады ў гады.** *Ён зрэдка ды абмовіцца. Госьці рады ў гады бываюць у нас.*

**СРѢЗЫВАТЬ** *што,* **зрэзаць—зацца, зрэзаньне, зрэз, зрэзак.**

**СРѢЧАТЬ** *каго,* **сустрачаць—чацца, сустрэчаньне, сустрэча, сустрэчны—ніца; страчаць; судашаць.**

**СРЯДУ** *прысл.* **счароду, спочарадзь.** *Счароду тры дні не было яго. Бяры счароду, спочарадзь.*

**СРЯДИТЬ** *каго, куды;* **наладзіць, наладжаць, наладжацца, ладзіць.** *Яны сына ладзяць ў салдаты. Наладзіла мужа ў паездку. Гаспадар наладзіў парабкоў у лес. Княгіню да вянца ладзяць.*

**ССОРА** *ж.* **свара, сварка, сварыцца, сварны, сварлівы—насьць, сварыць, сварлівец—ліўка.** *Куды не ступне сварку пачне. Сварка да дабра не даводзіць.*

**ССУЖАТЬ** *каго чым;* даваць у позыч; **пазычаць.**

**ССУДА** *ж.* **пазыка, пазычка, пазытчык**—хто пазычае.

**ССУДНЫЙ, пазычковы.**

**СТАТНЫЙ, стройны, госкі.**

**СТАВЛЕННИК,** кандыдат, **стаўленік.**

**СТАВНИ,** затворы да вокан; **вакянніцы.**

**СТАНОК** *м.* **паставок, постаў.** *Сталярск (стругарскі) паставок; такарскі паставок і інш*

**СТАНОВЬЕ** *ср.* **стан, табар, стаянка.**

**СТАДО** *ср.* **стада, стадка; стаднік,** самец разплоднік.

**СТАКАН** *м.* **шклянка.** *Шклянка піва.*

**СТАКАТЬСЯ** *з кім,* **стакацца, стэхціцца.**

**СТАЛКИВАТЬ** *што, каго;* **сьпіхаць—хацца, сьпіхнуць.**

**СТОЛКНОВЕНІЕ** *ср.* **стычка.**

**СТОЛОЧЬ** *што*, **стаўчы.**

**СТАЛПЛИВАТЬ** *каго*, зганяць, сцясьняць таўпой; **стаўпляць—ляцца.**

**СТАМЕСКА** **ж.** *нямец.* Stemmeisen; **далато.**

**СТАНЦІЯ** *ж. лац. франц.* мейсца астаноўкі падарожных; **станція.**

**СТАРАТЬСЯ, старацца, старэньне, старэнна.**

**СТАРАТЕЛЬНЫЙ, старэнны—ная.**

**СТАРИК** *м.* **старац, старчы, старэчы.**

**СТАРИНА** *ж.* **старасьвеччына—сьветны.**

**СТАРИЦА** *ж.* **старка.**

**СТАРЬЕ, старызна, старцё.**

**СТАРОВЩИК, стараветнік, старэтнік.**

**СТАРИННЫЙ, стараветны, старэтны.**

**СТАРШИНА, старшыня, старшынства.**

**СТАСКИВАТЬ** *што*, **сьцягаць, сьцягнуць—ганьне.**

**СТАТСКІЙ** *м. нямецк.* не вайсковы; **цывільны.**

**СТАТУЯ** *м. лац.* **стод, стодзік, стодзіва.**

**СТАЧКА** *ж.* ад „так“, „патакаць“; **стачка.**

**СТАЩИТЬ** *што* **сьцягнуць.**

**СТАЯ** *ж.* **стада, чарада, плойма.** *Стада ваўкоў пабегла. Адкуль не вазьміся цэлая чарада ваўкоў (Сержп.). Плойма варон, груганоў узьнялася. У восень каўкі аднэй плоймаю з воронамі лётаюць. Жураўлі плаймуюцца ўжо ў вырай ляцець.*

**СТВОЛ** *м.* **галамень, галомісты.** „Галамень“, голае мейсца пня, ад каранёў да гальля, гаворыцца аб дрэвах.

**СТВОРЯТЬ** *што*, **счыняць—няцца, счын.**

**СТЕАРИН** *м. грэцк.* лаёвы воск; **стыарына.**

**СТЕБАТЬ** *каго*, **сьцябаць, сьцёбнуць, сьцебануць.**

**СТЕБЕЛЬ** *м.* **сьцібло, сьціблавіна, сьціблаваты; батаўё, батугі,** сьціблы сочных травяністых расьцін, прыкл. буракоў (бацьвіньне), рэдзькі і інш. пад.; **гічы, гічаўё,** сьціблы паўзучых расьцін, прыкладам у агуркоў, гарбузоў—цягнуцца ад караня гічы; **націва, націньне, нацьва, нацьць,** у расьцін, у якіх няма стабуроў і батаўё ня тоўстае, не буцьвянае, (як у буракоў), прыкл. **націва рэпы; стаўбур,** пень травяністай расьціны; **ладыга,** сьцібло апавойнай і лазячай расьціны; **каліва, каліўка, каліўцам** называецца кождае аддзельнае сьцібло, парасьць ўсякай расьціны.

*А ў гародзе на лясе*
*Тры калівы бобу (Нар. прып.).*

**СТЕГАТЬ** *коўдру,* **пікаваць;** *пугай;* **сьцёбаць, сьцябаць, сьцябаньне; хлыстаць.**

**СТЕКАТЬ, сьцякаць, сток, сточны.**

**СТЕКЛО** *ср.* **шкло, шклянны, шкелка, шкліць, шкліцца, шклець.**

**СТЕКЛЯР** *м.* **шкляр—[illegible]тва.**

**СТЕКЛОВАРНЯ, шкл[illegible]ня, гута.**

**СТЕНАТЬ, стагна[illegible]ь—наньне, стогн.**

**СТЕПЕНЬ** *ж.* **ступень, ступенны—насьць.**

**СТЕПЕНСТВО** *тытул,* **ваша, вашэць.**

**СТЕПЬ,** бязлесая пусташ; **стэп.**

**СТЕРЖЕНЬ, стыржэнь—жнёвы.**

**СТЕЧЕНЬЕ** *варункаў,* **зьбег.**

**СТИБРИТЬ** *што ў каго;* **збондзіць.**

**СТИЛЬ** *м. нямец.* **стыль, стылёвы.**

**СТИПЕНДІЯ** *ж. лац.* грашавая падмога выдаваная немаетнаму вучню; **стыпэндзія, запамога.**

**СТИРАТЬ** *бялізну,* **праць, прачка.**

**СТИСКИВАТЬ** *што,* **сьціскаць, сьціск.**

**СТИХІЯ** *ж. грэцк.* нежывая сіла прыроды: *зямля, вада, паветра і агонь;* **стыхія, стыхійны.**

**СТИХ** *м.* **верш, вершаваць—ваньне.**

**СТЛАТЬ, слаць, сланьнё, пасьцель.**

**СТОГНА** *ж. црк.* пляц, ток пры вуліцы.

**СТОИМОСТЬ, кошт, каштоўнасьць.**

**СТОЛБЕЦ** *друку,* **гранка.**

**СТОЛБ** *м.* **стоўб, стоўбчык, стаўбец; стаўбун,** глінянае начыньне, асобнай формы.

**СТОЛБНЯК** *м.* хвароба tetanus; **паляруш.**

**СТОЛ** *м.* **стол, столік, сталец.**

**СТОЛОВАЯ,** пакой дзе абедаюць; **сталоўня, сталавацца, сталаўнік—ніца.**

**СТОЛЕЧНИК** *м.* **абрус, настольнік.**

**СТОЛЯР** *м.* **сталяр, сталярства -лярны; стругар стругарня.**

**СТОЛОНАЧАЛЬНИК** *м.* **пісьмавод.**

**СТОЛЬ** *прысл.* **так, гэтак.** *Так, гэтак мала.*

**СТОЛЬКО** *прысл.* **гэгулькі, сёлікa.** *Гэтульк турботы.*

**СТОЛКНОВЕНІЕ, стычка, зудэрка, зудэрыцца, здэрыцца.**

**СТОЛѢТІЕ** *ср.* **сталецьце, стагодзьдзе.**

**СТОМЛЯТЬ, змучыць, змарыць.**

**СТОНАТЬ, стагнаць, стогн, стогны, стагнаньне.**

**СТОПА** *ж.* ніжняя часьць нагі; **ступня.**

**СТОПКА** *ж.* **кубак, кубачак.**

**СТОПОР** *м.* **гілень; ілгак.**

**СТОРА** *ж.* **запавеса.**

**СТОРИЦА** *ж.* **сукрота, сукротны.**

**СТОРОЖИТЬ** *што,* **пілнавацьвацца, пілнаваньне; сьцерагчы—чыся, старожа, сторажражба.**

**СТОРОЖКА, старажоўка, седбаўка, будка.**

**СТОРОЖЕВОЙ, старожны.**

**СТОРОНА** *ж.* **старана, бок.**

**СТОРЧЬ, стырчь, стырчком—мя.**

**СТОСКОВАТЬСЯ** *па кім,* **змаркоціцца.**

**СТОШНИТЬ** *каго,* **самліць, знудзіць.**

**СТРАДАТЬ, мучыцца, мука; цярпеньне.**

**СТРАДА** *ж.* час жніва і касьбы; **пільніца.**

**СТРАНА** *ж.* ў значэньні абхвату зямель, мясцовасьці; **старана, край, зямля.**

**СТРАНИЦА** *ж.* кождая са старон аркуша паперы; **балонка.**

**СТРАННЫЙ, дзіўны, дзівацкі.** *Дзіўна, што яго дагэтуль няма. Дзіўныя справы творацца тут.*

**СТРАННОСТЬ, дзіўнасьць.**

**СТРАНСТВОВАТЬ, падарожнічаць—ніцтва, падарожнік—ніца.**

**СТРАСТЬ** *ж.* цялесны і духовы боль; **мука.** *Мука Госпада нашага Ісуса Хрыста. Усякіх мук у жыцьці нацерпішся.*

**СТРАСТЬ,** множства, бязмернасьць, вельмі многа; **страх, страшна, многа.** *Страшна балюча. Страшна хочацца. Страх, як ён скупы.*

**СТРАСТЬ,** духовы парыў да чаго, неакялзанае хаценьне, жаданьне; **жарскасьць, жарскі, жарсьць, жарлівасьць, запальчывасьць; пасыя, пасыянат.** *Кождая пасыя неразумная. Чалавек ў запальчывасьці горш зьвера. Любоў і ненавісьць процілеглыя пасыі. Жарлівая малітва. Жарскі танцор, лавец, баец. Жарсьці сваей пастрымаць няможа. Чалавек ён добры, а толькі жарскага характару. Губіць яго жарсьць да жанок ды гарэлкі (Празарокі Віл. пав.).*

**СТРАСТНАЯ НЕДЪЛЯ,** апошні тыдзень вялікага посту, пасьвячоная памяці мукі Хрыста; **пасыйны тыдзень; вялікі тыдзень.**

**СТРАТЕГІЯ** *ж. грэцк.* навука вайны; вучэньне аб лепшым разкладзе вайсковых сіл і спосабаў; **стратэгія.**

**СТРАТИМ** *м.* баечны птах, „ўсім птахам маці"; рысуюць з жаночай галавой і грудзямі.

**СТРАХ** *аг. слав.* **страх, страшны, страшыць, страшаньне, страшліва, страхацьцё, страхацца;**

**страхамор—лівы, страшыла; спалох, палохацца, палахлівы, палахлівец.**

**СТРАЩАТЬ** *каго*, **пужаць, палохаць.**

**СТРЕЖЬ**, сярэдзіна і самая глыбіня, самы шпаркі і глыбокі праток вады ў рацэ; **струга; ручво, ручыцца**, цячэ, точыцца падобна вадзе ў рацэ, руччы. *Сьлёзы ручацца з вачэй. Ручыліся мае сьлёзанькі на біты дарожанькі (песьня).*

**СТРЕКОЗА**, жамяра Libellula; **стрэлка; стрыбаўка, стрыбля.**

**СТРЕКОТАТЬ, ськірчэць, сакатаць.** *Курыца і сарока сакоча. Сьвершч ськірчыць пад печчу.*

**СТРЕМИТЬСЯ** *куды*, **імкнуцца, імкненьне.**

**СТРЕМИТЕЛЬНЫЙ**, які хутка імкнецца; **імклівы; ґонкі; шпаркі; прыткі, прытчэй, прыць.**

**СТРЕМНИНА** *ж.* **прытня, прыцінь, прыціня.** *З гэткай прыціні, ледзь зьехаў. У сам прыцінь сонца*, ў сам поўдзень, калі сонца даходзіць найвышэйшага пункту стаяньня.

**СТРЕМГЛАВ**, ўніз галавой, **спотырч, сторч галавой; стоць галавой**; кінуцца куды з імпэтам: **кумяльгам, кулём—поныръю.** *Стоць галавой рынуўся ў пропасьць. Кулём—поныръю кінуўся наўцекі. Кумяльгом апынуўся дома.*

**СТРЕМЯ, страмяно, страмё.**

**СТРЕМЕННОЙ, страменны.**

**СТРЕ(Ѣ)ХА** *ж. аг. слав.* **страха, стрэшка.**

**СТРЕЧОК** *м.* скок, **стрыбок, стрыбаць, стрыбнуць.**

**СТРИЧЬ** *валасы*, **стрыгчы, пастрыгаць, стрыгач.**

**СТРОГАТЬ, стругаць, стружа, стружка; струг**, або *гэбаль*, сталярская прылада да струганьня дрэва; **стругар**, хто стружа, сталяр.

**СТРОГІЙ, срогі, срога, срожыцца, срогасьць.**

**СТРОИТЬ, будаваць.**

**СТРОЙ, лад, парадак, шыхт.** *Лад, парадак у*

*гаспадарцы, у хаце. Салдаты ў шыхт станулі, шыхтуюцца.*

**СТРОЕНІЕ, будынак, будоўля, будаваць.**

**СТРОЕВОЙ** *лес,* **будаўляны, будулец;** *салдат,* **шыхтовы.**

**СТРОИТЕЛЬ, будаўнічы, будаўнік.**

**СТРОКА** *ж.* разпаклад чаго ў простай лініі, што ідзе тасемкай, стугой; **радоўка.**

**СТРОПИЛО, кроква.**

**СТРОПТИВЫЙ, прытны, пры́ткі; упорысты, непаслушлівы.**

**СТРОФА** *ж. грэцк.* **штрофа.**

**СТРОЧИТЬ, штрабнаваць, штрабноўка; штрабляваць.**

**СТРУКТУРА** *ж. лац.* **склад, будова.**

**СТРУСИТЬ,** збаяцца чаго, паддацца страху; **ўлякнуцца, лякацца, лякліві, лякліве́ц, лякун, ляк; лякатаць,** трасьціся са страху. *Зьлякліся паноўя грыбоўя на вайну ісьці (песьня). Ляклівы, як шашок, а нахрапны, як бык. Ляклівы, на вайну ідучы валіцца, а з вайны ідучы, хваліцца. Ен і перад чортам не ўлякнецца.*

**СТРУЯ,** цячэньне вады; **ток, паток, точыцца; цякмо, цечавіна; ручво, ручыцца, ручавіна; бруя, бруіцца, бруёвая вадзіца; струга, стружыцца, стружавіна.**

**СТРУѲ, СТРАУС,** птах Struthio camelus; **струсь.**

**СТРѢЛА** *ж.* **страла, стрэлка, стрэл, стралаваты—вісты, стралящь.**

**СТРѢЛЬБИЩЕ, стрэлішча.**

**СТРѢЛОК** *м.* **стралец.**

**СТРѢХА** *ж.* **страха, стрэшка.**

**СТРЯПАТЬ,** гатаваць страву і наагул займацца жаночай гаспадаркай у хаце; **гатаваць, пратаць; упратацца,** прыбраць ў хаце, скончыць хатнюю пратаніну.

**СТРЯПЧІЙ,** хто ходзіць па судах, вядзе судовыя справы; **адвакат.**

**СТРЯПУХА** *ж.* жанчына, якая займаецца парадкаваньнем хаты; **паслужніца.**

**СТУДЕНЬ, дрыгнік, дрыгністы; квашаніна.**

**СТУДЕНТ** *м. лацінск.* вучэнь вышэйшай школы; **студэнт.**

**СТУДЕНЫЙ, сьцюдзёны, сьцюдзець, сьцюжа.**

**СТУЧАТЬ, стукаць, стук, стукатня, стуканіна, стуканец; калатаць—тацца; лязгаць, бразгаць, зьвякаць, гракатаць, ламатаць, ляскатаць.** *Лязгае зялезам аб зялеза. Бразгоча бляхай. Зьвякае нажамі. Гракоча кулаком у дзьверы. Нехта ламочацца ў браму, Ляскоча касьцямі.*

*А хто-ж там ў варотах калатаецца?*
*Павачка да цешчухны дазваляецца:*
*Цешчухна—матухна, пусьцы у двор!*
*Аршан. пав. (Шэйн т. 1 ч. 2 с. 63).*

**СТУЖА** *ж.* **сьцюжа; золь, золкі, залчэць; заліць,** вымаражываць.

**СТУЛ** *м.* дамовае знадабьбе да адзіночнага седзіва; **стоўчык, ставец, услон.** Стоўчык адпавядае рас. „табурет“, гэта на чатырох ножках седзішча, без прыслону для плеч. Наш: **з(с)эдлік, з(с)эдаль,** бывае дваякай формы: без прыслону для плеч і з прыслонам. *Услон,* павінен мець ззаду апорышча для плеч і поручы. Рас. „*стол*“, „*престол*“, мае ў нашай мове найме—**пасад.**

*З руцьвянага вянца,*
*З дзявоцкага стаўца.* (*Безс. 41*).

---

*Я малы хлопчык*
*Стану на стоўчык.* (*Орацiя*).

**СТУПАЙ** *загад,* **пашоў.** *Пашоў вон! Пашоў дамоў!*

**СТУПИЦА** *ж.* калёсная трубка, ў якой ходзіць вось: **трубка;** начыньне да таўчэньня ў ім: **мяжджэр.**

**СТЫД, стыд, сорам.**

**СТЫТЬ, стыгнуць.**

**СТѢНА** *ж. аг. слав.* **сьцяна, сьценка, сьценны.**

**СТѢСНЯТЬ** *каго,* **сьціскаць, перашкаджаць, замінаць.**

**СТЯГИВАТЬ** *што,* **сьцягаць—гацца, сьцяг—ганьне; сьцягно,** мускул, мускульная часьць рукі, нагі або жывата; **сьцяговы, сьцягавік—віца: сьцягальніца,** вяровачка да сьцяганьня чаго.

**СТЯЖАТЬ** *што,* **прыдбаць, набыць.** *Прыдбаць славу, любоў, дружбу. Набыць сабе маетнасьць.*

**СТЯЖАНІЕ, набытак.**

**СТЯЗАТИСЯ** *црк.* **сьпірацца, спрачацца, мацавацца.**

**СТЯНУТЬ** *што,* **сьцягнуць.**

**СУБОРДИНАЦІЯ** *ж. лац.* **паслухмянасьць.**

**СУБРЕТКА** *ж. франц.* **пакаеўка.**

**СУБСИДІЯ** *лац.* **дапамога, запамога.**

**СУБСТАНЦІЯ** *ж. лац.* **матэрыя, субстанція.**

**СУБ'ЕКТ** *лац.* кождая асоба, рэч аб якіх гаворыцца; **асоба.**

**СУБ'ЕКТИВНЫЙ, асабісты.** *Асабістае пачуваньне; асабістыя азнакі хваробы.*

**СУГЛИНОК,** зямля з немалой дамешкай гліны; **глей, глейнік, глейны; суглей.**

**СУГЛИТЬСЯ,** перагарэць на вугалі; **звогліцца, звогліць, звоглены.**

**СУГУБЫЙ, падвойны, савіты.**

**СУГРЕБ** *м.* сугор навеянага сьнегу; **сумёт, гурба, сугор.**

**СУДАРЬ, васпан—паня, васпанна; ваша.** *Я „ваша“ і ты „ваша“, а хто-ж нам хлеба напаша. Як, ваша, пажываеш? Што ў пана васпана чуваці?* (жарт). *А я маю курыцу, для васпана ня ўжычу.*

**СУДАЧИТЬ, плёткав*а*ць, яз*ы*чыць, судз*і*ць.**

**СУДИТЬ, судз*і*ць, судз*і*цца, суд, суд*о*вы, с*у*дны.**

**СУДИЛИЩЕ, суд*о*вішча.**

**СУДЕБНИК** *м.* **суд*о*ўнік.**

**СУДЬБА** *ж.* **доля.**

**СУЖДЕНО, с*у*джана; с*у*джанка,** аб мужу або жонцы празначаных сабе доляй.

**СУДНО,** усякая вадаплаўная будоўля, для плаваньня на ей па вадзе; **плав*е*нь, плаўн*і*к, плаўніч*о*к.**

**СУДОХОДСТВО, плаўб*а*, плыв*е*цтва.**

**СУДОХОДНЫЙ, спл*а*ўны, пл*а*ўны.**

**СУДОРОГА** *ж.* **с*у*тарга, с*у*тарж.**

**СУДОСТРОЕНІЕ, плавабуд*о*вецтва.**

**СУЕ, ВСУЕ** *царк.* **да́рм*о*, дарэмна.**

**СУЕТНЫЙ, дарэмны, м*а*рны, зьнік*о*мы, с*у*тарны.**

**СУЕТА, м*а*рнасьць, зьнік*о*масьць; с*у*тарыца,** спешаніна і бязладная бегатня.

**СУЕТИТЬСЯ, с*у*тарыцца; суган*я*цца, м*а*рсьціцца.**

**СУЕВѢРІЕ, забаб*о*ннасьць, забаб*о*нны.**

**СУЕСЛОВІЕ, пустасл*о*ўства.**

**СУЖДЕНІЕ** *аб чым,* **погляд.** *Ен высказаў ужо свой погляд. Я нямаю выробленага погляду на гэту справу.*

**СУКРОВИЦА** *ж.* рэдкая часьць крыві, крывяное малако; **п*а*сака.**

**СУК** *м.* бочны адростак дрэва; ад пня або каранішча ідзе галамень дрэва (ад голы), да першай расахі, дзе яно разьбіваецца на *галіны,* ад якіх ідуць другія расахі—*веці, веткі*; суччa, галіны з вецямі і лісьцямі—*галава* дрэва. **Сук, суч*о*к, сучча,** адносіцца да ссучаных слаёў ў самым бервяне, дашцэ, гэта прарост галіны ў галамень; ад галамня ідзе расаха,

якая ў цэлым, ад галамня да сваей вярхоўкі, мае назоў; **галіна, галінка, галіўя**. Нарост на галамні ў форме выпуклага клуба, дзе дрэва гаіла рану на карэ, або рану ад зламанай галіны, называецца: **сьвіль, сьвілавіна**. *Сьвілаватая дашка*.

**СУЛОЙ**, разчына на кісель, вада з мукой і з закваскай; **цэд, цадовы; цадавік**, блін з цэду.

**СУМА** *ж.* **торба, торбачка.**

**СУМАЗБРОДНЫЙ, блажны.**

**СУМАШЕДШІЙ, варьят, варьяцтва, варьяваць.**

**СУМБУР** *м.* **чаўпра, чаўпня, чаўпятня; бязсэнсіца, нісянеціца.**

**СУМАТОХА, завіруха, суталака, сумяціца.**

**СУМЕРКИ, сутонкі, сутуняць; прыцемкі; зьмерк, зьмярканьне.**

**СУММА**, сколькасьць грошы; **квота; квотнік**, багач, скупец.

**СУМРАК, змрок.**

**СУМѢТЬ, патрапіць, змагчы.**

**СУНДУК** *м. татар.* **скрыня, скрынка.**

**СУПРУГ**, спрэжаны жанідзьбай, муж і жонка; **сужон, сужанка, сужанцы, сужонства, сужэнскі, сужанец, сужаніца.** *Старое*: **малжонак, малжонка, малжэнства.** *Сужанецкія пярозвы*, пасьля жанідзебныя візыты маладых (*Дрысенск. пав.)*.

**СУП** *м. франц.* мясны навар з гардавінай і приправамі; **поліўка.**

**СУРГУЧ** *м.* **ляк, лякаваць, ляковы.**

**СУРДИНА** *ж. франц.* **глушнік**, які прыладжываюць да скрыпкі каб глушыць рэзкасьць гуку.

**СУРИК** *м. фарба*, **мінія.**

**СУРМА** *мэталь*, **антымонія.**

**СУРОВЫЙ, срогі, срогасьць, сражэць, сроргкасьць.**

**СУРОГАТ** *м. лац.* знадабьбе, заступаючае натуральны прадукт; **падменнік.**

**СУРОК** *м.* норны зьвярок Aretomis bobac; **байбак.**

**СУРѢПА** расьціна Brassica napus oleifera; **сьвірэпка.**

**СУСАЛЬ,** золата, серабро і медзь у цененькіх балоначках для пазалоты; **пазлота.**

**СУСЛО** *ср.* саладкаваты навар на муцэ і соладзе; **саламаха, саламаціць, саламашка.**

**СУТКИ** *ж. мн.* дзень і ноч разам, разьдзеленыя на 24 гадзіны, час аднаго авароту зямлі кругом сваей восі: **доба, пара, содні.** *Дзень і ноч—содні проч* (*Задарожжа, Дзіс. пав.*). *Цэлыя содні ліў дождж.* Даль (*Т І. 453*) кажа, што „доба" ужываецца у нас, але, бадай, ці не полёнізм гэта. Слова „пара" ў значэньні содняў ужываецца ў Меншчыне. *Суток,* перавулак; *суткі,* отхожее мѣсто.

**СУТЬ** *ж.* **істота.** *Дайсьці да істоты. Сама істота быцьця скрыта ад нас.*

**СУТЯГА,** **сутыр, сутырацца, сутырнік—ніца, сутыршчына,** цыганіна на судох, судовая спрэчка, прычэпка. (*Сьвір, Свенцянск. пав.*).

**СУФЛЕР** *м. франц.* хто падсказывае акторам на сцэне іх ролі.

**СУФРАГАН** *м.* вікарны біскуп.

**СУХОЙ** *аг. слав.* **сухі, сухасьць, сухаваты, суханькі, сухлы, сухласьць, сухлавіна, суш, сушыць, сухмень, сухмяны, сушэньне, сушня, сушаніна.**

**СУХАРЬ** *м.* засушаны скрыль хлеба: **корж; сухар.**

**СУХОПАРІЙ,** сухі і высокі; **сухашчавы, суханявы, шчаплы.**

**СУХОПУТНЫЙ, сухаземны, сухаездны.**

**СУХОЖИЛЬЕ, шчапы, сухажыльля.**

**СУЩІЙ, істы, вярутны.** *Істы, вярутны чорт.*

**СУЩЕСТВО, істота.** *Усякая істота, ўсе жывое.*

**СУЩНОСТЬ, істотнасьць, істасьць.**

**СУЩЕСТВЕННЫЙ, істотны.**

**СУЩЕСТВОВАТЬ, істнаваць.**

**СФЕРА** *ж. грэцк.* абшар, на які сягаюць сілы, ўплывы нябеснага цела, круг ўплыву; **сфэра, акружаньне.**

**СФОРМИРОВАТЬ** *што,* **сфармаваць.**

**СХВАТИТЬ** *што,* **схапіць—піцца, спахват.**

**СХВАТКА, спохватка, стычка, сторжка.**

**СХВАТЧИВЫЙ, спахватлівы.**

**СХЕМА** *ж.* **схэма.**

**СХИЗМА** *ж. грэцк.* **адшчапенства.**

**СХИМНИК,** манах; **габітнік, схімнік.**

**СХОДБИЩЕ, сходка.**

**СХОЖІЙ, сходны, падобны.**

**СХОДСТВО, падобнасьць, сходнасьць.**

**СХОРОНИТЬ, схаваць, схаторыць.**

**СЦАРАПАТЬ, зьдзерці, саскрабаць.**

**СЦЕНА** *ж. франц.* **сцэна.**

**СЦѢПЛЯТЬ** *што,* **счапляць, сусчапляць, сусчэп.**

**СЧАЛИТЬ** *з чым;* зьвязаць, змацовываць вузлом;- **зьвязаць, старнаваць.**

**СЧАСТЬЕ** *аг. сляв.* **шчасьце, шчасны, шчасьлівы, шчаслівец—ліўка; шчасьціць.**

**СЧАХНУТЬ, зныдзець. зныднуць.**

**СЧЕСТЬ,** *што,* **зьлічыць.**

**СЧЕТ** *м.* **зьлічво;** памылкова ўжываецца часам злічво, замест *квота (сумма).*

**СШИБАТЬ** *каго, што;* **зьбіваць.**

**С'ЕЖИТЬ, скорчыць, скорчыцца.**

**С'ИЗМАЛА, змалку, змалку дзён, змаленьства.**

**С'ЕМКИ, зьнімкі, зьнімак.**

**С'ѢДАТЬ** *што,* **зьядаць, зьесьць.**

**С'ѢСТНОЙ, емны.**

**С'ѢДОБНЫЙ, емінный, ядомы, емны.**

**С'ѢЗЖАТЬ, зьязджаць—джацца, зьездны, зьезд.**

**С'ЯКШАТЬСЯ** *з кім*, **зьнюхацца.**

**СЫВОРОТКА**, рэдкая часьць кіслага малака; **сырватка, сырватны.**

**СЫЗЗАРАНЬЯ, спазараньня.**

**СЫНОВІЙ, сыноўскі.**

**СЫПУЧІЙ, сыпкі, сыпацца, сыпец.** Слова *„сопкі"* (аб фруктах, бульбе) азначае *„давкій"*. *Сопкая бульба, дуля.*

**СЫПЬ, высыпка, высыпісты.**

**СЫРОЙ,** макраваты, процілеглае паняцьце *сухі*; **вогкі, вагкаваты, вогкасьць, волага.**

**СЫРОПУСТІЕ**, апошні дзень запустаў; **запусты.** У Горадзеншчыне называюць: **багускі.**

**СЫРТ** *м. татар.* мель, якая разьдзяляе вадуа прыкл. сутокі двох рэк; **грыва, грыўка.**

**СЫСКИВАТЬ** *што*, **вышуківаць—кацца.**

**СЫСК**, шуканьне вінаватага, судовыя допыты і нагляд; **апасока, апасочны, апасочнік.**

**СЫТЫЙ; сыты,** які наедзены, а такжа, які тучны; **сытны,** які добра насычае; **сыцець,** станавіцц, больш тучным; **сыціць**, карміць, рас. „питать"; **сыць**, корм, страва, ежа, а такжа рас. *„питательность"*.

**СЫЧУГ** *м.* адзін з чатырох жалудкаў жвачных жывёлаў, гаворыцца аб цялячым жалудку, які сыравары кладуць ў прэснае малако каб сселася; **кіндзюк, кізюк, кісюк.**

**СЫЧЬ,** соўка, вялічынёй з дразда; **пушчык.**

**СЫЩИК** *м.* **апасочнік; шпег, шпік.**

**СѢВЕР** *м.* адна з чатырох старон сьвету, супроцьлеглая поўдню (іраю); **поўнач; сівер.**

**СѢВЕРЯК** *м.* сьцюдзёны паўночны вецер; **сівер, сіверна; сяўрана** *аб пагодзе*, суха і ветранна;

**сяўрыць**, сушыць на сьцюдзёным ветры; **сяўрук** *міт*, дзед Мароз.

**СѢВЕРНОЕ СІЯНІЕ, пазорыца, пазарніца.** *Пазарніца палыняе (Вяліж.).*

**СѢДОЙ, сівы, сівець, сівізна, сіваваты, сівасьць; сівец,** расьціна сівога колеру.

**СѢМЯ,** матэрыя, якая тоўпіць ў сабе зародак жывёлны або расьцінны; **насеньня, насенны, насеннік—ніца.** *Семя,* назова ільняннага насеньня.

**СѢМЕНИТЬ, абсяваць, насеніць.**

**СѢМЕННОЙ, семенны, семіны.** *Вось тут табе усё—і семіны і еміны. Гэта хай будзе на еміны, а тое на семіны.*

**СѢМО** *црк.* **сюды, тут.**

**СѢНИТЬ, зацяняць, засьціць.**

**СѢНЬ,** цень, заценак ад чаго колечы; **засьцень, засьціць.** *Пад засьцю дрэў. Азасьціцца крыжом сьвятым.*

**СѢНЬ,** шатро, шалаш; **павець, паветка; сені, сенцы**

**СѢНО** *ср. аг. слав.* **сена, сянцо; сенажаць,** пожня, дзе косяць (жнуць) сена; **сенакос.** Балотнае сена—**вішар.**

**СѢНОВАЛ, пуня;** пуня ў лесе—**падорня.**

**СѢРА** *ж.* **серка, сярчаны, серчык, сяркаваць.**

**СѢРЫЙ,** аб барве, масьці, колеру; **шэры, шэрасьць—раваты, шэрка, шарак.**

**СѢТОВАТЬ** *на што, на каго;* **марокаваць, божкаць.** *Пабожкалі ены, да нема чаго рабіць. (Сержп. стр. 47).*

**СѢТЬ, сецьь, сетка, сеткаваты.**

**СѢТЧАТКА, сетніца, сетавіца.**

**СѢТЧАТОКРЫЛЫЯ,** аб жамяры; **сетнаскрылыя.**

**СѢЧЬ** *што, каго,* **сячы, секці, сякучы, сячэньне, сеча, сякера, сякач, секіль.**

**СѢЯЛКА, севальня, сейніца** або **сяйніца.**

**СѢЯТЬ**, **сеяць**, **сяўба**, **сейбіт**, **сявец**, **пасеў**; **пахаць**, **пашніца**, тое што засеяна. *Я ваша і ты ваша, а хто нам хлеба напаша. Жыта і пшаніцу, ўсякую пашніцу.*

**СЮДА**, **сюды**, **сюдой**. *Ані сюды, ані туды мае мілыя дуды. Сюды хадзі! Сюдой ня пройдзеш!*

**СЮЖЕТ** *франц.* змест твору, **завязка.**

**СЮРПРИЗ** *франц.* **неспадзеванка.**

**СЯБЕР** *м. (татар. „шабер", сусед)*, **сябра**, **сябраваць**, **сяброўства**. Гэтае слова недарэчна ўжываецца ў нас апошнімі часамі ў значэньні рас. „член". яно даўно прынялося ў нас ў знач. рас. „пайщик", „артельщик".

**СЯКНУТЬ**, **кануць**; **счаваць**, **счануць**.

# Т.

**ТАБАК** *м.* расьціна Nicotiana tabacum; **тытун**, аб цертым тытуну да нюханьня кажуць **табака**.

**ТАБАНИТЬ**, прыставаць да берагу; грабсьці назад; **тарнаваць**. *Ганула тарнуй;* выкрык плытнікаў на Нёмане, азначаючы каманду—прыбіваць плыт да берагу, паварачываць карном да берагу.

**ТАБЕЛЬ** *м. франц.* **табліца.**

**ТАБУРЕТ** *м. франц.* **стоўчык, ставец.**

**ТАВОЛГА** куст Spirea; **бружэліна, бружэльнік.**

**ТАГАН**, круглы зялезны абруч на ножках, пад якім разпаляюць агонь, стаўляючы на яго варыва; **трыножак.**

**ТАЗАТЬ** *каго*, **тузгаць.**

**ТАЗ** *м.* мядзянае начыньне мыцца, гатаваць канфітуры, праць дробныя рэчы; **лаганка, лажка.**

**ТАЗ** *м.* у целе чалавека і жывёлаў, часьць ад чэрасляў да канца кодабу; **лага.**

**ТАЗОБЕДРІЕ, клубы.**

**ТАЙНА, тайна, тайніца, таіць—цца; тайка,** прыяцелька паверніца тайн.

**ТАИНСТВО, таемства.**

**ТАЙНИК** *м.* **скрытка, схоўка, хоўтка.**

**ТАИНСТВЕННЫЙ, таемны, таемнасьць.**

**ТАЙКОМ, крадком, украдкам.**

**ТАЙНОБРАЧНЫЯ** *расьціны*, **скрытасемныя.**

**ТАКСА** *ж. франц.* **разцэнка.**

**ТАКТ** *м. лац.* мерны рух у гуках у музыцы; у паступках: навытар, уменьне сказаць або зрабіць што дарэчы, чуцьцё, якое заховуе стройнасьць, прыстойнасьць, згоднасьць; **такт, тактоўны.**

**ТАКТИКА** *ж. грэцк.* вайсковае умецтва кіраваць вайсковымі сіламі; **тактыка.**

**ТАК** *прысл.* **так, такжа, такі, такі, такоўскі,** таковы, **такаць, таканьне.** *Я і так, я і гэтак, а ён—вун як! Так і трэба. Так добра, а гэтак блага. Я такжа там быў. Такі ён усё сваё вярзе. Які бацька, такі сын. За Саса было хлеба і мяса, а як стаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі. Таковы справы.*

**ТАЛАНТ**, вага і манэта ў старадаўных грэкаў і рымлян; прыродны дар чалавека, здольнасьць да чаго; **талент, талентны; талентаваць,** займацца працай па прызваньню.

**ТАЛАН**, шчасьце, удача, доля; **лёс.**

**ТАЛЬНИК** *м.* куставая верба; **вербалоз.**

**ТАЛИСМАН** *м. араб.* рэч у якой паводле забабону маецца таемная сіла; **кудмень, кудменьчык**

**ТАЛІЯ** *ж. франц.* у чалавека паясьніца, паясьнічны перагіб; **стан.** *Аб картах*: **калода.** *Калода карт.*

**ТАЛЬ, адліга.**

**ТАЛЬКА** *ж.* маток нітак вядомай меры; **талька,** *Добрая праха напрадае ў дзень 2—3 талькі нітак.*

**ТАЛОН, цэтлік.**

**ТАМБУР** *м. франц.* прыбудоўка, да другіх выходных дзьвярэй, для цяпла; **прысенак.**

**ТАМГА, таўро, кляйно.**

**ТАМОЖНЯ**, пагранічная камора, дзе зьбіраюць падатак за таўро; **мытня, мытніца, мытная камора.**

**ТАМ** *прысл.* **там, тамака, тамачка, тамтэйшы, тамты.** *Тут нашае, а там вашае. Я тамака ня быў. Тамачка ўсяго было. Тамтэйшы чалавек хітрэй нашага, тутэйшага. Тамты хлапец, быў пры гэтым.*

**ТАНИН** *м. хіміч.* гарбарная матэрыя; **гарблік. таніна.**

**ТАНЕЦ** *м.* **тан, танец, танок, танцор—рка, танцаваць.** *Зьвіўшы вянок, пайшла ў танок (Р. 8—9 с. 119), Танцуй, гарцуй пане, пакуль грошы стане (Бурачок).*

**ТАРА** *ж.* усякая апакоўка тавару, скрынка, бочка, мех, агортка; вага апакоўкі тавару; **тара.**

**ТАРАБАРИТЬ, тараторыць.**

**ТАРАКАН**, хрушчаватая жамярыца, плодзіцца ў хатах; *мяккі*, з малымі наскрыльнікамі, чырвоны: **прусак** і *чорны жук*, сьмярдзючы; **таракан.**

**ТАРАНТАС** *Сіб.* павозка на доўгіх зыбучых планках; **зыбаўка, гойдаўка.**

**ТАРАНТУЛ** *м.* ядавіты земляны павук; **мізгір.**

**ТАРАЩИТЬ** *вочы*, **талупіць, лабушыць.** *Выталупіў, вылабушыў вочы.*

**ТАРЕЛКА** *ж.* **талерка, талерачка, талерчык, талерца; талерніца**, рас. „поднос".

**ТАРИФ** *м.* разпадзел тавараў на пісьме з разцэнкай ападаткаваньня іх; **тарыфа.**

**ТАРТАР** *црк.* **пекла, прадонная.**

**ТАРТИНКА** *ж. франц.* ськібка хлеба з маслам. а часам з маслам і мясам, ці сырам; **лусьцік, лусток.**

**ТАРЧ** *стар.* малы круглы шчыт, у сярэдзіну якога прасувалася рука; **тарча.**

**ТАСКАТЬ** *што,* **цягаць—гацца, цяганіна; цягло,** упражка валоў; служба адным чалавекам і парай валоў; **цяглая служба,** падатковая павіннасьць зьбіраная даўней у нас з упражкі валоў, або з валокі зямлі.

**ТАТАУР** *м.* шырокі шыты золатам пояс; **татур.**

**ТАТУИРОВАТЬ, татуаваць.**

**ТАТЬ** *м.* **злодзей.**

**ТАУРИТЬСЯ,** глядзець з падлобьбя; **татурыцца**

**ТАФТА,** *тканіна,* **кітайка.**

**ТАФЬЯ** *ж.* **ярмолка.**

**ТАЧАТЬ** *што,* шыць шавецкім спосабам на абедзьве стараны; **штрабнаваць.**

**ТАЧКА** *ж.* ручныя калёсцы на двох колах, вазіць зямлю, **турляжка, тачка.**

**ТАШКА** *ж. ням.* вялікая скураная торба; **торба**

**ТАЩИТЬ, цягнуць, валачы.**

**ТАЯТЬ, таяць—яньне, талы, таль.**

**ТВАРЬ, стварэньне.**

**ТВЕРДЫЙ, цьвёрды, цьвярдзець, цьвёрдшы цьвёрдасьць, цьвядзізна—даватасьць.**

**ТВЕРДИТЬ** *што,* **цьвярдзіць.**

**ТВЕРДЬ,** усякая цьвёрдая, моцная аснова **цьвердзь.**

**ТВЕРДЫНЯ** *ж.* крэпасьць, умацаванае мейсца; **цьвярдніца, грод.**

**ТВОРИТЬ** *што,* **тварыць—рыцца, тварэньне, стварэньне, стварэц, стварыцель.**

**ТВОРЧЕСТВО, творчасьць, творчы.**

**ТВОРОГ** *м.* густыя часьці малака; **твараг, тварожны—нік.**

**ТЕБѢ** *заімак,* **табе.** *Што табе даць. Гэта-ж табе лепш. Не вазьму сабе, а аддам табе.*

**ТЕЗКА,** аднаіменнік, **цеска.**

**ТЕЗОИМЕНИТСТВО, імяніны.**

**ТЕЗИС** *м. грэцк.* **нявуковы вывад, мысьль праводжаная** ў творы; **тэзіс, аснова.**

**ТЕКСТ** *м. лац.* **тэкст.**

**ТЕКСТИЛЬ, валакно.**

**ТЕКСТИЛЬЩИК** *м.* **валаконшчык.**

**ТЕКУЩІЙ, бягучы, паточны.** *Бягучага году. Паточнага часу.*

**ТЕЛЕ(Ѣ)ГА** *ж.* простая сялянская павозка; **калёсы, панарад; панараднік,** па расійску „ломовой извозчик".

**ТЕЛЕГРАФ** *м. грэцк.* **тэлеграф.**

**ТЕЛЕСКОП** *м.* **тэлескоп.**

**ТЕЛЕЦ** *м.* **цялух, цялёнак, цялушка, цялё.**

**ТЕЛЂГА** *гл.* **панарад.**

**ТЕМА** *грэцк.* **тэма.**

**ТЕМНОТА** *ж.* **цемра, цямрычны—нік.**

**ТЕМНЫЙ, цёмны, цямнець, цямніца, цямнічнік—ніца; цьмяны, цемнаваты**

**ТЕМПЕРАМЕНТ** *м. лац.* **удача.** Галоўных удач у людзей бывае чатыры: *сангвінічная,* **холерычная** *флегматычная і мэлянхолічная* або па народай нашай тэрміналёгіі: *крэўкая, запальчівая, лентая, хаморлівая.*

**ТЕМПЕРАТУРА,** ступень цяпла, мера гарачыні і сьцюдзёнасьці па градусьніку; **тэмпэратура.**

**ТЕМП** *м. лац.* мера часу ў дробных часьцінках, мера; тэмп.

**ТЕМЯ,** верх галавы; **цемя, цеміць, цяміць, цямешыць,** ўбіваць што ў памяць, ў розум.

**ТЕНДЕНЦІЯ** *ж. франц.* кірунак, імкменьне, поцяг да чаго; **нахіл.**

**ТЕНЕТА** *ж.* **цянёты.**

**ТЕОДОЛИТ** *муж. землямерн.,* **вугламер.**

**ТЕОЛОГІЯ,** навука аб Богу; **багаслоўе.**

**ТЕОРІЯ** *ж. грэцк.* **тэорыя, тэорэтычны, тэорэтык.**

**ТЕПЕРЬ** *прысл.* **цяпер, цяперака, цяперашні.**

**ТЕПЛО** *ср.* **цяпло, цяплыня, цяплець, цёплы, цеплаваты; цяплíца**—лазня, а такжа оранжэрыя, **цеплавы, цеплік; цепліць**—нагрэваць, апаляць; **цепліцца,** сьвеціцца, паліцца; **цяплянка,** печ.

**ТЕРАПІЯ** *ж. грэцк.* лекарскае умецтва; **тэрапія.**

**ТЕРАСА** *ж. франц.* земляны насып з тачком на версе; шырокі прысёнак, асабліва мураваны; **тэраса.**

**ТЕРЕМ** (Thurm) баярскі дом на подрубе; **хорам.**

**ТЕРЕТЬ** *што,* **цёрстаць, церці, церціся; трэ, трэцца, цёрніца, цёрка, цярло; шоргаць.**

**ТРЕНІЕ, цёрстаньне, цёрце, шорганьне.**

**ТЕРЗАТЬ** *што,* рваць на часьці, разьдзіраць; **турзаць, турзацца, турза, турзаніна, турзач; дзерці.**

**ТЕРРИТОРІЯ** *ж. лац.* увесь абшар зямлі, дзяржавы, краю, правінціі; **абшар.**

**ТЕРМИН** *м.* умоўны назоў чаго; **назоў.**

**ТЕРМИНОЛОГІЯ, назоўніцтва.**

**ТЕРМОМЕТР** *м. грэцк.* **цяпламер, тэрмомэтр.**

**ТЕРНІЕ** *ср.* **церні, цярністы; пышы, калючкі.**

**ТЕРНОВНИК, шыпшыннік, жасьцер.**

**ТЕРРОРИЗМ** *лацін.* запужываньне сьмертнай карай, забойства; **забойства.**

**ТЕРПЕЖ** *м.* **судзерж.** *Судзержу ня стала.*

**ТЕРПЕТЬ, цярпець, цярпеньне, цярплівасьць.**

**ТЕРПИМОСТЬ, зносьць, зносны, зносьлівы.**

**ТЕРПКІИ, корсткі.** *Зялёнае яблыка корсткае на смак. Бацькі корсткае елі, а на дзяцей аскома.*

**ТЕРЯТЬ** *што,* **траціць, трацíцца, страта; губляць, губляцца, згуба.**

**ТЕСАТЬ,** абсякаць дрэва сякерай; **часаць, цясьліць, цесьля, цесьляр, цёс; цясло,** асобнай фор-

мы сякера, ў якой лязо пастаўлена ня ўздоўж, а ўпоперак секярышча; **цюпаць, цюкаць.**

**ТЕСЕМКА**, **тасемка, тасьма.**

**ТЕСТЬ**, бацька жонкі; **цесьць, цесьцейка, цясьцёк, цесьцеў;** матка жонкі: **цешча.**

**ТЕСЕМЧАТЫЙ**, **тасемчасты.**

**ТЕТЕРЕВ** *птах*, Tetrao tetrix; **цецярук, цяцера цяцерка; цяцерыцца**, надымацца, тапоршчыцца.

**ТЕТИВА** *ж*. струна што сцягае канцы лука; **струна; цяціва, сутужына.**

**ТЕТКА** *ж*. сястра бацькі або маці; **цётка, цётухна, цётанька; дзядзіна.**

**ТЕТРАДЬ** *ж*. **сшыток.**

**ТЕХНИКА** *ж. грэцк.* **тэхніка.**

**ТЕЧЬ**, **цячы, цячэньне, цеча, цякоміна, цякучы; ток, точыцца, точыва.**

**ТИГЕЛЬ** *м. ням.* гаршчок да разтопкі мэталяў; **тыгель, тыглік.**

**ТИГР** *м*. люты зьвер; **тыгр.**

**ТИПУН**, птушыная хвароба; храшчаваты нарост на канцы языка; **пыпаць.**

**ТЛЂТЬ**, прэць, згараць бяз полымя, гніць; **тлець лецца, тленьне, тлеецца.**

**ТОВАР**, **тавар, таварны.**

**ТОВАРИЩ** *м*. **тавaрыш—шка, таварыства.**

**ТОГДА** *прысл.* **тады.** *Калі ў ловы ехаць, тады сабак карміць. Тады тое было, а цяпер іншае. Тады прыхадзі, калі грошы будуць. Калі сумленьне спакойнае, тады чалавек шчасьлівы.*

**ТОГДАШНІЙ**, **тадышні, тагочасны.**

**ТОЖДЕСТВЕННЫЙ**, **тожсамны, тожсамасьць**

**ТОЖЕ**, **такжа.** *Я такжа хачу жыць.*

**ТОКМАРЬ**, ручная прылада молатам, да ўбіваньня зямлі; **кука.**

**ТОКМО** *прысл.* **толькі.** *Толькі не буянь.*

**ТОКОВАТЬ** *аб птахах;* зьбірацца на абранае мейсца такаваньня, сьпеву; **такаваць.**

**ТОЛИКІЙ, толезны.** *Толезнага множства народу я ня бачыў.*

**ТОЛКАТЬ** *што, каго;* **штоўхаць, тоўхаць, тоўхацца, тоўханьне, таўхатня.**

**ТОЛЧЕК, таўхень—хня, таўхнём; штурхшок-**

**ТОЛКНУТЬСЯ, тоўхнуцца; талохнуцца, штурхнуцца.** *Талохнуліся чаркамі, або—лбамі. Сталохнуліся два гаршчкі, камяні.*

**ТОЛКАЧ** *м.* **таўкач—качык.**

**ТОЛЧЕЯ** *ж.* **турхатня, таўхатня, штурхатня; суталка, сталока.**

**ТОЛКОВАТЬ** *што,* **тлумачыць;** *аб чым:* **гутарыць.**

**ТОЛКОВАНІЕ, тлумачаньне.**

**ТОЛКОВЫЙ** *чалавек,* **разьбітны.**

**ТОЛОЧЬ** *што,* **таўчы—чыся, тоўчыва, таўчонік; талочыць—чыцца, талочаньне, талака, талакно, талока.**

**ТИП** *грэцк.* постаць; **тып, тыповы, тыпічны.**

**ТИПОГРАФІЯ, друкарня—скі, друкаваць.**

**ТИРАДА** *франц.* доўгі сказ; мейсца, ўзятае цалком з якога твору; **тырада.**

**ТИРАЖ** *м. франц.* **розыгрыш.**

**ТИРАН** *м. грэцк.* злы мучыцель; **тыран—ства.**

**ТИРЕ** *франц.* знак пісарскі (—) **крыска.**

**ТИР** *м. ням.* **ловішча;** стрэляньне ў цэль: **стральніца.**

**ТИРОВАТЬ** *човен,* мазаць смалой; **смаліць.**

**ТИСКИ,** прылада рожнага назначэньня і формы да сьціскаsuccessfully; **шчолмы, гначы, кляшчолка, шрубтак, сустугі, сьціскі.** *Шчолмы* рымарскія, да заціскаsuccessfully ў іх шытай скуры; *гначы, сутугі, сустугі,* да сьцісканьня сыроў і іншых падобных патрэб,—*сустугі* ужываюцца такжа ў стругарстве (сталярстве), *шрубтак, і сьціскі*—прылады ўжываныя ў сьлесарстве і кавальстве.

**ТИС** *м. дрэва,* **чырвонае дрэва, ціс.**

**ТИТЛА** *црк.* надлітарны знак, які выражае скарочаньне, **скарот.**

**ТИТУЛ** *м.* **тытул—ваць—вацца.**

**ТИФОН** *м. грэцк.* кругаваротны вецер, які ўздымае пыл, зямлю, ваду стаўбом; **віхор,** ён абяртаецца ў **склоку** (смерчь) і бурыць усё на сваім шляху.

**ТИФТИК** *м. нямецк.* шавецкі цьвячок без галоўкі; **штыфт.**

**ТИХІЙ, ціхі—ханькі, ціхусенькі, ціхасьць, ціхнуць, цішэць, цішком, ціхамоўкам, ціш, сьціш, цішыня.**

**ТІАРА** *ж.* папежская трохпаверхая мітра; **тыяра.**

**ТКАНЬ, тканіна, ткаць, тчэ, ткаха; ткач, ткацкі.**

**ТОЛПА,** зборышча, таўхатня многіх людзей сабраных разам; **таўпа, гурма, ціжба.** *Таўпа,* ад „таўпіць", зганяць, сьціскаць у кучу, згэтуль *стоўпіць* што, знача зьмесьціць. *Гурма і гурба* аднаслоўнае „таўпе"; *гурмаваць,* зьбіраць зганяць; *гурмам,* ватагай, таўпой. *Ціжба,* слова ужыванае ў нашай старой пісьменнасьці, выводзіцца ад *„сьціск".* Л. Родзевіч ў значэньні „тоўпа" ужывае слова *„табала". „Фальш, калі яна часта паўтараецца, робіцца ў вачах людзкой табалы падобнаю да праўды".* („Бел. Звон" № 19).

**ТОЛСТЫЙ, таўсты, грубы.**

**ТОЛЩА** *ж.* **таўсьціня, тоўстасьць, таўставатасьць, тоўсьцік.**

**ТОЛЬ** *м.* смалёная папера да крыцьця стрэх; **смалавянка; толь.**

**ТОЛЬКО** *прысл.* **толькі, тольмі, тыкеля.** *Тыкеля падыйшоў да хаты. Тыкеля ты не бузуй мне. „Занясем ткале ему гэтаго дохлаго сабаку". (Сержп. 46). Едзь сабе, а толькі не марудзь. (Навагрудзк. пав.).*

**ТМА** *црк.* **цьма,** дзесяць тысяч.

**ТОМАШИТЬСЯ, талошыцца.**

**ТОМИТЬ** *каго,* **тамiць—цца, тамленьне, тамець томны.**

**ТОМИТЬ, тамiць, марыць.** *Не мары многа, ды, дары скора. (Рогач. пав. д. 8-9 166). Марыць працай, работай, голадам.*

**ТОМПАК,** мяшаніна медзі і цыны; **тамбак.**

**ТОМ** *лац.* часьць кнігі, **часьць; том, томік.**

**ТОНКІЙ, ценкі, ценкасьць, цянiзна, ценкаваты, цянiць, цянець.**

**ТОННА,** вага або мера патоўплівасьці вадаплава: 61 пуд. ці 40 куб. футаў.

**ТОНУТЬ, топнуць, патапаць, тонуць.**

**ТОНЧАТЬ, цянiць,** рабіць больш ценкім.

**ТОН** *м. франц.* усякі гук у музыцы; **голс.**

**ТОПАТЬ, тупаць, тупат.**

**ТОПИТЬ** *што, каго;* прымушаць тонуць; **тапiць,** топіцца, топне, патапае, **топкі, топленьнік—ніца.**

**ТОПИЧЕСКІЙ** *у лекараў,* **мяйсцовы.**

**ТОПОГРАФІЯ,** апісаньне мяйсцовасьці; **тапаграфія.**

**ТОПЛИВО, апал, апаляць—ляньне.**

**ТОПОРІЩИТЬ** *пальцы,* **тапырыць.**

**ТОПОР** *м.* **сякера,** ад „сячы" **сякерка.**

**ТОПОРИЩЕ, сякерыца, сякерышча.**

**ТОПОТ, тупат.**

**ТОПТАТЬ** *што,* **таптаць—тацца; тупаць; тупаніна.**

**ТОПУЧЫЙ, топкі, гразкі.**

**ТОПЬ, крокаць, багно.** *Ой над ракою на кракавіцы, шые Янaчка нагавіцы. (Безсонов 31).* **Кракавiца,** абшар, заняты гразкім балотам, **крокацьцю.**

**ТОРГОВЛЯ** *ж.* **таргоўля, торг; торжышча.**

**ТОРЖЕСТВО, урочыстасьць, урочысты.** *Урочыстае сьвята. Урочыстая прысяга.*

**ТОРЖЕСТВОВАТЬ, сьвяткаваць** сваю пераваγу, **чціць** сьвяткаваньнем, абходам; *над кім,* **быць пераможцам.**

**ТОРМАЗ** *м.* **гальмо, гальмаваць.**

**ТОРМОШИТЬ** *што,* **тармасіць.**

**ТОРОВАТЫЙ,** маторны. *Маторны дзяцюк, гаспадар. Энэй маторны быў дзяцюк. (Энэіда).*

**ТОРОПИТЬ** *што, каго, чым;* **туравіць, пасьпяшаць.**

**ТОРОПЛИВЫЙ, тураўлівы, пасьпешлівы.**

**ТОРОС,** ледавыя плывучыя горы, ледавы затор на рацэ; **турун, туруны, турунты; турусьняк, затор,** лёд на рэках і вазёрах зьбіты сторць.

**ТОРОХНУТЬ** *па чым;* **трахнуць.**

**ТОРОХТѢТЬ, тырсчэць, груччэць, гурчэць.**

**ТОРОЧИТЬ** *што,* абшываць краймом; **лямаваць, лямоўка, аблямоўка.**

**ТОРОЩИТЬСЯ, непакоіцца, клапаціцца.**

**ТОРС** *м. франц.* **пагрудзьдзе.**

**ТОРТ** *м. фр.* слаёнае салодкае цеста; **торт.**

**ТОРФ** *м.* **алёс, альса; альсье,** алёсістае балота.

**ТОРЧАТЬ, тырчэць—чэньне, тырчок, тырхнуць, сторць, тырчмя, спотырч.**

**ТОРЦ** *м.* **торц, тарцаваць,** стугаць дрэва ўпоперак слаёў.

**ТОСКА, туга, тужыць; тосknасьць, тасkнаваць, тоскна; сум, сумаваць; журба, журыцца.** *Тужыла—бядзіла Васілёва маці.*

*Пашла яна каля рэчкі*
*Ташнуючы, бядуючы.*
*(Рам. 8–9 с. 173).*

---

*Дзяўчынка не журыся,*
*Вазьмі хлеба нажарыся.*
*Могіл. губ.*

**ТОСТ** *м. англ.* кубак, чарка за чыё здароўе, ў чыю пашану; **заздаровіца.**

**ТОТ** *заімак,* **той, тая, тое.**

**ТОЧИТЬ, істрыць, брусіць, брусаваць, брусар,** *Набрусуй нож, сякеру. Якіж з цябе брусар, калі сякеры не набрусуеш! (Лепэльскі пав).*

**ТОЧИЛО, тачыла, брусак.**

**ТОЧИТЬ** *што,* на такарні; **тачыць, точаны, тачэньне, точка, токар.**

**ТОЧКА, пункт, комка, крапка,**

**ТОЧНО, пунктоўна, акуратна.**

**ТОЧНОСТЬ, пунктуальнасць, акуратнасьць, скрупулятнасьць, дакомнасьць.**

**ТОШНИТЬ** *каго,* **мліць, млосна; нудзіць; скліць, скліўкі; гадзіць, гадка.**

**ТОЩІЙ, тушчы, тушчэць.**

**ТРАВА** *аг. слав.* **трава—віца, траўка, травяны, траванец; травень,** месяц май.

**ТРАВНИК,** сабраньне траў; **былінар, зельнік.**

**ТРАВЕРС,** *франц.* папярэчны вал; **шанец.**

**ТРАВИТЬ** *каго, чым;* **труціць, tручэньне.**

**ТРАВЛЯ,** лавеньне зьвераў нацковуючы сабак, птушак ястрабамі; **цковы.**

**ТРАГЕДІЯ** *ж. грэцк.* **трагэдзія.**

**ТРАДИЦІЯ** *ж. лац.* што вусна перашло ад аднаго пакаленьня да другога; **показь; традыція.**

**ТРАКТАТ** *м. лац.* **дзяржаўная умова.**

**ТРАКТ** *лац.* вялікая дарога; **шлях.**

**ТРАНЖИРИТЬ** *што,* **траляваць.**

**ТРАНЗИТ** *м. лац.* **правоз.**

**ТРАНСПАРАНТ** *лац.* **пяросьветка.**

**ТРАНСПОРТ** *м. франц.* **дастаўка.**

**ТРАНСФЕРТ** *лац.* **перадача.**

**ТРАНСЦЕДЕНТАЛЬНАЯ** *філёзсфія;* **дасьледчая.**

**ТРАНШЕЯ** *ж. франц.* **закоп.**

**ТРАПЕЗА** *ж.* **стол.**

**ТРАПЕЗНИЧАТЬ,** есьці за сталом, **сталавацца.**

**ТРАПЕЦІЯ** *геомэтр.* чатыракутнік з нятокнымі старонамі, з якіх дзьве абапольныя.

**ТРАП** *м.* лесьвіца на вадаплаве; **лесьвіца.**

**ТРАТИРОВАТЬ** *грошы, купецк.,* **пераваддзіць.**

**ТРАТИТЬ** *што,* **выдаваць, выдаткаваць, выдаткавацца, выдатак.**

**ТРАУР** *м. нямецк.* **жалоба, жалобны; карва, карыць; карнік**—разпарадчык хаўтурным паходам, магільшчык; **карван,** жалобны паход; **карынка**—жалобны убор галавы у жанок.

*Прыбяры галованьку*
*У белу намётаньку*
*Чорную карыначку;*
*Пахавай у скрыначку,*
*(Вяс. п. Пружанск. п.).*

**ТРАФАРЕТ** *м. італьянск.* прарэзаная папера, паводле вырэзаных узораў, якой размалёвываюць маляры сьцены пакояў; **трафарэтка.**

**ТРАФЛЯТЬ** *што, нямецк.* **трапляць—ляцца**

**ТРАЭКТОРІЯ** *арт.* **лінія.**

**ТРЕБИТИ** *стар. што,* **ачышчаць.**

**ТРЕБУХА** *ж.* **вантробы.** *Трыбух,* па нашаму—гэта „жалудак“.

**ТРЕБОВАТЬ, вымагаць, вымаганьне, вымогі**

**ТРЕБОВАТЕЛЬНЫЙ, вымогчывы.**

**ТРЕБОВАТЕЛЬ, вымагач—гачка.**

**ТРЕБА** *црк.* **ахвяра, ахвяраваньне.**

**ТРЕБѢ** *прысл.* **трэба.**

**ТРЕБНИК** *м. црк.* **ахвярнік,** кніга, па якой адпраўляюцца царкоўныя абрады.

**ТРЕБИЩЕ** *ср.* **ахвярнік,** мейсца, на якім складаюцца ахвяры.

**ТРЕВОЖИТЬ** *каго,* **трывожыць—жыцца, трывожлівы; струшня—шыцца, струшлівы.**

**ТРЕВОЛНЕНІЕ, паруха, навальніца.**

**ТРЕЗВЫЙ, цьвярозы, цьвярозасьць, цьвярозіць.**

**ТРЕЗВОНИТЬ, пустазьвягаць.**

**ТРЕКА,** дрэўляны вялікі молат да разьбіваньня камоў зямлі; **кука.**

**ТРЕЛЬ** *ж. музыч.* пераліў, дрыжаньне, хуткая зьмена двох гукаў; **пошчак.** *Пошчак салаўіны.*

**ТРЕНГОВАТЬ** *вяроўку,* павіваць паміж зьвітых стволак; **дратаваць, дратоўка, дратаваны.**

**ТРЕНЗЕЛЬ** *м. ням.* цуглі уздэчкі, абапол храпы, якіх конь няможа закусіць; **скелзы.**

**ТРЕНОЖНИК** *м.* зялезная падстаўка, пад якой разкладаюць агонь; **трыножак, трыган.**

**ТРЕНКАТЬ** *чым па чым;* **брынкаць.**

**ТРЕПЕТАТЬ,** дрыжэць, трасьціся; **трымцець, трымцецца; тропат, тропатлівы, трапатун, тропацца, тропаткі.**

**ТРЕПАТЬ,** калашмаціць.

**ТРЕСКАТЬСЯ, трэскацца, лопацца, лузгацца пукацца.**

**ТРЕСК** *м.* **трэск, трэскацца, траскучы трашчотка, троскат.**

**ТРЕТЕЙСКІЙ** *суд,* **палюбоўны.**

**ТРЕТИРОВАТЬ** *каго, франц.* **абхадзіцца; муштраваць.**

**ТРЕФОЛЬ** *расьц.* **трылісьнік.**

**ТРЕФ** *м. франц.* масьць у картах; **жалуды, жалудовы** або **жалудны—ная.**

**ТРЕФ** *м. жыдоўск.,* не кашэрны (ня чысты); **паганы.**

**ТРЕХАВЫЙ, скудлачаны.**

**ТРЕЩИНА** *ж.* **разскеп, разскепіна; шчалуга; нашчалка; розлузка; разпоквіна—віца.**

**ТРЕЩОТКА, трашчолка, тыршкля.**

**ТРИБУНА** *ж. лац.* падвышэньне для прамоўцы; **моўніца.**

**ТРИГОНОМЕТРІЯ** *ж. грэцк.* матэматыка трыкутнікаў; **трыганамэтрыя.**

**ТРИКИРІЙ** *грэцк.* **трысьвечнік.**

**ТРИКО** *ср.* тканіна, падобная да робленых пруткамі матэрый; **рубковец** (ад „рубіць“, „рубкаваць“, рабіць пруткамі з нітак тканіну, прыкл. панчохі); **трыкот.**

**ТРІУМФ, слава.**

**ТРОАКАР** *м. франц.* трыкантовае дактарскае шыла; **трыканцік.**

**ТРОГАТЬ** *што,* **чапаць, кранаць, рухаць.**

**ТРОГАТЕЛЬНЫЙ, парушаючы, разчуляючы, тклівы.**

**ТРОНУТЬ, рушыць, крануць, чапаць, ткнуць.**

**ТРОН** *м.* царскае крэсла; **пасад.**

**ТРОПА** *ж.* **сьцежка, сьцяга.**

**ТРОПИК** *м. грэцк.* выабражаная акружнасьць абапал экватара (роўнадзенніка).

**ТРОСТЬ, стусіна, стусіннік,** сітаваты ў сярэдзіне; **чарот, чаротнік,** каленісты, расьце дудкай ў сярэдзіне.

**ТРОСТКА, палка, посах, пасашок; ляска.**

*Дайце мне лясачку, папіраціся,*
*Пайду к дзевачкам залецаціся.*

**ТРОТУАР** *м. франц.* **ходнік.**

**ТРОФЕЙ** *м. грэцк.* дабытая ў ворага маемасьць; **здобыч.**

**ТРОЮРОДНЫЙ, ў трэцім калене.**

**ТРУБА** *дымавая,* **комін.**

**ТРУБКА** *да курэньня,* **люлька.**

**ТРУБОЧИСТ** *м.* **камінар.**

**ТРУБЧАСТЫЙ, трубкаваты.**

**ТРУД** *м.* **праца, працаваць, працавік—віца, працоўны, працавітасьць, працавіты.**

**ТРУДНЫЙ, трудны, цяжкі.**

**ТРУНИТЬ, галузаваць, кепкаваць.**

**ТРУНЬЕ**, драньцё, транты.

**ТРУПОРЕХОВАТОЕ** *дрэва*, трупехлае.

**ТРУП**, труп, трупны, трупаваты, трупець.

**ТРУТИТЬ**, трухнуць, трухлівы, трухлівец.

**ТРУТИТЬ**, муляць. *Бот муляе нагу.*

**ТРУЩОБА**, ламарня. *Жывуць ў ламарні, як злыдні.*

**ТРЯПКА** *ж.* рызінка, ашмётка, скумат, лахмат, дзярмень.

**ТРЯПЬЕ**, драньцё, рызьцё, лахмацьцё.

**ТРЯПИЧНИК**, рызьнік, анучнік, лахмытнік.

**ТРЯХНУТЬСЯ**, трэснуцца.

**ТРЯСКІЙ**, дрогкі.

**ТРЯСИНА** *ж.* дрыгва.

**ТУАЛЕТ** *м. франц.* убор.

**ТУЖУРКА** *ж. франц.* штодзенная вопратка.

**ТУЗ** *м. нямецк.* карта з адным вочкам; панфіль, панцік. Калі у некатарых гульнях прыймаецца за старшую карту краля, то тады на яе пераходзіць назоў *панфіль*.

**ТУЗИТЬ** *каго*, латашыць.

**ТУЛОВИЩЕ**, цела без галавы, бяз рук і бяз ног кодаб, кадобішча.

**ТУЛУП** *м.* кажух, кажушок, кажушына; кажара—рка, кажаронка.

**ТУМАН**, туман; хомар, хаморна, хаморыцца, захаморылася.

**ТУМБА** *франц.* стабур, стабурок.

**ТУНЕ** *прысл.* дармо, дарэмна.

**ТУНЕЯДЕЦ** *м.* дармаед, дармаедзтва.

**ТУПОЙ**, тупы, тупаваты, тупасьць, тупіца, тупіць.

**ТУРБИНА** *ж.* вал.

**ТУРНИР** *нямецк.* рыцарская забава; гарц, гарцоўнік, гарцоўніцтва.

**ТУРУСЫ**, брэдні.

**ТУСКЛЫЙ**, **жухлы, жухнуць, жухласьць, жухнець; жутлы.**

**ТУФЛИ**, абутак на босую нагу для дому; **штапакі, папучы; ціжмы.**

**ТУХНУТЬ**, **гаснуць, гасіць, гашэньне.**

**ТУХЛОСТЬ**, **тхленасьць, тхлявы, тхля.**

**ТУЧА** *ж.* **туча, хмара.**

**ТХОРЬ**, **шашок.**

**ТЩАТИСЯ**, **старацца, старэнна.**

**ТЩЕТНО**, **дарэмна.**

**ТЩІЙ**, **тушчы, парожні, пусты.**

**ТЩЕДУШІЕ**, **слабасільля, слабасіл.**

**ТЩЕСЛАВНЫЙ**, **пустахвальны, пустаслаўны.**

**ТЩЕТА**, **пустка, марнасьць.**

**ТЫКАНЬЕ** *пальцам*, **тыцканьне, тыцкаць; торканьне, торкаць.**

**ТЫКВА** *ж.* расц. Cucorbita pepo; **гарбуз.**

**ТѢЛЕСНЫЙ**, **цельны, цялесны—снасьць.**

**ТѢНЬ**, **цень, цяністы, цяніць; засень, засьціць, засьцісты, засьнік, засенак.**

**ТѢСНИТЬ**, **ціснуць, гнясьці.**

**ТЮК** *тавару*, **ўюк, ўюкі, ўючыць.**

**ТЮРБАН** *м.* **турбан.**

**ТЮРЬМА** *ж.* **турма; астрог; вязьніца.**

**ТЮРЯ** *ежа*, хлеб і вада; **рулі.**

**ТЮФЯК**, **матарас; пехцяр.**

**ТЯВКАТЬ**, **дзяўкаць, зяхаць.**

**ТЯЖЕСТЬ**, **цягар.**

**ТЯГОСТНО**, **уцяжліва.**

**ТЯНУТЬ** *што*, **цягнуць—нуцца, цягацца, цягучы, цягач.**

**ТЯГОТѢТЬ** да чаго; **цягнуць, цяжыць.**

**ТЯЖБА**, **перапоры, перасуды, суды.**

**ТЯЖ** пры аглаблёў, **атосы.**

**ТЯЖЕЛЫЙ**, цяжкі, цяжэйшы, цяжэць.

**ТЯПАТЬ**, цюкаць, цюкнуць.

**ТЯЖЕЛОВѢСНЫЙ**, важкі.

**ТЯТЯ**, татуля, татуль, тата.

## У.

**УБАВКА**, унятак, уйма.

**УБАВЛЯТЬ** *каму чаго*, унімаць, умяншаць.

**УБАЮКИВАТЬ** *дзіцятка*, закалыхаць, залюляць, забайкаць.

**УБЕРЕГАТЬ**, усьцерагаць, усьцерагчы.

**УБЕРЕЖЬЕ** *ср.* наўзбярэжжа. *Наўзбярэжжа ракі шумнацечнай.*

**УБИВАТЬ** *каго*, забіваць, забіваньне, забойца.

**УБИРАТЬ** *што*, прыбіраць, парадкаваць. *Прыбралі ў хаце. Прыбралі, сабралі з поля. Спарадкавала рэчы.*

**УБОРКА** *збожжа*, збор.

**УБОРНАЯ**, пакой, ў якім мыюцца, перапранаюцца; горанка, горніца.

**УБОРИСТОЕ** *пісьмо*; цеснае, густое.

**УБІЙЦА** *м.* забойца.

**УБЛАЖАТЬ** *каго*, уласкаўліваць, уласкавіць; удаваліваць, удаволіць.

**УБЛАГОТВОРИТЬ** *каго*, здаволіць.

**УБЛЮДОК** *м.* мяшаніна двох гатункаў жывёлаў; мяшанец.

**УБРУС** *м.* настольнік, абрус.

**УБЫЛЬ**, убытак, упад. *Пашло на ўпад.*

**УБЫТОК**, страта, стратны.

**УБѢЖИЩЕ**, прыстанішча, прытулак.

**УБѢДИТЬ** *каго*, **пераканаць, пераконываць, пераконаньне, пераконаны.**

**УБѢДИТЬСЯ, пераканацца, даканацца.**

**УБѢЧЬ** *куды*, **уцячы, уцекі, уцечка.**

**УВАДИТЬ** *каго, куды;* **унадзіць—дзіцца, унада, унадлівы.**

**УВАЖЕНІЕ, пашана, увага, уважлівасьць, звага.**

> *Не хачу нявестачкі ў атласе,*
> *Хачу ў беленькай сярмязе,*
> *А былаб яна ў добрай звазе.*
> *(Леп. пав.).*

**УВАЛЕНЬ, цяльпух; гультай.**

**УВЕЛИЧИВАТЬ** *што*, **павялічаць—чацца.**

**УВЕЛИЧИТЕЛЬНЫЙ, пабальшаючы.**

**УВЕРНУТЬСЯ** *ад чаго*, **выкруціцца, выкрутасы.**

**УВЕРТЫВАТЬ** *што у што*; **увіваць—ваньне, увінуты.**

**УВЕРТЛИВЫЙ, умклівы, выкрутлівы.**

**УВЕРТЮРА** *франц.* музыка перад пачаткам відовішча.

**УВЕСЕЛЯТЬ** *каго*, **весяліць, зьвесяляць, развесяляць.**

**УВЕСЕЛЕНІЕ** *ср.* **разрыўка; забава.**

**УВИДАТЬ** *што*, **убачыць, убачыцца—чаньне.**

**УВИЛИВАТЬ, выкручывацца.**

**УВИНЧИВАТЬ** *што*, **ушрубовываць.**

**УВЛАЖНЯТЬ** *што*, **авалажываць, вогціць.**

**УВЛЕКАТЬ** *каго у што*; **уцягаць.**

**УВЛЕКАТЬСЯ, захапляцца.**

**УВЛЕКАТЕЛЬНЫЙ, пацягаючы, захоплівы, захопчывы.**

**УВЛЕЧЕНІЕ** *ср.* **захопленьне; захват.**

**УВОРОВАТЬ** *што*, **украсьці.**

**УВЫ!** ах, ох, гора мне!

**УВѢРЯТЬ** *каго*, запэўняць, запэўняцца.

**УВѢРЕНІЕ** *ср.* запэўненьне.

**УВѢРИТЬСЯ** *у чым, у кім*, дапэўніцца.

**УВѢРЕННОСТЬ** *у чым*, пэўнасьць.

**УВѢСИСТЫЙ**, важкі, цяжкі. *Важкі кулак.*

**УВѢЧИТЬ** *каго*, калечыць—чыцца, калечаньне.

**УВѢЧЬЕ** *ср.* калецтва, калекі.

**УВѢЩЕВАТЬ** *каго*, напамінаць—наньне, напамінач—начка.

**УВЯДАТЬ**, вянуць, вялы.

**УГАРЬ** *м.* чад, чадзіць, чадна, зачадзець.

**УГАСАТЬ**, стухаць, гаснуць; счагаць, счог; выцьмяваць.

**УГОЩЕНІЕ** *ср.* частунак, пачастунак.

**УГОЩАТЬ** *каго*, чэсьціць, частаваць.

*Калі любіш, частуй нас,*
*А ня любіш, адпраў нас.*
*(Ш. І. ч. 2. с. 35).*

**УГЛЕРОД** *м.* воглік, вуглярод.

**УГЛУБЛЯТЬ** *што*, паглыбляць.

**УГНЕТАТЬ**, прыціскаць, прыгнятаць.

**УГНЕТЕНІЕ** *ср.* уціск, прыгнечаньне.

**УГОВАРИВАТЬ** *каго*, умаўляць—ляцца.

**УГОВОР** *м.* умова, умоўны, умаўляцца.

**УГОЖДАТЬ** *каму*, дагаджаць, дагадзіць. *Нада мне дагадзіць сьвскарку, сьвякроўцы.*

*Ідзіця, дзеткі, служыці,*
*Чымся мачыці гадзіці.*
*(Рам. 8—9 с. 185).*

**УГОДНЫЙ** *каму, да чаго;* дагодны.

**УГОДЛИВЫЙ** *чалавек*, дагодлівы, які умее дагадзіць.

**УГОДЬ** Е*ср.* **аромiна, арльля.**

**УГОЛОВНОЕ** *аб праступку,* за якi кяраецца галавой, карай сьмерцi; **крымiнальнае, крымiнальны, крымiналiст.**

**УГОЛ** *м. у сярэдзiне;* **кут**; *на зьне* **вугол, рог** або **кант.** Самы куточак вока **глузок;** згэтуль **глузаваць,** глядзець скошанымi вачыма.

**УГЛОМѢР** *м.* **кутамернiк, вугламернiк.**

**УГОЛЬ** *м.* **вугаль, вугалi, вугальля, вугальны, вугальнiк—нiца.**

**УГЛЕРОД, вуглятвор.**

**УГОМОЗИТЬСЯ, угаманiцца, угамон, угамонны.** *Угамані дзяцей, крыкні на іх. Што так рана у вас угаманіліся сягоньня. Нічым не ўгаманю зубоў, ні спаць, ні ляжаць. Начным угамонам, як злодзей падкраўся. Ні супакою, ні ўгамону няма*

**УГОРАЗДИТЬ** *што,* **умудрыць, ухiтрыць.**

**УГОРЬ** *рыба* Muraena angvila; **вугар.**

**УГОТАВЛИВАТЬ** *што,* **прыгатаўляць.**

**УГРОЖАТЬ** *каму чым,* **пагражаць, пагроза.**

**УГРЫЗАТЬ, кусаць, укусiць, укус.**

**УГРЫЗЕНIЕ, згрызота.**

**УГРЮМЫЙ** *чалавек,* **пануры, панурасьць, панурыцца; гмырлiвы, гмырыцца; суглобы.**

**УГРЯЗАТЬ, гразнуць, пагразнуць.**

**УДА** *ж.* **вуда, вудка, вудачка;** **вудаўе, вудавiла, вудзiць, вудар, вудзець, вудаль.** *Сядзіць вудар на ляду, падпер вудай бараду.*

**УДАБРИВАТЬ** *зямлю* **паляпшаць, гнаiць, навозiць.**

**УДАЛЬ, буесьць, сьмеласьць.**

**УДАВЛИВАТЬ** *каго,* **душыць.**

**УДАВКА** *ж.* **захлыска, пятля.** *Закінуць вяроўку захлыскай, пятлёй.*

**УДАЛЯТЬ** *што, каго, ад чаго;* **аддаляць—ляцца, аддаленьне.**

**УДАРЯТЬ**, **ударацъ, ударапцца, удар.**

**УДАРИТЬСЯ, ударыцца, кокнуцца, ляпнуцца.**

**УДАРЕНІЕ** *ў пісьме*, **націск.**

**УДАРЬ** *хвароба*; **прыпадак, шляк.** *Каб це шляк трапіў.*

**УДЕРЖИВАТЬ** *што, каго;* **утрымліваць—вацца, утрыманьне.**

**УДЕСЯТЕРИТЬ** *што*, **удзесяціць.**

**УДИВЛЯТЬ** *каго, чым*; **дзівіць, задзіўляць.**

**УДИВЛЕНІЕ** *ср.* **подзіў.**

**УДИВИТЁЛЬНЫЙ, дзіўны, наздзіўны.**

**УДИЛА**, двохзворнае зялезка пры вуздэчцы да брытаньня коней; **батары, батаць, забатаць: цуглі.**

**УДЛИНЯТЬ** *што*, **доўжыць, падаўжаць.**

**УДОБНЫЙ, выгодны, выгода.**

**УДОБРЯТЬ** *зямлю*, **навозіць, навоз.**

**УДОВОЛЬСТВО, здаволеньне, здавольства.**

**УДОВЛЕТВОРИТЕЛЬНО, здавальняюча.**

**УДОВОЛЬСТВІЕ, здаволеньне, прыемнасьць, уцеха.**

**УДОСТОВЁРЯТЬ, запэўняць, заручаць.**

**УДОСТОВЁРЕНІЕ** *ср.* **зарука, запэўненьне.**

**УДОСТОИТЬ**, прызнаць вартым чаго, заслужываючым; **учціць.** *Учці яго быць асабіста пры гэтым. Учцілі яго нагародай.*

**УДОСУЖИТЬ** *каго, на што* **спавольніць.**

**УДОСУЖИТЬСЯ, суспець.**

**УДРЕСВИТЬ** *дарогу*, пасыпаць жвірам; **жвіраваць.**

**УДРУЖИТЬ** *каму*, **услужыць, удружыць.**

**УДРУЧАТЬ** *каго чым;* **уціскаць, драчыць, мучыць.**

**УДРАТЬ, уцячы, зьбегчы.**

**УД** *м.* чэляс, часьць цела як нага, рука, паляц; **чэляс, чэлясы.**

**УДѢЛ** *м.* **часьць, частка, дзель; доля, шчасьце.**

**УДЮЖѢТЬ, аклемацца.** У слонімскім павеце ужываецца слова *„аклемацца“* ў значэньні акрэпнуць; **клемкі,** крэпкі, цьвёрды, здаровы. *Як мается? Клемаю!* знача нішто.

**УЕДИНЯТЬ** *каго ад чаго;* **адасабняць, адасобнены, адасобак, адасобнік—ніца.**

**УЖАЛИТЬ** *каго,* укалоць жыгалам, як гэта робяць пшчолы, вужакі; **ўжыгнуць, ужог.** *Ужог пшчалы, вужакі.*

**УЖАРИТЬ** *мяса,* **усмажыць.**

**УЖАС** *м.* **помірс, помірсна, спомірсу; жах, жахліва, сжахнуцца, сужахлівы.** *А самога як бытцам помірс бярэць (Шэйн. III. 233). Спомірсу ажно скура здубела на карку і валасы ўсталі* (*Дрысенск. пав.*).

**УЖИМАТЬ** *што,* **угнятаць, уціскаць.**

**УЖИМКИ, крывёлы, крывеліцца; крыўлянiна, крыўляцца, крыўляецца.**

**УЖИМЧИВЫЙ,** які крэпка уціскае; **прыгнетны, прыгнёт,** парубень, жэрдзь, да уцісканьня сена на вазе.

**УЖИНАТЬ, вячэраць—раньне, вячэра.**

**УЗАКОНИВАТЬ** *што,* **упраўняць, упраўнены.**

**УЗАРОЧИТЬСЯ,** налажыць на сябе зарок; **азарочыцца.**

**УЗВАР** *м.* вараныя сухія фрукты; **сьліжа, сьліжаніна.** *Наварыла сьліжы з яблыкаў. Хлеб са сьліжою нямецкая ежа* (*Боркавічы*).

**УЗДА** *ж.* **узда, уздэчка, уздзяніца, уздаць.** Уздэчка без батароў (цугляў): **аброць.**

**УЗЕЛ** *м.* **вузёл, вузлавіна, вузлак—лаціна, вузьлянка, вузельны, вузлаваты, вузлісты, вузлацік, вузлавацік, вузлавіна, вузьліць, вузьляць, вузласты.**

**УЗКІЙ**, вузкі, вузейшы, вузець, вузенькі, вузкаваты, вузіня, вузкасьць, вузец, вузік, вузіць.

**УЗНАВАТЬ** *каго* спазнавацць—вацца, спазнаньне, спознатка, спазнатны—чык, чыца; *што, аб чым:* даведывацца—ваньне, доведы.

**УЗОР** *м.* рысунак—нкі.

**УЗОРИСТЫЙ**, рысоўны.

**УЗРѢТЬ** *што*, ўбачыць, убачыцца—чаны; угледзіць.

**УЗУРПАТОР** *м. лац.* ўлаз, самазванец.

**УЗЫ**, вязі.

**УЗНИК** *м.* вязень, вязьніць, вязьніцтва.

**УЗНИЦА** *ж.* вязьніца, вязьнічны.

**УЙ, УЕЦ** *м.* дзядзька па матцы; вуй, дзядзька.

**УКАЗЫВАТЬ** *што, каму*: паказываць—зацца, паказ, паказка, паказны, паказчык—чыца, паказьлівы.

**УКОЛ** *м.* пакол, укол, укалоць—лоцьце.

**УКАЗ** *м.* загад, загадны, загадчык.

**УКАТЫВАТЬ** *што*, укачываць, укотны, укот

**УКАТЬ**, пераклікацца ў лесе; гукаць, гукнуць, згукацца. Не маглі ніяк згукацца.

**УКАЧАТЬ** *дзяцё*, закалыхаць.

**УКЛАДЫВАТЬ** *што у што*: складаць—дацца, складаньне, складчывы.

**УКЛОНЯТЬСЯ** *ад чаго*, ухіляцца, ухільчывы.

**УКЛОН**, нахіл, нахілы.

**УКОЛЕСИТЬ** *дарогу*, уторыць.

**УКОРАЧИВАТЬ** *што*, скарачаць.

**УКОРЯТЬ** *каго чым*, дакараць, дакорнік—ніца.

**УКОРИЗНА** *ж.* дакор, дакорлівы.

**УКРАШАТЬ** *што чым*; аздабляць—ляцца, аздобнасьць, аздобны.

**УКРАШЕНІЕ** *ср.* **аздоба; пакраса.** *Жалею касы русай, ўсей дзявочай пакрасы. (Шэйн. I ч. 2 с. 95).*

**УКРЕСТОВАТЬ** *црк. каго,* **укрыжаваць.**

**УКРОМНЫЙ, зацішны, зацішак—цішша.**

**УКРОП варатак, вар.**

**УКРОЩАТЬ** *каго,* **паскрамляць, паскраміць, паскромлены, паскромшчык—чыца.**

**УКРЫВАТЬ** *што,* **пакрываць, хаваць.**

**УКРЫВАТЕЛЬСТВО, пакрытніцтва, пакрытнік--ніца.**

**УКРѢПЛЯТЬ** *што,* **пасілкаваць, умацовываць--вацца, умацаваньне.**

**УКРѢПИТЕЛЬНЫЙ** *напітак,* **пасільны.**

**УКСУС** *м.* **воцат, вацтовы, воцтаўка.**

**УКУПОРИТЬ** *што,* **укаркаваць, заткаць.**

**УКУТАТЬ** што, чым; **завінуць, агарнуць, ахутаць.**

**УКУШЕНЬЕ, укус.**

**УЛЕЙ, вулей, вульлі, вулёк.** Паводле форм бываюць; *каранік,* дзюплаватая калода адрэзаная ад пня пры карэньнях; *лежань,* той-жа каранік ў ляжачай пазыціі; *стаяк,* каранік ў стаячым палажэньні паставлены; *борць,* дзюплаваты пень, павешаны на дрэве. Наагул пшчальнікоўства дзеліцца на дваякае: *бортнае,* калі вульлі падвешываюць на дрэвах і *зямецтва,* калі вульлі стаўляюць на зямлі.

**УЛЕПЕТЫВАТЬ, уплятаць.**

**УЛЕТУЧИВАТЬСЯ,** абяртацца ў пару ў газ; **улятняцца, улятняць.**

**УЛЕЧЬСЯ, улягчыся.**

**УЛИЗНУТЬ** *адкуль,* **высьлізнуць, улытнуць.**

**УЛИКА** *ж.* **прысьветка, пашляка.**

**УЛИТА, УЛИТКА, смоўж.**

**УЛИЦА** *ж.* **вуліца, вулка.**

**УЛИЧИТЬ** *каго у чым;* **вініць, вінаваціць.**

**УЛОЖЕНІЕ**; зборнік права; **статут**.

**УЛОВКА**, **падход**.

**УЛУС** *м. калмыцк.* **вёска**.

**УЛУЧШАТЬ** *што*, **паляпшаць—цца, палепшэньне**.

**УЛЫБАТЬСЯ**, **усьміхацца, усьмешка**; кажуць на дзіцячую усьмешку: **умілка, умілачка, умільчывы**. Аб маўклівым, у самім сабе сьмеху кажуць: **улыхаецца**; **лохатна**, ўнутраны пазыў да сьмеху; **лохчывае** абліччa, на якім іграе вясёласьць, сьмяшок; **лахатун, лахатуньня**, тое-ж што хахатун—туньня.

**УЛЬТИМАТУМ** *лацінск.* апошняе слова, аканчальны зарунак.

**УЛЮЛЮКАТЬ**, цказаць ваўкоў; **агатукаць**.

**УМАЯТЬ** *каго*, **змарыць**.

**УМАЛЯТЬ**, **зьмяншаць**.

**УМАЛИШЕННЫЙ**, **варьят, варьяцтва—яваць**.

**УМАЛЧИВАТЬ**, **умаўчываць, умоўчка**.

**УМОЛКАТЬ**, **замаўкаць—каньне**.

**УМАРЯТЬ** *што*, **упэцкаць**.

**УМАЛЯТЬ** **зьмяншаць, маліць**; **унімаць, уйма**.

**УМЕРЩВЛЯТЬ** *каго*, **марыць, марчыць**.

**УМЕРІЦВЛЕНЬЕ** *ср.* **марчаньне, мораньне, умор**. *Марчаньне цела пастом. Мораньне голадам.*

**УМОРИТЕЛЬНЫЙ**, надзвычайна сьмешны; **забаўны, забаўнік—ніца**.

**УМИЛИТЬ** *каго*, **разчуліць—ліцца—леньне**.

**УМИЛИТЕЛЬНЫЙ**, **разчуляючы**.

**УМИЛЕННЫЙ**, **разчулены**.

**УМИЛОСТИВИТЬ** *каго*, **уласкавіць**.

**УМИНАТЬ** *што*, **мясіць, месіва**.

**УМИРАТЬ**, **паміраць, уміраць**.

**УМИРОТВОРЯТЬ**, **супакоіваць, супакой**.

**УМИРОТВОРИТЕЛЬНЫЙ**, **супакойлівы**.

**УМНИК** *м.* разумнік, разумніца.

**УМНОЖЕНІЕ** множаньне, множнік, множны, множства.

**УМНЫЙ**, разумны.

**УМОВЕНІЕ** *ср.* амыцьцё, амываць, амываньнэ.

**УМОЗРѢНІЕ** *ср.* сьветагляд.

**УМОЗАКЛЮЧЕНІЕ**, вывад.

**УМОЛЧАТЬ**, змоўчыць, прамаўчаць.

**УМОЩНЯТЬ** *каго*, умацняць,

**УМУСЛИТЬСЯ**, умурзацца.

**УМЧАТЬ** *што*, умкнуць, умыкаць.

**УМ** *м.* розум, разумны, разумнік—ніца, разумна. У нашай мове разрожніваюць *розум* і *ум*-апошняе выводзіцца ад *умець*, згэтуль—умецтва, умец, майстар.

**УМСТВОВАТЬ**, разумаваць, ваньне.

**УМСТВЕННЫЙ**, разумоўны.

**УМЫВАТЬ** *абліччa*, амываць—ваньне.

**УМЫВАЛЬНИК** *м.* мыйнік.

**УМЫШЛЯТЬ** *што*, кнаваць.

**УМЫШЛЕННО**, умысна, наўмысна, сумысна.

**УМЫШЛЕННИК**, сумысьнік—ніца.

**УМѢЛЫЙ**, умейны, умецтва.

**УМѢРЕННЫЙ**, памяркоўны; мерны, памерны.

**УМѢРЕННОСТЬ**, памяркоўнасьць, памернасьць.

**УМѢТЬ**, умець, уменьнэ, умейны, умецтва, умец.

**УМЯГЧАТЬ** *што*, умякчаць, зьмякчаць.

**УМЯТЬ**, угнясьці, угнеткі, угнетчывы.

**УНАЗМИТЬ** *поле*, ўнавозіць.

**УНАСЛѢДИТЬ** *што*, атрымаць спадак.

**УНИВЕРСИТЕТ** *м. лацін.* унівэрсытэт.

**УНИВЕРСАЛЬНЫЙ** *лац.* ўсеагульны.

**УНИВЕРСАЛ** *м. лац.* грамата.

**УНИЗИТЕЛЬНО,** паніжаюча, паніжаць.

**УНИСОН** *музык.* ў адзін голас; аднагучнасьць.

**УНИЧЕЖЕНІЕ,** пакора

**УНИЧТОЖАТЬ,** нішчыць—чаньне; нівэчыць.

**УНІЯ** *м. лац.* еднасьць, аб'ядданьне.

**УНОЖЬЕ,** падножак. *Аж палажу непрыяцелей тваіх падножкам ног тваіх.*

**УНОРАВЛИВАТЬ,** патрапляць, патраплівы.

**УНТЕР** *м. нямецк.* першы салдацкі чын у расійскім і нямецкім войску.

**УНЫВАТЬ,** панікаць; нуднуць, нудзець; сумнець.

**УНЫНІЕ** *ср.* сум, смутак, нуда.

**УНЫВНЫЙ,** нудны, сумны.

**УНЯТЬ,** утаймоваць. *Утаймоваць кроў.*

**УПАКОВЫВАТЬ** *што, нямецк.,* спакладаць—даньне, спакладчык—чыца.

**УПЕЛЕНАТЬ,** спавіць, спавіваць.

**УПЕЩРЯТЬ,** пстрыкаціць.

**УПИТАТЬ** *каго,* адкарміць, адкорм.

**УПОВАТЬ** *на каго,* спадзявацца, спадзея.

**УПОДОБЛЯТЬ** *што да чаго;* упадабляць.

**УПОДОБИТЬСЯ,** сутокміцца. *Сутокміцца жыцьцё людзкое гадзінам у месяцы.*

**УПОЕНІЕ,** упаеньне.

**УПОКОЕНІЕ,** спачын, спачываньне.

**УПОЛНОМОЧИТЬ** *каго,* упаўнамочыць.

**УПОЛОВНИК** *м.* апалонік, палонік.

**УПОМИНАТЬ** *аб чым,* спамінаць.

**УПОТРЕБЛЯТЬ** *што,* ужываць, ужытак, ужываньне.

**УПОТЧИВАТЬ** *каго,* угасьціць, участаваць.

**УПРАВЛЕНІЕ,** кіравецтва, кіравецкі, кіраваць, кіраўнічы, кіраўнік—ніца.

**УПРАЖНЯТЬ** *каго, чым,* даваць работу, навык да работы; навытараць.

**УПРАЖНЕНІЕ** *ср.* навытар, навытарка, навытараны, навытарнік—ніца.

**УПРЕЖДАТЬ**, паперадж*а*ць.

**УПРЕКАТЬ**, дакар*а*ць.

**УПРЕК** *м.* дакор; з*а*кід, закід*а*ць, з*а*кіды.

**УПРОЧИТЬ** *што*, уст*а*ліць—ліцца, умацав*а*ць—вацца.

**УПРОСТИТЬ**, спр*о*сьціць.

**УПРУГІЙ**, пр*у*гкі, пр*у*жыць, пр*у*жыцца, пр*у*гкасьць; каляны, калянець, калянасьць; г*а*рткі, г*а*рткасьць.

**УПРЫГНУТЬ**, уск*о*чыць.

**УПРЫСНУТЬ**, ўп*ы*рснуць.

**УПРЯЖЬ** *ж.* запр*а*жка, запраг*а*ць—г*а*ньне.

**УПРЯМЫЙ**, уп*о*рысты, уп*о*рлівы; кандр*ы*члівы; гал*о*блівы.

**УПРЯМИТЬСЯ**, уп*о*рыцца; кандр*ы*чыцца, гал*о*біцца.

**УПРЯМОСТЬ**, *у*пар, кандр*ы*члівасьць, гал*о*блівасьць.

**УПРЯТЫВАТЬ** *што*, упар*о*міць, упар*о*міцца, уп*о*рацца, ухат*о*рыцца.

**УПУТЫВАТЬ**, ублутываць—тацца.

**УПУЩЕНІЕ**, попуст, недагляд.

**УПЫР** *м.* навец, н*а*ўскі.

**УПЯТИТЬ** *што*, ўкант*о*піць.

**УРА**, крык радасьці, вітаньня, пахвалы; сл*а*ва.

**УРАВНИВАТЬ**, раўнав*а*ць—в*а*цца, раўн*е*ньне.

**УРАГАН** *м.* віхравая бура; склок*и*.

**УРАЗУМѢТЬ**, зразум*е*ць, выразум*е*ць.

**УРАЗУМИТЕЛЬНЫЙ**, выраз*у*мчывы.

**УРЕЗОНИТЬ** *каго*, *франц.* угаман*і*ць.

**УРМАН** *м. татар.* лес.

**УРОВЕНЬ**, р*о*ўня. *Роўня вады ў раце.*

**УРОД** *м.* пачв*а*ра, в*ы*радак.

**УРОВНЯТЬ** *каго*, **зраўняць, зраўнаваць.**

**УРОЖАЙ, ураджай, урода.**

**УРОДОВАТЬ, калечыць.**

**УРОЖЕНЕЦ** *м.* **ураджэнец.**

**УРОК** *м.* **лекція.**

**УРОНИТЬ** *што*, **выстрымнуць.** *На абусе збожжа малоціць, зярна ня выстрымне. Выстрымнулася шклянка з рук.*

**УРОН** *м.* **ушчэрб, упад, страта.**

**УРУБАТЬ, усякаць—каццa, усечаны.**

**УРЧАЦЬ, вурчэць.**

**УРЫВЧАТЫЙ, урывісты.**

**УСАДЬБА** *ж.* **двор, сяліба.**

**УСАСЫВАТЬ, усысаць—сацца, усос, усосчывы, усоска.**

**УСАТЫЙ, вусаты.**

**УСВАИВАТЬ** *што*, **усвамліваць, усвоміць, усвомчывы.**

**УСЕРДІЕ** *ср.* **шчырасьць, шчыры.**

**УСЕРДСТВОВАТЬ** *каму ў чым*; **старацца.**

**УСЕРЯЗЬ, завушніца.**

**УСИЛИВАТЬ** *што*, **пасіляць, пасілак, пасіляцца—леньне.**

**УСИЛІЕ, высілак, высільны; натуга.**

**УСКАЛЬЗЫВАТЬ, высьлізаць—зацца.**

**УСКОРЯТЬ** *што*, **прысьпяшаць—шаньне, прысьпешаны.**

**УСЛАЖДАТЬ** *што*, **асаладжаць, асалода.**

**УСЛЫШАТЬ, пачуць, учуць.**

**УСЛОВІЕ, варунак, умова, умаўляцца, умоўны.**

**УСЛѢДИТЬ** *за чым*, **дасачыць.**

**УСМА** *стар.* **скура.**

**УСМАТРИВАТЬ** *што*, **дабачаць.**

**УСМОТРѢНІЕ, дабачнасьць, сугляд.** *Мы здаемся на панскую дабачнасьць (Друя). Наўсугляд панскі здаемся.*

**УСМИРЯТЬ** *каго,* **супак*а*іваць, супак*о*іць—цца, супак*о*еньне, супак*о*йнік—ніца, сцак*о*йлівец.**

**УСНАЩИВАТЬ,** вадаплаў, **асн*а*дзіць, асн*а*дзіц-ца,** **асн*а*дка, асн*а*ч,** хто прамышляе вадаплаўст-вам.

**УСОБНЫЙ, міжс*о*бны, міжс*о*біца.**

**УСОВЕРШЕНСТВОВАТЬ, удаскан*а*чыць, уда-скан*а*чаны, дaскан*а*тны—насьць; удаскан*а*ліць, даскан*а*льны.**

**УСОВЕРШИТЕЛЬ, даскан*а*тнік—ніцца.**

**УСОВѢТОВАТЬ** *каму,* **ур*а*іць.** *Ураілі грамадай.*

**УСОВѢЩИВАТЬ** *каго чым;* **усчуняць.**

**УСОСАТЬ** *што,* **уцмакт*а*ць.**

**УСПЕНІЕ,***сьвяти,* **спак*о*еньне.** *Спакоеньне Ба-гародзіцы, або другая Прачыстая (Архіў Турава—Пінскай епіскопіі).*

**УСПОКАИВАТЬ** *каго,* **супак*о*іваць—в*а*цца, супак*о*еньне, супак*о*й, супак*о*йчывы.**

**УСПОСОБЛЯТЬ** *што да чаго,* **прыл*а*джываць—ваццa, прыл*а*да.**

**УСПѢВАТЬ,** дасьцігаць жаданага, мець удачу; **дасьцяв*а*ць;** трапляць куды на тэрмін; **сусьпя-ваць.** *Не сусьпеў я кончыць работу. Ледзь сусь-пеў даараць ніву. Калі сусьпею, то прыду.*

**УСПѢХ,** спор у рабоце ў справах; удача, дасьці-жэньне жаданага; **досьціў.** *Ва ўсім ня досьцівы чалавек, дзе ня ступіў—няўдача. Ен досьціўна таргуе. Мае дзеўка досціў, хутка замуж вый-дзе (Загацьце, Лепэль. п.)* Можа гэта будзе „досьцігі"?

**УСРЕДОТОЧИТЬ** *што,* **усярэдзіць.**

**УСТА** *ср. мн.* **вусны, в*у*сенцы, в*у*ські.** Каля Барысова мяйсцамі вымаўляюць; **б*у*сьні, б*у*ські, бусьн*я*, бусьн*і*ца, бусенц*ы*;** прычым пачатковае „б", чуваць як бытцам „бв".

**УСТНО,** жывой мовай; **наўзм*о*ўна, в*у*сменна.**

**УСТАЛОСТЬ, зм*у*ка, знямога, спам*о*ра.**

**УСТАВ** *м.* **статут; пастанова.**

**УСТОЙЧИВЫ, астоісты.**

**УСТОЙ**, стоўб, клетка пад ўезды, або пяроцяблы маста; **шула; астоя.**

**УСТОЯТЬ, астоіцца, вытрываць.** *Перад гневам яго нішто не астоіцца.*

**УСТАЛЫЙ, змучаны, змораны, зьнямоЖаны.**

**УСТЕРЕЧЬ, усьцерагчы, усьцярагаць.**

**УСТОРОЖИТЬ** *што,* **упільнаваць, усьцерагчы.**

**УСТРОЙСТВО, уладжаньне.**

**УСТРЯНЯТЬ** *каго ад чаго:* **аддаляць, адхіляць; адстыраць.** *Адстырылі яго ад даходаў.*

**УСТРАШАТЬ** *каго чым;* **пужаць—цца, пужаньне.**

**УСТРАЩАТЬ** *каго,* **запужаць, запужываць.**

**УСТРЕМЛЯТЬ** *што куды:* **настаромліваць, настароміць—цца.** *Настароміў на яго вочы. Настароміўса ражном на мяне.*

**УСТРИЦА**, ядомы марскі склізень Ostrea edulis; у нас вядомы толькі рачныя; **чарупаўкі.**

**УСТРЯТЬ** або **УСТРЯНУТЬ** *дзе,* **увязнуць.**

**УСТУПЧИВОСТЬ, падатлівасьць, уступлівасьць.**

**УСТЬЕ** *ракі,* **рыгво, рыга; сутока, сутво.** Рака у гарэ мае *вытоку* ў нізе *сутоку* або *сутво.*

**УСУГУБЛЯТЬ** *што,* **удваіваць, удваяць.**

**УСУМНИТЬСЯ, зняпэўніцца, зьняверыцца.**

**УСУШКА, спосых.** *На спосых надсып мерку.*

**УС** *м.* **вус, вусы, вусаты, вусацець, вусач.**

**УСЫПИТЕЛЬНЫЙ, усыпляючы.**

**УСОПШІЙ, памершы, нябошчык.**

**УСЫПАЛЬНИЦА**, агульны склеп для нябошчыкаў, фамільны склеп; **грабніца.**

**УСЬКАТЬ, цкаваць.**

**УСѢЯТЬ**, пакрыць розсыпам, разкідаць па ўсяму абшару; **пасеяць, разсыпаць, абсыпаць.** *Лугі абсыпаны кветкамі. Горам жыцьцё мае пасеяна.*

**УСѢКНОКНОВЕНІЕ, сьцяцьце.**

**УТАЩИТЬ** *што,* **сьцягнуць.**

**УТВАРЬ** *црк.* рухомасьць у доме, а асабліва аздобы, начыньня; **начыньня.**

**УТВЕРЖДАТЬ,** *што,* **цьвярдзіць, цьверджаньне, пацьвярджаць.**

**УТВЕРЖДЕНІЕ, цьверджаньне.**

**УТВЕРДИТЕЛЬНО, пацьвярджаюча.**

**УТВЕРДИТЬ** *што, на чым,* **угрунтаваць, умацаваць.**

**УТЕЧКА,** убытак ад сьцяканьня; **уток, уточка.**

**УТЕРЯТЬ, утраціць, утрата, страціць, страта.**

**УТЕСАТЬ** *што,* **учасаць.**

**УТЕС** *м.* скала, каменны абрыў; самародная каменная сьцяна; **абвал.**

**УТИЛИТАРНОСТЬ** *лац.* імкненьне шукаць ва усім безпасярэдную і матэрыяльную карысьць. **утылітарнасьць.**

**УТИРАЛЬНИК** *м.* **ручнік.**

**УТКА, качка.**

**УТОЛИТЬ, укоіць, укоеньне, спакоіць; спатоліць—леньне.**

**УТОЛЩЕНІЕ** *ср.* **стоўсць, стоўсьціць.**

**УТОМИТЬ** *каго чым,* **змарыць, умарыць.**

**УТОПАТЬ, топнуць, топленік—ніца.**

**УТОПІЯ** *грэцк.* баечны, шчасьлівы край; усё выдуманае, вымрэянае, нязбытнае, крозы аб шчасьці; **манодумка.**

**УТРО** *ср.* **раніца, ранак, ранічны, ранны, ранічнік.**

**УТРОБА** *ж.* **вантроба; нутроба.**

**УТРУЖДАТЬ, трудзіць; турбаваць.**

**УТУШАТЬ, гасіць, пагашаць.**

**УТѢСНЯТЬ, угнятаць, прыгнятаць; уціскаць.**

**УТЮГ** *м.* знадабьбе да раўняньня бялізны і вопраткі; **пегель, пеглік, пегліць; прас, прасаваць.**

Пеглям называюць такі прас, які ўвесь укідаецца ў агонь, або ўкідаюць да награваньня ў агонь толькі „душы", трохкантовыя кавалкі зялеза, якія ўкладаюць ў сярэдзіну самой прылады.

**УТЯГИВАТЬ** *каго, куды*; **уцягаць**.

**УФ**! **ух**! *Ух, як прыстаў*! *Ух, які зух*!

**УХА**, мясны і наагул усякі навар; **юшнік, юшка**, тое, што расійцы называюць „суп".

**УХАБ** *м.* выбоіна па зімовай дарозе або па летняй у бездарожыцу; **выбой, выбоіна; пашыбень**. Выбоістая дарога.

**УХАЖИВАТЬ** *за дзяўчынай*, **заляцацца, заляцаньне, залёты, залётны**. *Чорт цябе бяры да з залётамі. (Рам. 8—9 стр. 106).*

*Дайце лясачку папіраціся*
*Пайду к дзевачкам заляцаціся.*

**УХАЖИВАТЬ** *за хворым*, **даглядаць—даньне, дагляд**.

**УХАРЬ**, **ліхар, ліхарскі, ліхаваць. ліхарства**. Слова гэтае належыць да тэй катэгорыі слоў, у якіх цемная прымета пераходзіць ў пахвалу. *Ліхія коні*—знача быстрыя. *Ліхацкая язда*, быстрая язда. *Ліхацкія песьні*, бойкія, звонкія.

**УХАНІЕ** *ср.* **пах, вохнасьць, вохнуць**.

**УХВАТ** *м.* прылада да выйманьня гаршкоў з печы, **вілы**.

**УХВАТКА** *ж.* **спохватка, спахватлівы—чывы**.

**УХИЧАТЬ** *хату*, **ахоўтываць, ахоўтаць**.

**УХИЩРЯТЬ** *каго у чым*, **умудраць**.

**УХИЩРЕНІЯ**, **подступы, хітрыкі**.

**УХЛЕСНУТЬ** *што у што*, **ухлыснуць**.

**УХЛОПАТЬ**, **упехтаць, упехціць**.

**УХЛЯБАТЬСЯ**, **ухлюпацца, ухлэндацца**.

**УХО** *ср.* **вухо, вушы, вушкі, вушны, вушаты, вухаты, вушак, вушнік**.

**УХОДИТЬ** *адкуль*, **адыходзіць, выходзіць**.

**УХОРОНИТЬ** *што*, ухаваць, уховы.

**УХОРАШИВАТЬ** *што*, паляпшаць.

**УХОЧИСТКА** *ж.* скарза, скорзік.

**УХУДШАТЬ**, горшыць, горшыцца, пагоршаньне.

**УЦАРАПАТЬ**, удзерці, удзёрснуць.

**УЦѢЛѢТЬ**, ацалець, ацалены, ацаленьне.

**УЧАСТВОВАТЬ** *у чым*, учасьнічаць, учасьнікніца.

**УЧАСТІЕ**, учасьця, учасьніцтва.

**УЧАСТЬ**, удзел. *Благі, добры удзел.*

**УЧАСТОК**, дзялянка.

**УЧЕБНЫЙ**, вучомны, вучомнік.

**УЧЕСТИТЬ** *каго*, участаваць; ушанаваць.

**УЧЕСТЬ** *што каму*; ўлічыць.

**УЧЕТ** *м.* залічка.

**УЧИТЬ** *каго* вучыць, вучэньне, вучоны, вучомы, вучомны, вучань; вучомнік, кніга да навукі; вукар—карка, кажуць у Магілеўшчыне аб вучыцелю.

**УЧКУР** *м.* матуз.

**УЧРЕЖДАТЬ** *што*, устанаўляць.

**УЧРЕЖДЕНІЕ** *ср.* установа, устаноўца.

**УЧУГ** *м.* *та'п.* яз, язы, перагародка папярок ракі.

**УШВЫРНУТЬ**, ушпурнуць.

**УШИБАТЬ**, саднуць, садаць.

**УШИБ** *м.* садно. *Сіняе садно ад удару.*

**УЩЕЛЬЕ**, рашчэпіна ў горах; разпадзіна.

**УѢЗЖАТЬ**, выязджаць, выезд.

**УѢЗД** *м.* павет, паветовы.

**УЮТ** *м.* утул, утульна—насьць.

**УЯЗВИТЬ** *каго*, раніць; ўжыгнуць.

**УЯСНЯТЬ** *што*, выясьняць.

# Ф

**ФАУНА** *м. лац.* усе наагул стварэньні даннай мясцовасьці; **фаўна.**

**ФАВОРИТ** *м. франц.* **ласкаўнік.**

**ФАВОРИ, ласкі.** *Панская ласка на рабым каню езьдзіць.*

**ФАЗАН**, птах Phasianus; **бажан.**

**ФАЗИС** *м.* палажэньне і паварот справы; **адмена,**

**ФАЗ** *м.* **паз, пазаваць.**

**ФАКЕЛ** *м. ням.* **лучнік, лучніца; сьветач.**

**ФАКСИМИЛЬЕ** *лацін.* зьнімак з чыйго пісьма.

**ФАКТОР** *м. лац.* выпаўніцель чыіх загадаў.

**ФАКТУРА**, сьпісак тавараў і разцэнка іх; **разцэннік.**

**ФАКТ**, выпадак, здарэньне, казус, на які можна, спасылацца.

**ФАЛАНГА** *грэцк.* **рад, шыхт.**

**ФАЛБОРА** *ж. англ.* **фальбана.**

**ФАЛДА** *ж. ням.* **складка.**

**ФАЛЬЦ** *м. ням.* **паз.**

**ФАЛЬШ** *м. ням.* **мана, ашуканства, фальш.**

**ФАМИЛІЯ** *лац.* **род, радавы; прозьвішча.**

**ФАМИЛЬЯРНИЧАТЬ, брататцца.**

**ФАНАБЕРІЯ** *ж.* **пыха.**

**ФАНАТИЗМ** *м. фр. ням.* **сызверства, сызвер.**

**ФАНЕРА** *ж. нямец.* **луб.** *Лубаваная ракітай (чачоткай) шафарня (Дзісна).*

**ФАНЕРА**, клееныя ў троя ці чэцьвера дрэўняны луб, які прадаецца аркушамі, **дыхт.**

**ФАНТАЗІЯ** *ж. ням. франц.* творчая сіла розуму дарэмная кроза; **фантазія, прымха.**

**ФАНТ** *м. нямец.* **застава,** рэч, дадзеная каму ў заставу.

**ФАРВАТЕР** *м.* самае ручво ракі; **ручво.**

**ФАРС** *м. франц.* **жарт.**

**ФАРТУК** *м. нямец.* **понявень, поняўка, панявок, понцік;** прынялося у нас праз жыдоў такжа нямецкае: **хвартух, хвартушок.**

**ФАРФОР** *м.* **парцэляна, парцэляновы.**

**ФАРЬ** *м. пэрск.* **конь.**

**ФАСАД** *м. франц.* **чало,** будынку.

**ФАСОН** *м. франц.* **крой, выгляд.**

**ФАТАЛИЗМ** *м. лац,* **кон, доля.**

**ФАЦЕТ** *м. франц.* кождая плосмень гранёнай рэчы; **брыж.**

**ФАШИНА** *франц.* пук хворасту.

**ФЕВРАЛЬ, люты.**

**ФЕДЕРАЦІЯ** *ж. лацін.* **сувязь** людзей, зямель або дзяржаў.

**ФЕЙЕРВЕРК** *м. ням.* **агнялёт.**

**ФЕЛЬДФЕБЕЛЬ** *м. ням.* старшы падафіцэр у роце.

**ФЕЛЬДШЕР** *м. ням.* **фэльчар.**

**ФЕЛЬЕТОН** *франц.* аддзел апавяданьняў ў газэце.

**ФЕНОМЕН** *ж. грэцк.* рэдкая нязвычайная права; **пракуда.** *Дзеткі, што-то за пракуда, неба гарыць, вялікае цуда.*

**ФЕОДАЛ** *м.* удзельны князь.

**ФЕРМА** *м. франц.* **засьценак.**

**ФЕРТ** *м.* літара **ф; франт.**

**ФЕФЕР** *м. нямецк.* **перац.**

**ФЕХТОВАТЬ,** *нямецк.* **віхтацца, віхтаць, віхтунак.**

**ФИБРА** *лац.* нітка, валакно цела.

**ФИГЛИ** *мн.* **штукі.**

**ФИГУРА** *лац.* **зьнешні абрыс рэчы, зьнешні выгляд; фігура; постаць.**

